УДК 821.161.3.09
ББК 83.3(4Беи)
Л 99

У кнізе выкарыстаны старыя паштоўкі
з калекцыі ***У. А. Ліхадзедава***

**Раздзелы кнігі напісалі:**

**В. Я. Ляшук —**
«Ад аўтараў», «Спеўная зямля», «На мяжы стагоддзяў», «Літаратура XIX — пачатку XX стагоддзя», «У гады ваеннага ліхалецця», «Мастацкі летапіс абароны Брэсцкай крэпасці», «Роля У. А. Калесніка ў развіцці літаратуры і літаратурнага краязнаўства Берасцейшчыны».

**Г. М. Снітко —**
«Збіральнікі духоўнай спадчыны», «Літаратура XI — XVIII стагоддзяў», «Пісьменнікі Заходняй Беларусі», «Літаратурнае жыццё краю ў першае пасляваеннае дзесяцігоддзе», «Літаратары — выпускнікі Брэсцкага педінстытута імя А. С. Пушкіна», «Агульная характарыстыка развіцця літаратуры другой паловы 50 — 90-х гадоў», «Маладыя галасы Берасцейшчыны», «Імянны паказальнік», «Геаграфічны паказальнік».

Ляшук В. Я., Снітко Г. М.
Л 99 **Літаратурная Берасцейшчына** : краязнаўчыя нарысы, партрэты, артыкулы / В. Я. Ляшук, Г. М. Снітко. — Мінск : Литература и Искусство, 2008. — 320 с. : іл.

ISBN 978-985-6720-29-4

Тэрыторыю цяперашняй Брэсцкай вобласці называюць часта метафарычнай назвай Берасцейшчына. Старажытнае гарадзішча Бярэсце, якое размясцілася ў самым цэнтры Еўропы, увабрала культуры розных народаў: беларусаў, украінцаў, рускіх, палякаў і іншых. Адметнасць гістарычная паўплывала як на агульнае развіццё рэгіёна, так і на канкрэтныя культурныя набыткі.

Адным з першых раскрыў літаратурныя дасягненні краю У. А. Калеснік у кнізе «Зорны спеў», дзе прысвяціў гэтаму цэлы раздзел, назваўшы яго «Берасцейскае вогнішча». Аўтары дадзенай кнігі прадоўжылі працу свайго настаўніка, выявіўшы і раскрыўшы літаратурныя стасункі ўсіх тых майстроў прыгожага пісьменства, чый жыццёвы лёс так ці інакш звязаны з Берасцейшчынай.

Кніга вызначаецца краязнаўчай накіраванасцю. Адрасуецца ўсім, хто цікавіцца мастацкім словам.

**УДК 821.161.3.09**
**ББК 83.3(4Беи)**

ISBN 978-985-6720-29-4

*Настаўніку,*
*вучонаму і пісьменніку*
*У. А. КАЛЕСНІКУ*

# *Ад аўтараў*

*Першую спробу асэнсаваць гісторыю прыгожага пісьменства Берасцейшчыны зрабіў У. А. Калеснік, якому мы прысвяцілі гэтую працу. Ён назваў артыкул пра літаратуру нашага краю метафарычна ёмiста — «Берасцейскае вогнішча». Калі агеньчык толькі свеціць, калі агонь гарыць, то вогнішча палае. Яно зыркае і магутнае. Ад яго цёпла і светла. Такімі бачыліся выдатнаму знаўцу мастацкага слова свету літаратурныя набыткі Берасцейшчыны апошніх гадоў.*

*Мы пайшлі следам за нашым дарагім настаўнікам і стварылі кнігу. Яна вызначаецца краязнаўчай накіраванасцю. Мы не ставілі сваёй мэтай даваць нават агульную ацэнку пісьменнікам, звязаным з нашым краем, і іх творам, а імкнуліся раскрыць іх жыццёвыя літаратурныя стасункі з Берасцейшчынай, выявіць рэгіянальны каларыт вершаў, апавяданняў, аповесцей і раманаў, раскрыць адносіны да нашага народа.*

*На Берасцейшчыне, якая займае памежнае становішча паміж Усходам і Захадам, і ў сувязі з адметнасцямі яе гісторыі, сышліся культуры розных народаў. Мы імкнуліся раскрыць сувязь з нашым краем не толькі беларускіх, але і польскіх, рускіх, украінскіх мастакоў слова.*

*Прапанаванае выданне не вычэрпвае ўсе літаратурныя набыткі Берасцейшчыны. Многае з таго, што створана нашымі земляками, а таксама пісьменнікамі з іншых краін і рэгіёнаў рэспублікі пра наш край, найперш на латыні і польскай мове, на сёння недаступна не толькі шырокаму чытачу, але па розных прычынах і спецыялістам. Гэта датычыцца не толькі далёкіх стагоддзяў, але і мінулага. Многія з сучасных польскіх пісьменнікаў — нашы*

*землякі. Іх бацькі ці то былі рэпрэсаваны і пасля рэабілітацыі не вярнуліся ў наш край, ці то выехалі ў Польшчу адразу пасля Другой сусветнай вайны: Ян Куравіцкі, Яраслаў Маркевіч, Багдан Мадэй, Багдан Драздоўскі і інш. Канец XX — пачатак XXI ст. пазначаны творчай актыўнасцю берасцейцаў. Выходзіць шмат зборнікаў паэзіі і прозы. Не ўсе яны адрэцэнзаваны спецыялістамі. Толькі час вызначыць, што з твораў гэтых аўтараў можна будзе аднесці да мастацкага слова, а што застанецца толькі дакументам, сведчаннем імкнення нашых землякоў выявіць сябе ў творчасці.*

*Краязнаўства належыць да такой галіны ведаў, пры дапамозе якой у бліжэйшы час раскрыюцца іншыя, пакуль яшчэ невядомыя старонкі ці асобныя штрыхі ў гісторыі літаратуры Берасцейшчыны. І тых, хто пойдзе за намі, чакаюць новыя знаходкі. Мы жадаем сваім наступнікам поспехаў.*

*Сваю кнігу «Літаратурная Берасцейшчына» адрасуем усім, хто цікавіцца мастацкім словам краю. Спадзяёмся, што яна будзе запатрабавана арганізатарамі турызму, бібліятэкарамі, вучнямі старэйшых класаў, выхавацелямі моладзі.*

*Пісалі працу, дарагія чытачы, з любоўю і прыемным хваляваннем, з вераю, што знаёмства з ёю стане для Вас хоць у нейкай меры адкрыццём свайго краю, яго літаратурных набыткаў, узбагаціць Ваш духоўны свет. З нецярпеннем чакаем Вашых водгукаў, заўваг, пажаданняў. Іх можна прыслаць на адрас: 220008, г. Брэст, Міцкевіча, 28. Брэсцкі дзяржаўны універсітэт імя А. С. Пушкіна. Кафедра методыкі выкладання беларускай літаратуры і краязнаўства. Аўтарам.*







# Спеўная зямля

А. Твардоўскі, чые родавыя карані беларускія, у сваіх нарысах «Радзіма і чужына» адзначаў, што «беларусы — народ надзвычай таленавіты», а рускі даследчык Я. Мазалькоў сваю працу, прысвечаную літаратуры нашага народа, назваў «Спеўная (поющая) зямля». Такое найменне і замацавалася за нашаю краінаю. Яе яшчэ называюць краем паэтаў, дзе «песняроў, нібыта маку».

Калі будзе створана літаратурная карта Беларусі, то зрокава найперш вылучыцца Віцебшчына, якая дала і цяпер дае нашаму прыгожаму пісьменству, нашай культуры найбольш творцаў. Сярод іх і такія тытаны, якімі з'яўляюцца Е. Полацкая, Ф. Скарына, В. Быкаў. За імі ідуць імёны Я. Баршчэўскага, В. Ластоўскага, П. Панчанкі, У. Караткевіча, Р. Барадуліна, А. Дударава і многіх-многіх іншых таленавітых, самабытных творцаў, чые галасы гучаць не толькі на радзіме, але ў далёкім і блізкім замежжы.

На ўяўнай пакуль што літаратурнай карце Беларусі па-свойму адметнае, непаўторнае і своеасаблівае месца належала і Берасцейшчыне. Не толькі ў нашай краіне, але і ў свеце не так шмат вёсак, невялікіх мястэчак, якія б далі літаратуры па некалькі пісьменнікаў. У нашым краі яны ёсць. Звычайныя, на першы погляд, вёскі, дзе, здавалася б, не была ўзарана літаратурная глеба, раптам вылучыліся і занялі годнае месца на мастацкім Парнасе. Пісьменнікі, якіх узгадавалі гэтыя паселішчы, розныя па сваіх талентах, кожнаму з іх належыць і сваё месца ў літаратуры. Адны з іх вызначаюць магістральны шлях яе развіцця, другія — дапаўняюць, удакладняюць агульную панараму беларускага мастацкага слова, расквечваюць яе, надаюць арыгінальнасць і самабытнасць.

Вёска Сялец Бярозаўскага раёна некалі была мястэчкам, якое мела магчымасць ладзіць па некалькі гадавых кірмашоў, вядомая па друкаваных крыніцах з 1397 г. У XIX ст. яна славілася вольналюбівым духам, удзельнікамі паўстання пад сцягам Кастуся Каліноўскага. Сёння вёска Сялец для людзей, звязаных з літаратурай,

асацыіруецца з імёнамі трох пісьменнікаў: Алеся Разанава, Міколы Арахоўскага і Віктара Супрунчука. Яны розныя па сваіх жанравых схільнасцях: першы — паэт, другі — драматург, трэці — празаік. Неаднолькавыя і па сіле таленту. І сёння ў Сяльцы стаяць тры хаты, у якіх прайшло дзяцінства і юнацтва Алеся Разанава, Віктара Супрунчука і амаль усё жыццё Міколы Арахоўскага, школа, у якой яны вучыліся, футбольнае поле, дзе яны ганялі мяч, выяўляючы маладую сілу і спрыт.

Вершы Алеся Разанава хораша абагацілі і дапоўнілі жанравую палітру беларускай паэзіі. Гэты пісьменнік уздымае ў сваіх творах надзвычай актуальныя праблемы нашага часу, якія належаць да агульначалавечых, раскрывае іх самабытна і арыгінальна. Голас нашага земляка гучыць далёка за межамі краіны. Яго вершы перакладаюцца на многія мовы свету. А гэта яскравае сведчанне таго, што ў асобе паэта з вёскі Сялец не толькі беларускае мастацкае слова, але і літаратура Берасцейшчыны «нясе сусветнай культуры свой дар» (М. Багдановіч). Алесь Разанаў належыць да ліку тых беларускіх пісьменнікаў, хто заклапочаны абагачэннем нацыянальнага мастацкага слова, у тым ліку за кошт перакладаў. Ён перастварыў па-беларуску паэзію англійскіх, балгарскіх, літоўскіх, нямецкіх і іншых пісьменнікаў свету.

Таленту Міколы Арахоўскага ў поўную сілу не суджана было рэалізавацца. Ён аўтар чатырох п’ес: «Непераможаныя», «Машэка», «Ку-ку», «Лабірынт», пазначаных наватарскімі пошукамі ў галіне драматургіі. Уражвае, захапляе, уздымае на п’едэстал Міколу Арахоўскага яго мужнасць, здольнасць пераадолець фізічныя цяжкасці, быць творцам у сітуацыі, калі, здавалася, гэта па-за магчымасцямі чалавека. У 27 гадоў юнак, які выявіў задаткі жывапісца, трапіў у бяду. Ён застаўся не толькі прыкаваным на ўсе адмераныя яму Богам гады жыцця да ложка, але і рукі не слухаліся Міколу. Фізічна знявечаны, хворы, бездапаможны, наш зямляк аказаўся духоўна дужым, з моцным жаданнем паўнавартасна жыць, а не толькі існаваць на гэтым свеце. У такім стане ён дамогся таго, што яго імя назаўсёды застанецца ў гісторыі беларускай драматургіі.

Віктару Супрунчуку належыць даволі сціплае месца ў беларускай прозе. Голас пісьменніка з Бярозаўшчыны, унука паўстанца 1863—1864 гг., вызначаецца адметнай інтанацыяй. Ён уздымае актуальныя праблемы сучаснасці на матэрыяле, вядомым яму з дзяцінства, уводзіць у літаратуру такія пласты з жыцця нашага краю, якія дагэтуль не былі прадметам мастацкага асэнсавання, тым самым узбагачаючы памяць берасцейцаў пра гісторыю краю і іх духоўны свет.

Усе трое пісьменнікаў з Сяльца сталі на крыло дзякуючы літаратурнаму аб'яднанню «Крыніца», якое было створана пры Бярозаўскай раённай газеце і якое на той час аб'ядноўвала такіх вядомых творцаў, як Ніна Мацяш, Святлана Алексіевіч, Зінаіда Дудзюк, Анатоль Казловіч і інш. Імі апекаваўся ў свой час кіраўнік літаб'яднання, намеснік рэдактара газеты Яўген Сяленя. Не абыдзены былі пісьменнікі з Сяльца ўвагай і падтрымкай У. А. Калесніка.

Некалі стольны княжацкі горад, а цяпер усяго невялічкае мястэчка Давыд-Гарадок на Століншчыне, паслаў у літаратуру Леаніда Дранько-Майсюка, Георгія Марчука, Уладзіміра Глушакова, Міхася Шэлехава. Гэтыя пісьменнікі доўжаць, развіваюць, абагачаюць самабытныя культурныя набыткі, якія праз вякі пранеслі гарадчукі. Дзякуючы тром мастакам слова з палескай глыбінкі быў адкрыты чытачам свет іх землякоў, які яны ведалі знутры, любілі і любяць сыноўняй любоўю. Побыт, майстравітасць, прадпрымальніцтва, імкненне ў самых неспрыяльных умовах заставацца самімі сабой, заўсёды імкнуцца самарэалізавацца, не апусціцца да вясковых люмпенаў, знайсці магчымасць і спосабы жыць годна і заможна — такімі паўстаюць гарадчукі ў вершах і прозе землякоў-творцаў.

Ёсць на Драгічыншчыне вёска Гутава, якая яшчэ ў пачатку 70-х гг. мінулага стагоддзя мела 210 сялянскіх двароў. Цяпер іх значна паменела. Тут у 1943 г. у сям'і Федзюковічаў нарадзіўся хлопчык, якому далі імя Мікола, а ў сям'і Кабаковічаў — дзяўчынка, названая Алай. Вайна ў абаіх адабрала бацькоў. Міколу трэба было рана станавіцца за гаспадара. Тым не менш душа яго не ачарсцвела і пацягнулася да паэзіі. Вершы Міколы Федзюковіча вызначаюцца чысцінёй пачуцця, свежасцю ўспрымання навакольнага свету. Пакінуўшы родную вёску, паэт не губляў з ёю сувязь. Адчуванне і паэтызацыя сваіх вытокаў, сваёй далучанасці да Гутава і яго наваколля — характэрная адметнасць вершаў нашага земляка.

Залатая медалістка Гутаўскай сярэдняй школы Ала Кабаковіч так і ішла ў сваім навучанні (БДУ, Літаратурны інстытут імя Максіма Горкага ў Маскве), пераступаючы з адной на другую прыступку ў ліку лепшых. Цікавасць і схільнасць да слоўнага мастацтва ў нашай зямлячкі выявіліся рана. Ала Кабаковіч пісала і вершы, аднак найбольш вядомая як даследчыца беларускай паэзіі. У полі яе зроку была творчасць М. Багдановіча, М. Танка, А. Разанава, Р. Баравіковай. Абаім творцам з Гутава было адмерана кароткае жыццё.

З вёскі Осаўцы гэтага ж раёна прыйшлі ў літаратуру вядомы заходнебеларускі выдавец і дзіцячы пісьменнік, перакладчык, аўтар падручнікаў для самастойнага навучання роднаму слову Сяр-

гей Паўловіч і паэты Мікола Трафімчук і Алена Ігнацюк. Некалі прыгарадная вёска Пугачова, а цяпер адзін з мікрараёнаў горада Брэста нарадзіла трох юнакоў, якія выбралі сабе жыццёвую дарогу, звязаную з літаратурай. Аляксей Гардзіцкі стаў крытыкам, а Мікола Пракаповіч і Кастусь Жмінько — паэты. І пералік такіх паселішчаў Берасцейшчыны можна доўжыць. У вёсцы Месяцічы Пінскага раёна нарадзіліся Фёдар Одрач, Янка Шпакоўскі і Міхась Яніцкі. Са Сташаноў на Піншчыне Мікола Антаноўскі і Анатоль Шушко, а з вёскі Гута на Ганцаўшчыне Іван Кірэйчык і Уладзімір Марук.

Ёсць у літаратуразнаўстве такое паняцце, як гняздоўе пісьменнікаў. Вышэй ужо называліся такія вёскі і мястэчкі Берасцейшчыны. Гняздоўямі мастакоў слова можна назваць і цэлыя раёны нашай вобласці. Ёсць усе падставы такімі тытуламі ўганараваць Пінскі, Баранавіцкі, Ляхавіцкі, Драгічынскі ды іншыя раёны. Актыўна ідуць у літаратуру маладыя творцы са Століншчыны, Ганцаўшчыны, Кобрыншчыны. Цяпер цяжка сказаць, у каго з іх, хто ўжо надрукаваўся ў мясцовых і рэспубліканскіх выданнях ці выдаў сваю кніжачку, разаўецца сапраўдны талент, але крокі ў гэтым напрамку ўжо зроблены.

Адны з тых раёнаў, якія мы аднеслі да пісьменніцкіх гняздоўяў ці вызначылі перспектыву імі стаць, на літаратурнай карце Берасцейшчыны з’явіліся нядаўна і прадстаўлены асобнымі імёнамі, другія — фарміраваліся на працягу стагоддзяў. Спашлёмся на канкрэтныя прыклады.

Калі б давялося складаць літаратурную карту Ганцаўшчыны, то пераканаліся б, што яна стала ажываць у канкрэтных імёнах і абліччах толькі ў пачатку мінулага стагоддзя. На памежжы з Салігорскім раёнам у той час тварыў «непісьменны пісьменнік» (У. Каляснік) Рэдкі, чые казкі маюць выразныя прыкметы мастакоўскай індывідуальнасці. Выдатны фалькларыст А. К. Сержпутоўскі на гэтым памежжы запісаў шмат казак. Ён і ўвёў імя Рэдкага ў навуковы ўжытак. А. К. Сержпутоўскі сваёй радзімай лічыў вёску Чудзін на Ганцаўшчыне, куды яго бацькі пераехалі жыць, калі хлопчыку не было і года.

На пачатаку мінулага стагоддзя працаваў настаўнікам у вёсцы Люсіна Якуб Колас. Аказаць уплыў на развіццё літаратуры краю класік нацыянальнага мастацкага слова тады не мог па суб’ектыўных і аб’ектыўных прычынах. На той час Якуб Колас быў яшчэ К. М. Міцкевічам, які цікавіўся фальклорам, этнаграфіяй, прыродай і жыхарамі краю, меў запаветны сшытак з першымі вершамі, што вецер развеяў па полі, вырваўшы з рук, калі ехаў на першае месца працы, ды блаславенне настаўніка Ф. Кудрынскага пісаць

па-беларуску. Літаратура можа існаваць і развівацца толькі пры ўмове, што ў ёй ёсць патрэба, ёсць чытач. Такога чытача амаль суцэльна непісьменная Ганцаўшчына ў той час не мела. Першая сусветная вайна, рэвалюцыя, польская акупацыя не спрыялі развіццю талентаў насельнікаў краю. Для нашых землякоў гэтага раёна духоўным хлебам яшчэ на доўгі час застанецца фальклор.

Пройдзе больш за паўстагоддзя, калі Ганцаўшчына пачне каласаваць сваімі талентамі, ужо «пісьменнымі пісьменнікамі». Першымі прыйдуць у літаратуру Іван Кірэйчык з вёскі Гута, Міхась Рудкоўскі з Вострава — прадстаўнікі пакалення, чыё дзяцінства апалена вайной, пісьменнікі першых павеваў дэмакратызацыі савецкага грамадства, звязаных з развянчаннем культу асобы Сталіна. У 1940 г. на хутары з характарыстычнай назвай Запрапасць нарадзіцца Іван Лагвіновіч, які заявіць пра сябе як беларускі творца толькі ў 1990 гг. Увесь гэты час, самы плённы для заняткаў паэзіяй, быў не па сваёй ахвоце адарваны ад радзімы: працаваў на шахтах Данбаса.

Сярод навукоўцаў ёсць меркаванне, што народ паўнавартасна функцыянуе, калі пасылае ў культуру і навуку адзін талент у дзесяцігоддзе. Пачынаючы з 1960 г. Ганцаўшчына з зайздроснай паслядоўнасцю дае аднаго-двух пісьменнікаў з вёсачак, раскіданых сярод тады яшчэ неасушаных балотаў і нявысечаных лясоў. У 1963 г. апавяданнем «Памылка» заявіў пра сябе Віктар Гардзей з Малых Круговічаў. У 1972 г. на старонках друку пачало з'яўляцца імя Уладзіміра Марука з вёскі Гута. У час, калі ў раённай газеце стаў працаваць Васіль Праскураў, пачаў стварацца ў Ганцавічах літаратурны асяродак. Хоць Васіль Праскураў і быў родам з Віцебшчыны, аднак як дбайны гаспадар збіраў вакол сябе літаратурныя таленты Палесся. Некаторы час яму дапамагаў наш зямляк з Піншчыны Міхаіл Дубянецкі. У 80-я гг. мінулага стагоддзя чытачы мелі магчымасць пазнаёміцца з творамі празаіка Алеся Кажадуба і паэта Алеся Каско. Першы родам з Ганцавіч, другі — са згаданага ўжо Чудзіна. Вёска Будча пашле ў беларускае літаратуразнаўства, у методыку выкладання мастацкага слова Галіну Ішчанка. Будучы студэнткай БДУ, заявіла пра сябе яшчэ адна наша зямлячка з гэтага раённага цэнтра Валянціна Махор.

Ганцаўшчына не стала рэгіёнам вялікіх будоўляў, а турызм пакуль яшчэ не ўвайшоў у жыццё берасцейцаў, хоць гэты край цікавы і арыгінальны сваімі прыроднымі помнікамі. Таму ніхто са знакамітых творцаў фактычна не звязаў з ім свой лёс. Адзіным месцам, куды кіраваліся найперш прыхільнікі таленту Якуба Коласа, чытачы яго аповесці «У палескай глушы», у аснову якой пакладзены матэрыял, звязаны з жыццём пісьменніка ў гэтай вёсцы, было Люсіна. Паэты звіваюць ёй свой паэтычны вянок.

Літаратурная Баранавіччына бярэ свой пачатак з XVI ст. ад аўтараў, якія гадаваліся ў шляхецкіх сядзібах, а часам і магнацкіх маёнтках. Ля яе вытокаў — імя Івана Федаровіча (Фёдарава), заснавальніка кнігадрукавання ў Расіі і ва Украіне. Яго сучаснікам быў Андрэй Рымша. Ад іх можна перакінуць масток да Казіміра Несялоўскага, у маёнтку якога Ясенец нарадзіўся вядомы дзяржаўны дзеяч, бібліяфіл, філосаф, асветнік і пісьменнік Яўхім Храптовіч. Значны след у культурным жыцці Баранавіччыны ў XVIII ст. пакінуў Мацей Радзівіл, які свой спадчынны маёнтак Паланэчку ператварыў у культурны цэнтр краю.

Баранавіччына была «калыскай думаў і натхненняў» (А. Міцкевіч) для філаматаў і філарэтаў. Гэты край нарадзіў у фальварку Завоссе сусветнага генія Адама Міцкевіча. Многія з філаматаў і філарэтаў мелі тут родавыя карані па матчынай лініі, сяброў і аднадумцаў: Ян Чачот, Ігнат Дамейка, Тамаш Зан, Эдвард Адынец. «Ян Чачот з Мышы» — падпісваўся сябар Міцкевіча, чым падкрэсліваў сваю непасрэдную сувязь з краем. На Баранавіччыне ёсць больш за дзесятак паселішчаў, асвечаных імёнамі філаматаў і філарэтаў, але найчасцей усе разам яны збіраліся ў Туганавічах, маёнтку Верашчакаў. Паказальна, што ў XIX ст. з Баранавіччыны бярэ пачатак генерацыя беларускіх пісьменнікаў, якія гадаваліся пад сялянскімі стрэхамі. Ля вытокаў новай беларускай літаратуры стаіць і імя паэта з Крошына, аўтара аднаго вядомага верша Паўлюка Багрыма.

Жорсткая расправа з нашымі землякамі, якія не хацелі мірыцца з паняволеннем краю, прывяла да запусцення літаратурнай нівы Баранавіччыны. Край па розных прычынах будуць наведваць асобныя постаці творцаў. Пад Мілавідамі акажацца Кастусь Каліноўскі, які прыедзе кантраляваць паўстанцкія атрады і выкананне мясцовай шляхтай інструкцый паўстанцкага камітэта. Рускі паэт-дзекабрыст К.Ф. Рылееў акажацца ў Сталавічах з палком, у якім служыў па вяртанні з Францыі, пасля заканчэння вайны з Напалеонам.

Мастацкае слова ажыве на Баранавіччыне ў наступным стагоддзі. На станцыі Лясная нарадзіўся пісьменнік, акцёр, рэжысёр з кагорты беларускіх адраджэнцаў Уладзіслаў Галубок. Вёска Пастарынне, адкуль родавыя карані шляхціцаў Прушынскіх, акажа выключны ўплыў на творчасць аднаго з прадстаўнікоў гэтага роду, вядомага паэта Алеся Гаруна, які вельмі часта тут бываў, выконваючы са сваякамі ўсю сялянскую працу. Жыццёвыя дарогі прывядуць у Дзеўчаполле ля Горнага Скробава Канстацыю Буйло. Тут яна працавала хатняй настаўніцай. Вёска Аляксандрава — радзіма польскага паэта Рычарда Красноўскага (1912 г. нараджэння, аўтара зборнікаў «З'езд у Наваградку», «Туга па радзіме»). У 1914 г.



*Станцыя Баранавічы. (Пачатак XX ст.)*

у Баранавічах народзіцца паэт і змагар за народную долю і волю Валянцін Таўлай. Пакуты баранавіччукоў у час Першай сусветнай вайны пакажа Канстанцін Паустоўскі ў аповесці «Неспакойнае юнацтва», напісанай паводле асабістых уражанняў. Гэты рускі пісьменнік скалясіў раён, кіруючы з Ружанаў на Слонім, а затым са Слоніма на Ляхавічы. Гэтыя ж падзеі закінулі на Баранавіччыну ў якасці настаўніка перасоўнай школы беларускага празаіка, крытыка і краязнаўцу Язэпа Мазуркевіча.

Не было спрыяльных умоў для развіцця літаратуры краю ў гады польскай і нямецкай акупацый. З Баранавіччынай звязана педагагічная дзейнасць польскай настаўніцы, якая пазней стала пісьменніцай Веранікай Трапачынскай-Агарак, аўтаркай аповесці пра гэты час «Лясныя Долы», а таксама беларускага паэта з Ляхавіч Анатоля Бярозкі. У гады Вялікай Айчыннай вайны ў фашысцкіх лагерах Баранавіччыны будуць пакутаваць паэт Сяргей Новік-Пяюн і крытык і літаратуразнаўца Алесь Макарэвіч. І тым не менш 1920—1930 гг. былі і плённымі для літаратурнай нівы краю: у гэты час тут нараджаліся хлопчыкі і дзяўчынкі, якія пазней звяжуць свой лёс з мастацкім словам — Станіслаў Шпонцар, Яша Бурш, Ян Куравіцкі, Іван Курбека, браты Мікола і Анатоль Клышкі, Кастусь Турко, Ванацы Бутрым, Ніна Загорская. Па-рознаму складуцца іх жыццёвыя і творчыя лёсы. Станіслаў Шпонцар зведае дзіцём ссылку ў Казахстан. Пазней пераедзе ў Польшчу. Пакінуць радзіму Ян Куравіцкі і Яша Бурш. З іх толькі апошні будзе і за Бугам беларускім творцам.

Баранавічы з 1939 па 1954 гг. былі цэнтрам вобласці. Тут працавалі тэатр, настаўніцкі інстытут, краязнаўчы музей. Як кандыдат у дэпутаты па Наваградскай выбарчай акрузе Баранавічы наведаў Якуб Колас. У мясцовай газеце працавалі Раман Сабаленка і Алесь Бажко, у настаўніцкім інстытуце вучыўся вядомы заходнебеларускі змагар, мемуарыст і публіцыст Якуб Міско, а таксама Віктар Дайліда, які пазней працаваў настаўнікам у школах раёна. Жыццёвы лёс звязаў з краем таксама Ніну Галіноўскую, Юрыя Багданава, Святлану Басуматраву.

Пасля такога дружнага засеву, якое выпала на два папярэднія дзесяцігоддзі, творчая ралля Баранавіччыны запатрабавала адпачынку. Толькі амаль праз дваццаць гадоў у в. Малахоўцы народзіцца Алесь Жамойцін. 1962 і 1964 гадоў нараджэння Алесь Бакач і Ян Збажына. І тым не менш творчая ніва краю не засохла. У Баранавічах ёсць літаратурны асяродак, плённа працуе цэлая група пісьменнікаў, пішуць на беларускай і рускай мовах. Спачатку яны групаваліся вакол літаратурнага аб'яднання «Плынь», а пасля яго распаду большасць увайшла ў «творчае аб'яднанне «Святліца», якое выдае аднайменны альманах. Ядро творчага аб'яднання складаюць пісьменнікі старэйшага пакалення: А. Бакач, А. Коранеў, А. Белы, Р. Равяка і інш., а таксама літаратурная моладзь. Дзякуючы намаганням «Святліцы» сталі выдавацца кніжкі сяброў аб'яднання: «Услед за ластаўкай», «Грае раніца зару» А. Коранева, «Вяртанне ў лета» Б. Ланкоўскай, «Боскі вецер правінцыі» А. Белага, «Піліпаўка» І. Лагвіновіча, «Барвы зямлі», «Паралелі» В. Бутрыма і інш. Гістарычна-культурныя традыцыі раёна прапагандуюцца мясцовымі краязнаўцамі. Аддамо належнае А. Шоцкаму, М. Бернату, В. Дубейку.

Своеасаблівасць гісторыі краю, месца і значэнне беларускай мовы ў Вялікім княстве Літоўскім, у Рэчы Паспалітай і ў Расійскай імперыі, еўрапейская літаратурная традыцыя былі тымі вызначальнымі фактарамі, якія аказалі ўплыў на паліфанізм літаратурных твораў, якія ствараліся на Берасцейшчыне і ў якіх яе гісторыя, прырода, побыт знайшлі сваё мастацкае ўвасабленне.

У старажытнасці творы пісаліся на старaславянскай мове. У эпоху Адраджэння выразна праяўляецца моўны паліфанізм. Пісьменнікі звяртаюцца да латыні, беларускай і польскай моў. Паказальна, што ён быў характэрны не толькі літаратуры ў цэлым, але і асобным творцам Берасцейшчыны. Так, Андрэй Рымша выкарыстоўваў у сваёй творчасці беларускую, польскую, габрэйскую мовы, мясцовы дыялект, перакладаў з латыні. Калі у Рэчы Паспалітай, на ўсёй яе тэрыторыі, дзяржаўнай мовай стала польская, то ў XVIII ст. амаль што не было твораў на беларускай мове, дамінава-

лі польскамоўныя. У XIX ст. моўнае аблічча літаратуры краю вызначалі беларуская (П. Багрым, Ф. Савіч), польская (А. Міцкевіч, М. Радзевіч і інш.), руская (А. Грыбаедаў, Ф. Рашэтнікаў і інш.) мовы. Выкарыстоўваўся таксама і палескі дыялект (В. Дунін-Марцінкевіч «Пінская шляхта»).

У XIX ст. Берасцейшчына асабліва моцна выявілася ў творах на польскай мове. Гэта тлумачыцца шэрагам акалічнасцей. За стагоддзе, калі польская мова была дзяржаўнай і на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага, склалася літаратурная традыцыя. У сітуацыі, калі расійскія ўлады забаранілі беларускую мову, пісьменнікі, нашы землякі, аддавалі перавагу польскай, тым самым выяўляючы сваю апазіцыйнасць. Нельга не ўлічваць таго, што новая беларуская літаратурная мова знаходзілася ў стадыі станаўлення. Гэты працэс з-за вышэйназваных прычын расцягнуўся на стагоддзе. Такая ж адметнасць была характэрна для літаратуры краю пачатку XX ст. Калі ж Берасцейшчына была аддадзена Польшчы і стала часткай Заходняй Беларусі, то літаратура пра край яго прадстаўнікамі стваралася на беларускай (М. Засім, П. Пестрак, Я. Чабор і інш.), на ўкраінскай (А. Гаўрылюк, У. Кітаеўскі і інш.), на польскай (А. Дзяконскі, К. Крагельская і інш.) мовах.

У 40—90-я гг. XX ст. літаратура Берасцейшчыны развівалася на беларускай мове. Тыя, хто спрабаваў сябе па-руску, не здолелі стварыць такіх твораў, якія б годна прадстаўлялі наш край у свеце. Зазначым таксама, што гераічна-трагічны летапіс абароны Брэсцкай крэпасці пісаўся на многіх мовах былога СССР: беларускай, украінскай, рускай, грузінскай, літоўскай і інш. Паэтычныя радкі пра вернасць савецкіх салдат воінскай прысязе ўслаўілі на сваёй мове балгары і грэкі і творцы іншых народаў. Цяпер, калі дзяржаўнымі сталі дзве мовы, калі адкрыліся камерцыйныя выдавецтвы і з’явілася магчымасць друкаваць пакладзенае на паперу і пісьменнікамі, і аматарамі, і нават графаманамі, выходзіць шмат кніг на розных мовах, пераважна, аднак, на рускай, што сведчыць пра матэрыяльныя магчымасці аўтараў і іх падтрымку тымі, хто мае сродкі.

Калі ў папярэднія стагоддзі на Берасцейшчыне, у розных яе раёнах, паяўляліся асобныя постаці пісьменнікаў, то, пачынаючы з другой паловы XX ст., можна гаварыць пра няспыннае развіццё літаратуры краю. Гэтаму спрыяў шэраг акалічнасцей. Беларусы маюць надзвычай багатую фальклорную спадчыну, сведчаннем чаго з’яўляецца 50-томнае выданне. У асобных кнігах ёсць такі навуковы кампанент, як геаграфічны паказальнік: дзе, калі, ад каго былі запісаны песня ці казка, легенда ці абрад. Знаёмства з гэтым геаграфічным паказальнікам сведчыць, што ўнёсак берасцейцаў

у нацыянальную скарбніцу твораў фальклору вельмі значны. Яго запісвалі польскія, рускія, украінскія вучоныя, найбольш — свае, беларускія. І нават у канцы мінулага стагоддзя траплялiся яшчэ народныя шэдэўры, якіх не ведалі папярэднікі. Берасцейцы вылучылі са свайго асяроддзя такіх знаных фалькларыстаў, як Юльян Крачкоўскі з в. Азяты ў Жабінкаўскім раёне, Лукаш Галамбёўскі з в. Пагост на Піншчыне, Рыгор Шырма з в. Шакуны на Пружаншчыне і інш. Фальклор родных мясцінаў люляў талент тых, хто ішоў у літаратуру ў другой палове мінулага стагоддзя.

За папярэднія стагоддзі была створана ў нашым краі літаратурная традыцыя, якую фарміравала адно пакаленне за другім. Гэта актывізавала творчыя пошукі наступнікаў. Калі ўлічыць, што савецкая ўлада дала магчымасць усім атрымаць бясплатную адукацыю, у тым ліку і філалагічную, то многія з тых, хто цяпер складае гонар літаратуры Берасцейшчыны (Я. Янішчыц, Н. Мацяш, А. Разанаў, Р. Баравікова і інш.), атрымалі магчымасць сістэмна далучыцца да літаратурных здабыткаў чалавецтва і свайго краю.

У многіх раёнах вобласці пры рэдакцыях газет былі створаны літаратурныя аб’яднанні. Эфектыўна працавалі ў Бярозе «Крыніца», у Іванаве — «Ясельда», у Брэсце — «Заранка». Яны спрыялі прыліву новых сіл, павышэнню мастацкай культуры напісанага сябрамі аб’яднанняў, клапаціліся пра публікацыю іх твораў. Не апошнюю ролю адыграў і той факт, што нашаму краю пашанцавала на такіх людзей, хто не шкадаваў ні сваіх сіл, ні часу, каб тыя, каго прырода надзяліла талентам, маглі рэалізаваць свой творчы патэнцыял. Аддамо належнае загадчыку кафедры Брэсцкага педінстытута імя А. С. Пушкіна прафесару, вядомаму пісьменніку У. А. Калесніку. Не кожны бацька так клапоціцца пра сваіх дзяцей, як ён пра тых, хто спрабаваў сябе ў паэтычнай творчасці. Заўважыўшы хоць іскрынку літаратурнага таленту ў кагосьці з нашых землякоў, рабіў усё магчымае, каб той стаў мастаком слова. У. А. Калеснік, кіруючы літаратурным аб’яднаннем, ставіў трывалыя заслоны перад усякага роду графаманамі. Такую ж ролю ў збіранні і развіцці талентаў у Бярозе адыгрываў Я. Сяленя, а ў Ганцавічах — В. Праскураў.

Пачынаючы з 60-х гг. ХХ ст., Берасцейшчына сістэматычна пасылае ў літаратуру сваіх прадстаўнікоў, розных па сіле, самабытнасці і арыгінальнасці. У гэтае ж дзесяцігоддзе заявілі пра сябе і раскрыліся М. Рудкоўскі, М. Федзюковіч, К. Каліна, А. Клышка, В. Сёмуха і інш. У 70-я гг. папоўніла беларускае мастацкае слова цэлая плеяда самабытных талентаў, сярод якіх Я. Янішчыц, А. Разанаў, У. Гніламёдаў, Р. Баравікова, Н. Мацяш і інш. Літаратура нашага краю ў 80-я гг. прадстаўлена імёнамі М. Пракаповіча,

М. Арахоўскага, І. Чароты, Л. Дранько-Майсюка і інш. У 90-я гг. чытачы атрымалі першыя кніжкі такіх нашых землякоў, як Н. Гарагляд, І. Сідарук, М. Сянкевіч, С. Крываль і інш. За гэтым «і інш.» не названы многія і многія таленавітыя паэты, празаікі, крытыкі і літаратуразнаўцы, драматургі і перакладчыкі.

Пазначаны творчай актыўнасцю і пачатак ХХІ стагоддзя. Хораша заявілі пра сябе Максім Шчур, Н. Прыступа, М. Папека, А. Ігнацюк, У. Лебедзеў, С. Амяльчук, В. Кукса і інш. Радуе і падлесак, тыя, каму пад трыццаць: В. Барысюк, Я. Дашына, С. Прылуцкі, В. Слінко, І. Поўх і інш.

Сучасная літаратура Берасцейшчыны вызначаецца жанравастылёвай і тэматычнай разнастайнасцю. Найбольшыя набыткі яна мае ў жанры паэзіі. Паказальна, што менавіта за дасягненні ў гэтым жанры берасцейцы ўганараваны літаратурнымі прэміямі. Яўгенія Янішчыц атрымала Дзяржаўную прэмію Беларусі імя Янкі Купалы за кнігу лірыкі «Пара любові і жалю». Такой самай прэміяй быў уганараваны Алесь Разанаў за кнігу паэзіі «Вастрыё стралы». Літаратурнай прэміяй імя Аркадзя Куляшова адзначаны кнігі «Паэма жніва» Ніны Мацяш, зборнікі лірыкі «Каханне» Раісы Баравіковай і «Час прысутнасці» Алеся Каско, «Правінцыйныя фантазіі» Міколы Купрэева. Мікола Пракаповіч — лаўрэат прэміі імя Максіма Багдановіча, а Уладзімір Гніламёдаў — лаўрэат прэміі Уладзіміра Калесніка.

Лірычны верш, байка, медытацыя, паэма, балада і інш. — такая відавая палітра паэзіі нашых землякоў. У іх творах гучаць захапленне і боль, радасць і скруха, трывога і ўрачыстасць, роздум і палкасць. Традыцыйны верш суседнічае з творамі цвёрдых формаў. Санеты, трыялеты, тэрцыны, актавы шырока прадстаўлены ў вершах В. Жуковіча, З. Дудзюк і інш. Нашы творцы актыўна асвойваюць жанравую разнастайнасць паэзіі народаў Блізкага Усходу і Азіі: хоку, танка. Для многіх з паэтаў, нашых землякоў, характэрны асацыятыўны верш, які асабліва яскрава выяўляецца ў верлібрах, квантэмах і версэтах. У гэтым плане надзвычай паказальнай з'яўляецца творчасць Алеся Разанава.

Сталасць любой літаратуры вызначаецца наяўнасцю высокамастацкай прозы. Яна прадстаўлена многімі празаікамі з Берасцейшчыны: апавяданнямі, аповесцямі, раманамі, нарысамі, публіцыстычнымі артыкуламі Алеся Наварыча, Яраслава Пархуты, Васіля Праскурава, Алеся Кажадуба, Анатоля Казловіча і інш. В. Праскураў за кнігі «Пакланіся зямлі-карміцельцы» і «Чорны хлеб» быў адзначаны Дзяржаўнай прэміяй Беларусі.

У галіне драматургіі таксама працуе кагорта пісьменнікаў нашага краю: Г. Марчук, З. Дудзюк, І. Сідарук і інш. Творы нашых

землякоў у галіне драматургіі вызначаюцца жанрава-стылёвымі пошукамі. Пра іх мастацкі ўзровень сведчыць той факт, што яны ставяцца рэспубліканскімі, абласнымі, народнымі тэатрамі і гурткамі мастацкай самадзейнасці.

Наш край можа ганарыцца такім выдатным перакладчыкам, як Васіль Сёмуха (ураджэнец Пружаншчыны). Ён лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Якуба Коласа за перастварэнне на родную мову рамана Т. Мана «Доктар Фаўстус». Яго таленавітыя пераклады нямецкіх аўтараў былі адзначаны ўрадам ГДР «Залатым Знакам Гонару». Высокім мастацкім узроўнем вызначаюцца пераклады Ніны Мацяш, Алеся Разанава, Васіля Жуковіча, Зінаіды Дудзюк і інш.

У крытыку і літаратуразнаўства наш край паслаў і цяпер дэлегуе шматлікіх сваіх прадстаўнікоў. Адны з іх з’яўляюцца нашымі землякамі: Уладзімір Гніламёдаў, Іван Штэйнер, Іван Чарота, Уладзімір Сенькавец, Кацярына Мароз і інш., другія — на доўгія гады звязалі свой лёс з Брэсцкім дзяржаўным універсітэтам (педінстытутам), і тут яны вызначыліся як таленавітыя даследчыкі: У. А. Калеснік, Л. П. Смальянава, З. П. Мельнікава і інш. Пісьменнікі Берасцейшчыны не абышлі сваёй увагай і юнага чытача. Дзецям і падлеткам адрасаваны творы А. Клышкі, В. Жуковіча, З. Дудзюк, Р. Бензерука, Я. Пархуты і інш.

Творы пісьменнікаў з Берасцейшчыны раскрываюць ці не ўсе бакі быцця чалавека ў часе і прасторы, клічуць сваіх патэнцыяльных чытачоў да роздуму, да эмацыйнага перажывання над вечнымі праблемамі дабра і зла, высокага і нікчэмнага, камічнага і трагічнага, хараства і брыдоты. Землякі-творцы заклікаюць нас быць моцнымі, добрымі, сумленнымі, богабаязнымі, дзейснымі. У заключэнне нагадаем радкі Ніны Мацяш, якімі яна імкнецца актывізаваць унутраныя сілы зняверaных:

Гасподзь схіляецца да ўсіх,
Ды
духам ніцых
Ён не чуе.

Прымем розумам і сэрцам гэтае перакананне паэткі — нашай зямлячкі.





# Збіральнікі духоўнай спадчыны

Не кожны народ, як беларусы, можа пахваліцца багатай духоўнай спадчынай сваіх продкаў. Нягледзячы на розныя, падчас нават трагічныя варункі грамадска-палітычнага і культурнага жыцця, наш народ збярог шматлікія старажытныя звычаі і абрады, разнастайную вуснапаэтычную творчасць. Безумоўна, на сёння яна сабрана і вывучана далёка не ўся. Найбольш поўным і сістэматызаваным з'яўляецца 30-томнае акадэмічнае выданне беларускага фальклору. Яно сведчыць пра тое, што Берасцейшчына як асобны рэгіён мае сваё адметнае і непаўторнае духоўнае багацце. Яго самабытнасць і разнастайнасць заўсёды прыцягвалі ўвагу многіх вучоных, этнографаў, фалькларыстаў. Сярод іх былі і нашы землякі — ураджэнцы гэтага краю.

У ліку першых можна назваць ***Лукаша Галамбёўскага*** (1773—1849). Нарадзіўся ён у в. Пагост каля Пінска ў сям'і шляхціца. На Палессі, у Дубровіцы, скончыў манаскую школу, працаваў бібліятэкарам у гісторыка Т. Чацкага. Менавіта тут Галамбёўскі захапіўся гісторыяй, этнаграфіяй, фальклорам роднага краю і пачаў займацца навуковай дзейнасцю. Большасць сабраных на Палессі матэрыялаў была выкарыстана ім у кнізе «Гульні і забавы розных саслоўяў ва ўсім краі або ў некаторых толькі правінцыях», якая выйшла ў 1834 годзе на польскай мове ў Варшаве, дзе на той час ужо жыў вучоны. З прыведзеных матэрыялаў найбольш цікавым з'яўляецца ўпершыню апісаны Л. Галамбёўскім унікальны абрад «ваджэнне куста», які бытаваў на абмежаванай тэрыторыі і на Берасцейшчыне дагэтуль захаваўся толькі ў Пінскім раёне. Апісанне зроблена ім на аснове ўласных успамінаў: «У Піншчыне і іншых кутках Літвы ў часы маёй маладосці памятаю, як у першы дзень мая на поплаве, дзе народ збіраецца для гульняў, закопваецца зялёнае дрэва, прыбранае ў рознакаляровыя стужкі. Прыходзілі да таго дрэва дзяўчаты, кабеты, хлопцы, усё насельніцтва на чале з прыго-

жай дзяўчынай, якая ўвасабляла багіню: зялёны вянок упрыгожваў яе галаву, бярозавыя галінкі закрывалі яе аж па пяты. Спявалі песенькі, у якіх паўтаралася: «О Мая! Мая!», і танцавалі вакол дрэва. Звычайна гэтую ўрачыстасць адзначаюць цяпер на зялёныя святкі. Прыгожую дзяўчыну ўбіраюць у адзежыну накшталт плашча, сплеценага з адных бярозавых галінак. Акружыўшы яе, астатнія дзяўчаты ходзяць па вёсцы, скачуць і спяваюць:

Каля таго зялёнага куста
Сачывачку з густа;
Хто тую сачывачку парве,
Той дзевачку замуж возьме.

*(Каханоўскі Г., Малаш Л., Цвірка К.*
*Беларуская фальклярыстыка.*
*Эпоха феадалізму. — Мн., 1989. С. 63).*

Сёння сабраныя і апісаныя Лукашом Галамбёўскім сціплыя матэрыялы пра жыццё беларусаў каштоўныя для нас тым, што зроблены яны ў час, калі этнаграфічнае вывучэнне краю толькі пачыналася.

На другую палову XIX стагоддзя прыпадае жыццё і дзейнасць вядомага этнографа і фальклярыста ***Юльяна Крачкоўскага*** (1840—1903). Як вядома, у гэты перыяд царскі ўрад адмаўляў беларусам у праве на самастойнае нацыянальнае існаванне, не прызнаваў самабытную культуру нашага народа. Сутнасць тагачаснай палітыкі ў адносінах да Паўночна-Заходняга краю (а менавіта так тады называлі Беларусь) выразна сфармуляваў М. Мураўёў-вешальнік: «Патрэбна ўсім і стала тлумачыць, што край Паўночна-Заходні быў і ёсць рускі...» *(Лыч Л., Навіцкі У. Гісторыя культуры Беларусі. — Мн., 1996. С. 136).* Каб даказаць права Расіі на Беларусь, падрыхтаваць глебу для хутчэйшага абрусення гэтага краю, было распачата яго актыўнае этнаграфічнае вывучэнне. Стаўка пры гэтым рабілася на мясцовыя сілы — настаўнікаў, валасных пісараў, выкладчыкаў народных вучылішчаў. Да ліку апошніх якраз і належаў Ю. Крачкоўскі.

Нарадзіўся ён у вёсцы Азяты Кобрынскага павета Гродзенскай губерні (цяпер Жабінкаўскі раён). Прайшоў увесь акадэмічны курс багаслоўскага навучання — ад Жыровіцкага духоўнага вучылішча да Пецярбургскай духоўнай акадэміі. Нечаканым, аднак, для ўсіх было адмаўленне Крачкоўскага ад духоўнага сану. У 1865 годзе ён вярнуўся на радзіму і пачаў працаваць выкладчыкам рускай мовы ў Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі, дзе зацікавіўся вуснай паэтычнай творчасцю народа, пачаў збіраць і запісваць беларускія народныя песні, звычаі, абрады. Вядома, што запісы ён рабіў у розных паветах Беларусі, у тым ліку ў Кобрынскім (Азяты, Драгічын)

і Брэсцкім (Камянец, Радванічы). У найбольш значных яго этнаграфічных працах — «Нарысы быту заходнерускага селяніна» і «Быт заходнерускага селяніна», якія прысвечаны ў асноўным радзіннахрэсьбіннай абраднасці беларусаў і апісанню беларускага вяселля, на жаль, адсутнічаюць назвы населеных пунктаў, дзе вяліся запісы. Таму цяжка сказаць, што менавіта было запісана Ю. Крачкоўскім у нашым краі.

Дакладная пашпартызацыя матэрыялаў назіраецца ў працах другога выдатнага беларускага этнографа і фалькларыста, нястомнага збіральніка народных казак ***Аляксандра Сержпутоўскага*** (1864—1940), навуковая дзейнасць якога звязана пераважна з Палессем. Родам ён з вёскі Бялевічы Слуцкага павета Мінскай губерні (цяпер Слуцкі раён), аднак усё жыццё сваёй радзімай лічыў вёску Чудзін на Ганцаўшчыне. Тлумачыцца гэта тым, што праз паўгода пасля нараджэння сына сям'я Сержпутоўскіх пераехала на хутар, які знаходзіўся паміж вёскамі Чудзін і Пярэвалакі. Сёння — гэта толькі ўрочышча Сержпутоўшчына (мясцовыя жыхары вымаўляюць прасцей — Шарпутоўшчына). Тут, у палескай глушы, прайшло дзяцінства і юнацтва будучага вучонага. Спачатку ён як аматар захапіўся вывучэннем мовы, побыту, духоўнай і матэрыяльнай культуры беларусаў-палешукоў. Захапленне, аднак, аказалася такім моцным, што пазней этнаграфія стала справай усяго яго жыцця. З 25 сваіх этнаграфічных экспедыцый восем А. Сержпутоўскі ажыццявіў на Беларусь, прычым першая была арганізавана ў 1906—1907 гг. у родныя мясціны, на Палессе. Толькі ў час гэтай экспедыцыі «ім было сабрана 800 этнаграфічных рэчаў (земляробчыя прылады працы, прадметы жылля, хатняе начынне, адзенне, тканіны, вышыўкі, сродкі транспарту, бандарчыя і цяслярныя вырабы, прылады рыбнай лоўлі і пчалярства, сродкі народнай медыцыны, музычныя інструменты, зроблена звыш 200 фотаздымкаў з быту народа...» *(Бандарчык В., Фядосік А. Выдатны беларускі этнограф і фалькларыст // Казкі і апавяданні беларускага Палесся. — Мн., 1965. С. 7).*

Вынікі першых экспедыцый малады этнограф абагульніў у нарысе «Беларусы-палешукі». Потым жыццё гэтай часткі Палесся знайшло сваё адлюстраванне ў такіх этнаграфічных працах, як «Земляробчыя прылады беларускага Палесся» і «Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў». Апошняя з'яўляецца вынікам шматгадовай збіральніцкай дзейнасці вучонага. У ёй змешчана 2275 тэкстаў, запісаных пераважна ў вёсцы Чудзін. Дарэчы, ёй прысвечана і грунтоўная мовазнаўчая праца Сержпутоўскага «Граматычны нарыс беларускай гаворкі вёскі Чудзін Слуцкага павета Мінскай губерні». Тут, у Чудзіне, ён запісаў нямала народных казак, якія сён-

ня сталі хрэстаматыйнымі: «Пану навука» — ад селяніна Дудара, «Праўда і крыўда», «Палешукі і палевікі», «Бязногі багатыр» — ад Данілы Куляша, «Першае яечка», «Агонь у сэрцы, а розум у галаве» — ад Матруны Бохмачыхі і інш.

Ад А. К. Сержпутоўскага дайшлі да нас і скупыя звесткі пра выдатнага беларускага казачніка Рэдкага. Вучоны не даў інфармацыі, калі нарадзіўся і памёр Рэдкі, не назваў сапраўднае імя гэтага самародка, пакінуў яго ў гісторыі культуры толькі з мянушкаю. Паходзіў казачнік з вёскі Вялікі Рожын, што на мяжы Ганцавіцкага і Салігорскага раёнаў. Пражыў ён доўгае жыццё — каля ста гадоў. Да глыбокай старасці вызначаўся «незвычайнай бадзёрасцю, вясёлым характарам, здольнасцю расказваць казкі цэлымі гадзінамі» *(Бараг Л. Беларуская казка. — Мн., 1969. С. 52).* Быў Рэдкі непісьменны. Займаўся звычайнай сялянскай працай. Ад гэтага непісьменнага народнага мастака А. Сержпутоўскі запісаў 40 казак: «Музыка-чарадзей», «Музыка і чэрці», «Каваль-багатыр», «Асілак» і інш. Варта адзначыць, што Рэдкі не толькі расказваў, але і сам ствараў казкі. Для казак Рэдкага характэрны псіхалагічная характарыстыка герояў, вялікая ўвага да ўнутранага свету персанажаў. Яго мова паэтычная, перасыпаная прыказкамі, устойлівымі выразамі. Вось чаму аўтар грунтоўнага нарыса пра казачніка Уладзімір Калеснік адзначае, што гэта быў «самабытны мастак слова, мудры непісьменны пісьменнік» *(Калеснік У. Жыў-быў казачнік Рэдкі // Калеснік У. Тварэнне легенды. — Мн., 1987. С. 198).*

Сабраныя А. Сержпутоўскім казкі, легенды, паданні склалі два вялікія зборнікі «Казкі і апавяданні беларусаў-палешукоў» і «Казкі і апавяданні беларусаў з Слуцкага павета».

Не абышоў вучоны сваёй увагай і народную песню. Захаваўся рукапіс яго зборніка «Беларускія песні». Фалькларыст напісаў таксама шмат рэцэнзій на тагачасныя зборнікі беларускага народнага меласу. «З яго экспедыцыйных дзённікаў можна бачыць, як жыва цікавіўся ён народнай песнятворчасцю. Гэта пацвярджае і «Сшытак для нататкаў», які вёў Сержпутоўскі ў час сваёй паездкі ў беларускае Палессе ў лютым 1906 года. Апісваючы вёскі Агарэвічы, Шашкі, Круковічы, Чудзін, Дзяніскавічы, Гаўрыльчыцы, ён адначасова запісваў у гэтых вёсках прыказкі і прымаўкі, замовы, песні» *(Пятроўская Г., Цішчанка І. і інш. Беларуская фалькларыстыка. — Мн., 1989. С. 305).*

Руплівым фалькларыстым, збіральнікам роднай песні, яе прапагандыстам і папулярызатарам, патрыярхам беларускай музыкі стаў ***Рыгор Шырма*** (1892—1978). Яго нялёгкае, але прыгожае і змястоўнае жыццё пачалося ў вёсцы Шакуны, што на Пружаншчыне. Рыгору пашанцавала нарадзіцца ў «элітным, багатым здольні-

камі і талентамі родзе. Яго дзед Васіль быў слынным у ваколіцы бондарам, гэта яго мянушка Майстровіч стала радавым прозвішчам. Хораша спявала дзедава жонка Ганна і яе дачка Алеся. Грэлі душу калыханкі, што спявала на сон Рыгору маці Тадора Дзям'янаўна. Бацька прынёс з царскага войска багата рэкруцкіх, салдацкіх і народных песень» *(Калеснік У. Сцяжына міфа // Калеснік У. Усё чалавечае. — М., 1993. С. 24).* Цётка па бацькавай лініі Захвея Хвораст не толькі прыгожа спявала, але і ўмела выдатна спраўляць народныя абрады. З гэтай «жывой сямейнай фанатэкі» і пачалася ў Шырмы вера ў неўміручую матчыну песню, у хараство яе напеву, у сілу і моц паэтычнага слова.

Любоў да песні выхоўвалі ў Рыгора і хатні настаўнік Салук, і настаўнік літаратуры Пружанскага гарадскога вучылішча Манцэвіч. Апошні навёў Шырму на думку запісваць народныя творы. Вучоба на настаўніка, падзеі Першай сусветнай вайны прымусілі Шырму пакінуць родныя мясціны. На радзіму ён вярнуўся ў пачатку 1922 года разам з жонкай, выкладчыцай матэматыкі К. Раеўскай. На месцы бацькавай хаты застаў, аднак, толькі папялішча. Усюды гаспадарылі палякі, стваралі свае школы, прывозілі настаўнікаў з цэнтральнай Польшчы. Таму ў беларускага настаўніка не аказалася ніякіх перспектыў уладкавацца на працу. Давялося некаторы час працаваць лесарубам у Белавежскай пушчы.

Неўзабаве Р. Шырма ўзяўся за стварэнне Пружанскага хору, які і вывеў яго імя на арэну культурнага жыцця краю. Затым былі Вільня, Гродна, Мінск... Справай усяго жыцця для Шырмы стала арганізацыя прафесійнага ансамбля песні і танца, які распачаў сваю работу ў студзені 1940 года. Праз дзесяць гадоў гэты ансамбль быў рэарганізаваны ў Дзяржаўны хор БССР, а пазней — у харавую капэлу, якая дала тысячы канцэртаў і стала славай і гордасцю ўсёй музычнай культуры Беларусі. Працу ў капэле Рыгор Шырма спалучаў са сталым зборам паэтычных і песенных скарбаў свайго народа. Ён выдаў рэпертуарны зборнік «Дзвесце беларускіх народных песень», сістэматызаваў і апублікаваў у 4-х тамах плён сваёй шматгадовай збіральніцкай працы — «Беларускія народныя песні». Свае погляды на грамадскую ролю народнай песні і мастацкага слова ва ўмовах нацыянальнага адраджэння Р. Шырма выказаў у артыкулах, нарысах, сабраных у зборніку «Песня — душа народа» (1976).

Падводзячы вынікі сваёй доўгай і плённай працы ў беларускім музычным мастацтве, Р. Шырма гаварыў: «Вышэй і прыгажэй за народную песню нічога не можа быць! Няма кампазітара больш геніяльнага за народ!»

Колькі птахаў пявучых у родных лясах,
Колькі нот непаўторных у іх галасах,
Колькі тонаў, адценняў, ладоў, перабораў —
Столькі песень у сэрцы ў дзядзькі Рыгора.
Колькі ў краі бацькоўскім празрыстых крыніц,
Колькі іх, між пагоркаў, булькоча-звініць,
Бегучы, ручайкамі, да сіняга мора, —
Столькі песень у сэрцы ў дзядзькі Рыгора.
Колькі ў небе вясновым за тысячы год
Па-над роднай зямлёй прагрымела грымот,
Абдараючы радасцю долы і горы, —
Столькі песень у сэрцы ў дзядзькі Рыгора.
Дык якім жа павінен ён волатам быць,
Каб у сэрцы адным гэтак многа ўмясціць?
Ой, не дзіва, скажу вам, не дзіва, не дзіва,
Калі песняю песень у сэрцы — Радзіма!

— так узнёсла ацаніў Ніл Гілевіч уклад Рыгора Шырмы ў нашу культуру.

Падарожныя маршруты і навуковыя экспедыцыі прывялі на Берасцейшчыну і многіх вядомых беларускіх, рускіх, украінскіх і польскіх этнографаў. Сярод іх Павел Шпілеўскі, Міхаіл Федароўскі, Мітрафан Доўнар-Запольскі і інш.

Працяглая экспедыцыя ***Паўла Шпілеўскага*** па Беларусі пачалася з Варшавы ў 1853 годзе. За тры гады ён аб’ехаў Гродзенскую, Мінскую, Магілёўскую і Віцебскую губерні. У выніку з’явіўся цыкл яго нарысаў пад назвай «Падарожжа па Палессі і Беларускім краі», які быў надрукаваны ў часопісе «Современник». Трэба адзначыць, што пад назвай «Беларускі край» П. Шпілеўскі разумеў толькі тэрыторыю паміж Дняпром і Заходняй Дзвіной (Віцебскую, Мінскую і часткова Смаленскую губерні). Астатнюю тэрыторыю Беларусі, у тым ліку і Берасцейшчыну, ён выдзяляў у асобны край, называючы яго Палессем.

«Падарожжа...» складаецца з 13 гісторыка-этнаграфічных і публіцыстычных нарысаў. Два з іх — трэці і чацвёрты — прысвечаны Брэсту і Кобрыну, якія наведаў вучоны-этнограф у час сваёй экспедыцыі. Доўга ён тут не затрымаўся: усяго дзень правёў у Брэсце, два — у Кобрыне. Першы з названых гарадоў зрабіў на Шпілеўскага прыемныя ўражанні. У сваім нарысе пра Брэст-Літоўск ён адзначае яго маляўнічыя ваколіцы, згадвае слаўную гісторыю, дае тагачаснае апісанне старога і новага горада, прыводзіць цікавыя звесткі з жыцця і побыту берасцейцаў. Так, даследчык зазначае, што ў горадзе на той час не было ні тэатра, ні якіх-небудзь іншых месц, прызначаных для правядзення народных свят і гарадскіх гулянняў. Традыцыйна яны наладжваліся за шэсць вёрст ад горада, у вёсцы Баравая. У дэталях расказвае аўтар і пра сваю сустрэчу з

чатырма пінчукамі на Узбярэжнай, апісвае курган на правым беразе Мухаўца — рэшткі старажытнага язычніцкага капішча багіні Мажаны, згадвае пра наведванне яўрэйскай сінагогі.

З Брэст-Літоўска П. Шпілеўскі накіраваўся ў Кобрын. Па дарозе яго ўвагу прыцягнула лясістая мясцовасць, таму значная частка чацвёртага нарыса апавядае пра Белавежскую пушчу і яе ўладальнікаў. Сам Кобрын падаўся вядомаму этнографу адзінокім, сіратлівым, нават неўладкаваным і недагледжаным. Найбольшае ўражанне зрабіла бібліятэка кобрынскага духоўнага вучылішча, дзе Шпілеўскі знайшоў рэдкія фаліянты на лацінскай, нямецкай і польскай мовах, прывезеныя сюды з вядомай некалі брэсцкай базіліянскай (уніяцкай) семінарыі. «Я павінен быў яшчэ заглянуць у бібліятэку бернардзінскага кляштара, — адзначае аўтар нарыса, — але з-за адсутнасці настаяцеля не змог разгледзець гэтай бібліятэкі» *(Шпилевский П. Путешествие по Полесью и Белорусскому краю. — Мн., 1992. С. 48).* Ноччу Павел Шпілеўскі пакінуў горад і раніцай быў ужо на тэрыторыі Мінскай губерні.

Жыццё і дзейнасць такога буйнейшага збіральніка і даследчыка духоўнай культуры беларускага народа, як ***Міхаіл Федароўскі***, звязана найперш з Пружаншчынай. У 1877 годзе пасля службы ў арміі ён пераехаў у маёнтак пружанскага маршалка В. Швыкоўскага, што каля Шарашова. З пераездам сюды Федароўскі задумаў стварыць грунтоўную працу пра побыт і культуру беларусаў. 30 гадоў ён займаўся зборам фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў і археалагічнымі раскопкамі ў Пружанскім, Ваўкавыскім і іншых паветах. У кожным з паветаў ён знаходзіў апорныя пункты і маёнткі, уладальнікі якіх спрыялі даследчыку. Так, каля Ляхавіч Федароўскаму дапамагаў Казімір Чарноцкі, пляменнік вядомага Зарыяна Даленгі-Хадакоўскага. Усяго М. Федароўскім у ваколіцах Пружан, Бярозы, Шарашова, Сяльца, Малечы і Белавежы было зроблена звыш 200 тысяч запісаў, якія пазней увайшлі ў працу «Беларускі народ на Літоўскай Русі».

Больш за дваццаць гадоў займаўся этнаграфіяй Беларусі ***Мітрафан Доўнар-Запольскі***. У час летніх этнаграфічных экспедыцый 1890—1891 гг. вучоны наведаў шэраг паветаў, у тым ліку Пінскі. У выніку з’явіліся яго «Нарысы з падарожжа па Беларусі». У іх даследчык з вялікай цеплынёй і любоўю апісаў простага беларускага селяніна. Вось як, напрыклад, характарызуе ён сялян з Піншчыны: «Знешні выгляд насельніцтва адпавядае тым эканамічным умовам, у якія яно пастаўлена, жанчыны і мужчыны апрануты чыста, маюць бадзёры выгляд; аб шырока распаўсюджанай загнанасці Беларусі тут не можа быць і гутаркі. Уваходзячы да вас, селянін вольна падае руку, сядае і г.д. Усюды і ва ўсім селянін адчувае сябе гаспадаром і чалавекам самастойным і незалежным» *(Бандарчык В. Гісторыя беларускай этнаграфіі. — Мн., 1964. С. 212).*

У 1895 годзе М. Доўнар-Запольскі выдаў у Кіеве зборнік «Песні пінчукоў», у які ўключана 600 тэкстаў каляндарна-абрадавай і пазаабрадавай лірыкі. Увесь матэрыял складальнік размеркаваў па двух вялікіх раздзелах: «Песні абрадавыя» і «Лірычныя песні». У кожным раздзеле вылучаны падраздзелы, куды ўвайшлі творы па функцыянальным і тэматычным прынцыпах. У першым — пададзены песні вясельныя, радзінныя, велікодныя, траецкія, купальскія і калядкі, у другім — вясеннія, летнія, асеннія, зімнія, піліпаўскія, талочныя, рэкруцкія, казацкія і інш. «На Піншчыне, — піша ва ўступным артыкуле Доўнар-Запольскі, — усе ведаюць гэты падзел і стараюцца прымацаваць да яго песні, але ўжо старыя далёка не ўсякую песню могуць прымацаваць да таго ці іншага часу года, а моладзь зусім блытае, таму што ў звычайным жыцці яна перастала спяваць гэтыя песні ў той або іншы час года...» *(Пятроўская Г., Цішчанка І. Беларуская фальклárыстыка. — Мн., 1989. С. 239).*

Каштоўнай часткай выдання з’яўляюцца два ўступныя артыкулы. Адзін прысвечаны апублікаваным песням, а ў другім даволі грунтоўна разглядаецца пінская гаворка: ахарактарызаваны яе фанетычныя і марфалагічныя асаблівасці, акрэслена месца ўласна беларускіх і ўкраінскіх элементаў у гэтым дыялекце, прыводзіцца невялікі тлумачальны слоўнік мясцовых слоў.

Паўднёвай частцы Беларусі прысвечаны і фальклорна-этнаграфічны зборнік «Пінчукі» ***Д. Г. Булгакоўскага***, які доўгі час працаваў святаром на Піншчыне. Асноўнае месца ў ім займаюць песні, якія фалькларыст разглядае як матэрыял для характарыстыкі народа, яго быту і культуры.

Значнай падзеяй у этнаграфічным жыцці XIX стагоддзя сталі «Працы этнаграфічна-статыстычнай экспедыцыі ў Заходне-Рускі край» ***П. П. Чубінскага*** — украінскага вучонага, якому ў 1869 годзе была даручана этнаграфічная экспедыцыя ў Беларусь. У час яе Чубінскі асабіста аб’ехаў шэраг паветаў, у тым ліку Пінскі, Кобрынскі, Пружанскі і Брэсцкі. Ён сабраў вялікую колькасць матэрыялаў, якія і склалі названыя вышэй «Працы...» у 7-мі тамах. Сярод беларускіх матэрыялаў, змешчаных у іх, большасць фальклорных твораў — каля 400 песень і 25 казак. Казкі запісаны ў в. Дрошчын Кобрынскага павета і надрукаваны ў 2-м томе. У 4-м томе даецца пяць апісанняў беларускага вяселля. З іх адно запісана ў в. Плотніца Пінскага павета, другое — на Кобрыншчыне. У 6-м томе сабраны значныя і цікавыя матэрыялы аб народных юрыдычных звычаях Брэсцкага, Кобрынскага і Пружанскага паветаў.

Сярод польскіх даследчыкаў краю можна назваць настаўніка ***Рамуальда Зянькевіча***. Ён усё жыццё правёў у Беларусі. Пад старасць аслеп і знайшоў сабе прытулак у Парахонску ў доме князёў Друц-

кіх-Любецкіх. У 1851 годзе ў Коўне Зянькевіч выдаў вялікі зборнік «Простанародныя песенькі пінскага народа», у якім змешчаны тэксты 219 народных песень, запісаных на Палессі. Яны надрукаваны ў арыгінале і ў перакладзе на польскую мову. У зборнік уключана і апісанне некаторых абрадаў (вясельных, калядных, купальскіх, жніўных і інш.), а таксама шэраг вераванняў і беларускіх гульняў.

Каментарыі, якія прыкладзены да песень, Зянькевіч пазней дапрацаваў і надрукаваў у 1852—1853 гг. у форме вялікага артыкула аб урочышчах і звычаях пінчукоў. Найбольш багата этнаграфічнымі звесткамі тая частка артыкула, у якой даюцца апісанні звычаяў, абрадаў і вераванняў беларускіх сялян з Піншчыны.

Невялікую групу складаюць працы польскіх этнографаў, якія прысвечаны апісанню сямейных абрадаў, пераважна вясельных. Асаблівай увагі заслугоўвае «Вяселле ў Рудску» (1896) ***Гелены Чахоўскай*** (цяпер Пінскі раён). Апісанне вяселля даецца вельмі падрабязна і дэталёва. Кожны этап ілюструецца 74 песнямі з нотамі.

Цікавым з’яўляецца і апісанне вясельных абрадаў беларусаў Палесся, якое даў у 1889 г. ***Оскар Кольберг***. Запісаны яны ў вёсцы Любяшчова Пінскага павета. У своеасаблівым дадатку аўтар прыводзіць 70 вясельных песень з вёсак Дубовае, Барова і Пагост гэтага ж павета.

Варта адзначыць, што цікавыя і своеасаблівыя працы па этнаграфіі і фальклоры краю ёсць у літаратурнай спадчыне Юзэфа Крашэўскага, Элізы Ажэшка, Яна Чачота. Пяру ***Ю. Крашэўскага*** належаць краязнаўча-этнаграфічныя нарысы «Адзенне мяшчан і сялян з ваколіц Брэста, Кобрына і Пружан», «Пінск і яго ваколіцы», «Успаміны з Палесся, Валыні і Літвы». Яны з’явіліся вынікам шэрага падарожжаў Крашэўскага па Палессі. У згаданых вышэй працах Ю. Крашэўскі разам з красамоўнымі апісаннямі прыроды прыводзіць каштоўныя звесткі аб жыцці народа, яго занятках, прыладах працы, жыллі, адзенні і ежы. З населеных пунктаў Берасцейшчыны найбольш поўнае апісанне атрымалі Бярэсце, Кобрын, Пружаны, Драгічын, Пінск і іх ваколіцы.

Уважліва адносіліся да жыцця народа, яго вуснапаэтычнай творчасці ***Ян Чачот*** і ***Эліза Ажэшка***. Першы прысвяціў сябе збіранню і захаванню беларускіх народных песень, якія былі надрукаваны ў шасці фальклорных зборніках. Большасць з іх запісаны ў Наваградскім павеце, у тым ліку на Баранавіччыне і Ляхаўшчыне, дзе некаторы час жыў Ян Чачот.

Эліза Ажэшка таксама вядомая як збіральніца фальклорных матэрыялаў. Ёсць звесткі, што яна непасрэдна ўдзельнічала ў арганізацыі і правядзенні народных святаў, у прыватнасці у в. Флер’янова на Ляхаўшчыне.





# Літаратура XI–XVIII стагоддзяў

## Рэха стагоддзяў

Кожны народ, дасягнуўшы пэўнай ступені самапазнання, пачынае ўсведамляць значэнне і вартасць свайго мінулага, імкнецца захаваць памяць аб ім для нашчадкаў. Вось чаму перадаюцца з пакалення ў пакаленне легенды і паданні, а з узнікненнем пісьменнасці ствараюцца летапісы і хронікі. Апошнія з'яўляюцца адначасова помнікамі гісторыі і літаратуры і стаяць ля вытокаў прыгожага пісьменства нашага народа.

Сёння практычна немажліва аднавіць больш-менш пэўны малюнак вядзення летапісання на тэрыторыі Берасцейшчыны. На думку даследчыкаў, ёсць сур'ёзныя падставы гаварыць аб стварэнні ў канцы XIII стагоддзя гістарычных запісаў у Пінску *(Пашуто В. Очерки по истории Галицко-Волынской Руси. — М., 1950. С. 113—121).* На жаль, да нашага часу не захаваўся ні адзін з тагачасных мясцовых помнікаў летапісання. Таму асноўныя звесткі з грамадска-палітычнага жыцця Берасцейска-Пінскага рэгіёна (Палесся), інфармацыю пра ўзнікненне і развіццё асноўных населеных пунктаў краю, яго выдатных асоб знаходзім найперш у такіх старажытных помніках літаратуры і пісьменнасці, як «Аповесць мінулых гадоў», Кіеўскі і Галіцка-Валынскі летапісы, «Хроніка Літоўская і Жамойцкая» і інш. Так, першую згадку пра Брэст (летапісны Бярэсце) знаходзім у «Аповесці мінулых гадоў» пад 1019 годам у сувязі з барацьбой князя тураўскага і вялікага кіеўскага Святаполка Уладзіміравіча з яго братам, у той час наўгародскім князем Яраславам Уладзіміравічам (Мудрым) за вялікакняжацкі кіеўскі пасад. З «Хронікі Літоўскай і Жамойцкай» даведваемся пра няўдалую спробу Мсціслава Раманавіча, князя пінскага і валынскага, далучыць у 1256 годзе да сваіх уладанняў шэраг гарадоў, у тым ліку Бярэсце і Драгічын, якія знаходзіліся на той час пад ула-

дай Скірманта: «...Сам Мстислав Романович, стративши всю силу военную, ледво утекл в малой дружине на Луцкий замок. И кричала Русь с великим плачем, ижъ так великие их войска были окрутые побиты от Литвы безецной. А Скирмонт, кончачи звитязство, Пинск и Туров, княства Мстиславовы взял» *(Праневіч Г. Палессе ў палітычнай гісторыі Вялікага княства Літоўскага // Рэгіянальныя асаблівасці Берасцейска-Пінскага Палесся ў мове, фальклоры і літаратуры: Матэрыялы навуковай канферэнцыі. — Брэст, 1994. С. 33—34).*

Пераканальным сведчаннем таго, што сярод берасцейцаў-гараджан, а не толькі князёў і магнатаў, у канцы XII — пачатку XIII стагоддзя былі пісьменныя людзі, з’яўляецца самшытавы грабеньчык з азбукай-кірыліцай і пісала, знойдзеныя археалагічнай экспедыцыяй на чале з П. Ф. Лысенка пры раскопках старажытнага Бярэсця. На абодвух баках грабянца выразаны літары алфавіта. На адным баку — ад «а» да «е», на другім — ад «ж» да «ы». Відаць, ён служыў своеасаблівым букваром, па якім берасцейцы вучыліся грамаце ў XII ст. Гэтыя і іншыя знаходкі ў старажытным Бярэсці (розныя жаночыя ўпрыгожванні, рэчы хатняга ўжытку, прылады працы і інш.) былі названы тагачасным Прэзідэнтам Акадэміі навук Рэспублікі цікавейшаю падзеяй навуковага жыцця ў Беларусі за 1970 год.

Думаецца, не менш цікавай і значнай падзеяй у культурным жыцці краіны 90-х гадоў мінулага стагоддзя стала аднаўленне ў Бярэсці шэдэўра старажытнага беларускага прыкладнога мастацтва — славутага крыжа Еўфрасінні Полацкай. У «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва» аб ім гаворыцца: «...Выдатны помнік сярэдневяковага эмальернага мастацтва… Крыж шасціканцовы, (даўж. 51 см), аснова яго драўляная. На пярэдняй і адваротнай плоскасцях прымацаваны па 11 залатых пласцін, аздобленых перагародчатымі каляровымі эмалямі з выявамі святых, арнаментальнымі кампазіцыямі, каштоўнымі камянямі... Бакі крыжа абкладзены сярэбранымі пазалочанымі пласцінамі. На іх прасечаны надпіс...». Тэкст надпісу такі: «В лето 6669 (1161 па нашым сталі) покладетъ Ефросинья честный крестъ в монастыри своем, в церкви святого Спаса. Честное древо бесценьно есть: акованье его злато и серебро, и камье, и жемчиг бъ 100 гривъ». Затым ідзе пагроза праклёну таму, хто паспрабуе забраць або прадаць крыж. А ў самым канцы чытаем: «Господи, помози, рабу своему Лазарю, нареченному Богъше, съделавшему крестъ сии церкви Спаса и Ефросиньи».

Такім чынам, з надпісу зразумела, што Еўфрасіння Полацкая — княжацкая дачка, заснавальніца двух манастыроў, вядомая асветніца — заказала гэты крыж майстру Лазару Богшы. Нягледзя-

чы на змешчаную на ім пагрозу праклёну, у час Вялікай Айчыннай вайны крыж таямніча знік. Ідэя яго ўзнаўлення нарадзілася падчас святкавання тысячагоддзя Полацкай епархіі і правядзення Першага з’езда беларусаў блізкага замежжа. Работа па аднаўленні нацыянальнай святыні была даручана нашаму земляку, вядомаму ў Беларусі мастаку-эмальеру з Бярэсця ***Мікалаю Кузьмічу***. Фундатарам гэтай справы выступіў прадпрымальнік з Сібіры беларус Анатоль Сілівончык. Пасля атрымання благаславення ад Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Філарэта для М. Кузьміча пачалася доўгая і карпатлівая праца. І вось 27 верасня 1997 года на свята Узвіжання абсалютная копія крыжа Лазара Богшы была дастаўлена ў старажытны Полацк. Спачатку адноўлены крыж быў змешчаны ў Крыжаўзвіжанскім саборы, а затым урачыста перанесены туды, дзе ён знаходзіўся з 1161 года — у Полацкую Спаса-Еўфрасінneўскую царкву. Хочацца верыць, што разам з вяртаннем крыжа да людзей Беларусі вернецца шчасце, згода і ўзаемапаразуменне. Берасцейцам застаецца толькі ганарыцца, што менавіта іх зямляк стаў пераемнікам вядомага майстра Богшы, чым праславіў сябе і сваю зямлю на стагоддзі.

## Прадстаўнікі эпохі Адраджэння

З часоў старажытнасці на тэрыторыі Берасцейшчыны найбольш значнымі адміністрацыйна-эканамічнымі цэнтрамі былі гарады Брэст і Пінск. На старонкі летапісаў яны адпаведна трапілі ў 1019 і 1097 гг., у ліку першых беларускіх гарадоў атрымалі магдэбургскае права. Варта адзначыць, што Брэст яшчэ ў 1441 годзе быў залічаны каралеўскай прывілеяй да буйнейшых гарадоў Вялікага княства Літоўскага. Разам з тым уздым культурнага жыцця назіраецца тут толькі ў XVI ст., у эпоху Адраджэння.

У гэты час відны палітычны, культурны і рэлігійны дзеяч Вялікага княства Літоўскага ***Мікалай Радзівіл Чорны***, з імем якога звязана распаўсюджванне і прапаганда рэфармацыйных ідэй на нашых землях, пачаў усур’ёз займацца арганізацыяй кнігавыдавецкай справы, якая і прынесла яму славу князя-асветніка. На пачатку 50-х гадоў ён запрашае да сябе з Кракава майстра кнігадрукарскай справы Бярнарда Ваяводку і адкрывае ў Бярэсці сваю першую друкарню. «Чаму Радзівіл абраў менавіта Бярэсце? — разважае кандыдат філалагічных навук І. Сацута. — Па-першае, Мікалай Чорны быў берасцейскім старастам. Дарэчы, другая па ліку друкарня на Беларусі была адкрыта ў Нясвіжы, якім таксама валодаў Мікалай Чорны. Па-другое, да восені 1553 года ў Бярэсці была ўжо

моцная пратэстанцкая абшчына. І па-трэцяе, Бярэсце было найбольш блізкім да Кракава, які ў XVI ст. быў асноўным цэнтрам кнігадрукавання ў Польшчы» *(Сацута І. Берасцейскія старадрукі // Берасцейскія карані'98: гісторыка-краязнаўчы і літаратурны зборнік. — Брэст, 1998. С. 186).* У горадзе запрацаваў першы друкарскі станок, на якім Б. Ваяводка на сродкі свайго фундатара і пад яго ўласным наглядам выдаў на польскай мове тры першыя на тэрыторыі сучаснай Беларусі кнігі: «Катэхізіс», тэалагічныя творы К. Імлера «Зборнік дзесяці запаведзяў Божых» і У. Рэгіўса «Некаторыя спосабы і звычаі». Калі ў Катэхізісе і кнізе К. Імлера прозвішча друкара і час выдання яшчэ не ўказаны, то пад працай У. Рэгіўса імя друкара Ваяводкі пазначана. Датавана яна студзенем 1554 года.

Пасля трагічнай гібелі Б. Ваяводкі ў ліпені таго ж года па просьбе Мікалая Радзівіла Чорнага ў Бярэсце прыбыў выдатны майстра кнігадрукавання Ян Малецкі. Сёння, аднак, невядома ніводнай кнігі, выдадзенай ім у горадзе. Чаму наогул маўчала берасцейская друкарня да 1558 года — загадка. Сваю дзейнасць яна ўзнавіла з пераездам сюды кракаўскага друкара Станіслава Мурмеліуса (Мурмелія), які надрукаваў у Бярэсці 15 кніг. Сярод іх і шэдэўр кнігадрукарскага мастацтва — вялікая ілюстраваная «Біблія», якую прынята называць «Брэсцкай» альбо «Радзівілаўскай». Гэта — другое пасля Ф. Скарыны выданне Бібліі на тэрыторыі этнічнай Беларусі.

Брэсцкая Біблія была разлічана на багатага магната. Яна ўяўляе сабою «вялізную, памерам на аркуш, кнігу таўшчынёй у 10 сантыметраў, у 738 старонак, мае два гравіраваныя тытульныя лісты, 14 гравюр-ілюстрацый, своеасаблівыя застаўкі і віньеткі. Па-мастацку выкананы загалоўныя літары-ініцыялы. Размешчаныя па 2-3 на кожнай старонцы, яны ўдала ажыўляюць набраны ў два слупкі гатычным шрыфтам тэкст.

На першым лісце Бібліі — гравіраваны герб Радзівілаў, далей ідзе прысвячэнне каралю і вялікаму князю Сігізмунду Аўгусту, прадмова, тэксты Старога і Новага запаветаў і каляндар чытанняў. Упершыню за гісторыю выдавецкай справы на Беларусі змешчаны прадметны паказальнік. На адвароце апошняга ліста паведамляецца, што кніга гэтая надрукавана ў Брэсце Літоўскім за кошт князя Нясвіжа, віленскага ваяводы, маршалка і канцлера Вялікага княства Літоўскага Мікалая Радзівіла месяца верасня чацвёртага дня 1563 года» *(Нікалаеў В. «Зроблена ў Брэсце 1563 года, месяца верасня чацвёртага дня...» // Беларусь, 1980, № 12. С. 21—22).*

Як бачым, ілюстрацыі Брэсцкай Бібліі, з аднаго боку, дапаўняюць, тлумачаць змест мастацкімі вобразамі, а з другога — аздаб-

ляюць кнігу. Выкананы яны на высокім узроўні і, трэба думаць, што над імі працаваў спрактыкаваны майстра. Некаторыя са змешчаных гравюр, як лічаць спецыялісты, з’яўляюцца сапраўднымі шэдэўрамі. Гэта — «Патоп», «Фантан», «Калены Ізраілевы».

Варта адзначыць, што менавіта ў адным з экземпляраў Брэсцкай Бібліі знойдзены адзіны вядомы нам партрэт Васіля Цяпінскага. Як ён туды трапіў, ці не ён — аўтар надрукаваных тут гравюр, чаму ілюстраваны толькі першыя сто старонак тэксту Бібліі, на сёння невядома. Кніга — вялікая бібліяграфічная рэдкасць і вывучана вельмі слаба. Доўгі час Беларусь мела адзін (і то няпоўны) экземпляр Бібліі, які захоўваецца ў Цэнтральнай бібліятэцы імя Я. Коласа АН Беларусі. У Брэсцкім краязнаўчым музеі ёсць толькі асобныя фотакопіі старонак гэтай кнігі. У 2003 годзе ў Кракаве па ініцыятыве і пры фінансавай падтрымцы Пятра Кралікоўскага Брэсцкая Біблія (Biblia Brzeska, 1563) была перавыдадзена. З ёю можна пазнаёміцца ў аддзеле краязнаўчай літаратуры і бібліяграфіі Брэсцкай абласной бібліятэкі імя М. Горкага.

Пасля смерці Мікалая Радзівіла Чорнага (1565 г.) берасцейская друкарня пачынае выдаваць пераважна працы Цыпрыяна Базыліка — прыдворнага паэта Радзівілаў, таленавітага музыкі і мастака. На той час ён узначаліў друкарню, і пры яго непасрэдным удзеле ў 1566 годзе была перавыдадзена частка Брэсцкай Бібліі. У 1570 годзе друкарня ў Бярэсці спыніла сваю дзейнасць. Сын Радзівіла Чорнага Мікалай Хрыстафор Радзівіл (Сіротка) перавёз друкарскае абсталяванне ў Вільню. Там у 1576 годзе пачала дзейнічаць ужо Радзівілаўская друкарня, якая выдавала ў асноўным зборы твораў езуітаў.

У другой мясцовай друкарні, якая знаходзілася ў Пінску, выдаваліся творы на лацінскай і польскай мовах. Сярод іх звяртаюць на сябе ўвагу белетрыстычныя зборнікі «Усякай усялячыны», складзеныя К. Несялоўскім.

З вёскай Магілёўцы, што на Пружаншчыне, звязаны лёс выдатнага помніка XVI стагоддзя, унікальнага летапіснага звода, умоўна названага ***«Хроніка Быхаўца»***. У 1966 годзе Інстытутам гісторыі Акадэміі навук СССР была выдадзена кніга «Хроника Быховца», у прадмове да якой адзначаецца, што даследчыкі, якія вывучалі гэты летапісны помнік, амаль абышлі сваёй увагай пытанні аўтарства і месца напісання «Хронікі…». Большасць з іх схіляецца да думкі, што яна была створана пры двары князёў Слуцкіх у сярэдзіне XVI стагоддзя.

Адшукаў «Хроніку Быхаўца» ў 1830 годзе настаўнік Віленскай гімназіі Іпаліт Клімашэўскі ў бібліятэцы памешчыка Аляксандра Быхаўца ў маёнтку Магілёўцы (тады Ваўкавыскі павет Гродзен-

скай губерні, цяпер Пружанскі раён Брэсцкай вобласці). У гэтым жа годзе ён надрукаваў урывак з яе, даў паралельна пераклад на польскую мову і некаторыя тлумачэнні. З гэтага часу «Хронікай…» зацікавіліся вучоныя, у прыватнасці вядомы гісторык Тэадор Нарбут, які назваў помнік па прозвішчы ўладальніка бібліятэкі.

На думку краязнаўцы В. Цярахавай, «Хроніка Быхаўца» была не толькі знойдзена, але і напісана ў нашай мясцовасці, у замку Лыскава (Магілёўцы некалі ўваходзілі ў склад Лыскаўскай воласці) Васілём Тышкевічам (Тышковічам) у прамежку паміж 1560—1570 гадамі *(В. Церахава. Хроніка Быхаўца // Берасцейскія карані'98: гісторыка-краязнаўчы літаратурны зборнік. — Брэст, 1998. С. 197—198).*

З XVI ст. дайшла да нас невялікая частка літаратурнай спадчыны вядомага паэта ***Андрэя Рымшы*** (каля 1550 — пасля 1595), якога падарыла беларускай культуры вёска Пянчын Баранавіцкага раёна. Першапачатковую адукацыю ён атрымаў у Гарадзішчы. Затым вучыўся ў Астрожскай школе на Валыні. Тут, у Астрожскай друкарні, заснаванай маскоўскім першадрукаром Іванам Фёдаравым (дарэчы, сённяшнія гісторыкі сцвярджаюць, што І. Фёдараў таксама беларус па паходжанні — родам з вёскі Петкавічы на Баранавіччыне і сапраўднае яго прозвішча Хведаровіч) быў надрукаваны першы верш Рымшы — «Храналогія». Пасля Астрога ён вярнуўся на радзіму, некаторы час служыў у палявога гетмана Вялікага княства Літоўскага Крыштафа Радзівіла і нават удзельнічаў у вайне 1572—1582 гг. паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй. Своеасаблівым водгукам на падзеі таго часу стала яго гістарычная паэма на польскай мове «Дэкетэрос Акроама, альбо Дзесяцігадовая аповесць ваенных спраў Крыштафа Радзівіла».

Літаратурна-творчыя здольнасці Андрэя Рымшы найбольш яскрава выявіліся ў «эпіграмах» — панегірычных творах, напісаных на гербы вядомых людзей таго часу: Астафія Валовіча, Льва Сапегі, Тэадора Скуміна. Вось адзін з іх у перакладзе на сучасную беларускую мову:

## НА ГЕРБ ЛЬВА САПЕГІ

…Хочаш палюбавацца гербам радаводным —
Зараз можаш пабачыць той, што ў доме годным
Здавён слаўных Сапегаў. І што ад веку іх Бог
Трымаў моцна ў цнотах — відаць па лілеях трох,
Пры якіх са зброяю конны воін змясціўся —
Знак таго, што ніхто з іх у жыцці не страшыўся;
Служыў сваім гаспадарам, не чынячы злога,
Не шкадуючы скарбаў і сябе самога.

Яшчэ ж бачыш, як локаць прастрэлены лукам,
Бачыш стралу, што ў локаць ўпіваецца туга.
Гэткая рана нікога ў доме не спаткае,
Толькі тых, хто паганцаў палкі разбівае.
На тых гербах красуе страла з крыжамі
Двума, а трэці — побач, убраны месяцамі.
Гэта значыць, што яны больш за хрысціянства
Клалі здароўе, не шукаючы сабе панства.
Глядзі вышай — убачыш над шлемам карону:
Самую фартуну, Бог паводле закону
Свайго з цнотай і адвагай разам карануе,
Чаго ні іржа ў іх, ані моль не сапсуе.
Жывіце ж, Сапегі ўсе, многія леты.
Ваша слава жыць будзе да сканчэння свету.
Перадайце ж ад продкаў усё сваім дзеткам,
Бо вашых спраў добрых увесь свет будзе сведкам.

*(Пераклад Алеся Бразгунова)*

Такім чынам, у гісторыю беларускай літаратуры Андрэй Рымша ўвайшоў як заснавальнік жанру панегірычнай паэзіі. Без сумнення можна сцвярджаць, што пяру славутага паэта з Баранавіччыны належаць і многія іншыя творы, якія, на жаль, не захаваліся да нашых дзён. Вядомыя ж сёння — яскравае сведчанне яго шматграннага літаратурнага таленту.

Прыемна ўсведамляць, што ля вытокаў другога жанру — беларускай мемуарыстыкі — таксама стаіць наш зямляк ***Фёдар Еўлашоўскі*** (Еўлашэўскі, 1546 — каля 1616). Паводле яго ўласных слоў, нарадзіўся ў Ляхавічах у шматдзетнай праваслаўнай сям'і. Бацька Міхаіл быў прадстаўніком даўняга баярскага роду, які з часам збяднеў, але карыстаўся ўласным гербам.

Будучы пісьменнік-мемуарыст Ф. Еўлашоўскі шляхам самаадукацыі набыў глыбокія веды па справаводстве, юрыспрудэнцыі і філасофіі. Адукаваны юнак хутка звярнуў на сябе ўвагу такіх вядомых магнатаў, як Крыштаф Радзівіл, Ян Хадкевіч, Канстанцін Астрожскі і інш., якія часта звярталіся да яго паслуг і даручалі весці важныя судовыя справы, чым вельмі ганарыўся і што не раз падкрэсліваў сам Ф. Еўлашоўскі.

У 1577 годзе ён атрымаў пасаду пінскага і сервецкага мастаўнічага, а праз два гады прыняў удзел у выпрацоўцы тэксту «Трыбунала Вялікага княства Літоўскага» і неўзабаве быў пераведзены на пасаду наваградскага падсудка, якую займаў да канца свайго жыцця.

У 57-гадовым узросце Ф. Еўлашоўскі пачаў пісаць свае ўспаміны. У іх аўтар не праявіў асаблівай цікавасці да грамадска-палітычных падзей таго часу (Люблінскай уніі 1569 г., кракаўскага

сейма 1603 г. і г.д.). Мемуары носяць пераважна аўтабіяграфічны характар. Падзеі пададзены ў строга храналагічнай паслядоўнасці, што дало даследчыкам падставу назваць іх «Дзённікам». Фактычна, твор уяўляе сабою зборнік цікавых, часам даволі разгорнутых навел, у цэнтры якіх — падзеі з жыцця канкрэтных людзей. Так, Ф. Еўлашоўскі апавядае пра смерць сваёй маці, расказвае пра жонку Ганну, ляхавіцкага старасту Уладзіміра Забалоцкага, успамінае гарадскога пісара Фёдара Зянкевіча і інш.

На жаль, пісьменнік не пакінуў нам падрабязнага апісання тагачасных Ляхавіч, затое паведаміў пра вялікую паводку 1576 г. і прыгоду, што адбылася з млынаром Янушам. Вада магла пашкодзіць новы млын, толькі што пабудаваны ў Ляхавічах, і людзі вырашылі збіваць вакол яго лёд. Януш стаяў на крайняй бэльцы і адбіваў пешняй ледзяную крыгу. За ім, з моста, адбівалі бервяном лёд двое парабкаў. Знянацку яны ўпусцілі бервяно, і яно ўдарыла Януша ў патыліцу. Ад моцнага ўдару той упаў у ваду, але нечакана для прысутных выплыў і застаўся жывым.

Як адзначаюць даследчыкі, успаміны Ф. Еўлашоўскага з'яўляюцца самым раннім помнікам з усіх вядомых твораў мемуарнага жанру ў беларускай літаратуры. А. Коршунаў так вызначыў каштоўнасць гэтага твора: «Само сабой зразумела, што ва ўсёй паўнаце паказаць разнастайныя праявы жыцця сацыяльнага асяроддзя аднаму Еўлашоўскаму было не пад сілу... Аўтар здолеў жыва і маляўніча расказаць аб убачаным, пачутым і перажытым. Якраз у гэтым і заключаецца адна з галоўных вартасцей яго ўспамінаў як помніка гістарычна-мемуарнай літаратуры канца XVI — пачатку XVII ст. *(Коршунаў А. Лепшыя здабыткі старажытнай беларускай мемуарыстыкі // Помнікі мемуарнай літаратуры Беларусі XVII ст. — Мн., 1983. С. 27)*.

## Канфесійная барацьба і яе адлюстраванне ў творах пісьменнікаў-землякоў

Моцны пратэстанцкі рух у Еўропе прывёў да таго, што неўзабаве пасля ўтварэння Рэчы Паспалітай на Беларусь пачаўся інтэнсіўны наплыў прадстаўнікоў розных каталіцкіх ордэнаў: францысканцаў, бернардзінцаў, дамініканцаў, кармелітаў, езуітаў і інш. Пры падтрымцы ўлад яны параўнальна хутка абжываліся ў краі, спрыялі пашырэнню каталіцызму на нашых землях, і іх дзейнасць, урэшце, прывяла да паланізацыі беларускага народа. Пры гэтым чыніліся розныя перашкоды праваслаўнай рэлігіі. Адным з цэнт-

раў тагачаснай рэлігійнай барацьбы паміж праваслаўнымі вернікамі, з аднаго боку, і каталікамі — з другога, стаў Брэст, дзе восенню 1596 года адбылося абвяшчэнне царкоўнай уніі, згодна з якой праваслаўная і каталіцкая цэрквы аб'ядноўваліся пад уладай Ватыкана. Гэтая падзея нарадзіла шэраг твораў палемічнай літаратуры. Аўтары некаторых з іх паходзілі з Берасцейшчыны.

У ліку галоўных ініцыятараў царкоўнай уніі 1596 года варта назваць ***Іпація Пацея*** (1541—1613). Нарадзіўся ён на Камянеччыне ў мястэчку Ражанка ў багатай і ўплывовай сям'і каралеўскага пісара і падскарбія Вялікага княства Літоўскага. Пасля заканчэння Кракаўскай акадэміі займаў розныя дзяржаўныя пасады ў нашым краі: з 1580 па 1589 год быў земскім суддзёй, затым стаў берасцейскім кашталянам. Будучы праваслаўным, І. Пацей цікавіўся царкоўным жыццём і нават прымаў актыўны ўдзел у арганізацыі мясцовага берасцейскага брацтва. Праз некаторы час у сане епіскапа ён узначаліў Уладзіміра-Брэсцкую кафедру. Неаднаразова мяняў веравызнанне, палітычна-рэлігійныя погляды і, урэшце, тайна накіраваўся ў Рым і прысягнуў самому папе Кліменцію VIII на вечны саюз з каталіцызмам.

Каб як-небудзь апраўдаць гэты ўчынак, Іпацій Пацей выступіў у друку з шэрагам твораў, напісаных па-польску і па-беларуску ў абарону уніі. Найбольш значнымі з іх з'яўляюцца «Унія», «Размова берасцяніна з братчыкам», «Ерасі, невуцтва і палітыка папоў і мяшчан віленскага брацтва», «Гармонія». У іх пісьменнік-палеміст перш за ўсё імкнуўся даказаць, што розніца паміж каталіцкім і праваслаўным веравызнаннямі — нязначная, уяўная, і склалася яна ў выніку прапаведніцкай дзейнасці «неуков-простаков», недасведчаных у справах царквы і гісторыі яе развіцця. Акрамя гэтага уніяцкі ўладыка сілаю захапіў у Брэсце ўсе дзесяць праваслаўных цэркваў, абодва манастыры — Сімяонаўскі і Раждзественскі, разагнаў Нікольскае праваслаўнае брацтва.

Такая жыццёвая пазіцыя і дзейнасць І. Пацея выклікалі абурэнне праваслаўных. Своеасаблівым выступленнем-адказам стаў «Катэхізіс» ***Стэфана Зізанія***, які некалькі разоў прыязджаў у Брэст да свайго брата ***Лаўрэнція Зізанія***. Апошні найперш вядомы як беларускі педагог-гуманіст, царкоўны дзеяч, мовавед і перакладчык. Тры гады, з 1592 па 1595, ён працаваў настаўнікам царкоўнаславянскай і грэчаскай моў у Брэсцкай брацкай школе. Тут, у Брэсце, Лаўрэнцій Зізаній падрыхтаваў да выдання дзве вучэбныя кнігі: «Азбука з лексісам» і «Грамматика словенска совершенного искусства осмии частии слова…», якія пазней убачылі свет у Вільні. Берасцейскаму перыяду Лаўрэнція Зізанія паэт Мікола Пракаповіч прысвяціў верш:

Калядны вэрхал за вокнамі сціх,
Падлога ўсеяна жытам...
Гадзіннік на ратушы абвясціў:
Яшчэ адзін год пражыты.
Як рукі, уверх узняла крыжы
Царква святога Міколы.
Якому богу табе служыць?
...Вучыцца брацкая школа:
Думку сваю перадаць найлепш,
Разумнае чуць у прамовах,
Поле размераць,
Спяваць,
а найперш
Вучыцца словам і мовам.
У іх — да пазнання таемны ключ,
Шлях да мудрых казанняў.
Веру сваю шанаваць і зямлю
Вучыць Лаўрэнцій Зізаній.

Супраць Брэсцкай уніі 1596 года выступаў і наш зямляк, таксама пісьменнік-паленіст ***Лявонцій Карповіч*** (каля 1580 — 1620). Нарадзіўся ён на Піншчыне ў сям'і святара. Адукацыю, відаць, атрымаў у адной з валынскіх школ князя Астрожскага. Са скупых біяграфічных звестак, якія дайшлі да нас пра Карповіча, вядома, што ўсё свядомае жыццё ён правёў у Віленскім манастыры. Упершыню яго імя сустракаецца ў дакументах за 1609 г., калі ён выступіў з прамовай на Варшаўскім сойме ў абарону праваслаўя. Яго пяру належаць некалькі прадмоў да кніг, павучанне «В неделю перед Рождеством» і тры казанні, у якіх аўтар найперш прапаведаваў маральную чысціню чалавека з пункта гледжання хрысціянскіх ідэалаў: «Казанье двое: одно на преображение Господа Бога и Спасителя нашего Иисуса Христа, другое на успение пречистое и преблагословенное Богородицы» і «Казанне на пахаванне князя В. В. Галіцына».

Згаданыя вышэй творы Лявонція Карповіча фактычна не мелі прамога дачынення да палемікі праваслаўных з уніятамі, але пакінулі значны след у развіцці беларускай літаратуры таго часу. Усе яны, як і творы І. Пацея, пазбаўлены рэгіянальнага каларыту.

На іх фоне выразна бачацца адметныя асаблівасці творчасці ***Афанасія Філіповіча*** (каля 1597 — 1648), які ўвайшоў у гісторыю літаратуры як аўтар яркіх публіцыстычных артыкулаў, аб'яднаных у адзін твор пад назвай «Дыярыуш». Яго радзіма — Берасцейшчына, аднак да нашага часу навукоўцам так і не ўдалося вызначыць дакладнае месца нараджэння пісьменніка. Вядома, што ён атрымаў бліскучую адукацыю і некаторы час працаваў у якасці «инспекто-

ра Дмитровичу, якомусь царевичови московскому» пры двары літоўскага канцлера, князя Льва Сапегі. Калі А. Філіповіч пераканаўся ў тым, што яго ўзвялі ў зман, даручылі вучыць асобу, якую толькі выдавалі за царэвіча, ён развітаўся са свецкім жыццём і стаў манахам Віленскага Святадухаўскага манастыра. Тут А. Філіповіч быў узведзены ў сан іераманаха і святара і ў 1633 годзе накіраваны ў якасці намесніка ігумена ў Дубайскі манастыр каля Пінска, а праз тры гады пераехаў у суседні Купяціцкі манастыр. Гэта якраз быў час вострай рэлігійнай барацьбы, у якую ўключыўся і наш зямляк.

У сувязі з тым, што тагачасныя ўлады, як зазначалася вышэй, падтрымлівалі распаўсюджанне каталіцызму ў краі, а і праваслаўе фактычна было ў загоне, Афанасій Філіповіч робіць крок, які сёння адназначна ацаніць нельга. У лістападзе 1637 года ён пад выглядам збору сродкаў на рэстаўрацыю Купяціцкай царквы едзе ў Маскву да рускага цара. На самай жа справе мэта паездкі была куды больш сур'ёзнай — прасіць у цара дапамогі, каб выправіць становішча, што склалася на нашых землях. А. Філіповіч імкнуўся адрадзіць тут праваслаўе, прычым барацьба за праваслаўную веру спалучалася ў яго з адстойваннем незалежнасці беларускага народа, імкненнем захаваць яго мову і самабытную культуру. З аднаго боку, такія духоўныя памкненні ўзвышаюць асобу Філіповіча, сведчаць пра яго выразныя патрыятычныя пачуцці. Аднак, думаецца, памылковым быў шлях, які ён абраў для рэалізацыі сваіх задум. Стаўку Філіповіч рабіў на сілы і падтрымку збоку, найперш, як бачым, разлічваў на Рускую дзяржаву, якая спрадвеку вяла войны з Вялікім княствам Літоўскім і хацела далучыць гэтыя землі да сваіх уладанняў. Тым самым ён міжвольна даваў Расіі падставы ўмешвацца ў справы нашай краіны.

Паездка Афанасія Філіповіча ў Маскву нарадзіла і яго першы мастацка-публіцыстычны твор — «Гісторыю падарожжа ў Маскву». Значная яго частка прысвечана апісанню гісторыі і лёсу Купяціцкай царквы з часоў яе заснавання. Твор яскрава засведчыў пра здольнасці аўтара як таленавітага мастака слова, так і выдатнага рэлігійна-палітычнага дзеяча.

Прыкладна к 1640 году аўтарытэт А. Філіповіча быў настолькі вялікі, што брэсцкія братчыкі абралі яго ігуменам Сімяонаўскага манастыра. У Брэсце ён разгарнуў актыўную дзейнасць супраць уніяцтва. На жаль, вызваленне краю ад каталіцкага наплыву ён паранейшаму звязваў з Расіяй і не хаваў сваіх сімпатый да Масквы і рускага ўрада. Аб гэтым ён адкрыта заяўляў і каралю, і сейму і лічыў сваім абавязкам засцерагчы караля ад абвастрэння адносін з

рускім царом, на якога, па сцвярджэнні пісьменніка, «па волі боскай» ускладзена місія быць абаронцам праваслаўнай царквы і яе паствы. Таму і трэба прыняць усе неабходныя захады да збліжэння і дружбы з Масквой.

Такая пазіцыя ў многім паслужыла прычынай некалькіх арыштаў і нават прывяла да смерці А. Філіповіча. Падчас зняволення ён напісаў шэраг артыкулаў («Навіны», «Прыгатаванне на суд», «Парада пабожная» і інш.), у якіх крытыкаваў палітыку Рэчы Паспалітай, выступаў супраць царкоўнай уніі. Сваё зняволенне разглядаў як палітычную акцыю і помсту за барацьбу ў абарону праваслаўнага насельніцтва.




*Помнік Афанасію Філіповічу ў Брэсце.*

Пазней напісаную публіцыстыку А. Філіповіч аб’яднаў у адзін твор пад назвай «Дыярыуш», які, па задуме аўтара, павінен быў даць грунтоўнае тлумачэнне самой сутнасці яго барацьбы і пакут «для ведомости людем православным хотячим тепер и у потомные часы ведать».

«Для ўспакаення веры, — як адзначае Уладзімір Калеснік, — Афанасій Філіповіч рабіў усё, напісаў нават верш, які можна лічыць першай іскрынкаю ад берасцейскага паэтычнага вогнішча... Верш Філіповіча — заклінанне і адначасова кліч да уніятаў вяртацца назад да веры і звычаяў бацькоў, да сваёй нацыянальна-культурнай традыцыі, да еднасці. Спачатку аўтар апелюе да Бога:

Патлумі ўсіх праціўнікаў і іх рады,
Абы большай не чынілі здрады
Межы грэкі і рымляны,
Гды ж то люд твой ест выбраны!

Далей Філіповіч спрабуе перакаnаць уніята, бо ведае, што, страшачы Божай карай, многага не даб'ешся. Ён угаворвае адступніка:

Не барзо цябе Рым прагне і лаціна,
Можа бовем абысціся без русіна...
Будзь жа сынам праваслаўным, уніяце!
Ёсць пакута жывым людзям, мілы браце!»

*(Калеснік У. Берасцейскае вогнішча //*
*Калеснік У. Зорны спеў. — Мн., 1975. С. 270).*

Жыццё пісьменніка абарвалася трагічна ў 1648 годзе. Ён быў арыштаваны, абвінавачаны ў «посылании якихсь листов и пороху до козаков» Багдана Хмяльніцкага і ў ноч на 5 верасня пасля жорсткіх катаванняў забіты ў лесе, непадалёку ад вёскі Гершоны. Манахі і братчыкі знайшлі яго труп праз некалькі дзён пасля забойства. Пазналі па зрэбнай кашулі і лыкавым лапці. Праваслаўная царква кананізавала Афанасія Філіповіча як пакутніка за веру. Думаецца, што ёсць важкая падстава для таго, каб адзін з праваслаўных храмаў нашага горада насіў яго імя.

У кастрычніку 2005 года ў Брэсце ля Свята-Сімяонаўскага кафедральнага сабора быў адкрыты помнік святому Афанасію. Малады скульптар Алеся Гуршчанкова і яе сааўтар Павел Герасіменка ўвасобілі вобраз праслаўленага царквой падзвіжніка ў бронзе. Цяпер кожнага, хто падыходзіць да Афанасія Брэсцкага, ігумен благаслаўляе на добрыя ўчынкі і справы.

## Пісьменнікі XVII — XVIII стагоддзяў

У канцы XVII стагоддзя ў жыцці беларускага народа адбылася падзея, якая ў многім прадвызначыла і абумовіла яго лёс у наступныя стагоддзі. Ёй стала пастанова Усеагульнай канферэнцыі саслоўяў Рэчы Паспалітай ад 29 жніўня 1696 г., згодна з якой у службовым справаводстве Вялікага княства Літоўскага «ўсе рашэнні павінны складацца на польскай мове». Забарона выкарыстання беларускай мовы ў многіх сферах грамадскай дзейнасці, пазбаўленне яе статусу дзяржаўнай найперш адмоўна адбілася на развіцці літаратуры краю, усіх яе жанраў. Будучы пазбаўленымі з канца XVII стагоддзя права на нацыянальную пісьменнасць, адукаваныя

людзі Беларусі, у тым ліку паэты і пісьменнікі, у сваёй большасці пачалі пісаць па-польску ці па-лацінску. Безумоўна, каштоўнасць такой літаратуры для духоўнай спадчыны нашага народа зусім не тая, што беларускай, але цалкам выключаць яе з нашых набыткаў няма ніякіх падстаў, бо створана яна беларусамі, вернымі сынамі сваёй зямлі. Вось чаму, гаворачы пра літаратуру Берасцейшчыны, нельга пакінуць па-за ўвагай творчасць такіх мастакоў слова гэтага перыяду, як Язэп Копаць, Адам Нарушэвіч, Міхал Карыцкі, Мацей Радзівіл, Яўхім Храптовіч, Марцін Матушэвіч, Францішак Карпінскі, Юльян Нямцэвіч.

Мемуарыст ***Язэп (Юзаф) Копаць*** (1762—1827) паходзіў са старажытнага беларускага дваранскага роду Копацяў. Нарадзіўся ён у Пінскім павеце. Яго бацька быў пінскім ротмістрам у войску Вялікага княства Літоўскага. Напэўна таму, з юных гадоў Язэп служыў у Пінскай кавалерыйскай брыгадзе, пачаўшы службу са звання радавога. Тут ён даслужыўся да афіцэрскага чыну і ўдзельнічаў у паўстанні 1794 г. пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі, за што быў сасланы царскім урадам на процілеглы край імперыі — у Ніжнекамчацк. Па парадзе вядомага пісьменніка і падарожніка Юльяна Нямцэвіча Язэп Копаць напісаў на польскай мове свае ўражанні ад знаходжання на паўвостраве, апісаў жыццё і быт карэнных жыхароў паўночна-ўсходняй Азіі — камчадалаў або ітэльменаў. У гісторыю літаратуры гэтыя ўспаміны ўвайшлі пад назвай «Дзённік падарожжа ўздоўж усёй Азіі па сушы да порта Ахоцк, акіянам праз Курыльскія астравы да Ніжнекамчацка...». Дзве рэдакцыі гэтых успамінаў вытрымалі дзевяць выданняў: у Вроцлаве, Берліне, Парыжы, Львове і іншых гарадах. Двойчы перакладаліся запісы Я. Копаця на рускую мову — у 1827 і 1896 гадах, аднак абодва пераклады на сёння ўяўляюць сабою вялікую бібліяграфічную рэдкасць.

Земляком Копаця быў польскамоўны паэт і гісторык, асветнік ***Адам Нарушэвіч*** (1733—1796), які нарадзіўся непадалёку ад Лагішына, у збяднелай шляхецкай сям'і. У 1748 годзе скончыў Пінскі езуіцкі калегіум і быў накіраваны на вучобу ў Францыю. Пасля вяртання на радзіму яму давялося працаваць у Віленскай акадэміі, затым — у Варшаўскім езуіцкім калегіуме. Цікава, што ўсюды Нарушэвіч называў сябе «пінчуком і берасцейцам» і вельмі гэтым ганарыўся. Ім, выхадцам з Палесся, напісаны шматлікія лірычныя творы, панегірычныя оды, ідыліі, байкі («Убогі літаратар», «Маскарад», «Сапсаваны век» і інш.), зроблены пераклады Гарацыя, Анакрэона, Тацыта.

Значную частку сваіх твораў паэт прысвяціў Палессю і яго жыхарам. Асабліва часта апісваў ён краявіды гэтага краю, якія бачыліся яму то квітнеючымі і перспектыўнымі, то панурымі і адсталымі.

У Павеці каля Пінска Адам Нарушэвіч жыў у 1776—1779 гг., калі працаваў над сваёй славутай «Гісторыяй польскага народа». Апошні кароль Рэчы Паспалітай, ураджэнец Камянеччыны Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, які ўвесь час аказваў Нарушэвічу садзеянне ў літаратурнай і навуковай дзейнасці, з гэтай нагоды пісаў: «Што раней прыказка казала: «Не людзе пінчукі», тое цяпер, калі з пінскай Павеці выйдзе такі карысны твор, трэба будзе казаць: «І пінчукі, і людзе» *(Мальдзіс А. На скрыжаванні славянскіх традыцый. — Мн.. 1980. С. 257—258)*. У гісторыю літаратуры Адам Нарушэвіч увайшоў як пачынальнік польскай асветніцкай паэзіі, а яго творы сталі неад'емнай часткай яе залатога фонду.

На мяжы дзвюх процілеглых эпох — Контррэфармацыі і Асветніцтва — пачалася творчасць ***Міхала Карыцкага*** (1714—1781). Паэт і грамадскі дзеяч, педагог і прафесар багаслоўя, доктар філасофіі і рэктар Мінскай ваяводскай школы М. Карыцкі нарадзіўся ў в. Дзітрыкі Лідскага павета. Чатырнаццаць гадоў яго жыцця звязана з Берасцейшчынай. Тут ён працаваў выкладчыкам у Драгічынскім калегіуме, прапаведнікам у Пінску. Жыццё на Палессі, яго непаўторныя краявіды і слаўная гісторыя знайшлі сваё адлюстраванне ў творах М. Карыцкага, напісаных на лацінскай мове. Большасць з іх прысвечана тагачасным гістарычным і культурным дзеячам Беларусі, мясцовым грамадска-палітычным падзеям. Для прыкладу спашлёмся на два яго паэтычныя творы — «Оду слуцкаму Епіскапу Антонію Валовічу з выпадку яго наведвання Пінска» і «Оду да Антонія Пшэздзецкага». У першай з іх аўтар якраз і звяртаецца да вобразаў Палесся і Піншчыны:

О вы, хто ўзворвае тут Палесся палі
Ці ваду струменскіх азёраў,
Хто п'е з Прыпяці марудлівай струмень,
Вяселлем напаўняйце кліч!
Няхай радасць у паветры пануе,
Няхай лес гучыць,
Няхай рэхамі берагі паўтараюць.

Далей паэт жадае Валовічу доўгіх гадоў жыцця, аж

Пакуль усе воды пінскіх рэк
Спаўна не вып'е слабы камарыны рой!

У другім творы — «Ода да Антонія Пшэздзецкага» — Міхал Карыцкі таксама ўслаўляе палескую зямлю, якая нібыта захоўвае ў сабе астанкі рымскага паэта-выгнанніка Авідзія. Каб расказаць пра гэты край і яго ўмельцаў, трэба мець талент Назона:

...Рамула нашчадак, кудзеснік! Яго, калі верыць магчыма,
Косці на пінскай зямлі труну сваю знайшлі і спакой.
Бо цяпер гэты край, дзе багата дрыгвы, балотаў,
Бо ў марыве мінулых вякоў быў быццам мора суцэльным...

Паэт заклікае Пшэздзецкага:

Стаў ты начальнікам тут на палескіх бяскрайніх
прасторах,
дзе па ціхай рацэ Піне спраўляюць платы.
Вось і рака, прызнаючы гаспадара, радасным токам
Звонка шуміць і хвалю па волі коціць сваю...
Сінечай нябеснай абвіта яе галава, старажытнай вярбой
Слова такое з вуснаў вешчых, прарочых лье:
У Чорнае мора пакуль цячэ і ўпадае наш стрыжань,
Часты пакамест нырок любіць паверхню ракі,
Не высыхаюць пакуль і згодна цякуць нашы воды,
Родныя ж будуць заўсёды ўслаўляць памкненні твае.

*(Пераклад Шушко А., Самуйліка М.)*

Як паэт, празаік, публіцыст і грамадска-палітычны дзеяч быў вядомы ў гэты час ***Марцін Матушэвіч*** (1714—1773). Нарадзіўся ён у шляхецкай сям'і ў маёнтку Ельня (цяпер Камянецкі раён). Першапачатковую адукацыю атрымаў у Камянцы, а затым вучыўся ў езуіцкіх калегіумах Драгічына і Брэста. Святаром, аднак, Матушэвіч не стаў — абраў для сябе кар'еру дзяржаўнага чыноўніка. У дваццаць пяць гадоў ён атрымаў сваю першую пасаду — берасцейскага гарадскога пісара. З часам яму давялося заняць іншыя, ужо даволі высокія пасады: у 1752 годзе — стольніка, а ў 1768 годзе — берасцейскага кашталяна і сенатара Рэчы Паспалітай.

Меў Марцін Матушэвіч і літаратурны талент. Ён стварыў «Успаміны», у якіх апісаў жыццё і побыт берасцейскай шляхты, расказаў пра тагачасную барацьбу за палітычную ўладу ў дзяржаве паміж магнатамі Чартарыйскімі і Радзівіламі, паведаміў пра асноўныя падзеі з мясцовага літаратурнага жыцця. Упершыню кніга Матушэвіча была выдадзена ў чатырох тамах у Варшаве ў 1876 годзе. Сёння, на жаль, яна недаступна шырокаму колу чытачоў.

У літаратурнай спадчыне берасцейскага шляхціца ёсць таксама вершы на польскай і лацінскай мовах, пераклады сатырычных твораў Гарацыя, якія і ўпісалі імя нашага славутага земляка ў гісторыю беларускай культуры.

На другую палову XVIII стагоддзя прыпадае жыццё і творчасць выдатнага драматурга і кампазітара ***Мацея Радзівіла*** (1749—1800).

Родам ён з Нясвіжа, аднак значную ролю ў яго жыцці і творчасці адыграла вёска Паланэчка, якая раскінулася на беразе ціхаплыннай рэчкі Дзвеі, па-мясцоваму Змейкі, што на Баранавіччыне. Яе разам з Крошынам і Гусакамі атрымаў Мацей Радзівіл у спадчыну пасля смерці маці. На той час Паланэчка здавалася ў арэнду, і Мацею давялося сплачваць даўгі і выкупляць свае маёнткі. Першай ён выкупіў Паланэчку, дзе і спыніўся на некаторы час. Гэта быў 1773 год. Неўзабаве маёнтак стаў адным з асяродкаў грамадскага і культурнага жыцця ў Беларусі. Яго наведвалі вядомыя музыканты і кампазітары, паэты і пісьменнікі, гісторыкі і грамадскія дзеячы. У 1777 годзе Мацей Радзівіл прымаў тут вядомага рускага пісьменніка-сатырыка ***Дзяніса Іванавіча Фанвізіна***, калі той накіроўваўся з Масквы ў Парыж. Свае ўражанні Фанвізін выказаў у лісце з Варшавы да сястры Феадосіі Іванаўны. У прыватнасці, ён пісаў: «28 жніўня прыехалі абедаць у мястэчка Паланэчка, якое належыць Радзівілу. Тут мы былі прыняты вельмі добра ў доме самога гаспадара. Абед прайшоў на серабры... Але начавалі ў вёсцы Старая Мыш у карэце, не маючы іншага прытулку...» *(Дробыш М. Фанвізін і Паланэчка // Народная трыбуна. 1998, 7 сакавіка. С. 4).*

У Паланэчцы, як адзначаюць даследчыкі, Мацей Радзівіл напісаў некалькі музычных і драматычных твораў, сярод якіх і лібрэта да вядомай трохактовай першай беларускай оперы «Агатка, ці прыезд пана». У наш час поўны тэкст лібрэта быў надрукаваны ў чацвёртым нумары часопіса «Тэатральная Беларусь» за 1993 год. У Паланэчцы ў Радзівіла нараджаліся паланезы, санаты, серэнады і нават вершы. На жаль, поспеху ён як паэт не меў.

Пазней, у сярэдзіне XIX стагоддзя, ***Канстанцін Радзівіл*** — адзін з кіраўнікоў антыцарскага Патрыятычнага таварыства — наладзіў у Паланэчцы выданне польскага часопіса «Люд і час», які рэдагаваў ***Януары Філіповіч*** (выйшаў, праўда, усяго адзін яго нумар). Адной з задач гэтага часопіса было вывучэнне мовы, звычаяў і фальклору мясцовага сялянства. Удзел у стварэнні часопіса прымаў ***Уладзіслаў Сыракомля***, які прыязджаў у Паланэчку для сустрэчы з К. Радзівілам і апісаў палац у нарысе «Вандроўкі па маіх былых ваколіцах».

Баранавіцкая зямля падарыла беларускай культуры выдатнага грамадска-палітычнага і культурнага дзеяча Вялікага княства Літоўскага, вядомага паэта, публіцыста і перакладчыка ***Яўхіма Храптовіча*** (1729—1812). Нарадзіўся ён у былым маёнтку каля вёскі Ясенец, што па дарозе з Гарадзішча ў Туганавічы. Адсюль паходзіў дзед Храптовіча — польскамоўны паэт ***К. Несялоўскі***.

Тут прайшлі і дзіцячыя гады самога Яўхіма, якога асабліва прыцягвалі кнігі. Ёсць факты, што ён пісаў вершы на польскай, лацінскай і беларускай мовах. Першы верш «Всем многі векі в новой хаці» быў напісаны ім ва ўзросце 12—16 гадоў. У ім юнак звяртаецца да дзеда Казіміра і бабкі Тэафілі, жадае ім шчасця жыць у новай хаце, зычыць зямнога дабрабыту і дзякуе за клопат пра яго:

Я сам першы внук ваш малы
Буду в своім слове сталы,
Повек Вашы не забуду
Ласкі, покуль жыці буду
І печаловання.

Вядомыя і іншыя вершы Храптовіча: «Гімн да прыгажосці», «Дуб і трысцінка», «Аб каханні», «Адказ Храптовіча Карпінскаму», «Храналогія роду Храптовічаў» і інш. Свае погляды на паэзію ён выклаў у публіцыстычным артыкуле «Паэзія».

Яўхім Храптовіч у XVIII стагоддзі паклаў пачатак беларускаму кнігазбору. Ён заснаваў Шчорсаўскую бібліятэку, якая яшчэ ў пачатку XX стагоддзя заставалася дастаткова вядомай і высока цанілася ў культурным свеце Еўропы. Сёння грамадскасцю пастаўлена пытанне аб вяртанні ў Беларусь гэтай бібліятэкі. Распрацавана цэлая праграма далейшага захавання калекцыі, над якой працуюць Беларускі фонд культуры, установы культуры Расіі і Украіны, шэраг бібліятэк краіны.






# На мяжы стагоддзяў

Буйнейшым прадстаўніком тагачаснай польскамоўнай літаратуры з’яўляецца ***Францішак Карпінскі*** (1741—1825), які як паэт раскрыўся менавіта ў XVIII стагоддзі. У 1793 годзе ён надумаў займець кавалак зямлі і нацвёрда там асесці на сталае месца. Нагода такая надарылася. У вёсцы Краснікі Пружанскага раёна вядомы мастак слова ўзяў у арэнду зямлю і пачаў ладаваць сваё гняздо. Захаваліся ўспаміны, як ён разам з сялянамі карчаваў кусты, колькі намаганняў прыклаў, каб пабудаваць дом. Тут, у Красніках, засталі Францішка Карпінскага падзеі 1794 г. У хуткім часе вёска была наводнена расійскімі салдатамі і разрабавана. Такая ж доля спасцігла і забудовы пісьменніка. Яму самому давялося хавацца ў Белавежскай пушчы.

Францішак Карпінскі вельмі балюча ўспрыняў трэці раздзел Рэчы Паспалітай і паражэнне паўстання пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі. Пісьменнікам авалодаў песімізм. Мастаку слова прапаноўвалі розныя, здавалася б, зваблівыя пасады: службу ў земскім судзе ў Пружанах, кафедру літаратуры ў Віленскім універсітэце, пасаду бібліятэкара ў гэтай самай установе, генеральнага дазорцы школаў Віленскай, Мінскай, Магілёўскай і Віцебскай губерняў. Ні адну з прапаноў не прыняў. Толькі згадзіўся апекавацца Свіслацкай гімназіяй, той самай, у якой пазней вучыўся Кастусь Каліноўскі. У бібліятэку гэтай навучальнай установы перадаў частку сваіх кніг.

Новыя беды і вёсцы Краснікі, і фальварку Карпінскага нанесла вайна Расіі з Напалеонам. Дом быў так разбураны, што Карпінскі вымушаны быў у 1813 годзе перабрацца ў суседнюю вёску Мурава. Пісьменнік зноў аказаўся без свайго гнязда. Нарэшце ў 1818 годзе ён купляе сабе дом у Хараўшчызне. Сюды да Карпінскага пераязджае ўнук па сястры з сям’ёю. Пісьменнік яму ахвотна перадаў вядзенне гаспадаркі, пакінуўшы яго спадчыннікам сваёй маёмасці.

«Гэтая падзея (пераезд унука з сям'ёй — **В. Л.**), — прызнаваўся Карпінскі, — зрабіла мой дом вясёлым».

Думаецца, што гэтай акалічнасцю можна растлумачыць той факт, што пісьменнік зноў бярэцца за пяро. Паказальна, што свае творы ён адрасуе дзецям. З друку выходзіць яго праца «Дзецям для забавы і навучання», якую склалі розныя цікавыя жыццёвыя прыгоды. Менавіта ў гэты час у Хараўшчызне Карпінскі адкрывае школу для сялянскіх дзяцей.

На Пружаншчыне быў напісаны невялікі твор «Падарожжа па зачараваным краі». У яго мастацкай тканіне выразна адчуваецца ўплыў беларускага фальклору. Гэты твор нам цікавы тым, што з яго мы даведваемся яшчэ пра адну сувязь пісьменніка з Берасцейшчынай. Ён перасякаў Буг у раёне Уладавы і адтуль накіраваўся на Валынь.

У 1825 годзе Францішак Карпінскі памёр. Ёсць меркаванне, што быў пахаваны ў Хараўшчызне. На магіле быў устаноўлены цудоўны помнік, які з часам быў разбураны. Прах пісьменніка перанеслі ў Лыскава і ля мясцовага касцёла аддалі зямлі. У 1993 годзе тут быў адкрыты помнік мастаку слова. Яго аўтарам з'яўляецца варшаўскі скульптар Яўгеніюш Козак. Помнік уяўляе сабой сялянскую хату з барэльефам Францішка Карпінскага і словамі папольску: «Вось мой дом убогі. Францішак Карпінскі памёр года 1825, дня 4 верасня, жыў гадоў 84». Так і спачывае на зямлі Берасцейшчыны адзін з самых славутых паэтаў Рэчы Паспалітай канца XVIII стагоддзя.

Нельга пакінуць па-за ўвагай і творчасць ***Юльяна Нямцэвіча*** (1758—1841). Гэты выдатны наш зямляк пражыў багатае на падзеі жыццё. Ён належыць дзвюм эпохам — канцу XVIII і першай палове XIX стагоддзяў. Юльян Нямцэвіч не проста быў сведкам, але і актыўным удзельнікам лёсавызначальных падзей для нашага народа: трох падзелаў Рэчы Паспалітай, прыняцця дэмакратычнай Канстытуцыі ад 3 мая 1791 г., паўстання пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі, паходу Напалеона на Расію, паўстання 1830—1831 гг.

Адзін з аўтараў вышэй названай Канстытуцыі, ад'ютант Тадэвуша Касцюшкі, тварэц нацыянальнай ідэі Польшчы, выдатны пісьменнік Юльян Урсын Нямцэвіч нарадзіўся ў 1758 годзе ў вёсцы Скокі каля Брэста ў багатай шляхецкай сям'і. Хлопчык быў першынцом. Пасля яго нарадзілася яшчэ пятнаццаць братоў і сясцёр.

Дзяцінства прайшло ў Скоках і яго ваколіцах. З імем Нямцэвіча звязаны вёскі Нэплі, Клейнікі, Адамкова і, бясспрэчна, Брэст. Выхаваннем хлопчыкаў у сям'і Нямцэвічаў займаўся бацька.

Асаблівая ўвага надавалася фарміраванню павагі да старэйшых у сям'і і любові да святароў. Мяркуючы па ўспамінах пісьменніка, гэтыя два аспекты выхавання дзяцей у Нямцэвічаў набывалі нездаровы акцэнт. Скажам, нават дарослы сын без дазволу не мог сесці ў прысутнасці бацькі.

Першапачатковую адукацыю Юльян атрымаў дома. Для гэтага нанялі навучэнца Брэсцкага езуіцкага калегіума. Ён не проста вучыў асновам пісьменнасці, а далучаў хлопчыка да творчасці. Пад розныя святы, на дні нараджэння бацькоў складаліся віншаванні. Шмат часу аддавалася, каб падрыхтаваць дзіця, як іх лепш сказаць.

Далейшая вучоба Юльяна Нямцэвіча працягвалася ў Брэсцкім езуіцкім калегіуме — тагачаснай кузні грамадска-палітычных і культурных дзеячаў краю. Гэтую навучальную ўстанову ў свой час закончылі Марцін Матушэвіч, Міхал Карповіч, Плацыд Янкоўскі і інш. Тут давалі добрую адукацыю, гартавалі характар, здольны супрацьстаяць жыццёвым выпрабаванням. Рэжым у калегіуме быў не проста строгім, але жорсткім. Навучэнцаў білі, саджалі ў карцэр і за розныя правіннасці, і за нявывучаныя ўрокі. Многія не вытрымлівалі: уцякалі, нават канчалі жыццё самагубствам.

Калі Юльяну Нямцэвічу споўнілася дванаццаць гадоў, ён паступіў у Варшаўскі кадэцкі корпус. З таго часу стала не жыў у Скоках, аднак са сваёй радзімай ніколі не парываў сувязі. Яна навечна пасялілася ў яго сэрцы і клікала да сябе. Калі Нямцэвіч і Касцюшка былі вызвалены з Петрапаўлаўскай крэпасці, куды параненыя ў паўстанні былі кінуты Кацярынай II, наш зямляк рваўся ў Скокі, спяшаўся да бацькоў, каб пабыць з роднымі, набрацца тут духоўных і фізічных сіл. Касцюшка пераканаў Нямцэвіча, што ім трэба падавацца ў ЗША. У адзін з прыездаў на радзіму Нямцэвіч прывёз у ЗША, дзе жыла яго сям'я, карціну з выявай дома пісьменніка ў Скоках.

Гэта невыпадкова. Тыя ідэалы, якім ён прысвяціў сваё жыццё, выкрышталізоўваліся менавіта тут. У дзённіку Нямцэвіча ёсць успамін пра прыгоннага селяніна, які ўцёк ад здзекаў свайго гаспадара з суседняга маёнтка і знайшоў сабе паратунак у Скоках. Гаспадары адшукалі ўцекача, закавалі ў кайданы і павезлі на расправу. Невыпадкова, будучы дэпутатам Чатырохгадовага сойма, пісьменнік неаднаразова выступаў у абарону бяспраўных сялянаў. На папрокі сваіх калегаў ён з годнасцю адказваў: «У гэтым месцы абарону мужыкоў я лічу за найвялікшы гонар, бо тут няма іх прадстаўнікоў, якія б маглі заступіцца за іх».

Працуючы ад'ютантам князя Чартарыйскага, дэпутатам сойма, Нямцэвіч часта наведваўся ў Скокі. Нярэдка адсюль пачына-

ліся яго шматлікія вандроўкі, уражанні ад якіх можна знайсці ў «Дзённіках маіх часоў», «Гістарычных падарожжах па польскіх землях», якія адбыліся ад 1811 па 1828 гады, у «Літоўскіх пісьмах». Адразу пасля заканчэння кадэцкага корпуса Юльян з бацькамі пабываў у Воўчыне, на радзіме апошняга караля Рэчы Паспалітай, пазнаёміўся з каралеўскімі апартаментамі. На наступны год ён робіць паездку разам з князем Чартарыйскім у Ружаны і Пінск. У Ружанах яны наведалі тэатр Сапегаў. Вось як пра гэта згадвае пісьменнік: «Запрасіў нас князь Сапега ў тэатр. Зала была новая, чыстая, дэкарацыі свежыя. Акцёры, падрыхтаваныя з ліку сялянаў князя,ігралі па-французску аперэтку Русо «Вясковы вядзьмар», як мне тады здалося, вельмі добра» *(Цытуецца па кн.: Барышев Г. И. Театральная культура Белоруссии XVIII в. Мн., 1992. С.174).* У палацы Сапегаў госці агледзелі бібліятэку, у якой налічвалася некалькі соцень рукапісных фаліянтаў XV—XVIII стст., другі раз наведвальнікі цікавіліся фабрыкай, якая выпускала сукно. У Пінску падарожнікаў найперш прывабіла прырода краю, захаплялі рэкі, застаўленыя лодкамі і лодачкамі. Чартарыйскі цікавіўся перспектывамі развіцця гандлю праз палескія рэкі.

У 1802 годзе Нямцэвіч прыязджаў з Амерыкі на радзіму па справах, звязаных са спадчынай. Уся вялікая сям'я Нямцэвічаў сабралася ў Адамкова (цяпер адзін з раёнаў Брэста) у стрыечнага брата. Сустрэча была сумнай і, разам з тым, радаснай. Не было ў жывых бацькоў, многіх братоў і сясцёр. Заўважым адразу, што пісьменнік атрымаў надзвычай сціплую спадчыну. Гэтыя два гады, якія ён прабыў на радзіме, аддаў любімым заняткам — вандроўкам і падарожжам. На гэты раз па ваколіцах Брэста. Наведаў спадчынныя маёнткі ў Нэплях, Клейніках. Юльян Нямцэвіч так тлумачыў мэты сваіх падарожжаў па Літве: «Няхай іншыя адпраўляюцца ў араматную і аздобленую цудоўнымі творамі мастацтва Аўзонію (Італію — **аўт**.), няхай наведваюць раскошныя Парыжы і багатыя Лонданы, я ж іду паглыбляцца ў літоўскія (заўважым, што не польскія, гэта значыць, беларускія — **В. Л.**) бары, якія, можа, не такія ўжо прыемныя, цікавыя, але жыва мяне кранаюць, бо складаюць частку маёй доўгі час слаўнай і доўгі час няшчаснай айчыны.

Сорамна было ў сталым узросце надалей адцягваць маё падарожжа па правінцыі, у якой я сам і продкі мае на свет з'явіліся, а што яшчэ болей важна, які не ўступае польскаму краю ў военачальніках, грамадскіх дзеячах, вучоных...» *(Цытуецца па кн.: Валянцін Грыцкевіч, Адам Мальдзіс. Шляхі вялі праз Беларусь. Мн., 1980. С.75—76).* Такім чынам, мэта вандровак і апісанняў сваіх уражанняў ад іх — патрыятычная. З прыведзенай цытаты выразна вынікае ліцвінскі патрыятызм Нямцэвіча. Ліцвінскае, беларускае,

яму радней, даражэй, чым польскае. Прырода, выдатныя людзі Вялікага княства Літоўскага выклікаюць у пісьменніка асаблівую гордасць. Гэтым тлумачыцца той факт, што Нямцэвіч літаральна скалясіў Берасцейшчыну і часткова Гарадзеншчыну. У нашым краі ён пабываў у Брэсце, Чарнаўчыцах, Кобрыне, Бярозе, Пружанах, Ружанах, Драгічыне, Янаве, Пінску і іншых населеных пунктах.

Падарожжы тады ажыццяўляліся конна. Калі многія захапляліся беларускімі дарогамі, упарадкаванымі да прыезду царыцы Кацярыны II, Нямцэвічу яны не падабаліся, бо лішні раз напаміналі пра паняволенне айчыны, пазбаўленне яе дзяржаўнасці. Таму шырокія дарогі на Пружаншчыне, абсаджаныя дрэвамі, нагадвалі вайсковыя парады. Тым больш пісьменнік выразна ўсведамляў, што ўпарадкоўваліся гэтыя дарогі потам беларускіх сялян. Праязджаючы з Ружанаў у Бярозу, ён запісаў: «Хоць была нядзеля, сяляне пад прымусам працавалі каля дарог і, што самае дзіўнае, у ліпені садзілі па абодвух баках сосны» (*Тамсама. С. 87*). У Бярозе ў картазіянскім кляштары ён убачыў партрэт свайго дзеда.

Адзін з маршрутаў Юльяна Нямцэвіча пачынаўся з Брэста. У фактычна родным горадзе пасля вайны з Напалеонам ён убачыў занядбаны замак, па баках якога ўзвышаліся чатыры вежы. Пісьменніку прыгадалася, што ў адной з іх сядзела прыгавораная да пакарання шляхта. А ведаў ён іншыя часы Брэста, калі сюды прыязджалі з бацькамі і калі вучыўся сам: прыпомнілася берасцейская друкарня і шматлікія кнігі, надрукаваныя ў ёй. Балюча было ўсведамляць, што паняволенне краю, войны і пастоі войскаў давялі горад да заняпаду. Нават выгаднае геаграфічнае размяшчэнне Брэста (водныя шляхі праз каналы вялі ў Балтыйскае і Чорнае моры) не прыносяць гораду асаблівай карысці.

З Брэста Нямцэвіч накіраваўся ў Чарнаўчыцы. Мястэчка належала Марціну Радзівілу, які захапляўся прыродазнаўчымі навукамі і праводзіў свае доследы па хіміі і фізіцы. У часы наведвання яго Нямцэвічам яшчэ стаяў аднапавярховы замак з вялізарнымі сенямі. З Чарнаўчыц наш зямляк падаўся на Кобрын. У той час ён ужо належаў Сувораву, які атрымаў ад рускай імператрыцы Кобрынскую воласць за здзейсненыя яго салдатамі «подзвігі» па падаўленні паўстання 1794 г. Як вядома, у ім браў самы чынны ўдзел Нямцэвіч у якасці ад’ютанта Тадэвуша Касцюшкі. Пісьменнік згадвае той час, калі Кобрын належаў каралю Рэчы Паспалітай.

Далей шлях Юльяна Нямцэвіча ляжаў на Пінск. Спачатку ён спыніўся ў Драгічыне. Горад не зрабіў на падарожніка ўражання, затое зацікавілі ваколіцы. Агледзеў руіны ў замку Жабер. Яму пры-

гадалася, што камендант яго, немец, здаў крэпасць без бою шведам. Карл XII, грэбуючы здрадніцтвам і як урок сваім салдатам, загадаў расстраляць гэтага каменданта. Пасля Жабера дарога прывяла Нямцэвіча ў Бездзеж. Гэтая мясціна прымусіла вярнуцца ў былое, успомніць сутычку паўстанцаў пад кіраўніцтвам Агінскага з рускімі войскамі. Гэта былі балючыя і горкія ўспаміны.

Спыняўся Нямцэвіч у Янаве і далей накіраваўся ў Пінск. Перад гэтым горад згарэў, а яго ваколіцы былі падараваны ўжо Кацярынай II генералу Рэпніну, літоўскаму генерал-губернатару. Балюча было ўсведамляць, што землі Бацькаўшчыны раздаюцца чужынцамі, якія яе заняволілі. Нямцэвіч лічыў, што Пінск, як рэдка які іншы горад, мае выключныя ўмовы для гандлю водным шляхам. Пра гэта гаварыў і рускі паэт Фёдар Глінка. Нямцэвіч згадвае пра замак князёў Вішнявецкіх, які быў ужо разбураны, пабываўшы на яго руінах. На той час захаваліся толькі дзве вежы. У маёнтку Заполле, непадалёку ад Пінска, пісьменнік агледзеў руіны другога маёнтка Вішнявецкіх, які акружалі высокія ліпы, магутны дубовы гай.

Дом Нямцэвічаў у Скоках Брэсцкага раёна адносна добра захаваўся. Яго акаляе парк, здзічэлы, закінуты, але не знішчаны канчаткова. І дом, і парк могуць быць адноўлены, патрэбны толькі дбайныя гаспадарскія рукі.

Завяршаючы размову пра літаратуру краю XVIII стагоддзя, варта адзначыць, што пастанова 1696 года цалкам не выцесніла з ужытку роднае слова. Захаваліся асобныя творы, напісаныя і па-беларуску. Шэдэўрамі літаратуры яны, праўда, не сталі, але выразна засведчылі, што нават у тых складаных умовах наш народ сцвярджаў сваю беларускасць. Так, у рукапісным зборніку «Розныя французскія і польскія вершы, сабраныя ў 1752 годзе ў Высокім», ёсць песня «Прасіў мяне Гарасым, Гарасым». У аналагічны Антопальскі зборнік уключаны песні «Ах ты, свеце лесны» і «Ах шчасце, шчасце, беднае, злое». У 1784 годзе ў в. Дубое Пінскага павета прыязджаў польскі кароль Станіслаў Панятоўскі. З гэтай нагоды адзін з мясцовых жыхароў склаў верш-прывітанне, мова якога мае таксама выразныя адзнакі беларускай (пінскай) гаворкі:

О наш Монархо, за такое діло
Обач наш край, обач свої слугі,
Мы будэм жычыты век тобе длугі...
Помогай, Божэ, і дорога шчэслiва,
Куды замыслів, королевска мость мілостіва.

Гэтыя творы сёння сталі вядомы дзякуючы нястомнаму даследчыку нашай літаратуры Адаму Мальдзісу.

# Літаратура XIX — пачатку XX стагоддзя

Стан і адметнасць літаратуры Берасцейшчыны і пра Берасцейшчыну ў XIX ст. былі прадвызначаны грамадска-палітычнымі падзеямі папярэдніх стагоддзяў. У выніку Крэўскай і Люблінскай уній Вялікае княства Літоўскае, куды ўваходзіла Беларусь і дзяржаўнай мовай якога з'яўлялася беларуская мова, аб'ядналася з каралеўствам Польскім. Была ўтворана новая шматнацыянальная дзяржава — Рэч Паспалітая. На жаль, падзеі ў гэтай дзяржаве развіваліся такім чынам, што прыярытэтнае становішча пачынае набываць каталіцызм і польскасць. У 1696 г. магнаты і шляхта Вялікага княства Літоўскага на сейме прагаласавалі за тое, каб адзінай дзяржаўнай мовай на ўсёй тэрыторыі Рэчы Паспалітай стала польская. Гэтая мова становіцца і мовай навукі і культуры. На польскай мове ў XVIII ст. пішуць і тыя ліцвіны, ці русіны, якія не ўсведамлялі сябе палякамі, выразна адчувалі сваю этнічную самабытнасць, былі гарачымі патрыётамі свайго краю. Краёвы патрыятызм большасці творчай інтэлігенцыі быў вельмі моцны.

Варта, аднак, зазначыць, што беларускае слова зрэдку гучала і ў літаратурных творах, а не толькі ў фальклоры. Найчасцей яно ўкладвалася ў вусны сялянаў у тых творах, дзе героямі былі прадстаўнікі розных сацыяльных групаў: паны і падпанкі гаварылі папольску, сяляне — па-беларуску. Таму многія творы той пары фактычна былі двухмоўнымі. Характэрна, аднак, што беларускай мове належала перыферыйнае месца.

Выключэнне беларускай мовы з пісьмовага ўжытку, з мастацкіх твораў прывяло да таго, што паглыбляўся разрыў паміж жывой мовай беларускага народа, на якой гаварылі сяляне, а таксама паўсядзённа і шляхта (польская мова была як бы святочнай, беларуская — будзённай) і літаратурнай мовай папярэдніх стагоддзяў. Мова літаратурных помнікаў нават XVI ст. успрымалася як архаічная, незразумелая. Новая беларуская літаратура, якая стала развівацца ў XIX ст., пачала абапірацца на жывую мову беларусаў, хоць і не цуралася папярэдніх набыткаў. Фарміраванне новай літаратурнай беларускай мовы ішло марудна і завяршылася толькі ў пачатку XX ст. Гэты працэс звязаны з імёнамі найперш Янкі Купалы і Якуба Коласа.

У канцы XVIII ст. адбылося тры раздзелы Рэчы Паспалітай. Саслабелую магутную дзяржаву разабралі больш моцныя імперыі. Беларусь дасталася Расіі. На жаль, яна не прызнала беларусаў за самастойны народ, а беларускую мову — за самабытную, арыгінальную мову, а ўсяго дыялект рускай мовы. Такі лёс, аднак, не

напаткаў польскую мову і культуру. Больш таго, праблемамі адукацыі на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага займаўся князь Чартарыйскі, які шмат зрабіў для годнага месца польскай мовы ва ўсіх школах краю і стварэння польскіх школаў. Такім чынам, польская мова і на тэрыторыі Берасцейшчыны ўмацоўвала свае пазіцыі.

Народы Рэчы Паспалітай не маглі прымірыцца з паняволеннем краю. Пачалася доўгая і зацятая барацьба за волю, аднаўленне дзяржаўнасці. Узначальвала гэтую барацьбу шляхта. Назавём выступленні народаў Рэчы Паспалітай супраць іх паняволення Расіяй: паўстанне пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі, нашага земляка, ураджэнца Івацэвіцкага раёна, героя ЗША (1794), арыентацыя на Напалеона, які дапаможа аднавіць дзяржаўнасць (1812—1813 гг.), студэнцкія арганізацыі філарэтаў, філаматаў і прамяністых пры Віленскім універсітэце (1818—1823), паўстанне 1830—1831 гг., дзейнасць арганізацыі моладзі Медыка-хірургічнай акадэміі, паўстанне 1863—1864 гг.

Наступствы гэтых выступленняў былі жахлівымі. Пасля паражэння кожнага з іх народ траціў сваю інтэлігенцыю, тых, хто адзіна і мог развіваць культуру, у тым ліку і літаратуру. Многія былі знішчаны фізічна, яшчэ больш адпраўлена на рускія Поўнач і ў Сібір. Там некаторыя з іх зрабілі выдатнейшыя адкрыцці, сталі вучонымі ў розных галінах навукі, у тым ліку і ў філалогіі, але зрабілі найперш на карысць Расіі. Кожнае выступленне за свабоду і незалежнасць сваёй Бацькаўшчыны папаўняла шэрагі палітычных эмігрантаў. Многа нашых землякоў асела ў розных краінах Еўропы, Амерыкі, на Бліжнім Усходзе. Там яны рабілі значны ўклад у развіццё культуры і навукі, у нацыянальна-вызваленчы рух народаў гэтых дзяржаваў.

Вынікі барацьбы нашых продкаў супраць паняволення Расіяй мелі і іншыя негатыўныя наступствы для нашага народа. Паступова пачынае выцясняцца асноўная назова нашай дзяржавы і народа — Літва, ліцвін. Калі яшчэ ў пачатку XIX ст. за ўсходнімі рэгіёнамі замацавалася найменне — Беларусь (сённяшнія Віцебская, Магілёўская), а за цэнтральнымі і заходнімі — Літва (адсюль і назова гарадоў Брэст-Літоўскі, Высока-Літоўск, Каменец-Літоўскі і інш.), калі царскі корпус войск, раскватараваны ў нашым краі, іменаваўся ўсё ж такі Літоўскім лінейным корпусам, то з часам гістарычная наша назова перадаецца фактычна нашым суседзям, сучасным літувінам, а затым царскі ўрад забараняе выкарыстоўваць і назову Беларусь. Мы становімся ўсяго Паўночна-Заходнім краем Расіі. Зачыняюцца вышэйшыя навучальныя ўстановы на тэрыторыі Беларусі (Віленскі універсітэт, Полацкая іезуіцкая акадэмія), ліквідуецца уніяцтва, якое на той час стала фактычна нацыяналь-

най рэлігіяй беларусаў, за ўжыванне беларускай мовы пісьмова прадугледжваецца пакаранне. На радзіме надрукаваць кнігу па-беларуску нельга. Можна толькі за мяжой. Беларуская кніга дадому трапляе нелегальна. З’яўляецца нават прафесія кніганошаў, якія пераносілі з-за мяжы беларускія кнігі на радзіму.

Пасля падаўлення паўстання 1863—1864 гг. распрацоўваецца спецыяльная праграма русіфікацыі краю. У ёй важнейшая ўвага надаецца школе. Польскія і беларускія школы зачыняюцца. Адкрываюцца рускія. На тэрыторыі краю пачынаюць працаваць настаўніцкія семінарыі і інстытуты. Галоўнае для гэтых навучальных устаноў было падрыхтаваць такога настаўніка, які выхоўваў бы дзяцей у сапраўды рускім духу. Вобраз такога  так званага педагога стварыў Максім Гарэцкі ў аповесці «Ціхая плынь». Сутнаснае ў тым, якіх настаўнікаў рыхтавалі і настаўніцкія семінарыі, і інстытуты, раскрывае Андрэй Лабановіч у сваёй спрэчцы з Турсевічам наконт вучобы апошняга ў настаўніцкім інстытуце.

Беларусь, у тым ліку і Берасцейшчына, навадняецца чыноўнікамі з Расіі, якіх сюды заманьваюць вышэйшымі, чым на радзіме, жалаваннямі. Доступ да розных пасадаў прадстаўнікам карэннага народа быў абмежаваны, калі не сказаць, што забаронены. Вялікая роля ў рэалізацыі русіфікатарскай палітыкі надаецца праваслаўнай царкве — дзяржаўнай рэлігіі Расійскай імперыі. Ідзе актыўнае будаўніцтва праваслаўных храмаў у псеўдарускім стылі. Многія уніяцкія цэрквы і нават касцёлы перабудоўваюцца пад цэрквы.

Былі і іншыя негатыўныя наступствы заваявання Беларусі Расіяй. Цяжарам на беларусаў клалася рэкрутчына, запрыгоненне сялянаў, пазбаўленне гарадоў і мястэчак магдэбургскага права, продаж земляў, дзе жыхары былі вольнымі, новым, пераважна, рускім, царскія падарункі фаварытам і набліжаным, рабаванне духоўных набыткаў, вываз іх у культурныя цэнтры Расіі, у прыватныя калекцыі новых гаспадароў. Разам з тым усе пералічаныя выступленні супраць паняволення сведчылі: народы Рэчы Паспалітай не змірыліся і ніколі не зміранца з сваім паняволеннем.

Станаўленне новай беларускай мовы, непрызнанне яе самастойнасці як адной са славянскіх моваў, не маглі спрыяць інтэнсіўнаму развіццю беларускамоўных твораў. Варта ўлічваць і такую акалічнасць: тыя, хто пісаў па-беларуску, арыентаваліся галоўным чынам на непісьменнага ў сваёй масе чытача — селяніна. Разам з тым у нечым расійскія русіфікатары і пралічыліся. Каб даказаць, што няма такога народа, як беларусы, і што няма адпаведна беларускай мовы, пачалося інтэнсіўнае вывучэнне этнаграфіі, фальклору беларусаў. Сумленныя вучоныя пераканальна даказвалі самабытнасць і арыгінальнасць народа і мовы.

У такой сітуацыі таленты, якіх нарадзіла Берасцейшчына, больш поўна і больш глыбока выявіліся ў польскамоўных творах. Па-першае, пісаць па-польску — гэта ўжо традыцыя, якая склалася на працягу апошніх стагоддзяў. Па-другое, кожны пісьменнік піша для таго, каб яго чыталі. Чытала ў асноўным спаланізаваная шляхта на тэрыторыі Беларусі і ў самой Польшчы. Дарэчы, на той час польская мова была больш вядомая і ў свеце. Праўда, некаторыя мастакі слова, цесна звязаныя з Берасцейшчынай (Ян Чачот, Уладзіслаў Сыракомля), пісалі па-польску і па-беларуску. Пісаць па-польску для нашых землякоў было яшчэ спосабам выявіць свае апазіцыйныя настроі да ўладаў, якія пазбавілі Айчыну дзяржаўнай незалежнасці.

Берасцейшчына стала часткай Расійскай імперыі, заходняй яе ўскраінай. Усе стасункі, канфлікты, якія адбываліся паміж Расіяй і Захадам, праходзілі на тэрыторыі нашага краю. Найперш мы назавём вайну з Напалеонам. Гэтую вайну ў Расіі называюць Айчыннай. Сапраўды пераход войск Напалеона праз Нёман ажывіў патрыятычныя пачуцці рускага народа. Пачаўся паўсюдны запіс у апалчэнні. Прасіліся на вайну з чужынцамі памешчыкі, культурныя дзеячы, студэнты універсітэтаў, навучэнцы кадэцкіх корпусаў, ліцэісты. Гэта і прывяло значную частку рускіх пісьменнікаў на Берасцейшчыну: А. Грыбаедава, А. Шахоўскага, Ф. Глінку, К. Рылеева.

Для нас беларусаў, гэтая вайна была нават у нейкай ступені грамадзянскай. Справа ў тым, што Беларусь паступова панявольвалася Расіяй. Усходнія яе тэрыторыі ўвайшлі ў склад Расійскай імперыі ў выніку першага раздзелу Рэчы Паспалітай (1772). Пачаўся інтэнсіўны набор беларусаў у рэкруты. У складзе расійскіх войск яны ваявалі супраць войск Напалеона, а разам з тым і супраць тых беларусаў, якія змагаліся ў войсках французскага імператара. Як адзначалася вышэй, беларуская шляхта звязвала з Напалеонам аднаўленне дзяржаўнасці Вялікага княства Літоўскага ў межах Рэчы Паспалітай да першага падзелу гэтай федэратыўнай дзяржавы. На тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага дзейнічалі эмісары з-за мяжы. Яны ідэалагічна рыхтавалі беларускую шляхту найперш да ўдзелу ў вайне на баку Напалеона, які абяцаў за гэта аднавіць Вялікае княства Літоўскае, спрыялі пераходу моладзі за мяжу, каб уліцца там у войскі французскага імператара, збіралі матэрыяльныя сродкі.

У 1812 г. беларуская шляхта вітала войскі Напалеона і польска-беларускія атрады як вызваліцеляў. Многія беларускія магнаты, у прыватнасці Радзівілы, паставілі, узброілі цэлыя воінскія часці. Гэта асабліва яскрава паказана ў паэме А. Міцкевіча «Пан Тадэ-

вуш». Беларускае сялянства звязвала з прыходам Напалеона вызваленне іх ад прыгоннага права і таму напачатку салідарызавалася са шляхтаю. Ён выступаў увасабленнем свабоды радзімы і вызвалення сялянаў ад прыгону. Таму вайна 1812—1813 гг. на тэрыторыі Беларусі была вайной не толькі французскіх войск з расійскімі, але і беларусаў супраць беларусаў.

Напалеон, аднак, сваіх абяцанняў у адносінах да Вялікага княства Літоўскага не спраўдзіў. Французскія войскі паводзілі сябе на тэрыторыі Беларусі як заваёўнікі. Пачалося рабаўніцтва і тых шляхецкіх маёнткаў, сядзібаў, засценкаў, хто чакаў і бачыў у французах вызваліцеляў, як і тых, якія ўжо належалі рускім. Разбой, рабаванне, гвалтаванне дзяўчат і жанчын ахапіла беларускія вёскі. Сяляне пачалі пратэставаць, нават стваралі атрады, якія давалі адпор заваёўнікам.

Многія рускія пісьменнікі ў XIX стагоддзі траплялі на Берасцейшчыну ў якасці чыноўнікаў. Культурныя дзеячы розных народаў заўсёды падтрымліваюць між сабою сяброўскія кантакты. Гэта таксама часам прыводзіла рускіх мастакоў слова на Берасцейшчыну.

## Беларускамоўныя пісьменнікі

***Паўлюк Багрым*** (1812—1891). Трагічная гісторыя Беларусі, калі яе народ на працягу некалькі стагоддзяў быў пазбаўлены дзяржаўнасці, сваёй мовы, нарадзіла вакол постацей многіх дзеячаў культуры шмат легендаў. Урэшце самі яны станавіліся легендамі, сімваламі трагічнага лёсу беларускага народа. Да іх ліку належыць постаць пісьменніка пазамінулага стагоддзя з Крошына — Паўлюка Багрыма.

Пачаў пісаць гэтую легенду зямляк Паўлюка Багрыма адвакат з Наваградка, удзельнік паўстання 1830—1831 гг. на выгнанні Ігнат Яцкоўскі. У 1854 годзе ён апублікаваў у Лондане ўспаміны «Аповесць майго часу, або Літоўскія прыгоды», праз чатыры гады іх перавыдаў.

Сутнасць легенды, звязанай з імем Паўлюка Багрыма, заключалася ў наступным. Калі мясцовы пан Станіслаў Юрага ў 1828 годзе задумаў запрыгоніць крошынцаў, якія спрадвеку былі вольнымі людзьмі, тыя ўзбунтаваліся. У мястэчку з'явіліся вайскоўцы, каб «уціхамірыць» бунтаўшчыкоў. У гэтым паўстанні прымала ўдзел сям'я мясцовага каваля Багрыма. Пачалося следства. Следчыя выйшлі на дзейнасць касцельнай школкі, якая з'яўлялася, на іх думку, рассаднікам бунтарскіх ідэй. Мясцовы ксёндз, каб неяк

апраўдацца, што школка найперш далучае дзяцей да прыгожага, папрасіў аднаго свайго вучня, якога асабліва любіў за талент, каб той прачытаў перад следчымі свае вершы. Ім аказаўся Паўлюк Багрым. Ён прынёс з сабою сшытак з вершамі і адзін з іх прачытаў. Следчыя сшытак у падлетка адабралі і ўзялі з яго падпіску, што ніколі больш ні пісаць, ні чытаць вершаў не будзе. У хуткім часе падлетак быў здадзены на 25 гадоў у рэкруты. Вярнуўся на радзіму старым і адзінокім бабылём дажываць свой век. Пасля вяртання з салдатчыны Паўлюк Багрым заняўся кавальствам, як і яго бацька. Ён аказаўся таленавітым кавалём-мастаком. Сведчанне таму —выкаваная ім жырандоля ў Крошынскім касцёле незвычайнай прыгажосці — на круглай раме жаўрукі ў імклівым палёце і бутоны кветак, якія вось-вось зацвітуць. Так і застаўся ў гісторыі беларускага прыгожага пісьменства паэт з Крошына аўтарам аднаго верша «Зайграй, зайграй, хлопча малы...», які па памяці быў адноўлены І. Яцкоўскім.

Постаць самародка з Крошына, паэта і каваля, не магла не цікавіць даследчыкаў літаратуры. Паступова яны ўносілі карэктывы ў гэтую легенду, і постаць Паўлюка Багрыма канкрэтызавалася, набліжаючыся да яго рэальнага жыццяпісу. Істотнае ўдакладненне ва ўспамінах Яцкоўскага ўнёс яшчэ ў 1913 г. А. Янулайціс, апублікаваўшы пра Паўлюка Багрыма артыкул у альманаху «Маладая Беларусь». Аўтар гаворыць, што ў артыкуле выкарыстаны дакументы пра тое, што адбылося ў Крошыне ў 1828 г. На жаль, А. Янулайціс гэтых дакументаў не называе. На маю думку, асабліва цікавымі ў публікацыі з’яўляюцца звесткі пра ксяндза Войцеха Магнушэўскага. Яны вытлумачваюць цікавасць Паўлюка Багрыма да беларускай літаратуры і жаданне пісаць на роднай мове. Войцех Магнушэўскі быў чалавекам высокай адукацыі і культуры, раз Мацей Радзівіл, аўтар лібрэта першай беларускай оперы «Агатка», наняў яго настаўнікам для сваіх дзяцей — Канстанціна і Антаніны.

Калі патрэбы ў настаўніку не стала, князь Радзівіл справадзіў Войцеха Магнушэўскага ксяндзом у Крошын — у адну з багатых на той час парафій. Там адбылося яго збліжэнне з сялянамі. Вось што пісаў пра Магнушэўскага А. Янулайціс: «Аб сабе ён мала думаў, для сябе многа не вымагаў. Быўшы адзінокім, зжыўся са сваімі людзьмі, звыкся з імі, *пераняў мову* (тут і далей выдзелена мною — **В. Л.**), спрасцеў, як аб ім казалі гарадскія і дворныя паны ды дзіваваліся, што *ён гаварыў «мужыцкімі» прыказкамі і прыгаворкамі» (А. Янулайціс «Аб маладым паэце з Крошына» // Паўлюк Багрым. Укладальнікі В. Ляшук, А. Майсейчык. — Мн., 1994. С. 38).*

Новае слова пра Паўлюка Багрыма сказаў І. С. Бас у працы «Літаратурныя пошукі, знаходкі, даследаванні» (1969). На падста-

ве архіўных матэрыялаў пра Крошынскі бунт і чытанне вершаў Паўлюка Багрыма, якія захоўваюцца ў Вільні, Гародні і Маскве, ён упершыню вызначыў прыкладную дату нараджэння паэта — 1813 г., увёў у навуковы ўжытак імя яго бацькі — Восіп, пераканальна паказаў, што сям'я мясцовага каваля не прымала ўдзелу ў паўстанні крошынцаў. Гэты даследчык засведчыў, што Павел Багрым у 1828 годзе не быў вучнем мясцовай школы, а ўжо служыў пры Магнушэўскім. І. С. Бас абнародаваў таксама матэрыялы, з якой жорсткасцю было падаўлена выступленне крошынцаў супраць Юрагі царскімі ўладамі: 37 чалавек аддадзена пад суд, 31 з іх быў прысуджаны да прагнання праз строй салдатаў, а кіраўнікі Камінскі, Ермакоўскі, Шышлоўскі былі прыгавораны да пакарання бізуном у 51 удар і ссылкай на катаргу. Гарадзенскі губернатар узмацніў пакаранне, бо і іншых крошынцаў чакала сібірская высылка. Паўлюк Багрым добра ведаў пра настрой сваіх землякоў: асобныя сялянскія кіраўнікі служылі пры касцёле, як і ён сам.

Асабліва выразна паказана І. С. Басам школа ксяндза Войцеха Магнушэўскага: мэты навучання, прыкладны яго змест, асобы настаўнікаў. У школе вучыліся хлопчыкі і дзяўчынкі, вучыліся не проста чытаць і пісаць, лічыць, а былі далучаны да антычнай культуры, ведалі польскую літаратуру, айчынную гісторыю, знаёміліся і з беларускімі творамі, якія распаўсюджваліся вусна. Настаўнікі Мацей Парфімовіч і Георгій Арлоўскі выхоўвалі ў сваіх вучняў дух свабодалюбства, далучалі да літаратуры антыпрыгоннага зместу, знаёмілі з гісторыяй, разважалі пра прывілеі, вольнасць.

І. С. Бас удакладніў уяўленне і пра асобу самога паэта. Развеялася легенда, што Паўлюк Багрым быў звычайным сялянскім хлопчыкам-пастушком. На самай справе падлетак для таго часу належаў да досыць адукаваных людзей. «Мяркуючы па выказваннях Магнушэўскага і Арлоўскага, Багрым многа чытаў, — разважае даследчык. — Акрамя сучасных яму аўтараў, ён ведаў і старагрэчаскіх, у прыватнасці Эзопа, быў знаёмы з творамі Нарушэвіча — выдатнага польскага гісторыка, паэта другой паловы XVIII стагоддзя». І. С. Бас апублікаваў матэрыялы, якія пацвярджаюць, што сям'я Багрымаў была незапрыгоненай, што падлетак ведаў на памяць шмат твораў, што меў сшытак з вершамі (праўда, як гаварыў на допытах, чужымі, ім перапісанымі), што сапраўды ад яго ўзялі падпіску не чытаць і не распаўсюджваць вершы. І. С. Бас прыйшоў да высновы, што верш «Зайграй, зайграй, хлопча малы...» быў напісаны паэтам пазней, а не адразу пасля бунту крошынцаў. Усё, што ў ім асэнсавана, мае біяграфічны характар.

Доўгі час так і лічылася, што верш Паўлюка Багрыма «Зайграй, зайграй, хлопча малы...» аўтабіяграфічны, што ён — ілюстрацыя

лёсу як самога Багрыма, так і яго сям'і. А. А. Лойка ў «Гісторыі беларускай літаратуры. Дакастрычніцкі перыяд. Частка І» (1977) упершыню выказаў думку пра тое, што ў аснове верша «Зайграй, зайграй, хлопча малы...» найхутчэй ляжыць мастацкая тыпізацыя, а не асабісты лёс паэта. Падставы для такога вываду ёсць у архіўных знаходках І. С. Баса: пакаралі бізунамі, шпіцрутэнамі, катаргай не толькі дарослых крошынцаў, але і падлетка Казіміра Камінскага, якому вынеслі такі прысуд: «...улічваючы яго малады ўзрост, аддаць у ваенную службу, калі ён акажацца да яе здольным, у адваротным жа выпадку таксама саслаць у Сібір на пасяленне».

Так і заставаўся Паўлюк Багрым сімвалам трагедыйнага лёсу беларускіх талентаў аж да 1988 года, да публікацыі Язэпа Янушкевіча «Ледзьве здымкі ўратаваў... Новае пра сям'ю Паўлюка Багрыма» *(ЛіМ. 1988. 4 лістапада).* У ёй на падставе касцельных матэрыялаў дакладна ўстаноўлена дата нараджэння Паўлюка Багрыма — 14 лістапада 1812 года, а з шлюбных царкоўных актаў сталі вядомыя імёны жонкі паэта — Карнэліі Шышлоўскай і блізкіх яму людзей, якія былі сведкамі ў час шлюбу. З'явіліся звесткі пра бацькоў, шырэй — пра сям'ю крошынскага каваля, пра гады іх нараджэння і смерці.

Напярэдадні 180-годдзя з дня нараджэння Паўлюка Багрыма ў Крошыне адбыліся чытанні, прысвечаныя памяці паэта. Вядомыя вучоныя і мясцовыя краязнаўцы ўнеслі некаторыя новыя ўдакладненні ў біяграфію Паўлюка Багрыма. Янушкевіч Язэп пашырыў уяўленне пра той перыяд жыцця паэта, калі ён узяў шлюб з Карнэліяй Шышлоўскай, адзначыўшы, што канчаў сваё жыццё Паўлюк Багрым досыць заможным чалавекам, у якога пазычаў грошы нават мясцовы пан. Сёння вядома, што Паўлюк Багрым не быў самотнікам, не быў занядбаным. Гадаваўся ён у сям'і, дзе было пяцёра хлопцаў і дзве дзяўчынкі. Пасля шлюбу з прыгажуняй Карнэліяй Шышлоўскай былі ў Паўлюка Багрыма і свае дзеці: два сыны і дачка. Яго залатыя рукі, працавітасць і талент давалі магчымасць жыць прыстойна.

Напярэдадні чытанняў баранавіцкі краязнаўца М. Маліноўскі ў раённай газеце «Наш край» паставіў пад сумненне аўтарства Паўлюка Багрыма верша «Зайграй, зайграй, хлопча малы...», і выявіў свае дэструктыўныя адносіны да набыткаў у багрымазнаўстве. Сваю пазіцыю спрабаваў адстойваць у час чытанняў. Гэтай думкі трымаецца і цяпер, хоць пераканальных аргументаў для яе пацверджання не мае. Навуковыя сумненні патрабуюць салíднай аргументацыі. Прасцей за ўсё сказаць, што верш «Зайграй, зайграй, хлопча малы...» не Багрымаў. Ніхто, аднак, у тым ліку і спадар М. Маліноўскі, не зможа даказаць, што твор быў напісаны

не крошынцам: у вершы ёсць радкі: «У Крошыне жыць не буду». Тым больш, як пераканальна паказаў настаўнік-краязнаўца Васіль Дубейка ў дакладзе на гэтай самай канферэнцыі, Крошын — гэта не вёска, нават не мястэчка ў звычайным разуменні. У паселішча даўняя гісторыя і свая культурная традыцыя. Яны падрыхтавалі ўрадлівую глебу, на якой закрасаваў такі талент, як аўтар верша «Зайграй, зайграй, хлопча малы...».

Матэрыялы следства аб чытанні Паўлюком Багрымам вершаў бунтарскага зместу пераканальна сведчыць, што толькі ён у Крошыне мог напісаць такі твор. Паўлюк Багрым быў для свайго часу адукаваным чалавекам, ведаў і любіў літаратуру. Нельга сур'ёзна лічыць, што той, хто сам не піша, будзе перапісваць чужыя вершы, завучваць іх на памяць і дэкламаваць. У якасці важкага аргумента на карысць таго, што верш «Зайграй, зайграй, хлопча малы...» Багрымаў, і тое, што ксёндз Войцех Магнушэўскі лічыў падлетка таленавітым і за гэта вельмі любіў.

Падсумоўваючы сказанае, адзначым: на сённяшні дзень большменш вывучаны першыя 16 гадоў жыцця (1812—1828) таленавітага паэта і каваля, акрэсліваецца дзякуючы намаганням Язэпа Янушкевіча той перыяд, які прынята ўмоўна называць «Пасля вяртання з салдатчыны (1864—1891)». Патрабуюць удакладненняў і пошукаў 36 гадоў жыцця Паўлюка Багрыма: 1828—1864 гг., у тым ліку і рэкруцтва паэта з Крошына, а таксама высвятлення, куды і як знікла сям'я паэта і каваля.

Паўлюк Багрым застаўся ў гісторыі беларускай літаратуры аўтарам аднаго верша «Зайграй, зайграй, хлопча малы...», але верша, які сведчыць пра вялікі мастацкі патэнцыял паэта. Невыпадкова гэты твор на рускую мову перакладалі Дз. Бродскі і В. Уладзіміраў, на ангельскую — Вера Рыч, на ўкраінскую — Р. Лубкіўскі.

Верш «Зайграй, зайграй, хлопча малы...» — гэта лірычны маналог падлетка, прыгоннага пастушка. Ён належыць жорсткаму пану, які закатаваў яго бацьку. Бязрадасная цяперашчына ў героя верша, а яшчэ больш змрочная будучыня: яго чакае рэкрутчына на 20—25 гадоў у далёкай Расіі, сярод чужых. Лірычны герой верша не проста панскі пастушок, а яшчэ і народны музыка. Гэтая характарыстыка не развіта ў творы, але яна намечана выразна — «я зайграю ў дуду» — народны інструмент, на якім выконваліся ў асноўным сумныя мелодыі.

Прыгонны падлетак надумаўся пакінуць сям'ю (маці з сястрою), родны дом, пайсці «ў свет, у бездарожжа», каб пазбегнуць тых страшных выпрабаванняў, якія чакаюць яго наперадзе і якія наканаваны яму прыгонам, яго поўнай залежнасцю ад пана і ўладаў. У невядомым свеце чакае таксама шмат цяжкасцей, але і ёсць

нейкая кволая надзея на лепшае, якой няма ў рэкрута. 25 гадоў сапраўднай катаргі — гэта ўсе лепшыя гады чалавечага жыцця.

Лірычны герой — не пасіўная натура. Ён спрабуе знайсці выйсце з безвыходнасці і не знаходзіць яго. Падлетак-пастушок нават гатовы стаць ваўкалакам, перавярнуцца ў ваўка, захаваўшы чалавечую душу і чалавечае ўспрыманне навакольнага. Пакуты ваўкалака менш страшныя на радзіме, чым лёс рэкрута на чужыне, дзе не будзе табе нічога роднага і нават знаёмага, ніводнай душы, якая б табе паспачувала.

Лірычнае «я» паэта прыдумвае розныя сітуацыі і варункі, якія б маглі пазбавіць яго такой жудаснай перспектывы: нарадзіцца не чалавекам, а каршуном, навечна застацца недаросткам, калі б у дзяцінстве да яго дакрануўся (згодна з народным паданнем) сваім крылом кажан. І нарэшце, самае страшнае і жахлівае — зусім не нарадзіцца і тым самым вызваліць маці ад тых пакутаў, якія выпадуць на яе долю з-за трагічнага лёсу сына. Такім чынам, для лірычнага героя Паўлюка Багрыма характэрна жаданне супрацьстаяць неспрыяльным абставінам, адолець іх, не скарыцца лёсу, а шукаць выйсце. Выйсця, аднак, няма, таму лёс лірычнага героя трагічны.

Прамова лірычнага героя Багрыма вызначаецца экспрэсіўнасцю, якая дасягаецца за кошт сродкаў сінтаксічнай выразнасці: паўтораў, зваротаў, воклічаў, рытарычных пытанняў, інверсіі, недамоўленасці. Верш Паўлюка Багрыма сведчыць пра тое, што аўтар абапіраўся на фальклор, на народную міфалогію. І гэта яднае беларускага паэта з Крошына з Янам Баршчэўскім і філаматамі-землякамі. Мае рацыю Люба Тарасюк, якая гаворыць, што «міфалагічны свет верша пазначаны змрочным каларытам. Да вобразаў ваўкалака і каршуна дадаецца ў заключнай страфе яшчэ і кажан, носьбіт ночы і чорнай сілы, што апаноўвае дзіця і не дае яму расці».

Уплыў песеннага фальклору на Паўлюка Багрыма таксама досыць відавочны ў вершы «Зайграй, зайграй, хлопча малы...». Аўтар выкарыстаў вобразы народных інструментаў (скрыпачкі, цымбалаў, дуды), памяншальна-ласкальныя суфіксы, сталыя звароты (пайсці ў свет, маці міла і інш.), клічны склон. Пра высокі талент Паўлюка Багрыма сведчыць і культура яго версіфікацыі. Верш цячэ плаўна, свабодна, часам толькі збіваецца з зададзенага рытму, што падпарадкавана паказу ўсхваляванасці лірычнага героя.

***Францішак Савіч*** (каля 1815 — каля 1845). У гісторыю беларускай літаратуры адным вершам увайшоў і яшчэ адзін наш зямляк. Ён пражыў вельмі кароткае жыццё — усяго 30 гадоў, аднак таго, што выпала на яго долю, хапіла б на многія і многія людскія лёсы. Жыццёвыя перыпетыі Францішка Савіча сёння вядомыя, бо ён пакінуў пра сябе яшчэ і ўспаміны, хоць і незавершаныя. Да-

кладных звестак, аднак, пра гады яго жыцця сёння мы не маем. Навукоўцы схіляюцца да думкі, што нарадзіўся ён каля 1815, а памёр каля 1845 г. Як бачым, Францішак Савіч быў сучаснікам такіх знакамітых нашых землякоў, якімі былі Паўлюк Багрым і Адам Міцкевіч. Апошні аказаў на Ф. Савіча вялікі ўплыў.

Прыйшоў на свет Францішак Савіч у вёсцы Вяляцічы Пінскага раёна. Бацька яго — уніяцкі святар. Хлопчык быў адзіным дзіцем у сям'і Савічаў. Хутка гэтую сям'ю напаткала бяда: памёр бацька. Маці засталася без сродкаў на існаванне. Свет не без добрых людзей, — гаворыць народная мудрасць. Францішку Савічу пашанцавала сустрэць такога добрага чалавека. Ім аказаўся наглядчык Пінскага павятовага вучылішча Францішак Махцінскі, куды пасля авалодання граматай дома паступіў сын святара з Вяляціч на вучобу.

Францішак Махцінскі здолеў перадаць свайму таленавітаму і любімаму вучню сваё ўяўленне пра жыццё, пра чалавека, пра радзіму. Невыпадкова сучаснікі прыгадвалі, што крэўны бацька падараваў сыну сваю знешнасць: сярэдні рост, моцны склад цела, здароўе, а апякун — сумленнасць, шчырасць, розум, прагу справядлівасці, грамадзянскія пачуцці і грамадскую актыўнасць. Пазней у сваіх мемуарах Францішак Савіч занатуе, што ўжо з ранняга дзяцінства яго запаветнай марай былі свабода народа і вольнасць Бацькаўшчыны. У мемуарах Ф. Савіча чытаем: «Я на ўсё жыццё захаваў удзячнасць да Францішка Махцінскага за тое дабро, што ён для мяне зрабіў» *(Ф. Савіч «Споведзь» // Шляхам гадоў / Гісторыка-літаратурны зборнік. Мн., 1994. С.95).*

У час вучобы ў Пінскім павятовым вучылішчы акрэслілася і такая якасць яго асобы як працавітасць. Ён не толькі выдатна вучыўся, але яшчэ і вёў прыватныя ўрокі. Меў самастойна зробленыя сродкі, якія ішлі на ўласныя пільныя патрэбы. Галоўнае для юнака было тое, што ён мог дапамагаць маці.

У 1833 годзе Францішак Андрэевіч Савіч з пахвальным пасведчаннем закончыў Пінскае павятовае вучылішча і падаўся па далейшую навуку ў былую сталіцу Вялікага княства Літоўскага — Вільню. Толькі што было задушана паўстанне 1830—1831 гг. Пачаўся новы віток русіфікацыі Беларусі, удушэння ў зародку мары пра незалежнасць Радзімы, пра вызваленне яе ад паняволення. Зачыняецца Віленскі універсітэт — кузня навукоўцаў і патрыётаў, асяродак культуры і вальнадумства. Юнак з Палесся паступае ў Віленскую медыка-хірургічную акадэмію і ўліваецца ў вірлівае студэнцкае жыццё.

У хуткім часе наш зямляк, які на той час вылучаўся сталасцю думак, высакародствам памкненняў служыць Айчыне, пераканаў-

ся, што большасць моладзі жыве вузка прыватнымі, дробязнымі інтарэсамі, марнуе жыццё ў картах і п'янках. Гэта не Савічаў ідэал. Ён многа чытае, шукае аднадумцаў. З часам яны знайшліся. Ён зблiжаецца з украінцам з Жытоміршчыны Янам Загорскім. Праз нейкі час вакол іх згуртавалася кола аднадумцаў, і юнакі наважыліся арганізаваць таварыства, якому далі красамоўную і характарыстычную назву — «Дэмакратычнае таварыства». Сябра Ф. Савіча па акадэміі Мацвей Лавіцкі прыгадваў: «Па складзе думак быў ён (Францішак Савіч — **В.Л.**) вядомы з добрага боку, пры гэтым валодаў шчаслівым дарам не толькі падабацца, але і здабываць павагу кожнага, і таму знаёмыя міжволі адкрываліся перад ім... Быў ён таксама актыўным, стараўся схіліць да свайго складу думак і пераканаць у сваіх поглядах» *(С. Александровіч. Францішак Савіч // Старонкі братняй дружбы. Мн., 1960. С.159).*

Зусім невыпадкова, што Францішак Савіч у хуткім часе стаў адным з кіраўнікоў нелегальнай студэнцкай арганізацыі. Члены яе лічылі сябе пераемнікамі і прадаўжальнікамі філарэтаў і філаматаў. Яны таксама выступалі за асвету народа, за ўсталяванне дэмакратычных парадкаў, за вольнасць Айчыны, былі праціўнікамі таталітарызму і дэспатызму. Францішак Савіч напісаў статут для таварыства пад назвай «Прынцыпы дэмакратызму», а таксама адозву-пракламацыю «Заўвагі аб маральнай вайне народа з дэспатызмам». Назвы працаў нашага земляка гавораць самі за сябе і яшчэ больш выразна раскрываюць яго грамадзянскія і чалавечыя ідэалы. Студэнт з Піншчыны заклікаў моладзь знайсці ў сябе мужнасць, стойкасць духу, самаадданасць, каб уступіць у барацьбу за правы чалавека, за вольнасць бацькаўшчыны. Еўропа ў гэтым плане, — лічыў Ф. Савіч, — прыклад для суайчыннікаў. «Паўстаньце ў імя растаптаных правоў чалавека!.. Сцеражыцеся, браты, пастак. Уводзяць нас у марнатраўства, называючы яго старадаўняй польскай вялікадушнасцю, насаджаюць п'янства і бяздзейнасць пад іменем гасціннасці... Хочуць нас падкупіць золатам, кладучы на вагі яго дабрачыннасць, свабоду, асабістую годнасць, хто ж можа са спакойным сэрцам браць шчадроты жыцця за такую дарагую плату... Прыстасоўваючы нас да рабства, дазваляюць і загадваюць нам быць дэспатамі» *(А. А. Лойка. Францішак Савіч // Гісторыя беларускай літаратуры. Дакастрычніцкі перыяд. Частка 1. Мн., 1977. С.84).* Як бачым, выказванні Францішка Савіча не страцілі сваёй актуальнасці і сёння. Яго словы не толькі адрасаваны сваім сучаснікам, але і праз больш як стагоддзе звернуты і да нас, да нашых розуму і сэрцаў.

«Дэмакратычнае таварыства» ў Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі было добра арганізавана і законсперавана. Францішак

Савіч быў заклапочаны тым, каб яно станавілася масавай арганізацыяй. Як прыгадваў той самы М. Лавіцкі: «У гэты час ён быў ужо другім Занам, сядзеў начамі і займаўся перапісваннем розных пракламацый, разважанняў і спрэчак замежных аўтараў, збіраў у некалькіх месцах блізкіх знаёмых і самых давераных, чытаў, прапагандаваў» *(С. Александровіч, с. 160).*

З часам «Дэмакратычнае таварыства» набывае выразную палітычную накіраванасць. Свае аддзяленні арганізацыя віленскіх студэнтаў мела ў розных гарадах, у тым ліку і ў Пінску. Гэта дае падставу лічыць, што Францішак Савіч падтрымліваў сувязі з Піншчынай у час вучобы. Напэўна, свае летнія канікулы ён праводзіў ці ў Вяляцічах, ці ў Пінску. Вучнем Пінскага павятовага вучылішча Савіч сябраваў з братамі Анцысем і Мамертам Рапіерамі, Ігнатам Радзевічам, Феліксам Шаламіцкім, Эразмам Закржэўскім, Францам Тарлецкім.

На час вучобы прыпадае і найбольшая літаратурная актыўнасць Францішка Савіча. На жаль, даводзіцца гаварыць, што з яго паэтычнай спадчыны да нас дайшоў усяго адзіны верш паэта «Там блізка Пінска...», у аснову якога пакладзены рэаліі тагачаснага жыцця, якія перанёс Францішак Савіч на сваю радзіму — Піншчыну, а адным з герояў зрабіў пінчука. На жаль, іншыя вершы нашага земляка з Піншчыны не захаваліся. Тое, што яны былі, не выклікае сумнення, бо сам пісьменнік прызнаваўся, што ў час навучання ў акадэміі крыху займаўся літаратурай, пісаў прозу і вершы, нават меркаваў, што было сярод напісанага нешта і таленавітае.

У хуткім часе ў жыцці Францішка Савіча адбылася такая важная падзея, якая прадвызначыла ўсё, што з ім адбудзецца ў будучым. У 1837 г. ён пазнаёміўся з вядомым польскім барацьбітом за вольнасць Айчыны, удзельнікам паўстання 1830—1831 г. Шыманам Канарскім, які з'явіўся на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага для актывізацыі рэвалюцыйных настрояў. Віленскае таварыства студэнтаў-медыкаў уступіла ў «Садружнасць польскага народа». Хутка, аднак, царскім уладам удалося высачыць і арыштаваць Канарскага, а затым у 1838 г. і Францішка Савіча. Следства цягнулася больш за паўгода. Увесь гэты час над юнаком здзекаваліся, білі. У турме на польскай мове ім была напісана «Споведзь». Даследчыкі лічаць, што ў ёй адчуваецца моцны ўплыў А. Міцкевіча. У 1839 г. следства закончылася, і Францішка Савіча выслалі на Каўказ пад пулі горцаў.

Жыць яму засталося ўсяго няпоўных шэсць гадоў, але яны ўвабралі ў сябе вельмі многа. Пагадзіцца з паняволеннем Францішак Савіч не мог. Ён вырашыў любой цаной перабрацца за граніцу, каб адтуль весці працу, якой прысвяціў сваё жыццё. Шлях гэты быў

доўгі і цяжкі. Назавём толькі некаторыя этапы гэтай цярністай дарогі. З Вільні пехатой адправілі арыштантаў у Стаўрапаль праз Чарнігаў. Там наш зямляк захварэў. Пасля выздараўлення быў канваіраваны на месца службы ў Кізляр, затым у Дэрбент, нарэшце ў Тыфліс, дзе меў надзею быць перапраўленым за мяжу. Надзея не спраўдзілася. Быў затрыманы і адпраўлены ў дзеючую армію ў раён Каспійскага мора. Медыцынскія веды дапамаглі зноў вярнуцца ў Кізляр, а хворы, якога лячыў, параіў прабірацца за мяжу праз Таганрог. Францішак Савіч інсцэніраваў самагубства: на беразе пакінуў вопратку і запіску пра самагубства. Дзе пехатою, дзе з чумацкім абозам дабраўся ў Таганрог. Зноў не пашчасціла. Наш зямляк мяняе маршрут, кіруецца на Украіну, каб адтуль трапіць у Румынію. І на гэты раз зрыў: цяжка захварэў. Пасля выздараўлення робіць новую спробу займець волю, але быў схоплены пагранічнай вартай. Апынуўся ў турме, адседзеў два гады ў Цярэспалі, а затым як бадзяга адпраўлены ў салдаты. Тут зноў дапамаглі медыцынскія веды. Служыў у Чарнігаве, уцёк са службы, дабраўся да Кіева, адтуль пад чужым іменем Гельгега накіраваўся на Бярдзічаў, аднак па дарозе вывіхнуў нагу і вымушаны быў затрымацца ў мястэчку Янушпаль на Житоміршчыне. Каб неяк жыць, стаў лячыць людзей. Калі наважыўся зноў рушыць за мяжу, пачалася эпідэмія халеры. Ратуючы іншых, заразіўся сам і памёр. Пахаваны ў Астрожку на Чарнігаўшчыне.

Творчая спадчына Францішка Савіча невялікая: гэта яго працы, напісаныя для «Дэмакратычнага таварыства»: «Прынцыпы дэмакратызму», «Заўвагі аб маральнай вайне народа з дэспатызмам», «Споведзь», мемуары і верш «Там блізка Пінска, на шырокім полі...» На жаль, сёння даводзіцца гаварыць, што і гэтыя творчыя набыткі нашага земляка амаль што недаступныя шырокаму чытачу. Мемуары Францішка Савіча ахопліваюць дзяцінства і юнацтва, віленскі перыяд, службу на Каўказе.

На жаль, палескі перыяд жыцця паэта ў гэтых успамінах адлюстраваны досыць сціпла. Затое яны даюць мажлівасць дэталёва прасачыць за лёсам паэта з часу яго арышту і да ўцёкаў з Каўказа, а таксама асэнсаваць светапогляд, ідэалы, перакананні Францішка Савіча. Ён быў чалавекам, які глыбока верыў у Бога. На подзвіг у імя Айчыны яго натхняў прыклад Ісуса Хрыста: «Што я магу зрабіць для сваёй Айчыны, сам без прытулку, без ніякага значэння і ў такой нястачы? — пытае наш зямляк на пачатку свайго жыццёвага подзвігу. І сам сабе адказвае: — Хрыстос нарадзіўся не на троне і не ў палацах, а ў беднасці, на сене ў стайні. Усё жыццё быў бедны, а панаваў і пануе на зямлі і ў небе. І звярнуўся ён да вучняў сваіх: «Хто хоча пераймаць мяне, няхай адрачэцца ад самога сябе, возьме

свой крыж і ідзе за мною». Такія думкі пераканалі мяне, што, маючы моцную волю, можна быць карысным братам і можна пакласці яшчэ адзін камень у будынак Айчыны нашай. Я дажыў да ўзросту, калі належыць думкі ператвараць у дзеянні». *(«Успаміны» // Шляхам гадоў: Гісторыка-літаратурны зборнік. Мн., 1994. С.96).*

Яшчэ больш выразна спадзяванне на Бога, на яго міласць выяўляецца ў «Споведзі» Францішка Савіча, напісанай у турме. Апору і падтрымку сабе, сваёй Айчыне наш зямляк шукаў у Бога і знаходзіў: у душу ўсяляліся вера і надзея, знаходзіліся духоўныя і фізічныя сілы. «Спалоханы цемрай, — чытаем у «Споведзі», — звярнуўся я да Бога: змілуйся над няшчаснай Айчынай маёй! Калі ўсё, роднае для мяне, для цябе, Ісус, нічога не значыць, злітуйся за кроў Хрыстову! Я заклікаў не сваім нікчэмным голасам, а голасам усёй Айчыны, усяго пакрыўджанага народа, не асмельваючыся вочы ўзняць на нязмеранасць Ягоную. І сталася. І пабачыў я Божую міласэрнасць...» *(«Споведзь» // Шляхам гадоў: Гісторыка-літаратурны зборнік. Мн., 1994. С.125).*

З успамінаў і са «Споведзі» паўстае духоўна багатая асоба, патрыёт Айчыны, чалавек мужны, адданы, годны і горды, велікадушны і спагадлівы, настойлівы ў дасягненні мэты. Як вядома, Францішак Савіч і яго аднадумцы былі сасланы на Каўказ, дзе Расія вяла вайну па заняволенні горскіх народаў. Паэт не раздзяляе палітыку царскага ўрада ў гэтым пытанні, разумее несправядлівы, захопніцкі яе характар: «Я павінен быў страляць чэркесаў, якія маёй айчыне і мне не зрабілі нічога благога, павінен бараніць справу, якая супярэчыла маім перакананням, ваяваць у радах прыгнятальнікаў у вайне, якая вялася дзеля іх гонару і інтарэсаў. Я не быў супраць тых, хто ваяваў за сваю незалежнасць. Таму не меў намеру зацята абараняць ні справу, якую не пераносіў, ні жыццё, якое мне стала абыякавым» *(«Успаміны», С.117).*

Дарэмна было б, аднак, думаць, што «Успаміны» Францішка Савіча — гэта толькі дакумент, які шмат што расказвае пра час, падзеі, асобу нашага земляка, сведкам і ўдзельнікам якіх ён быў. Яны маюць і мастацкую вартасць і сведчаць пра несумненны талент пісьменніка. Для ілюстрацыі возьмем хоць бы гэты ўрывак: «На вялікай і разлеглай прасторы ад берагоў Каспійскага мора і да падножжа Каўказскіх гор сцелецца стэп. Горы, ахінутыя белым плашчом, глядзяць на два моры, што разліліся каля іх ног, і на два вялікія мацерыкі — Азію і Еўропу. Яны бачылі, як гэтыя мацерыкі з плыняў патоку вынырнулі. На пачатку вялікай прасторы разляглася пясчаная даліна, па ёй бяжыць пеністая рака Церак, б'ецца ў Карбецкіх гарах і, пераваліўшы граніты і скалы Дар'яльскай цясніны, выплывае адпачыць на пясок і запаволенай плынню мкне да

Каспійскага мора. Над берагам ракі каля сарака вёрст ад яе вытоку знаходзіцца горад Кізляр, аздоблены грэчаскімі і армянскімі цэрквамі. Адміністрацыйныя будынкі, крапасныя муры, турмы, некалькі складаў пануюць сваёй масай над усёй мясцовасцю. Тыя адміністрацыйныя будынкі ўсюды падобныя адзін на аднаго, як маскаль на маскаля» *(С.117).*

Недаступны шырокаму чытачу і верш Ф. Савіча «Там блізка Пінска...» Доўгі час публікаваўся толькі ўрывак з яго, скамбінаваны такім чынам, каб падаць толькі антыпрыгонны, антыцарскі пафас верша Ф. Савіча ды заклік да яднання ў барацьбе беларусаў і ўкраінцаў. І толькі ў 1994 г. у выданні «Шляхам гадоў: Гісторыка-літаратурны зборнік» можна, нарэшце, пазнаёміцца поўнасцю з вершам Францішка Савіча. Становіцца зразумелым, чаму твор публікаваўся ва ўрыўках. Ён заключае яшчэ і пратэст супраць паняволення Беларусі Расіяй, аднаўляе старонкі гераічнага змагання супраць гэтага паняволення, акцэнтуе ўвагу на тым, што ў складзе Расійскай імперыі і ліцвінам, і валынцам, і пінчукам стала жыць значна горш. Развальваўся міф, складзены ідэалагізаванымі гісторыкамі, што адбылося аб'яднанне Беларусі з Расіяй, што гэта было дабром для беларусаў. Твор, напісаны сучаснікам, сцвярджае адваротнае, сцвярджае пераканальна.

Там блізко Піньска на широком полю,
Гдзе між лугамі плыве Струмень быстры,
Там сідзя Літвін расказываў сву долю,
З боку Валынец сідзеў заточысты,
Зперэду Пінчук веслом ся спірае
І на гутарку пільна ўважае.

Гдзе ж ся подзілы эты давны літы,
Шчо мы за власны грошы соль купляли,
Шчо бэз рашпорту ідэі хоць в край світа,
Шчо мы Москаля і в очу нэ зналы!

Гдзе кінеш — радасць музыкі іграюць,
Мёд, піва льется, дзевчата гуляют.
А тут шынкарка частуе прыгожа;
Тагды то Польшча свяцілася Божа!

Малы падаткі — грошы, як мякіны,
У хляве каровы, бычкі, свінні,
У каморэ поўна, хоць спі на своях,
У хаце чысценька, як в паньскіх пакоях.

Так было ў нас і між вамі!
А цяпер гдзе ж тые шчасце ся подзіло?

Гдзе глянеш — людзі брашчаць ланьцугамі,
Гдзе кінеш — слёзы, аж жыты не міло.
Бо з чэловіка высасают сілы —
А всё то цары Москалі зробілы.

Наш Матусевіч прынамся скрэпіўся
І на Москалях дужо атомсціўся.
Бо біў як собак — рэзаў як целята,
А мі дрыжалы со страху чэрцята.

А як цягнуў на дубіну,
То стоя на лану,
Пытаў: — «а шчо, вражы сыну,
Чы відзіш Ашмяну?!!
От тэпер то невіра побачуць,
Попамятае, шчо то Літва значыць!»

Валынец Хведар себе ж отозваўся:
«А наш Ружыцкі малая асоба.
Пэрэд нім Москаль і в хлеве ховаўся,
Дай там нездобрэў, бо выцяг з-пад жлоба.
І в лоб собацэ — а ідзі пся вяра
Там к чорту в Москву, до свойго цара.

Кахнуў Мікіта, веслом в землю стукнуў;
Чы ж толькі людзі ў вас ся находзят?
Ешчэ і між намі вільны дух не стухнуў.
Колысь то Пінчук, як стары поносят,
По новай сьвіце перэперазаўся,
С'ездзіў да Піньска — дай грошы набраўся,
На жонцэ ново да балхвісто плацце,
На дзевцэ крамна хустка повівае.

А тэпер, гдзе глянеш, само только лаце.
В дома в кешэні — нічога не мае,
Бо з чэловіка высасают сілы
А всё то цары Москалі зробілы.

А наш Пуслоўскі малу штуку справіў:
На Перэхрэсце як у Неўлю бавіў!
Ой, сыпаліся Москалі, як мухы,
А было мяса, як потарухы!
Альбо мужыкі з Тэлехан, з Галева,
Дай Олесевіч, поганец прακляты,
Каб ён сваім крэсцікам удавіўся!
Стаў нас Москальмі опровожаці
А ўжо Москаль добро стэрэпіўся.
Хоць всё прэпало — але він за зміну
Конечно колысь пойды на голыну!

Літвін, Волынец, подайце ж мі рукі,
Так — прысягаем на Господа Бога,
Царам на згубу — панам для наукі,
Шчо на той землі не повстане нога,
Ані эта поганьска, ані гэта тыраньска —
Хоць ся вкорэніт як сіла шатаньска.

А ты на небе всемогушчы Божэ,
Ты Пан над намі, Ты Пан справядлівы,
Нехай нас бедных Тво ласка вспоможэ,
А кто не шчыры, кто несправедлівы,
Нехай пропадзе з родам і з насеннем,
Нехай чорт срэжэ з чадом, паколеннем».

Сказав, все тры поцэловались,
і по чарцэ выпілы гарэлкі,
І по калачу взялы з тарэлкі.
І доўга собе міловалысь.
А слонцэ свіціт, і вітэр не гудэ,
Бо ся здзівылы — шчо то вільны людэ!

Адразу зазначым, што верш Францішка Савіча «Там блізка Пінска...» належыць да традыцыйных для гэтага часу развіцця беларускай літаратуры гутарак. Яе вядуць прадстаўнікі народаў, якія ўваходзілі ў Вялікае княства Літоўскае: ліцвін (беларус), украінец і зямляк паэта, пінчук. Гутарка вядзецца на радзіме апошняга, на радзіме паэта. Удзельнікаў хвалюе лёс Айчыны. Паказальна, што Савіч называе яе то Польшчай, то Літвой. Супярэчнасці тут няма: Літва і Польшча ў значэнні Рэч Паспалітая былі радзімай для беларусаў і ўкраінцаў-валынцаў. Першая — больш старажытная дзяржава, куды ўваходзілі і валынцы, і пінчукі, і ашмянцы, другая — нядаўняя дзяржава, якой пазбавілі іх у выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай. Увесь твор пранізаны патрыятычным пафасам, пратэстам супраць паняволення радзімы маскалямі, услаўленнем тых, хто не змірыўся, хто са зброяй у руках бараніў гонар і годнасць народа: Матусевіч, Ружынскі, Пуслоўскі, Свежынскі, сяляне з Целяхан і Галева. Паказальна, што кожны з удзельнікаў гутаркі называе сваіх герояў-землякоў, услаўляе іх мужнасць, свабодалюбства, патрыятызм. Пагарда нашага земляка скіравана да здрадніка Алясевіча. Яму пінчук шле праклёны. Наш зямляк перакананы, што за здраду той Алясевіч будзе пакараны.

Ацэнка жыцця за маскалём ва ўдзельнікаў гутаркі аднолькавая: яно дрэннае і не можа зраўняцца з тым, калі была свая дзяржава: беднасць, безграшоўе, panыласць настрою, адсутнасць святочнага прыўзнятага жыцця. Героі верша перакананыя, што трываць прыгнёт нельга, трэба яднацца для барацьбы. У сваіх намерах яны шу-

каюць падтрымкі ў Бога. Асноўным мастацкім прыёмам, якім карыстаецца Францішак Савіч у вершы «Там блізка Пінска...», з'яўляецца супрацьпастаўленне. У мінулым, калі была дзяржаўнасць, жылося заможна і радасна, а пры маскалях — дрэнна і даводзіцца думаць, дзе ж тое шчасце падзелася. Каб чытач вастрэй адчуў, што страчана народамі Вялікага княства Літоўскага, Ф. Савіч звяртаецца і да такога прыёму, як ідэалізацыя і гіпербалізацыя. Вось як было некалі:

Гдзе кінеш — радасць, музыкі іграюць,
Мёд, піва льется, дзеўчата гуляют...
Малы падаткі — грошы, як мякіны,
У хляве каровы, бычкі, свінні,
У каморэ поўна, хоць спі на своях,
У хаце чысценька, як в паньскіх пакоях.

Мова кожнага з трох суразмоўнікаў экспрэсіўна-эмацыянальная, што дасягаецца рытарычнымі пытаннямі, воклічам, ацэначнымі параўнаннямі, заклікамі. Размова трох суседзяў: ліцвіна, валынца і пінчука — мае аўтарскае абрамленне. У пачатку верша аўтар уводзіць чытача ў мастацкі свет, знаёміць з часам і з героямі суразмовы. У канцы — сцвярджае, што ліцвін і валынец падтрымалі заклік пінчука яднацца для барацьбы супраць цара і паноў. Прырода і тая ўсцешылася вынікам гутаркі герояў, прыціхла, здзівілася, «шчо то вольны людэ!».

Верш «Там блізка Пінска...» напісаны на беларускай мове з выкарыстаннем палеска-пінскага дыялекта. З аднаго боку, для мовы верша характэрны такія вызначальныя асаблівасці беларускай мовы, як дзеканне і цеканне, наяўнасць «ў» і інш., аднак не заўсёды яны вытрымліваюцца. Вельмі шмат у вершы і асаблівасцей палескага дыялекта Піншчыны. Сёння мы не можам катэгарычна сцвярджаць, што такім верш «Там блізка Пінска...» выйшаў з-пад пяра паэта. Сцяпан Александровіч адзначае, што верш Францішка Савіча «Там блізка Пінска...» «дайшоў да нас у непісьменных копіях сярод іншых следчых матэрыялаў, а ў друк трапіў значна пазней» *(Тамсама, с.171)*. Цяжка сказаць, як яго перапісалі царскія чыноўнікі, якія беларускай мовы не ведалі і ўсіх імкнуліся пераканаць, што яе проста няма. Разам з тым, нельга не ўлічваць таго, што палескі дыялект мог Ф. Савіч выкарыстаць для індывідуалізацыі герояў — найперш валынца і пінчука. У тым варыянце, які дайшоў да нас, шырока выкарыстоўваецца палескі дыялект у мове ліцвіна. Не пазбаўлена гэтага і мова аўтара ў яго абрамленні да гутаркі трох суседзяў.

Такім чынам, наш зямляк Францішак Савіч — цікавая, шматгранная, духоўна багатая асоба. Гэта ўсведамляем мы з тых ску-

пых звестак, якія дайшлі да нас. Высока цанілі нашага земляка і яго сучаснікі. Адзін з былых сяброў пісаў выгнаннікам на Каўказ: «Вашы імёны не забыты, яны належаць ужо гісторыі і заўсёды будуць свяціць, як ясныя, светлыя зоркі... Слава вам, мае браты! Няшчасныя людзі, вялікія людзі, цалую Вас!» *(А .С. Яскевич. Становление белорусской художественной литературы. Мн., 1987. С.46).* Хай клопат, якім жыў Францішак Савіч, думкі якія яго хвалявалі, клічуць і нас на роздум пра час і пра сябе. А пакуль што прыемна адзначыць, што іменем Францішка Савіча названа адна з вуліц у Пінску.

***Кастусь Каліноўскі*** (1838—1864 ) пакінуў значны след у розных відах чалавечай дзейнасці, хоць пятля душыцеляў паўстання 1863—1864 гг. была зацягнута на маладой шыі, калі яму было ўсяго 26 год. У разнастайнай дзейнасці Кастуся Каліноўскага літаратурнай належыць сціплае месца. Яго паэтычнаму таленту не было калі разгарнуцца. У такім узросце многія толькі пачынаюць, а ён завяршыў.

Кастусь Каліноўскі — гордасць беларусаў, нацыянальны наш герой, які аддаў свайму народу ўсё, чым надзялілі яго Бог і прырода. Стоячы на эшафоце, ён думаў пра сваю Бацькаўшчыну. Каб хутчэй закончыць камедыю, якую разыгрывалі ўлады, каб у душыцеляў паўстання не было надзеі, што ён здрадзіць, Каліноўскі прыспешыў развязку — напісаў зварот, што такія спадзяванні марныя. А на волю слаў лісты і вершы, якія цяпер вядомыя, як «Лісты з-пад шыбеніцы». Са зваротам да свайго народа, з праграмай на будучыню пакідаў гэты свет кіраўнік паўстання: «Я табе з-пад шыбеніцы кажу, народзе, што тады толькі зажывеш шчасна, калі над табой маскаля ўжо не будзе!» Тое ж у апошніх радках верша-развітання:

Бывай здаровы, мужыцкі народзе,
Жыві ў шчасці, жыві ў свабодзе
І часам спамяні пра Яську свайго,
Што загінуў за праўду для дабра твайго.

Кастусь Каліноўскі пасля заканчэння універсітэта вярнуўся на радзіму. У Гародні, хоць меў і выдатны дыплом, знайсці працу не ўдалося, і малады юрыст цалкам аддаецца рэвалюцыйнай дзейнасці, якой займаўся ў час навучання ў Пецярбургскім універсітэце: стварае на ўсёй Гродзенскай губерні (Берасцейшчына ўваходзіла ў яе склад) рэвалюцыйныя арганізацыі, выдае і распаўсюджвае «Мужыцкую праўду», якую рыхтавалі калектыўна, але найбольшая роля належала яму, Каліноўскаму.

Калі ўспыхнула ў Польшчы паўстанне, вырашана было яго падтрымаць на тэрыторыі Літвы і Беларусі. Як старшыня Літоўскага

правінцыйнага камітэта, Кастусь Каліноўскі і стаў на чале Часовага Рэвалюцыйнага ўрада Літвы і Беларусі, усё рабіў для таго, каб шляхецкае паўстаннеператварыць ва ўсенароднае. Ён здзейсніў шэраг захадаў, каб выступленне падтрымалі сяляне. Была распрацавана Кастусём Каліноўскім «Паўстанцкая інструкцыя». У адпаведнасці з ёю сяляне нароўні з іншымі саслоўямі абвяшчаліся вольнымі, земляробы бясплатна атрымоўвалі тыя памешчыцкія і дзяржаўныя землі, якія абраблялі, а беззямельныя за ўдзел у паўстанні надзяляліся трыма моргамі зямлі (морг = 0,71 га). Гэтую інструкцыю большасць шляхты ігнаравала. Кастусь Каліноўскі пільна сачыў, каб яна даводзілася да ведама сялянаў і не дзе-небудзь, а ў цэрквах і касцёлах і каб там сяляне пад прысягай запісваліся ў паўстанцкія атрады.

Кастусь Каліноўскі дабіваўся, каб паўстанцкія атрады былі гатовыя да вайны з прафесійнымі, добра ўзброенымі войскамі. Гэта прывяло кіраўніка паўстання 1863—1864 гг. на Берасцейшчыну. Найбольш вядомы яго прыезд у Мілавідскую пушчу Баранавіцкага раёна, дзе на той час згрупавалася некалькі атрадаў і якімі камандаваў палкоўнік Аляксандр Лінкевіч. Вечарам 1 чэрвеня 1863 года сюды з інспекцыяй прыехаў Кастусь Каліноўскі. Яго цікавілі не толькі ўзбраенне, харчовае забеспячэнне, вайсковая падрыхтоўка, але і тое, як ідэі Часовага Рэвалюцыйнага ўрада Літвы і Беларусі даводзяцца сялянам, як апошнімі папаўняюцца паўстанцкія атрады.

Паўстанцы пад Мілавідамі атрымалі перамогу над царскімі войскамі. У той бітве палегла шмат воінаў з аднаго і другога бакоў. Удзячныя нашчадкі ў 1933 годзе ўзвялі два помнікі па абодва бакі дарогі. Адзін — паўстанцам, другі — салдатам царскай арміі. Першы — гэта капліца. Чатыры высокія белыя калоны трымаюць купал з крыжам. У гэтым помніку пераважаюць белыя фарбы. Помнік палеглым карнікам — чорны крыж з распяццем на бетоннай пліце. Першы помнік імкне ўвысь, да нябёсаў, другі нізкі, прыземлены. У пасляваенныя гады каплічка была занядбана, крыж звалены. Да 130-годдзя з дня паўстання абодва помнікі былі адноўлены. У гэты самы час з'явіўся і яшчэ адзін помнік — вялікі валун, на якім на мурмуровай пліце словы: «За вольнасць вашу і нашу. Бітва пад Мілавідамі. 22 мая (3 чэрвеня) 1863 года. Кіраўнік паўстання — беларускі рэвалюцыянер-дэмакрат Кастусь Каліноўскі».

У друку з'яўляліся матэрыялы, што Кастусь Каліноўскі прыязджаў у вёскі Дабромысль і Любішчыцы Івацэвіцкага раёна, у в. Гарбачы, дзе размяшчаўся паўстанцкі атрад Пружаншчыны. Дакументальных пацверджанняў, што Кастусь Каліноўскі там быў, няма. Разам з тым ёсць звесткі, што кіраўнік паўстання быў

з інспекцыяй у Берасцейскім паўстанцкім атрадзе, раскватараваным за Бугам.

На сёння дакладна вядома і знаходжанне Кастуся Каліноўскага ў Брэсце. Апалон Гофмейстар, удзельнік нацыянальна-вызваленчай барацьбы, шляхціц в. Шастакова Камянецкага раёна, на следстве паказаў, што, калі пачалося паўстанне 1863 года, ён з свайго маёнтка прыехаў у Брэст. У сакавіку ў адной з корчмаў г. Брэста да яго падышоў Кастусь Каліноўскі і прапанаваў увайсці ў кіраўніцтва паўстаннем. Праз дзень ён з'явіўся на кватэру да Гофмейстара і загадаў ехаць у Беласток. Гофмейстар прыгадвае таксама, што яшчэ раз сустракаўся з Кастусём Каліноўскім у нашым горадзе, калі той ездзіў з Брэста ў Кобрын (*Показания А. Гофмейстера в Гродненской следственной комиссии о встречах с Кастусем Калиновским в Белостоке и Бресте) // Кастусь Калиновский: Из печатного и рукописного наследия. Мн., 1988. С.146—147)*.

Ёсць яшчэ адна мясціна на Берасцейшчыне, дзе бываў Кастусь Каліноўскі. Гэта вёска Відамля Камянецкага раёна. Тут жыла стрыечная сястра кіраўніка паўстання. Многія даследчыкі згадваюць сам факт наведвання Каліноўскім сястры, аднак ніхто не гаворыць, што яднала выдатнага сына нашага народа з гэтай жанчынай: ці былі то толькі крэўныя сувязі, ці двух сваякоў вабілі адно да аднаго яшчэ і духоўныя інтарэсы.

Такім чынам, на сёння ўстаноўлена, што з імем Кастуся Каліноўскага звязаны наступныя мясціны на Берасцейшчыне: Мілавіды, Кобрын, Брэст, Відамля. Шлях у гэтыя мясціны пралягаў вядомымі трактамі, што прарэзалі ўсю Берасцейшчыну. Сустракаючыся з брэсцкім паўстанцкім атрадам за Бугам, Кастусь Каліноўскі зноў быў тут. Дзе ён перасёк Буг, сёння невядома.

Кастусь Каліноўскі часта сам распаўсюджваў «Мужыцкую праўду». Дзе ж на Берасцейшчыне чыталі першую нелегальную беларускую газету, адрасаваную сялянам? Упершыню асобныя нумары «Мужыцкай праўды» царскія сатрапы знайшлі ў Брэсце і яго ваколіцах. 10 ліпеня 1862 года «Мужыцкая праўда» была знойдзена ў в. Бярозаўка (цяпер раён г. Брэста). У гэты дзень у рукі ўладаў трапілі асобныя нумары газеты ў вёсках Ясенеўка, Падлужжа, Радовічы. Праз некаторы час знайшлі газету на прыступках касцёла ў г. Брэсце. У канцы 1863 года газета была знойдзена ў ваколіцах в. Такары Камянецкага раёна. Праз нейкі час у гэтай вёсцы дзеці знайшлі ажно восем экземпляраў сёмага нумара газеты. Асабліва шмат газет і іншых паўстанцкіх матэрыялаў распаўсюджвалася на Берасцейшчыне, калі пачалося паўстанне. Газету знаходзілі і ў мястэчку Моталь, і ў самім Янаве Іванаўскага раёна. Асабліва шмат газет і «Інструкцыі» было распаўсюджана на Пружаншчыне ў вёс-

ках Івашычы, Лышчыкі, Стаўкі. Чыталі «Мужыцкую праўду» і ў вёсцы Сакі Кобрынскага павета. Пазнаёміліся з «Мужыцкай праўдай» у вёсках Азярына і Заполле Баранавіцкага раёна.

Сяляне, як сведчаць архіўныя матэрыялы, якія прыводзіць Г. Кісялёў у артыкуле «Сейце, дзецюкі» *(Генадзь Кісялёў «З думай пра Беларусь». Мн., 1966. С. 5—67)*, з цікавасцю чыталі нумары «Мужыцкай праўды», былі салідарныя з думкамі, якія там выказваліся. Перашкаджала ім пачуць ідэі Кастуся Каліноўскага іх непісьменнасць. Не ўсе знойдзеныя імі нумары чыталіся. Святары часта хавалі ад вяскоўцаў іх змест. Як вядома, частка ўдзельнікаў паўстання не падтрымлівала ідэю Кастуся Каліноўскага пра ўключэнне сялянаў у барацьбу, папярэдне вырашыўшы зямельнае пытанне. Нярэдкімі былі выпадкі, калі шляхціцы, удзельнікі паўстання, хавалі ад сялянаў газету «Мужыцкая праўда». Тым не менш многія берасцейцы яе ведалі.

Навукоўцаў цікавіць пытанне, дзе друкавалася «Мужыцкая праўда». Большасць схіляецца, што гэта было на Гарадзеншчыне ў раёне Бераставіцы, дзе працаваў Валеры Урублеўскі. Разам з тым выказвалася думка, што магла яна друкавацца і ў Белавежскай пушчы. Прымем гэтае меркаванне ўсяго як навуковую гіпотэзу, а верагодней за легенду, бо сцверджанне пакуль што нічым не аргументуецца, хіба толькі тым, што на Берасцейшчыне былі выяўлены першыя нумары газеты і што тут іх было значна больш за іншыя мясціны.

***Вінцук Дунін-Марцінкевіч*** (1807—1884)**.** Як вядома, камедыя «Пінская шляхта» беларускім дударом была напісана на палескім дыялекце ў 1866 годзе. У 1916 годзе Язэп Лёсік пераклаў яе на беларускую мову і апублікаваў у «Вольнай Беларусі». Чаму Дунін-Марцінкевіч напісаў сваю п’есу на палескім дыялекце, хоць сам не з’яўляецца палешуком? На гэтае пытанне навукоўцы адказваюць па-рознаму. Большасць прытрымліваецца версіі, што ў сувязі з тым, што пасля паражэння паўстання 1863—1864 гг. выкарыстанне пісьмовай беларускай мовы было забаронена і той, хто не выконваў загаду, сурова караўся, таму і Дунін-Марцінкевіч напісаў твор па-палеску. Апошнім часам выказваецца і яшчэ адна версія. У XIX стагоддзі ішло станаўленне новай літаратурнай мовы, палескі дыялект быў адным з напрамкаў у гэтых пошуках. Апошняя думка патрабуе глыбокай навуковай аргументацыі, бо палескі дыялект ахоплівае нязначную тэрыторыю ў параўнанні з усёй Беларуссю. Разам з тым гэты дыялект выразна адрозніваецца, асабліва ў фанетычных адносінах, ад беларускай мовы, характэрнай для большасці этнічнай тэрыторыі. Ды і якая патрэба для В. Дуніна-Марцінкевіча была ў гэтых пошуках, калі ён напісаў шэраг твораў па-беларуску, якія гучалі гожа і натуральна.

Другое пытанне, якое міжвольна ўзнікае, адкуль Дунін-Марцінкевіч ведаў палескі дыялект у такой меры, каб на ім пісаць творы? Пакуль што на гэтае пытанне дакладнага адказу няма. Праўда, Уладзімір Ліпскі ў кнізе «Праўдзівы аповед пра твой і мой радавод» *(Мн., 1998)* пераканальна даказаў, што Дунін-Марцінкевіч бываў на Століншчыне. Пра гэта сведчаць творы пісьменніка. Пад вершам «Вясна», у якім паэтызуецца гэтая пара года, стаіць аўтарская паметка: «Ольпень, мая 12 дня 1849 года». Наступным днём напісаны верш «Прыпяць» з паметкай «На водах Прыпяці».

«Пінская шляхта» таксама выразна арыентуе чытача на Ольпень, што на Століншчыне. Па-першае, у рэмарцы да месца дзеяння значыцца: «Рэч адбываецца ў ваколіцах О... паміж балотаў, у глушы Пінскага павета. Сцэна паказвае шляхецкую ваколіцу...». Заўважым, што мясцовыя жыхары сваё паселішча называюць менавіта Ольпень, а не Альпень. Уладзімір Ліпскі сабраў цікавы і багаты матэрыял, які сведчыць, што і цяпер у Ольпені і яго ваколіцах жывуць людзі, якія былі шляхціцамі і маюць тыя ж прозвішчы, што і героі «Пінскай шляхты», — Цюхай-Ліпскі, Альпенскі, Пратасавіцкі. Усё гэта пераканальна сведчыць, што Вінцук Дунін-Марцінкевіч быў у Ольпені і што творчая гісторыя «Пінскай шляхты» звязана з Берасцейшчынай. Гэта, аднак, не з’яўляецца дастатковым аргументам для таго, каб за час наведання Ольпеня так вывучыць мясцовую мову, каб на ёй можна было напісаць твор. Думаецца, што на сёння гэтае пытанне застаецца адкрытым. Патрэбны новыя пошукі. Нам жа трэба толькі падзякаваць Уладзіміру Ліпскаму, які разгадаў адну загадку, якіх яшчэ шмат у гісторыі беларускай літаратуры XIX ст.

Ёсць усе падставы меркаваць, што цікавасць да Ольпеня ў Дуніна-Марцінкевіча выклікала адна трагічна-камічная гісторыя, якая ўзнікла ў гэтым шляхетным засценку ў пачатку XIX ст. Праваслаўны Іосіф Цюхай-Ліпскі закахаўся ў дзяўчыну-каталічку і, каб іх павянчалі, прыняў каталіцтва, даў распіску, што дзеці будуць праваслаўнымі. Тут трэба мець на ўвазе, што праваслаўная царква была дзяржаўнай. Ёй адводзілася вялікая роля ў русіфікацыі Беларусі. Пасля забароны уніяцтва (1839) каталіцтва ўспрымалася як апазіцыйная да ўладаў вера. Заўважым, што вельмі многа уніятаў, не жадаючы пераходзіць у праваслаўе, сталі каталікамі. Праваслаўная царква, царскі ўрад усё рабілі, каб праваслаўных большала, а не меншала. У Іосіфа Цюхая-Ліпскага было чацвёра дзяцей. Усе яны былі ахрышчаны ў касцёле.

Сенат спецыяльным указам ад імені яго імператарскай вялікасці запатрабаваў вярнуць дзяцей Цюхая-Ліпскага ў праваслаўе, а ксяндзоў, якія хрысцілі ў касцёле гэтых дзяцей, прыцягнуць да

адказнасці. Аднак зрабіць першае аказалася не так проста: нашы землякі не хацелі цурацца веры, у якой іх хрысцілі і якая належала іх маці. Пачалася зацятая барацьба за права свабоды сумлення. З аднаго боку, улады і нават цар, з другога, — непісьменныя шляхціцы з ваколіц Ольпеня на Століншчыне. Напачатку 1839 г. дзеці Цюхая-Ліпскага: Караліна, Кацярына, Вікенцій былі дастаўлены пад канвоем у Мінск. На той час старэйшай дачцэ Караліне было ўжо трыццаць гадоў. Яна была замужам за каталіком Васілём Патоцкім. Старэйшаму яе сыну было дванаццаць гадоў. Далей ішлі малодшыя. Чакалася і шостае дзіця. Патоцкія ўсе сямейныя рытуалы спраўлялі ў касцёле.

Мінскім чыноўнікам, аднак, «угаварыць» дзяцей Цюхая-Ліпскага перайсці ў праваслаўную веру не ўдалося. Уладзімір Ліпскі дапускае думку, што іх падтрымліваў біскуп Мінскай каталіцкай кансісторыі Мацвей Ліпскі, апякун Дуніна-Марцінкевіча, дзе апошні на той час служыў. Таксама мог падтрымліваць Цюхаёў-Ліпскіх з Ольпеня і сам Дунін-Марцінкевіч. «Вось і адбылася сустрэча пісьменніка, — піша У. Ліпскі, — з будучымі героямі «Пінскай шляхты». Іх трагедыя, душэўная і маральная, да якой падштурхнулі царскія сатрапы, глыбока асела ў чуллівым сэрцы мастака. Праз дзесяць гадоў ён збярэцца і паедзе на Піншчыну, пабывае ў ваколіцах Ольпеня, у Мазыры, праплыве па чароўнай Прыпяці. А ў зеніце актыўнай і плённай творчасці напіша сваю «лебядзіную п’есу». *(С. 93).*

Барацьба за дзяцей і ўнукаў Цюхая-Ліпскага вялася некалькі дзесяцігоддзяў. Двух малодшых удалося зламаць, а Караліну — не. Караліна памерла каталічкай ад халеры. За дзецьмі і ўнукамі Цюхая-Ліпскага даручылі сачыць мясцоваму святару. Знешне дзеці Караліны як бы сталі праваслаўнымі, ды калі прыйшла пара жаніцца, узялі шлюб у касцёле. Пра гэта тут жа было дакладзена наверх. Тады ўлады палічылі правамерным скасаваць шлюб, разлучыць маладых людзей з жонкамі і аддаць іх пад суд. Тром сынам Караліны прысудзілі адзін год і тры месяцы, дачцэ — адзін год турэмнага зняволення. У гэтай доўгай і зацятай барацьбе, якую вялі два пакаленні Цюхаяў-Ліпскіх-Патоцкіх, усё ж такі дзяцей Караліны ўдалося зламаць: у 1867 годзе яны далі падпіску аб прыняцці праваслаўя, іх павянчалі ў праваслаўнай царкве. Тым не менш той самы мясцовы праваслаўны святар, якому даручалася сачыць за сям’ёй Цюхаяў-Ліпскіх-Патоцкіх не спыніўся на гэтым. Зноў паляцеў данос на верх да ўладаў, што праўнукі Іосіфа Цюхая-Ліпскага прытрымліваюцца каталіцкага абраду.

Тут нельга не пагадзіцца з Уладзімірам Ліпскім, што ў гісторыі, якая адбывалася з нашымі землякамі ў мінулым стагоддзі, і тым, што дзеецца ў п’есе «Пінская шляхта», ёсць выразная пера-

клічка. Валтузня вакол Ліпскіх-Патоцкіх падагравалася, з аднаго боку, мясцовымі праваслаўнымі святарамі, з другога — обер-пракурорам Сінода Пратасавым. Дарэчы будзе заўважыць, што Уладзімір Ліпскі слушна лічыць, што не толькі знешняе падабенства ў гучанні прозвішчаў Пратасаў-Пратасавіцкі ёсць у гэтага дзеяча і героя з «Пінскай шляхты» Цімоха Пратасавіцкага, але і ўнутранае, бо менавіта ён, а не Цюхай-Ліпскі быў зачыншчыкам бойкі і невыпадкова прызнаны «ўгалоўным злачынцам» і пакараны лазой без дывана. Разам з тым многае яднае Пратасава і Кручкова: імкненне рознымі ўказамі запалохаць шляхту, прымусіць яе скарыцца, адмовіцца ад веры, выбранай бацькамі і імі самімі, а ў творы — страх перад уладамі, беспакаранасць, магчымасць абдзіраць.

Уладзіўшы справу Цюхая-Ліпскага і Пратасавіцкага, Кручкоў тут жа стварае новы канфлікт. Ён ціхенька шапнуў Альпенскаму: «Ведаеш, што на цябе казаў Статкевіч? Ён казаў, што ты не шляхціц». Альпенскі хоча распачаць бойку, але Кручкоў таго стрымлівае, а сам пад'южвае ўжо Статкевіча, паведаміўшы яму, што ўжо той аблаяў яго мужыком. Калі шляхта пачала біцца, то Кручкоў не спяшаецца іх уціхамірыць, а раіць падаваць у суд. Ён прыедзе на разборкі.

У п'есе «Пінская шляхта» ёсць іншыя палескія рэаліі. У якасці хабару Кручкову Грышка і яго бацька нясуць сушаныя баравікі, мёд, рыбу і ўюны. Вельмі часта пейзажны архітып Палесся выкарыстоўвае ў сваёй гаворцы Куторга. Прывядзём некаторыя прыклады: «Каб сарваць такую багатую і прыгожую кветачку, не шкода і ў балоце пакачацца», «Я задам яму (Кручкову — **В. Л.**) пары, што ён не згадае, дзе ўюны зімуюць». Галоўнае ж, аднак, у выяўленні палескага каларыту, заключаецца ў мове. Справа ў тым, што п'еса «Пінская шляхта» напісана на дзвюх мовах: расейскай і палескім дыялекце. Паказальная, што ўсе рэмаркі аўтара напісаны па-руску, героі ж гавораць на палескім дыялекце. Чаму аўтарскія рэмаркі былі напісаны па-руску, зразумела: беларуская мова была забаронена, і яе выкарыстанне сурова каралася. Палескі дыялект у п'есе выступае, з аднаго боку, як сродак характарыстыкі герояў, іх індывідуалізацыі. У гэтым плане асабліва паказальная мова царскіх судовых чыноўнікаў. У размовах са шляхтаю яны імкнуцца карыстацца палескім дыялектам. Калі ж гэта думкі ўголас, сам-насам, то пераходзяць на расейскую мову. Праілюструем на прыкладзе: «П и с у л ь к и н (в сторону, посматривая на бумажку). Хорошо быть письмоводителем у разумного человека. Малеваные гостики (указывая бумажку) сами в карман лезут, не надо и рук вытягивать. (К Тихону). Нэ вэдаю, що зробыты? Вюн сам боитса, щоб, зробывшы вам поблажку, пэрэд судом нэ отвэчат. Да попробуйтэ. (Тут подходят и протчие и слушают его совета). Сложытэ ему добры гостынчик, а вось полакомытца? Поговорыте

с собою и сложытэ, а я, тым часом, попробую ўгомоныт его. (Подходит к Кручкову и шепчет, тот злостно отвечает) *(Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч. Творы. Мн., 1984. С. 495).*

Кручкоў, калі сыпле ўказамі, запалохваючы шляхту, выкарыстоўвае то палескі дыялект, то рускую мову. Паказальна, што, добра ўлічваючы псіхалогію шляхты, Кручкоў спасылаецца нават на знакаміты Статут Вялікага княства Літоўскага, выкарыстоўваць які было на той час ужо забаронена на тэрыторыі Беларусі: «К р у ч к о в. Сдуру хош крыво прысягнуць? А знаеш чим это пахнэ..? По указу всэмилостывэйшего царя Петра Вэлыкого 1779 года августа 10-го и по Стату Литоўскому, раздэла 3-го, параграфа 375-го гето уголовное преступлэнье, Сыбыром пахнэт. Сыбыр, Сыбыр, голубчик!» *(С. 492).* Як бачым, мова царскіх чыноўнікаў — гэта звычайная трасянка, дзе змешаны палескія, рускія, а часам гучаць і асобныя словы па-беларуску. У канкрэтным выпадку слова Літоўскаму з «ў».

Шляхта гаворыць толькі на палескім дыялекце. Мова кожнага індывідуалізавана. Гэты факт, з другога боку, як бы аддзяляе шляхту ад чыноўнікаў. Як ні стараюцца падладжвацца царскія чыноўнікі да мясцовых жыхароў, яны тут чужыя, пра што выразна сведчыць іх мова.

Калі зыходзіць з разважанняў У. Ліпскага, то В. Дунін-Марцінкевіч уклаў у вусны сваіх герояў дыялект Ольпеня і яго ваколіц. Зроблены студэнткай Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта запіс дыялекта в. Рубель, што ў некалькіх кіламетрах ад Ольпені, не пацвярджае гэтага: «Дерэўня Рубэль. Колісь на месці нашой дерэўні рос вэлікі, цёмны лес. Багаты быў гэты край, і земля ўродліва, ўсяго там хватало. І прышлы людзі з суседніх дерэвэнь, і рэшылі, што пусцяць одну з повозок на ўсе чатыры стороны, а дзе остановіцца вона, там і дерэўні новой быць. Гэтак і место цэркві выбіралі. Немало сілы пойшло на тэ, шчоб очысціць место для новой дерэўні. Секлі лес, а найбольш ёлак тут было. Одсюль і пойшла назва дерэўні — Рубель, — «рубі ель».

## Рускія пісьменнікі першай паловы XIX стагоддзя

У выніку трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай Берасцейшчына ўвайшла ў склад Расійскай імперыі. У 1812 г. Напалеон перайшоў Нёман. На тэрыторыі краю зноў пачаліся ваенныя дзеянні. Менавіта падзеі вайны з Напалеонам прывялі на Берасцейшчыну многіх рускіх пісьменнікаў.

Як толькі пачалася вайна з французамі, ***А. С. Грыбаедаў*** *(1795—1829)* добраахвотна ўступае ў апалчэнне. Патрыёт і грамадзянін, ён лічыў ганебным не ўдзельнічаць у абароне радзімы. Пазней у прашэнні аб адстаўцы ён пісаў: «Я быў гатовы да іспытаў, каб паступіць у чын доктара, як было атрымана паведамленне пра ўварванне ворага ў межы Айчыны нашай. Я вырашыў тады пакінуць усе заняткі мае і паступіў на вайсковую службу» *(Александр Сергеевич Грибоедов. Мн., 1994, С. 18).* Здарылася так, што трапіць на фронт пісьменніку не ўдалося. Толькі ў 1813 г. яго прызначаюць у Іркуцкі драгунскі добра патрапаны ў баях полк, раскватараваны ў Кобрыне.

У лютым 1813 г. на захадзе Расійскай імперыі была створана рэзервовая армія, якая рыхтавала войскі для пяхоты, артылерыі і кавалерыі. Штаб кавалерыйскіх рэзерваў знаходзіўся ў Брэсце. Ім камандаваў генерал А. С. Калагрываў. Іркуцкі драгунскі полк увайшоў у склад кавалерыйскіх рэзерваў. У маі 1813 г. А. С. Грыбаедаў прыбыў у Кобрын. Пачаліся звычайныя вайсковыя вучэнні.

Маці пісьменніка, якая была супраць таго, каб сын ішоў у апалчэнне, праз уплывовых сваякоў дамаглася таго, што праз месяц А. С. Грыбаедаў быў пераведзены з Кобрына ў Брэст. На першым часе і тут пісьменнік быў звычайным карнетам, рабіў тое, што рабілі ўсе вайскоўцы. Вольны час трацілі ў п’янках, картах. Гэтым тлумачацца горкія словы, сказаныя Сцяпану Бегічаву: «Брат твой — Іркуцкі палкоўнік, павіншуй яго ад мяне, калі ўбачыш. Няўжо ён з’явіцца ў полк? Зрабі ласку, адгавары яго ад гэтага. У яго, здаецца, перад вачыма мой прыклад. Я ў гэтай дружыне пабыў усяго чатыры месяцы, а цяпер чацвёрты год, як не магу трапіць на шлях правільны» *(Грибоедов А. С. Собрание сочинений в двух томах. Т. 2. С. 181).*

Затым пісьменнік быў пераведзены ў штаб генерала Калагрывава. Доўгі час лічылася, што ён служыў ад’ютантам генерала. Пра гэта сведчыў і сам А. С. Грыбаедаў, і Калагрываў. Як пераканальна даказала С. В. Свердліна, на гэтай пасадзе аўтар «Гора ад розуму» не быў, а з′яўляўся асабістым сакратаром Калагрывава, хоць і сакратарскіх абавязкаў Грыбаедаў не выконваў. С. В. Свердліна лічыць, што такую пасаду прыдумаў для пісьменніка С. М Бегічаў, які быў родным пляменнікам і ад’ютантам генерала. Пасада асабістага сакратара пры Калагрываве «вызваляла Грыбаедава ад службы ў страі, якая таго не задавальняла, а неакрэсленасць фармуліроўкі — «для вытворчасці пісьмовых спраў» — давала яму магчымасць заняцца літаратурнымі справамі *(С. В. Свердлина. В военные годы // А. С. Грибоедов: Материалы к биографии. Л., 1989. С. 66).* Гэта, аднак, зусім не значыць, што Грыбаедаў быў



*Брэст. Вакзал. (Пачатак ХХ ст.)*

вольны ад службовых заняткаў. Яму даводзілася суправаджаць Калагрывава ў тыя мясціны, дзе былі раскватараваны кавалерыйскія рэзервы. Таму выказваецца меркаванне, што Грыбаедаў мог наведваць Пінск, Наваградак, Слуцк, Гародню і інш. гарады.

Брэст у творчай біяграфіі паэта адыграў выключную ролю. Менавіта адсюль пачалася яго літаратурная творчасць. У 1814 г. у часопісе «Веснік Еўропы» з’явіліся дзве публікацыі А. С. Грыбаедава «Пісьмо з Брэст-Літоўска» і «Пра кавалерыйскія рэзервы». Гэтаму спрыяў шэраг акалічнасцей. Найперш асяроддзе, у якое трапіў пісьменнік. Сам генерал Калагрываў належаў да лепшай часткі рускага афіцэрства. Баявы генерал любіў літаратуру. У Брэсце пісьменнік знайшоў для сябе адданага, надзейнага сябра. Сцяпан Бегічаў палюбіў Грыбаедава. Старэйшы за апошняга на дзевяць гадоў, ад’ютант Калагрывава апекаваўся пісьменнікам. Будучы цудоўным суразмоўцам, Бегічаў паляпшаў жыццё Грыбаедава ў захалусным горадзе. Невыпадкова значна пазней драматург прыгадваў: «А Брэст! Літоўскі! Мусіць няма горшага мястэчка на першы погляд. Аднак і там нам жылося!» *(А. С. Грибоедов. Собрание сочинений в двух томах. Т. 2. С. 249).*

Сцяпан Бегічаў адчуваў у пісьменніку літаратурны талент і схіляў яго да творчасці. Вядома, што А. С. Грыбаедаў пачаў пісаць яшчэ ў студэнцкія гады, аднак да сваёй творчасці ставіўся абыякава, і напісанае ім загінула. Сучасныя даследчыкі схіляюцца да дум-

кі, што не без уплыву і нават пры настойлівасці Сцяпана Бегічава з'явіліся публікацыі А. С. Грыбаедава ў «Весніку Еўропы». Напэўна, дзякуючы сяброўству са Сцяпанам Бегічавым Грыбаедаву даваліся так званыя гусарскія забавы і не толькі яны, калі будучы знакамітым драматург заехаў на кані на баль ці ігра «Камарынскага» ў касцёле ў час службы.

Пры штабе генерала Калагрывава стварылася адпаведнае літаратурнае асяроддзе. Тут служыў ***Дзмітрый Бегічаў,*** які захапляўся літаратурай. Гэта быў чалавек разнастайных зацікаўленняў: філасофія, тэатр, скульптура, асвета, літаратура — адным словам, культура ў шырокім значэнні гэтага слова. Да літаратурнай дзейнасці звярнуўся пазней. Напісана Дзмітрыем Бегічавым не так і мала. Да ліку набыткаў пісьменніка належыць раман «Сям'я Холмскіх», які высока ацэньвалі сучаснікі. У творы высмейваюцца норавы дваранства.

Пры штабе Калагрывава ў Брэсце служыў вядомы рускі грамадскі дзеяч і перакладчык ***П. А. Каценін***. В. Р. Купцова сцвярджае, што менавіта ў Брэсце Каценін перакладаў «п'есы Ж. Расіна «Эсфір» і «Андрамаха» і П. Карнеля «Арыядна» (*Памяць. Гісторыка-дакументальная хроніка Брэста. У 2 кн. Кн. 1. Мн., 1997. С. 167).*

Наведаўся ў Брэст ***А. А. Шахоўскі,*** вядомы рускі драматург. Перад вайной ён загадваў рэпертуарнай часткай Александрынскага тэатра. Вайна набліжалася да канца, і А. А. Шахоўскі дбаў пра новы рэпертуар. Агульнапрынятай з'яўляецца думка, што менавіта А. А. Шахоўскі скіраваў увагу А. С. Грыбаедава да драматургіі, даўшы першы творчы штуршок. А. А. Шахоўскі прапанаваў Грыбаедаву перакласці французскую п'есу «Маладыя муж і жонка». Аўтар «Гора ад розуму» не проста яе пераклаў, але істотным чынам перапрацаваў. Пазней п'еса была пастаўлена на сцэне Александрынскага тэатра. Дзякуючы Бегічаву, Грыбаедаў выязджаў у Пецярбург для пастаноўкі п'есы. На самой прэм'еры пісьменнік не быў. Бачыў яе пазней, бо п'еса мела даволі доўгую сцэнічную гісторыю.

Сучасныя даследчыкі выказваюць меркаванне, што ў Брэсце А. С. Грыбаедаў адкрыў для сябе польскую літаратуру, што тут ён пазнаёміўся з творчасцю нашых землякоў Нарушэвіча і Нямцэвіча. С. В. Свердліна дапускае думку, што А. С. Грыбаедаў бываў у маёнтку Нямцэвічаў у Скоках, якія знаходзяцца побач з Брэстам, і знаёміўся з кнігамі з багатай бібліятэкі, якая тут мелася. Ускосным пацверджаннем таго, што Грыбаедаў чытаў у Брэсце польскіх аўтараў з'яўляецца тое, што ў вадэвілі «Хто брат, хто сястра, ці Падман за падманам» згадваюцца пісьменнікі Нарушэвіч і Красіцкі. Вадэвіль пісаўся Грыбаедавым сумесна з П. Вяземскім, які працаваў у

Варшаве і, напэўна, там пазнаёміўся з польскай літаратурай. Вяземскі зазначаў, што вершы ў творы напісаны ім, а проза — Грыбаедавым. Пан Чыжэўскі, герой вадэвіля, Нарушэвіча згадвае ў прозе і паэзіі, Красіцкага — толькі ў прозе.

Брэсцкія ўражанні знойдуць сваё мастацкае ўвасабленне ў творах пісьменніка. Многія даследчыкі звязваюць з Брэстам творчую гісторыю камедыі «Гора ад розуму», нават называюць канкрэтных знаёмых пісьменніка па Кобрыну і Брэсту, якія сталі прататыпамі герояў п'есы. Аўтарытэтны дарэвалюцыйны даследчык творчасці Грыбаедава М. А. Піксанаў пераканальна даказаў, што прамых прататыпаў дзейных асобаў камедыі няма, а назіранні драматурга за людзьмі, у тым ліку і тымі, з кім сутыкаўся ў Беларусі, бясспрэчна, выявіліся ў героях «Гора ад розуму».

А. С. Грыбаедаў на Берасцейшчыне набываў жыццёвы вопыт і звычкі, якія яму прыдаліся ў час службы на Каўказе і ў Персіі. У Кобрыне і Брэсце пісьменнік шмат часу праводзіў на кані і добра авалодаў майстэрствам верхавой язды. Гэта далося яму нялёгка, бо быў вельмі блізарукі. Так званае сакратарства пры генерале Калагрываве не прайшло бясследна таксама.

20 снежня 1815 г. А. С. Грыбаедаў падаў рапарт аб звальненні з вайсковай службы па стане здароўя. У сакавіку 1816 г. просьба была задаволена, і пісьменнік назаўсёды пакідае Брэст. Пры звальненні яго з вайсковай службы ўзнікла пытанне пра будучыню так званага сакратара Калагрывава. Апошні хацеў дапамагчы Грыбаедаву атрымаць больш высокі чын — не 14, а 8 класа, а адпаведна і больш высокае жалаванне, таму і ўзнікла патрэба ў тым, каб Грыбаедаў быў ад'ютантам.

Генерал даў бліскучую характарыстыку свайму былому падначаленаму: «Знаходзячыся пры мне на пасадзе ад'ютанта, выконваў як сію пасаду, так і іншыя даваемыя яму даручэнні з асаблівым стараннем і руплівасцю, за што прадстаўлены ад мяне з іншымі чыноўнікамі, якія праявілі выключнасць пры фармаванні кавалерыйскіх рэзерваў, да Усеміласцівейшай узнагароды чынам калежскага асэсара» *(Александр Сергеевіч Грибоедов. М., 1994. С. 16).*

Бясспрэчна, знаходзячыся на Беларусі, пісьменнік так ці інакай выявіў свае адносіны да нашага краю. У першай публікацыі «Пісьма з Брэст-Літоўска» апісаны ваколіцы старога Берасця, дзе знаходзілася лецішча Калагрывава. Яны вабяць пісьменніка. Згадваецца Цярэспаль, Буг — сведчанне таго, што лецішча Калагрывава знаходзілася на заходняй ускраіне горада, што вёска, якая віднелася, — хутчэй за ўсё Валынка.

Ёсць падставы думаць, што Грыбаедаў у Брэсце цікавіўся гісторыяй горада. У «Пісьме з Брэст-Літоўска», у якім уключаны вершы, ёсць радкі, што сведчаць пра гэта:

Есть в Буге остров одинокий;
Его восточный мыс
Горою над рекой навис,
Заглох в траве высокой
(Преданья глас такой,
Что взрыты нашими отцами
Окопы видные там нынешней порой;

Преданье кажется мне сказкой, между нами,
Хоць верю набожно я древности седой;
Нет, для окопов сих отцы не знали места,
Сражались, били, шли вперёд,
А впрочем летописи Бреста
Пусть Каченовский разберёт);
Усадьбы, города и сёла,
И возвышенности, и долы
С горы рисуются округ,
И стелется меж вод прекрасный луг.

*(Александр ГРИБОЕДОВ.*
*Собрание сочинений в двух томах.*
*Т. 1. М., 1971. С. 37)*

Што меў на ўвазе пісьменнік, калі гаварыў пра летапісы Брэста, ці сапраўды пра летапісы як від старажытных помнікаў, і яны на той час былі, ці летапісы як падзеі краю ў пэўнай паслядоўнасці, на сёння гэта невядома. Найхутчэй другое. На той час, пэўна, ужо актыўна ўмацоўвалася легенда пра «рускасць» земляў славянскай часткі Вялікага княства Літоўскага, раз ужо існавала думка, што на востраве відаць акопы, «взрытые нашими отцами». А. С. Грыбаедаў не верыць у гэтыя легенды: «Нет, для окопов сих отцы не знали места», — хоць і не адмаўляе, што былі тут з вайной: — «Сражались, били, шли вперёд».

У творах, напісаных у Брэсце і пра Беларусь, нідзе не згадваецца найменне нашага народа. Мы — часцей за ўсё палякі («Хто брат, хто сястра»). Юля, гераіня вадэвіля, гаворыць, што яна полька і што для яе Нарушэвіч — зямляк. Вядома, што Нарушэвіч родам з Піншчыны. Тым не менш, у мове герояў п’есы «Хто брат, хто сястра» прамільгнулі менавіта беларускія словы: зараз, змілуйцесь.

Разам з тым можна гаварыць, што павагі да нашага народа, які быў забраны Расіяй, у Грыбаедава хутчэй за ўсё не было. Пра гэта сведчыць красамоўны факт, вядомы з успамінаў Бегічава і запісаны сваяком і першым біёграфам драматурга Д. А. Смірновым. Прывядзём гэты запіс цалкам: «У Брэст-Літоўску быў нейкі каталіцкі манастыр, амаль што езуіцкі, вось і забраліся аднойчы ў царкву гэтага манастыра Грыбаедаў з сваім мілым Бегічавым, калі служба яшчэ не пачыналася. Сцяпан Мікітавіч застаўся ўнізе, а Гры-

баедаў, не будзь дурнем, накіраваўся наверх, на хоры, дзе арган. Ноты былі раскрытыя. Сабраліся манахі, пачалася служба. Дзе ў гэты час знаходзіўся арганіст, ці то не асмеліўся сагнаць з хораў і спыніць рускага афіцэра, які знаходзіўся пры такой важнай у тым краі асобе, якім быў Андрэй Сцяпанавіч Калагрываў, — ужо я вам гэтага сказаць не магу... Вы лепш мяне ведаеце, што Грыбаедаў быў вялікі музыкант. Калі па ходу службы патрэбна была музыка, Грыбаедаў зайграў, і іграў ён даволі доўга і выдатна. Раптам свяшчэннадзейныя гукі змоўклі, і з хораў пачуўся наш кроўны, наш родны «Камарынскі»... Можаце меркаваць, які гэта выклікала эффект і які гвалт адбыўся паміж святымі айцамі» *(Александр Сергеевич Грибоедов. М., 1994. С. 18—19).* Якая нецярпімасць да веры іншага народа, якая знявага пачуццяў вернікаў, якое адчуванне сваёй беспакаранасці выявілася ва ўчынку і Грыбаедава, і тых, хто пра гэта прыгадваў!

***К. Ф. Рылееў*** (1795—1826). Ваенны лёс паяднаў паэта-дзекабрыста К. Ф. Рылеева з нашым краем. Прапаршчык коннай артылерыі, выпускнік кадэцкага корпуса К. Ф. Рылееў у 1814 годзе прыняў удзел у замежным паходзе. Дарога на захад аднаго з самых актыўных і дэмакратычна-настроеных дзекабрыстаў пралягала і праз Брэст. У верасні 1814 г. батарэя, у якой служыў Рылееў, вярнулася з-за мяжы і размясцілася ў мястэчку Сталавічы. Тут батарэя папаўнялася новымі людзьмі і коньмі.

Звестак пра час знаходжання Рылеева ў Беларусі захавалася мала. Шмат што пра жыццё ў Сталавічах дае яго саслужыўца А. І. Касоўскі. Ён прыгадвае, што Рылееў жыў у звычайнай сялянскай сям'і. Тут, «у мужыцкай хаце з паўсвятлом за простым рабочым сталом, на якім былі нагрувашчаны розныя кнігі, нават на лаўках пакоя, які ён займаў, шмат раскіданых папер, сшыткаў, скруткаў, featnagа хламу», малады афіцэр напружана працаваў. У Сталавічах кладзіся на паперу яго думкі пра жыццё, пра грамадскае ўладкаванне Расіі. Тут пісаліся і вершы. Як прыгадвае той самы А. І. Касоўскі, з імі Рылееў знаёміў сваіх саслужыўцаў.

Афіцэры ўвесь час былі занятыя муштрой. Рылееў ігнараваў службу. Не заўсёды з'яўляўся на вучэнні. Некаторы час гэта яму даравалася, бо ў яго падпарадкаванні не было салдатаў. Пагарджаў Кандрацій Фёдаравіч і вайсковай формай. Ва ўспамінах А. І. Касоўскага чытаем: «Сам жа ён увесь час насіў арыгінальны двухбортны сурдут светла-карычневага сукна, пад назвай піітычнага, самім ім прыдуманага, даўжыня якога да каленяў, з шырокімі рукавамі, з дзвюма на грудзях кішэнямі, з некалькімі шнурамі і кутасікамі, а каўнер маленькі, адкладны, які адкрываў усю шыю; панталоны са светла-шэрага сукна, але без чырвонай выпушкі і без

штрыфаў, у якіх адзін раз па сваёй няўважлівасці выехаў ва фрунт, за што і быў арыштаваны. Шапка з чорнага сукна своеасаблівага крою; боты насіў без падбораў, у большасці стаптаныя, нярэдка парваныя; туфляў і калош не меў» *(Семён Букчин. Народ, издревле наш родной. Мн., 1984. С. 73 — 74).* Гэтае апісанне сведчыць, што сярод вайсковага салдафонства Рылееў імкнуўся адстаяць права на сваю індывідуальнасць, асабовасць, пратэставаў супраць безаблічча, натоўпнасці. Відавочна таксама, што асаблівага значэння знешняму выгляду не надаваў, ды найхутчэй і надаваць яму не было за што: матэрыяльна маладому афіцэру жылося нялёгка.

Слушнасць нашых высноваў падкрэслівае і верш К. Ф. Рылеева той пары жартаўлівага характару:

Друзья! Прошу спешите:
Я ожидаю вас!
Мрак хаты осветите
Весельем в добрый час!
В сей хате вы при входе
Узрите стол стоит,
За коим на свободе
Ваш бедный друг сидит
В своём светло-кофейном,
Для смеха сотворенном
И странном сюртуке,
В мечтах,
С пером в руке!
Там кипа книжек рядом,
Любимейших лежит;
Их переплет не златом,
А внутрь добром блестит.
Заступа от неволи,
Любезные пистоли:
Шинелишко, сюртук,
Уздечка и мундштук;
Ружьё — подарок друга,
Две сабли, как стекло,
Надёжная подпруга
И Косовско седло.
Вот всё, что прикрывает
Стенную черноту;
Вот всё, что украшает
Сей хаты простоту.

Пры ўсёй жартаўлівасці з гэтага верша выразна вынікае інтэнсіўнае духоўнае жыццё, якое вёў Рылееў у Сталавічах.

Пасля некалькіх месяцаў жыцця паэта-дзекабрыста ў Парыжы ў апартаментах стрыечнага дзядзькі генерал-маёра, дзе малады

афіцэр захапіўся творамі французскіх асветнікаў Русо, Мантэск'ё, Фур'е і інш., К. Ф. Рылееў шмат чытаў і на Баранавіччыне. Кнігі слалі маці і дзядзька. Рускі паэт актыўна ліставаўся з сябрамі і аднадумцамі, пасылаў ім свае вершы, у якіх выказваліся яго вольналюбівыя ідэі. Пачатак творчасці К. Ф. Рылеева даследчыкі звязваюць з 1820 г. Тым не менш выказваецца меркаванне, што ў Сталавічах леглі на паперу наступныя радкі:

Чтоб я младые годы
Ленивым сном убил!
Чтоб я не поспешил
Под знамёна свободы!
Нет, нет, тому вовек
Со мною не случиться;
Тот жалкий человек,
Кто славой не пленится!
Кумир младой души,
Она меня, трубою
Будя в немой глуши,
Вслед кличет за собой
На берега Невы.

У пачатку 1815 г. малады афіцэр К. Ф. Рылееў быў пераведзены ў Нясвіж. Нельга не пагадзіцца з С. Букчыным, што перавод у рэзідэнцыю князёў Радзівілаў спрыяў таму, што рускі паэт пачаў вывучаць польскую мову і пазней ведаў яе дасканала. Тут узнікла цікавасць да беларускай гісторыі, да яе вытокаў, да Полацкага княства і лёсу гордай Рагнеды. Ужо вядомым пісьменнікам, ён напіша свае думы «Рагнеда», «Глінскі», «Дзмітрый самазванец» і інш. Жыццё ў вясковай хаце ў Сталавічах таксама не прайшло бясследна. Ён слухаў і палюбіў мясцовыя песні. Калі сасланы наш зямляк Адам Міцкевіч паявіўся ў паўночнай сталіцы, ён там быў прыхільна сустрэты лепшай часткай расійскага грамадства, у тым ліку і Рылеевым. Баранавіччына — радзіма Адама Міцкевіча. Ён цудоўна ведаў і любіў фальклор роднага краю і ў знакамітых салонах Пецярбурга спяваў песні Наваградчыны. Яму з ахвотаю падпяваў Рылееў. Гэтыя песні, трэба думаць, запалі яму ў душу ў Сталавічах. Невыпадкова К. Ф. Рылееў быў адным з першых перакладчыкаў Міцкевіча на рускую мову. Тыя рэаліі, якія жывілі паэзію нашага земляка, былі яму добра вядомымі і ў нейкай ступені блізкімі.

Вальналюбства, палкі патрыятызм віленскай моладзі, іх творчасць цікавілі рускага паэта. У 1822 г. выйшаў зборнік вершаў Адама Міцкевіча, Рылееў пасняшаўся пазнаёміцца з ім. Агульнавядома, што, калі апальны паэт быў высланы ў глыб Расіі і яму было забаронена жыць на радзіме, трапіўшы ў паўночную сталіцу

Расійскай імперыі, асабліваю падтрымку меў найперш ад А. Бястужава і К. Рылеева. Гэта яны далі нашаму выдатнаму паэту-рамантыку рэкамендацыйны ліст у Адэсу да свайго сябра, каб падтрымаў ссыльных філаматаў. Асаблівы клопат дзекабрыстаў быў пра аўтара «Свіцязянкі». За яго прасіў і А. Бястужаў, але Рылееў палічыў патрэбным дадаць і ад свайго імя: «Палюбі Міцкевіча і яго сяброў, добрыя і слаўныя хлопцы. Пра гэта і пісаць няма патрэбы: па пачуццях і характары іх думак яны ўжо сябры, а Міцкевіч да таго ж паэт — любімца нацыі сваёй...»

Тым не менш і К. Ф. Рылееў не прызнаў арыгінальнасці нават беларускага дыялекту і не дапускаў думкі, каб землі Беларусі і Украіны адышлі ад Расіі: «Граніцы Польшчы пачынаюцца там, дзе канчаюцца гаворкі маларасійскія і рускія, ці па-польску халопскія. Дзе ж большая частка народа гаворыць названымі гаворкамі і трымаецца грэка-расійскай ці уніяцкай рэлігіі, там Русь, старажытны набытак наш!» *(Тамсама. С. 78),* — палка пярэчыў ён Песцелю, які лічыў, што Гарадзеншчына і Беласточчына могуць быць перададзены Польшчы. У гэтым выявілася агульная імперская пазіцыя расійскага грамадства, выразнікам якой у канкрэтным выпадку быў і К. Ф. Рылееў.

З нашым краем звязаны жыццё і творчасць героя вайны з Напалеонам, удзельніка дзекабрысцкага руху, вядомага пісьменніка XIX ст. ***Фёдара Глінкі*** (1786—1880). Ён вызваляў сваю айчыну ад Напалеона, з рускімі войскамі трапіў за мяжу. Вяртаючыся на радзіму, апынуўся на Берасцейшчыне, пра што расказаў у сваім дзённіку «Пісьмы рускага афіцэра». Яго дарога ляжала праз Брэст. Бявога афіцэра і пісьменніка ўразіў разбураны і разрабаваны горад. «Усё выяўляе ў ім выгляд беднасці, — чытаем у дзённіку. — Тут зайшлі мы ў старадаўні рускі манастыр і атрымалі асалоду маліцца ў рускай царкве. Сумна бачыць рускі манастыр у развалінах сярод пышных каталіцкіх касцёлаў» *(Ф. Н. Глинка. Письма русского офицера. М., 1990. С. 242).* У гэтых запісах выразна выяўляецца супрацьпастаўленне не проста дзвюх канфесій, а рускага — нярускаму. Мясцовае — гэта нярускае. У старым горадзе былі не толькі касцёлы, былі і уніяцкія цэрквы.

Далейшы шлях Фёдара Глінкі ляжаў на Пінск. У дзённіку пісьменніка ёсць замалёўкі Палесся. Паказальна, што на край ён глядзіць з двух бакоў: як вайсковец, і як гаспадарнік. «Лясны і вельмі балоцісты тутэйшы край надзвычай выгадны для абарончай вайны: з адной пушкай і жменькай людзей можна абараняць вялікі абшар ад праціўніка, які мае шмат вайскоўцаў», — занатоўвае пісьменнік *(Тамсама. С. 243).* Разам з тым ён бачыць, якія выгоды для гандлю, як унутранага, так і знешняга, мае Піншчына. Гэтыя

выгоды вынікаюць з геаграфічных асаблівасцей краю, дзе «льюцца і зліваюцца да дзесяці рэк: Піна, Стыр, Шчара, Прыпяць, Гарынь і інш.» *(Тамсама)*, а таксама з гаспадарчай дзейнасці нашых продкаў, якія праклалі два каналы: Каралеўскі і Агінскі. Праўда, заўважае Фёдар Глінка, яны цяпер знаходзяцца ў запусценні і маюць патрэбу ў рамонце.

Пісьменнік падкрэслівае, што Пінск таго часу не вызначаецца багаццем, хоць і мае ўмовы быць багатым горадам. Яны — у гандлі, найперш палескім лесам. Гнятлівае ўражанне, якое зрабілі Піншчына і Пінск у пісьменніка з-за сваёй беднасці, дапаўняецца вершам, народжаным гэтай паездкай Фёдара Глінкі па нашым краі:

Среди лесов, на болоте,
У разбитой дороги,
Никнут хаты в дремоте —
Бесприютны, убоги.
В горькой бедности люди —
Ни одеты, ни голы,
В лишаях от простуды,
Вечно сумрачны, квёлы.
Стены в цвили да в гнили,
Скособочились хаты,
Камышом их покрыли,
Из соломы — заплаты.
Люди верят, как дети:
Встанет зорька над краем.
Пока солнце засветит,
Очи выест роса им.

Пісьменнік не гаворыць, чым выклікана запусценне краю, не згадвае пра тое, што адна вайна ідзе за другою, і што яе вядзе Расія, што пры новых гаспадарах, расійскіх уладах, няма клопату пра тое, каб квітнела Палессе. Ф. М. Глінка не падзяляе аптымізму нашага народа на лепшую будучыню.

Разам з тым шмат што на Піншчыне захапляла Глінку. Яго хвалявала сама панарама Пінска, яго багацейшая архітэктура. Пачуцці паэта знайшлі адлюстраванне ў вершы:

Чудесный Пинск! Твои раздолья
Достойны лучших мастеров.
Нигде не видел я привольней
Твоих раскидистых лесов.
Здесь Припять волны гонит в дали
У древних стен, вдоль берегов.
Чего они здесь ни видали
Во глубине седых веков.

Фёдар Глінка як нармальную з'яву ўспрымае культываванне на тэрыторыі краю рускага за кошт мясцовага, найперш дзяржаўную падтрымку праваслаўнай царквы і яе наступ супраць каталіцтва і уніяцтва. «Праязджаючы Пінск, — падказвае рускі афіцэр, — абавязкова трэба паглядзець на рускі сабор, нядаўна перароблены з польскага касцёла. Мастак, які, безумоўна, меў самы вытанчаны густ, дакрануўся да абгарэлых развалінаў старажытнага польскага касцёла і з'явіўся незвычайна цудоўны новы фасад. Звонку падабаецца нам вельмі прыгожы выгляд і майстэрскае аздабленне, знутры — гатычная строгасць міжвольна схіляе да высокай пашаны: гэта ў пэўным сэнсе храм!» *(Тамсама. С. 244).* Як бачым, Палессе ва ўспрыманні Фёдара Глінкі — гэта Польшча, і ўся культура тут — польская. Помнікі яе трэба як найхутчэй зрабіць рускімі.

Свае ўражанні ад Брэста пакінуў вядомы рускі паэт, сябра А. С. Пушкіна ***Пётр Андрэевіч Вяземскі*** (1792—1878)**.** Багаты раней род, карані якога ў Вялікім княстве Літоўскім, да пачатку XIX ст. збяднеў. Жыць толькі з даходаў, што давалі маёнткі, Вяземскія ўжо не маглі. Трэба было служыць. Восенню 1817 г. П. А. Вяземскі паступае на службу ў канцылярыю Навасільцава, якая размяшчалася ў Варшаве і пачынае займацца дыпламатычнай поштай. Паэту даводзілася ездзіць з месца працы ў глыб Расіі. Яго шлях заўсёды пралягаў праз Брэст. Надарыўся выпадак, калі П. А. Вяземскаму давялося затрымацца ў горадзе і мець магчымасць яго агледзець. У пачатку 1818 г. у Варшаву на паседжанне польскага сейма ехаў цар Аляксандр I. У ліку тых, хто выехаў сустракаць з польскай сталіцы венцаносца быў і Вяземскі. У сваёй запісной кніжцы ён занатаваў свае ўражанні ад нашага краю: «Што за царства? Па ўсёй дарозе няма і намёку на выгляд. Раўніна, перарэзаная балотамі, пяскамі і сасновымі лясамі. Па замёрзлай зямлі дарога добрая. Брэст-Літоўск — вярцеп таможнікаў. На мінулай ярмарцы пошлін за тавары, якія былі перавезены праз граніцу, заплачана 460 000 рублёў. На сённяшняй мяркуюць сабраць каля 400 000, але затое тавараў менш. Брэст меў адну са старажытных друкарняў. Буг тут вузкі» *(Семён Букчин. Народ, издревле наш родной. Мн., 1984. С. 70).* Як бачым, занатоўкі досыць лаканічныя і абыякавыя.

У той самы час разважанні П. А. Вяземскага пра лёс сялянаў вызначаюцца эмацыйнасцю: «У Літве надзвычай пакутуюць сяляне». Згадвае ён і віноўнікаў сялянскіх бедаў. Гэта і ранейшыя паны, як маршал Пуслоўскі, і цяперашнія, як Навасільцаў. Вяземскі называе іх лімонавыціскальнікамі, кожны імкнецца з сялянаў, як з таго лімона, паболей выціснуць соку. Віною такому стану рэчаў — паншчына, бо «селянін павінен з двума валамі працаваць тры дні на пана на тыдзень». Рэдка хто, аднак, мае і аднаго вала.

Каб не ўпусціць сваё, «паны прымушаюць адным валом працаваць усе шэсць дзён».

Разгром паўстання дзекабрыстаў і спадзяванне на выступленне вайскоўцаў у Беларусі прывялі на Берасцейшчыну ***Вільгельма Карлавіча Кюхельбекера*** (1797—1846)**.** Вядома, што В. К. Кюхельбекер быў адзіным, каму ўдалося пазбегнуць арышту адразу пасля разгрому паўстання дзекабрыстаў. Разам са сваім адданым слугой Сямёнам Балашовым ён некаторы час хаваўся ў сваёй сястры на Смаленшчыне, а затым накіраваўся да заходняй граніцы Расійскай імперыі. Шлях яго ляжаў праз Беларусь. Паэт-дзекабрыст то далучаўся да сялянскага абозу, то начаваў у вёсцы, то ехаў разам з рамізнікамі. Так ён дабраўся да граніцы каралеўства Польскага ў горад Брэст. З дапамогай аднаго з мясцовых жыхароў яму ўдалося непрыкметна мінуць пагранічную варту і пераправіцца праз Буг.

У мястэчку Цэханаўцы Кюхельбекер робіць няўдалую спробу перайсці граніцу ў Прусію, потым вяртаецца ў Варшаву, дзе быў апазнаны адным афіцэрам і арыштаваны. Закаванага ў кайданы Кюхельбекера прывезлі ў Брэст і тут знялі з яго першы допыт. А затым зноў маршрут яго ляжаў праз усю Беларусь у Пецярбург, але ўжо ў кайданах.

У Гродзенскім абласным архіве ёсць справа «Аб вышуку і злаўленні ўдзельніка паўстання дзекабрыстаў калежскага асэсара Кюхельбекера Вільгельма Карлавіча». З гэтай справы відаць, што адразу, як толькі Кюхельбекер выехаў з Пецярбурга, царскія ўлады разаслалі паперы, у якіх загадвалася злавіць дзяржаўнага злачынцу. Было надрукавана апісанне прыкмет Кюхельбекера і яго слугі і разаслана для агульнага азнаямлення ў Гродна, Брэст і іншыя месцы. Паліцэйскім шпікам у хуткім часе ўдалося натрапіць на след Кюхельбекера. Яны фіксуюць яго маршрут, частыя прыпынкі і размовы з народам.

Маршрут Кюхельбекера сённяшнім гісторыкам здаецца не самым лепшым. Можна было лягчэй і хутчэй дабрацца да граніцы праз Прыбалтыку. А Кюхельбекер блукае па дарогах Беларусі, як бы чагосьці чакаючы. Спачатку ён едзе на Барысаў, затым на Мінск, адтуль паварочвае на Нясвіж, ад яго на Слонім, Ружаны, Пружаны, Камянец, Высокае і толькі тады да граніцы, зноў вяртаецца ў Варшаву, развітваецца са слугой. Гэта навяло даследчыкаў на думку, што Кюхельбекер спадзяваўся на новыя выступленні, на гэты раз на тэрыторыі Беларусі, якія зменяць абставіны, і не будзе патрэбы ў эміграцыі. Для такой думкі ёсць сур’ёзныя падставы.

На тэрыторыі Беларусі ў той час быў раскватараваны Літоўскі асобы корпус, у якім існавала тайная рэвалюцыйная арганізацыя «Таварыства ваенных сяброў», што падтрымлівала сувязь

з «Паўночным таварыствам». Асобныя часці Літоўскага корпуса адмовіліся прыняць прысягу новаму цару. Аднак хваляванні былі падаўлены, кіраўнікі арыштаваны. Мяркуюць, што В. К. Кюхельбекер, не дачакаўшыся выступленняў Літоўскага корпуса, вырашыў асабіста высветліць абставіны. Ён вярнуўся ў Варшаву. Тут да яго падышоў афіцэр і перадаў запіску, у якой значылася, што выступлення не будзе. Кюхельбекер страціў мэту, стаў неасцярожным і таму быў арыштаваны. Такім чынам, наведванне Брэстчыны Кюхельбекерам звязана з арганізатарскай дзейнасцю яго як аднаго з кіраўнікоў паўстання дзекабрыстаў.

## Рускія пісьменнікі другой паловы XIX стагоддзя

Гаворачы пра ўплыў на сябе як пісьменніка творчасці вялікага рускага мастака слова ***Ф. М. Дастаеўскага*** (1821—1881), І. П. Мележ прызнаўся, што «яго (Дастаеўскага — **В. Л.**) карэньчыкі ў вашым Палессі».

Сапраўды род Дастаеўскіх паходзіць з Палесся. У 1506 годзе баярын пінскага князя Даніла Рцішчавіч (па іншых крыніцах Ірцішчавіч, Арцішчавіч) атрымаў грамату, у якой значылася, што князь і княгіня даюць яму «імёны Полкоцічы: дворышча Ходарава Скаратич а брата яго Гаўрыіла дворышча, а Масева дворышча за Стругай..., а ў Дастоеве Олісееўскае дворышча...». Згодна з рашэннем Віленскага сейма ад 1 мая 1528 г., Даніла Рцішчавіч павінен быў паставіць аднаго каня без збруі на ваенную службу. Хутчэй за ўсё Рцішчавічы былі карэннымі палешукамі, якія перайшлі на ваенную службу да Яраславічаў, што ўцяклі ў Вялікае княства Літоўскае з Маскоўскага княства.

З часам назва аднаго з маёнткаў Рцішчавічаў замацавалася за патомкамі Данілы як прозвішча. Гэта было даўняй традыцыяй на Беларусі. Варта згадаць імёны Еўфрасінні Полацкай, Кірылы Тураўскага, Сімяона Полацкага, Казіміра Лышчынскага. Сыны Данілы — Сямён і Іван — у розных дакументах той пары называюцца то як Рцішчавічы, то як Дастаеўскія, то як Данілавічы. Толькі за ўнукамі Данілы Рцішчавіча канчаткова замацавалася прозвішча — Дастаеўскія. У другой палове XVI і пачатку XVII стагоддзя род Дастаеўскіх разросся. Прадстаўнікі яго былі на тэрыторыі ўсяго беларускага і ўкраінскага Палесся, нават на Міншчыне.

Сярод продкаў Ф. М. Дастаеўскага былі вядомыя дзяржаўныя і царкоўныя дзеячы ў Вялікім княстве Літоўскім. Так, унук Данілы Рцішчавіча Фёдар Іванавіч служыў пры князі Курбскім, праўнук

Пётр Сасінавіч у 1598—1628 гг. быў маршалкам Пінскага павета і членам Галоўнага трыбунала Вялікага княства Літоўскага ад Пінска.

У сярэдзіне XVII стагоддзя род Дастаеўскіх занепадае. Прыкладна ў гэты час некаторыя з Дастаеўскіх пачынаюць пераходзіць у духоўнае саслоўе. Даследчыкі роду Дастаеўскіх, у прыватнасці С. Любімаў, лічаць, што пераход Дастаеўскіх у новае саслоўе звязаны з тым, што ў сваёй большасці Дастаеўскія ў Рэчы Паспалітай не прынялі каталіцтва і былі выціснуты з шэрагаў шляхты. Такое сцверджанне навукоўца базіруецца на тым, што большасць Дастаеўскіх пад рознымі дакументамі падпісваліся кірыліцай, калі іншыя прадстаўнікі палескай шляхты — лацініцай. М. В. Валоцкі, згаджаючыся з асноўнай думкай С. Любімава, лічыць, што заняпад роду Дастаеўскіх звязаны з яго выміраннем. Вельмі многія прадстаўнікі гэтага роду не мелі дзяцей. Рэдка калі нараджаліся хлопчыкі.

Вялікі рускі мастак слова Ф. М. Дастаеўскі ганарыўся сваім (як ён падкрэсліваў, «літоўскім паходжаннем»), цікавіўся сваімі продкамі, ганараваў іх памяць. Ён хацеў назваць свайго малодшага сына Пятром у гонар заснавальніка роду Дастаеўскіх. Захаваліся таксама звесткі, якія сведчаць, што вялікі пісьменнік цікавіўся мінулым беларускага народа. У 1865 годзе Дастаеўскі, гаворачы аб «народнай веры ў сябе і свае сілы», спасылаўся на беларусаў: «Без гэтай веры ў сябе не ўстаяў бы, напрыклад, на працягу вякоў беларускі народ і не выратаваў бы сябе ніколі» *(Цытуецца па выд.: І. П. Шпадарук. Ф. М. Дастаеўскі і Беларусь. Мн., 1975. С. 46 — 47).*

Пасля смерці пісьменніка яго жонка Ганна Рыгораўна збірала звесткі пра гісторыю роду Дастаеўскіх. У 1897 годзе ў вёску Дастоева святару А. Кульчыцкаму прыйшоў ліст, у якім удава мастака слова пісала: «Мой пакойны муж Фёдар Міхайлавіч Дастаеўскі шмат разоў гаварыў мне, што яго род вядзе пачатак з Літвы, ад Пінскага маршалка Дастаеўскага, выбранага ў сейм у 1598 г. Пётр Дастаеўскі і яго патомкі жылі ў Дастоеве». Далей Ганна Рыгораўна прасіла, каб мясцовы святар прыслаў звесткі пра род Дастаеўскіх і пра вёску Дастоева. А. Кульчыцкі паведамляў, што ў вёсцы налічваецца каля 90 двароў, праваслаўная царква, піцейны дом, крама, царкоўна-прыходская школа і ветраны млын.

Эстафету цікавасці да радзімы продкаў Ф. М. Дастаеўскага ад Ганны Рыгораўны пераняў унук вялікага пісьменніка інжынер з Пецярбурга Андрэй Фёдаравіч Дастаеўскі, які ў канцы 60-х і ў 70-я гг. XX ст. пачаў ліставанне з зямлёй сваіх продкаў, даслаўшы спачатку ліст у Іванаўскі райвыканкам. Тыя пераадрасавалі яго ў Дастоеўскую сярэднюю школу. Чалавецтва рыхтавалася ў 1971 годзе адзначыць 150-годдзе Ф. М. Дастаеўскага. У адным з маскоўскіх

выдавецтваў быў запланаваны выпуск альбома «Ф. М. Дастаеўскі ў партрэтах, дакументах, ілюстрацыях». Аўтары выдання хацелі змясціць у ім карту-схему для тых турыстаў, хто захоча наведаць радзіму продкаў Дастаеўскага. Унука генія рускай літаратуры цікавіў адрас вёскі Дастоева, сённяшні яе воблік, транспарт, чыгуначны і аўтобусны, якім можна трапіць у дарагія мясціны, а найбольш, як ушаноўваецца на Палессі памяць пра род Дастаеўскіх, які даў чалавецтву волата мастацкага слова.

Набыткі школьных краязнаўцаў на той час былі досыць сціплымі, але яны былі. Ліставанне з унукам Ф. М. Дастаеўскага паслужыла новым імпульсам у актывізацыі іх пошукаў. Ускладняла гэты пошук тая акалічнасць, што загінуў летапіс вёскі і яе ваколля, а таксама царквы, калі вульгарныя атэісты ад партыйных ідэалагічных службаў спалілі адну са старажытных цэркваў Берасцейшчыны ў вёсцы Дастоева. У ёй вёўся вышэй згаданы летапіс. Сямёнаўская царква была ўзведзена ў XV ст. ці то Сімяонам Пінскім, ці то ў XVI ст. Сямёнам Дастаеўскім. Тым не менш школьным краязнаўцам удалося раскрыць гісторыю роду Дастаеўскіх на Палессі, знайсці дастаткова экспанатаў, каб стварыць музей. Пастановай урада БССР да 150-годдзя выдатнага рускага мастака слова прысвоіў імя Ф. М. Дастаеўскага. Музей у Дастоеве стаў цэнтрам навучальна-выхавальнай, а таксама асветнай працы. Сюды едуць прыхільнікі таленту аўтара «Ідыёта», што актывізуе пошукавую дзейнасць педагагічнага калектыву, спрыяе абагачэнню экспазіцыі музея. У двары школы — помнік Ф. М. Дастаеўскаму.

Жыццё і творчасць таленавітага рускага пісьменніка-рэаліста XIX ст. ***Мікалая Сымонавіча Ляскова*** (1831—1895 гг.) звязана з нашым краем. У сярэдзіне пазамінулага стагоддзя ў Пецярбургу бушавалі пажары. Віноўнікамі называлі рэвалюцыйна настроеную моладзь. Ляскоў напісаў артыкул, у якім патрабаваў, каб улады назвалі сапраўдных віноўнікаў пажараў, дапусціўшы думку, што імі маглі быць і падпольшчыкі. Гэта выклікала рэзкую крытыку пісьменніка з боку рэвалюцыйна-дэмакратычнага лагеру рускай грамадскасці. Ляскоў М. С. намерыўся з’ехаць на час за граніцу, аднак не атрымаў падтрымкі з боку ўладаў. Пісьменніку ў якасці карэспандэнта «Паўночнай пчалы» дазволілі паездку ў Беларусь. Гэта ў нейкай меры задавальняла М. С. Ляскова. Ён неаднойчы падкрэсліваў, што на станаўленне яго як мастака слова вялікі ўплыў аказала польская літаратура, а найперш беларуска-польскі пісьменнік Уладзіслаў Сыракомля. Рускі пісьменнік спадзяваўся, што ў выніку гэтай паездкі ён асабіста пазнаёміцца з Сыракомлем. Творца з Пецярбурга прыехаў у Вільню ў 1862 годзе ў дзень пахавання «вясковага лірніка».

У пахаванні Сыракомлі актыўны ўдзел прыняў беларуска-польскі паэт і публіцыст, ураджэнец Гарадзеншчыны ***Вінцэсь Каратынскі*** (1831—1891), для якога першы быў яго духоўным бацькам. Трэба думаць, што любоў Ляскова да Сыракомлі была асноўнай прычынай, па якой В. Каратынскі згадзіўся суправаджаць рускага пісьменніка па Беларусі. Уражанні В. Каратынскага ад нашага краю пакуль што невядомыя. Канстатуецца сам факт сувязі польска-беларускага пісьменніка з нашым краем, а М. С. Ляскоў пачаў пасылаць у «Паўночную пчалу» свае дарожныя нататкі, якія друкаваліся пад назвай «З аднаго дарожнага дзённіка».

З Вільні падарожнікі накіраваліся ў Гародню, адтуль — у Беласток, затым былі Белавежская пушча, Пружаны, Антопаль, Пінск. Апісанні Лясковым нашага краю досыць лаканічныя. Больш разгорнутыя яны пра Белавежскую пушчу і Пінск. У Пружанах пісьменніка ўразілі хіба што брукаваныя дарогі, якіх нельга параўнаць ні з рускімі, ні з палескімі. У Пінску Ляскоў з Каратынскім затрымаліся ажно на 5 дзён. Рускага пісьменніка ўразілі выдатныя помнікі дойлідства як разбураныя, так і ўцалелыя, іх высокае мастацкае аздабленне. На руінах замка Вішнявецкіх М. С. Ляскоў любаваўся фрэскамі, якія цудам захаваліся.

Сваё падарожжа па Беларусі М. С. Ляскоў рабіў напярэдадні паўстання 1863—1864 гг. «Тады, — пазней скажа пісьменнік, — час быў ціхі, і нават у паветры не пахла падзеямі, якія разгорнуцца праз паўгода. Прадчуванне блізкай рэвалюцыі на ўсёй Літве мне выказаў толькі адзін чалавек, гэта быў стары селянін, які падахвоціўся падвесці мяне з маім таварышам, польскім паэтам В. Каратынскім, з Пінска ў Дамбровіцу». Наш зямляк скардзіўся сваім пасажырам, што на Палессе нагналі казакаў, што тыя рабуюць сялянаў, забіраючы апошняе парася і нават курыцу. У цэлым жа, па меркаванні рускага падарожніка, сяляне настроены лаяльна і з перспектывай глядзяць у будучыню. «Польскасць, — піша М. С. Ляскоў, — пінчукамі не ўспрымаецца адасоблена ад панства, а панства — ад польскасці». Выснова рускага пісьменніка зводзілася да таго, што ідэя аднаўлення Рэчы Паспалітай не можа знайсці падтрымкі ў палешукоў.

Калі ўспыхнула паўстанне 1863—1864 гг., М. С. Ляскоў у той час працаваў над раманам «Няма куды». Ён пільна сачыў за падзеямі, якія разгортваліся ў Польшчы і Беларусі. Да паўстання паставіўся рэзка адмоўна і быў перакананы, што яно асуджана на паражэнне. У рамане «Няма куды» выведзены некаторыя ўдзельнікі паўстання, прататыпамі якіх былі знаёмыя пісьменніка. У прыватнасці ў вобразе Райнера (Кулі) увасоблены рысы Артура Беніні, з якім быў знаёмы М. С. Ляскоў у Пецярбургу. У ліку паўстанцаў

1863—1864 гг. акажуцца і іншыя героі рамана «Няма куды» Ліза і Памада. Ратуючыся ад пагоні карнікаў, апошні і Райнер апынуцца ў Белавежскай пушчы. Памада загінуў у яе нетрах, застрэлены рускімі салдатамі. Райнер быў захоплены ў палон і прыгавораны да расстрэлу, які прыводзіўся ў выкананне ў Пружанах. Ліза Бахерава, закаханая ў Райнера, паляціць у Пружаны, каб развітацца з ім. Як бачым, пісьменнік прывёў герояў рамана «Няма куды» ў тыя мясціны на Берасцейшчыне, якія наведаў сам.

У рамане «Няма куды» ёсць два раздзелы, прысвечаныя нашаму краю: «У Белавежы» і «Што прадказвалі стары зубр, пугач і сабака». Негатыўнае стаўленне М. С. Ляскова да беларуска-польска-літоўскага паўстання выразна выяўляецца ў гэтых раздзелах. Пісьменнік называе паўстанцкія атрады шайкамі. Яны складаюцца з прадстаўнікоў розных нацыянальнасцей. Ёсць тут французы, італьянцы, галандцы, негры. На сёння няма такіх звестак, каб у паўстанні прымалі ўдзел прадстаўнікі гэтых народаў. У тым, што М. С. Ляскоў увёў у твор чужынцаў і зрабіў іх змагарамі супраць паняволення Рэчы Паспалітай Расійскай імперыяй, выявіў сваю негатыўную пазіцыю да паўстання.

М. С. Ляскоў паказвае, што ў атрадах шмат падлеткаў, якія па сваёй нявопытнасці і бяздумнасці кінуліся ў барацьбу. Паміж кіраўнікамі атрадаў і імі, шараговымі паўстанцамі, — прорва. Першыя, хоць і атрад апынуўся ў цяжкіх умовах, забяспечваюць сабе пэўны камфорт. Яны ўратаваны ад мяцеліцы ў хаце стражніка пушчы, калі ўсе астатнія гібеюць на лютым сіверы. Кіраўнік атрада, напіўшыся цёплага чаю з ромам, ухутаўшыся цёплым мядзведжым футрам, пайшоў спаць. У той самы час маладзенькі хлопчык з пушком на губах, які толькі-толькі прабіваецца, прызнаецца, што памрэ з голаду, што пакіне атрад. Пра голад гаворыць француз з італьянцам, якія гібеюць на лютым ветры.

Асаблівая роля ў раздзелах рамана «Няма куды», прысвечаных нашаму краю, належыць Белавежскай пушчы. Яна як бы ажыццяўляе прысуд паўстанцам і выяўляе ідэал аўтара твора. Палова атрада была перабіта ў яе нетрах, другая кінулася ратавацца ў той бок, дзе была непралазная дрыгва. Спрадвечны лес упусціў у сябе «шайку бандытаў», але не выпусціў іх назад.

Для рамана «Няма куды» характэрна тое, што ў ім няма разгорнутых пейзажных замалёвак. Выключэнне складае якраз апісанне Белавежскай пушчы. У гэтым апісанні выявіліся асабістыя ўражанні М. С. Ляскова: «Убачыўшы адзін раз пушчу, усё жыццё нельга забыць таго ціхага, але незвычайнага глыбокага ўражання, якое яна аказвае на чалавека, які згубіўся ў ёй» *(Н. С. Лесков. Собрание сочинений в одиннадцати томах. Т. 2. Мн., 1956. С. 647).*

Аўтар знаёміць чытача з фаунай запаветнага лесу, імкнецца разгадаць гісторыю яго назвы, паказвае яго веліч і цэльнасць. Пушча жыве сваім жыццём. Яна не дазваляе тут уладарыць чалавеку. «Вёсак у пушчы няшмат, і тыя, акрамя паселішча Белавежа, размешчаны на ўскрайках, а сярэдзіна нетраў абсалютна бязлюдная. Толькі ў некалькіх пунктах можна наткнуцца на адзінокую хату адзінокага стражніка, а то звер ды дрэва. Хто ўрываецца ў яе, той гіне» *(Тамсама. С. 648).*

У рамане М. С. Ляскова «Няма куды» выявіліся кансерватыўна-дэмакратычныя ідэалы аўтара, непрыманне ім рэвалюцыйных пераўтварэнняў у Расіі. Што датычыцца беларускіх раздзелаў гэтага твора, то яны засведчылі імперскія прыярытэты пісьменніка. Пазней сам аўтар з горыччу прызнаваўся: «Вялікая памылка была ў жаданні спыніць бурны парыў, які цяпер мне здаецца натуральнай з’явай... Я быў малады і не падазраваў у «высакародным кансерватызме» ўсёй яго подласці і себялюбства. У гэтым мая памылка; яна шчырая, г.зн. без дрэнных намераў, але я яе сабе не дарую і не магу дараваць» *(Цытуецца па артыкуле В. Троіцкага «Очарованный родной землёй» // Н. С. Лесков. Собрание сочинений в пяти томах. Т. 1. М., 1981. С. 15).*Хочацца спадзявацца, што сталы мастак асудзіў і свае адносіны да беларуска-польска-літоўскага паўстання 1863—1864 гг., зразумеў натуральную патрэбу гэтых народаў вызваліцца ад паняволення Расіяй.

Падавіўшы паўстанне 1863—1864 гг., царскі ўрад распрацаваў цэлую сістэму русіфікацыі Беларусі. У гэтай сістэме значнае месца адводзілася чыноўніцкаму апарату. На думку ўрада, гэтую функцыю лепш змогуць выканаць тыя чыноўнікі, якія будуць прысланы з Расіі. Іх службовыя аклады ў Беларусі былі больш высокія, чым у Расіі. Гэтая акалічнасць і прываяла ў 1867 на Берасцейшчыну рускага пісьменніка-разначынца ***Ф. М. Рашэтнікава*** (1841—1871)**.**

На той час гэта быў шырока вядомы ў Расіі пісьменнік. Высокую ацэнку дэмакратычнай крытыкі атрымала яго аповесць «Падліпаўцы», якая пабачыла свет у часопісе «Современник». Да таго часу была апублікавана аповесць «Паміж людзьмі», а таксама нарысы і апавяданні. М. Ф. Рашэтнікаў заняў сваё адметнае месца ў рэвалюцыйна-дэмакратычным накірунку рускай літаратуры другой паловы XIX ст.

Літаратурны поспех, аднак, не прынёс матэрыяльнага дабрабыту. Друкавацца станавілася ўсё цяжэй і цяжэй. Ганарары былі невысокімі. Пасля стрэлу Каракозава часопіс «Современник» быў закрыты. Сям’я Ф. М. Рашэтнікава складалася з чатырох чалавек. У іх гадавалася двое дзяцей. Рашэтнікавы вырашаюць пераехаць з Пецярбурга куды-небудзь у правінцыю. У хуткім часе намер канк-

рэтызаваўся. У лісце да бацькоў Фёдар Міхайлавіч ад 26 снежня 1866 г. піша: «Грошы я атрымліваю вельмі рэдка... Прычына гэтаму каракозаўская гісторыя, з-за чаго з красавіка па кастрычнік нашаму брату зусім нельга было пісаць. Заўтра, відаць, адпраўлюся з жонкай у Брэст. Яе прызначаюць туды павівальнай бабкай пры ваенным шпіталі» *(Цытуецца па артыкуле С. У. Кліманскага «Рашэтнікаў на Беларусі» // Даследаванні па літаратуры. Гродна, 1967. С. 87).* Калі ўлічыць палітыку царскага ўрада, якая праводзілася на Беларусі пасля падаўлення паўстання 1863—1864 гг., то выбар Рашэтнікавым нашага краю зразумелы.

У пачатку 1867 года Рашэтнікавы прыехалі ў Брэст, які, як і іншыя тэрыторыі, дзе грымела паўстанне, быў на ваенным становішчы. Горад запрудзілі вайскоўцы. За падазронымі вялася слежка. Рашэтнікавы ў Брэсце якраз і трапілі ў іх лік, бо за пісьменнікам замацавалася слава як супрацоўніка «Современника», што фактычна значыла — рэвалюцыянера.

Сям'я Рашэтнікавых пасялілася ў крэпасці ў невялікай двухпакаёвай кватэры. Надзеі на паляпшэнне матэрыяльнага становішча ў Брэсце не апраўдаліся. Працавала адна жонка. Мець шырокую прыватную практыку ёй не ўдалося з-за дрэннай рэпутацыі мужа. Той факт, што пісьменнік займаўся творчай працай, выклікала абгаворы. Жонка пачала настойваць, каб пісьменнік уладкаваўся на працу, бо нават зароблены ганарар дзесьці блукаў па свеце і трапляў у Брэст з вялікім спазненнем. Гэта выклікала дадатковыя матэрыяльныя цяжкасці, калі нават не было за што як след адсвяткаваць Вялікдзень. Уладкавацца на працу Рашэтнікаву не ўдалося, хоць і была вакантная пасада бухгалтара. Асноўная прычына адмаўлення — дрэнная рэпутацыя пісьменніка.

Матэрыяльныя цяжкасці Рашэтнікавых у Брэсце паглыбляліся агульнай атмасферай таго асяроддзя, у якое трапіў пісьменнік. Справа дайшла нават да таго, што жонка атрымала ад вайсковага начальства паперу-папярэджанне. Мясцовы святар данёс, што яна не гавела ў вялікі пост, а гэта з'яўляецца парушэннем закона, у адпаведнасці з якім усе павінны гавець, таму прадпісвалася, каб былі дадзены тлумачэнні на гэты конт. У сувязі з такой гісторыяй Фёдар Міхайлавіч занатаваў у сваім дзённіку: «Мяне прывёў у шаленства тон гэтай паперы, да чаго пагражальныя інтанацыі, падобныя *да абыходжання рускіх салдат з палякамі* (выдзелена мною — **В. Л.**) *(Тамсама. С. 89).*

Толькі Рашэтнікавы ў Брэсцкай крэпасці былі людзьмі цывільнымі, усе астатнія — вайскоўцы і іх сем'і. Сярод гэтага асяроддзя не было тых, хто глыбока і па-сапраўднаму цікавіўся б літаратурай. «...Няма з кім пагаварыць, і хоць ёсць людзі добрыя, але яны

забітыя і паняволі падпарадкоўваюцца ўплыву людзей, якія цікавяцца толькі «Рускім інвалідам». Казёншчына, салдацкая форма — надакучылі... Усё гэта цяжка дзейнічае і з'яўляецца мімаволі жаданне вырвацца з гэтага свету... Мне не падабаецца крэпасць і тутэйшая кампанія», — чытаем у дзённіку пісьменніка ад 18 сакавіка 1867 г.

Разам з тым нельга думаць, што Рашэтнікавы былі зусім ізаляваны ад берасцейскага грамадства. У Рашэтнікавых наладзіліся сяброўскія кантакты з інжынерам П. А. Заварэніным і ўрачом А. А. Сыціным. Пісьменнік падтрымліваў сяброўскія непасрэдныя кантакты з аднадумцамі ў Пецярбургу, у тым ліку і з М. А. Някрасавым. Апошні раіў Рашэтнікаву: «Мілы Фёдар Міхайлавіч, пасмяяўся з вашага ліста. Зразумелая сітуацыя. Вы акружаны дурнямі, якія нічога не разумеюць, а тут яшчэ і мясцовы арыстакратызм. Няма чаго вам там рабіць цяпер; я думаю, што там варта жыць толькі летам. Чакаем вас тут» *(Тамсама. С. 89).* Рашэтнікаў прыслухаўся да парадаў Някрасава. Ён некалькі разоў выязджаў у паўночную сталіцу Расіі.

Пісьменнік кіраваўся ў правінцыю не толькі з мэтаю палепшыць матэрыяльнае становішча, а і для таго, каб актыўна заняцца творчай працай. Ён на той час выношваў задуму рамана пра жыццё рабочых. У канчатковым варыянце гэты твор атрымаў назву «Дзе лепш?». На жаль, пісьменнік, напэўна, не знайшоў у Брэсце таго, што шукаў і на што спадзяваўся. «Жыву ў Брэсце таму, — піша ў лісце да сяброў, — што не магу сабраць грошай. Жонка жалаванне атрымлівае ў канцы красавіка, таму ўсе грошы ідуць на ўтрыманне сям'і і прыслугі: дзве нянькі, кухарка і дзяншчык». Увесь час Рашэтнікаў скардзіцца, што не піша, што час бяжыць, а набыткаў ніякіх. Думаецца, што гэта стан высока патрабавальнага да сябе працавітага чалавека, бо ў Брэсце за тры гады было напісана не так і мала. Ён закончыў раман «Глумавы», працаваў над раманамі «Свой хлеб», «Дзе лепш?». Хоць гэтыя творы і не расказваюць пра Беларусь, аднак асобныя назіранні над жыццём краю выявіліся ў іх.

Перачытваючы лісты і дзённікі Рашэтнікава, пераконваешся, што ён цікавіўся нашым краем. У горадзе наведваў кірмашы, якія праводзіліся два разы на год. Яны найперш былі яму асноўнай крыніцай ведаў пра наш народ, яго жыццё, яго побыт і мову. Гэтыя назіранні паглыбляліся ў час паездак у Гародню, Беласток, Пецярбург. З жалем пісьменнік-дэмакрат вымушаны быў канстатаваць: «Край бедны, абскубаны». Характарыстычным у гэтай ацэнцы з'яўляецца слова *абскубаны* — яго нехта абскубаў. Чытачу было вядома, хто гэта зрабіў — расійскія ўлады.

Беларускія ўражанні былі хвалюючымі для пісьменніка, бо на іх матэрыяле напісана каля дзесятка твораў: «Ад Брэст-Літоўска

да Пецярбурга», «Паўтары сутак на Варшаўскай чыгунцы», «Суткі ў яўрэйскім горадзе», «Будні і святы Янкеля Дворкіна і яго сям'і», «Кірмаш у яўрэйскім горадзе», «На захадзе», «Прагрэс у павятовым горадзе». Як сведчаць ужо самі назвы твораў, Рашэтнікава асабліва зацікавіла жыццё яўрэйскага насельніцтва на Беларусі. На радзіме ён не мог гэтага назіраць, бо для яўрэяў у Расійскай імперыі існавала рыса аседласці, за якую яны не маглі пераязджаць на сталае жыццё. Расія якраз і была па-за лініяй аседласці яўрэйскага насельніцтва. Таму для яго Брэст, Беласток, Гародня былі яўрэйскімі гарадамі. Разам з тым Рашэтнікаў больш узбуйнена паказвае жыццё яўрэяў у нарысе «Будні і святы Янкеля Дворкіна і яго сям'і». Пісьменнік раскрывае расслаенне яўрэйскага насельніцтва на бедных і багатых. Яго найперш цікавяць сацыяльныя нізы, якім вельмі цяжка даецца кавалак хлеба. Пісьменнік уважлівы да побыту яўрэяў, іх звычаяў.

З цікавасцю расказвае пісьменнік і пра побыт беларускага сялянства і збяднелай шляхты. Ён дэталёва апісвае іх вопратку, іх матэрыяльнае становішча. Сяляне вядуць на кірмаш апошнія свае набыткі: хто карову, хто вала, бо няма чаго есці, трэба плаціць падаткі. Перадаючы пачутае з вуснаў сялянаў на берасцейскім кірмашы, пісьменнік уводзіць у іх мову беларускія словы: зараз, гвалт, схаваўся, няхай, куточкі і інш. Шмат на кірмашах круціцца і заезджых чыноўнікаў, жанок вайскоўцаў. Усе яны абыякавыя да жыцця беларусаў, іх клопатаў і трывог, радуюцца, што тут пабагацелі, што і аплата ў Брэсце лепшая, і рынак таннейшы. Так пад пяром пісьменніка паўставала суровая праўда жыцця краю пасля падаўлення паўстання 1863—1864 гг.

Ф. М. Рашэтнікаў быў першым сярод рускіх пісьменнікаў рэвалюцыйна-дэмакратычнага лагера, хто знаёміў рускага чытача з так званым Паўночна-Заходнім краем, як цяпер па ўказанні царскага ўрада іменавалася Беларусь. Пісьменнік паказвае незвычайную беднасць беларускага народа, «абскубанага» непасільнымі падаткамі. Сялянства рабуюць усе: чыноўнікі і іх жонкі, квартальныя, жандары, перакупшчыкі, ваенныя ўлады. Мастак слова паказвае, як тыя, хто запаланіў край, багацеюць на крыві і поце беларусаў. Чыноўнікі і вайскоўцы з пагардай ставяцца да карэннага насельніцтва краю, увасабляюць сабою сацыяльны і нацыянальны ўціск.

Як сведчыць С. У. Клеманскі, Ф. М. Рашэтнікаў збіраў матэрыял для вялікага твора пра Беларусь, дзе меў намер расказаць пра мінулае Брэст-Літоўска, пра падзеі да паўстання і пасля яго, пра розныя сацыяльныя і нацыянальныя пласты насельніцтва горада. Захаваўся пачатак нарыса «Вяшчальнік», у якім пісьменнік асуджае русіфікатарскую палітыку ў краі. У другім незавершаным

нарысе «Ліцвінск» (так названы Брэст — **В. Л.**) пісьменнік дэталёва апісвае і сам горад, і крэпасць, паведамляе, што тут на дзвярах кожнай крамы вісіць аб'ява, якая патрабуе, каб гаварылі па-руску, а ні ў якім выпадку не па-польску.

Пра русіфікатарскую палітыку ў краі шмат апавядаў пісьменніку інжынер Заварэнін. У дзённіку Рашэтнікава ёсць такі запіс: «Ён мне расказваў пра тутэйшы край, пра пасрэднікаў, якія пражываюць за год пяць тысячаў, наладжваюць пікнікі і нічога не робяць, пра чыноўнікаў, якія прыехалі русіць край, словам, ён выказваў мне ўсё аб тутэйшых людзях, расказваў пра брэсцкіх дэмакратаў і іх сямейным жыцці і подласцях» *(Тамсама. С. 95).*

Гэтыя апавяданні берасцейцаў дапаўнялі і паглыблялі асабістыя назіранні і сталі крыніцай для напісання п'есы «Прагрэс у павятовым горадзе», створаный на берасцейскім матэрыяле. Амаль ці не ўсе героі камедыі маюць сваіх прататыпаў з ліку берасцейскіх знаёмых пісьменніка: Заварзін, Сыцін, Багданаў, Штадэн і інш. П'еса скіравана супраць мясцовага чыноўніцтва, якое жыве хабарамі, крадзяжамі і якое здзекуецца з беларусаў і яўрэяў. Апошнія нідзе не могуць знайсці праўды, бо суды прадажныя. Старшыня павятовай земскай управы Паўлаў яшчэ і году не папрацаваў у горадзе, а ўжо купіў сабе вялікі дом. Дбае толькі пра сябе спраўнік Галубцоў. Адзін з герояў дае вось якую ацэнку мясцоваму суду: «Няхай селянін і будзе мець рацыю, яго ўсё роўна прызнаюць вінаватым». Другі, доктар Бердаў, дадае: «Новы суд — адно красамоўства. Калі не падмажаш і — нічога не зробіш». Наглядчык павятовага вучылішча Іваноў трымаецца сярэдневяковай педагогікі. Ён лічыць, што зусім не лішне лупцаваць навучэнцаў. Паўлаў, старшыня земскай управы, жадаў бы вярнуць прыгон, каб быць абсалютным гаспадаром над сялянамі і жыць у раскошы за іх кошт. «О, прагрэс, прагрэс! Як ты перакруціў нашу святую Русь, — смуткуе ён. — Раней, да гэтай волі, мы жылі, ні аб чым не разважалі, а цяпер? Грошай ні ў кога няма, бо маёнткі закладзены, а з сялянаў узяць няма чаго, бо мы абрэзалі нішто сабе, а самі займацца гаспадаркай не ўмеем. Усё старое так і ляціць к чорту!» Вось якімі былі «прагрэсісты» ў Брэсце ў другой палове XIX ст.

Камедыя была напісана ў 1868 г. Жонка пісьменніка мела неасцярожнасць расказаць пра яе знаёмым. Пайшлі яшчэ большыя перасуды. Начальства крэпасці пачало імкнуцца пазбавіцца ад непажаданых сведкаў іх дзейнасці, пра якую, верагодна, можа быць вядома ў сталіцах. У 1870 годзе Ф. М. Рашэтнікаў у чарговы раз выехаў у Пецярбург. У гэты час яго жонку Соф'ю Рашэтнікаву крапасное начальства паставіла па-за штатам. Сям'я вымушана была пакінуць Брэст і вярнуцца ў Пецярбург.

У 1871 годзе з'явілася апавяданне Ф. М. Рашэтнікава «На захадзе», у якім ён вярнуўся да берасцейскіх уражанняў. Твор вызначаецца аўтабіяграфічнасцю. Падзеі адбываюцца ў краі, «які знаходзіцца на ваенным становішчы, дзе нядаўна ў лясах пралілася кроў...» Апавяданне вядзецца ад імя маладога доктара, якога накіравалі з Расіі на працу ў «ваенны шпіталь адной з крэпасцей заходняга краю». Тут малады спецыяліст пазнаёміўся з пісьменнікам Івановым. У вобразе апошняга шмат чаго ад Рашэтнікава. Доктар і пісьменнік зблізіліся. Апавядальнік бачыў, як жыве сям'я ў горадзе, як да яе ставяцца мясцовыя чыноўнікі, чаму яна вымушана ў рэшце рэшт пакінуць крэпасць на захадзе Расійскай імперыі.

Такім чынам, Ф. М. Рашэтнікаў расказваў праўду рускай прагрэсіўнай грамадскасці пра бунтарны край, які так доўга знаходзіцца на ваенным становішчы, пра палітыку расійскага ўрада, якую ён там праводзіць, як і чаму паводзяць сябе там чыноўнікі. Гэтая праўда была не даспадобы нават савецкім уладам. Творы Ф. М. Рашэтнікава, напісаныя на беларускім матэрыяле, у савецкі час не перадрукоўваліся. Іх можна прачытаць толькі ў дарэвалюцыйным 1874 г. выданні пісьменніка. Балючая праўда пра русіфікатарскую палітыку царскага ўрада, данесеная нашаму сучасніку вуснамі рускага пісьменніка, фактычна забаранялася, бо ўжо ж вельмі відавочна напрошваліся б паралелі з нашымі днямі.

## Польскамоўныя пісьменнікі

***Філаматы і філарэты.*** Францішак Багушэвіч пакінуў нам запавет:

Знаць Чачота ўсе павінны  
І пра Зана дабрачыннасць,  
Пра Касцюшку і Манюшку,  
І пра песняроў.

*(Ф. Багушэвіч. Песня //Багушэвіч Ф. Творы. Мн., 1967. С. 115)*

Сцяг Касцюшкі, сцяг барацьбы за аднаўленне дзяржаўнасці паднялі і панеслі студэнты і выкладчыкі Віленскага універсітэта. У 1817 г. тут пачалі дзейнічаць студэнцкія арганізацыі. Філаматы і філарэты ставілі сваёй галоўнай задачай слугаванне Айчыне, праз асвету і адукацыю рыхтаваць грамадства да вызвалення Бацькаўшчыны. Асаблівае значэнне яны надавалі вывучэнню роднага краю.

Большасць удзельнікаў гэтых студэнцкіх аб'яднанняў — беларуская моладзь (ім тады было ад 17 да 35 гадоў). З ліку 135 ча-

лавек, дапытаных камісіяй Навасільцава, з Беларусі было 113, з Каралеўства Польскага — 6, з Украіны — 16 чалавек. Многія з іх — ураджэнцы Наваградчыны альбо там мелі сваіх сваякоў. Некаторых членаў маладзёжных арганізацый Віленскага універсітэта на Берасцейшчыну прывялі сяброўскія кантакты. Трэба думаць, што найчасцей усе філаматы і філарэты групаваліся ў Туганавічах, у маёнтку Верашчакаў.

Справа ў тым, што Тамаш Зан вучыўся ў Мінскай гімназіі з братамі Верашчакамі, асабліва пасябраваў з Міхалам. Верашчакі вызначаліся сваёй гасціннасцю. Міхал жа быў па натуры добры, спагадлівы, кампанейскі. Менавіта з Тамашам Занам Адам Міцкевіч трапіў у Туганавічы і там пазнаёміўся з Марыляй. Ігнат Дамейка быў блізкім сваяком Верашчакаў. Маці Міхала з'яўлялася яго роднай цёткай. Ян Чачот таксама з гэтых мясцінаў. Пазней Туганавічы былі месцам паломніцтва польскіх пісьменнікаў. Вядома, што Эліза Ажэшка і Марыя Канапніцкая знаёміліся з Туганавічамі. Каб папулярызаваць мясціны, звязаныя з жыццём і творчасцю філаматаў і філарэтаў, яны пакідалі тут не толькі свае аўтографы як ганаровыя наведвальнікі, але і творы.

Тамаш Зан бываў у многіх паселішчах Баранавіцкага раёна ў сваіх сяброў і сваякоў. Гэта Туганавічы, Завоссе, Сталавічы, Новая Мыш і інш. да арышту і высылкі на Урал, а таксама і пасля вяртання на радзіму. Многія філарэты сябравалі з Антанінай Юрага. Таму некаторыя з іх бывалі і ў Крошыне, і ў Паланэчцы. У 1843 годзе Тамаш Зан з'яўляўся адным са сведкаў на вяселлі яе дачкі з Завадскім у Крошыне. Праз тры гады ў час вясельнага падарожжа найпрамяністы зноў наведваўся ў Крошын і быў госцем Юрагаў. Бывалі ў Крошыне Ігнат Дамейка і Антон (Эдвард) Адынец.

Нельга не ўлічваць таго, што на тэрыторыі сучаснага Баранавіцкага раёна было шмат сядзібаў, дзе жылі сваякі і сябры філаматаў і філарэтаў, якіх яны часта наведвалі. Гэта вёскі Бортнікі і Вольна, якія належалі Слізеням. З братамі Ота і Рафаілам (пазней вядомым скульптарам, у гонар якога ў Вольна адкрыта мемарыяльная дошка) сябравалі Тамаш Зан, Ян Чачот, Адам Міцкевіч і нярэдка бавілі тут свой канікулярны час. Наведваліся яны ў Задзвею і Ішкалдзь, дзе служыў святаром сваяк Адама Міцкевіча Павел Грынашкевіч. Заны мелі сваякоў таксама і ў Паланэчцы і часта тут бывалі. Са Сталавічамі звязаны імёны Ігната Дамейкі і Адама Міцкевіча.

Найчасцей усё ж такі віленская моладзь у час летніх канікулаў збіралася ў Туганавічах. Пра гэта сведчыць так званы Камень філарэтаў — велізарны валун, які знаходзіцца ва ўрочышчы за вёскай Карчова непадалёку ад Туганавічаў. І цяпер ён здзіўляе сваёй велічынёю, а гэта ўсяго яго частка, бо ў 30-я гады знайшоўся нейкі шу-

стры прадпрымальнік, які хацеў выкарыстаць яго ў гаспадарчых мэтах. На шчасце, умяшалася грамадскасць, і цяпер гэты велізарны валун не проста помнік прыроды, але і помнік нашай гісторыі і культуры. Жыве ў наваколлі легенда, што менавіта гэты камень быў своеасаблівай трыбунай, з якой юныя патрыёты гаварылі свае палкія прамовы пра неабходнасць маральнага самаўдасканалення, пра асвету народа, вострую патрэбу ведаць свой край, аддаваць яму свае маладыя сілы. Марылі юныя патрыёты-рамантыкі пра час, каб і іх творы ведалі і любілі сяляне. Гэтая думка гучыць у паэме Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш»:

О, мне дажыць бы да гэткай уцехі,
Каб мае трапілі кнігі пад стрэхі…
Каб і мае ўзялі кнігі сялянкі,
Простыя кнігі, як іх калыханкі.

Сярод філаматаў і філарэтаў былі людзі розных схільнасцей і зацікаўленняў. Яны ўнеслі значны ўклад у развіццё навукі і культуры. На жаль, даводзіцца гаварыць, што не свайго народа. Ігнат Дамейка — чылійскага, Тамаш Зан, Юзаф Кавалеўскі і інш. — рускага. І мае рацыю Кастусь Цвірка, які  гаворыць: «Высылаючы філаматаў і філарэтаў з «акругі Віленскага універсітэта» ў Расію, царскія ўлады хацелі дасягнуць адначасова некалькі мэтаў: першая — гэта, вядома ж, пакаранне маладых людзей за вальнадумства — «в назидание» іншым, другая — знішчэнне ў самым зародку беларускага нацыянальнага руху як часткі агульнапольскага (лепш бы сказаць агульнарэчпаспалітаўскага) руху і трэцяя — рабаванне «мазгоў», інтэлектуальнага патэнцыялу Беларусі» *(Кастусь Цвірка. Паданне пра філаматаў, або Доля аднаго пакалення // Філаматы і філарэты. Мн., 1998. С. 19).*

Філаматы і філарэты вылучалі са свайго асяроддзя генія мастацкага слова Адама Міцкевіча. За ім ідуць Ян Чачот, Тамаш Зан, Аляксандр Ходзька, Антон Адынец, Ануфры Петрашкевіч. Аднак і тыя, хто не сталі пісьменнікамі, цудоўна валодалі пяром і пакінулі свае дарожныя нататкі, дзённікі, лісты, якія таксама з’яўляюцца фактам літаратуры.

***Адам Міцкевіч*** (1798—1855). Гісторыя ведае не адзін выпадак, калі за права быць земляком знакамітасці вядуцца гарачыя спрэчкі. Да іх ліку належыць і Адам Міцкевіч. Адны гавораць, што нарадзіўся пісьменнік у карчме па дарозе з Завосся ў Наваградак, другія называюць сам Наваградак, трэція Завоссе, але не берасцейскае, а гарадзенскае, хоць паселішча пад такой назвай пакуль што не знайшлі (у гэтай вобласці яно не значыцца) у ліку тых, якія зніклі. Мы будзем трымацца думкі, якая з’яўляецца найбольш ус-



*Завоссе. Дом, дзе нарадзіўся Адам Міцкевіч. (Пачатак XX ст.)*

таялай, што 24.12.1798 г. у Мікалая і Барбары Міцкевічаў у Завоссі (цяпер Баранавіцкі раён) нарадзіўся сын, якому далі імя першага чалавека на зямлі — Адам. Пройдуць гады, і Адам Міцкевіч стане не толькі найвыдатным сынам народаў, што ўваходзілі ў склад Рэчы Паспалітай, — беларусаў, палякаў, летувінаў, а сусветным геніем, паэтам-рамантыкам.

Міцкевічы належалі да беларускай шляхты Наваградчыны. Бацька паэта, аднак, ужо жыў у асноўным з заробку адваката, і сям'я перабралася ў Наваградак. Там Міцкевічы мелі сядзібу, адну з самых прыгожых (як прыгадваюць сучаснікі) камяніц. Тым не менш нельга лічыць, што дзяцінства Адама Міцкевіча прайшло ў былой сталіцы Вялікага княства Літоўскага — Наваградку. У розных вёсках і мястэчках Наваградчыны жыло шмат сваякоў паэта. У пачатку XIX ст. у в. Белая Баранавіцкага раёна быў маёнтак цёткі Адама Міцкевіча Барбары Стыпулкоўскай. Бацькі Адама Міцкевіча з дзецьмі часта наведвалі гэтае паселішча. Некаторыя вучоныя выказваюць меркаванне, што менавіта тут юны Адам Міцкевіч пазнаёміўся з Юзяй, першым сваім юначым захапленнем. Пазней Юзя стала жонкай стрыечнага брата Адама — Феліцыяна Міцкевіча. Менавіта ў Белай адбыўся выпадак, які пакладзены ў аснову верша «Люблю я».

У вёсцы Вольна, якая належала Слізеням, у свайго сябра філарэта Ота часта бываў Адам Міцкевіч з сябрамі па Віленскім

універсітэце. Наведваў аўтар «Свіцязянкі» з Тамашам Занам вёску Ішкальдзь, дзе служыў ксяндзом сваяк паэта. Урочышча Кут ля вёскі Карчова таксама асвечана імем Адама Міцкевіча, бо тут знаходзіцца знакаміты Камень філарэтаў, дзе выступалі юныя патрыёты, у тым ліку і Адам Міцкевіч. Не мог абмінуць аўтар «Пана Тадэвуша» і вёску Новая Мыш, дзе некаторы час жыла сям'я Яна Чачота. У стрыечнага брата Тамаша Зана наш зямляк з Завосся бываў з сябрам  і ў Паланэчцы. Польскія даследчыкі выказваюць думку, што паэт вучыўся ў Сталавічах у 1804 годзе у парафіяльнай школе. Гэтае мястэчка знаходзіцца ў 8 км ад Завосся, дзе на той час жыла сям'я Мікалая Міцкевіча. Усе гэтыя вёскі размешчаны ў Баранавіцкім раёне.

Ёсць яшчэ дзве мясціны на Берасцейшчыне, асвечаныя іменем паэта-генія. Найперш гэта Завоссе. У канцы XIX стагоддзя адзін з фальваркаў у Завоссі належаў роднаму дзядзьку з боку бацькі Адама Базылю Міцкевічу. Пасля яго смерці бацька паэта, Мікалай, быў апекуном братавага малалетняга сына і адначасна кіраваў фальваркам. Як сведчыць яго сын Аляксандр, Міцкевічы ў снежні 1798 г. выехалі ў Завоссе, і там 24 чысла нарадзіўся Адам Міцкевіч.

Тыя, хто прытрымліваецца версіі, што паэт нарадзіўся ў Наваградку, сцвярджаюць, што Міцкевічы пераехалі ў Завоссе адразу пасля смерці бацькавага брата Базыля ў лютым 1799 г., калі Адаму быў месяц. Жылі тут Міцкевічы да 1801 г., а затым перабраліся



*Ішкальдзь. Троіцкі касцёл. (1920-я гг.)*

ў Наваградак. Яшчэ пяць гадоў бацька паэта кіраваў завосеўскім маёнткам. Сумяшчаць гэта з працай адваката было цяжка. У 1806 годзе Мікалай Міцкевіч перадаў свае правы на Завоссе мужу сястры Вінцэсю Стыпулкоўскаму.

Сядзіба ў Завоссі складалася з аднапавярховага дома і гаспадарчых забудоваў: аборы, стадолы, свірана, студні з жураўлём. Дом быў пакрыты гонтаю і дзяліўся на дзве палавіны: адна — для гаспадароў, другая — для чэлядзі. Панская палавіна ўключала сталовую. Было яшчэ два невялічкія пакоікі.

Усе канікулы, пачынаючы з 1801 і аж да 1810 г., Адам Міцкевіч праводзіў у Завоссі і іншых навакольных вёсках, пра якія згадвалася вышэй. Тут, на Баранавіччыне, Адам Міцкевіч далучаўся да фальклору, легендаў і паданняў, якія жывілі яго творчасць, надавалі ёй арыгінальнасць і самабытнасць, выяўлялі яе вытокі як паэта рамантычнага складу. Пазней, чытаючы лекцыі ў Парыжы ў славутым Каледж дэ Франс па славянскіх літаратурах, адзначыў: «У іх (сялянаў Пінскай, часткова Мінскай і Гарадзенскай губерняў — **аўт.**) казках і песнях ёсць усё» *(Філаматы і філарэты. Мн., 1998. С. 122).* У шматлікіх вёсках Берасцейшчыны Адам Міцкевіч сутыкаўся з рознымі сацыяльнымі пластамі беларускага народа, пазнаваў яго сутнасць, услухоўваўся ў мову, добра ёю валодаў. Усё гэта, а таксама вывучэнне пісьмовых крыніцаў дало паэту падставы сказаць у тых самых лекцыях, што беларусы «захавалі найбольшую колькасць агульнаславянскіх рысаў», што «на беларускай мове, якую называюць русінскай, альбо літоўска-русінскай, размаўляе каля дзесяці мільёнаў чалавек; гэта самая багатая і самая чыстая гаворка, яна ўзнікла даўно і багата распрацавана. У перыяд незалежнасці Літвы вялікія князі карысталіся ёю для сваёй дыпламатычнай перапіскі» *(Тамсама. С. 122).* Хоць сам Адам Міцкевіч пісаў па-польску, але ён ухваляў і шчыра падтрымліваў творчасць Яна Чачота на роднай мове.

Таму Адам Міцкевіч меў усе падставы сказаць, што яго дзяцінства было вясковым, што менавіта вёска зрабіла яго такім, які ён ёсць. Любіў бываць Адам Міцкевіч у Завоссі, калі вучыўся ў Віленскім універсітэце і працаваў у Коўна. Як прыгадваюць знаёмыя паэта, начаваў найчасцей у свірне. Там быў невялічкі пакойчык, у ім і жыў паэт. З гэтага пакойчыка добра праглядваліся краявіды наваколля, Жарновая гара (самая высокая ў наваколлі) па форме нагадвала велізарныя млыновыя жорны. Сцены гэтага пакойчыка былі распісаны рукой Адама Міцкевіча. Пазней гэты ўзгорак увойдзе ў творы паэта-рамантыка, як вялізарная гара.

Сядзіба ў Завоссі была знішчана ў Першую сусветную вайну. Тут у 1915 годзе якраз праходзіў фронт. Пасля Другой сусветнай

сіяната, у тым ліку і Элізы Ажэшка і Уладзіслава Рэйманта, у свяце сяўбы і ўрачыстай пасадкі дрэў. Вось як гэта апісваў Ю. Катарбінскі: «Патрыярхальны дух, які захаваўся па літоўскіх дварах, узнаўляе старыя, прыгожыя звычаі. Жніво амаль закончана — трэба пачынаць сяўбу, кінуць зерне новага плёну на загон зямлі-карміцелькі. Мы выходзім цэлай грамадой у поле, на краі якога стаіць запрэжаная парай коней сеялка, упрыгожаная для гэтай урачыстасці гірляндамі палявых кветак. Гаспадар падае Ажэшковай аздоблены кветкамі кошык са збожжам. Яна благаслаўляе крыжам раллю і кідае дрыжачай рукой некалькі жменяў сыпкага зерня на ўзараныя загоны. Затым Раймант з фантазіяй перакідае сабе праз плячо пас ад сяўні, бярэ поўную жменю жыта і робіць некалькі вельмі артыстычных рухаў, а потым сяўбу распачынае сеялка, дбайна ашчаджаючы зерне. Мы вяртаемся да двара на другі сімвалічны абрад. Каля дома выкапаны дзве ямы. Садоўнікі прывезлі са школкі *(месца, дзе разводзяць саджанцы —* ***В. Л.****)* два маладзенькія дубочкі з клубамі зямлі вакол каранёў. Ажэшкова і Рэймант трымаюць за галінкі маладыя дрэвы, і так проста адбываецца ўрачыстасць закладкі маладога гаю на памяць побыту польскіх літаратараў» *(Тамсама, с. 115).*

У 1909 годзе Эліза Ажэшка ў Флер'янове жыла з пачатку чэрвеня і амаль да канца верасня. Па вяртанні лісты з Гародні прасякнуты сумам, болем і тугой, што сведчыла: пісьменніца выбіта з прывычнага творчага стану. Здароўе, аднак, імкліва пагаршалася. У маі 1910 г. Элізы Ажэшка не стала.

Дом Бохвіцаў ацалеў да нашых дзён. У ім размешчана праўленне мясцовага калгаса. Засталіся рэшткі некалі такога прыгожага парку. Расце і набірае сілы дуб, пасаджаны рукой Элізы Ажэшка. Былая сядзіба не вабіць цяпер дагледжанасцю, багаццем кветак, цудоўным садам. Яна чакае дбайнага свайго гаспадара.

***Марыя Радзевіч*** (1864—1944*).* «Дзе прайшло маленства, — сцвярджаў Кузьма Чорны, — там пачынаецца Радзіма». У адносінах да Марыі Радзевіч наўрад ці можна гэтае афарыстычнае выказванне прыняць за аксіёму. Не толькі дзяцінства, але амаль усё жыццё Марыі Радзевіч прайшло на Беларусі. Тым не менш яна засталася польскай пісьменніцай і не толькі таму, што пісала папольску. Менавіта Польшчы пісьменніца з Грушава служыла аддана і самаахвярна. Невыпадкова польскія прыхільнікі яе таленту ў гонар 130-годдзя з дня нараджэння ў былым маёнтку Радзевічаў у в. Грушава Кобрынскага раёна ўзвялі сціплы памятны знак, на якім па-польску і па-беларуску значыцца: «У памяць выдатнай польскай пісьменніцы Марыі Радзевіч (1864—1944) удзячныя за яе працу гэты памятны знак, устаноўлены пад дубам «Давайцісам», дораць землякі».

Дуб «Давайціс», на думку грушаўцаў, мае не менш чым паўтысячы гадоў. Ён не адзінокі, іх цэлая дуброва ў былым грушаўскім двары Радзевічаў. Ёсць таксама старыя, хоць і значна маладзейшыя за «Давайціс». Некаторых ужо не мінула піла і сякера. Былая сядзіба Радзевічаў у страшным запусценні. Не цешыць вока і стары парк, не радуе дагледжанасцю, багаццем кветак, як было тут некалі. Гэта дакор усім нам, бо на тэрыторыі сядзібы Радзевічаў размешчана Грушаўская базавая школа.

Дуброва, якую ўпрыгожвае дуб такой старажытнасці, павінна ахоўвацца дзяржаваю. Уладзіміру Караткевічу належыць нарыс «Дрэва вечнасці», прысвечаны тысячагадоваму дубу на Палессі, які ў народзе называюць дубам кіраўніка сялянскага паўстання XVII ст. Крывашапкі. У нарысе ёсць запавет выдатнага пісьменніка нашчадкам: «У гэтай дуброве не павінна стукаць сякера. Уся з шасцісотсямісотгадовых дубоў, яна павінна зрабіцца запаведнікам велічы, сведчаннем таго, што можа даць наша зямля». Дуброва ў Грушаве, напэўна, маладзейшая на паўтысячагоддзе, але досыць старажытная, каб таксама стаць запаветным куточкам Берасцейшчыны, каб кожны ўсведамляў і радаваўся, што можа даць наша Берасцейская зямля. Самы старажытны дуб яе апаэтызаваны ў адной з першых аповесцей Марыі Радзевіч і даў ёй назву — «Давайціс».

Нарадзілася пісьменніца 30 студзеня 1864 г. у маёнтку бацькі Панюгі ў былым Ваўкавыскім павеце ў шляхецкай сям'і. Суджана было ёй прыйсці на свет, калі яе бацькі, былыя паўстанцы 1863 года, былі прыгавораны да сібірскай катаргі. Бацька так і не дачакаўся яе нараджэння, грымеў кандаламі, кіруючыся на ўсход. Маці царскія ўлады зрабілі «ласку» — далі адтэрміноўку на час, пакуль не народзіцца дзіця. Праз месяц пасля родаў Амеля Радзевіч накіруецца следам за мужам у далёкую Сібір, а дальняя сваячка месячнае немаўля, яе сясцёр і брата адвязе на Палессе ў дзедаўскі дом па маці ў Замошша пад Янавым (Іванаўскі раён).

Радзевічы былі ў блізкім сваяцтве з вядомым на Палессі родам Скірмунтаў, чые маёнткі былі параскіданы на тэрыторыі сучасных Пінскага, Іванаўскага і Столінскага раёнаў. Дзеці ў доме старых Кажаніцкіх знайшлі цяпло і клопат, аднак ненадоўга. У хуткім часе паміраюць старыя Кажаніцкія. Радзевічавых дзяцей забірае пад сваю апеку Караліна Скірмунт з Каранёва (цяпер Пінскі раён). Тут Марыя Радзевіч пражыла да 1871 года, калі па царскай амністыі вярнуліся з Сібіры яе бацькі. Былым паўстанцам, аднак, жыць у Беларусі забаранілі, і Радзевічы вымушаны былі шукаць прытулку ў Варшаве, дзе сплылі чатыры гады.

У 1875 г. памірае бацькаў брат Тэадор Радзевіч, які валодаў маёнткам Грушава на Кобрыншчыне. Гэты маёнтак быў куплены дзе-

дам пісьменніцы ў нашчадкаў Суворава, якому Кацярына II у знак заслуг па заваяванні Беларусі падаравала землі Кобрыншчыны. Дзядзька завяшчае маёнтак пляменніку, брату пісьменніцы. Сям'я вяртаецца на Беларусь.

Марыя Радзевіч з 1875 па 1939 гг. фактычна будзе жыць у Грушаве, пакідаючы яго на кароткі тэрмін ці то на вучобу, ці то ратуючыся ад ваеннай навалы. Таму адназначна можна гаварыць пра выключную ролю Палесся ў жыцці пісьменніцы. Тут фарміраваліся яе ідэалы, тут выспяваў талент пісьменніцы, тут клалася на паперу большасць яе твораў, тут разгортвалася яе грамадская, рэлігійная, гаспадарчая дзейнасць.

Той факт, што Марыя Радзевіч — дачка паўстанцаў 1863—1864 гг., меў выключнае значэнне ў фарміраванні яе ідэалаў. Як толькі дзяўчынка пачала ўсведамляць сябе, яна цвёрда ведала, што гадуецца без ласкі і апекі бацькоў, бо яны пакутуюць у Сібіры за свабоду, гонар і годнасць Айчыны.

Першым духоўным настаўнікам Марыі была Караліна Скірмунт. Менавіта яна заклала асновы любові да зямлі бацькоў. Доўгімі зімовымі вечарамі Караліна Скірмунт расказвала дзецям гісторыю краю, гісторыю Вялікага княства Літоўскага, апавядала пра яго герояў, якія аддалі жыццё за свой народ, а таксама цудоўныя беларускія легенды. Аўтар аповесці пра Марыю Радзевіч Ян Глушэня піша: «І цяклі апавяданні пра вайдэлота Біруца, пра шаўца Гамсіна — жорстка пакараных за працу ў час набажэнства ў святую ноч, пра Струкіса, шчупака з возера Ажарэліс, у даўнія часы князя літоўскага, які з-за кахання да паланянкі здрадзіў свайму радзімаму краю, пра цудоўную крыніцу Шалцінеліс, пра прыгожую смутную каліну і яе нешчаслівае каханне да маладога хлопца» *(Gluszenia Ian. Tak chciaiam dochekac... Warszawa, 1992. С. 20).*

У ліку тых, кім захаплялася Караліна Скірмунт, быў і кіраўнік палескага паўстанцкага атрада Рамуальд Траўгут. Хоць то было і небяспечна пасля разгрому паўстання 1863 — 1864 гг., аднак у невялікім пакойчыку, куды без дазволу цёткі заходзіць забаранялася, побач з іконай Божай Маці стаяў партрэт Рамуальда Траўгута, ля якога гарэла свечка. У гэты пакой Караліна Скірмунт вадзіла малую Марысю і расказвала ёй пра кіраўніка палескага атрада, пра іншых герояў, якія змагаліся і загінулі за Айчыну. Пройдзе шмат часу. Напярэдадні 70-й гадавіны паўстання 1863—1864 гг. Марыя Радзевіч выступіць ініцыятарам узвядзення помніка Рамуальду Траўгуту ў Гарадцы на Кобрыншчыне. Помнік быў урачыста адкрыты на цэнтральнай плошчы мястэчка. На жаль, у 1939 г. мясцовы войт зняў дубовы крыж з помніка і прадаў яго местачковаму яўрэю. Пазней быў разбураны і сам помнік.

Бацькавыя дарогі як паўстанца 1863 г. таксама былі звязаны з Палессем. Ён уваходзіў у атрад Рамана Рагінскага. Атрад зрабіў рэйд з Падляшша на Палессе праз Белавежскую пушчу на Пружаны, каб далей рушыць на Кобрыншчыну. Адзінства ў атрадзе, аднак, не было. Ён раскалоўся. Тая група, у якую ўваходзіў Генрых Радзевіч, бацька пісьменніцы, рушыла на Піншчыну, спадзеючыся на падтрымку мясцовых паўстанцаў. Такой падтрымкі не аказалася. Пад вёскай Боркі атрад Р. Рагінскага быў разбіты царскімі войскамі. Генрыху Радзевічу пашанцавала. Ён ацалеў, аднак з Сібіры бацька пісьменніцы вярнуўся духоўна зламаным. Трагічную і гераічную гісторыю паўстання, мужнасць і самаахвярнасць яго ўдзельнікаў, мукі, якія выпалі на іх долю па дарозе і ў самой Сібіры, Марыя Радзевіч ведала з бацькавых вуснаў.

Талент Марыі Радзевіч фарміраваўся пад уплывам прыроды і фальклору Палесся, светаадчування палешука. Гэтаму спрыяў шэраг акалічнасцей. Як гаварылася вышэй, да легендаў, паданняў, казак краю малую Марыю пачала далучаць Караліна Скірмунт. Галоўную ролю найхутчэй адыграў грушаўскі ляснік Васіль Фядзечка. Ян Глушэня назаве яго скарбонкай ведаў пра Палессе. Гэты палешук адкрываў дзяўчынцы дзівосы прыроды краю: паказваў такавішча цецерукоў, хаткі бброў, вадзіў яе ў такія палескія нетры, дзе можна было ўбачыць выдру, чорных буслоў, а часам сустрэць тых, хто хаваўся ад людзей і ўладаў у лясной глухамані. Васіль Фядзечка расказваў гісторыю дрэваў, птахаў, раслінаў, знаёміў, хто і як будуе сабе жытло, ладзіць бярлогі і гняздзечкі.

Дзяўчынкаю разам з Васілём Фядзечкам рабіла Марыя Радзевіч захапляльныя вандроўкі на лодцы па палескіх азёрах, рэках і ручаінках і любавалася маляўнічымі краявідамі, якія адкрываліся ёй: цешылі вока зялёнае мора хмызнякоў, балотаў, дываны лугоў, расквечаныя багаццем красак, гарлачыкі і ліліі на вадзе. Часам ёй удавалася разам з бацькам і старым леснікам прыняць удзел у паляванні на цецерукоў і глушцоў, іншы раз надараўся выпадак браць удзел у лоўлі рыбы старажытным палескім спосабам — з лодкі з дапамогаю гарпіна. Як бы там ні было, але Марыя Радзевіч добра ведала край, дзе ёй наканавана было жыць, ведала і любіла яго. Усё жыццё была яна шчырым абаронцам усяго жывога, апякункай лесу, дазваляла парубкі ў сваіх уладаннях вельмі рэдка. Асаблівую слабасць мела да птушак, цікавілася іх яйкамі. У дзяцінстве расшуквала сама птушыныя гняздзечкі, а пазней, як прыгадвае былы яе парабак Нясцюк Яўхім, шчодра аплачвала таго, хто прыносіў яйкі ў грушаўскі двор. Толькі зірнуўшы на яйка, магла па колеры, форме, расфарбоўцы, велічыні адразу сказаць, якой птушачцы яно належыць. Захаплялі яе мудрасцю і працавітасцю бабры, цешылася яжамі і з прыемнасцю паіла іх малаком.

Краявіды Палесся, яго жывёльны і раслінны свет знайшлі мастацкае ўвасабленне ў многіх яе творах. Вельмі часта назвы птушак, раслінаў, кветак, зорак гучаць у яе так, як іх пачула з вуснаў Васіля Фядзечкі. Ян Глушэня гаворыць, што яе ўражвалі палескія назовы зорак — Куркі, а не Стажары, Веха, а не Млечны шлях, ды і здольнасць палешукоў многае вызначаць па зорках на небе: надвор'е, перспектыву на ўраджай, прыплод, на ягады і грыбы.

Вандроўкі з Фядзечкам па лясах і балотах суправаджаліся захапляльнымі расказамі мясцовых паданняў, казак, легендаў. Паказваў стары на арабіну і расказваў цэлую легенду пра падманутую дзяўчыну, якая загінула, і яе душа жыве ў гэтым дрэве, а калі чуў плёскат у возеры, то запэўніваў, што гэта русалкі так зазываюць да сябе чалавека. Або апавядаў цудоўную легенду пра цара-глушца, які жыве недзе ў нетрах, жыве так доўга, што помніць усю гісторыю Палесся.

Уражлівая душа Марыі Радзевіч прагна ўбірала ў сябе хараство палескіх мелодый. Пачынаючы з ранняй вясны і да позняй восені любіла вечарам пасядзець пад дубам «Давайцісам» і слухаць песні ці то тых, хто вяртаўся з сенакосу ці жніва, ці то моладзі, якая гуртавалася каля якой-небудзь грушаўскай хаткі. Зімовымі вечарамі, калі жанкі збіраліся на вечарніцы, ці папрадухі, як кажуць на Палессі, таксама спяваліся песні, расказваліся казкі, паданні, легенды. Паказальна, што папрадухі наладжвалі і ў панскім доме, у адным з самых вялікіх пакояў. Звінела Грушава песнямі на Каляды, Вялікдзень, Купалле.

У маладосці паненка з грушаўскага двара любіла заходзіць у сялянскія хаты, уважліва прыглядалася да сядзібы, да агульнага аблічча жылля, да побыту. Заўсёды яе вока з цікавасцю і захапленнем затрымлівалася на ручніку, які аздабляў ікону, на настольніку, посцілцы, якімі ў святочныя дні накрываліся стол, ложак, на гліняным і драўляным посудзе, упрыгожаным арнаментам і іншымі ўзорамі. І сёння грушаўцы прыгадваюць, што іх пані з радасцю прымала ад сялянаў падарункі палескага ўжытковага мастацтва. У яе доме шмат было рэчаў, зробленых рукамі палешукоў. Ганаровае месца займала пастуховая труба. Асабліва захаплялася святочнымі жаночымі строямі і, як расказваюць яе землякі, нярэдка іх насіла сама. Звычайна ў сялянскім убранні хрысціла дзяцей. У якасці прэзентаў сваім гасцям давала палескія паясы, ручнікі, вырабы з саломкі і дрэва, у тым ліку зробленыя ўласнаручна. Бывала, што вывозіла тавары ўжытковага палескага мастацтва на продаж у Варшаву.

Марыя Радзевіч усёй душой палюбіла гэты таямнічы і загадкавы «край пушчаў і багнаў». На жаль, даводзіцца гаварыць пра тое, што нацыянальных інтарэсаў карэннага насельніцтва краю не

разумела і шмат рабіла па апалячванні і акаталічванні палешукоў. З дзяцінства аўтар «Давайціса» прагна ўбірала ў сваю свядомасць народны погляд на свет прыроды, у якім было шмат чаго ад паганства, калі чалавек сябе ўспрымае яе маленькай часцінкай. Быў час, калі Марыю Радзевіч асабліва захапляла жыццё ў суладдзі з прыродаю. Яна пабудавала ў 1911 г. у лясной глушы домік, абсталявала яго як сялянскую хату і летам жыла там са сваёй сваячкай і сяброўкай Ядвігай Скірмунт. Назвалі яны гэтае збудаванне «хатка лясных людзей». У 20-я гг. яна была перавезена ў грушаўскі двор і паказвалася гасцям як элемент палескай экзотыкі.

Зусім зразумела, што многія сюжэты для сваіх твораў Марыя Радзевіч брала з палескага жыцця. Прырода, фальклор, вераванні палешукоў шырока ўвайшлі ў многія творы аўтаркі «Давайціса». Любімыя яе героі жывуць у суладдзі з прыродаю, трымаюць у дварах лісаў, жураўоў, яжоў. Перакладчыкі твораў Марыі Радзевіч выявілі ў яе апавяданнях і аповесцях шмат слоў Берасцейска-Пінскага Палесся. Што датычыць карэнных насельнікаў краю, то ў сваіх творах пісьменніца, на жаль, звярталася да самых цёмных бакоў іх жыцця.

Чым было Грушава для Марыі Радзевіч, можна зразумець, калі ўлічыць, што пасля арышту бацькоў і іх высылкі ў Сібір за ўдзел у паўстанні 1863—1864 гг. і канфіскацыі маёнткаў на Ваўкавышчыне да пераезду на Кобрыншчыну яна не мела дома, жыла ў чужых, хай і сваякоў, па чужых кутках. Яе адчуванні па пераездзе ў дзедаўскі дом добра перадае пляменнік: «Марыся шалела ад радасці... Наша! Свая агародніна, свая садавіна, свая страха над галавою, надзейная і ціхая, і малако пахне зёлкамі, цёплае пасля ўдою... — усё сваё! Штодзённа, назаўжды». Нельга не ўлічваць і тое, што на Кобрыншчыне знаходзіліся магілы самых родных: дзядулі, бабулі, бацькоў, дзядзькі, сястры. Былі родныя магілы і ў Замошшы пад Янавым.

Пасля няўдалага гаспадарання брата Генрыха Марыя становіцца ўладальніцай Грушава. Шмат уклала яна сіл, каб вывесці маёнтак з запусцення, каб сплаціць пазычанае. Двор гарэў, не абышлі яго сваёй навалаю войны, што, пачынаючы з 1914 г. і па 1921 г. лавінаю каціліся па Палессі то туды, то сюды. Калі царскі ўрад загадам выпраўляў усіх палешукоў у бежанства ў глыб Расіі, то Радзевіч сказала сваё цвёрдае «не», не падзейнічалі на яе і пагрозы. Некалі яе ўжо пазбавілі страхі над галавою царскія ўлады, калі канфіскавалі бацькавы маёнткі на Ваўкавышчыне. Выезд у Расію выклікаў шмат негатыўных успамінаў, прыгадаліся бацька ў кандалах, прыкаваны да такога ж гаротніка, як і сам, якога пад канвоем вялі ў Сібір, маці, што вымушана была пакінуць яе месячную.

Пазней, калі ганарары за творы створаць дабрабыт, будуць грошы, Марыя Радзевіч набудзе невялікі маёнтак у Польшчы. Будуць хвіліны, калі ёй захочацца туды пераехаць, аднак не зробіць яна гэтага рашучага кроку, бо там у яе не было грунту: карані і Радзевічаў-Гельгутаў і Кажаніцкіх (продкаў з боку бацькі і маці) былі ў Беларусі. Яны моцна трымалі пісьменніцу на Палессі.

У жыцці Марыя Радзевіч кіравалася сваім дэвізам, сутнасць якога сфармулявала так: «Ёсць дзве сілы, якім трэба аддаць усё, не патрабуючы за гэта нічога, — гэта Айчына і Бог». Айчына... Што было для Марыі Радзевіч Айчынаю? Патрыятычнае пачуццё, якое з'яўляецца вызначальным у асобе пісьменніцы, не было статычным, яно эвалюцыяніравала. Паспрабуем прасачыць за гэтай эвалюцыяй. На першым этапе Айчына для Марыі Радзевіч — гэта Беларусь, землі Вялікага княства Літоўскага, адкуль яе продкі, а калі вузей — то Палессе, дзе прайшло ўсё яе жыццё. Вярнуўшыся з Ядлоўца, дзе вучылася ў закрытым пансіёне для шляхцянак і які не закончыла з-за матэрыяльных стасункаў сям'і, Марыя з усім запалам маладосці аддасца пазнанню Палесся, дзе наканавана ёй жыць. Таму на першым этапе яе патрыятызм можна лічыць краёвым. Гэта была пашыраная з'ява сярод шляхты на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага XVIII і XIX стст. Варта згадаць Юльяна Нямцэвіча, Адама Міцкевіча, Яна Чачота, Ігната Дамейку, Скірмунтаў і інш. Краёўцы заўсёды выразна ўсведамлялі, што іхняя Радзіма не Польшча, а беларуска-літоўскі край.

Што датычыць Марыі Радзевіч, то тут трэба ўлічыць тое, што яна была блізкай сваячкай Скірмунтаў, нейкі час выхоўвалася ў іх доме. Краёвы патрыятызм Скірмунтаў дапаўняўся беларускім. Найбольш поўна і яскрава ён выявіўся ў асобе Рамана Скірмунта, аднаго з заснавальнікаў Беларускай Народнай Рэспублікі. «У свядомасці Рамана Скірмунта краёвы патрыятызм і адчуванне кроўнай блізкасці з мясцовым людам дапаўняецца пачуццём беларускасці», — піша Алесь Смалярчук. Дух беларускасці, ліцвінскасці быў характэрны, трэба думаць, не толькі для аднаго Рамана Скірмунта. Варта згадаць і Караліну Скірмунт, якая выхоўвала Марыю Радзевіч на беларускім фальклоры. Таму ёсць усе падставы сцвярджаць, што беларуская мова не была чужой у палацах Скірмунтаў, хоць яны і далучалі сябе да польскай культуры. Думаецца, што не чужой была беларуская мова і ў сям'і Радзевічаў, што яе ведала Марыя. На такі роздум наводзіць аповесць «Давайціс», напісаная ў 1888 г. 25-гадовай пісьменніцай.

З часам Марыя Радзевіч будзе лічыць сваёй радзімай Польшчу і ўсведамляць сябе прадстаўніцай польскіх уладаў на «крэсах усходніх», выконваць, на яе думку, гістарычную місію ў гэтым

краі — умацоўваць тут польскасць. Асаблівы размах гэта дзейнасць набыла пасля сумна вядомага Рыжскага дагавора, калі Расія без удзелу Беларусі аддала Польшчы амаль палову этнічных беларускіх земляў, у тым ліку і Палессе. Дзейнасць Марыі Радзевіч з 1921 па 1939 гг. мела выразны польскашавіністычны характар, які яе сваяк Раман Скірмунт лічыў «аднолькава пагібельным і для лёсу палякаў у Беларусі і Літве, і для лёсу ўсяго краю».

Грамадская дзейнасць пясняркі з Грушава на Палессі выразна супрацьстаяла нацыянальна-вызваленчаму руху, які ахапіў усю Беларусь, у тым ліку і Кобрыншчыну. Паказальна, што калі польскія ўлады пачалі масіраваны наступ на нацыянальна-вызваленчы рух, калі была разгромлена Грамада, калі закрываліся беларускія і ўкраінскія школы на Палессі, хаты-чытальні, бібліятэкі, калі тысячы беларусаў былі кінуты ў астрогі, то Марыя Радзевіч імкнулася стварыць у самой Польшчы грамадскую думку не пра задушэнне беларускай культуры на Палессі, а польскай. Яна арганізоўвала сходы, давала інтэрв’ю, якія змяшчаліся пад выразна тэндэнцыйнымі загалоўкамі — «Марыя Радзевіч б’е трывогу», «Польская культура на крэсах пад пагрозай», «Голас грамадзянкі пра справы на ўсходніх крэсах». На жаль, прыходзіцца гаварыць, што гэты голас не быў аб’ектыўным, а зводзіўся да аднаго — пашырэння і ўмацавання польскасці ў Заходняй Беларусі.

Гэтыя выступленні ў друку пісьменніцы з Палесся былі грамадскай падтрымкай уладам, каб узмацніць паланізацыю краю. Школьнае кіраўніцтва ў Варшаве стала накіроўваць на «крэсы ўсходнія» настаўнікаў з Польшчы. Іх місія тут — несці беларусам вялікую польскую культуру, не пытаючыся ў тых, каму неслі, ці хочуць яны яе браць, ці патрэбная такая яна ім. Па ўсёй Польшчы збіраецца літаратура і пасылаецца ў розныя мясціны Беларусі і Украіны. Асабліва шмат кніжак ішло на адрас Марыі Радзевіч у Грушава. «Што да зместу, то на нашы крэсы варта прысылаць кнігі, — чытаем у адным лісце пісьменніцы, адрасаваным у Варшаву, — такія, што ўмацоўваюць тут польскасць». Старыя людзі з Гарадца прыгадваюць, што ў іх мястэчку перад вайною быў пабудаваны хедэр — школа для яўрэйскіх дзяцей, на якім вісела дошка з падзякаю Марыі Радзевіч за дапамогу ў яго ўзвядзенні. На жаль, даводзіцца канстатаваць, што ў людской памяці не захавалася такіх фактаў, каб пісьменніца спрабавала дапамагчы беларусам ці ўкраінцам адкрыць школы на роднай мове, бо гэтага не было.

Марыя Радзевіч шмат надзей і спадзяванняў звязвала ў плане паланізацыі Палесся з маламаёмаснай шляхтай і асаднікамі. Яна разгарнула шырокую дзейнасць, каб арганізаваць іх у пэўны саюз. З гэтай мэтай праводзіла з’езды, мітынгі. Статут саюза ўтрымліваў

выразныя антыбеларускія і антыўкраінскія ідэі, што нават палескі ваявода доўгі час не даваў згоды на ўтварэнне такога саюзу і матываваў тым, што гэта ўскладніць сітуацыю ў краі, створыць напружанасць. Стрымлівалі імпэт грушаўскай гаспадыні нават улады Варшавы, аднак яна не супакоілася, пакуль не дамаглася свайго. У 1938 г. такі саюз быў створаны, і Марыя Радзевіч стала яго ганаровым членам. Успрымала гэты саюз як бастыён польскасці на «крэсах». Невыпадкова, што юбілей яе літаратурнай дзейнасці ў 1938 г. святкаваўся пад дэвізам «Паўвеку на стражы крэсаў усходніх». У лісце, датаваным тым самым 1938 годам, да свайго прыяцеля пісала: «Мы тут, на крэсах, салдаты справы польскай...».

Сапраўды, у 30-я гады Марыя Радзевіч зблізжаецца з вайскоўцамі, раскватараванымі ў Кобрыне, часта наведвае іх, выступае перад імі як абаронцамі тых пазіцый, за якія яна змагалася. Яе нават залічылі салдатам 83-га пяхотнага палка і выдалі адпаведны дакумент. Гэта быў дарагі для Марыі Радзевіч дакумент, бо яна наказвала Ядвізе Скірмунт, калі памрэ, пакласці ў труну.

Марыя Радзевіч выхоўвалася ў любові і пашане да Бога. Належала, як і большасць шляхты ў былым Вялікім княстве Літоўскім, да каталіцкай канфесіі. Жыла і працавала сярод праваслаўных. У былой Расійскай імперыі праваслаўе не толькі падтрымлівалася ўрадам, але і гвалтоўна насаджалася сярод беларусаў, дзе на той час было шмат і уніятаў. Згодна з праграмаю русіфікацыі краю многія касцёлы адбіраліся ў католікаў і іх launcherператваралі ў праваслаўныя храмы.

Патронам католікаў на Берасцейска-Пінскім Палессі быў вядомы езуіцкі місіянер Андрэй Баболя, які ў XVII стагоддзі акаталічваў Палессе і які быў па-зверску замучаны казакамі ў час вядомых казацкіх паўстанняў той пары. Пазней Андрэй Баболя быў кананізаваны і далучаны да ліку святых. Пра місіянерскую дзейнасць Баболі і яго смерць Марыя Радзевіч ведала з дзяцінства з вуснаў сваёй бабулі па бацьку. Таму, трэба думаць, уражваў Марыю Радзевіч пакутніцкі і ахвярны арэол касцёла. Нельга не ўлічваць і таго, што касцёл у кансалідацыі палякаў, у пашырэнні польскасці на ўсход заўсёды займаў самую актыўную пазіцыю. Таму і Марыя Радзевіч шмат рабіла, каб актывізаваць дзейнасць касцёла на Кобрыншчыне. Як толькі ў сувязі з рэвалюцыяй 1905—1906 гг. царскія ўлады дазволілі некаторую свабоду сумлення на землях Вялікага княства Літоўскага, пісьменніца ў грушаўскім двары ўзводзіць невялічкую каплічку. Марыя Радзевіч прымала непасрэдны ўдзел у вяртанні касцёла ў Гарадцы католікам, уласнаручна пераносіла праваслаўнае начыненне ў царкву. Грушаўская гаспадыня выдаткоўвала грошы на рамонт касцёла і яго аднаўленне пасля польска-савецкай вайны.

У 30-я гады Марыя Радзевіч прыкладала шмат намаганняў, аказвала і матэрыяльную падтрымку, каб пабудаваць касцёл у Антопалі і каб ён насіў імя Андрэя Баболі. Яе намаганні не былі марнымі. Кіраўніцтва ордэна езуітаў пераслала сюды рэліквіі былога палескага місіянера. У 1939 г. касцёл у Антопалі быў узведзены.

Аб’ектыўна дзейнасць Марыі Радзевіч супрацьстаяла нацыянальным сілам, успрымалася імі як варожая. Паказальна, што антынародная сутнасць дзейнасці Марыі Радзевіч разумелася добра не толькі тымі, хто займаўся нацыянальна-асветнай і рэвалюцыйнай дзейнасцю, але і людзьмі, далёкімі ад такой дзейнасці. Былы вучань польскай Кобрынскай гімназіі, цяпер доктар медыцынскіх навук прафесар Васіль Васільевіч Зарэцкі на маё пытанне пра Марыю Радзевіч адказаў, не задумваючыся: «Яна акаталічвала і апалячвала Палессе». Трэба ўлічыць, што Марыя Радзевіч была членам апякунскай рады гэтай гімназіі. Вучні, у тым ліку і В. В. Зарэцкі , наведвалі Грушава. Таму ў 1939 годзе былыя падпольшчыкі, якія прыйшлі да ўлады, усё зрабілі, каб пазбавіцца ад Радзевіч. Пісьменніцу і Ядвігу Скірмунт адвезлі ў Кобрын пад выглядам, быццам туды яе патрабуюць раённыя ўлады. Калі высветлілася, што гэта не так, вярнуцца ў Грушава пісьменніца не захацела, бо ведала, што гэта небяспечна. Яна бачыла, як чырвонаармейцы палілі яе бібліятэку, як мясцовыя так званыя рэвалюцыйна настроеныя актывісты рабавалі маёнтак, як зневажалі яе і Ядвігу Скірмунт, хоць ім на той час было далёка за семдзесят гадоў. Сяброўкі накіравалася ў Брэст. Затым усякімі праўдамі і няпраўдамі Марыі Радзевіч удалося перабрацца ў Варшаву, дзе і загінула ў 1944 г. у час варшаўскага паўстання.

***Марыя Канапніцкая*** (1842—1910)**.** Ацэньваючы творчую спадчыну Марыі Канапніцкай, яе ўклад у сусветную культуру, Янка Купала ў вершы, прысвечаным памяці пісьменніцы, назваў яе «пясняркай народаў», «заступніцай усіх нешчаслівых», «вялікай пясняркай-княгіняй». Выдатны сын беларускага народа прарочыў Марыі Канапніцкай несмяротнасць.

У 1842 годзе ў сям’і адваката Васілоўскага з Сувалак нарадзілася дачка, якой далі імя Марыя. Дзяўчынка з дзяцінства прыахвоцілася да кнігі, бо сям’я Васілоўскіх не была пазбаўлена літаратурных зацікаўленняў. У 70-я гг. сама бярэцца за пяро. Выступае ў прозе і паэзіі, займаецца журналістыкай. Прадметам яе мастацкага асэнсавання стала жыццё сацыяльных нізоў народаў розных нацыянальнасцей. Творы польскай пісьменніцы былі вядомыя на Беларусі яшчэ з пачатку нашага стагоддзя. З той пары яны нязменна карысталіся прыхільнасцю чытачоў, прывабліvalі сваім гуманістычным пафасам.

Марыя Канапніцкая рэдагавала дэмакратычны часопіс для жанчын. Актыўнымі карэспандэнтамі гэтага выдання былі пісьняркі з Беларусі — Эліза Ажэшка і Марыя Радзевіч. Падлеткамі Эліза Ажэшка і Марыя Канапніцкая вучыліся ў вышэйназваным пансіёне ў Варшаве. Пазней падтрымлівалі сяброўскія і прафесійныя кантакты. У 1888 годзе Марыя Канапніцкая гасцявала ў Гародні ў Элізы Ажэшкі. У лісце, адрасаваным сябру, падзеліцца сваімі ўражаннямі пра горад. На жаль, яны горкія і балючыя: «А Гродна — няхай Бог над ім зжаліцца. Той Нёман мог бы плыць аднымі слязьмі, і не было б дзіўна. Людзей тут занадта мала, жыццё тут занадта цяжкае».

У час наведвання Гарадзеншчыны Марыя Канапніцкая разважала пра лёс сваёй Айчыны, пра лёс былой Рэчы Паспалітай. Вельмі паказальныя яе думкі ў вышэйзгаданым лісце пра будучыню народаў Вялікага княства Літоўскага: «Тое, што там народзіцца калісьці ў народным асяроддзі, не будзе Польшчаю ці Літвою, а будзе Беларуссю. Гістарычныя рысы час і няволя выгрызуць, этнаграфічныя ж рысы астануцца». Такім чынам, яшчэ ў 1888 годзе, калі ледзьве тлела ідэя беларускага шляху, Марыя Канапніцкая верыла ў яго перспектыву, а галоўнае — успрымала адраджэнне Беларусі як зусім нармальную з'яву.

У наступным 1889 годзе Марыя Канапніцкая адгукнецца на запрашэнне нашай зямлячкі Марыі Радзевіч і наведае маёнтак Грушава (цяпер Кобрынскі раён). Гаспадыня пазнаёміла госцю са сваім краем. Марыя Канапніцкая наведала Пінск, іншыя палескія мястэчкі. У лістах у Варшаву дзялілася першымі ўражаннямі. Яны захапляльныя: «Старонка цікавая, упершыню з ёй знаёмлюся. Падабаецца вельмі. Пінск і Піншчыну трэба аглядаць вясною, калі шырока і далёка разліваецца вада. Але і цяпер, восенню, цікавіць мяне гэтая ваколіца. Ваколіца і людзі. Край змяніўся, пазбавіўся былых прыкметаў, вады стала менш, лясы высеклі, значная частка земляў — у руках рускіх».

У сваіх лістах з Палесся занатоўвае сваё ўражанне ад пінчука, спрабуе акрэсліць яго знешні выгляд і адметнасці характару: «Пінчук заўсёды застаецца тым самым, тыпова худы, чарнявы, брудны, фанабэрысты і бедны. Заўсёды на плячах ён носіць тую ж самую торбу з куском чорнага хлеба і салёным агурком, заўсёды пляце лапці і апранаецца ў саматканую світку».

Палессе пакінула значны след у сэрцы і памяці Марыі Канапніцкай і стала прадметам мастацкага асэнсавання ў яе творах. Да іх ліку належыць адно з лепшых апавяданняў — «З узломам», апублікаванае ў 1892 г. Падзеі, апісаныя ў творы, адбываюцца ў Пінску. У гэтым апавяданні з асаблівай выразнасцю выявіўся гуманістыч-

ны талент пісьменніцы. Перад чытачом паўстае карціна галечы і бяспраўя палескага селяніна, абабранага да ніткі. Лёс палешукоў, якія шукалі справядлівасці, у судзе нікога не цікавіць, бо ні прыбытку, ні пікантных інтымных падрабязнасцей яны не маглі даць. Сялян проста не заўважалі.

Каб больш выразна раскрыць антыгуманнасць дзяржаўнай сістэмы, больш глыбока выявіць сваю пазіцыю, Марыя Канапніцкая ў аснову свайго апавядання кладзе выключную жыццёвую сітуацыю. Дзеянне ў апавяданні «З узломам» адбываецца ў галодны год на Піншчыне, калі, па сведчанні аднаго з герояў твора, «хлеба няма ні ў кога. Год быў цяжкі, ураджай кепскі, бульба пагніла, авёс счарнеў, ячмень засох, не вырасшы, нават лебяда не ўдалася, была горкай і чарвівай».

Эмацыянальнае ўздзеянне апавядання ўзмацняецца за кошт таго, што яго сюжэт — суд над пяццю зняможанымі зgаладалымі дзецьмі, якія адчынілі чужую клець і з’елі тры сыры і фунт масла. Усімі мастацкімі сродкамі пісьменніца пераконвае чытача, што дзеці вартыя шкадавання, міласэрнасці, а не асуджэння. Сваю сімпатыю яна выяўляе выразна. Чытач знаёміцца з партрэтамі гэтых дзяцей. Вось «злачынцы» паўсталі перад суддзямі. «Хлапчукі — нізкарослыя, схуднелыя, апалёныя вятрамі і сонцам. Старшаму з іх можна было б даць гадоў чатырнаццаць, малодшаму — дзесяць, а то і меней. Астрыжаныя пад гаршчок, валасы колеру даспелых канопляў ці жытняй саломы, закрывалі ілбы, упалыя шчокі, спалоханыя, але цікаўныя вочы. Апрануты яны былі ў зрэб’е ці старэнькія, палапленыя кажушкі; а на малодшым была толькі ніжняя кашуля, выпушчаная паверх перавязаных вышэй шчыкалатак штаноў».

Дзеці расказваюць пра сваё жыццё. Усцім прыгадвае, што з той пары, як ён апошні раз еў хлеб, прайшлі не дні, прайшлі месяцы, шмат месяцаў. У пераліку недаравальных чалавечых грахоў Біблія называе крыўдзіць сірату і ўдаву. Марыя Канапніцкая, трэба думаць, невыпадкова падкрэслівае, што — Усцім — адзіны сын удавы, а Клім — дык і ўвогуле круглы сірата, якога прыгрэлі добрыя людзі. І гэтых дзяцей засудзяць. Звычайную дзіцячую правіннасць спачатку назавуць злачынствам, а затым злачынствам з узломам, якое па законах таго часу належала да ліку самых цяжкіх і за якое нават малалетнія дзеці караліся турэмным зняволеннем на два гады.

Марыя Канапніцкая даследуе прычыну, чаму так здарылася. Усім зместам апавядання яна пераконвае чытача, што паміж суддзямі і падсуднымі — сцяна. У аснове кампазіцыі апавядання — кантраст. З аднаго боку, раскоша, багатае ўбранства залы суда, расшытыя золатам, аздобленыя лентамі і ўзнагародамі вопраткі суд-

дзяў, іх жаданне як найхутчэй закончыць гэтую нудлівую справу і вярнуцца да жыццёвых прывычных асалодаў. З другога — галеча, голад, мара і надзея з'есці хоць маленечкі кавалачак хлеба. З аднаго боку, улада, упэўненасць, што ты варочаеш законам, з другога — поўнае бяспраўе.

Самі па сабе суддзі — нядрэнныя людзі, але ў цэлым яны нясуць зло, жорсткасць. Мяккі, добразычлівы пракурор называе дзіцячую правіннасць злачынствам з узломам, а потым як быццам і шкадуе, але зло зроблена: «Бачыць Бог, не хацеў! Вось што атрымалася! Ну і ну! Вось што значыць прывычка!» Суддзяў не хвалюе лёс палешукоў, іх праблемы. Адны спяшаюцца дадому, другія імкнуцца пацешыць сваё прафесійнае самалюбства. Усё тут ім чужое, далёкае і нецікавае. Адзін з усіх, каму неабыякавы лёс падсудных, — гэта адвакат. Хоць пісьменніца толькі гаворыць, што адвакат — сялянскі сын і што ён ведае жыццё вяскоўцаў, асабліва ў неўрадлівыя гады, аднак найхутчэй ён беларус. Пра гэта сведчыць і веданне ім беларускай мовы, звычаяў, таго, што католікі маюць некалькі імёнаў. Адвакат усімі сіламі імкнецца адкрыць і паказаць суддзям, як жыве паляшук, як жывуць палескія дзеці. На жаль, гэта яму не ўдаецца. Яго намаганні аказаліся марнымі.

У 1892 годзе пяснярка пачне працу над адным з буйнейшых сваіх твораў — паэмай «Пан Бальцар у Бразіліі», прысвечанай праблеме эміграцыі. У канцы XIX — пачатку XX стагоддзя яна набыла масавы характар сярод палякаў, украінцаў, беларусаў. Сотні тысяч сялян пакідалі радзіму і вербаваліся за акіян. Дарога гэтая была пазначана тысячамі смерцяў: гінулі на параходзе, паміралі сярод дзікай прыроды Паўднёвай і Паўночнай Амерыкі, многія пасля велізарных страт вярталіся на радзіму. Масавая эміграцыя за мяжу ўстрывожыла грамадскасць. Многія пісьменнікі звярнуліся да гэтай тэмы. Варта згадаць апавяданне У. Г. Караленкі «Без языка», «Эмігранцкую песню» Максіма Багдановіча, верш Міколы Засіма «Парагвай». Марыя Канапніцкая стварыла на гэтую тэму буйное эпічнае палатно «Пан Бальцар у Бразіліі». Паэма была закончана ў 1906 годзе і цалкам надрукавана ў 1910 годзе. Гэта была лебядзіная песня Марыі Канапніцкай.

Традыцыйна лічыцца, што паэма «Пан Бальцар у Бразіліі» прысвечана трагедыі польскага сялянства, вымушанага пакідаць радзіму, шукаючы на чужыне шчасця і долі. Такое меркаванне патрабуе ўдакладнення. У вышэй цытаваным лісце з Гародні Марыя Канапніцкая вяла гаворку пра перспектывы беларускага адраджэння і дала надзвычай трапнае і дакладнае вызначэнне дзвюх радзімаў для насельніцтва былой Рэчы Паспалітай — гістарычнай і этнічнай. Для часткі яе насельніцтва — гістарычнай радзі-

мы — этнічнай (для палякаў) будзе Польшча, для другой часткі (беларусаў) — Беларусь, для трэцяй (украінцаў) — Украіна, для чацвёртай (літувінаў) — Літва. У паэме «Пан Бальцар у Бразіліі» Марыя Канапніцкая апавядае пра лёс сялян з этнічнай Польшчы і з этнічнай Беларусі. Ёсць усе падставы сцвярджаць, што эпічнае палатно пісьменніцы распавядае пра трагедыю не толькі польскіх, але і беларускіх сялян-эмігрантаў.

Сюжэт паэмы «Пан Бальцар у Бразіліі» складае трагічны шлях сялян за акіян, змаганне з бразільскімі лясамі і вяртанне дадому. Паэма — гэта патрыятычная песня паэткі. Для Марыі Канапніцкай Айчына — гэта Польшча. Пісьменніца пераконвае чытача, што для чалавека, дзе б ён ні жыў і кім бы ён ні быў, расстанне з радзімаю не можа не параніць душу, што гэтая рана заўсёды будзе балець і крывавіць.

Большасць герояў паэмы «Пан Бальцар у Бразіліі» з Падляшша, дзе спрадвеку жыў і беларускі этнас. Падляшша ўваходзіла ў Вялікае княства Літоўскае. Апавяданне ў творы вядзецца ад імя пана Бальцара. Праз яго ўспрыманне паказваецца ўсё, што становіцца прадметам мастацкага асэнсавання. Пан Бальцар — выразнік ідэалаў Марыі Канапніцкай. Герой-апавядальнік «родам з падляшскай хаты», як і героі-уніяты. Вядома, што сярод этнічных палякаў уніятаў не было і быць не магло. Палякі заўсёды належалі да каталіцкай канфесіі. Ёсць у паэме «Пан Бальцар у Бразіліі» герой Астапчук Луць з Лагішына, якога да польскага сялянства ўжо зусім не залічыш.

Адарваныя ад радзімы, героі Марыі Канапніцкай думкамі, успамінамі, сэрцам жывуць у родных сваіх мясцінах, дзе нарадзіліся. З вуснаў пана Бальцара найчасцей прыгадваецца Буг, а таксама некаторыя паселішчы па абодва яго бакі. Часам думка героя сягае далей, у глыб Берасцейшчыны. І тады ва ўяўленні героя паўстае Пружаншчына, Белавежская пушча. Тыя старонкі паэмы «Пан Бальцар у Бразіліі», якія прысвечаны Астапчуку Луцю, стракацяць назовамі Палесся. Згадваецца Пінск, Лагішын, канал Агінскага, пінскія балоты, рака Мухавец. Як бачым, геаграфічныя назовы родных мясцін многіх герояў паэмы — яшчэ адно сведчанне таго, што гэты твор і пра беларускі народ, які разам з народам-суседам вымушаны быў шукаць шчасця-долі на чужыне.

Усім зместам твора і яго будовай пісьменніца сцвярджае, што чалавек знітаваны з той зямлёй, дзе ён нарадзіўся, дзе магілы яго продкаў. Разрыў гэтых сувязей не можа быць простым нават і тады, калі лёс на чужыне складаецца ўдала. Настальгія ўзмацняецца, становіцца невыноснай, ператварае жыццё ў пакуты, пазбаўляе жыццястойкасці, калі надзеі на лепшае на чужыне не спраўдзяцца.

Ва ўспамінах, уяўленнях, у сэрцы нашых землякоў, герояў паэмы «Пан Бальцар у Бразіліі», паўстаюць дарагія іх сэрцу родныя мясціны, прывычны побыт, звычаі, святы і будзённыя дні. У вусны пана Бальцара, героя-апавядальніка, Марыя Канапніцкая ўкладвае свае запаветныя ідэалы, свае ўяўленні пра сувязь чалавека з радзімаю. Пісьменніца не шкадуе светлых фарбаў, яркіх характарыстычных эпітэтаў і параўнанняў, каб перадаць улюбёнасць сваю і герояў паэмы ў родны край. У памяці паўстаюць розныя поры года на радзіме, прыгадваюцца звяры і птушкі, родны Буг.

Асабліва паэтычна і пераканальна паказвае пісьменніца непарыўнасць чалавека з роднай зямлёй на вобразе лагішынца Астапчука Луця. У далёкай Бразіліі ён выбірае для паселішча такую мясціну, якая б хоць крыху нагадвала роднае Палессе. Герой-апавядальнік разумее пачуцці таварыша па няшчасці, усведамляе, што гэта агульналюдскія памкненні: чалавек заўсёды ўладкоўвае жыццё так, як рабілі гэта продкі, імкнецца наблізіць яго да таго ідэалу, які атрымаў у спадчыну. Пісьменніца паказвае, што ў нашага земляка з Лагішына вастрэйшае, мацнейшае жаданне, чым у іншых герояў паэмы, на далёкай чужыне ўладкаваць жыццё так, як гэта было дома. Страціць для Луця зусім сваю радзіму — значыць у нечым перастаць быць самім сабою, здрадзіць сабе. Вернасць сабе (пераканальна паказвае пісьменніца) была ў вялікай пашане не толькі ў Астапчука, але і ў лагішынцаў увогуле.

Марыя Канапніцкая ў паэме «Пан Бальцар у Бразіліі» даследуе прычыны эміграцыі. Большасць герояў, хто наважыўся пакінуць радзіму, вядуць гаворку аб прычынах такога лёсавызначальнага ў сваім жыцці кроку. Гэтыя простыя апавяданні ствараюць дастаткова выразную карціну сацыяльнага і рэлігійнага бяспраўя народа, якое чынілася ўрадам царскай Расіі. Спынімся ў канкрэтным выпадку толькі на лёсе сялян з этнічнай Беларусі.

Уражвае сваёй трагічнай безвыходнасцю апавяданне Луця Астапчука. У лагішынцаў адбіраюць іх землі, якія ім належылі адвеку. І хоць яны маюць дакументы, дадзеныя самім каралём шмат стагоддзяў таму назад, адстаяць сваё права на спрадвечную спадчыну не здолелі. Перад чытачом паўстаюць моцныя характары, здольныя на выпрабаванні і ахвяры, абы толькі адстаяць сваё законнае права. Марыя Канапніцкая паказвае, што ў лагішынцаў і раней былі канфлікты з панамі Агінскімі, але тады закон быў на іх баку. Цяпер, калі беларускія землі, асабліва пасля задушэння паўстання 1863—1864 гг., сталі ахвотна распрадаваць новым гаспадарам, калі чынілася беззаконне, лагішынцы прайгралі справу. М. Канапніцкая выкарыстала сапраўдны факт, які змясціў у свой час часопіс «Исторический вестник» у № 12 за 1886 год.

Лагішынцы імкнуліся абысці кручкатвораў, якіх высмеяў яшчэ В. І. Дунін-Марцінкевіч у сваёй «Пінскай шляхце», спадзяваліся, што знойдуць праўду ў судзе, аднак так нічога і не дабіліся. Змаганне палешукоў ішло не толькі з-за зямлі, але і з-за волі. «Местачкоўцы мы, люд вольны, уладальнікі зямлі спрадвеку, яшчэ з дахрысціянскіх часоў», — з годнасцю заўважае Астапчук і апавядае, як лагішынцам не раз даводзілася адстойваць сваё права на гэтую зямлю, на сваю годнасць і незалежнасць грамадою, вернасцю адзін аднаму і традыцыям бацькоў. Луць ганарыцца тым, што ўладам усё ж такі не ўдалося зламаць іх.

У апісанні знешняга выгляду Астапчука ўгадваюцца тыя назіранні, якія вынесла Марыя Канапніцкая з паездкі па Піншчыне. Запамінаецца лёгкая статная фігура, світа, падпяразаная поясам, нязменная люлька ў зубах, фізічная сіла. Апынуўшыся ў новых умовах, ён застаецца самім сабою, ніколі і нідзе не падладжваецца пад нікога.

Асаблівае шкадаванне выклікаюць сяляне-уніяты з-пад Буга. Прасочваючы лёс гэтых вобразаў, выразна ўсведамляеш, як уніяты станавіліся ці праваслаўнымі, ці каталікамі і што чакала тых, хто заставаўся ці хацеў застацца верным сваёй канфесіі. Марыя Канапніцкая эскізна малюе дзікае разбурэнне уніяцкіх святыняў, падае трагічныя лёсы асобных прадстаўнікоў гэтай канфесіі. У адных дзеці пахаваны не на кладах, а ў рове, хоць яны і хрышчаныя, але хрышчаныя ў полі; другія бралі вянец у лесе, як звяры; трэція плацілі добры хабар, каб іх дзяцей не запісалі ў праваслаўе; чацвёртыя ішлі за веру ў турмы. Праз гэта прайшлі героі паэмы «Пан Бальцар у Бразіліі». Выпрабаванні не зламалі іх.

Адсутнасць свабоды сумлення, рэлігійны прыгнёт — гэта яшчэ адна прычына эміграцыі беларусаў. Таму уніяты раскіданы сотнямі тысяч па свеце. Шмат іх у Бразіліі, не менш і на еўрапейскім кантыненце за межамі Радзімы. Хоць у іх яшчэ моцная памяць пра Літву, пра Касцюшку, але частка іх забывае веру і звычаі бацькоў. Пісьменніцы якраз імпануе вернасць чалавека сваёй веры. Невыпадкова Бальцар, паслухаўшы сціплыя запатрабаванні уніятаў у далёкай Бразіліі, якія зводзіліся толькі да права мець свабоду сумлення, маліцца ў той святыні і па тым звычаі, па якім рабілі гэта іх продкі, называе іх сапраўднымі святымі, хоць і без німба над галавою.

Паэма Марыі Канапніцкай «Пан Бальцар у Бразіліі» ўзнімае актуальныя праблемы нашага часу. Прарочымі аказаліся словы Янкі Купалы пра несмяротнасць думак пясняркі.

***Эдвард Пузына*** (1878—1949). Недалёка ад Воўчына размяшчаўся маёнтак Грымяча, уладальнікам якога ў другой палавіне

XIX стагоддзя быў Юзаф Пузына, прадстаўнік аднаго са старажытных родаў Вялікага княства Літоўскага. Сядзіба ўражвала сваім харастовам. Невялікі, але вытрыманы ў класічных формах дом акаляў цудоўны парк. Тут у 1878 г. нарадзіўся хлопчык, якога назвалі Эдвардам. Ён з часам стане вядомым гісторыкам і пісьменнікам. У Грымячай прайшлі дзіцячыя гады Эдварда Пузыны. Сюды спяшаўся на канікулы, калі вучыўся ў Варшаве, дзе атрымаў сярэднюю адукацыю, закончыўшы ў 1898 г. гімназію. На гэты час Эдвард Пузына быў ужо ўладальнікам Грымячай, якая яму адышла пасля бацькавай смерці.

На перыяд навучання ў гімназіі прыпадае цікавасць Эдварда Пузыны да гісторыі і літаратуры. Для паглыблення сваіх ведаў у гэтых галінах культуры ён паехаў у Швейцарыю. Тут прайшло каля дваццаці гадоў жыцця нашага земляка з Грымячай. Спачатку вучыўся ў Фрынбурскім універсітэце, дзе атрымаў вучоную ступень доктара філасофіі. У Швейцарыі Эдвард Пузына ажаніўся. У яго гадавалася чацвёра дзяцей.

Навуковыя зацікаўленні нашага земляка звязаны з геральдыкай. Ён даследаваў паходжанне і палітычную ролю князёў Вялікага княства Літоўскага. Навуковая гіпотэза Эдварда Пузыны выклікала шырокі розгалас сярод вучоных і прынесла яму еўрапейскую вядомасць. На пачатак XX ст. прыпадае і актыўная літаратурная творчасць пісьменніка з Грымячай. Яго першыя вершы былі апублікаваны ў год заканчэння гімназіі (1898) у розных варшаўскіх выданнях. Пазней звяртаўся і да прозы. У 1905 г. выйшаў першы зборнік Эдварда Пузыны «Агні», у якім дамінавалі тыповыя праблемы, характэрныя для юнацтва. Праўда, у выданні было змешчана некалькі сатырычных вершаў.

У час Першай сусветнай вайны, застаючыся ў Швейцарыі, працаваў у Цэнтральным польскім агенцтве ў Лазане, а пазней — у Польскім Народным Камітэце, які фактычна дэкляраваў аднаўленне дзяржаўнасці Польшчы. Пад гэтым актам стаіць імя нашага земляка. Вайна актывізавала творчую дзейнасць пісьменніка з Грымячай. Выходзяць яго творы: «Паэма сённяшняга дня», «З пылам брацкая кроў», «Кракаўскае вяселле» і інш. Іх пафас патрыятычны. Эдвард Пузына прадоўжыў класічныя традыцыі польскай рамантычнай паэзіі. З сучаснікаў яму асабліва быў блізкім Станіслаў Выспянскі. Да яго «Вызвалення» непасрэдна далучаецца твор нашага земляка «Конрад (Народная трагедыя ў трох актах)».

У 1919 г. Эдвард Пузына вяртаецца на радзіму, пасяляецца ў Варшаве і працуе ў Міністэрстве замежных спраў. Кар’ера чыноўніка яго не задавальняла. Пісьменнік пачынае выдаваць напаўафіцыйны часопіс «Messager Polonais» (1925), з’яўляючыся

яго рэдактарам. Вяртаецца да навуковай дзейнасці, становіцца членам рэдкалегіі «Геральдычнага штомесячніка», працягвае працу, звязаную з вывучэннем гісторыі Вялікага княства Літоўскага. У 1922 г. апублікаваў у Варшаве том сваіх вершаў «Па дарозе», у які ўвайшлі творы, напісаныя ў 1895—1921 гг. У гэтай кнізе асаблівай лірычнасцю, незвычайнай паэтычнасцю вылучаецца цыкл «З літоўскіх струнаў», у аснове якога ўражанні паэта, звязаныя з Грымячай, яе наваколлем, са звычаямі краю, з блізкімі і дарагімі аўтару людзьмі.

У пачатку 1930-х гг. Эдвард Пузына вырашае прадаць маёнтак у Грымячай з усімі землямі ў 731 дзесяціну. Ён у 1933 г. звальняецца з працы і пераязджае ў Вялікую Бераставіцу на Гарадзеншчыне і цалкам аддаецца навуковай і літаратурнай дзейнасці: пісаў вершы і прозу, шмат перакладаў, асабліва французскіх аўтараў, а таксама п’есы Г. Ібсена.

Другая сусветная вайна застала пісьменніка ў Варшаве. Тут ён перажыў нямецкую акупацыю, і толькі пасля паўстання 1944 г. вывезены са сталіцы ў Чанхстахова. З 1945 г. узначальваў аддзел культуры ў гарадскім мясцовым магістраце. Перажытае ў час акупацыі патрабавала выйсця. Эдвард Пузына ўзяўся за напісанне мемуараў, прысвечаных Марыі Радзевіч, фактычна сваёй зямлячцы. Аўтарка «Давайціса» амаль усё жыццё пражыла на Берасцейшчыне. Кніга пісьменніка з Грымячай «Мае ўспаміны пра Радзівічуўну» была апошняй у творчай яго біяграфіі. З гэтай пісьменніцай Эдвард Пузына пазнаёміўся ў Варшаве ў 1942 годзе.

Наш зямляк памёр у 1949 г. у Чанхстахове, там і пахаваны.





# Літаратура пачатку XX стагоддзя

Як гаварылася вышэй, паражэнне паўстання 1863—1864 гг. засведчыла, што шляхта выканала сваю гістарычную ролю і не стала той сілай, якая акрэслівае нацыянальную ідэю беларускага народа і можа яе рэалізаваць. Сцяг беларускасці падхопліваюць нарадавольцы, многія з якіх былі таксама выхадцамі са шляхты, а пазней беларускую нацыянальную ідэю развівае і рэалізуе беларуская інтэлігенцыя. Гэта звязана з пачаткам XX ст., з дзейнасцю той кагорты нацыянальных інтэлігентаў, якіх мы сёння называем адраджэнцамі і якія развівалі беларускую літаратуру, даводзячы яе не толькі да нацыянальнага, але сусветнага чытача.

Той разгон, які набываў беларускі адраджэнскі рух, быў, аднак, перапынены. Пачалася Першая сусветная вайна, затым адна за адной рэвалюцыі. Зноў на тэрыторыі Беларусі вялася вайна за чужыя інтарэсы. Зноў вынішчаліся культурныя і матэрыяльныя набыткі, гінулі людзі, рассейваліся па свеце нацыянальныя сілы, якія дамагаліся дзяржаўнасці Беларусі. Прымусовае бежанства беларусаў на Усход прывяло да гібелі сотняў тысяч нашых землякоў, чыімі целамі ўсеяны рускія дарогі, і магілы якіх невядомыя.

## Беларускія пісьменнікі

Пачынаючы з пачатку XX стагоддзя нацыянальны сцяг у Беларусі ўзнялі грамадскія і культурныя дзеячы, якіх называюць адраджэнцамі. Адраджэнне — гэта рух, тэндэнцыя за сцверджанне беларускай ідэі. У кагорту адраджэнцаў уваходзілі людзі розных палітычных арыентацый. Сярод іх былі праваслаўныя і каталікі, прадстаўнікі іншых канфесій і атэісты, людзі разнастайных навуковых, культурных зацікаўленняў. Адраджэнцамі былі інтэлігенты, рабочыя, сяляне. Яднала іх тое, што яны працавалі дзеля адраджэння самастойнага

жыцця беларускага народа, вызначэння яму годнага месца ў сусветнай супольнасці. Да ліку тых адраджэнцаў, каго ўзгадвала наша зямля, належыць ***Уладзіслаў Галубок (Голуб)*** (1882—1937).

1882 г. даў нашаму народу, нашай літаратуры першага народнага паэта Янку Купалу, першага народнага пісьменніка Якуба Коласа і першага народнага артыста Уладзіслава Галубка. Апошні, на жаль, не так ганаруецца нашым народам, бо ён трапіў пад калясо рэпрэсавальнай машыны, якая дзейнічала ў 30-я гады мінулага стагоддзя ў Беларусі. А некалі яго імя ведалі ці не ў кожнай глухой вёсцы БССР і ўспрымалі як найвялікшае свята, калі паказваліся вазы з тэатральным начыненнем, а каля іх крочыў Галубок і яго галубяняты, як любоўна называлі ў народзе калектыў Беларускага вандроўнага тэатра.

Акцёр і рэжысёр, жывапісец і пісьменнік, грамадскі дзеяч і арганізатар тэатра, унук паўстанца, які стаў пад сцягі Кастуся Каліноўскага і змагаўся пад Мілавідамі, Уладзіслаў Галубок нарадзіўся ў 1882 г. у вёсцы Лясная, якая ў хуткім часе пасля пракладкі Маскоўска-Варшаўскай чыгункі стала станцыяй. Бацька ўладкаваўся на працу памочнікам паравознага машыніста, а дзеці заставаліся пры маці, якая, выконваючы спрадвечную працу сялянкі, спявала дзецям (а іх было шасцёра) песні, расказвала казкі, легенды.

Уладзіслаў найхутчэй не помніў сваю малую радзіму, бо быў немаўлём, калі сям’я Галубка пераехала ў Мінск. Бацька ўладкаваўся на працу слесарам у дэпо. Уладзіслаў вучыўся. Ён спачатку закончыў царкоўна-прыходскае вучылішча, а пазней паступіў у гарадское. Нечакана ў 1895 г. трагічна загінуў бацька. Падлетку патрэбна было не проста ісці на свой хлеб, а дапамагаць маці падымаць на ногі малодшых братоў і сясцёр. Уладзіслаў не цураўся ніякай працы: грузчык на чыгунцы, слесар лакаматыўнага дэпо, прыказчык у гандлёвай лаўцы. Адначасна займаўся самаадукацыяй, каб атрымаць пасведчанне за поўны курс гарадскога вучылішча. Калі Уладзіслаў Галубок працаваў на чыгунцы, ён пазнаёміўся з Альбертам Паўловічам, які працаваў бухгалтарам у адным з чыгуначных упраўленняў. Той і ўвёў здольнага юнака ў літаратурнае асяроддзе. Наш зямляк пачынае пасылаць свае апавяданні ў газету «Наша ніва». Ён заявіў пра сябе пазней за сваіх аднагодкаў Янку Купалу і Якуба Коласа. Першы твор Уладзіслава Галубка датаваны 1908 г. З гэтага часу яго апавяданні сістэматычна друкуюцца ў гэтым выданні, і ў 1913 г. выходзіць зборнік «Апавяданні». Імя пісьменніка з Лясной было заўважана тагачаснай крытыкай. Яго творы ў аглядзе беларускага краснага пісьменства за тры гады з 1911 па 1913 сталі аб’ектам ацэнкі Максіма Багдановіча, які адзначыў гумарыстычную прыроду таленту нашага земляка, жывасць мовы і актуальнасць і значнасць тэмаў апавяданняў.

Жыццё ў губернскім горадзе адкрыла юнаку з вёскі Лясная магчымасць пазнаёміцца з тэатрам, з жывапісам, спортам. Нарадзілася моцнае жаданне авалодаць майстэрствам пэндзля. Уладзіслаў Галубок адкладвае грошы, каб можна было вучыцца маляванню. Юнак бярэ ўрокі ў мінскіх жывапісцаў і пачынае ствараць свае пейзажы. На жаль, на сёння дакладна вядомымі з'яўляюцца нямногія яго карціны: «Раніцай», «Туман», «Сож» і інш. Калі ў 1937 г. мастак з Баранавіччыны быў арыштаваны як вораг народа, яго палотны былі забраны і звезены ў НКУС, там запрасілі мастака, якому было загадана імя аўтара зафарбаваць.

Прырода надзяліла Уладзіслава Галубка рознымі талентамі. Іх рэалізаваць цалкам спрыяла такая рыса яго характару, як незвычайная працавітасць. Пачынаючы з 1917 года, галоўнае месца ў жыцці Уладзіслава Галубка пачынае займаць тэатр. Ён становіцца акцёрам і рэжысёрам Першага беларускага таварыства драмы і камедыі. Недахоп нацыянальнага рэпертуару выклікае неабходнасць самому ўзяцца за напісанне п'есаў. Адна за адной (праўда, у Вільні) выходзяць п'есы нашага земляка: «Апошняе спатканне» (1919), «Суд» (1924), якая была годам пазней выдадзена і ў Мінску.

Пяру Уладзіслава Галубка належыць сорак драматычных твораў на гістарычныя, гісторыка-рэвалюцыйныя, бытавыя сюжэты. Не ўсе яны сёння вядомыя. У апошнім выданні (1983 г.) выбраных твораў, якое падрыхтаваў і напісаў прадмову Сцяпан Лаўшук, іх значыцца 13. Асаблівай папулярнасцю ў тагачаснага гледача карысталіся п'есы творцы з Ляснай «Ганка», «Пан Сурынта», «Пісаравы імяніны», «Культурная цешча», «Душагубы» і інш. У іх уздымаюцца спрадвечныя праблемы дабра і зла. Гэта былі ці то меладрамы, ці то камедыі, у тым ліку і сатырычнага характару.

Творчая актыўнасць Уладзіслава Галубка як пісьменніка, як аўтара вершаў, апавяданняў, п'есаў прывяла яго ў тагачаснае масавае літаратурнае аб'яднанне «Маладняк». Атмасфера, якая панавала ў гэтым аб'яднанні, прынцып пралетарскага авангардызму, якога прытрымліваліся маладнякоўцы, іх лозунг «Са старымі — у рожкі» прывялі да расколу гэтай арганізацыі. Уладзіслаў Галубок пакідае «Маладняк» і ўступае ў «Полымя», сябрамі якога былі Янка Купала, Якуб Колас, Цішка Гартны і інш.

Арганізацыйныя здольнасці нашага земляка, свой погляд на ролю тэатра ў грамадстве, прынцыпы яго дзейнасці былі прычынай таго, што ён стварыў свой тэатральны калектыў — Трупу беларускіх артыстаў пры Беларускім рабочым клубе, які пазней перарос ў Беларускі дзяржаўны вандроўны тэатр (1920—1932). Праца ў гэтым тэатры была зорным часам Уладзіслава Галубка. Яму ўдалося аб'яднаць калектыў аднадумцаў, якія былі гатовыя да нязручнасцей тэатральнага дзейства і нягодаў побытавага характа-

ру, бо ўсё гэта кампенсавалася шчырай захопленасцю, жывой рэакцыяй слухачоў на іх спектаклях і канцэртах. У тэатры працавала ўся сям'я: жонка Ядвіга Браніславаўна і дзеці, а іх у сям'і гадавалася шасцёра (тры дзяўчынкі і тры хлопчыкі). Дарэчы, усе сыны нашага слыннага земляка загінулі ў час Вялікай Айчыннай вайны, абараняючы радзіму. Артыстамі ў тэатры Галубка былі пісьменнікі Васіль Сташэўскі, Міхась Чарот, Алесь Дудар, Іларыён Барашка.

А між тым краіна ўступала ў жахлівы час беззаконня, расправы з нацыянальнай інтэлігенцыяй і сялянамі. Не мінулі яны і Уладзіслава Галубка. Вандроўны тэатр спыняе сваю дзейнасць. Ён быў пераўтвораны ў БДТ-3 са сталай базай дзейнасці ў Гомелі (1932) і згубіў не толькі сваю спецыфіку, але і гледача. На самога Уладзіслава Галубка пачаліся нападкі ў друку, абвінавачванне ў нацыяналізме, у варожасці да савецкай улады. Ён адхіляецца ад кіраўніцтва трупай, фактычна спыняе сваю дзейнасць паэта, апавядальніка, драматурга і пачынае займацца публіцыстыкай і тэатразнаўствам, піша шэраг артыкулаў, прысвечаных дзесяці- і пятнаццацігоддзю Вандроўнага тэатра. Спрабуе ісці на кампраміс з уладамі, піша артыкулы «Формула рэвалюцыі», «За аўладанне бальшавізмам» адпаведна адзіныя ў 1936 і 1937 гг. Лёс Уладзіслава Галубка быў ужо прадвырашаны. У 1937 г. яго арыштавалі і расстралялі. Рэабілітаваны ў 1957 г. Каб схаваць масавую гібель людзей, НКУС фальсіфікаваў час і прычыну смерці. У справе нашага земляка значылася, што памёр ад гіпертанічнага крызу ў 1942 годзе. Пазней была ўстаноўлена прычына смерці, хоць месца расстрэлу і сёння невядомае.

Пасля рэабілітацыі пачалося паступовае вяртанне Уладзіслава Галубка ў гісторыю беларускай культуры. Была выдадзеная яго творчая спадчына: вершы, апавяданні, драматургія, публіцыстыка. Пачалі з'яўляцца асобныя працы, прысвечаныя яго жыццю і творчасці. У Мінску ў Траецкім прадмесці адчыняецца грамадская гасцёўня імя Галубка.

Не забылі пра свайго знакамітага земляка і на Баранавіччыне. Намаганнямі кіраўніцтва раёна і сельсавета ў вёсцы Лясная ўстаноўлены памятны знак. На валуне, які ўзвышаецца на пастаменце, на мурмуровай шыльдзе значыцца надпіс:

**УЛАДЗІСЛАВУ ГАЛУБКУ**
**Выдатнаму грамадскаму дзеячу, драматургу, паэту, акцёру, мастаку ад удзячных нашчадкаў**

| | |
|---|---|
| **Нарадзіўся ў в. Лясная 3 (15). 5.1882 г.** | **Рэпрэсаваны ў 1937 г. 7.3.1942 г.** |

***У. М. Ігнатоўскі*** (1881—1931). Выдатны вучоны-гісторык, грамадска-палітычны дзеяч, педагог і асветнік, арганізатар навукі і адукацыі, першы прэзідэнт АН Беларусі Усевалад Макаравіч Ігнатоўскі быў яшчэ і літаратурным крытыкам. Ён нарадзіўся 19 красавіка 1881 г. у в. Такары. Яго бацька быў на той час настаўнікам Такарскага народнага вучылішча.

Макар Іванавіч Ігнатоўскі паходзіў са старадаўняга шляхецкага роду, але ўжо ў XIX стагоддзі Ігнатоўскія былі сялянамі мястэчка Антопаль на Кобрыншчыне. Такім чынам, родавыя карані першага прэзідэнта АН Беларусі на Берасцейшчыне. Пасля заканчэння Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі яго бацька працаваў у Матыкальскай, а затым Такарскай школах. Тут у яго і нарадзіліся два сыны — Усевалад і Мікола. У Такарах прайшло іх ранняе дзяцінства. Тут бацька арганізаваў хор, у якім спявала ўся сям’я, у тым ліку і маленькія дзеці. Пазней абодва сыны Ігнатоўскіх вылучаліся добрымі здольнасцямі ў спевах, што фіксавалі дакументы пра заканчэнне той ці іншай вучэльні. Макар Іванавіч працаваў старанна, да сваіх абавязкаў ставіўся сумленна, пра што сведчаць шматлікія прэміі Гродзенскай дырэкцыі народных вучылішчаў. Першай такой прэміяй была адзначана арганізацыя вясковага хору. Затым Макара Іванавіча пераводзяць працаваць на Пружаншчыну ў Дубінскую школу. Ён у хуткім часе становіцца псаломшчыкам у мясцовай царкве. З Дубінска сям’я Ігнатоўскіх пераязджае ў Быцень, дзе Макар Іванавіч пачынае працаваць святаром у Свята-Успенскай царкве. Маці пісьменніка Софья Вікенцьеўна таксама належала да шляхецкага роду Смольскіх. Яна ў асноўным і займалася выхаваннем дзяцей.

Сям’я Ігнатоўскіх жыла дружна і бязбедна. Бацька карыстаўся павагай сваёй паствы, аўтарытэтам у дзяржаўных чыноўнікаў. За ўдзел у перапісе насельніцтва Расійскай імперыі ў 1897 годзе быў узнагароджаны бронзавым медалём. Матэрыяльны стан дазваляў сям’і Ігнатоўскіх вучыць дзяцей. Абодва сыны спачатку пайшлі дарогай бацькі, паканчаўшы духоўныя семінарыі, а затым — універсітэты. Дачка закончыла настаўніцкую семінарыю.

З 1896 г. Усевалад Ігнатоўскі паступае на вучобу ў Літоўскую духоўную семінарыю. Затым былі Магілёўская духоўная семінарыя, Пецярбургскі педінстытут і Юр’еўскі (Тарту — Эстонія) універсітэт. Канікулы праводзіліся дома. Навучанне было платным. Пакуль быў жывы бацька, у Ігнатоўскіх меліся сродкі вучыць сваіх дзяцей. Пасля яго смерці матэрыяльнае становішча братоў Ігнатоўскіх рэзка мяняецца. Яны самі шукаюць сродкаў для існавання. Усевалад нават вымушаны быў на нейкі час спыніць навучанне (не было чым заплаціць) і выехаў на рускую Поўнач. Тут ён і ажаніўся

з Марыяй Севасцьянаўнай Арэф'евай. У студэнцкія гады Усевалад Ігнатоўскі ўключыўся ў рэвалюцыйную дзейнасць, уступіў у партыю эсэраў. Партыйную мянушку выбраў сабе Воўк, чым падкрэсліваў і пераемнасць з Усяславам Чарадзеем, і сваю повязь з месцам нараджэння — з прыпушчанскім краем.

Пасля смерці бацькі маці найхутчэй жыла дзесьці на Івацэвіччыне, мажліва, у той самай Быцені. У студзені 1909 года У. М. Ігнатоўскі вяртаецца з сям'ёй на Берасцейшчыну. Два гады маладая сям'я жыла ў маёнтку Загрыдава каля Косава. Такое найменне сярод паселішчаў Івацэвіцкага раёна цяпер не значыцца. Прыблізна, аднак, яго можна вызначыць. Сябру па Юр'еўскім універсітэце Усевалад Ігнатоўскі паведамляў свой адрас — паштовая станцыя Косава Гродзенскай губерні Слонімскага павета, урочышча Загрыдава.

Можна дапусціць, што У. М. Ігнатоўскі працаваў у памешчыка ў Загрыдаве. Сабраліся такія-сякія сродкі, падрос першынец Міхась, які нарадзіўся летам 1909 года, і У. М. Ігнатоўскі зноў збірае адпаведныя дакументы, каб аднавіць свае заняткі ў Юр'еўскім універсітэце. У Загрыдаве за У. М. Ігнатоўскім вялася слежка. Мясцовае начальства даносіла ў адпаведныя інстанцыі: «У час пражывання ў Слонімскім павеце ні ў чым дрэнным як у маральным, так і палітычным сэнсе заўважаны не быў». З 1911 г. У. М. Ігнатоўскі — зноў студэнт Юр'еўскага універсітэта. Як сведчыць Г. Каханоўскі, сям'і ў час вучобы У. М. Ігнатоўскага ва універсітэце жылося нялёгка. Яна вандравала з Юр'ева на Івацэвіччыну. Некаторы час Ігнатоўскія жылі ў в. Яглевічы. Адсюль прасіў Усевалад Макаравіч, каб прыслалі з Юр'ева пашпарт на жыхарства.

Пасля заканчэння універсітэта У. М. Ігнатоўскі працуе выкладчыкам гісторыі ў Вільні, а затым пераязджае ў 1914 г. у Мінск і пачынае выкладаць гісторыю і геаграфію ў Мінскім настаўніцкім інстытуце, які толькі што быў адчынены. Тут ён разгарнуў грамадска-палітычную дзейнасць сярод студэнтаў, стварыў моладзевую арганізацыю «Наш край», дзейнасць якой была скіравана на адраджэнне дзяржаўнасці Беларусі. У 1915 г. у час Першай сусветнай вайны разам з інстытутам выехаў у Яраслаўль. Погляды У. М. Ігнатоўскага эвалюцыяніравалі на вырашэнне нацыянальнага лёсу свайго народа. Гэтай задачы была падпарадкавана і дзейнасць кіруемай ім моладзевай арганізацыі. «Маладая Беларусь» — такое найменне яна атрымала.

Пасля вяртання з эвакуацыі ў 1918 г. У. М. Ігнатоўскі актыўна працаваў найперш як вучоны-гісторык, аднак не чужымі яму былі заняткі і літаратуразнаўствам. Наш зямляк з Такароў займаў відныя пасады ў дзяржаўных і партыйных установах, шмат сіл аддаваў

адкрыццю Беларускага дзяржаўнага універсітэта, Акадэміі навук, стварэнню беларускіх школаў і шырэй — наданню нацыянальнага аблічча культурна-навуковай дзейнасці ў рэспубліцы.

У пачатку 30-х гг. мінулага стагоддзя У. М. Ігнатоўскі трапляе пад калясо рэпрэсавальнай машыны бальшавікоў, скіраванай супраць нацыянальнай інтэлігенцыі і сялянства. Каб не даць катам зламаць сябе, 4 лютага 1931 г. ён скончыў жыццё самагубствам. Трагічны лёс напаткаў і яго сям'ю. Два сыны былі расстраляны як ворагі народа, жонка Марыя Севасцьянаўна атрымала восем гадоў лагераў і жывой адтуль не вярнулася. Ацалеў толькі адзін сын, якога ў той страшны час не было ў Беларусі. Яго дачка цяпер жыве ў Мінску, марыць і верыць, што прыйдзе час, калі народ аддасць належнае яе дзеду.

Найхутчэй пасля 1914 г., калі Берасцейшчына стала арэнай Першай сусветнай ваны, і пазней У. М. Ігнатоўскі ў нашым краі не бываў. Згодна з Рыжскім дагаворам Берасцейшчына адышла да Польшчы. Лёс маці і сястры на сёння невядомы.

Удзячныя землякі ўшанавалі памяць свайго выдатнага сына, хоць і не так, як ён таго заслугоўвае. У в. Такары Камянецкага раёна адкрыта мемарыяльная дошка. У правым кутку зверху — партрэт пісьменніка на фоне раскрытай кнігі і паходні. Дэталі надзвычай сімвалічныя: яны падкрэсліваюць яго навуковую і асветна-культурную дзейнасць. Злева тэкст: «У вёсцы Такары нарадзіўся першы прэзідэнт Беларускай Акадэміі навук акадэмік АН БССР». Ніжэй буйнымі літарамі пасярэдзіне: ІГНАТОЎСКІ УСЕВАЛАД МАКАРАВІЧ 1881 — 1931.

У. М. Ігнатоўскі — найперш вучоны-гісторык. Яго ўклад у развіццё гэтай галіны навукі цяжка пераацаніць, бо ён належыць да ліку першапраходцаў. Як гісторык У. М. Ігнатоўскі асэнсоўваў і пытанні развіцця культуры, у тым ліку і літаратуры. Так, у «Кароткай гісторыі Беларусі» аналізуецца творчасць В. І. Дуніна-Марцінкевіча і Ф. Багушэвіча і інш. Разам з тым пяру У. М. Ігнатоўскага належыць звыш дзесяці працаў, прысвечаных праблемам літаратуры. Найбольш значнымі сярод іх з'яўляюцца «Кароткі нарыс нацыянальна-культурнага жыцця» і «Матывы лірыкі беларускага песняра Міхася Чарота». У. І. Ігнатоўскі адгукаўся на творчасць Якуба Коласа, пісьменнікаў-маладнякоўцаў, напісаў пасляслоўе да паэмы Міхася Чарота «Босыя на вогнішчы» і прадмову да зборніка апавяданняў Леапольда Родзевіча, асэнсоўваў матывы лірыкі Янкі Журбы. Паказальна, што ацэнка творчасці пісьменнікаў У. М. Ігнатоўскім вялася ў асноўным не з партыйна-класавых, а агульна-чалавечых пазіцый.

Многія пісьменнікі пачатку XX ст. звязаны з Берасцейшчынай.




*Пінск. Сабор. ( Пачатак XX ст.)*

З 1879 па 1884 гг. у мястэчку Косава Івацэвіцкага раёна працаваў настаўнікам паэт, празаік і драматург ***Кандрат Лейка*** (1860 — 1921)**.** З. П. Мельнікава выказвае думку, што менавіта ў Косаве пачынаецца яго літаратурная творчасць, што, мажліва, тут былі напісаны першыя беларускія вершы. Яны, аднак, на сёння невядомыя шырокаму колу чытачоў.

З войскамі генерала Булак-Булаховіча, штаб якога нядоўгі час размяшчаўся ў Лунінцы, тут знаходзіўся ***Ядвігін Ш.*** (1869—1922). Па вайсковых справах ён наведваў Пінск.

З Пінскам звязана жыццё ***Лявона Лобіка*** (1871—1918), беларускага паэта і публіцыста. За ўдзел у рэвалюцыйных выступленнях 1905 — 1907 гг. ён быў сасланы ў Сібір. Пасля вяртання некаторы час жыў і працаваў у Пінску.

Вядомы выдавец, публіцыст, мемуарыст, грамадскі дзеяч ***Аляксандр Мікітавіч Уласаў*** (1874—1941) свае дзіцячыя гады правёў у Пінску. Тут малы Алесь пачаў вучобу ў мясцовым вучылішчы, якому абавязаны веданнем грэчаскай мовы. Пазней Алесь Уласаў вучыўся ў Пінскай бурсе.

Берасцейшчына займае значнае месца ў жыцці і творчасці ***Якуба Коласа*** (1882—1956). Калі палічыць гады, якія правёў Якуб Колас на Палессі, то ў жыццёвай біяграфіі мастака слова яны займуць досыць сціплае месца: 1902—1904 в. Люсіна Ганцавіцкага раёна, 1904 — студзень 1906 г. в. Пінкавічы Пінскага р-на,

1911—1912 г. Лунінец, 1912—1914 г. Пінск. Пазней Якуб Колас выбіраўся дэпутатам Вярхоўных Саветаў БССР і СССР і наведваў Баранавіцкі, Лунінецкі раёны, ліставаўся з люсінцамі і пінкавічукамі. У 1954—1956 гг. апекаваўся Брэсцкім дзіцячым домам, які насіў яго імя, ліставаўся з выхаванцамі гэтага дзіцячага дома.

Тым не менш Палессе адыграла значную ролю ў жыцці і творчасці Якуба Коласа. Юнак, які толькі што закончыў Нясвіжскую семінарыю і які на той час быў ужо далучаны да літаратурнай творчасці з наказам настаўніка літаратуры Ф. Кудрынскага пісаць па-беларуску, едзе ў глухую палескую вёску з цвёрдым намерам не проста далучаць сялянскіх дзяцей да элементарнай пісьменнасці, а развіваць іх крытычны розум.

Якуб Колас увайшоў у гісторыю айчыннай культуры як выдатны педагог. Станаўленне яго як педагога адбывалася якраз на Палессі. Менавіта тут выпрацоўваліся педагагічныя ідэі і правяраліся на практыцы. І люсінцы, і пінкавічукі захавалі ў сваёй памяці цудоўны воблік настаўніка К. М. Міцкевіча. Доўгі час усе, хто пазней працавалі ў гэтых школах, параўноўваліся з ім. На жаль, варта адзначыць, што не ў карысць наступнікаў.

Якуб Колас надаваў вялікае значэнне адукацыі, асвеце. З імі ён звязваў грамадскі прагрэс. Таму ў Люсіна працаваў не пакладаючы рук, не шкадуючы маладых сіл. Ролю асветы ён зводзіў не проста да ведаў, а спалучаў з выхаваннем, імкнуўся развіваць у вучняў крытычны падыход да жыцця, выхоўваў патрэбу аналізаваць рэчаіснасць і рабіць свае высновы.

У «Памятной книжке Минской дирекции народных училищ» значыцца, што ў 1902—1903 г. у Люсінскай школе было 35 хлопчыкаў і 2 дзяўчынкі, што настаўнікам там быў Міцкевіч Канстанцін Міхайлавіч, які распачаў працу ў школе з 1 кастрычніка 1902 г. з аплатай працы 240 руб. *(З жыццяпісу Якуба Коласа: Дакументы і матэрыялы. Укладальнік Г. В. Кісялёў. Мн., 1982. С. 86).*

Пасля вайны Колас ліставаўся з люсінцамі. У адным з пісьмаў ён прызнаваўся: «Ваша Люсінская школа была маім першым настаўніцкім месцам, з якога пачыналася мая дарога ў жыццё... Я вас любіў чыстым юнацкім сэрцам, хацеў дапамагчы вам знайсці лепшую дарогу ў жыццё, лепшую за тую дарогу, па якой ішлі вашы дзяды і бацькі» *(Якуб Колас. Збор твораў у 14 т. Т. 13. Мн., 1977. С. 539).*

Вяскоўцы, дарослыя і дзеці, плацілі маладому настаўніку ўзаемнасцю. Адзін з яго вучняў Міхал Занька прыгадваў: «Шмат год таму назад у Люсіна прыехаў малады настаўнік Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч. Нялёгка было пачынаць работу ў вёсцы, дзе нават аб газавай лямпе маглі толькі марыць. Нястомна пераконваў малады настаўнік, што сялянам, як святло, патрэбна пісьменнасць. На-

стаўніка любілі ўсе: і старыя, і дзеці *(М. Жыгоцкі. Старонкі жыцця // Народны настаўнік Якуб Колас. Мн., 1966. С. 13).*

Якуб Колас належаў да тых педагогаў, у якіх любоў да дзяцей, клопат пра іх былі гарманічна пяднаны з патрабавальнасцю, дысцыплінай і парадкам. Яшчэ ў 60-я гады мінулага стагоддзя сярод люсінцаў, людзей сталага веку, можна было чуць: «Колас вельмі добра вучыў дзяцей. Гэта ж трэба — цалюткі дзень у школе. Асабліва шмат займаўся з тымі, хто павінен быў трымаць экзамен за народнае вучылішча. І падрыхтаваў добра. Усе здалі, ды яшчэ і лепш за вучняў іншых школаў».

У Люсіна Канстанцін Міхайлавіч не абмяжоўваўся толькі педагагічнай дзейнасцю. Заахвочаны яшчэ Ф. Кудрынскім да збору этнаграфічнага і фальклорнага матэрыялу, малады настаўнік прадоўжыў гэтыя заняткі на першым месцы сваёй працы. Той самы Міхал Занька прыгадваў: «Бывала збярэ нас і пачне распытваць, якія песні ў нас спяваюць, якія гульні бываюць у святы. Усё: і легенды пра татарскае нашэсце, і народныя звычаі і абрады — цікавіла педагога *(Народны настаўнік Якуб Колас. Мн., 1966. С. 13).* Любіў люсінскі настаўнік слухаць, як спяваюць дзяўчаты. Веснавымі і летнімі вечарамі сядзеў ля школы і ўслухоўваўся ў народныя мелодыі.

Наведваў Якуб Колас і сялянскія хаты, прыглядаўся да мэблі, посуду. Люсінцы прыгадвалі, што іх настаўнік мог захапляцца, здавалася, звычайнымі рэчамі: ці то быў таўкач, упрыгожаны арнаментамі, ці то размаляваны ў яркія кветкі куфар, ці то драўляны карэц увесь у сонечных промнях. Калі надараўся выпадак сустрэць рэч, зробленую з сакрэтам, Якуб Колас рабіў яе чарцёж, дакладна памячаў памеры.

Пачутае і ўбачанае вылілася ў навуковую працу «Пра сялянскія пабудовы (Вёска Люсіна, Мінскай губерні, Пінскага павета, Хатыніцкай воласці)», напісаную па-руску. Нас у гэтай працы асабліва цікавяць у ёй легенды і паданні, якія пазней увойдуць у трылогію «На ростанях». Пісьменнік згадвае Шведаву гару і заўважае, што пра яе ніякіх «паданняў не захавалася» *(Тамсама. С. 87).* Пра Яшукову гару Якуб Колас запісаў два паданні. Адно з іх «гаворыць, што на гэтай гары быў бой паміж шведамі і князем Яшуком і што апошні быў забіты і пахаваны там, таму і сама гара атрымала назву Яшуковай гары» *(С. 87 — 88).* Як бачым, першыя два паданні звязаны з трагічнымі падзеямі Паўночнай вайны, якую Расія вяла за свае інтарэсы — выхад да мора — са Швецыяй. Разборкі паміж рознымі плынямі сярод шляхты Вялікага княства Літоўскага дазволілі гэту вайну на нашых землях, і яна каштавала для беларусаў стратай кожнага трэцяга яе жыхара.

Другое паданне, на думку Якуба Коласа, «больш падрабязнае і вызначаецца большай сучаснасцю, захопліваючы эпоху прыгону» *(С. 88).* Вось яго сутнасць: «У дзесяці вярстах ад Люсіна быў багаты двор *(шляхетная сядзіба —* ***К. М.****)*, куды і хадзілі люсінцы адбываць паншчыну. Ніякіх рэштгкаў ад гэтай сядзібы не захавалася: ні насыпу, ні нават груды камянёў. У гэтую сядзібу прыязджаў нейкі бязродны пан Яшук. Гэты пан быў вялікі лавелас, улягаў за дзеўкамі і маладымі бабамі, што выклікала незадаволенасць многіх хлопцаў. Яшук быў вялікі дзівак, гуляка, палкі паляўнічы. Ён спакусіў прыгажуню-сялянку, з якой хацеў ажаніцца панскі лакей, а потым кінуў яе з дзіцём. Тая з гора кінулася ў раку і ўтапілася.

Аднойчы было паляванне. На пана Яшука выскачыў дзік. Пан стрэліў па ім, але прамахнуўся. А дзік, як спецыяльна, бег памалу, выбіраючы прагаліны — месцы, дзе мала было дрэваў і кустоў. Пан вярхом кінуўся ўдагонку. Доўга ён бег, адбіўся ад людзей, заехаў у незнаёмы лес. Дзік раптам знік, быццам праваліўся ў зямлю. Пачало цямнець. Пан не ведаў, куды яму ісці. Раптам пачулася песня. Спявала дзяўчына, заклятая пані, і так зачаравала Яшука, што той прывязаў каня і пайшоў туды, адкуль чулася песня. Што ён там убачыў, якую пражыў ноч, невядома. Калі, аднак, схапіліся і сталі шукаць пана, то знайшлі засіленым на дубе. У гэты час разгулялася вялікая бура. Цела пана Яшука было знята і закапана ў зямлю» *(С. 88).*

Якуб Колас зазначае, што гэтае паданне ў нейкай меры характарызуе духоўны і разумовы склад палешука. «Паляшук, — чытаем у працы, — вельмі хітры і ў той самы час вельмі скрытны... Той факт, што ў той час у лесе паднялася бура, а, на думку палешука, буры адбываюцца таму, што хтосьці памёр не сваёй смерцю — удавіўся, утапіўся і г.д.» *(С. 88).*

Сама праца «Пра сялянскія пабудовы в. Люсіна» цікавая шырокаму чытачу тым, што ў ёй дакладна апісаны ваколіцы Люсіна: рэчкі, азёры, балоты, узгоркі. Аўтар не праміне заўважыць, што калі гэта рэчка, ці возера, дык абавязкова багатыя рыбаю. Бабры, дзікі, ласі тады вадзіліся ў ваколіцах Люсіна. Не абыдзе ўвагай Якуб Колас і той факт, што палешукі — таленавітыя пчаляры і заўзятыя паляўнічыя, што кожны паляшук меў стрэльбу. Дакладна апісаны ў працы сялянскі двор, хата, яе агульны выгляд і ўнутранае ўбранства. Многае з таго, што занатаваў Якуб Колас у сваёй працы, затым увойдзе ў трылогію «На ростанях».

Сабраны матэрыял «О крестьянских постройках» быў адасланы Якубам Коласам у Паўночна-Заходні аддзел Рускага геаграфічнага таварыства ў Вільню. Г. Кісялёў выказвае меркаванне, што яна рыхтавалася да друку, бо ёсць праўкі чырвоным чарнілам, аднак, надрукавана не была.

Ёсць яшчэ адзін бок дзейнасці Якуба Коласа ў Люсіна — заняткі літаратурай. Тут ён пісаў вершы. На жаль, на сёння мы не ведаем твораў пісьменніка, пад якімі стаіць назва месца першай працы Я. Коласа, аднак у «Зборы твораў» ёсць вершы, датаваныя 1904 годам, першую палову якога ён жыў і працаваў у Люсіна.

Не ведаем мы і таго асяроддзя, у якім жыў малады настаўнік у Люсіна. Па-мастацку яно адноўлена ў трылогіі «На ростанях». Бясспрэчна, што тое, пра што пісаў Якуб Колас, падпарадкавана мастацкай тыпізацыі, хоць аўтабіяграфічная яго аснова бясспрэчная. Гэта падкрэслівае і сам пісьменнік у лісце да люсінскага свайго вучня Занько: «Помню я і сваю бабку Мар'ю, яе сына Грыгора. Грыгор, пэўна жыве, а старая Мар'я, як мне думаецца, даўно ўжо развіталася з гэтым светам. Помню я і дом падлоўчага, пана Баранцэвіча, і яго сям'ю. Напэўна, хто-небудзь з іх яшчэ жыве. І я стаў старым чалавекам» *(Якуб Колас. Збор твораў у 14 т. Т. 14. С. 9).*

У Люсіна Якуб Колас прапрацаваў два навучальныя гады. Заўважым, што адзін год разам з ім жыла яго сястра. Былі гэта першыя гады працоўнай дзейнасці, таму, напэўна, такія ўражлівыя. Люсіна на той час сапраўды было вельмі глухой вёскай. Бліжэйшая чыгуначная станцыя знаходзілася ў Ганцавічах, да яе ад Люсіна 33 вярсты, там была і пачтова-тэлеграфная ўстанова. Да воласці — 14 вёрст, да павятовага горада — 86, да губернскага — 207. Тым не менш Якуб Колас перажыў тут ці не лепшыя гады свайго жыцця. Таму так шчыра, так клапатліва адгукаўся на ўсе просьбы люсінцаў. Хворы, стары, нямоглы хадзіў па розных інстанцыях, каб усё ж такі дапамагчы ім вырашыць пільныя патрэбы. У 1948 г. люсінцы папрасілі Якуба Коласа, каб дапамог пабудаваць новую школу. Ён шчыра адгукнуўся: «Мае дарагія сябры-прыяцелі, мае былыя вучні і суседзі-люсінцы... Я ўсё зраблю, што ад мяне залежыць, каб у вас на месцы старой драўлянай школы, ля якой стаяў высачэнны крыж, была пабудавана новая, прасторная, светлая школа» *(Я.Колас. Збор твораў у 14 т. Т. 13. С. 539).* І зрабіў. У пачатку 50-х гг. такая школа была ўзведзена ў Люсіна. На той час гэта была школа, пабудаваная па лепшым праекце. Невыпадкова падобныя будынкі ў афіцыйным друку іменавалі сталінскімі падарункамі дзецям. Дзякуючы клопатам Якуба Коласа аналагічная школа ўзведзена і ў Пінкавічах Пінскага раёна. У пасляваенныя гады пісьменнік збіраўся наведаць Люсіна, аднак задумы сваёй не ажыццявіў.

Навучальны 1904—1905 год Якуб Колас працаваў у в. Пінкавічы Пінскага раёна. Тут ён распачаў і наступны навучальны год, аднак за напісанне петыцыі пану Сігізмунду Скірмунту, уладальніку Альбрэхтова, быў у якасці пакарання пераведзены ў больш глухую школу. Пінкавічы — новае пасля Люсіна месца працы — Якубу

Коласу спадабалася. Гэта і не дзіўна. Вёска была размешчана ўсяго ў 5 вярстах ад Пінска — культурнага, прамысловага, чыгуначнага цэнтра Палесся. Пінкавічы былі валасной вёскай, мелася тут і лясніцтва. Наваколле, вёска, школа — усё вабіла вока маладога настаўніка і выклікала захапленне. Землі тут больш урадлівыя, і сяляне жылі лепш, што не магло яго не радаваць. Школа стаяла на шырокім пляцы, які мясціўся паміж дзвюма вёскамі: Пінкавічамі і Вішавічамі. Упершыню ў Пінкавічах школа была адкрыта яшчэ ў 1863 г. і знаходзілася ў веданні Міністэрства асветы. Годам раней, перад прыездам сюды Якуба Коласа, быў узведзены новы школьны будынак. Пры ім знаходзілася кватэра для настаўніка з трох пакойчыкаў, і жыллё для старожкі.

Дзякуючы клопатам настаўніка беларускай мовы і літаратуры Пінкавіцкай школы І. І. Калошы, мы цяпер больш ведаем пра жыццё і дзейнасць пісьменніка ў гэтай палескай вёсцы, чым, скажам, у Люсіна. Краязнаўца-энтузіяст запісаў успаміны пінкавічукоў пра Якуба Коласа, найперш яго вучняў: Балук Пётр Каленікавіч прыгадвае: «У школе вучылася 36 чалавек. Былі і дзяўчаткі, але вельмі мала. За першую зіму Канстанцін Міхайлавіч падрыхтаваў чатырох хлопчыкаў да экзамена, які праводзіўся ў вёсцы Жабчыцы. Мы ехалі на фурманцы, а настаўнік ішоў побач. У час экзаменаў ён вельмі хваляваўся, але ўсе мы здалі добра. Незадаволены быў толькі бацюшка, што слаба ведалі «Закон божы».

Фёдар Сільвестравіч Скрэбель пашырае ўяўленне пра Коласа-настаўніка: «Канстанцін Міхайлавіч быў вельмі добры. Ён ніколі на нас не павышаў голас, а церпяліва і спакойна вучыў нас чытаць, пісаць, рашаць задачы. Ніколі не караў нас лінейкай, як папярэднія настаўнікі. І мы любілі свайго настаўніка... Добра вучыў К. М. Міцкевіч рашаць задачы. Да мяне прыходзяць унукі, суседа хлопчык, прыносяць задачы з 4 класа, то я іх усе і парашаю без цяжкасці».

Курылю Ананію Фёдаравічу запаў у памяць такі выпадак, як аднойчы настаўнік прыйшоў у клас і прапанаваў праспяваць беларускую народную песню «Чаму ж мне не пець, чаму ж не гудзець». Беларускія песні, як вядома, да рэвалюцыі ў царскай школе гучаць не маглі.

Па-рознаму аднесліся ў Пінкавічах да новага настаўніка. Сяляне адразу ж палюбілі яго. Ён прывабліваў іх сваімі гуманнасцю, дэмакратызмам, сваёй высокай патрабавальнасцю да сябе як да настаўніка. Ганна Іосіфаўна Снежка, якая працавала пры Якубе Коласе старожкай, гаворыць пра яго душэўную чуласць. Яна са сваёй сям'ёй з дазволу настаўніка жыла пры школе, хоць малыя дзеці часам і заміналі яму працаваць. Ганну Іосіфаўну ўразіў і запомніў-

ся на ўсё жыццё такі выпадак: «Былі зімовыя канікулы. Вучыцель ад’язджаў дадому і загадаў мне прыбраць школу. Я некалькі дзён бяліла сцены, печы, мыла падлогу. А гразі было многа, бо хадзілі ў лапцях. Наносяць яе столькі, хоць рыдлёўкай выграбай. Як прыехаў вучыцель, паглядзеў на маю работу, некалькі разоў падзякаваў». Сялянка запомніла, што яе працу, яе старанне настаўнік заўважыў і адзначыў, а здаецца, — гэта ж яе службовы абавязак.

Якуб Колас вечарамі заходзіў у сялянскія хаты, слухаў гутаркі пра жыццё, скаргі на несправядлівасць і ўціск. «Канстанцін Міхайлавіч, — успамінае Фама Пятровіч Бязручка, былы сябар Якуба Коласа, — рэдкі быў чалавек. Да рэвалюцыі настаўнікі, інтэлігентныя людзі цураліся простага чалавека. А ён, наадварот, любіў пагутарыць з намі, з мужыкамі, а правільней кажучы, слухаць». Тыя, хто быў пры ўладзе, а таксама і мясцовая інтэлігенцыя, за гэта не любілі Якуба Коласа. Асаблівую няласку меў да яго пінкавіцкі дзяк Хацяноўскі. Ён сачыў за кожным крокам настаўніка, лавіў кожнае слова, шукаючы крамолы. Дзяку памагаў поп Шумакевіч. Трэба адзначыць, што і сам Якуб Колас быў у гэтым плане не надта асцярожным. Лой Павел прыгадвае такі красамоўны факт. Былі ў іх сям’і хрэсьбіны. На гэтую сямейную ўрачыстасць запрасілі папа, дзяка і настаўніка. Усё ішло сваім парадкам, як гэта звычайна бывае, пакуль дзяк не прапанаваў паставіць самавар. Колас падтрымаў прапанову, скаламбурыўшы: «Давайце замест цара паставім самавара» — і весела рассмяяўся. Дзяк перапытаў, той весела паўтарыў. Хацяноўскі пачырванеў ад злосці і прашыпеў: «За зневажанне цара-бацюшкі вы будзеце адказваць!». На яго зашыкалі. Застолле працягвалася, толькі дзяк сядзеў насупіўшыся. А назаўтра хадзіў па вёсцы і збіраў подпісы пад даносам. Ніхто з сялян дзякоўскую пісаніну не падпісаў, толькі адзін поп Шумакевіч.

Тут варта згадаць і яшчэ адзін красамоўны факт. І. І. Калоша запісаў успаміны дачкі папа Шумакевіча. Гэта было ў 60-я гады. Якуб Колас даўно сябе сцвердзіў і стаў нацыянальнай гордасцю беларусаў. Пападзянка пра пісьменніка гаварыць не любіла. Тым не менш кінула як адчэпнае: «Пра вучыцеля Міцкевіча адно і можна сказаць, што гэта быў мужык. З намі, дваранамі, ён не сябраваў, а ўсё хаўрусаваў з мужыкамі, з пінкавіцкай галотай». Сама таго не падазраючы, пападзянка тым не менш дала высокую ацэнку народнаму пісьменніку.

Маюцца архіўныя дакументы, якія сведчаць пра тое, як ненавідзелі, ды і не толькі ненавідзелі, але і баяліся Якуба Коласа памешчыкі навакольных маёнткаў. Яны слалі прадвадзіцелю мясцовага дваранства скаргі і патрабавалі, каб гэтага настаўніка перавялі ў іншае месца, бо ён шкодна ўплывае на мясцовых сялян *(Адказ інс-*

*пектара Г. Русецкага дырэктару народных вучылішчаў Мінскай губерні // З жыццяпісу Якуба Коласа. Мн., 1982. С. 99).*

Сапраўды, аўтарытэт Якуба Коласа сярод сялян быў надзвычай высокі. Як прыгадвалі пінкавічукі, паўсяла хадзіла радзіцца да настаўніка па сямейных, гаспадарчых і грамадскіх справах. Больш за ўсё сялян турбавалі сервітутныя землі — 77 дзесяцін ворыва і азёры, якія незаконна прысвоіў сабе памешчык Скірмунт. Многа год судзіліся вяскоўцы са Скірмунтам, але нічога не дабіліся.

Калі ў 1905 годзе пачалася першая руская рэвалюцыя і яе хвалі дакаціліся да Палесся, Якуб Колас, які на той час быў настроены рэвалюцыйна, падтрымаў сялянаў. У сваёй аўтабіяграфіі ён зазначае: «У 1905 годзе я ўжо быў заўзятым ворагам самадзяржаўя і ў гэтым напрамку вёў работу» *(Якуб Колас. «Аўтабіяграфія» // Пяцьдзесят чатыры дарогі. Мн., 1963. С. 289).* Сяляне вёсак Пінкавічы, Вішавічы таксама захваляваліся, Якуб Колас падтрымліваў іх. Ён склаў петыцыю палешукоў Скірмунту, аднак той не даў адказу. І тады сяляне самі пачалі лавіць рыбу. Скірмунт выклікаў казакоў. Тыя рыбу адабралі, невады забралі, сялян арыштавалі і пагналі ў вёску, а затым у Пінск. Справу Якуба Коласа расследаваў інспектар Г. Русецкі, які імкнуўся дапамагчы калегу, пераконваючы начальства, што толькі пінкавіцкі настаўнік не дапусціў пагрому маёнтка Скірмунта.

Пра рэвалюцыйную дзейнасць Якуба Коласа стала вядома Мінскаму губернатару крываваму Курлову. Ён запатрабаваў расследаваць гэтую справу і ў выпадку неабходнасці арыштаваць Міцкевіча. «Калі я спытаў Міцкевіча, — піша чыноўнік ад асветы начальству, — пра яго ўдзел у аграрным руху сялян Пінкавіцкай грамады, то ён чыстасардэчна заявіў мне, што ён, перакананы ў справядлівасці сялянскіх патрабаванняў да памешчыка Скірмунта, па іх просьбе і напісаў ім петыцыю, у якой рашуча настойваў на тым, каб непаразуменне паміж сялянамі і памешчыкам было ўладжана мірным шляхам без дапамогі грубай фізічнай сілы» *(С. 98).* Якуб Колас у размове з інспектарам падкрэсліваў, што ён выпадкова аказаўся сярод сялянаў, спыніў іх жаданне ісці граміць панскую сядзібу, скіраваў сялянскія настроі на законны лад. «Мясцовыя ўлады ў асобе іспраўніка і земскага начальніка 4-га ўчастка правялі з гэтай прычыны дазнанне, — чытаем у рапарце інспектара Г. Русецкага, — і знайшлі, што так было на самай справе, як паведаміў мне настаўнік Міцкевіч» *(Тамсама, с. 98).*

Чыноўнікі ад асветы хацелі, каб Колас абмежаваў сваю дзейнасць толькі школай, але поспехаў у гэтым кірунку не дабіліся. Дырэкцыя народных вучылішчаў пайшла насустрач жаданню палескіх памешчыкаў. У пачатку студзеня 1906 г. К. М. Міцкевіч

выехаў на Міншчыну. Шкадавалі свайго настаўніка пінкавічукі, але найбольш яго выхаванцы. Як прыгадвае вучань Якуб Коласа Ф. С. Скрэбель, калі ў школе паявіўся новы настаўнік, то «вучням ён не спадабаўся, і ў нашай групе мы арганізавалі пратэст супраць яго: паставілі ля дзвярэй парты, перавярнулі стол, а вучань Ліцкевіч з в. Вішавічы скінуў партрэт цара».

Ёсць усе падставы лічыць, што Якуб Колас у Пінкавічах пісаў. У «Зборы твораў у 12 тамах» змешчаны ўсяго адзін беларускамоўны верш, датаваны 1904 г. У ім выказаны эстэтычныя ідэалы паэта. Ён заявіў пра сябе як прадаўжальнік традыцый Ф. Багушэвіча, як паэт-рэаліст, цесна звязаны з народам, з яго жыццём і праблемамі:

Я б смяяўся, жартаваў бы,
Каб вас чуць развесяліць,
Ды на жыцце як паглядзіш,
Сэрца болем зашчыміць.

*(Збор твораў. Т. 1, 1961. С. 19)*

Разам з тым вядомы цэлы сшытак вершаў паэта на рускай мове. Пад некаторымі з іх стаіць паметка — Пінкавічы. Вершы не ўражваюць творчым адкрыццём. Вельмі выразны ўплыў рускіх паэтаў Кальцова, Някрасава, Нікіціна. Тэматыка гэтых вершаў — карціны роднай прыроды, клопаты маладосці. Для ўсіх вершаў характэрны мінорны настрой.

У Пінкавічах ушанавана памяць пра Якуба Коласа: яго імем названы школа і адна з вуліц. У будынку, які ўзведзены на падмурку і па той планіроўцы, дзе працаваў і жыў пісьменнік, створаны намаганнямі І. І. Калошы літаратурны музей.

Пасля вайны пінкавічукі слалі лісты пісьменніку. Ён ім даваў адказы. У першым з іх Якуб Колас дзякаваў за памяць, згадваў мінулае: «Так, дарагія таварышы, амаль паўвеку мінула з той пары, калі я, тады яшчэ юнак, прыехаў у вашу вёску ў школу. У маіх вачах і сёння паўстаюць карціны пінкавіцкіх і вішавіцкіх ваколіц, зарэчныя прасторы балотаў, зарослых камышом, і жыццярадасны народ, хоць і бедны і прыдушаны панамі Скірмунтамі, царскімі чыноўнікамі, жандармамі, паліцыяй» *(«Палеская праўда», № 226 ад 15.ХІ.1952 г.).* Думаецца, таму што Якуб Колас адказваў пінкавічукам праз газету, таму асноўны змест ліста — ухвала мудрых Леніна-Сталіна, Камуністычнай партыі, гаворка пра захапляльныя перспектывы, якія адкрывае савецкая ўлада палешукам. У канцы ліста пісьменнік выказаў жаданне пабываць у Пінкавічах, абы толькі здароўе не падвяло.

Якуб Колас зноў вернецца на Палессе ў 1911 г. Пісьменнік выйшаў з Мінскага астрога з так званым «воўчым білетам», які забараняў працаваць у дзяржаўных школах. Трэба зразумець ма-

стака слова, як цяжка яму было садзіцца на карак дзядзькі Антося: едакоў і без яго ў хаце хапала. Адпраўляючы Кастуся ў навуку, сям'я спадзявалася, што не толькі ён сам будзе мець надзейны кавалак хлеба, але падтрымае некага з братоў і сясцёр. Якуб Колас, з аднаго боку, прыкладае намаганні, хадайнічае пра пасведчанне аб палітычнай добранадзейнасці, якое адкрывала дарогу ў дзяржаўную школу, што абяцала сціплы, але сталы заробак, з другога боку, пошукі хоць нейкай працы. Выручылі сябры. Былы аднакурснік па Нясвіжскай семінарыі В. Філіповіч, з якім Якуб Колас сядзеў на адной лаўцы, запрасіў да сябе ў Лунінец і ўступіў частку сваіх прыватных урокаў. У гэтым палескім мястэчку Якуб Колас жыў з лістапада 1911 па люты 1912 г.

Лунінец пакінуў дваістае ўражанне ў жыцці і творчасці Якуба Коласа. З аднаго боку, пісьменнік у гэты час перажываў творчы ўздым. Ён шмат і плённа пісаў. На паперу кладліся вершы, апавяданні. Тут была распачата праца над паэмай «Сымон-музыка». Вершаў было напісана ўсяго некалькі. Дакладна можна назваць «Песня п'янага» (5.01.1912 г.) і «Эх, скажы мне, небарача» (28.11. 1912 г.). Апошні верш выяўляе патрыятычныя пачуцці беларускага селяніна і аптымістычны погляд яго на жыццё.

Дык няхай свет хоць трасецца, —
Я тут вырас, я тут згіну,
А разорак тых не кіну,
Дзе мне шчасце не даецца,
Дзе мой смутак, жаль снуецца,
Бо я цвёрда веру ў тое,
Што наш засеў у полі дзікім
Гневам вырасце вялікім
І затопіць усё злое,
Усё няшчасце векавое.

*(Т.1. С. 310 — 311)*

Дакладна можна сказаць, зыходзячы з тэрміну жыцця Якуба Коласа ў Лунінцы, што тут быў напісаны такі класічны твор апавядальнага жанру, як «Нёманаў дар» і яшчэ два апавяданні, у аснове якіх камічныя, а ў першым гучаць нават і драматычныя сітуацыі: «Трывога» і «Недаступны». Пісаўся ў гэтым палескім мястэчку трэці раздзел паэмы «Новая зямля».

Асноўным творчым клопатам Якуба Коласа ў Лунінцы была паэма «Сымон-музыка». Пісаць яе пачаў 22 лістапада і напружана працаваў цэлы месяц. Гэта ратавала ад духоўнага спусташэння. М. Лужаніну Якуб Колас прыгадаў: «Накідаўшы з большага замалёўку, зразумеў, што гэтая работа для мяне будзе стрыжнем. Утрымаюся за яго, — значыць не звар'яцею, не сап'юся, наогул,



*Лунінец. Гімназія. (1930-я гг.)*

не пайду на ніз, у падонкі, у паслугачы» *(М. Лужанін. Колас расказвае пра сябе. Мн., 1964. С. 135 — 136).* У выніку была напісана першая частка. Пра тое, што ўсе духоўныя сілы пісьменніка былі скіраваны на паэму «Сымон-музыка», сведчыць і такое аўтарскае прызнанне, што збіраецца хутка закончыць твор, а рэч будзе дужа вялікая.

Як вынікае з ліста Я. Коласа А. А. Грыневічу, у Лунінцы ён дапрацоўваў апавяданне «Тоўстае палена». «Праз нядзелю вышлю Вам першы расказ у прозе «Тоўстае палена». Ён яшчэ не скончаны: ўсё не маю часу. Але цяпер вазьмуся за яго» *(А. А. Грыневічу. Збор твораў у 12 т. Т.12. 1964. С. 12. Далей цытаты, якія даюцца па гэтым выданні, будуць памячацца так: том і старонкі).*

Ёсць яшчэ адзін бок творчай працы Якуба Коласа ў Лунінцы. Гэта падрыхтоўка раней напісаных твораў да друку. З нешматлікіх лістоў пісьменніка вынікае, што ён з гэтага палескага мястэчка пасылаў А. А. Грыневічу ўрывак з паэмы «Новая зямля», смешнае і вясёлае (па вызначэнні аўтара) апавяданне вершам «Як Янка збагацеў». З Лунінца было адпраўлена А. М. Уласаву напісанае тут апавяданне «Трывога».

Такая творчая актыўнасць Я. Коласа, на наш погляд, тлумачыцца двума акалічнасцямі. Трэба мець на ўвазе, што пісьменнік быў незвычайна працавітым чалавекам. Вялікую ролю адыграла і тое, што, адбыўшы тэрмін турэмнага зняволення, пісьменнік быў, на-

рэшце, вольны, а гэта ўжо само па сабе было шчасцем. З напісаных у Лунінцы твораў вынікае, што пісьменнік акцэнтаваў сваю ўвагу на побытавых з'явах, узнімаючы, галоўным чынам, маральныя праблемы, асуджаючы такое сацыяльнае зло, якім было п'янства, неадукаванасць вяскоўцаў.

З другога боку, у Лунінцы пісьменніку жылося нялёгка. Тут ён быў адарваны ад свету, ад літаратурнага і культурнага асяроддзя. Нават газеты і тыя не траплялі ў гэтае глухое мястэчка. Таму пісьменнік так радаваўся лістам, якія прыходзілі сюды ад сяброў. Яшчэ больш даймала безграшоўе. «Заработак дрэнны: маю ўсяго адзін урок, — піша Якуб Колас А. А. Грыневічу. — Можа хіба далей палепшае» *(Т. 12. С. 12).* Надзеі, аднак, не спраўдзіліся. Уласаву А. М. пісьменнік паведамляе: «Жыву тут з таго, што займаюся ўрокамі. Дрэнная гэтая работа, і няма з яе ніякай карысці, абы не дома тырчаць. Маю ўрокаў руб. на 25, да і тыя няпэўныя» *(Т. 12. С. 13).*Пазней Якуб Колас удакладняў, што вучыў ён тут «дзяцей чыгуначнікаў. Я пачаў рэпеціраваць іх. Плата слабаватая: два руб. на месяц з галавы. Добра, калі галава кемлівая, а ў другую табліцу множання калом не ўваб'еш. Нават у Люсіна плацілі мне на рубель больш. У Філіповічавым пакоі зрабіў я школку. Займалася ў мяне 20 чалавек» *(М. Лужанін. Колас расказвае пра сябе. Мн., 1964. С. 178).*

У сваіх успамінах Якуб Колас В. Філіповіча называе «добрай душою». Падставы для такой ацэнкі, як бачым, былі. Трэба мець на ўвазе, што пасля выхаду пісьменніка з турмы многія да яго сталіся насцярожана, ды і сам ён адчуваў сябе чалавекам, «выкінутым з жыцця. Дзверы на работу былі замкнуты, падтрымкі няма, кожны агінаецца пры сустрэчы, каб і самому не падпасці пад падазрэнне. Тут я і пачуў, нібыта трапіў у новае кола, нічым не лепшае за астрог» *(М. Лужанін. Мн., 1964. С. 135).* Калі А. М. Уласаў запрасіў пісьменніка прыехаць у Вільню, той адказаў, што «ў кішэні тонка», нават папрасіў, каб прыслалі грошы на дарогу і ўдакладніў, што білет каштуе ў адзін канец 3 руб. 64 кап.

Прыгнятаў Якуба Коласа яшчэ адзін клопат. Адразу па выхадзе з турмы пісьменнік стаў атрымліваць позвы для службы ў войску. Выходзіла, што пісьменнік трапляў з агню ды ў полымя. Вызваліцца ад войска можна было адным спосабам — працаваць настаўнікам у казённай школе. Педагогі ад службы ў арміі вызваляліся. Атрымаць пасведчанне пра палітычную добранадзейнасць не ўдавалася. На прашэнні настаўніка-бунтара губернатар напісаў: «Адмовіць». Трэба было як найхутчэй пакідаць Лунінец, каб не быць забрытым у салдаты. Спачатку Якуб Колас меркаваў гэта зрабіць пасля Вялікадня, аднак падзеі развіваліся такім чынам, што з'ехаў у канцы лютага 1912 г.

У Лунінцы на доме, у якім жылі Якуб Колас і яго сябар В. Філіповіч, дзе клаліся на паперу неўміручыя радкі паэмаў «Сымон-музыка», «Новая зямля» і іншыя творы, сёння ёсць мемарыяльная дошка.

Пісьменнік зразумеў, што яму трэба шукаць людзей, хто б дапамог уладкавацца ў школу. Як ні дзіўна, ім аказаўся ўсё той самы інспектар народных вучылішчаў з Пінска Г. Русецкі, які ў памятны 1905 г. выразна імкнуўся давесці начальству, што Я. Колас пінкавічукоў не толькі не падбухторваў да аграрных беспарадкаў, а, наадварот, імкнуўся канфлікт вырашыць мірным шляхам. З успамінаў Якуба Коласа вынікае, што ён з Г. Русецкім быў знаёмы. Ён і прызначыў настаўніка К. М. Міцкевіча ў маі 1912 г. умоўна ў Купяціцкую школу, якая знаходзілася ў 12 вярстах ад Пінска. Мяркуючы па лістах, Якуб Колас у гэты час бываў у Пінску. Адзін ліст датаваны 20 красавіка з гэтага палескага горада. У ім пісьменнік даваў сякія-такія тлумачэнні слоў у сваіх творах, выказваў жаданне, свае меркаванні наконт псеўданімаў, у паэзіі ён — Якуб Колас, у прозе — Тарас Гушча, дзяліўся планамі, у прыватнасці, што ён збіраецца напісаць камедыю, дэкляраваў, што «Сымона-музыку» гэтым летам закончыць *(Ліст ад 20.04.1912. Т. 12. С. 14).*

Тым часам Якубу Коласу ўдалося атрымаць пасведчанне аб палітычнай «дабранадзейнасці». Пад восень 1912 г. Канстанцін Міхайлавіч прыехаў у Купяцічы, пераначаваў адну ноч і вярнуўся ў Пінск. Былыя сябры паспрыялі, і Якуба Коласа перавялі ў 3-е прыходскае вучылішча г. Пінска. Пачалася новая старонка ў жыццёвай і творчай біяграфіі паэта. У Пінску рэзка ўзраслі расходы. Настаўнікі вучылішчаў насілі форму. Гэта патрабавала адпаведных выдаткаў. Хацелася дапамагчы сямейнікам. Таму Якуб Колас не задавальняўся толькі працай у школе, а браў прыватныя ўрокі. На гэты раз у яго былі дзеці паліцэйскіх, акцызных чыноўнікаў, святароў. «Тупыя, раздураныя, мамчыны сынкі», — так ахарактарызуе Якуб Колас новых сваіх вучняў *(М. Лужанін. С. 175)*, аднак выбіраць не даводзілася, бо плацілі добра, патрэба ў грошах была пільная. Гэта на пачатку не спрыяла творчай актыўнай працы. Школа, прыватныя ўрокі займалі ўвесь час. Радуючыся выхаду часопіса «Крапіва», мусіў адмовіцца ад прапановы напісаць нешта ў гэтае выданне і дадаваў: «Аж сэрца маё баліць, што нічога не пішу. Скажу Вам, як я жыву. З дзевятай іду ў школу. У гадзіны дзве канчаю там работу і іду абедаць. Паабедаўшы, чухаю на ўрокі, бо з аднаго жалавання не пражывеш. Нават няма калі прылегчы, каб крыху сала завязалася па абедзе, як казаў мой дзядзька Антось. Паправіш работу вучанікоў, праглядзіш назаўтра «навуку» (а праглядаць прыходзіцца, бо мне дасталося старшае аддзяленне, дзе трэба папрацаваць такі

добра), і няма таго вечара. «Сымон-музыка» ляжыць, бедны, чакае лепшых часоў. Як напісаў вясною другую частку (напісана столькі, колькі ў першай частцы), так яно і засталося. Адзін толькі раз браўся за яго тут, болей не выпадала. Дрэнна. На другі год прыйдзецца паехаць у вёску, бо тут толькі будзеш траціць час, а карысці не будзе» *(Ліст з Пінска ад 10.XI.1912 г. Т. 12. С. 15).*

Вышэй ужо гаварылася, што Якуб Колас адказна, з поўнай аддачай ставіўся да сваіх службовых абавязкаў і што ён высока цаніў грамадскую ролю настаўніка. У гэты перыяд за пісьменнікам пільна сачылі. Ён адчуваў абавязак і перад тымі людзьмі, хто дапамог яму ўладкавацца на працу. Пазней пісьменнік зазначыць: « ...давялося доўга старацца сталага месца. А калі выстараўся, трымаўся за яго рукамі і нагамі» *(Лужанін. С. 136).*

Пінск, аднак, праз год Якуб Колас не пакінуў. Гэта звязана з пераменамі ў асабістым жыцці мастака слова. Неўзабаве пасля адпраўленага з Пінска пісьма Якуб Колас пазнаёміўся з маладой настаўніцай Пінскай чыгуначнай школы Марыяй Дзмітраўнай Каменскай. Паміж маладымі людзьмі ўзнікла каханне. Яно выклікала да жыцця цыкл лірычных вершаў, адрасаваных прадмету захаплення паэта. Яны ў друк не трапілі, бо аўтар быў перакананы, што інтымныя пачуцці нельга выносіць да ўсіх. Гэта належыць чыста табе ці ў крайнім выпадку дваім. «Я дзівіўся, не дабіраў ладу, як гэта можна аддаваць друкаваць вершы пра каханне? — пытаўся і сам адказваў: — Калі ты яго выдумляеш, дык няварта публікаваць няпраўду. А калі пішаш аб тым, што ёсць ці было, — як тады, вывернуўшы наверх усё вядомае аднаму табе і твайму дарагому чалавеку, паглядзець яму ў вочы? Табе давераны сакрэт, ты ўвайшоў як быццам з кімсьці ў змову і раптам расплёскаў патайное дый яшчэ і падпісаўся» (*Лужанін. С. 179).* Можна прымаць ці не Коласавую пазіцыю, але вершаў пра каханне ў яго зборах твораў доўгі час не было. Нават выказвалася меркаванне, што на шляху паэта не сустрэлася такая жанчына, якая натхніла б яго на стварэнне выдатных твораў інтымнай паэзіі. Публікацыі апошняга часу сведчаць, што гэта не так.

Як бы там ні было, 3 чэрвеня 1913 года Канстанцін Міхайлавіч і Марыя Дзмітраўна пабраліся. Вяселля не рабілі, а ўсяго распілі, як прызнаваўся Колас, пляшку данскога віна. Шлюбнае падарожжа, аднак, было — гэта паездка ў Вільню да брата Марыі Дзмітраўны. У Пінску сям’я пабольшала, нарадзіўся першынец — сын Даніла. Месца нараджэння для Данілы Канстанцінавіча Міцкевіча будзе многае значыць. Перад смерцю ён пакіне запавет: частку свайго праху развеяць ля магіл бацькоў у Мінску, другую — у Пінску, дзе прыйшоў на гэты свет. У сям’і Міцкевічаў панавала шчасце. Аднак

нядоўга. Спачатку Якуба Коласа прызвалі на вайсковую службу, а потым у сувязі з царскім загадам аб суцэльным бежанстве сям'я Міцкевічаў эвакуіруецца ў Маскоўскую губерню (1915 г.).

Пінскі перыяд быў плённы для Якуба Коласа. У гэты час на паперу лягло і было апублікавана шмат вершаў. Яны вызначаюцца тэматычнай і жанравай разнастайнасцю. Значнае месца займаюць творы, у якіх раскрываецца неўладкаванасць жыцця беларуса, што спараджае адпаведны настрой лірычнага героя. Сум, маркота, боль выяўляюцца ў такіх вершах, як «Глухая дарога», «Позна. Восень агаліла...», «Суша» і інш. Разам з тым, лірычны герой пратэстуе супраць гэтай паныласці, адчування сваёй безвыходнасці («Старыя песні»). Ён імкнецца абудзіць у сучаснікаў чалавечую годнасць, усяліць ўпэўненасць у самім сабе, імкненне змагацца за сваю долю:

Не лісціся к сільным, дружа,
Зеллейкам-бярозкай,
Бо не выйдзеш век з-пад гужа,
Страціш вобраз боскі,
І ў людзей ты гонар страціш —
І цябе зракуцца:
Лепш змагацца вольным, браце,
Чым цярпець ды гнуцца.

*(«Будзь цвёрды!»)*

У Пінску было напісана шэраг вершаў аб прыродзе. Якуб Колас — вядомы майстар пейзажных апісанняў. Творы таго часу, напісаныя ў Пінску, не толькі выяўляюць духоўны свет лірычнага героя, але і грамадскія настроі. Паказальнымі ў гэтым плане з'яўляюцца вершы «Будзе навальніца», «Вераб'іная ноч», «Увосень» і інш.

Адгукнуўся паэт і на пачатак Першай сусветнай вайны. Верш «Вецер» напоўнены трагічнымі інтанацыямі. Паэт не згадвае слова «вайна», але наступствы яе відавочныя. Гэтаму падпарадкаваны паэтычныя вобразы: слёзы, стагнанні, надгробныя песні, жальба, плач, памінкі-хаўтуры і інш. Аўтар звяртаецца не проста да ветру, а «ветру заходняга з далёкай краіны...». Паэтычны падтэкст відавочны — з Германіі. Болем, невядомасцю прасякнуты верш «На Новы год».

Хваляваў пісьменніка і лёс яго паэзіі, яе грамадскай запатрабаванасці («Песня»), інтанацыйнага ладу твораў, якія вытлумачваюцца станам грамадскага жыцця, лёсам народа, сваёй злучанасцю з ім:

А як песню заспяваю
Аб знішчаным гэтым краі,
Я не волен над сабою:
Спеў мяшаецца з слязою,
Плачам аддаецца.

Няхай стогне, няхай плача,
Покуль жыцце стане йначай
І скрозь цемрадзь і гушчары,
Нібы сонейка праз хмары,
Свет нам не прарвецца.

*(«Роднаму краю»)*

Патрыятычны матыў з′яўляецца дамінуючым у вершы «Роднаму краю». Любоў да радзімы разумеецца паэтам шырока: гэта і родныя краявіды, і магілы продкаў, і гісторыя народа.

У Пінску было напісана 13 апавяданняў. Сярод іх такія жамчужыны, якімі з’яўляюцца «Малады дубок», «Дзеравеншчына» і інш. У некаторых з іх («Златвіў», «З днеўніка пана Жылака», «Так і трэба ашуканцу») высмейваюцца павятовыя чыноўнікі, карцёжнікі-падпанкі, убогасць іх духоўнага свету, нікчэмнасць запатрабаванняў. Пісьменнік паказвае бядоцце беларускай вёскі, унутраны пратэст супраць гвалту і прыніжэння, якое найчасцей выліваецца ў п’янства і знімае стрэсы («Тоўстае палена», «Выстагнаўся»). Адметнае месца належыць апавяданням «Малады дубок», «Дзеравеншчына». Яны з’яўляюцца цудоўнымі ўзорамі псіхалагічнай малой прозы Якуба Коласа. У першым з гэтых апавяданняў пісьменнік прасочвае, як Андрэй Плех, ссекшы дуб у абходзе свайго аднагодка і сябра Максіма Зарубы, выкідвае ў Нёман спілаваны камень, публічна прызнаецца ў сваёй віне перад леснікам, ідзе да ляснічага, але яго старанні марныя. Селяніна ніхто нават слухаць не захацеў. Максіма звольнілі з працы фактычна не за спілаваны дубок, а за чалавечую годнасць, за свабодалюбства і непакору. У другім творы раскрываецца трагедыя сіраты Міхалкі, якога брат з братавой поедам ядуць за тое, што хлопчык застаецца верным самому сабе, бацькам, роднай вёсцы, што ён — «дзеравеншчына». Яны помсцяць сіраце, бо ён горкі напамінак пра тое, дзе іх вытокі, хто яны самі, як бы ні выракаліся свайго роднага.

Такім чынам, палескі матэрыял пакуль яшчэ не стаў прадметам спецыяльнага асэнсавання ў творах гэтай пары. Наступная старонка сувязі Якуба Коласа з Берасцейшчынай — гэта выкананне ім дэпутацкіх абавязкаў, клопат пра сваіх выбаршчыкаў вобласці. У 1940 г. Якуб Колас быў вылучаны кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР па Прынямонскім краі. Ён першы раз наведвае Баранавічы, дзе сустракаецца з выбаршчыкамі. Гэтай падзеі, трэба думаць, папярэднічала праверка адпаведнымі органамі яго палітычнага аблічча ў час працы на Палессі. Праверка праводзілася па даручэнні кіраўніцтва кадраў ЦК ВКП(б) і была адрасавана Пінскаму гаркаму КП(б). Адказ на запыт на імя некага тав. Сарокі іменуецца так: «Дакладная. Па даручэнні кіраўніцтва кадраў ЦК ВКП(б)

аб устанаўленні фактаў жыцця і дзейнасці ў Пінскай вобласці Якуба Коласа (Міцкевіча)» (Фонд 7581, справа 159, опісь № 1, ліст 80 — 81 партыйнага архіва Брэсцкага абкома КПСС). Былі апытаны жыхары вёсак Пінкавічы, Купяцічы, а таксама і Пінска, якія ведалі Якуба Коласа. Да гонару нашых землякоў яны не далі падстаў пачаць рэпрэсіўныя санкцыі супраць былога любімага настаўніка. Прывядзём некалькі цікавых выказванняў нашых землякоў з гэтай дакладной: Тав. Безручка Ф. П., селянін вёскі Пінкавічы: «У 1905 г. тав. Якуб Колас (Міцкевіч) вучыў сялян пісаць калектыўную заяву так, каб паліцыя не ведала, хто падпісаўся першым, абазначыў круг, вакол якога павінны былі ісці подпісы. Будучы аднойчы на хрысцінах у селяніна Радзівона Бязручкі, дзе прысутнічалі поп і дзяк, Якуб Колас (Міцкевіч) пачаў даказваць, што рэлігія — гэта падман. На гэтай жа бяседзе Якуб Колас правёў паралель: лепш паставіць самавар кіраваць краінай, чым цара Мікалая II».

Тав. Козіч М. Р., селянін вёскі Пінкавічы: «Міцкевіч быў адзін з тых настаўнікаў, хто не біў дзяцей. Аднойчы вучань Міцкевіч Адам пракалоў на партрэце вочы цару Мікалаю II. Вяскоўцы думалі, што гэтага вучня і яго бацькоў вышлюць, але таварыш Міцкевіч замяў гэтую справу. Партрэт цара з праколатымі вачыма выкінуў, а замест яго купіў другі партрэт». Заканчваецца дакладная, падпісаная загадчыкам аддзела кадраў Кірычэнка і сакратаром Пінскага гаркама КП(б) Б. Кундовічам, так: «І шэраг іншых сялян даюць добрыя водгукі пра т. Якуба Коласа». Дакладная напісана па-руску.

Паказальна, што Бязручка Ф. П. пазней расказваў тое самае і Івану Навуменку, калі той збіраў матэрыял для сваёй працы «Якуб Колас. Духоўны воблік героя». Гэтыя ўспаміны запісаў таксама І. І. Калоша. Пра іх гаварылася вышэй. Многія нашы землякі прыпісвалі Якубу Коласу асаблівую рэвалюцыйнасць. Гэта па-чалавечы зразумела. Яны хацелі абараніць настаўніка, які пакінуў добры след у іх жыцці і краі. Сёння вядома, што ў Купяцічах Якуб Колас пераначаваў усяго адну ноч. Тым не менш «Тав. Казлоўскі Ф. С., селянін вёскі Купяцічы, даў такія паказанні: «Якуб Колас (Міцкевіч) часта праследаваўся паліцыяй. Прыязджалі паліцэйскія ноччу і вельмі часта мне даводзілася хаваць Міцкевіча ў сябе дома на пячы, пакуль паліцыя пакіне кватэру. Міцкевіч вельмі часта ноччу адлучаўся з дому ў горад, але не гаварыў пра мэты такога частага наведвання горада. Цяпер я мяркую, што ён быў звязаны з падпольнай дзейнасцю».

Паказальна і такая дэталь, якая прыводзіцца ў дакладной: «... тав. Якуб Колас (Міцкевіч) у 1904 годзе прыехаў на працу ў вёску Пінкавічы настаўнікам са сваёй 13-летняй сястрой Таляй Міцкевіч, якая выконвала ўсю хатнюю працу. Прыслугі не меў, жыў

небагата». На сёння няма такіх звестак, што ў Пінкавічах разам з Якубам Коласам жыла сястра. Сціплую гаспадарку настаўніка вяла, напэўна, школьная старожка Ганна Снежка. Сяляне і настаўнікі падкрэслівалі, што Якуб Колас не карыстаўся наёмнікамі, да ліку эксплуататтараў не належаў.

Пасля вайны ў 1946 годзе Якуб Колас быў вылучаны па Наваградскай выбарчай акрузе кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР. У студзені гэтага года адбылася яго перавыбарчая паездка і выступленні перад выбаршчыкамі. Якуб Колас наведвае Гарадзішча, Баранавічы, сустракаецца з выбаршчыкамі. На сустрэчы ў Баранавічах чытае вершы. Пісьменнік аглядае горад, цікавіцца вытворчасцю, наведвае крамы, радуецца, наглядаючы, як аднаўляецца жыццё, як будуецца горад.

М. Лужанін прыгадвае, што ў час гэтай паездкі на Наваградчыну Якуб Колас падзяліўся з ім адной задумай: «Добра было б за адну кнігу ўзяцца. З маладосці рупіць мне гэта. У першыя гады настаўніцтва я збіраў грошы на фотаапарат. Куплю, думалася, і пайду на ўсё лета па Беларусі. Назбіраецца запісаў, здымкаў, зраблю даведнічак... Цяпер ён яшчэ больш трэба» *(М. Лужанін. С. 196).*

У 1947 годзе Якуб Колас вылучаецца кандыдатам у дэпутаты па Ленінскай выбарчай акрузе (цяпер Лунінецкі раён). Якуб Колас сустракаўся з сваімі выбаршчыкамі ў Мікашэвічах, Сінкевічах, Сцебялевічах. Свае ўражанні ад паездкі занатаваў у дзённіку «На схіле дзён». У Мікашэвічах Якуба Коласа сустракалі дарослыя і дзеці. На сустрэчы з выбаршчыкамі ў Мікашэвічах пісьменнік сваё выступленне пачаў так: «Дарагія таварышы! Я прыехаў да вас, каб прынесці вам самую шчырую, самую глыбокую падзяку за тое, што вы вылучылі мяне кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР. Я абяцаю быць вашым верным слугою, дапамагаць ва ўсім, апраўдаць ваш давер» *(М. Калянковіч // На Палескай зямлі // «Ленінскі шлях», 1978, 13 красавіка).* Пісьменнік пазнаёміўся з ваколіцамі мястэчка, наведаў мясцовыя могілкі.

На наступны дзень Якуб Колас накіраваўся на машыне ў Сінкевічы. Настаўніца геаграфіі гэтай школы І. М. Салтыкова прыгадвае, што сустракалі пісьменніка кветкамі — зрэзанай геранню. Быў ён у цёмна-сінім паліто з каракулевым каўняром і ў каракулевай шапцы. Гэтая настаўніца і вітала свайго дэпутата. Пісьменнік і педагог звярнуўся да вучняў з такімі словамі: «Мне радасна глядзець на маладое пакаленне. Вы — наша будучыня. Любіце Радзіму, жывіце дзеля яе, услаўляйце родную старонку стараннай вучобай — цяпер, а потым не менш стараннай працай».

Настаўнікі Сінкевіцкай школы прыгадваюць таксама, што Якуб Колас на гэтай сустрэчы абяцаў дапамагчы пабудаваць шко-

лу, што абяцанне сваё стрымаў, пра што пісаў у школу. На жаль, ліст Якуба Коласа ў Сінкевічах не захаваўся. Якуба Коласа радавала, што ўсюды яго сустракалі прыветна. Балела сэрца на Палессі ў час гэтай паездкі, бо вайна пакінула тут свае жахлівыя сляды: «Усюды відаць сляды разбурэння, — занатоўвае пісьменнік у дзённіку. — Асабліва разбурана мястэчка Леніна. Яго фактычна няма. Народ абнасіўся, асунуўся, але цвёрда, мужна і свядома ставіцца да жыцця» *(Т. 12. С. 493).*

І пазней Якуб Колас выбіраўся дэпутатам Вярхоўных Саветаў БССР і СССР. Да сваіх дэпутацкіх абавязкаў ставіўся выключна адказна, імкнучыся дапамагчы сваім выбаршчыкам. «22 сакавіка 1948 года на імя П. К. Панамарэнкі ён шле ліст як дэпутат Вярхоўных Саветаў БССР і СССР. Прыводзім яго цалкам. «У Мікашэвіцкім дзіцячым доме (Ленінскі раён Пінскай вобласці) выхоўваецца 100 дзяцей-сірот, бацькі якіх загінулі на франтах Айчыннай вайны. Гэты дзіцячы дом працуе ў кепскіх умовах: размешчаны ён у старых будынках, якія патрабуюць неадкладнага рамонту, лазні зусім няма, для перавозак служыць адзін конь, усё патрэбнае для дзіцячага дома вучні вымушаны прывозіць з Пінска цягніком, на што ідзе шмат часу і сродкаў. Нават шэф дзіцячага дома — Мікашэвіцкі фанерны завод — не дапамагае яму патрэбнаю для рамонту драўнінаю. Прашу вас даць адпаведным установам указанне аб вылучэнні грузавой аўтамашыны для патрэб дзіцячага дома і аб водпуску 30 кубаметраў піламатэрыялаў на рамонт памяшкання. Гэта дапаможа карэнным чынам палепшыць умовы жыцця і выхавання дзяцей. Ліст выхаванцаў дзіцячага дома прыкладаю» *(Т. 13. С. 525 — 526).*

У 14 томе Збору твораў Якуба Коласа змешчаны ліст ад 25 ліпеня 1950 года, адрасаваны старшыні Баранавіцкага аблвыканкама, у якім просіць разабрацца са скаргай Зайко І. П. Аб выніках паведаміць. *(Т. 14. С. 19 — 20).* У маі 1947 года Якуб Колас клапаціўся па скарзе аднаго палешука. Пра гэта пісьменнік піша ў сваім дзённіку «На схіле дня» *(Т. 12. С. 499).* Праз месяц быў у Кісялёва К. В. «прасіў ад імя маіх выбаршчыкаў Ленінскага раёна Пінскай вобласці падкінуць ім трохі адзення. Мне таксама радасна, калі ўдаецца штокольвечы зрабіць на карысць людзям» *(Т. 12. С. 501).*

Ёсць яшчэ адна цікавая старонка сувязі Якуба Коласа з Берасцейшчынай — апекаванне яго дзіцячым домам № 2 г. Брэста, які размяшчаўся на былой сядзібе ўкраінскага пісьменніка А. Старажэнкі (цяпер тэрыторыя спецшколы). У 1954 годзе дзеці гэтай школы прыслалі Якубу Коласу ліст і прасілі яго, каб даў згоду на права насіць імя пісьменніка. Якуб Колас адгукнуўся.

**«18.X. 1954 г.**

**Дарагія мае маленькія сябры!**
**Выхаванцы Брэсцкага дзіцячага дома!**

Вы аказваеце мне дужа вялікі гонар, просячы мяне, каб называўся ваш дом маім імем. Я нічога не маю супроць гэтага, хоць прытрымліваюся правіла — не прысвойваць імя таго ці іншага чалавека покуль ён яшчэ жыве на свеце. Напішыце ў вышэйшую інстанцыю аб гэтым, сказаўшы, што я з вялікай радасцю і ўдзячнасцю згодзен, каб Ваш дом насіў маё імя.

Яшчэ раз дзякую вам, дарагія мае. Жадаю вам вялікіх поспехаў у вашай вучобе, каб у далейшым стаць будаўнікамі новага, светлага жыцця і быць вялікімі патрыётамі сваёй Радзімы.

*Усяго найлепшага.*
*Якуб Колас.»*

Напэўна, дзеці зрабілі так, як параіў ім мастак слова. У студзені 1955 года дзіцячаму дому № 2 г. Брэста было нададзена імя пісьменніка. Ва ўсіх дакументах ён іменаваўся як Брэсцкі дзіцячы дом імя Якуба Коласа. Паміж народным пісьменнікам і сіротамі з Брэста завязалася перапіска, якая перарасла ў сяброўства. Вядома, што Якуб Колас у Брэст напісаў 14 лістоў. Захавалася іх цалкам толькі два: першы і апошні, а таксама ўрыўкі з іншых лістоў, змешчаныя ў артыкуле былога дырэктара дзіцячага дома імя Якуба Коласа І. А. Брыкуна «Друг дзяцей» («Звязда», 1962, 3 лістапада).

У сваіх лістах да дзяцей Якуб Колас клапаціўся, каб яны раслі маральна здаровымі: любілі народ, які ў цяжкія пасляваенныя гады адрываў ад сябе самае неабходнае, каб не пакрыўдзіць сіротаў, каб раслі працавітымі і сумленнымі, каб былі дружнымі і любілі прыроду, каб здолелі заняць сваё месца ў жыцці: «А для гэтага трэба вучыцца, набываць усебаковыя веды, трэба добрасумленна працаваць, усім сэрцам любіць народ, сярод якога жывяце, пазнаваць яго сэрца, яго зямлю, прыроду... І яшчэ адно хачу напомніць вам, — жывіце ў згодзе і дружбе паміж сабою. Ніколі не рабіце іншым таго, чаго не хацелі б вы, каб вам рабілі іншыя... Вашы поспехі і паводзіны, вартыя савецкіх людзей, будуць моцна радаваць мяне».

Якуб Колас не стамляўся паўтараць сваім падапечным: трэба вучыцца, трэба працаваць, трэба помніць дабро народа, які даў прытулак сіротам, трэба з павагай і ўдзячнасцю ставіцца да гэтага народа. Гэтыя думкі праходзяць чырвонай ніткай праз апошні ліст Якуба Коласа, адрасаваны ў Брэст.

**«4.V. 1956 г.**

**Дарагія, маладыя сябры мае, дзяўчаткі і хлопчыкі, выхаванцы дзіцячага Брэсцкага дома!**

Ваша пісьмо я атрымаў. Дзякую за памяць. Мне толькі непрыемна, што не ўсе вы добра вучыцеся, што не ўсе з вас стараюцца мець добрыя адзнакі. Ваша пара, ваш час — самыя лепшыя ў жыцці, і калі вы не скарыстаеце яго для навукі, для сапраўднай падгатоўкі да жыцця, дык вы ўпусціце тое, што потым цяжка будзе вярнуць, нагнаць.

Хацелася б таксама чытаць вашы пісьмы на беларускай мове. Не трэба зневажаць мову народа, сярод якога вы жывяце, не трэба рабіць так, каб наша роднае слова не мела сабе прытулку ў сваёй роднай краіне.

Вы пісалі мне пра тое, каб вашаму дому вылучылі грузавую машыну для патрэб вашай гаспадаркі. Аб гэтым я напісаў пісьмо Старшыні Савета Міністраў БССР таварышу Мазураву. Пабачу яго, пагавару з ім асабіста, падтрымаю вашу просьбу.

*Усяго вам найлепшага.*
*Якуб Колас.»*

З лістоў вынікае таксама, што пісьменнік імкнуўся забяспечыць пільныя патрэбы дзіцячага дома г. Брэста. Ён сабраў для дзяцей цэлую бібліятэку кніг з даравальнымі надпісамі. Кнігі загінулі, калі закрылі дзіцячы дом. Ніхто пра іх не парупіўся. Нарэшце, Якуб Колас запрасіў дзяцей з Брэста да сябе на сустрэчу. 16 красавіка група выхаванцаў наведала Якуба Коласа ў Мінску. Гэты гонар выпаў на долю пяці лепшых выхаванцаў, лепшых чытачоў, лепшых знаўцаў творчасці пісьменніка на чале з І. А. Брыкуном. Гасцяванне працягвалася ажно тры дні. Якуб Колас усё зрабіў, каб яно было ўражлівым і запамінальным: арганізаваў наведванне балета «Эсмiральда», сустрэчу з Янкам Маўрам, паказваў сядзібу, расказваў пра пасаджаныя дрэўцы і пасеянае жыта, а найбольш распытваў сам. На ўспамін разам сфатаграфаваліся. Гэтая паездка многа значыла і для дзяцей. Яны сталі называць сябе коласаўцамі і імкнуліся быць вартымі гэтага ганаровага звання.

Такія цесныя стасункі Якуба Коласа з Берасцейшчынай, асабліва з Палессем, не маглі не выявіцца ў творчасці пісьменніка. На палескім матэрыяле напісаны творы розных жанраў: вершы, апавяданні, дзве першыя кнігі трылогіі «На ростанях». Палессю прысвечана пяць вершаў Якуба Коласа. Тры з іх увайшлі ў «Другое чытанне для дзяцей беларусаў» і спецыяльна пісаліся для гэтай кнігі: «Вясна на Палессі» і «Палессе» з удакладненнем «З дарогі», «Вечар на Палессі». У першым вершы створана паэтычная карціна

палескай вясны. У цэнтры яго — тыповы палескі краявід, балоты, лясы, гаі, чараты. Паэтычная карціна шматгалосая: бухаюць бугаі, стогнуць кнігаўкі, крычаць жураўлі. Усё гэта радуе лірычнага героя, выклікае аптымізм.

У другім вершы лірычны герой трапляе пад уладу аднастайных бясконцых палескіх краявідаў. Яны цяжарам кладуцца на яго душу, спараджаюць панылы настрой, адзіноту. Лірычны герой імкнецца вызваліцца з гэтай аблады, скінуць невядомую сілу, што цяжарам лягла на душу:

Хоць бы поле заблішчала,
Хоць бы вёска ўжо хутчэй!
*(Т. 1. С. 199)*

Яшчэ адна паэтычная карціна створана ў вершы «Вечар на Палессі». Паэту мілы той час, «як з палёў ідзе народ!» Вёска ажывае, поўніцца гукамі, у тым ліку песнямі. Лірычны герой захоплены палескімі мелодыямі:

Мне іх песні сэрцу мілы,
Хоць і многа ў іх нуды.
Некісь жаль казыча жылы,
Як заграюць дудары.
*(Т. 1. С. 391)*

Вершам «Палескія вобразы» пісьменнік імкнецца адкрыць чытачу «балот краіну», «палескі край». Паэт называе характэрныя для Палесся вобразы, раскрываючы сваю любасць і замілаванне. Аўтарскія адносіны выяўляюцца праз выкарыстанне слоў з памяншальна-ласкальнымі суфіксамі (мосцік, крынічка, лужок), ацэначнымі эпітэтамі і гіпербаламі (хвоя-веліч, старасвецкі дуб, мора траў). Паўната створанай карціны дасягаецца за кошт кантрастных вобразаў. З аднаго боку, гразь, пяскі, пераплеценыя карэннем дарогі, груша-сіраціна, пахілены крыж, з другога — пералескі, веліч-хвоя, шум крынічкі.

Знаходзячыся ўдалечыні ад Радзімы, на далёкай Куршчыне, Якуб Колас піша яшчэ адзін верш пра наш край — «Палессе» (1916). У ім паэт лічыць сябе сынам гэтага краю. Яго сэрца баліць, што Палессе ў чарговы раз стала арэнай вайны чужынцаў, што зноў там гінуць людзі, вынішчаюцца матэрыяльныя і духоўныя набыткі:

Я далёка цяпер
Ад палескіх раўнін,
А люблю я той край,
Бы яго родны сын,
І па ім маё сэрца баліць.
*(Т. 1. С. 381)*

У гэтым вершы Якуб Колас паказвае велічны, без канца і краю, захапляльны вобраз Палесся, выкарыстоўваючы гіпербалы, эпітэты, паўторы:

Я люблю твой прастор,
Гмах шырокі балот,
Дзе бубняць бугаі,
Дзе красуе чарот.
І дзе травы, як мора, ляглі.
Калі лес там, дык лес:
Можна тыдзень дыбаць;
А прастор, дык прастор —
І канца не відаць,
Не ахопіш, не змерыш зямлі.

*(Т. 1. С. 380)*

Любоў да Палесся тут выяўлена адкрыта. Гэты край мілы паэту, да яго ён прыкіпеў душой. Ён некалькі разоў паўторыць слова «люблю» ў адносінах да Палесся.

Палескі рэгіянальны матэрыял па-мастацку асэнсаваны ў многіх апавяданнях Якуба Коласа. Частка іх, магчыма, лягла на паперу, калі ён працаваў у Пінкавічах, бо ўсе яны датуюцца 1906 г. і апублікаваны ў першых нумарах газеты «Наша ніва».

Апавяданне «Выбар старшыні» належыць да сатырычна-бытавых твораў. Старшыня з пісарам за гарэлку купляюць галасы выбаршчыкаў. Нікчэмнасць чыноўнікаў раскрываецца праз узаемаадносіны з земскім і з сялянамі. З першым — страшэнна спалоханыя, пакорлівыя, прыніжаныя. З другімі — нахабныя, уладарныя, недасягальныя, важныя.

На сувязь гэтага творам з Палессем нагадвае ўсяго адзін сказ: «Гэта пазалетась выбіралі старшыню каля Пінска». Відавочна, што ў аснову апавядання «Выбар старшыні» былі пакладзены рэальныя падзеі, сведкам якіх Якуб Колас быў у Пінкавічах. Пазней гэтая жыццёвая сітуацыя ўвайшла ў аповесць «У глыбі Палесся» — выбар старшыні Захара Лемеша. У трылогіі «На ростанях» яна больш выразна выяўляе настрой сялянаў, разуменне імі, што яны за гарэлку робяць нешта амаральнае. Невыпадкова дзед Есіп, вяртаючыся, сп’янелы, дадому пасля Захаравага частавання, просіць сустрэчных пабіць яго, бо ёсць за што.

У аснову апавядання «Бунт» пакладзены падзеі, якія адбываліся ў канцы 1905 г. у Пінкавічах і ў якіх прымаў удзел і сам пісьменнік. Ён пераканальна паказвае, што памешчыкі і ўлады, якія чынілі беззаконне і якіх падтрымліваў чыноўніцка-паліцэйскі апарат, самі штурхалі сялян на рэвалюцыйныя меры. Сяляне не бунтавалі, яны ішлі законным шляхам, аднак іх прынялі за бунтаўшчыкоў. У вы-

ніку былі арыштаваныя разам з настаўнікам, які пісаў ім петыцыю. Пазней і гэтае апавяданне, перапрацаванае і дапоўненае, было ўключана ў другую аповесць трылогіі «На ростанях».

Апавяданне «Кантракт» мае прыпіску «З жыцця пінчукоў», што падкрэслівае, які матэрыял пакладзены ў яго аснову. Героямі тут выступаюць палешукі. Яны маюць прозвішчы, характэрныя для вёсак, дзе працаваў настаўнікам Якуб Колас, — Кукса, Рылка, Лата і інш. Пісьменнік з этнаграфічнай дакладнасцю апісвае іх убранне. У аснову апавядання пакладзена трагічна-камічная сітуацыя, як уся вёска з-за непісьменнасці не магла аформіць звычайны кантракт, які даваў права чатыром вяскоўцам арандаваць рэчку і тоні. Дамовіліся яны хутка, аформіць дамову без пісара не здолелі. Чаго варта апісанне, як шукалі пісьмовыя прылады. Усё гэта выклікае горкі смех, смех праз слёзы.

Дзве замалёўкі («Палеская вёска» і «Палессе») былі напісаны Якубам Коласам для «Другога чытання для дзяцей беларусаў». Яны закліканы былі адкрыць вучню самабытны куток Беларусі з адметнай прыродай і своеасаблівымі насельнікамі. У першай замалёўцы даецца этнаграфічна дакладнае апісанне вёскі, сялянскага двара, хаты, мужчынскай і жаночай вопраткі палешука. Агульны малюнак апісаны так, што ён пакідае панылы настрой. Усім ходам апавядання Якуб Колас рыхтуе чытача да высновы, якой і заканчваецца замалёўка. «Нудна ў гэтых глухіх, гразкіх палескіх вёсках, раскіданых па лесе, меж бесканечнага гнілога балота» (Т. 4. С. 257).

У замалёўцы «Палессе» апісваецца тыповы палескі краявід. Яна адкрываецца апісаннем лесу і дрэваў, якія ў ім растуць, затым ідуць балоты з іх скупою расліннасцю. Яны змяняюцца лесам, перасечаным невялічкімі палянкамі. На іх асобныя забудовы і пчольнікі. Агульны малюнак смутны. Гэты настрой узмацняецца жаласлівымі ці рэзкімі гукамі то жалейкі пастуха, то дудкі, то нейкай птушкі.

Найбольш шырока і па-мастацку матывавана палескі каларыт выявіўся ў першых дзвюх аповесцях трылогіі «На ростанях». Агульнавядома, што ў яе аснове многія падзеі, хоць і паказаны як мастацкае абагульненне, мелі месца ў жыцці самога пісьменніка, яго блізкіх і знаёмых. Шырока выкарыстаны ў творы ўласныя фальклорныя і этнаграфічныя запісы, зробленыя ў час настаўніцтва на Палессі. Аўтабіяграфічны вобраз галоўнага героя твора — Андрэя Лабановіча. Дарэчы будзе заўважыць, што спачатку галоўны герой меў імя Андрэй Міхайлавіч (бацька пісьменніка таксама называўся Міхалам), пазней стаў Андрэем Пятровічам. Многія старонкі сваёй біяграфіі пісьменнік аддаў Лабановічу. Нас цікавяць

тыя, якія звязаны з Палессем: настаўніцтва ў Люсіна і Пінкавічах, удзел у рэвалюцыйных выступленнях з пінкавіцкімі сялянамі.

Многія з герояў трылогіі выступаюць пад уласнымі прозвішчамі і імёнамі, некаторыя — пад крыху ці зусім змененымі. У кнізе Максіма Лужаніна «Колас расказвае пра сябе» прыгадваецца, як аўтар «Сымона-музыкі» жартаўліва прапанаваў наладзіць канферэнцыю герояў трылогіі «На ростанях». «Трэба сказаць, — прызнаваўся Якуб Колас, — што ніхто з іх цалкам не выдуманы. Але ж боязна: з'едуцца, павыскубаюць мне апошнія валасы. Той-сёй можа пакрыўдзіцца, пазнаўшы сябе. Хіба што адзін Лабановіч змоўчыць.

Ён зноў смяецца і пачынае жартаўліва лічыць, каму б з герояў можна было б паслаць запрашэнні на сустрэчу...» *(Лужанін М. С. 224 — 225).* Называюцца іх сапраўдныя прозвішчы: Ядвіся — Ядвіга Ігнатаўна Баранцэвіч, Саханюк — Дылеўскі, Дулеба — Камароўскі. З усіх названых Якубам Коласам прататыпаў герояў мы пакінулі тых, каго ён сустрэў у час настаўніцтва ў Люсіна і Пінкавічах. Мясцовыя краязнаўцы знайшлі шмат іншых прататыпаў герояў першых дзвюх аповесцей трылогіі «На ростанях». Бабка Мар'я, яе сын Рыгор, стараста Бабіч, Бязручкі — бацька і сын, старожка Ганна, пан Скірмунт. Яны ўвайшлі ў твор пад уласнымі прозвішчамі. Некаторым, скажам, пінкавіцкім знаёмым Якуб Колас змяніў ці імя, ці прозвішча. Царкоўны стараста Рыгор Крышчук стаў Рыгорам Крэшчыкам, дзяк Хацяноўскі — Бацяноўскім, Міхал Жыжэйка — Міхалам Мажэйкам. Маюць сваіх прататыпаў айцец Мікалай (былы поп Шумакевіч), яго дзве дачкі Антаніна і Глафіра (першая ў сапраўднасці называлася Аленаю), карчмар Мартын Мярчыцкі выступае як Максім Гулейка. Прататыпам Захара Лемеша з'яўляецца Аляксандр Лой.

Трэба мець, аднак, на ўвазе, што Якуб Колас не жыўцом пераносіў у свае творы лёсы яго прататыпаў. Узяць хоць бы вобраз старожкі Ганны, прататыпам якой з'яўляецца Ганна Снежка, звычайная, нават прывабная жанчына. Яе муж, горкі п'яніца, бадзяўся па свеце. Яна працавала старожкай, жыла пры школе, гадавала двух дзяцей. А вось якой старожкай Ганна паказана ў трылогіі «На ростанях»: «Лабановіч першы раз бачыць такую брыдкую няўдалую жанчыну. Постаць яе няскладная. Маленькія піўныя вочкі глыбока ў лоб заходзяць. Але гэта ўсё нічога — нос, вось дзе ўсё няшчасце беднай жанчыны. Носа, можна сказаць, і няма; пярэдняя частка яго праваліласяк, тырчыць каля вачэй агрызак носа. Нос, ці праўдзівей, бязноссе, робіць твар жанчыны страшна брыдкім, пачварным, а голас гугнявым» *(Т. 9. С. 270).* Адступленне аўтара ў апісанні знешнасці старожкі Ганны абумоўлена агульнай задумай твора, імкненнем пісьменніка раскрыць трагедыю адзінокай жанчыны.

Пісьменнік шырока ўводзіць у твор геаграфічныя назвы, якія з'яўляюцца своеасаблівымі арыенцірамі, каб чытач ведаў, дзе адбываецца дзеянне. Галоўны герой трылогіі «На ростанях» Андрэй Лабановіч працуе на Палессі ў вёсках Цельшына і Выганы. Гэта выдуманыя пісьменнікам назвы, аднак выразна (хоць яны і тыпізаваныя) угадваюцца тыя, дзе працаваў настаўнікам Якуб Колас — Люсіна на Ганцаўшчыне і Пінкавічы на Піншчыне. Падказкаю тут выступаюць сапраўдныя геаграфічныя тапонімы. Лабановіч, крыху пацвельваючы над лекарскімі здольнасцямі бабкі Мар'і, кажа, што пра яе знахарства ведаюць у Хатовічах, у Малькавічах і Ганцавічах. Бабка не без гонару дадае: «... з-пад самага Пінска прыходзяць і прыязджаюць да старое Мар'і» *(Т. 9. С. 7 — 8).* Малькавічы і Ганцавічы знаходзяцца непадалёку ад Люсіна, а ў назве Хатовічы без цяжкасці ўгадваецца суседняя з Люсіна вёска Хатынічы.

Яшчэ больш дакладны Якуб Колас у вызначэнні месцазнаходжання вёскі Выганы. У другой кнізе трылогіі гаворыцца, што гэтае паселішча размешчана ў пяці вярстах ад Пінска на самым беразе ракі Піна. З ліку іншых геаграфічных арыенціраў згадваецца Альбрэхтова, уладанне пана Скірмунта, вёскі Лашча і Купяцічы.

Якуб Колас шырока ўвёў у абедзве палескія аповесці мікратапонімы вёсак Люсіна і Пінкавічы. У першай кнізе згадваецца Сяльцо, Целяшоў Дуб, Завітанкі, Яшукова гара і інш. Дакладны пісьменнік у апісанні саміх вёсак. Калі параўноўваеш агульны выгляд вёскі Цельшына, апісаны ў аповесці «У палескай глушы», і Люсіна, то асабліва выразна бачыцца, у якой ступені Якуб Колас дакладны ў перадачы адметнасцей гэтай палескай вёскі на Ганцаўшчыне. У трылогіі згадваецца, што школа ў Цельшыне стаяла на перасячэнні дзвюх вуліц, што каля яе стаяў высачэзны крыж. У пісьме, адрасаваным люсінцам у 1948 г., Якуб Колас адказваў на іх просьбу дапамагчы пабудаваць новую школу і згадваў гэты крыж. Гэта яшчэ адно сведчанне таго, што Якуб Колас шырока ўводзіць у твор рэаліі, якія запомніліся яму з гадоў настаўніцтва на Палессі. Адзначае пісьменнік і такую адметнасць планіроўкі вёскі, калі будынкі цягнуцца ў глыб двароў. І па сённяшні дзень захаваліся такія сядзібы ў Пінкавічах. Рэгіянальны каларыт выявіўся і ў пейзажах трылогіі «На ростанях». Яны выступаюць у творы своеасаблівай характарыстыкай-арыенцірам месца жыцця і працы Андрэя Лабановіча. Пісьменнік не проста канстатуе, што першыя гады працы галоўнага героя прайшлі на Палессі, а па-мастацку малюе гэты самабытны куток Беларусі, прытрымліваючыся навуковай дакладнасці. Пісьменнік не аднойчы адзначыць плоскі раўнінны рэльеф, бясконцыя балоты-пустэлі, пакрытыя купінамі і нізкарослым хмызняком. Суцэльныя лясныя масівы зрэдку перакрываюцца не-

вялічкімі палянкамі, якія абрабляліся палешукамі. Такое апісанне характэрнае для аповесці «У палескай глушы», дзе дзеянне адбываецца на акраінным Палессі недалёка ад Случчыны.

Глыбіннае Палессе, якое апісваецца ў другой кнізе трылогіі «На ростанях», характарызуецца яшчэ і наяўнасцю вялікай колькасці рэк. Пісьменнік апіша Піну, але згадае Струмень, Стаход, Стыр. Павольная плынь гэтых рэчак, шырокія паплавы, неабсяжныя, як мора, балоты, пакрытыя чаротам з бурымі мяцёлкамі, — такім адкрыецца зарэчны краявід Андрэю Лабановічу, калі ён прыедзе на новае месца працы ў Выганы. У вочы герою кінуцца чаўны і чайкі-душагубкі, павольныя «дубы», якімі кіруюць палешукі і паляшучкі, бераг Піны.

У трылогіі «На ростанях» Якуб Колас стварыў і цудоўны урбаністычны пейзаж. У Коласавым апісанні выразна паўстае Пінск пачатку XX стагоддзя. Вузкія вулачкі, драўляныя дамкі і тратуары і велічныя помнікі старасвеччыны — застыглыя і цудоўныя летапісцы гісторыі горада і краю.

Карціны прыроды ў трылогіі «На ростанях» раскрываюць плынь часу. У пачатку першай аповесці шмат асенніх пейзажаў. Андрэй Лабановіч прыехаў на працу ў сярэдзіне восені, калі стаялі цёмныя, як сажа, ночы, калі раніцаю вада пакрывалася тоненькім лядком, калі на вуліцах Цельшына стаяла непралазная гразь. Лясы, што падступалі пад самую вёску, мелі асабліва пануры, журботны выгляд.

На старонках аповесці «У палескай глушы» няма разгорнутых зімовых апісанняў. Пісьменнік даў усяго адну замалёўку зімовага лесу, падкрэсліўшы плынь часу ў творы. Затое шмат у першай кнізе трылогіі апісанняў вясны, любімай пары года Андрэя Лабановіча. Вясна ў аповесці «У палескай глушы» антанімічна восені і па адметнасці пейзажных малюнкаў, і па тым уплыве, які аказвае на галоўнага героя. Позняя восень у першай кнізе трылогіі прыгнятае героя, а вясна, наадварот, падымае настрой, нараджае аптымізм. Такім чынам, пейзажныя малюнкі ў аповесці «У палескай глушы» выразна сведчаць пра тое, што ў Цельшына Лабановіч працаваў усяго адзін навучальны год: прыехаў восенню і пакінуў першае месца сваёй працы ў самым пачатку лета.

Так выразна прасачыць плынь часу ў аповесці «У глыбі Палесся» ўжо нельга. Асабліва дэталёва апісваецца залатая восень, калі Лабановіч толькі што прыехаў на новае месца працы. Далей пісьменнік дасць проста інфармацыю, што Лабановіч ужо два гады жыве і працуе ў Выганах.

Ёсць яшчэ адна надзвычай важная функцыя карцінаў прыроды ў трылогіі «На ростанях». Яны выступаюць сродкам характары-

стыкі Андрэя Лабановіча. Галоўны герой належыць да той катэгорыі людзей, для каго «прырода — найцікавейшая кніга, якая разгорнута перад вачамі кожнага». Чытаць кнігу прыроды — шчасце для героя. У аповесці «У палескай глушы» Лабановіч прагна чытае кнігу прыроды і багацее душою. На жаль, у другой частцы аповесці «На новым месцы» малады настаўнік фактычна не паказаны ў кантактах з прыродаю. Ствараецца ўражанне, што ён згубіў цікавасць да прагулак, вандровак, якім аддаваў шмат часу ў Цельшыне.

На першым месцы працы малады настаўнік наталяе прагу пазнання новага для яго рэгіёна Беларусі — Палесся. Для яго, мінчука, гэта іншы край, але не менш цікавы, прыгожы і самабытны. Пісьменнік не аднойчы падкрэсліць захапленне свайго героя палескімі краявідамі. Прырода мае моцную ўладу над настроем, думкамі, памкненнямі Андрэя Лабановіча. Пазіраючы на балоты-пустэлі, на засохлыя алешыны, якія тырчалі з вады, па дарозе ў Хатовічы, Лабановіч адчуваў нейкую адарванасць ад жыцця і свету, адзіноту. Першая палеская вясна, наадварот, калыхала душу героя ціхаю няяснаю песняю і казкаю, поўнай хараства і чараў. У знешнім абліччы палешукоў, у іх павольнасці, няспешнасці рухаў, у сур'ёзнасці твараў малады настаўнік выразна бачыць уплыў палескіх пейзажаў. Пінскі манастыр абуджае ў памяці Андрэя Лабановіча падзеі мінулага — змаганне двух веравызнанняў на тэрыторыі краю.

У апісаннях прыроды ў трылогіі «На ростанях» жыва выяўляецца асоба самога пісьменніка. Якуб Колас палюбіў Палессе, «бы яго родны сын», і гэтая любоў выявілася ў паэтычнасці, малюнкавасці палескіх краявідаў. Пісьменнік стварыў выразныя карціны палескай прыроды, паказаў яе ў багацці, разнастайнасці і самабытнасці зрокавых і слыхавых уражанняў. Коласавы пейзажы шматфарбныя. Паказальна, што для малюнкаў прыроды Палесся характэрны паўтоны, змяшанне колераў, што надае ім асаблівую мяккасць, задуменнасць. Вясною зямля, якая вызвалялася з-пад снегу, выглядала жаўтавата-шэрымі плямкамі, а малады бярэзнік меў чырванаватае адценне. Сіняватая смуга звісае над зарэччам, белаваты туман плыве над лазнякамі. Лабановіч звярнуў увагу на бледна-зялёныя ўсходы ранніх аўсоў. Толькі той адметнай своеасаблівай восенню, калі на Палессі зацвілі сады, фарбы ў прыродзе набылі выразную акрэсленасць. Пісьменнік гаворыць пра сінюю смугу, пра залатую чырвань лістоў, пра цёмныя ночы, кувяцістыя зоры.

Пісьменнік паказвае не толькі багацце і разнастайнасць колернай гамы палескіх пейзажаў, але і формы, контуры: кустоўнік лазы і маладой асакі рассцілаецца шырачэзнымі круглымі абшарамі, здалёк віднеюцца цёмныя зубастыя палоскі лясоў, падступае да

дарогі высокая сцяна бору і інш. Палеская прырода ў трылогіі поўніцца гукамі, якія выяўляюць яе рэгіянальны каларыт. Нават вясною жалобна крычаць кнігаўкі, тужліва крумкаюць жабы, бухаюць бугаі, невыразна маркотны гоман стаіць над балотамі.

Як бачым, прырода ў Якуба Коласа жыве. Яна радуецца ці маркоціцца, весела звініць ці знаходзіцца ў тужлівым задуменні, лес мае то прыветны, то пануры выгляд. Зрокавасць, малюнкавасць палескіх краявідаў, створаных Якубам Коласам у першых дзвюх аповесцях трылогіі «На ростанях», сёння набываюць асабліва важнае значэнне. Праз гэтыя пейзажныя замалёўкі паўстае Палессе, якім яно было ў пачатку ХХ стагоддзя. Савецкі чалавек, які не чакаў міласці ад прыроды, а браў ад яе, не дбаючы пра заўтрашні дзень, прагавіта наталяючы сённяшні, нанёс непапраўную страту прыродзе Палесся. Бяздумная меліярацыя паставіла яго на край экалагічнай катастрофы. Палескія пейзажы ў трылогіі Якуба Коласа «На ростанях» — горкі дакор сучаснікам.

Перад чытачом на старонках першых дзвюх аповесцей трылогіі паўстаюць выразныя постаці палешукоў і паляшучак. Якуб Колас перадае іх знешнюю адметнасць, склад характару. Пісьменнік адзначае фізічнае здароўе і сілу палешукоў, падкрэслівае, што мужчыны носяць доўгія, як у папа, валасы, што ў большасці яны цёмна-русыя. Для жыхароў краю характэрны светла-шэрыя вочы, павольнасць і паважнасць рухаў. Не засталася па-за ўвагаю пісьменніка і вопратка палешукоў. Асабліва дакладна апісаны верхні мужчынскі касцюм: чорная суконная світка, пашытая да стану, шырокі ў чырвоныя палоскі пояс. Жаночыя святочныя ўборы Якуб Колас не дэталізуе, аднак заўважае, што дзяўчаты і маладзіцы, выходзячы з хатовіцкай царквы, выглядалі як «макавыя кветкі ў агародзе» *(С. 21).* Гэтым параўнаннем падкрэсліваецца перавага ў святочным жаночым уборы чырвонага колеру.

У характары палешукоў Якуб Колас адзначыць стрыманасць, паважнасць, скрытнасць, гордасць і годнасць. «Сям-там, — заўважае пісьменнік, калі Лабановіч трапіў на Каралінскі рынак у Пінску, — пападаліся тыповыя постаці палешукоў і паляшучак, надзвычай паважных і нават гордых, бо яны так зняважліва паглядалі на ўсё, што не было палешуком і не надта ахвотна ўступалі ў размовы, якія не мелі беспасрэдных адносін да іх уласных персон» *(Т. 9. С. 257).* Пісьменнік лічыць, што на характар жыхароў Палесся накладвалі свой адбітак адметнасць краявідаў. Балоты і лес заўсёды заключалі для чалавека пэўную неспадзёўку, вучылі асцярожнасці і абачлівасці.

Палескі каларыт у трылогіі «На ростанях» выявіўся яшчэ і ў тым, што Якуб Колас уклаў у вусны герояў палешукоў словы і

сказы, якія выразна падкрэсліваюць фанетычныя і марфалагічныя асаблівасці Берасцейска-Пінскага Палесся. Прывядзём некалькі прыкладаў. Старожка Саханюка сказала свайму настаўніку паляшуцкай гаворкай: «Да вас, панычу, там маладыца прышла — лыст напысаць хочуць» *(С. 23).* Адзін з вучняў Андрэя Лабановіча адказвае свайму настаўніку: «Не знаю, што казаты» *(С. 39).* Часам на паляшуцкі лад адказвае і Лабановіч. Вярнуўшыся ад Турсевіча, ён расказвае бабцы Мар'і: «Было што і піты, і есты, але прынукі не было» *(С. 82)* і інш. Пісьменнік зазначыць, што «ў Цельшыне быў такі звычай, што адна старая жанчына, звяртаючыся да другой, казала ёй «дзеўка» *(С. 47).* Гэты звычай жыве на Ганцаўшчыне і сёння.

Нарэшце, Якуб Колас уводзіць у трылогію «На ростанях» легенду пра Яшукову гару, якую запісаў у Люсіне і ўключыў у сваю навуковую працу «Аб сялянскіх будынках (вёска Люсіна, Мінскай губерні, Пінскага павета, Хатыніцкай воласці)». Як адзначалася вышэй, Якуб Колас запісаў два варыянты легенды пра Яшукову гару. У трылогію «На ростанях» уведзены другі варыянт, прычым ён уключаны ў твор не цалкам, а толькі тая частка, якая выяўляе сацыяльны канфлікт паміж панам і селянінам. Гэта вытлумачваецца падпарадкаванасцю легенды ідэйнай задуме твора.

Рэгіянальныя адметнасці ў першых дзвюх аповесцях трылогіі «На ростанях» маюць не толькі пазнавальнае значэнне, а выступаюць сродкам характарыстыкі галоўнага героя. Лабановіч упершыню трапіў на Палессе і адкрывае для сябе новы свет, некрануты край старажытнасці, якая на кожным кроку кідалася яму ў вочы і затрымлівала на сабе ўвагу. Палешукі для Лабановіча — людзі, «якія яшчэ так мала адышліся ад часоў першапачатковай людской культуры» *(С. 8).* «Жыхарства гэтай вёскі (*Цельшына* — ***В. Л.***) выяўляла сабою праўдзівых дзяцей лесу, якія як бы зусім яшчэ нядаўна асталяваліся тут і толькі што пераходзілі ад аднае формы жыцця да другой» *(С. 16).* З гэтых развагаў Лабановіча вынікае, што для яго Палессе — край экзотыкі, і ўяўленні маладога настаўніка пра гэты край пакуль што кніжныя.

Важна, аднак, што Лабановічу не ўласціва пачуццё перавагі перад палешукамі. Якуб Колас адзначае: «Яму па душы быў і гэты глухі куток Палесся, і гэты народ з яго асаблівасцю моваю і звычаямі, так не падобнымі да мовы і звычаяў тых беларусаў, з гушчы якіх выйшаў Лабановіч» *(С. 12).* Яшчэ не адзін раз пісьменнік падкрэсліць, што галоўны герой ухвальна ставіўся да Палесся і палешукоў. Праз яго адносіны да людзей, да мясцін, куды закінуў яго лёс, чытач бачыць духоўна прыгожую асобу, гуманіста і дэмакрата, эстэтычны густ якога сфарміраваўся пад уздзеяннем народных

уяўленняў пра красу і агіду, пра высокае і нікчэмнае, пра камічнае і трагічнае.

Лабановіч — патрыёт Беларусі, яго думкі — пра лёс народа, пра яго ўчарашні і заўтрашні дзень. Маладому настаўніку з Мінnetwork Міншчыны не чужы мясцовы патрыятызм. Палессе для героя — вельмі дарагая часцінка радзімы, а палешукі — яго народ, прыналежнасць да якога і непарыўную сувязь з якім ён востра адчувае. Гэтых людзей Лабановіч абараняе ад зняваг і прыніжэння, пра што сведчыць яго палеміка з айцом Кірылам. Аднолькава балюча ўсведамляць адсталасць, забітасць беларусаў, дзе б яны ні жылі — на Палессі ці на Міншчыне.

Лабановіч належыць да людзей, здольных вучыцца ў іншых, нават у непісьменных сялянаў. Герой прыслухоўваецца да іх думкі, правярае свае высновы, свае перакананні, свае меркаванні, звяртаючыся то да бабкі Мар'і з пытаннем «Навошта чалавек на зямлі жыве?», то да Сцяпана Рылкі наконт праяў цывілізацыі на Палессі, то да Рамана Круглага — наконт ролі школы і вучэння. Лабановіч захапляецца фізічным і маральным здароўем народа, і гэта нараджае ў ім аптымізм. Герою балюча і крыўдна, што палешукі непісьменныя, што гэта ўскладняе іх і так нялёгкае жыццё.

Праз адносіны да рэгіянальнага, да тых людзей, куды закінуў яго настаўніцкі лёс, выяўляецца духоўна прыгожая асоба, дэмакрат і гуманіст, эстэтычны густ і маральныя ідэалы якога сфарміраваліся пад уздзеяннем народных уяўленняў пра красу і агіду, пра дабро і зло. Палессе для Лабановіча — вельмі дарагая часцінка радзімы, а палешукі — яго народ, прыналежнасць да якога і непарыўную сувязь з якім ён востра адчувае.

У іншых адраджэнцаў наш край таксама пакінуў свой след. Цікавая старонка ў жыцці вядомай пісьменніцы, грамадскага і культурнага дзеяча ***Паўліны Мядзёлкі*** (1883—1974) таксама звязана з Берасцейшчынай. Гэтая жанчына зведала багатае на падзеі і нялёгкае жыццё. Нарадзілася яна ў 1893 годзе ў мястэчку Будслаў у вялікай сялянскай сям'і (цяпер Мядзельскі раён Мінскай вобласці). Неўзабаве сям'я пераехала ў Глыбокае. Прырода надарыла яе знешнім хараствем, талентам і палкім сэрцам, якое гарэла моцным жаданнем служыць свайму народу, усё рабіць дзеля таго, каб беларусы занялі «пачэсны пасад між народамі». Яе маладосць прыпала на час, калі адбывалася актыўнае ўсведамленне беларусамі сваёй этнічнай самастойнасці.

Паўліна Мядзёлка ведала і сябравала з такімі выдатнымі дзеячамі беларускага адраджэння пачатку XX стагоддзя, якімі былі Янка Купала, Карусь Каганец, Змітрок Бядуля, Ядвігін Ш., Цётка, Эпімах-Шыпіла, Максім Багдановіч і інш. Настаўніца, артыстка,

грамадскі, культурны і асветны дзеяч, пісьменніца, яна пакінула значны след у культурным жыцці беларусаў. Многія выдатныя людзі таго часу былі закаханыя ў Паўліну Мядзёлку, у тым ліку і Янка Купала. Невыпадкова ён і назваў сваю камедыю, напісаную для драматычных гурткоў беларускай моладзі, — «Паўлінка». Шмат у характарах гераіні і Паўліны Мядзёлка агульнага. Паўліна Мядзёлка была адной з першых выканаўцаў ролі Паўлінкі ў гэтай п'есе. Яе ігра падабалася Янку Купалу. Іх шляхам, аднак, не суджана было сысціся. Мядзёлка аддала перавагу віднаму палітычнаму дзеячу таго часу Тамашу Грыбу, хоць шлюб не аказаўся ўдалым. Яны разышліся.

Паўліна Мядзёлка стаяла ля вытокаў беларускіх школ на Берасцейшчыне. У 1918 годзе сяляне в. Мядзведзічы Ляхавіцкага раёна запрасілі яе на працу ў беларускую школу. Паўліна Мядзёлка, аднак, не абмежавалася толькі працай настаўніцы, а вяла вялікую растлумачальную і культурна-асветніцкую дзейнасць сярод сялянаў. Немцы, якія на той час акупавалі Ляхаўшчыну, у яе справы не ўмешваліся. Паўліна Вікенцьеўна знаёміла сялянаў з тым, што дзеецца на свеце, чытала газеты, адказвала на пытанні па вядзенні гаспадаркі, пра сацыяльныя і рэвалюцыйныя праблемы. «Абавязковай на такіх сустрэчах была мастацкая частка: чыталіся вершы, урыўкі з прозы, спяваліся беларускія народныя песні» *(Паўліна Мядзёлка. Сцежкамі жыцця. Мн., 1974. С. 123 — 124).* Асветніца прыгадвае, як радаваліся вяскоўцы абвяшчэнню дзяржаўнасці Беларусі.

На жаль, радасць была кароткай. У хуткім часе Ляхаўшчына была акупавана палякамі. Польскія ўлады ўсё рабілі для таго, каб беларуская школа ў Мядзведзічах перастала існаваць. Калі атрад палякаў пад камандай Дамброўскага ўварваўся ў Мядзведзічы, пачаліся рабункі сялянаў, вяскоўцаў клалі на лавы і лупцавалі. Такая доля ледзьве не спасцігла і Паўліну Вікенцьеўну. Ад гэтага яе выратаваў брат сяброўкі па гімназіі, які аказаўся сярод польскіх афіцэраў у Мядзведзічах.

Хоць школу ўтрымлівалі сяляне на свае сродкі, польскія ўлады пачалі браць яе пад пільны кантроль менавіта з-за яе беларускасці, рабілі ўсё, каб настаўніца там працаваць нармальна не магла. П. В. Мядзёлка, колькі здолела, рабіла ўсё, каб школа функцыянiравала, аднак вясной 1919 г. вымушана была пакінуць Мядзведзічы.

Літаратурная спадчына Паўліны Мядзёлкі сціплая. Яе пяру належыць паэма «Сялянская доля», вершы, апавяданні. Галоўнае месца займаюць яе мемуары, кніга «Сцежкамі жыцця», якія апублікаваны пасля яе смерці, асобныя артыкулы пра ролю п'есы Янкі Купалы «Паўлінка» ў яе жыцці. Спадчына П. В. Мядзёлкі не сабраная і не вывучаная. У кнізе «Сцежкамі жыцця» ёсць невялічкі

раздзельчык, прысвечаны працы асветніцы ў в. Мядзведзічы на Ляхаўшчыне.

У 1912 годзе ў Пінску ў друкарні «Прагрэс» асобнай кніжкай выйшла аповесць Арцёма Музыкі «Прыгоды Тараса і Панаса». Цэнзурны дазвол на яе публікацыю быў атрыманы 12 мая 1911 года. Арцём Музыка — гэта адзін з псеўданімаў ***Вацлава Ластоўскага*** (1883—1938). На сёння не вядома, як гэты твор трапіў у пінскую друкарню. Мажліва, сюды аповесць «Прыгоды Тараса і Панаса» ў Пінск прывозіў сам аўтар.

У аснове гэтага твора — падарожжа двух беларускіх сялянаў, якія паехалі на падводах на захад, каб паглядзець, як жывуць мазуры, іх суседзі.

Героі твора — нашы землякі з Піншчыны. Мяркуючы па тым, што яны ўзялі з сабой у дарогу, палешукі жылі не бедна. «Дык вось, — чытаем у творы, — Панас і Тарас, улажыўшы ў мяшок па тры бοханы хлеба, па добраму апольцу сала, па кумпяку, па штук пяць сыроў, па добрым слоіку масла і, дадаўшы да ўсяго гэтага яшчэ стаўпец аладак, знайшлі, што харчаў павінна стаць на добры шмат дарогі. Апрача гэтага паставілі на воз поўную дзяжу талакна. На ўсякі выпадак адлічылі яшчэ ў дарожны капшук па дзесяць рублёў грошы» *(Ластоўскі Вацлаў. Творы. — Мн., 1997. С. 27 — 28).*

Тарас з Панасам вызначаюцца працавітасцю, кемлівасцю, майстравітасцю, спрытам, зычлівасцю, цікаўнасцю. Апошняе і падштурхнула іх да падарожжа паглядзець, як мазуры жывуць, праверыць розныя небыліцы пра гэты народ і даведацца, чаму яны шапялявяць. Іх шлях пралягаў праз Пінск да Берасця і далей у глыб Польшчы. У герояў аповесці выразнае адчуванне сваёй этнічнай самаснасці і межаў сваёй радзімы: «Да Берасця нічога новага не бачылі Тарас з Панасам: усе людзі як людзі. Ведама — свая старонка і гавораць усе аднолькава» *(Тамсама. С. 28).* Прыгоды нашых землякоў пачаліся на кірмашы ў Берасці.

Аснову аповесці Вацлава Ластоўскага складае беларускі фальклор: народныя анекдоты пра дзівацтвы людзей, якія ў творы прыпісваюцца мазурам.

Пра прыгоды Тараса і Панаса расказваецца з гумарам, дынамічна і ярка: «Едуць яны, едуць, між сабою гутараць. Піпачкі пакурваюць. Конікі патрухваюць. Праз лясы, поле праязджаюць, мяйсцовасць аглядаюць. Цікавяцца, як людзі палі абрабляюць, чым аруць, чым засяваюць. Едуць дзень, едуць другі, — усё тыя ж людзі, тыя ж звычаі» *(Тамсама. С. 31).* Няцяжка пераканацца, што твор, мяркуючы па прыведзенаму ўрыўку, напісаны гутарковым стылем. У аповесці выразна выяўляецца апора аўтара на народную казку. Твор так і канчаецца, як казка: «І мне калісьці, як я быў музыкаю

на вяселлі Тарасавага сына, прыйшлося да слёз нарагатацца, слухаючы іх апавяданні. Цікаўныя і пацешныя рэчы яны расказвалі, але ўсіх цяпер я не магу прыпамятаць. Дык ось, каб і гэтыя, урэшце, не вылецелі з галавы, я ўзяў дый запісаў» *(Тамсама. С. 47)*.

Калі ў 1937 годзе ў Давыд-Гарадку на Замкавай гары пачалі будаваць на месцы згарэлай новую царкву, то нечакана на глыбіні больш за чатыры метры культурнага слою за тоўстым дубовым насцілам адкапалі склеп з парэшткамі трынаццацці чалавек. Дачуўшыся пра сенсацыйную знаходку ў Давыд-Гарадку, сюды паспяшаўся ***Антон Луцкевіч*** (1884—1946), каб даць адкрыццю навуковую ацэнку. Ён прыйшоў да высновы, што землякопы дайшлі да падмуркаў старажытнага замка і адкрылі месца пахавання князёў краю. Гэтае месца Антон Луцкевіч назваў Княжыя магілы. Так яно і значыцца цяпер у навуковай літаратуры.

***Алесь Гарун*** (1887—1920). Алесь Гарун належыць да пісьменнікаў-нашаніўцаў, творцаў адраджэнскага тыпу, якія пакідалі значны след у многіх галінах чалавечай дзейнасці. Алесь Гарун выступаў як паэт, празаік, драматург, быў асветнікам, грамадскім і палітычным дзеячам. Ён памёр ва ўзросце Ісуса Хрыста.

Калі Алесю Гаруну было ўсяго дваццаць гадоў, за ўдзел у рэвалюцыі 1905—1907 гг. ён быў арыштаваны і сасланы ў Сібір. Там адпакутаваў дзесяць гадоў свайго жыцця і вярнуўся ў Мінск толькі ў 1917 г. пасля Лютаўскай рэвалюцыі і адразу актыўна ўключыўся ў грамадска-палітычнае і культурна-асветнае жыццё. Алесь Гарун быў адным з тых, хто непасрэдна прычыніўся да аднаўлення дзяржаўнасці Беларусі.

Выдатнаму сыну Бацькаўшчыны час адмераў надзвычай кароткі час пашчыраваць на яе карысць, ды і ва ўсёй красе і сіле не суджана было раскрыцца яго таленту. Пачатак творчасці аўтара зборніка «Матчын дар» прыпадае на 1905 год. Ім датаваны першы вядомы твор Алеся Гаруна паэма «На каляды». Вершы паэта пачалі з’яўляцца на старонках «Нашай нівы» з 1907 г. З той пары з далёкай Сібіры ў гэтае выданне ішлі творы паэта, якія вызначаліся высокай паэтычнай культурай вершаванага радка, што было заўважана і адзначана Максімам Багдановічам у аглядзе беларускай краснай пісьменнасці за 1913 год.

Алесь Гарун (сапраўднае прозвішча пісьменніка Прушынскі) нарадзіўся ў 1887 г. у вёсцы Новы Двор пад Мінскам, якая даўно ўжо ўвайшла ў межы сталіцы Беларусі, у сям’і чорнарабочых. Калі юнака за ўдзел у рэвалюцыйным змаганні судзілі, то ён працаваў ужо сталяром на адной з мінскіх мэблевых фабрык. У ходзе следства высветліўся сапраўдны сацыяльны статус Алеся Гаруна. Яго бацькі — сяляне з Наваградчыны. Бацькава радзіма — вёска

Пастарынне. Сучасныя даследчыкі выказваюць меркаванне, што Прушынскія належылі да збяднелай шляхты, але пацвердзіць сваё шляхецтва не здолелі дакументальна, і расійскімі ўладамі былі пераведзены ў сялянскае саслоўе.

Яшчэ Максім Гарэцкі ў першым выданні «Гісторыі беларускай літаратуры» адзначаў, што на фарміраванне Алеся Гаруна як пісьменніка выключны ўплыў аказала вёска, дзе ён праводзіў летні час, дзе быў уключаны ва ўсе віды сялянскай працы, дзе далучаўся да духоўнага жыцця беларусаў, іх культуры. У многіх творах паэта праходзіць думка пра яго любоў да вёскі, пра сваю знітаванасць з ёю, згадваюцца сялянскія клопаты, гора і радасць вясковых працаўнікоў. У чужой Сібіры беларуская вёска паўставала ў паэтавым уяўленні, і на паперу кладаліся радкі, у якіх сельскае паселішча малявалася ў дарагіх для аўтара дэталях.

Для вершаў Алеся Гаруна характэрна не проста апісанне вёскі, яе праблемаў, людскіх тыпаў, характараў, але і свет народных паданняў, песняў, казак. Заўважым, што вершы пісаліся ці то ў турме, ці ў далёкай Сібіры. Паэт  не мог карыстацца запісамі фалькларыстаў. Легенды, песні, паданні, абрады, вераванні былі ўжо навечна прапісаны ў яго сэрцы, з яго, пераплаўленыя, і выліваліся ў вершах. Варта згадаць такія з іх, як «Бабуля, казку!», «Лябёдачка-дзяўчыначка», «Сірочая песня», «Развж, чаго зяляненькі», «Смерць Паўлючонка» і інш.

Якая беларуская вёска мела такі вялікі ўплыў на пісьменніка? Большасць даследчыкаў і краязнаўцаў (У. Казбярук, А. Майсейчык, У. Лебедзеў, М. Маліноўскі і інш.) схіляюцца да думкі, што такой вёскай з’яўляецца Пастарынне. Даследчык творчасці аўтара «Матчынага дару» Ю. Гарбінскі лічыць, што ёю з’яўляецца вёска Новы Двор, дзе нарадзіўся паэт. Прыняць перакананне апошняга навукоўца нельга па некалькіх прычынах. Няма падстаў ігнараваць думку Максіма Гарэцкага, які адзначаў, што Алесь Гарун на лета выязджаў да сваякоў. З Новага Двара не было патрэбы некуды ехаць: там жылі бацькі паэта, там ён жыў і вучыўся. Паэт не проста апісаў вёску, а пакінуў своеасаблівыя яе арыенціры. Побач ля таго паселішча, якое гадавала талент Алеся Гаруна, былі бор, рэчка, могілкі (вершы «Хатка», «На сяло», «Гэй жа, мая вёска!», «Успаменні»). У апошнім творы ёсць такія радочкі:

А на горцы там па-над вёскаю
Стаіць цэркаўка, ад год шэрая;
А ля цэркаўкі пад бярозамі
Спяць у могілках людзі старыя.

*(Алесь Гарун. Сэрцам пачуты звон.*
*Мн., 1991. С. 182)*

Менавіта недалёка ад вёскі Пастарынне стаіць яшчэ бор, можна ўбачыць і рэчачку, на ўзгорку — могілкі, на якіх значацца магілы з прозвішчам Прушынскія. Напэўна, гэта было досыць распаўсюджанае прозвішча на Баранавіччыне, бо не так даўно на тэрыторыі раёна значылася паселішча — Прушынава. Жывуць яшчэ Прушынскія і ў Пастарынні, і некаторыя нават лічаць сябе сваякамі Алеся Гаруна.

Ёсць яшчэ адзін аргумент на карысць таго, што «роднай вёскай», «мілай вёскай» для паэта было Пастарынне — мова яго твораў. Уладзімір Казбярук падкрэслівае, што «Алесь Гарун выхоўваўся ў заходнім (можа, нават у паўночна-заходнім) беларускім моўным асяроддзі, аб чым сведчаць некаторыя лексічныя і марфалагічныя асаблівасці мовы яго твораў («ні», «ніхай», «тваеі», «тваёга», «па свіці», «смокчэ», «небо», «прыпарыло, нахмурыло, ударыло»). Гэтыя моўныя асаблівасці якраз і належаць Гродзенска-Баранавіцкай падгрупе паўночна-заходняга дыялекту. Таму ўсё-такі ёсць больш аргументаў на карысць таго, што вясковыя ўражанні Алеся Гаруна з Баранавіччыны.

Пад ранняй паэмай Алеся Гаруна «Мае коляды» стаіць час і месца яе напісання. Уладзімір Казбярук заклікаў краязнаўцаў шукаць вёску, дзе пісаўся твор, і падказваў, як даказаць, што менавіта яна звязана з імем паэта. «З біяграфіяй будучага пісьменніка, — адзначыў вучоны, — звязана яшчэ адна геаграфічная назва. Пад паэмай «Мае коляды», што датуецца студзенем 1905 г., мы знаходзім назву вёскі Капанікі. Задача даследчыкаў сказаць, што гэта за населены пункт і ці не жыў там хто-небудзь з Прушынскіх ці Жывіцаў» *(У. Казбярук. Церневыя і лаўровыя вянкі Алеся Гаруна // Сэрцам пачуты звон. Мн., 1991. С. 6).* (Жывіца — прозвішча маці паэта Соф'і Іванаўны). Гэтае прозвішча выкарыстоўваў пісьменнік у якасці яшчэ аднаго свайго псеўданіма. У Вялікалуцкім сельсавеце ёсць вёсачка з назвай Капані. Яе краязнаўца М. Маліноўскі дэкляруе як тую, што звязана з імем Алеся Гаруна, аднак ніяк не аргументуе, што Капані і Капанікі адна і тая самая вёска і што яна звязана з імем паэта. Да вайны там жыло 63 чалавекі. Фашысты спалілі вёску, загінула 17 чалавек. Сярод іх Жывіц няма, як іх няма сярод жыхароў Баранавіцкага раёна. Затое шмат у вёсцы Пастарынне людзей, якія маюць прозвішча Жывула. Жывіцы і Жывулы — прозвішчы, блізкія адно да аднаго па сваім значэнні, але не тоесныя. Патрэбны дадатковыя пошукі, каб удакладніць, якія яшчэ мясціны, апрача Пастарыння, асвечаны прысутнасцю Алеся Гаруна, ці звязаны яны з нашым краем. Адназначна, аднак, ёсць усе падставы сцвярджаць, што вёсцы Пастарынне ў паэтычным свеце аўтара кнігі «Матчын дар» належыць значнае месца, як і яе рэгіянальным адметнасцям.

З Палессем звязана жыццё і творчасць ***Максіма Гарэцкага*** (1893—1938). Першы раз пісьменнік трапіў на Палессе ў канцы 1915 года. У «Камароўскай хроніцы» ён дакладна называе час свайго знаходжання на Піншчыне — з 15 лістапада 1915 па 24 студзеня 1916 г. З фронту Максіма Гарэцкага адправілі ў Петраград. Пра настрой пісьменніка таго часу сведчаць парады героя Кузьмы Лаўрыку («Камароўская хроніка»), які шукаў у першага ратунку ад нуды і суму. Хоць аўтабіяграфічны герой Максіма Гарэцкага адчуваў тое ж самае, што і Лаўрык, але лекі гэтыя даваў. Яны ўдакладняюць ідэалы пісьменніка той пары: «І ён пісаў, каб Лаўрык не зачытваўся лёгкай белетрыстыкай, ад якой развіваецца павярхоўнасць у поглядах і незадаволенасць у настроі, а каб разнаабразіў сваё чытанне кнігамі па прыродазнаўстве, сельскай гаспадарцы, гісторыі, геаграфіі. Каб ён вывучаў чужаземныя мовы. Каб ён быў рэпетытарам, вучыў якога-небудзь беднага хлопчыка, хоць бясплатна» *(Максім Гарэцкі. Збор твораў у чатырох тамах. Т. 4. Мн., 1986. С. 98).*

Другі раз Максім Гарэцкі трапіў на Палессе ў самым канцы 1916 года. Спачатку ён зноў апынуўся на перадавой у акопах, аднак у хуткім часе яго як агранома ўключылі ў камісію па рэвізіі сена ў сялянаў у недалёкім тыле. За сена плацілі па 80 кап. за адзін пуд (16 кг), і палешукі ахвотна прадавалі яго вайскоўцам. У Максіма Гарэцкага наладзіліся прыязныя стасункі з нашымі землякамі. Тым не менш у хуткім часе, ён папрасіўся на перадавую. Прабыў на гэты раз пісьменнік на Палессі некалькі месяцаў. У акопах ён цяжка захварэў і пакінуў Палессе назаўсёды.

Падсумоўваючы свой удзел у Першай сусветнай вайне, Максім Гарэцкі скажа: «Так што за ўсю сваю вайну, з 1914 па 1917 гг. прабыў на пазіцыі месяцаў 10. А то ўсё лячыўся ці ў тыле бадзяўся... Але чатыры гады жыцця прапала» *(Тамсама. С. 113)*. Заўважым, што гэтае выказванне супадае з блокаўскай ацэнкай свайго знаходжання на Палессі ў час Першай сусветнай вайны. А служылі абодва мастакі слова ў адных самых месцах — каля вёскі Парахонск Пінскага раёна. Больш таго, калі Максім Гарэцкі быў вызначаны рэвізаваць сена ў палешукоў, то служыў ён у тым самым Саюзе земстваў і гарадоў, што і А. Блок. Яны ішлі аднымі і тымі дарогамі і зусім дапушчальна, што і сустракаліся.

Палессе — новы для Гарэцкага этнаграфічны край. Ён уразіў чуйную душу пісьменніка і не мог не выліцца ў яго творах. Пра гады, праведзеныя на Палессі, пісьменнік згадвае ў «Камароўскай хроніцы», у аповесці «Дзве душы». На палескім матэрыяле напісаны апавяданні «Генерал», «На этапе». Калі ў першым з апошніх

двух твораў угадваецца толькі тыповы палескі пейзаж (усё астатняе магло адбывацца ў любым кутку вялізнага фронту ад Пінска да Баранавіч), то ў другім апавяданні — лёс нашых землякоў у гады ваеннага ліхалецця.

Пісьменнік найперш дае разгорнутыя карціны палескіх краявідаў. І што дзіўна, хоць падзеі адбываюцца восенню 1915 г., тым не менш Максім Гарэцкі вуснамі героя-апавядальніка адзначае: «Відаль была адна і тая ж самая за ўсю дарогу, звычайная, але прыгожая відаль: імглявае балотнае надвор’е, грудкі маркотнага алешніку з бакоў пераезду — то ўздоўж ля рэчкі, то найчасцей ля дрэннага паламанага масту... » *(Максім Гарэцкі. Выбраныя творы ў двух тамах. Т. 1. Мн., 1973. С. 199).* Пісьменнік заўважыць, што вайна пакінула тут свае сляды, якія нявечаць традыцыйны палескі краявід.

Максім Гарэцкі стварыў у гэтым апавяданні характары палешукоў. Адзначым найперш захапленне пісьменніка іх знешнім хараством. Вось як апісаны гаспадар хаты, у якой спыніліся салдаты на пастой: «Быў ён стромкі, зграбны і самавіты. Тутэйшая паляшуцкая вопратка, гэтая шэра-белая світа, кароткая і гладка сцягненая ў поясе, як чаркеска, незвычайна хараша прыйшлася да яго» *(Тамсама. С.20).* Не менш уражліва апісана гаспадарова жонка Праксэда. Невыпадкова пісьменнік адзначае: «Мне было прыемна, што ёсць такія жанчыны ў нашым народзе… Дужа доўгія і чорныя вейкі... Твар — авальны, тонкі і мяккі, толькі трохі цьмяны, як ва ўсіх тутэйшых жанчын, але прыгожыя вейкі рабілі гэты твар надта цікавым і харошым», — адзначае герой-апавядальнік» *(Тамсама. С. 101).*

Максім Гарэцкі падкрэслівае і тое адметнае, што характэрна для палешукоў і пра што пазней скажуць Якуб Колас, Марыя Канапніцкая, Уладзімір Караткевіч. Пісьменнік найперш адзначыць у палешукоў годнасць і гордасць, незалежнасць і патрабаванне ад гасцей паважлівых да сябе адносінаў як да гаспадара хаты; маўклівасць жанчыны з чужымі мужчынамі, іх далікатнасць і сціпласць. Герой апавядання, наш зямляк, аказаўся чалавекам мужным на полі брані. Ён — поўны георгіеўскі кавалер. Характэрна, што гэты паляшук выразна ўсведамляе сваю нацыянальную прыналежнасць і тое, што адрознівае беларусаў ад іншых народаў.

Вайна не толькі нанесла ўрон прыродзе, але пакінула душэўныя раны ў людскіх сэрцах. Герой-апавядальнік адчувае, што ў гэтай паляшуцкай сям’і нешта здарылася, што ўнесла ў яе дысгармонію, зрабіла няшчаснымі ўсіх траіх: гаспадара, яго жонку і маці. Найхутчэй гэта звязана з паводзінамі Праксэды. Напэўна, у чымсьці яна парушыла няпісаныя народныя законы. Парушыла таму, што край

запаланілі салдаты, якія не вельмі лічацца з цывільнымі людзьмі.

Цяжар ваеннага ліхалецця найперш кладзецца на сялянаў. Паляшук жаліцца, «што яго жонку і матку ганялі на работы, і бывала, што з канём, і не давалі жыцця салдацкімі пастоямі», што яму, георгіеўскаму кавалеру, які страціў здароўе на вайне, «вызначылі пенсію другога разраду» *(Тамсама. С. 202).* У той самы час князь Друцкі-Любецкі *(маёнтак Друцкіх-Любецкіх быў размешчаны каля вёскі Парахонск — **В. Л.**)*, які «мае колькі тысячаў дзесяцін, ані яго людзей на работы, ані яго коні ў фурманкі не гналі». Як бачым, Максім Гарэцкі не паказвае палешукоў ані цёмнымі, ані забітымі.

Нам думаецца, слушным і цікавым з'яўляецца меркаванне У. А. Лебедзева, што Максім Гарэцкі за кароткі час знаходжання на Палессі ў экстрэмальных умовах вайны выявіў у сваіх творах «пранікненне ў характары персанажаў, дакладнасць у перадачы абставін побыту, знайшоў трапныя і дакладныя дэталі, звязаныя з жыццём палешукоў» *(У. А. Лебедзеў. Максім Гарэцкі і Палессе // Народная трыбуна, 1993, 13 лютага. С. 60).*

***Канстанцыя Буйло*** (1893—1986). Недалёка ад мястэчка Гарадзішча ёсць вёска Горнае Скробава. Сюды ў 1912 годзе прыехала працаваць хатняй настаўніцай Канстанцыя Буйло. Дзяўчына пісала беларускія вершы, друкавалася на старонках «Нашай нівы», ведала многіх энтузіястаў-адраджэнцаў, сябравала з Уладзіславай Станкевіч.

Пасля заканчэння настаўніцкіх курсаў Канстанцыя Буйло шукала любы заробак і ахвотна прыняла запрашэнне памешчыка Дзеўчапольскага падрыхтаваць сына Толю да паступлення ў гімназію. Памешчык шукаў менавіта дзяўчыну, бо дзіця нядаўна страціла маці. Ён спадзяваўся, што душэўныя раны сына ў такой сітуацыі будуць гаіцца лягчэй.

У сваёй аўтабіяграфічнай паэме «На траскіх гацях» паэтка раскрывае тое асяроддзе, у якое яна трапіла ў маёнтку. Дзеўчапольскія належалі да беларускай радавітай шляхты. Памяць пра свой род тут высока шанавалася. Дзеўчапольскаму былі характэрны шляхетная ганарлівасць, пагарда да ўсіх, хто займаў у грамадстве ніжэйшую за яго сацыяльную прыступку, хоць у цэлым ён быў чалавекам нядрэнным. З часам ацаніў педагагічныя здольнасці маладой настаўніцы, якую так палюбіў яго сынок Толя.

У Горным Скробаве Канстанцыя Буйло вучыла не толькі Толю Дзеўчапольскага, але і сыноў панскага эканома. Пазней паэтка тлумачыла гэта педагагічнымі меркаваннямі — «каб зручней было вучыцца» гаспадароваму сыну. У той самы час працадаўца быў перакананы, што роўнасці ў нашчадка радавітай шляхты не можа быць з дзецьмі эканома. Аднойчы ён не вытрымаў і выказаў свае

прэтэнзіі да настаўніцы. У лісце да краязнаўцы Алеся Шоцкага, які першы адкрыў сувязь паэткі з Баранавіччынай і ліставаўся з ёю, К. Буйло пісала: «Памешчык Дзеўчапольскі... рабіў мне заўвагу, што я падаю руку яго эканому, швачцы і іншым сялянам, якія прыходзілі да яго па справах і гадзінамі стаялі ля дзвярэй. Я з гордасцю адказвала: я — народная настаўніца і беларускі паэт, я сябрую з народам і працую дзеля яго. Мне было б сорамна ставіць сябе не на роўні з імі».

Такім чынам, у Горным Скробаве пад адной страхой сышліся людзі розных ідэалаў. Гэта не магло не прывесці да пэўных непаразуменняў. Сутычка, аднак, не перарасла ў такі канфлікт, каб Канстанцыя Буйло пакінула Дзеўчапольскага. Прычынаў было шмат. Найгалоўнейшая — у Горным Скробаве паэтка мела надзейны кавалак хлеба, які губляць было рызыкоўна. З часам дзяўчына зразумела, што і ёй гарачыцца і праяўляць максімалізм няварта. Была яшчэ адна прычына, з якой нельга было не лічыцца: яна палюбіла свайго выхаванца, адчула адказнасць за яго лёс. Толя плаціў ёй узаемнасцю. Адносіны сына да маладой настаўніцы выразна ўсведамляў і бацька і не мог ігнараваць сынавы пачуцці, які нядаўна перажыў невымернае гора — смерць маці. Яму давялося ўмерыць сваю шляхецкую пыху.

Панскую сядзібу атуляў вялізны стары цяністы парк. Дзяўчыну, аднак, вабіў прастор, які адкрываўся вачам за маёнткам. А. Шоцкі адзначае, што К. Буйло некалькі разоў наведвала радзіму П. Багрыма Крошын, пабывала ў Завоссі, Туганавічах, на Калдычэўскім возеры — у мясцінах, звязаных з жыццём філаматаў і філарэтаў.

З перапіскі Алеся Шоцкага з Канстанцыяй Буйло вынікае таксама, што на Баранавіччыне ёй добра працавалася. У адным з лістоў пісала: «А ў Горным Скробаве (толькі не ў вёсцы, а ў маёнтку Дзеўчапольскага) я напісала шмат вершаў, між іншым і п’есу «Сягоннішнія і даўнейшыя» (яна ставілася на сцэне ў Мінску ў той час), і п’есу «Кветка папараці» (яна апублікавана ў маёй кнізе «Курганная кветка»). Як вынікае з гэтага ліста паэткі, некаторыя вершы, напісаныя ў Дзеўчаполлі, маглі ўвайсці ў зборнік «Курганная кветка», які выйшаў з друку ў 1914 г. У «Выбраных творах» Канстанцыі Буйло такіх твораў, на нашу думку, няма.

Спынімся на тых, якія паэтка сама аднесла да ліку напісаных на Баранавіччыне. У аснову фантастычнага абразка ў адной дзеі «Кветка папараці» пакладзена народная легенда пра пошукі шчасця ў купальскую ноч. Дзейнымі асобамі твора з’яўляюцца Хам у мужыцкай вопратцы і чатыры русалкі. У кожнай русалкі — свая роля. Прарочыя словы ўкладзены ў вусны чацвёртай русалкі.

Хам у купальскую ноч выйшаў у лес шукаць папараць-кветку, аднак яму не хапіла мужнасці супрастаяць злым сілам. Героем апанаваў страх, ён знямогся, схаваўся ў мох і заснуў. А між тым папараць-кветка была ўжо зусім  побач. Пачынаецца працэс буджэння селяніна. Гэта доўжыцца, бо яшчэ не прыйшоў час яго актыўнай дзейнасці, але гэты час ужо не за гарою. Чацвёртая русалка малюе радасную перспектыву, якая чакае радзіму Хама. Яна запэўнівае селяніна, што само сабой гэта не адбудзецца: павінен узляцець свабодны дух чалавека, які будзе выклікаць у яго патрэбу дамагацца долі і волі.

Сон сярод лесу аказаў уплыў на Хама, ён прачынаецца іншым, чым быў раней. Селянін пачынае бачыць сваё сонца і гатовы супрацьстаяць тым сілам, якіх баяўся раней. Абразок заканчваецца аптымістычна:

Глянь, — месяц бялее,
Глянь, — цемра радзее, —
Ўраз пойдзем ствараць, будаваць!

*(Канстанцыя Буйло.*
*Выбраныя творы ў двух тамах.*
*Т. 1. Мн., 1981. С. 292)*

Такім чынам, Канстанцыя Буйло ў сваім фантастычным абразку паказвала рост нацыянальнай самасвядомасці беларусаў, абуджэнне іх да актыўнага самастойнага жыцця. Гэты матыў быў блізкі Янку Купалу, які рэдагаваў першы зборнік Канстанцыі Буйло — «Курганная кветка».

У аснове драмы «Сягоннішнія і даўнейшыя» — спрадвечны канфлікт бацькоў і дзяцей. Шляхецкая моладзь не хоча жыць так, як жылі бацькі. Яна цягнецца да навукі і культуры. Раман, герой драмы, «з мужыком за пан-браты, Ходзе ў мужыцкія хаты». «Даўнейшыя» вырашаюць, што з такога маладога чалавека сапраўднага гаспадара не будзе. Яму рызыкоўна перадаваць гаспадарку, таму хай лепш будзе ксяндзом.

Канфлікт двух пакаленняў паглыбляецца сацыяльным. Раман кахае сялянскую дзяўчыну Ганулю, і гэтае каханне хавае ад людзей свайго асяроддзя. Бацька дамогся свайго. Раман стаў святаром, аднак страціў сэнс жыцця і без пары згас.

На жаль, даводзіцца гаварыць, што абодва канфлікты ў драме «Сягонняшнія і даўнейшыя» вырашаны на ўзроўні пісьменніка-пачаткоўца. Учынкі герояў не матываваныя і псіхалагічна не пераканальныя. Не зразумела, чаму ў вырашэнні лёсу сына бацька цалкам давярае сваім суседзям Панкратоўскаму і Саўковічу і зусім не лічыцца з жаданнямі і інтарэсамі сына. Неяк нечакана сялянская дзяўчына Гануля стала міласэрнай сястрой.

Адметнае месца ў творчай біяграфіі Канстанцыі Буйло часу жыцця на Баранавіччыне заключаецца ў тым, што яна паспрабавала сябе ў жанры драматургіі. Хоць яе п'еса «Сягонняшнія і даўнейшыя» ў свой час і ставілася на адной з мінскіх сцэнаў, пісьменніца зразумела, што драматургія не адпавядае прыродзе яе таленту, і больш п'есаў не пісала. Канстанцыя Буйло ўвайшла ў гісторыю беларускай літаратуры як паэтка.

Перажытае Канстанцыяй Буйло ў Дзеўчаполлі знайшло сваё адлюстраванне ў аўтабіяграфічнай паэме «На траскіх гацях» (1951 г.). На яе ідэйны змест і аўтарскую пазіцыю вялікі ўплыў аказаў час яе напісання. Кладучы на паперу радкі, прысвечаныя духоўнаму станаўленню сваёй гераіні, паэтка помніла пра цэнзуру як знешнюю, так і ўнутраную. Таму цэнтральная праблема твора раскрыта па-традыцыяналісцку. Тым не менш важна адзначыць, што ў духоўным узмужненні Косткі, Канстанцыі значнае месца належыць і яе працы ў Дзеўчаполлі.

## Рускія пісьменнікі — удзельнікі Першай сусветнай вайны

Наш край займае адметнае геаграфічнае становішча. Беларусь — цэнтр Еўропы, своеасаблівая мяжа паміж Усходам і Захадам. Любы ваенны канфлікт, які вядзецца паміж імі, абавязкова ахоплівае нашу краіну. З-за чужых інтарэсаў менавіта наш народ церпіць найбольш: вынішчаюцца прырода, матэрыяльныя і культурныя набыткі, гінуць людзі.

У час Першай сусветнай вайны Берасцейшчына стала ў чарговы раз арэнай ваенных дзеянняў. Рускія пісьменнікі (хто з-за патрыятычных абавязкаў, хто быў мабілізаваны) трапілі на фронт і такім чынам аказаліся паяднанымі з нашым краем. Гэта А. А. Блок, К. Г. Паустоўскі, Аляксей Талстой, Мікалай Гумілёў.

***Аляксей Талстой*** **(**1883—1945) служыў у кіраўніцтве Саюза земстваў і гарадоў і прыязджаў на Палессе з рэвізіяй, як ідуць абарончыя работы. На Піншчыне ён сустрэўся з Аляксандрам Блокам і пакінуў пра яго ўспаміны.

***Мікалай Гумілёў*** (1886—1921) быў вайскоўцам. Яму давялося ўдзельнічаць у баях у 1915 г. у раёне мястэчка Лагішын на Піншчыне. Бываў у вёсках Валішча, у Вульцы Лаўроўскай, Хваросна, Азарычах. Праявіў у баях выключную асабістую мужнасць і быў узнагароджаны двума Георгіеўскімі крыжамі.

Выдатны рускі паэт ***А. А. Блок*** (1880—1921) быў на Берасцейшчыне няпоўных восем месяцаў. 7 ліпеня 1916 г. паэт прызываец-

ца ў войска і залічваецца табельшчыкам у 13-ю інжынерна-будаўнічую дружыну Саюза земстваў і гарадоў. Праз тры тыдні прыехаў на месца службы на Палессе. Цягнікі хадзілі да станцыі Лоўча. Па вузкакалейцы дабраўся ў вёску Камень Пінскага раёна, дзе размяшчаўся штаб дружыны. Тут прабыў усяго два дні і разам са штабам пераехаў у вёску Парахонск. Кіраўніцтва дружыны размясцілася ў маёнтку князёў Друцкіх-Любецкіх. Белакаменны палац, акружаны пірамідальнымі таполямі, узвышаўся на беразе рэчкі Бобрык. Хоць будынак і пацярпеў ад нямецкіх бамбёжак, аднак у ім яшчэ выразна бачылася былая раскоша: ампірная мэбля, вялізарныя люстры, карціны ў пазалочаных рамах. Як і ў мірны час, князь трымаў вытанчанага повара, штодзённа наладжвалі цудоўныя снеданні і вячэры. У сярэдзіне жніўня Блок перасяляецца бліжэй да фронту і пачынае жыць у сялянскай хаце Лемяшэўскіх у вёсцы Калбы. У хуткім часе атрад пераехаў у суседнюю вёску Лапацін.

Пры штабе дружыны ў Парахонску яго прызначылі памочнікам каменданта. «Такой пасады няма, — заўважае ён у лісце да маці, — таму я, пагуляўшы і часам раскватараваўшы людзей, каго зноў прыслалі, п'ю чай і мялю языком у той ці іншай канторы» *(Александр Блок. Собрание сочинений в восьми томах. Т. 8. М — Л., 1963. С. 467).* Калі А. А. Блок быў адкамандзіраваны ў атрад і пачаў выконваць абавязкі табельшчыка, яго працоўны рэжым рэзка памяняўся. Працоўны дзень пачынаўся а шостай гадзіне раніцы і заканчваўся ноччу. Паэт цэлымі днямі быў ці то ў полі, дзе капалі акопы, ці то ў лесе, дзе валілі лес, ці то там, дзе абшывалі траншэі. Ён рабіў улік зробленага рабочымі за дзень і налічваў аплату. Клопатаў дабавілася, калі Блок быў прызначаны загадчыкам работамі. Цяпер яму яшчэ даводзілася мець кантакты з сапёрамі, з суседнімі атрадамі, часта сустракацца з кавалерыстамі.

Патрабавальны да сябе, А. А. Блок сумленна выконваў свае абавязкі. За гэта яго глыбока паважалі ў атрадзе. Калі паэт выехаў з Палесся і ўладкаваўся на працу ў Пецярбургу, то кіраўніцтва дружыны дало яму бліскучую характарыстыку, адзначыўшы найперш такія якасці паэта, як скрупулёзнасць, аб'ектыўнасць, сумленнасць.

На Палессі А. А. Блок упершыню трапляе ў такія ўмовы жыцця, якія, здавалася, павінны яго раздражняць і прыгнятаць, аднак гэтага не здарылася. У лістах да родных ён адзначае: «Жыццё зусім новае, але яго пераношу лёгка і не без задавальнення, апрача суму час ад часу» *(Тамсама).* Паэт памацнеў, паздаравеў. Вось якім убачыў яго Аляксей Талстой, які прыехаў у дружыну з інспекцыяй. «Праз некалькі хвілін увайшоў загадчык, высокі, здаровы мужчына з румяным ад марозу тварам, з заінелымі вейкамі. Усё, што хочаце, але я ніяк не мог чакаць, што гэты загадчык — Аляксандр

Блок. Ён весела павітаўся і адразу ж раскрыў канторскія кнігі. Калі звесткі былі адасланы генералу, мы з Блокам пайшлі на шпацыр. Ён расказваў мне пра тое, як тут хараша жыць, як ён з дзесяцкага даслужыўся да загадчыка работамі, колькі часу ён бывае вярхом, гаварылі пра вайну, пра цудоўную зіму» *(Цытуецца па кнізе Л. І. Цімафеева. Творчество Александра Блока. М., 1963. С. 115).*

Настрой паэта, аднак, не вызначаўся толькі аптымізмам. Ён часта скардзіўся на нуду, тугу. Гэта тлумачылася найперш тым, што спадзяванні А. А. Блока не спраўдзіліся, быццам бы вайна «ачысціць паветра». Агульныя адносіны да вайны ён выявіў досыць катэгарычна ў запісной кніжцы ад 28 чэрвеня 1916 г.: «Я не баюся шрапнелі. Але пах вайны і звязанага з ёю — ёсць хамства» *(А. А. Блок. Записные книжки. М., 1965. С. 310).* На Палессі ўсё гэта даводзілася назіраць штодзённа, хоць паэт знаходзіўся тут якраз тады, калі фронт стабілізаваўся. Блок па службе ўсё-такі, хоць і зрэдку, але бываў у акопах, размаўляў з баявымі афіцэрамі, наведваўся ў шпіталі і бачыў вайну ва ўсёй яе крывавай сутнасці.

Не мог Блок спакойна ўспрымаць усю сістэму арганізацыі працы ў дружыне. Даймала безадказнасць, неарганізаванасць, абыякавасць да людзей, фармалізм. Нярэдка прысылалі ў атрад не проста хворых, а нават інвалідаў, досыць часта не завозіліся прадукты харчавання, кіраўнікі дружыны не займаліся арганізацыяй працы, а высіджвалі па хатах і забаўляліся. За ўсе гэтыя непаладкі ў дружыне паэт адчуваў і сваю віну. «Сорамна да ванітаў, — прызнаваўся ён, — а чаго — сам дрэнна ведаеш: здаецца, ад таго, што ўсё роўна «нічога не паробіш» (не вылечыш, не абуеш)» *(Тамсама. С. 475).*

Не апошнюю ролю адыгрывала і асяроддзе, у якое трапіў паэт. Самі па сабе (за рэдкім выключэннем) саслужбоўцы былі нядрэннымі людзьмі, ды яшчэ і інтэлігентамі, аднак А. А. Блок не знайшоў з імі духоўнай еднасці і блізкасці. Назаляла паэту княгіня Друцкая-Любецкая, якая ўвесь час патрабавала, каб паэт напісаў ёй што-небудзь у альбом. Прыкра было штовечар сядзець у гасцінай, гаварыць абы-што, слухаць плёткі. Паэт радаваўся, калі пераехаў у Калбы і перасяліўся ў сялянскую хату. Таму зусім натуральна, што ўжо ў пачатку зімы паэт марыў пра чарговы адпачынак. Ён прызнаваўся маці: «Пішу не часта, вельмі цяжка выбраць час, на жаль, не таму, што шмат спраў, а таму, што жыццё складваецца па-дурному, непрыемна. Бязглузда і непрыгожа. Рэдкія дні бывае добра, усе астатнія бесталкова, супярэчліва і дробязна. Надакучае мне такое жыццё смяртэльна, і я чакаю вясны ці лета, каб можна было адчыніць вокны і праветрыць пакой, запоўнены дробязнымі і пашлаватымі звадкамі» *(Тамсама. С. 476).*

Нельга не ўлічваць і таго, што ў пачатку сваёй службы ў дружыне Блоку думалася, што ён выконвае свой абавязак перад радзімай, падзяляе з народам яго лёс. З часам паэт прыйшоў да высновы, што яго праца ў дружыне нікому не патрэбная, ён — паэт, творчая асоба і не яго гэта занятак выяваць. Дабіваючыся права не вяртацца ў дружыну паэт дамагаўся мажлівасці заняцца сваёй справай, мець час, умовы і сродкі быць мастаком. Прысуд паэта тым месяцам, якія правёў на Піншчыне, бязлітасны: «Я сем месяцаў лайдачыў. Лічу, што хопіць» (*Записные книжки. С. 316)*. Ацэньваючы тое, што зроблена паэтам за гады вайны, ён зусім не згадвае, што рабіў у дружыне, а толькі творчыя набыткі Да іх адносіць рэдагаванне кніжкі А. Грыгор’ева, пастаноўку п’есы «Ружа і крыж» і напісанне паэмы «Адплата».

З іншых відаў творчай дзейнасці Аляксандра Блока ў Палессі дадамо хіба што ліставанне, бо ў гэты час ён нават перастаў весці дзённік. У лісце да Леаніда Андрэева паэт жаліўся: «Усё слоўнае ва мне маўчыць... вершы таксама ніяк не атрымліваюцца» *(Тамсама. С.475)*. З апошняга вынікае, што Блок спрабаваў пісаць вершы, аднак яны яму не ўдаліся. Яшчэ на Палессі Блок рэцэнзаваў псеўдапатрыятычную п’есу і вынес суровы прысуд, што яна па-за літаратурай.

Вядома, што А. А. Блок быў майстрам эпісталярнага жанру. У лістах, пасланых з Палесся, ён выступае як надзвычай тонкі майстар пейзажу. Прырода нашага краю паказана з любоўю ў розныя поры года ў разнастайнасці фарбаў. Вось некаторыя пейзажныя замалёўкі паэта: «Стаіць бабіна лета, прахалодныя, бязвоблачныя дні, павуціннe, жоўтага амаль няма», «Прырода дзіўная. Цяпер мяккі і досыць глыбокі снег. І месяц. На дрэвах і кустах снег. Гэта мне дапамагае штодзённа», «Страшэнна разнастайнае тут надвор’е: учора была завіруха, сапраўдная бура, а наш барак стаіць амаль у адкрытым полі, таму прыемна глядзець у акно ў любы час. Поле заслана глыбокім снегам, на блізкім гарызонце купкі дрэваў (соснаў)». Паэтычна ствараецца краявід з Пінскам удалечыні: «З поля віднеецца Пінск, як град Кіцеж, — прыўзняты над туманам — белы сабор, чырвоны касцёл, а пасярэдзіне — меншая — семінарыя. Пінск заняты праціўнікам».

Вядома, што А. А. Блок любіў маляваць. Захавалася шмат разнастайных яго малюнкаў. На Палессі ён увекавечыў невялічкую цудоўную каплічку з вёскі Калбы. Яна стаіць і па сённяшні дзень і радуе вока наведвальнікаў блокаўскіх мясцінаў. Можна дапусціць, што паэта прывабіла хараство каплічкі на фоне аднастайнага і панылага выгляду сялянскіх двароў. Захаваліся і іншыя малюнкі, якія пасылаў Блок з Палесся сваякам.

Такім чынам, творчы набытак паэта за няпоўныя восем месяцаў, якія прабыў на Піншчыне, даволі сціплы. Тым не менш палескія ўражанні доўга хвалявалі паэта, калі ён жыў ужо ў Петраградзе. Прыфрантавыя карціны паўстаюць выразна і вобразна па слыхавой і зрокавай асацыяцыях. «Мяне цікавіць пытанне, — чытаем у дзённіку ад 28 жніўня 1917 г., — учора ў гадзіну ночы я клаўся спаць, чуючы тыя самыя гукі, якія чуліся, калі я ў першы раз выйшаў з поезда (этапнага) у Лоўчы, у гарачы летні дзень: далёкая кананада». У другім месцы паэт зафіксуе: «Чорная Казанская вуліца, пражэктары аўтамабіля і два промні пражэктараў, якія шукаюць у небе цапелінаў. Слабыя промні, бледныя і кароткія, у параўнанні з промнямі германскага пражэктара, які ахоплівае чвэрць неба, калі ён паднімаецца ноччу з-за снежнага поля».

З часам палескія ўражанні ў свядомасці паэта набылі іншую, чым раней, эмацыянальную афарбоўку. Спашлёмся яшчэ на адзін дзённікавы запіс ад 4 верасня 1917 года: «Вечарамі іншы раз (як сёння) на мяне наплываюць гэтыя грубыя, моцныя, цяжкія і здаровыя ўспаміны пра дружыну — пра гэтых рускіх людзей, коней, пра выпіўкі, песні рабочых, пышную восень, жорсткую зіму, гітары, сёстраў, грамафоны, абжорства, гаці, вышку, паляны за фальваркам Лапаціна, белы параход, які крыштальным ранкам паўзе сярод гаю, дубы, сосны, вольхі, Пінск удалечыні, нашы пазіцыі (намі капаныя), вятры, каўбасу, што вісіць на ясным захадзе сонца, буры, жарсць (раптам), якая нарастае ў душы, тамленне скрухі і суму, вёскі, саламяныя жэрдкі, сталоўкі Земсаюза, Бобрык, князя, Пагост, далі, скаканні праз равы, званіцы, кананаду, брудны барак, хату Лемяшэўскіх, сапёраў, вялікія і малыя траверсы, дзевак, спірт, бабаў з капустай, вузкакалейку, масткі — усё, усё. Хараша!» *(Тамсама. С. 308 — 309).* Заўважым, як дэталёва пералічвае А. А. Блок тое багацце ўражанняў, якія атрымаў на Піншчыне. Ён дае ім разнастайныя ацэнкі. Яны грубыя і моцныя, цяжкія і здаровыя, аднак у цэлым гэта хараша. Гэтае «хараша» сведчыць пра больш шырокае і разнастайнае пазнанне рэчаіснасці, больш дакладнае ўяўленне пра сябе і чалавека ўвогуле, пра тое, што так неабходна мастаку.

Жыццёвыя ўражанні, вынесеныя з Палесся, знайшлі сваё выяўленне ў творчасці паэта. У артыкуле «Інтэлігенцыя і рэвалюцыя» А. А. Блок раскрывае адметнасць сваёй творчай лабараторыі: «У мастаку ўсё побытавае, штодзённае, якое хутка мяняецца, знойдзе сваё выяўленне потым, калі перагарыць у жыцці» *(Т. 6. С. 12).* Жыццё паэта склалася так, што палескія ўражанні толькі часткова выліліся ў паэме «Дванаццаць», глыбіннага іх асэнсавання не адбылося. Тым не менш многія радкі артыкула «Інтэлігенцыя і рэвалюцыя» сведчаць пра тое, што яны нарадзіліся пад уплывам таго



*Лунінец. Вуліца Пілсудскага.(1930-я гг.)*

вопыту, які паэт набыў на Піншчыне: «Што такое вайна? Балоты, балоты, балоты, парослыя травой ці занесеныя снегам; на захадзе — панылы нямецкі пражэктар — шнырыць — з ночы ў ноч; у сонечны дзень з’яўляецца нямецкі фокер; ён упарта ляціць адной і той самай сцяжынкай, быццам бы ў самым небе можна пратаптаць і выгарадзіць сцяжынку; вакол яго разбягаюцца дымкі, белыя, шэрыя, чырванаватыя (гэта мы яго абстрэльваем, амаль ніколі не трапляючы, таксама, як і немцы, — нас); фокер саромеецца, хістаецца, але імкнецца трымацца сваёй паскуднай сцяжынкі; іншы раз метадычна скіне бомбу. Значыць, месцы, куды ён цэліць, стыканы на карце дзесяткамі рук нямецкіх штабных; бомба ўпадзе часам — на могілкі; часам — на статак жывёлы, часам — на гурт людзей, а часцей за ўсё, безумоўна, у балота; гэта тысячы народных рублёў у балоце» *(Тамсама. С. 12).* Толькі на Піншчыне ў выніку непасрэдных уражанняў у Блока маглі нарадзіцца і такія радкі: «Еўропа з’ехала з глузду; цвет чалавецтва, цвет інтэлігенцыі сядзіць гадамі ў балоце, сядзіць з перакананнем (ці не сімвал гэта?) на вузенькай тысячавёрстай палосцы, якая называецца «фронт» *(Тамсама. С. 10).* Такім чынам, знаходжанне А. А. Блока на Піншчыне паглыбіла антываенныя яго настроі. Іх паэт імкнецца данесці сваім сучаснікам. Канец кровапраліцця ён звязваў з рэвалюцыяй.

На Піншчыне шырока ўшанавана памяць пра палескія месяцы А. А. Блока. У Лапаціне функцыяніруе музей паэта. Музей быў

створаны да стагоддзя з дня нараджэння Блока, калі ў Расіі яшчэ не было ніводнага яго музея. На станцыі Лунінец, куды Блок наведваўся, каб адправіць лісты родным і сябрам, у іншых мясцінах, звязаных з іменем паэта, адкрыты мемарыяльныя дошкі. У Лапаціне ладзяцца святы, прысвечаныя выдатнаму рускаму паэту.

***Канстанцін Георгіевіч Паустоўскі*** (1892—1968) з дзяцінства быў перакананы, што яго прызначэнне на зямлі — быць пісьменнікам. Каб трапіць у літаратурнае асяроддзе, ён перабіраецца з Кіева ў Маскву і працягвае вучобу ва універсітэце. Сродкі на пражыццё зарабляў сам, працуючы трамвайным кандуктарам.

Калі пачалася Першая сусветная вайна, Г. К. Паустоўскага перавялі санітарам на трамвай, які прымаў параненых, што дастаўляліся па чыгунцы з палёў бою, і развозіў іх па маскоўскіх шпіталях. Праз некаторы час юнак уладкаваўся санітарам на поезд, які вывозіў параненых з поля бою, а восенню 1915 года перайшоў у палявыя санітары. Разам з войскамі, якія адступалі на ўсход, ён пехатою скалясіў ці не ўсю Берасцейшчыну: Брэст — Чарнаўчыцы — Кобрын — Пружаны — Ружаны — Баранавіччына — Ляхаўшчына. Доўгі час месцам дыслакацыі атрада, у якім служыў Канстанцін Паустоўскі, была вёска Шавялі ў Ляхавіцкім раёне. Гэтыя мясціны згадваюцца пісьменнікам у рамане «Рамантыкі», і ў другой кнізе «Неспакойнае юнацтва» яго аўтабіяграфічнай «Аповесці пра жыццё».

Берасцейшчына апісваецца ў трэцяй частцы рамана «Рамантыкі», якая называецца «Ваенныя будні». Апавядальнікам выступае пісьменнік Максімаў. Як толькі пачалася вайна, герой адразу адчуў, што «жыццё пакалечана, загублены старыя шляхі», што «ўсе ўцягнуты ў адзіную плынь, імя якой вайна і Расія» *(К. Паустовский. Собрание сочинений в восьми томах. Т. 1. М., 1967. С. 150).* Максімаў пакідае поўдзень, кіруецца ў Маскву і там уступае ў земскі саюз. З адным з яго атрадаў трапляе ў Брэст. Пакуль яшчэ баі ідуць далёка ад горада, і ён жыве мірным жыццём. Пра вайну хіба што нагадваюць стрэлы, што чуюцца з вучэбных стрэльбішчаў.

Раман «Рамантыкі» носіць выразны антываенны характар. Максімаў трапіў у самае пекла вайны і пераканаўся, што яна цалкам скіравана супраць чалавека. Вайна не толькі забірае людскія жыцці, нявечыць прыроду, разбурае матэрыяльныя набыткі, але і расчалавечвае людзей, ажыўляе ў іх жывёльныя інстынкты. Вайна — гэта кроў і смерць, гэта тыфозныя хворыя, гэта выгнаныя з сваіх гнёздаў бежанцы, да якіх нікому няма справы. З удзелу ў вайне Максімаў вынес перакананне, што яна нікому непатрэбная, што «ў жыцці няма нічога вышэй за любоў, вышэй за роднасць людзей» *(Тамсама. С. 181).*

Рэгіянальны каларыт у рамане «Рамантыкі» выявіўся найперш у геаграфічных назовах Берасцейшчыны. Згадваюцца Брэст, Чарнаўчыцы, Кобрын, Пружаны, Ружаны, Слонімскі тракт, Лунінец. З рэалій Брэста ў твор увайшлі крэпасць, вакзал, гарнізонны клуб, старыя пірамідальныя таполі. Адступаючы, рускія войскі пакідалі пасля сябе на Берасцейшчыне пустэчу: узрываліся фарты Брэсцкай крэпасці, чыгуначны вузел, паліліся ўсе станцыі па напрамку на Лунінец. Усё насельніцтва прымусова выганялася ў бежанства. Ёсць у рамане і пейзажныя замалёўкі. Яны надзвычай лаканічныя, каб адчуць у іх рэгіянальную адметнасць. Карціны прыроды ўзмацняюць людскія пакуты: бясконцыя нудныя дажджы, гразкія дарогі, сырасць і холад: «Перад раніцай над мокрымі пералескамі выпаўз рыжы месяц. Святло яго задрыжала ў чарнільнай вадзе балотаў. Вецер гулка праімчаўся па верхавінах бярозаў і абтрос за шыварат ледзяныя пыркі, стала холадна, няўтульна» *(Тамсама. С. 182).*

Пад творам стаяць даты яго напісання: 1916—1923 гг. «Рамантыкі» ствараліся па жывых уражаннях, як толькі паранены пісьменнік пакінуў Берасцейшчыну. Гэтым тлумачыцца дакладнасць апісанняў, жывасць і выразнасць створаных карцінаў.

«Аповесць пра жыццё» К. Паустоўскага таксама належыць да ліку аўтабіяграфічных. Пісьменнік аддаваў свайму герою-апавядальніку сваю знешнюю і ўнутраную біяграфію, свой духоўны свет, нават сваё імя і прозвішча. У другой кнізе эпапеі — «Неспакойнае юнацтва» — пісьменнік прасочвае станаўленне асобы героя, засяроджваючы ўвагу на такіх вызначальных яе якасцях, як патрыятызм, адносіны да навакольнага асяроддзя і стаўленне да вайны. Гэты працэс паказваецца ў час лёсавызначальных падзей для Расіі, на фоне і ў сувязі з жыццём народа. Юначая бесклапотнасць і бяздумнасць саступаюць месца акрэсліванню ідэалаў не толькі як чалавека, які хоча прысвяціць сваё жыццё літаратурнай творчасці, але і ў яго паяднанасці з народам. Для героя становіцца выключна важным непарыўнасць сувязі чалавека з лёсам радзімы. «Без пачуцця сваёй краіны, — прыходзіць да высновы герой, — адметнай, вельмі дарагой і мілай у кожнай яе дробязі няма сапраўднага чалавечага характару. Гэтае пачуццё бескарыслівае і напаўняе нас вялікай цікавасцю да ўсяго... І няма нічога больш агіднага, чым абыякавасць чалавека да сваёй краіны, яе мінулага, і будучага, да яе мовы, побыту, да яе лясоў і палёў, да яе паселішчаў і людзей, хай яны геніі ці вясковыя шаўцы» *(Т. 4. С. 318).*

Герой-апавядальнік уступіў у вайну з ідэалізаваным пра яе ўяўленнем, створаным пад уражаннем мастацкай рамантычнай літаратуры. На вайне адбываецца ўсведамленне сутнасці вайны. Яна для пісьменніка не толькі скіравана супраць чалавека, але і супраць таго асяроддзя, дзе ён жыве.

Ваенная біяграфія героя «Аповесці пра жыццё» звязана з тымі самымі мясцінамі на Берасцейшчыне, што і ў Максімава з рамана «Рамантыкі». Спачатку герой наведваўся ў Брэст як санітар палявога поезда, які вывозіў параненых з поля бою. Вось якім застаўся наш горад ва ўспрыманні героя: «На фронце было зацішша, і таму мы доўга прастаялі ў Брэсце — роўным горадзе сярод сумных раўнінаў. Над гэтымі раўнінамі праходзіла такая самая сумная, як і яны самі, вясна. Толькі дзьмухаўцы цвілі па межах. Сонечнае святло здавалася белаватым, — неба ўвесь час пакрыта туманам» *(Тамсама. С. 322—323).* Як бачым, эмацыянальная афарбоўка ўспрымання Брэста выяўлена выразна, хоць вайна яшчэ была далёка, і горад пакуль жыў мірным жыццём.

У «Неспакойным юнацтве» згадваюцца некаторыя рэаліі нашага горада той пары: зазначаецца, што база санітарных атрадаў была размешчана ў маленькім доме, абвітым дзікім плюшчом, апавядаецца пра нямецкі цэпелін, які з'яўляўся пад Брэстам і абстрэльваў яго. У Брэсце з Паустоўскім адбылося дзіўнае здарэнне. Сярод палонных аўстрыйцаў, «ворагаў», ён сустрэў абсалютнага свайго двайніка. Выключна ўсё, нават радзімыя знакі, у іх супадалі. Абодва зніякавелі. Былі ўражаны і іншыя, хто бачыў гэтых аднолькавых двух людзей, якія ваявалі адзін супраць аднаго.

Калі герой стаў палявым санітарам, то ён пабываў у тых самых мясцінах нашага краю, пра якія гаворыцца ў рамане «Рамантыкі». Гэта Кобрын, Пружаны, Ружаны, Лунінец. Дадаюцца і новыя — Баранавічы, згадваецца вёска ў яго ваколіцах, мястэчка ў накірунку з Баранавічаў на Нясвіж, найхутчэй гэта Ляхавічы, вёска Замір'е (прататып вёскі Шавялі).

Адметнасцю аповесці «Неспакойнае юнацтва» з'яўляецца такая акалічнасць, што пісьменнік паказвае тое страшнае, пачварнае, што нясе з сабою вайна не на полі бою, а праз пакуты мірнага насельніцтва, паказвае ўзбуйнена, на тэрыторыі Берасцейшчыны — на лёсе бежанцаў у Кобрыне і сялянаў з вёскі пад Баранавічамі. Астатнія карціны толькі падсвечваюць асобныя штрыхі да той трагедыі, якая адкрылася чытачу ў гэтых дзвюх мясцінах нашага краю.

Мястэчка Кобрын выступае ў творы сімвалам пакутаў людзей, якія ратуюцца ад вайны бежанствам самі і якіх «ратуюць» ад яе ўлады. У Кобрыне сабралася шмат галодных людзей. Кухні, якія павінны ім дапамагаць, затрымаліся. Калі ж, нарэшце, яны з'явіліся ў мястэчку, то «галодны натоўп бежанцаў рынуўся да катлоў. Яго стрымлівалі салдаты. Паходні мільгацелі і асвятлялі, здавалася, толькі адны вочы — вырачаныя шкляныя вочы людзей, якія нічога не бачылі, апрача адчыненых катлоў, з якіх ішла пара» *(Тамсама.*

*С. 392 — 393).* Гэты натоўп і растаптаў хлопчыка, які згубіў маці і якога санітары таксама павялі пакарміць. Дзяўчынка, даведаўшыся пра смерць брата, прапала таксама. Падзеі ў Кобрыне нараджалі ў герояў аповесці пытанні: «Каму патрэбна вайна? Хто адпомсціць за людскія пакуты? Хто вінаваты ва ўсім гэтым?». Канстанцін Паустоўскі настойліва шукае на іх адказу. Пакуль што для яго зразумела і відавочна адно: яго доля і лёс неадлучныя ад долі і лёсу свайго народа і што гэтую трагедыю трэба канчаць.

Яшчэ больш жорсткай рабілі вайну, у паказе пісьменніка, безгаспадарлівасць, неарганізаванасць, карупцыя вайсковых чыноўнікаў розных рангаў і станавілася «каму вайной, а каму і войначкай». Гэта ўспрымалася вайскоўцамі як здрада. Упершыню пра здраду герой пачуў пад Пружанамі, калі ўбачыў салдатаў-артылерыстаў, ствол пушкі якіх быў разварочаны ўласным снарадам.

Адступаючы на ўсход, войскі пакідалі пасля сябе пустэчу. «Мястэчкі, што трапляліся на нашым шляху — Пружаны, Ружаны, Слонім, — чытаем у творы, — былі абгрызены, як косці, вайскоўцамі, якія адступалі» *(Тамсама. С. 396).* Вёска заўсёды не вызначалася багаццем. Вайна паглыбіла яе пакуты. Там, дзе голад, там, дзе адсутнічаюць элементарныя ўмовы жыцця, там эпідэміі хваробаў. Пісьменнік паказвае трагедыю вёскі пад Баранавічамі, якая вымірае ад чорнай воспы.

Канстанцін Паустоўскі імкнецца раскрыць рэгіянальны каларыт у аповесці «Неспакойнае юнацтва» праз мову нашых землякоў. На жаль, гэта яму не ўдалося. Сяляне пад Баранавічамі гавораць у лепшым выпадку на палескім дыялекце, а не наваградска-баранавіцкім: «Ой, діду, развяжить мне рукі», — паўтарае дзяўчынка, якая памірае ад воспы. Разам з тым пісьменнік адзначае пявучасць мовы нашых землякоў.






# Пісьменнікі Заходняй Беларусі

## Беларускамоўныя пісьменнікі

У лютым 1919 года тэрыторыю Беларусі акупіравалі войскі толькі што адроджанай як дзяржава Польшчы. Пачалася так званая польска-савецкая вайна, якая завяршылася падпісаннем у сакавіку 1921 года Рыжскага дагавору. Па ім заходнія землі Беларусі адышлі да Польшчы. Рэгіён, які апынуўся пад яе ўладай, стаў называцца Заходняй Беларуссю. Уся тэрыторыя Берасцейшчыны — Брэсцкі, Баранавіцкі, Драгічынскі, Кобрынскі, Косаўскі, Лунінецкі, Пінскі і Пружанскі паветы — была ўключана ў склад Палескага ваяводства, цэнтрам якога стаў Брэст-над-Бугам (менавіта такую назву меў тады горад). Нягледзячы на тое, што ўлады Польшчы ў названым вышэй пагадненні паабяцалі паважаць і шанаваць правы нацыянальных меншасцей, якія ўвайшлі ў склад іх дзяржавы, беларусы фактычна апынуліся ў становішчы падняволеных. У чарговы раз іх родная мова выцяснялася з ужытку, пачаўся працэс паланізацыі краю. Гэта выклікала незадавальненне і пратэст мясцовага насельніцтва. Заходнюю Беларусь ахапіў вызваленчы рух, прадстаўлены рознымі палітычнымі сіламі. Паступова супраціўленне набывала характар усенароднай барацьбы. У яе ўключыліся і лепшыя прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі, у тым ліку пісьменнікі.

На тэрыторыі Берасцейшчыны ў гэты перыяд найбольш выявіліся тыя з іх, хто быў прыхільнікам ці членам Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі (КПЗБ). У ліку першых варта назваць публіцыста, тагачаснага сакратара ЦК КСМЗБ, члена ЦК КПЗБ, паплечніка Веры Харужай — ***Анатоля Альшэўскага*** (1904—1937), які дзейнічаў пад псеўданімам Юрка Пружанскі і пазней стаў ахвярай рэпрэсій. Сведчаннем яго літаратурных здольнасцей з’яўляюцца напісаныя ім лісты да бацькоў і сваякоў, якія жылі ў Картуз-Бярозе *(Колесник В. Письма в Берёзу // «Заря», 1968, 9 лютага — 1 сакавіка).*

Паэтамі, актыўнымі ўдзельнікамі нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі сталі ***Валянцін Таўлай*** (1914—1947) і ***Янка Чабор*** (1911—1943). Першы з іх нарадзіўся ў Баранавічах ў сям'і чыгуначніка. Кароткі час жыў у Лунінцы, куды быў накіраваны на працу бацька будучага паэта. Пасля сям'я назаўсёды пакінула Берасцейшчыну, і ўжо па-за яе межамі Валянцін Таўлай стаў вопытным і загартаваным падпольшчыкам, выдатным журналістам і літаратарам. У Вільні ён узначальваў рэдакцыю «Беларускай газеты», стаў ініцыятарам выдання часопіса «Літаратурная старонка», адным з арганізатараў першага з'езда Літаратурнага фронту сялянска-рабочых пісьменнікаў Заходняй Беларусі (снежань 1933 года). Не раз быў арыштаваны, але і з-за кратаў чуўся яго голас як паэта і змагара.

З літаратурнай спадчыны В. Таўлая можна назваць толькі адзін твор, тэматычна звязаны з гісторыяй нашага краю. Гэта — паэма «Кобрыншчына», напісаная на матэрыяле кобрынскага сялянскага паўстання 1933 года. Аснову твора склалі расказы ўдзельнікаў гэтага паўстання, сярод якіх быў і Аляксандр Букраба.

Радзімай Янкі Чабора (сапраўднае імя Іван Патаповіч) з'яўляецца вёска Рачканы Ляхавіцкага раёна. Са скупых біяграфічных звестак, якія дайшлі да нас пра гэтага чалавека, вядома, што ён закончыў Віленскую беларускую гімназію, вучыўся ў Віленскім універсітэце, супрацоўнічаў з «Беларускай газетай», быў рэдактарам і выдаўцом часопіса «Літаратурная старонка» (першы і адзіны яго нумар выйшаў 25 студзеня 1934 года). Гэтыя факты даюць падставы меркаваць, што Я. Чабор асабіста ведаў, а магчыма і сябраваў з Валянцінам Таўлаем. Пасля турэмнага зняволення Чабор вярнуўся на радзіму і заняўся арганізацыяй кааператываў у вёсках сваёй ваколіцы.

Літаратурная спадчына паэта з Ляхаўшчыны невялікая. На сённяшні дзень вядомы адзін яго публіцыстычны артыкул пад назвай «Адкрыты ліст» і некалькі вершаў («Васілёк», «Мы арлы» і інш.), напісаных у духу таго часу, пераважна як заклікі да барацьбы. Для прыкладу спашлёмся на верш «Гэй, арліна мая сіла»:

Гэй, арліна мая сіла,
Ты ўзнімі мяне ўвысь.
Над маёй старонкай мілай
Ты крыламі размахніся!
Заспяваю песню люду,
Каб пакінуў ён цярпець.
Заклікаці моцна буду,
Што даволі ўжо галець.
Буду клікаць люд рабочы
З хатаў, вёсак, гарадоў,

Каб скідалі цемру ночы,
Што лягла ў цягу гадоў.
Каб жыццё тварылі самі,
Каб збіраліся ў паход.
— Гэй, я знаю, лопнуць тамы,
Зварухнецца наш народ!
Пойдзе рэчышчам ён новым
Да дабра ўсіх людзей,
Створыць розумам здаровым
Дабро людскасці усей!

Дата, месца і абставіны смерці Янкі Чабора нявысветленыя. У 1941 годзе яго, а затым і сям'ю рэпрэсіравалі, адправілі ў Сібір. Адтуль паэт не вярнуўся.

Нялёгкімі аказаліся і змагарскія дарогі ***Васіля Ласковіча*** (нарадзіўся ў 1914 годзе ў вёсцы Франопаль Брэсцкага раёна). Член КПЗБ, рэвалюцыянер-падпольшчык, былы палітвязень Брэсцкай турмы, ветэран партызанскага руху на тэрыторыі нашага краю ў гады Вялікай Айчыннай вайны, з 1979 года — Ганаровы грамадзянін горада Брэста. Яго літаратурныя здольнасці як празаіка-дакументаліста выявіліся ўжо ў пасляваенныя гады. Найбольш значнай і вядомай стала напісаная ім аповесць «Зара над Бугам».

Як паэт, пясняр заходнебеларускіх барыкад, пачаў свой шлях у літаратуру яшчэ адзін наш зямляк — ***Пiлiп Пестрак*** (1903—1978). Нарадзіўся ён у вялікай сялянскай сям'і ў вёсцы Сакоўцы на Івацэвіччыне. Першапачатковую адукацыю атрымаў у школе, якая знаходзілася ў суседняй вёсцы Бусяж. «З сялом Бусяж, — прыгадваў пазней паэт, — звязана нямала прыгожага, радаснага. Тут адбываліся фэсты з шумнымі кірмашамі, над якімі пахла яблыкамі, грушамі і перад вачыма шумелі натоўпы дзяўчат, жанчын у святочных уборах. Многа тады радасці было на тварах людзей...» *(Пестрак П. Праз жыццё (Аўтабіяграфічныя нататкі) // Пяцьдзесят чатыры дарогі. — Мн., 1963. С. 416).*

Жыццё азмрочыла Першая сусветная вайна, якая выгнала сям'ю Пестракоў у бежанства, у Расію. Там Піліп закончыў школу, рабфак, паступіў на сацыяльна-гістарычны факультэт Самарскага універсітэта. У Заходнюю Беларусь, у родныя Сакоўцы, Пестракі вярнуліся ў 1921 годзе. Тут іх напаткала вялікае няшчасце — ад тыфусу паміраюць бацька, брат і сястра. Каб неяк падтрымаць сям'ю, Піліп уладкоўваецца на працу ў Косаўскае лясніцтва. Затым былі два гады службы ў польскім войску. Па вяртанні юнак убачыў бяспраўе беларускага народа пад уладай палякаў. Ён вырашае стаць заступнікам і абаронцам свайго народа. Спачатку ўступае ў камсамол, затым у члены КПЗБ і неўзабаве становіцца прафесійным рэвалюцыянерам-падпольшчыкам на Косаўшчыне.

З гэтага часу ўсё яго жыццё было запоўнена працай у падполлі, арыштамі і турмамі. Так, пасля масавай дэманстрацыі ў абарону Беларускай рабоча-сялянскай Грамады, якая адбылася ў Косаве 3 лютага 1927 года, П. Пестрак апынуўся ў Пружанскай турме. Пасля вызвалення, у 1933 годзе, вярнуўся назад у мястэчка, а затым быў накіраваны на падпольную партыйную працу ў Пінск. Тут зноў быў арыштаваны. Сядзеў спачатку ў Пінскай турме, а затым у турмах Вільні і Гародні аж да 1939 года. Гэта азначала, гаворачы словамі самога пісьменніка, «абмежаванне прагулкі да 5-10 мінут, абмежаванне пасылак з дому, пазбаўленне магчымасці карыстацца палітычнай і мастацкай літаратурай, не толькі рускай, беларускай, але і польскай, абмежаванне перапіскі з раднёю, пазбаўленне газет, пісьмовых прылад, турэмная вопратка, катаванні ў карцэрах, звядзенне медыцынскай абслугі да рэшты, замуроўванне вокан да палавіны і навешванне на іх бляшаных чахлоў, хамскія, разбойніцкія адносіны, кары абы за што, вобыскі не толькі ўдзень, але і начамі, недапушчэнне сустрэч з раднёю, холад зімою ў адзіночках і г.д.» *(Тамсама. С. 419).*

Усяго падпольшчык-рэвалюцыянер толькі два гады змагаўся на волі, а адзінаццаць правёў у турмах. Відаць, подыхам таго суровага часу абумоўлена яго разуменне задач і прызначэння тагачаснай паэзіі. Яна найперш разглядалася ім як магутны агітацыйны сродак, як своеасаблівая зброя ў барацьбе з ворагам. Праграмным творам у гэтым плане стаў верш «Паэзія», у якім аўтар просіць:

...Дай, паэзія, меч прамяністы —
Слова-гарт, слова-кліч, слова-бой,
Дай палёт мне арліны, агністы —
Гімнам — полымем біць да нябёс!

Вось чаму паэзія Піліпа Пестрака гэтага часу практычна пазбаўлена рэгіянальных асаблівасцей. Выключэннем з'яўляецца верш «Дарожка». Прысвечаны ён малой радзіме — роднай вёсцы паэта, праз якую, як бясконцая стужка, пралягла дарожка. Яна не толькі ў прамым сэнсе звязвае мястэчка з усім навакольным светам, але і служыць паэтычным увасабленнем яго долі. Таму дарожка, нягледзячы на прыгожыя краявіды вёскі і яе ваколіц, нагадвае Пестраку то жабрачку-папрашайку, то згорбленую бабулю, то забытую сірату. Паэта найбольш хвалюе пытанне, якім і заканчваецца верш:

Калі ў каптан адзенешся,
Лахманная сям'я?
Калі ж багачкай вернешся,
Дарожанька мая?

Жыццё і дзейнасць Піліпа Пестрака ў Заходняй Беларусі далі багаты матэрыял для яго далейшай творчасці, асабліва ў пасляваенныя гады, калі ён выступіў у літаратуры не толькі як паэт, але і як празаік. Памяць зноў і зноў вяртала яго да былога, да зведанага і пераэжытага. Заходнебеларуская рэчаіснасць найперш ажыла на старонках рамана «Сустрэнемся на барыкадах», які з'явіўся ў 1954 годзе. Твор гэты ў значнай ступені аўтабіяграфічны. У вобразе галоўнага героя Андрэя Касцевіча, які праходзіць складаны шлях ад сялянскага хлопца да рэвалюцыянера-прафесіянала, кіраўніка падполля, мы лёгка пазнаём самога аўтара. Жыццё ўключае Андрэя ў бурлівы вір падзей, кідае ў розныя куткі Заходняй Беларусі. Аднак яго дзейнасць найперш звязана з роднымі мясцінамі, што на Івацэвіччыне. Назва роднай вёскі Запалянка нагадвае назву вёскі Заполле, што сапраўды знаходзіцца ў Івацэвіцкім раёне. Тое ж можна сказаць і пра іншыя назвы: сяло Буславічы — гэта вёска Бусяж, у апісаннях Глушца пазнаецца невялікае мястэчка Косава і г.д. Сустракаюцца ў творы і дакладныя геаграфічныя назвы з тэрыторыі Берасцейшчыны: Баранавічы, вёска Дзяды Івацэвіцкага раёна, Пінск, Картуз-Бяроза, Брэст, Пружаны. Так, родам з-пад Картуз-Бярозы быў сябар Андрэя Касцевіча па лесапільні Сава Супрун. Родная вёска Івана Паддубнага, сакратара акругкома, недзе на Пружанскім Палессі. Цяпер па справах ён часта бывае ў Баранавічах і Пінску. Сакратар падпольнага камсамола Палескага ваяводства, куды, як адзначалася вышэй, пасля Рыжскага дагавору была ўключана ўся Берасцейшчына, Карэльчук прыязджае ў мястэчка з самога Брэста. Усё гэта дае падставы сцвярджаць, што дзеянне ў рамане «Сустрэнемся на барыкадах» найперш разгортваецца на тэрыторыі нашага краю.

У аснове многіх сцэн і эпізодаў твора ляжаць рэальныя мясцовыя гістарычныя падзеі ці асобныя факты. Гэта пацвярджаюць і словы самога пісьменніка, які прызнаваўся: «Пратэстам на разгром Грамады і была наша Косаўская дэманстрацыя ў памятным дваццаць сёмым годзе, 3 лютага. Дэманстрацыя прайшла па ўсёй Заходняй Беларусі. Наша закончылася ахвярамі і рэпрэсіямі: у сустрэчы з паліцыяй загінула 6 чалавек і шмат было паранена. Дарэчы, гэтую падзею я апісаў у «Сустрэнемся на барыкадах» *(Гардзіцкі А. Сустрэчы. — Мн., 1972. С. 18).*

Такім чынам, згаданы раман Піліпа Пестрака апавядае пра дваццацігадовую барацьбу нашага народа за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне менавіта на Берасцейшчыне. Гэта, па словах А. Адамовіча, «праўдзівае мастацкае слова рэвалюцыянера аб перажытым ім самім і яго народам, слова мастака-публіцыста...» *(Адамовіч А. Беларускі раман: Станаўленне жанру. — Мн., 1961. С. 174).*

З Заходняй Беларусі ў канцы 20-х гадоў прыйшоў у літаратуру ***Мікола Засім*** (1908—1957). Ён, як і Пілíп Пестрак, зведаў усе нягоды беднага сялянскага жыцця, разам з бацькамі падчас Першай сусветнай вайны апынуўся ў Расіі (Саратаўскай губерні), адкуль у 1921 годзе вярнуўся на радзіму ў вёску Шані Пружанскага павета. Тут ён стаў членам Шанеўскага гуртка Таварыства беларускай школы і найперш захапіўся культурна-асветнай работай сярод землякоў. Пры яго непасрэдным удзеле за два гады (1930—1932) гуртком было пастаўлена і паказана 10 спектакляў у Шанях і Пружанах, набыта бібліятэка з 240 кніг, вялася актыўная агітацыя за стварэнне беларускіх школ. Такая дзейнасць разглядалася тагачаснымі ўладамі як частка нацыянальна-вызваленчай барацьбы, і Мікола Засім трапляе пад нагляд паліцыі, «знаёміцца» з Пружанскай турмой. Яго імя пачынае часта сустракацца не толькі ў паліцэйскіх і судовых справаздачах, але і на старонках тагачаснага перыядычнага друку пад рознымі псеўданімамі — Міз, Агонь, Асот і інш.

Першыя творы М. Засіма нагадваюць сабою больш паэтычныя допісы, чым сапраўдныя вершы. У іх аснове ляжыць рэальны факт ці здарэнне, узятыя з жыцця роднай вёскі і яе ваколіц. У цэлым, паэт па-свойму, часта з гумарам, асуджаў нацыянальны ўціск («Хваліць пан сваю культуру»), варожую палітыку польскіх улад у адносінах да беларускага народа («Навіна для бедных»), паказваў бяспраўнае і пакутнае жыццё заходнебеларускага сялянства («Пры панскай Польшчы»). Усе творы напісаны на мясцовым, заходнебеларускім матэрыяле. Выразныя рэгіянальныя адметнасці заўважаюцца, аднак, толькі ў двух вершах, створаных у Шанях у гэты перыяд: «Парагвай» і «На з’езд заходніх беларускіх пісьменнікаў». Першым аўтар адгукнуўся на балючую для тагачаснага грамадства праблему — масавую эміграцыю беззямельнага беларускага сялянства ў Амерыку. Па ўсім вялікім палескім краі чуецца толькі адно слова — «Парагвай». Вось як адрэагаваў на яго селянін Цімох з вёскі Шубічы:

— А бадай ты, пане, здох!
Забірай ты перш брухатых,
Ачышчай ад злыдняў край,
Мы ў сябе без вас патрапім
Зрабіць лепшы Парагвай.

Другім названым вершам М. Засім прывітаў Першы з’езд заходнебеларускіх пісьменнікаў, які быў скліканы ў Вільні ў 1933 годзе. Удзелу ў ім паэт не прымаў, але засведчыў сваю еднасць з Літаратурным фронтам наступнымі радкамі:

Гэй, паэты вёскі й поля,
Я ваш сябра — Засім Коля
З-пад Пружанаў, з вёскі Шані,
І ў мяне, браты, у кішэні
Часта грошай брак на марку,
Рэдка ў страве бачу скварку...
Ды не падаю на дусе:
Для працоўных Беларусі
Цераблю я шлях дзярновы,
Ў верш уплятаю сталі словы
І аб радасці змагання
Пяяць буду да скanання!..

«Гэты паэтычны дакумент, — на думку У. Калесніка, — азнаменаваў выхад летапісца Пружаншчыны на шырокую ніву заходнебеларускай літаратуры...» *(Калеснік У. Лёсам пазнанае. — Мн., 1982. С. 218).*

Новы этап у творчасці паэта звязаны з падзеямі Вялікай Айчыннай вайны. Мікола Засім перажыў яе на акупіраванай ворагам Пружаншчыне. Спачатку быў падпольшчыкам, затым у 1942 годзе ўступіў у невялікую партызанскую групу ў Дахлаўскім лесе пад Кобрынам. Неўзабаве яна перарасла ў атрад, які першы на Берасцейшчыне асвоіў прыёмы чыгуначнай вайны. Вось як апісвае паэт першы выхад сваіх сяброў-партызан на чыгунку:

Па балотнай твані
Позна ўначы
Хлопцы йшлі з ламамі,
За рамнём — ключы.
Паміж Тэвялямі
І сялом Харкі
Пелі жураўлямі
Шпальныя гакі.
Рэйка паслухмяна
Адышла на крок, —
Наляцеў і гракнуў
Эшалон набок...

У час вайны Мікола Засім фактычна стаў партызанскім летапісцам свайго краю. Пераканальнымі ў гэтым плане з'яўляюцца назвы асобных населеных пунктаў, рэк, лясоў на тэрыторыі Берасцейшчыны, якія сустракаюцца ў яго творах ваеннага часу ці якімі пазначаны месцы іх напісання. Напрыклад, Старасельскі ці Шчэбрынскі лес, Ружанская пушча, рэкі Лясная ці Буг, Брэст і інш.

За сувязь з партызанамі былі расстраляны бацькі паэта. Іх светлай памяці ў 1943 годзе ён прысвяціў верш, у якім пісаў:

Не застрашыце нас, каты,
Ні расстрэлам, ні пятлёю.
За кроў маткі, за кроў таты
Сваю помсту я ўтрою.
Вобраз голуба-татулі
І ў маршчынах маткі-твар
Трапнай зробяць маю кулю
І распаляць помсты жар...

М. Засім балюча перажываў заўчасную смерць бацькоў, лічыў сябе вінаватым у іх трагічнай гібелі. Пра гэта сведчыць і верш «Маці».

Шчырая і надзённая паэзія нашага земляка мела поспех. Яна была заўважана партызанскім камандаваннем, якое неўзабаве накіравала Засіма на працу ў рэдакцыю падпольнага органа Брэсцкага абкама партыі — газету «Зара», якая выдавалася ў зоне Спораўскіх балот. Праз некаторы час ён быў прызначаны інструктарам Антыфашысцкага камітэта Брэсцкай вобласці, які размяшчаўся на паўночнай ускраіне Ружанскай пушчы і таксама меў свой друкаваны орган — газету «За Родину». У літаратурнай спадчыне паэта ёсць цэлы цыкл вершаў — эпітафій, прысвечаных сваім сябрам па зброі, выдатным героям партызанскага руху на Берасцейшчыне.

Пасляваеннае жыццё Міколы Засіма звязана пераважна з Брэстам, з працай у абласной газеце «Зара». Гэта быў складаны і ў многім супярэчлівы перыяд у творчым лёсе паэта. Крывавай ранай засталася ў душы смерць бацькоў, ён адчуваў віну перад загінуўшымі на вайне сябрамі, быў сведкам паступовай страты ў жыцці краіны тых ідэалаў, за якія змагаўся ўвесь час. Сітуацыя ўскладнялася тым, што М. Засім пачынаў усведамляць: яго вершы не друкуюцца не толькі нядобразычліўцамі, але і таму, што яны не адпавядаюць патрабаванням сучаснай паэзіі. Сапраўднае творчае натхненне прыходзіла да яго рэдка. Лепшымі творамі гэтага перыяду сталі вершы, прысвечаныя роднай пружанскай зямліцы.

...Мая ты родная зямліца!
Хто палюбіў цябе навек,
Таму ты — творчасці крыніца,
І той шчаслівы чалавек,—

прыходзіць ён да высновы і гэтым супакойвае сябе.

На канец 20-х—30-я гады прыпадае ўзлёт творчасці ***Анатоля Бярозкі*** (сапр. Мацвей Смаршчок). Нарадзіўся ён у 1915 годзе ў вёсцы Падлессе Ляхавіцкага раёна. Вучыўся ў пачатковай школе ў роднай вёсцы і ў Ляхавічах. Пасля заканчэння гімназіі і ліцэя ў Баранавічах стаў студэнтам медыцынскага факультэта Віленскага універсітэта (1939 г.). Адначасова працаваў на гэтым факультэце

як асістэнт. З першай ваеннай хваляй эміграцыі выехаў у ЗША, дзе стаў выдатным лекарам, заслужаным доктарам медыцыны.

У заходнебеларускі перыяд вершы А. Бярозкі друкаваліся ў такіх віленскіх перыядычных выданнях, як «Заранка», «Шлях моладзі», «Калоссе». У 1939 г. у беларускай хроніцы газеты «Крыніца» ён называўся другім (пасля Н. Арсенневай) «выбітнейшым беларускім літаратарам, які астаўся ў Вільні». «У паэзіі А. Бярозкі, — адзначае І. Багдановіч, — чуюцца водгаласы адраджэнскай беларускай паэзіі. Ён знаходзіцца ў коле традыцыйных вобразаў: абуджальнай вясны, руні, нёманскіх хваляў, дубоў, што выстойваюць у буру, ліхіх хмараў («Шуміць Нёман», «На раскутай з-пад снежных пялёнаў зямлі...», «Пяі аб вясне!»). Але звыклыя матывы, дзе прысутнічаюць плач аб нядолі і мара аб далёкай светлай будучыні, паэт імкнецца эстэтызаваць, упрыгожыць, ускладніць фактуру верша тонкай лексічнай арнаментыкай» *(Беларускія пісьменнікі: Бібліяграфічны слоўнік. У 6 т. Т. 6. — Мн., 1995. С. 552).*

Пасля 1939 г. публікацыі А. Бярозкі ў беларускім друку зніклі. Відаць, яго цалкам захапіла лекарская практыка. У 1989 г. у ЗША быў выдадзены невялікі зборнік нашага земляка пад назвай «Адзінаццаць вершаў», у якім тэксты твораў пададзены на беларускай і англійскай мовах.

## Украінамоўныя пісьменнікі

На тэрыторыі Берасцейшчыны ў гэты перыяд частка мастакоў слова па розных прычынах пісалі на ўкраінскай мове. Як украінскі паэт, пясняр Палесся і рэвалюцыі сцвердзіў сябе ***Дзмітрый Фалькоўскі*** (сапраўднае імя Дзмітрый Ляўчук, 1898 — 1934). Нарадзіўся ён у вёсцы Лепясы Кобрынскага раёна ў сям'і рабочага. Вучыўся ў Кобрынскім рэальным вучылішчы і Брэст-Літоўскай гімназіі. У грамадзянскую вайну быў членам кобрынскай падпольнай групы РКП(б). Служыў у арміі ў надзвычайнай камісіі, устанаўліваў у краі савецкія парадкі. У 1923 годзе пераехаў у Кіеў, дзе і адбылося станаўленне Фалькоўскага як паэта. Ён напісаў паэму «Чабан» (1925), стаў аўтарам трох паэтычных зборнікаў «Обрії» (1927), «На пожарищі» (1928) і «Полісся» (1931). У 1989 годзе ў выдавецтве «Радяньскій пісьменнік» (Кіеў) выйшаў пасмяротны зборнік лірыкі Дзмітрыя Фалькоўскага «Поэзії». У ім ёсць цыкл вершаў, якія аўтар прысвяціў сваім родным мясцінам, Палессю. Яны назаўжды засталіся ў яго памяці як самы светлы ўспамін.

Мої далекі, рідні села!
Ніяк, ніяк вас не забуть, —

чытаем у адным з вершаў. У другім паэт прызнаецца:

...Я люблю свою хату поліську...
Я люблю свой зажурений ліс:
Що там тропіки,
Що там пампаси? —
Загляніть-но у пущу до нас!..
Я оддав би за неі одразу
і Тібет,
і Урал,
і Кавказ...

У суровыя 30-я гады Д. Фалькоўскі стаў ахвярай рэпрэсій і быў расстраляны. Рэабілітаваны пасмяротна ў 1957 годзе.

З такімі мясцінамі Берасцейшчыны, як Дамачава, Ліпінкі, Ляплёўка, Чэрск, Брэст, Картуз-Бяроза і інш., звязана жыццё і творчасць яшчэ аднаго ўкраінамоўнага пісьменніка ***Аляксандра Гаўрылюка*** (1911—1941). Родам ён з вёскі Забалацце Белападляскага павета (цяпер тэрыторыя Польшчы). Яго бацька ўзначальваў рэвалюцыйны камітэт у вёсцы, змагаўся за савецкую ўладу, быў адным з удзельнікаў штурму Зімняга палаца.

Шлях арганізатара і актывіста нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі абраў і сын Аляксандр. Спачатку як член рэвалюцыйна-дэмакратычнай арганізацыі Сельроба — Еднасць на Палессі, якая кіравала палітычным жыццём сялянства, затым — як сакратар Дамачаўскай РК КПЗБ, адзін з арганізатараў кобрынскага сялянскага паўстання 1933 года. За дзесяць гадоў (з 1929 па 1939) А. Гаўрылюк як палітычны дзеяч чатырнаццаць разоў трапляў пад арышты. Быў вязнем Брэсцкай турмы і двойчы прайшоў праз Бяроза-Картузскі канцэнтрацыйны лагер, які польскія ўлады стварылі на паўднёва-заходняй ускраіне горада спецыяльна для палітзняволеных.

У Брэсцкай турме Аляксандр Гаўрылюк напісаў верш «Голова ж ти моя нелегальна...», які пазней стаў папулярнай песняй рэвалюцыйнага падполля ў Заходняй Беларусі і на Украіне. На той час паэт ужо выразна ўсведамляў сілу мастацкага слова, бо прайшоў літаратурную школу сельробаўскай прэсы (супрацоўнічаў з газетамі «Сельроб» і «Сила», часопісам «Вікна», што выдаваліся ў Львове), сам быў аўтарам шэрага твораў — верша «Спогади політв’язня», апавядання «Прощайте» і інш.

Перажытае ў Бяроза-Картузскім канцлагеры паслужыла А. Гаўрылюку асновай для стварэння ў 1937 годзе аўтабіяграфічнай паэмы «Песня з Бярозы» і дакументальнай аповесці «Бяроза» (1941).



*Бяроза. Манастыр. (Пачатак XX ст.)*

Паэма «Песня з Бярозы» стала першым у літаратуры мастацкім дакументам, які засведчыў, што такое канцлагер. Умовы ў ім былі вельмі суровыя. Забаранялася нават карыстацца алоўкам і паперай. Таму паэма Гаўрылюка была складзена спачатку ў вуснай форме, а на паперы з'явілася толькі ў 1941 годзе, дзякуючы аднаму з вязняў гэтага канцлагера, які пасля вызвалення запісаў яе разам з аўтарам.

Герой паэмы — зняволены рэвалюцыянер, які гатовы памерці за свабоду і шчасце свайго народа, прычым памерці годна. Узняцца над страхам смерці яму дапамагае духоўная сувязь з сябрамі і блізкімі, любоў да чалавецтва. Гэтай ідэі падпарадкавана і будова паэмы. Першая частка ўяўляе сабою размову лірычнага героя з роднымі — маці, сынам, каханай жонкай. У ёй раскрываецца спакутаваная душа вязня. Ён змучаны здзекамі, жахлівымі ўмовамі канцлагера (яго ява паўстае перад чытачом у заключнай частцы паэмы), але непахісна верыць у перамогу сваёй справы, вызваленчай барацьбы ў краі. Па-беларуску «Песня з Бярозы» А. Гаўрылюка загучала ў перакладзе Ніны Мацяш і Міхася Рудкоўскага.

Варта адзначыць, што ў Картуз-Бярозу пасля арышту ў красавіку 1939 года быў адпраўлены паэт ***Алесь Сучок*** (Пётр Дабрыян). Пад уражаннем дзён, праведзеных у няволі, ён напісаў два вершы: «У Картуз-Бярозе» і «Ой ты, маці, не сумуй!». Вязнямі гэтага

канцлагера былі таксама публіцыст ***Сяргей Сіняк*** (Хмара), польскі паэт і перакладчык ***Леан Пастэрнак***. Тут у свой час адбывалі зняволенне паэт і празаік ***Уладзіслаў Паўлюкоўскі***, які напісаў успаміны «Арышты: Бяроза і воля», і аўтар аповесці «Бягом марш!» ***Міраслаў Мірскі***.

На складаны заходнебеларускі перыяд прыпадае жыццё і творчасць ***Уладзіміра Кітаеўскага*** (1896—1940). Вялікай славутасцю ён стаць не паспеў. Яго імя не значыцца ў энцыклапедычных і бібліяграфічных даведніках, аднак знаёмства з творамі гэтага паэта сведчыць, што ад прыроды ён быў надзелены чулым, спагадлівым сэрцам і ўражлівай душой сапраўднага мастака слова.

Згодна з архіўным запісам, зробленым у царкве вёскі Вежкі Жабінкаўскага раёна, Уладзімір Ігнатавіч Кітаеўскі нарадзіўся 3 чэрвеня 1896 года ў вёсцы Стаўпы ў сям'і унтэр-афіцэра. Бацькі паэта — Ігнат Іванавіч Кітаеўскі і Ганна Васільеўна Кескевіч — родам з Камянца. У дакументах іх нацыянальнасць не ўказваецца. Зазначаецца толькі, што абое — праваслаўныя. У сям'і было трое сыноў. Уладзімір — малодшы. Вучыцца хлапчуку давялося ў родным мястэчку, жывучы пры бацьках, дапамагаючы ім у гаспадарцы. Праўда, дапытлівасць і вялікія здольнасці дазволілі яму самавукам набыць немалыя веды. Сваё пазнанне свету Валодзя часта спрабаваў увасабляць у паэтычных радках.

У 1915 годзе ён быў прызваны ў царскую армію і апынуўся на фронце, дзе атрымаў чын афіцэра. Двойчы быў цяжка паранены. Давялося нават навучыцца пісаць левай рукою. Менавіта гэтым часам датуюцца першыя выступленні Уладзіміра Кітаеўскага як паэта ў друку. Большасць яго вершаў напісана па-ўкраінску. Іх змяшчаў часопіс «Вікна», які, як адзначалася вышэй, выходзіў у Львове.

Падчас Першай сусветнай вайны Кітаеўскія, як і большасць нашых землякоў, апынуліся ў бежанстве. Вяртанне ў родныя мясціны пасля ваеннага ліхалецця асаблівай радасці не прынесла. Ад былой сядзібы засталося толькі папялішча. Давялося адбудоўвацца нанова. У Стаўпах Кітаеўскія пражылі да 1938 г. Затым сям'я пераехала ў Тэўлі, дзе Уладзімір як чалавек адукаваны і дасведчаны служыў войтам. Неўзабаве, аднак, ён быў звольнены з гэтай пасады за дазвол адкрыць украінскую школу для сялянскіх дзяцей. Давялося шукаць іншае месца працы. Некаторы час Кітаеўскі выконваў абавязкі дарожнага майстра, а потым вырашыў стаць настаўнікам. Пасля заканчэння месячных курсаў па падрыхтоўцы настаўнікаў атрымаў месца ў школе ў вёсцы Свішчы (таксама на Жабінкаўшчыне), куды неўзабаве пераехаў з сям'ёй. Настаўнічаць доўга не прыйшлося. 1939 год стаў асабліва неспакойным і цяж-

кім. У. Кітаеўскі зноў быў звольнены з працы. Гэта страшна ўзрушыла і расчаравала яго ў жыцці. Адзінай падтрымкай заставаліся сям'я і сябры.

Чым займаўся Уладзімір Кітаеўскі пасля звальнення з працы, сказаць дакладна цяжка. Як згадвае дачка Галіна Арлоўская, у хаце па вечарах збіраліся нейкія людзі, доўга гаманілі, чыталі вершы, а затым бацька адпраўляўся ў Кобрын, часцей за ўсё на веласіпедзе. Падчас адной з такіх паездак ён моцна застудзіўся і захварэў. Прымаць лекі, нягледзячы на парады доктара, адмовіўся і неўзабаве памёр. Здарылася гэта 31 лістапада 1940 года, калі Уладзіміру Кітаеўскаму было ўсяго 44 гады. Пахаваны ён у Тэўлях.

Пасля смерці У. І. Кітаеўскага сям'я атрымала афіцыйную паперу, у якой паведамлялася, што ён прыняты ў Саюз пісьменнікаў Беларусі. На жаль, са спадчыны Кітаеўскага мала што ўцалела. У час Вялікай Айчыннай вайны жонка паэта Юльяна ўсё, створанае ім, закапала ў зямлю. Зразумела, многае загінула, а тое, што засталося, захоўваецца ў Кіеве ў Цэнтральным дзяржаўным архівемузеі літаратуры і мастацтва Украіны. Там У. Кітаеўскага помняць і шануюць. На радзіме ж паэт амаль невядомы. Думаецца, настаў час дэталёва вывучыць і аб'ектыўна ацаніць яго жыццё і творчасць.

## Польскамоўныя пісьменнікі

Як вядома, па ўсёй тэрыторыі Заходняй Беларусі ў той час забараняліся школы на роднай мове. Урад Польшчы для «павышэння» адукацыі і культуры насельніцтва прысылаў сваіх настаўнікаў, адкрываў польскія школы. Так, у 1927 годзе была накіравана на пасаду настаўніцы Магіліцкай школы Баранавіцкага павета (цяпер Івацэвіцкі раён) ***Вераніка Трапачынская-Агарак*** (1908—1957) — пазней вядомая польская пісьменніца, адным з псеўданімаў якой быў Крыстка з Магіліцаў. Яна вучыла беларускіх дзяцей па-польску, аднак па-чалавечы спачувала беларусам, займалася арганізацыяй у вёсцы мастацкай самадзейнасці, апраўдвала нацыянальна-вызваленчы рух нашага народа.

Жыццё ў Магіліцах дало пісьменніцы багаты матэрыял для твораў. Найбольш значным з іх з'яўляецца аўтабіяграфічны раман «Лясныя Долы», за які В. Трапачынская-Агарак атрымала Дзяржаўную прэмію. Лясныя Долы — гэта вёска, у якой настаўнічае гераіня рамана Браніслава Пятроўская. Па апісаннях вёска ў многім нагадвае Магіліцы, а маладая настаўніца — самую аўтарку. Цал-

кам супадаюць ці сугучны з сапраўднымі і назвы іншых вёсак, што сустракаюцца ў рамане: Руднянская Воля ў сапраўднасці Волька, Чатыркі — Чамялы, Долнава — Даманава, Малахвеі — Мілавіды і інш., упамінаюцца рэчкі Шчара, Грыўда, Руднянка.

Прататыпамі герояў твора таксама з'яўляюцца жыхары гэтых вёсак, былыя вучні Веранікі Трапачынскай-Агарак. Многім з сваіх герояў яна пакінула прозвішчы, характэрныя для гэтага рэгіёна: Падгорны, Горбач і інш. Нашы землякі з гонарам адзначаюць, што пісьменніца дакладная ў абмалёўцы іх партрэтаў.

Жыццё на Івацэвіччыне выклікала ў В. Трапачынскай-Агарак цікавасць да асобы Тадэвуша Касцюшкі. Знаёмства з яго жыццём і дзейнасцю паслужыла ёй асновай для стварэння гістарычнай аповесці «Салдаты Касцюшкі».

У маёнтку Пятровічы Кобрынскага павета (цяпер Жабінкаўскі раён) у сям'і памешчыка нарадзіўся польскамоўны паэт ***Альбін Дзяконскі*** (1892—1939?). Яго бацька не толькі валодаў Пятровічамі, але і быў маршалкам дваранства Кобрынскага павета. Маці — Ядвіга (у дзявоцтве Ажэшка) — даводзілася далёкай родзічкай пісьменніцы Элізе Ажэшка.

У 1910 годзе сваякі па лініі бацькі — Казімір і Стэфанія Дзяконскія — усынавілі здольнага і цікаўнага Альбіна і забралі яго ў свой радавы маёнтак Магілёўцы, што на Пружаншчыне. Новыя бацькі клапаціліся, каб іх прыёмны сын вырас чалавекам адукаваным і інтэлігентным. Яго аддалі вучыцца ў Варшаву, потым у Рыжскую гімназію, затым у Лазанскі універсітэт на факультэце раманістыкі. Альбін Дзяконскі вывучаў нават сельскую гаспадарку ў Бельгіі. Падчас вучобы ў Лазані ён пазнаёміўся з дачкой віленскага адваката Максімільяна Малінскага Соф'яй, якая пазней стала яго жонкай.

Дзяконскі прымаў удзел у Першай сусветнай вайне, служыў штабным афіцэрам. Бацькі ў гэты час былі ў бежанстве. Пасля Рыжскага дагавору Дзяконскія вярнуліся ў Магілёўцы. Альбін становіцца ўладальнікам гэтага маёнтка. На Пружаншчыне ён пачаў займацца літаратурнай творчасцю. У 1920 годзе выходзіць першы яго паэтычны зборнік «Байкі». Вось адна з яго баек у перакладзе Расціслава Бензерука:

**КАМАР**

Як леў сканаў, хто перамог?
Камар.
«Ну вось і ён памёр, — гудзеў «званар». —
Драпежнік дужы быў, а зараз нерухомы,

Хоць жыў бы, каб не вёў вайны
са мной, вядома.
Казаў жа слухацца і не кідацца
ў зваду...
Дык хто ў мяне сягоння вырве
ўладу?..»
Мяркуйце самі:
Як мруць ільвы,
дык ці не камароў мы выбіраем каралямі.

Неўзабаве з’яўляюцца і іншыя зборнікі: «Байкі, сатыра, лірыка», «Элегія», «Гарадскія матывы», «На захад», «Два галасы», «Драма Люцэфера», «Зялёныя Магілёўцы». Апошні з названых зборнікаў прысвечаны Магілёўцам, у якіх жыў паэт на Берасцейшчыне.

Творчасць Альбіна Дзяконскага на сённяшні дзень вывучана мала. Жонка паэта прыгадвала: «Мой муж... ніколі не шукаў славы і папулярнасці, але чула, што яго вершы не пазбаўлены каштоўнасці і што ў іх утрымліваецца паэтычнае зярнятка. Лічу некаторыя яго вершы дзіўнымі, часам нават незразумелымі, іншыя ж занадта прымітыўныя, сентыментальныя...». Ацэнка, як бачым, даволі крытычная і суровая. Думаецца, яна патрабуе аргументаванага ўдакладнення і падштурхоўвае да больш дэталёвага вывучэння творчасці нашага земляка, біяграфічныя звесткі пра якога абрываюцца 1939 годам, калі А. Дзяконскі быў арыштаваны і разам са сваім сябрам Вічфінскім адпраўлены ў Мінск.






# У гады ваеннага ліхалецця

У 1939 годзе савецкае кіраўніцтва прыняло рашэнне ўступіць у Другую сусветную вайну з мэтай вызвалення Заходніх Беларусі і Украіны ад заняволення іх Польшчаю.

Падзел радзімы на дзве часткі — Усходнюю і Заходнюю — балюча ўспрымаўся беларускай грамадскасцю па два бакі граніцы. Савецкіх воінаў заходнія беларусы сустракалі як вызваліцеляў. Ва ўсіх арміях, якія прымалі ўдзел у ваенных аперацыях на захадзе, пры паліткіраўніцтве распачалі выданне газетаў, адозваў, лістовак. Да працы ў рэдакцыях гэтых газетаў былі мабілізаваны многія савецкія пісьменнікі. У сувязі з гэтымі падзеямі на Берасцейшчыну трапілі Аляксандр Твардоўскі, Яўген Далматоўскі, Міхась Лынькоў і інш.

Праца ў франтавых выданнях той пары на Берасцейшчыне адбілася толькі ў творчасці А. Т. Твардоўскага і М. Ц. Лынькова. Агульнавядомыя беларускія карані выдатнага рускага пісьменніка ***Аляксандра Твардоўскага*** (1910—1971). Яго дзяды і прадзеды з боку маці — смаленскія беларусы, а бацькаў род паходзіць з Палесся. Пісьменнік усёй душою цягнуўся да ўсяго беларускага. Ён высока цаніў наш народ, які мае «шчодрае, шчырае і вясёлае сэрца», які валодае багатым творчым патэнцыялам, бо кожная геаграфічная назва заключае ў сабе асэнсаванае значэнне, любіў наш фальклор і літаратуру. Аўтар «Васіля Цёркіна» не аднойчы адзначаў, што вялікі ўплыў на станаўленне яго таленту як мастака слова аказаў беларускі фальклор і літаратура, у прыватнасці, такія пісьменнікі, як Янка Купала, Якуб Колас, Аркадзь Куляшоў. А. Т. Твардоўскі ведаў шмат беларускіх народных песняў і любіў іх спяваць. Народны паэт Татарыі Сібгат Хакім лічыў Твардоўскага па духу, па мелодыі паэтычнага радка беларускім пісьменнікам. Гэта ж паўтарыў за татарскім мастаком слова і наш Ніл Гілевіч.

Вялікі аўтарытэт у савецкай літаратуры А. Т. Твардоўскі заўсёды падтрымліваў беларускую культуру і нашых пісьменнікаў.

Ён быў першым рэдактарам «Анталогіі беларускай паэзіі» ў перакладзе на рускую мову і прыклаў шмат намаганняў, каб гэтая анталогія пабачыла свет. Твардоўскі доўгі час сябраваў з Аркадзем Куляшовым. Толькі дзякуючы пісьменніку са Смаленшчыны, многія аповесці Васіля Быкава станавіліся вядомымі чытачу. Праўда, спачатку на рускай мове ў часопісе «Новый мир», а затым — на роднай мове ў Беларусі.

Берасцейцам прыемна ўсведамляць, што Аляксандр Твардоўскі быў першым перакладчыкам на рускую мову твораў Міколы Засіма, папулярызаваў яго вершы сярод рускага чытача, публікуючы іх у «Новом мире», высока ацэньваючы іх мастацкія вартасці. Мікола Засім перапісваўся з Твардоўскім. Той прыняў самы непасрэдны і зацікаўлены ўдзел у лёсе паэта з Берасцейшчыны, выказаў яму шэраг слушных заўвагаў і даў карысныя парады.

На сёння не вядома, ці былі знаёмыя пісьменнікі ў даваенны час. Падставы для асабістага знаёмства былі. Справа ў тым, што ў 1939 г. А.Т. Твардоўскі быў прызваны ў войска і прыкамандзіраваны ваенным карэспандэнтам да франтавой газеты «Часавы радзімы». Як карэспандэнт гэтага выдання, аўтар «Васіля Цёркіна» скалясіў ці не ўсю Берасцейшчыну: Брэст, Маларыта, Антопаль, Кобрын, Івацэвічы, Баранавічы, Пружаны. На Пружаншчыне маглі сустрэцца Мікола Засім і Аляксандр Твардоўскі.

З Берасцейшчыны рускі пісьменнік слаў карэспандэнцыі найперш у сваю газету, пісаў і для іншых перыядычных выданняў. Часам свае карэспандэнцыі афармляў вершам. На Кобрыншчыне ля вёскі Грушава трапіў у акружэнне польскіх войскаў экіпаж танкістаў. Яны не захацелі здасца ў палон і згарэлі ў танку. Гэтым воінам Твардоўскі прысвяціў верш «Их было трое».

Клопатам Твардоўскага ў тыя дні ў нашым краі былі падрыхтоўка і выданне кнігі твораў рускіх паэтаў пра іх удзел у вайне 1939 г. на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Невялічкая кніжачка пад назвай «Франтавыя старонкі» была выдадзена ў Брэсце ў друкарні М. Таненбаўма. Рэдактарам яе быў Аляксандр Твардоўскі. Зборнічак склалі вершы і песні Сямёна Кірсанава, Ільі Фрэнкеля, Яўгена Далматоўскага, Паўла Слесарава, Сяргея Фіксіна і самога Твардоўскага. У канцы кніжачкі былі змешчаны беларускія прыпеўкі, якія перадалі паэту дзяўчаты з Івацэвічаў. Найхутчэй сам рэдактар і пераклаў гэтыя прыпеўкі на рускую мову.

З 18 кастрычніка і па 10 лістапада Твардоўскі жыў у Кобрыне. У лісце да Міхаіла Ісакоўскага паведамляў: «У Кобрын (гарадок меншы за Брэст-Літоўск, амаль мястэчка) я прыехаў учора. Сёння з Гарбатавым (ён увесь час быў страявым камандзірам, а цяпер пераведзены для працы ў рэдакцыі) знялі кватэру, два, тры, чаты-

ры пакоі, г.зн. проста жывём у аграмаднай кватэры зубнога ўрача Когана. Такое жыццё, з аднаго боку. З другога — праца, паездкі, тысячы цудоўных сустрэчаў, фактаў, уражанняў, пра гэта да часу не буду, — у лаканічным лісце ідуць пад руку банальныя фразы».

У перапісцы, якую вёў Аляксандр Твардоўскі з Міхаілам Ісакоўскім, выявіліся такія рысы яго характару, як жаданне дапамагчы, падтрымаць чалавека. Ісакоўскі ў той час хварэў. Каб падбадзёрыць сябра, Твардоўскі паведамляў таму, што ўся Заходняя Беларусь спявае песні на словы Ісакоўскага. Асабліва палюбілася моладзі «Кацюша». Гарбатаву ніхто з дому не пісаў, не слала лістоў і каханая дзяўчына. Твардоўскі прасіў сябра, каб ён у лісце сказаў колькі цёплых слоў Гарбатаву.

Дом, дзе жылі каля месяца ў Кобрыне рускія пісьменнікі Аляксандр Твардоўскі і Барыс Гарбатаў, захаваўся, хоць і знешне і ўнутрана зменены. Няма балкона, закладзены ўваход з вуліцы, перабудаваны і пакоі доктара Когана. На першым паверсе — магазін, на другім — гандлёвыя канторы. У 1987 г. на гэтым доме была адкрыта мемарыяльная дошка з такім надпісам па-руску: «У гэтым доме ў кастрычніку-лістападзе 1939 года жылі і працавалі выдатныя дзеячы савецкай літаратуры А. Т. Твардоўскі і Б. Л. Гарбатаў».

Творчы набытак Твардоўскага ў час яго службы ў войску ў 1939 г. значны: выданне кнігі «Франтавыя старонкі», больш за дзесятак вершаў і два нарысы, пераклад вершаў Я. Купалы «Вызваленаму брату» і Я. Коласа «Радасная сустрэча».

Працаваць літаратурнымі супрацоўнікамі ў розных газетах, што выдаваліся ў войсках у 1939 г., былі прызваны і беларускія пісьменнікі: М. Лынькоў, П. Панчанка, К. Крапіва і інш. ***Міхась Лынькоў*** (1899—1975) рэдагаваў газету «Беларуская звязда» — орган палітківраўніцтва Беларускага фронту. Рэдакцыя газеты размяшчалася ў Пінску. На сёння невядома, у якіх населеных пунктах Палесся пабываў пісьменнік.

Заходнебеларускія ўражанні знайшлі адлюстраванне ў многіх творах Міхася Лынькова, якія склалі зборнік «Сустрэчы»: «Пра хлопчыка Яську», «Ядвісін дуб», «Капля малака», «Тры злотых», «Тонкая сітуацыя», «Восеньскай ноччу», «Дай звёздачку». Гэтыя творы пісаліся ў Мінску, калі Міхась Лынькоў пакінуў Палессе.

Заходнебеларуская рэчаіснасць у гэтых апавяданнях паказана спрошчана. Для іх характэрны дзве фарбы. Чорная — для паказу жыцця рабочых і сялянаў пад Польшчай, светлая — для паказу сустрэч Чырвонай Арміі ў гарадах і вёсках Заходняй Беларусі. Прадстаўнікі маёмасных класаў намаляваны вылюдкамі, якія пазбаўлены жалю, спачування, любові да людзей. Народныя вобразы — ці то ахвяры-цярплівцы здзеку і прыгнёту, ці то змагары.

Геаграфічна з Піншчынай звязана апавяданне «Сустрэчы». Яно пачынаецца апісаннем чыгуначнага вакзала ў Пінску, куды прыходзіць жонка Захара Крымянца пасля верасня 1939 г., спадзяючыся сустрэць сваіх самых блізкіх і дарагіх людзей — мужа і дачку. Яны, рэвалюцыянеры-падпольшчыкі, сядзелі ў турмах недзе на захадзе.

Захар Крымянец — пінскі рабочы. Тут ён жыў і працаваў, тут забіў свайго сябра-правакатара, адсюль трапіў у астрог, сюды і вярнуўся пасля вызвалення і адразу паспяшаўся на сваю фабрыку, каб арганізаваць там працу. У Пінску, трэба думаць, пачынала свой шлях рэвалюцыянеркі і дачка Вера. Іншых рэгіянальных адметнасцей Пінска, апрача чыгуначнага вакзала, у творы не паказана.

Рабочы-камуніст Мацюш («Капля малака»), трапляе ў Бяроза-Картузскі канцлагер. Яго там знявечылі фізічна, але не зламалі духоўна.

Адразу пасля ўсталявання савецкай улады на Берасцейшчыне пачаліся тут масавыя рэпрэсіі. Яны былі скіраваны супраць заможнага сялянства, чыноўнікаў, якія працавалі ў польскіх установах, асаднікаў і нават удзельнікаў рэвалюцыйнага змагання супраць паняволення Заходняй Беларусі Польшчай. Высылаецца ў глыб Расіі сям'я селяніна Патаповіча з вёскі Рачканы на Ляхаўшчыне, а следам за ім і сын, вядомы заходнебеларускі паэт Янка Чабор, выганяюцца з свайго дома ў Грушаве на Кобрыншчыне польская пісьменніца Марыя Радзевіч, арыштоўваецца Альбін Дзяконскі.

У некаторых сем'ях, якія былі рэпрэсіраваны ў 1939—1941 гг., гадаваліся дзеці, якія пазней сталі вядомымі пісьменнікамі. Пасля рэабілітацыі на Берасцейшчыну не вярнуліся, пераехалі ў сваёй большасці на сталае жыхарства ў Польшчу. У Пінску ў 1932 г. у сям'і настаўнікаў нарадзіўся сусветнавядомы польскі пісьменнік ***Рышард Капусцінскі***. Ён аўтар такіх твораў як «Імператар», «Футбольная вайна», «Шахіншах», «Імперыя» і інш. 13 кніг нашага земляка перакладзены на 30 моваў свету. У 1939 г. сям'я Капусцінскіх была вывезена ў глыб СССР. У Пінску захаваліся будынкі, дзе нарадзіўся пісьменнік, дзе пазней жыла сям'я, дзе была школа, у якой пачынаў вучыцца Рышард.

У сувязі са здымкамі дакументальнага надзвычай прэстыжнага фільма (аналагічныя фільмы былі прысвечаны Ахматавай і Бродскаму) Рышард Капусцінскі прыязджаў у Пінск. Тут сустрэўся з людзьмі, якія ведалі яго бацькоў, былі вучнямі ці то маці, ці то бацькі. Пісьменнік любіць гаварыць, што ён паляшук. Пінск увайшоў у кнігу Капусцінскага «Імперыя». Дзелячыся сваімі творчымі планамі, ён зазначыў, што збіраецца напісаць кнігу пра Пінск, яго гісторыю, бо ўражанні дзяцінства не памерлі ў яго душы. Яны



*Мікашэвічы. Вакзал. (1930-я гг.)*

жывуць і хвалююць яго творчае ўяўленне. Не абыякавы Рышард Капусцінскі да лёсу сваёй малой радзімы.

***Ежы Ляжэнскі*** (1930) паходзіць з Аранчыцаў Пружанскага раёна, аўтар 30 аповесцей і кніг. Жыве ў Польшчы.

Родам з Мікашэвіч другі польскі пісьменнік ***Багдан Мадэй*** (1934 г. нараджэння). Ён аўтар некалькіх кніжак апавяданняў. Жывуць і працуюць у Польшчы ***Шпонцар Станіслаў*** (1927) і ***Бурш Яша*** (1929 г. нараджэння). Абодва нарадзіліся ў г. Баранавічах. Апошні належыць да беларускамоўных паэтаў Польшчы. Пісаць пачаў у канцы 50-х гг. Ён актыўна супрацоўнічае ў беластоцкай «Ніве». Яго вершы змяшчаліся ў розных зборніках Беласточчыны: «Мой родны кут», «Белавежа», «Літаратурная Беласточчына» і інш. Бурш Яша — аўтар паэтычнага зборніка «Прамень думкі».

Вершы беларускага паэта з Беласточчыны раскрываюць складаны свет сучасніка, пошукі ім свайго месца ў грамадстве, інтымныя пачуцці і ўзаемаадносіны з прыродай. Паэзія Яшы Бурша (сапраўднае прозвішча — Інісаровіч) належыць да інтэлектуальнай плыні ў беларускай паэзіі. Многія вершы нашага земляка перакладзены на польскую мову.

Дадамо да гэтых імёнаў яшчэ аднагодкаў ***Ежы Леслова*** і ***Ежы Сіта***, якія нарадзіліся ў 1934 г. у Пінску, ***Багдана Драздоўскага*** (1931) з Косава Палескага, ***Ігара Сікірыцкага*** (1920) з Брэста. На думку А. А. Лойкі, Б. Драздоўскі і Ежы Сіта вызначаюць магі-

стральны шлях у развіцці сучаснай польскай паэзіі. Яны «як бы двуверхім Эльбрусам высяцца над паэзіяй сваіх польскіх земля-коў» з Берасцейшчыны *(Лойка Алег. Зорная паэзія ружы, штыка, слязы… // Анталогія польскай паэзіі XX стагоддзя. Т. 1.— Мн., 2003. С. 24).*

Не карысталіся даверам у савецкіх уладаў і былыя ацалелыя ўдзельнікі заходнебеларускага падполля. Гэтым тлумачыцца, на нашу думку, той факт, што нічога не пішуць у гэты час вядомыя на Берасцейшчыне паэты-барацьбіты Мікола Засім і Піліп Пестрак. Праўда, вершы Міколы Засіма спрабаваў прабіць у друк Аляксандр Твардоўскі, а крытык Марк Карпачоў, які быў накіраваны на працу ў толькі што адчынены Баранавіцкі настаўніцкі інстытут, змясціў у газеце «Чырвоная звязда» артыкул пра вершы Піліпа Пестрака.

У 1939 г. на тэрыторыі сучаснай Брэсцкай вобласці было ўтворана тры вобласці: Брэсцкая, Баранавіцкая і Пінская. У кожнай з іх пачалі выдавацца газеты — органы абкамаў ЦК КП(б)Б і аблвыканкамаў. У Заходнюю Беларусь пасылаюцца тысячы і тысячы чыноўнікаў рознага рангу, інтэлігенцыя, бо мясцовым кадрам выказваўся недавер. Творчыя іх сілы якраз групуюцца вакол абласных газетаў. Так, у Брэст у 1939 г. загадчыкам аддзела культуры брэсцкай газеты «Зара» была накіравана ***Марына Барсток*** (1916—1994). Яе намаганнямі тут было створана аб'яднанне пісьменнікаў Брэстчыны.

У 1940 г. у Брэст прыбыў на службу ўкраінскі паэт з Сумшчыны ***Іван Чумачэнка.*** Ён быў намеснікам палітрука і камандзірам зеніткі. Тут ляглі на паперу многія яго вершы. На шчасце, яны ацалелі. Асноўны пафас вершаў — прага гераічных учынкаў, шкадаванне, што ён не прымаў удзелу ў ваенных падзеях 1939 г. Многія з вершаў Івана Чумачэнкі пераклалі на беларускую мову паэты Берасцейшчыны: Міхась Рудкоўскі, Мікола Пракаповіч, Алесь Каско. Украінскаму паэту ўдалося ў чэрвені 1941 г. вырвацца з Брэста, аднак уцалець на вайне — не. У снежні 1941 г. ён прапаў без вестак.

У воінскія часці, раскватараваныя на Берасцейшчыне, з чытаннем сваіх твораў прыязджалі савецкія пісьменнікі. У ліпені 1940 г. Брэст наведаў ***А.С. Новікаў-Прыбой*** (1877—1944). Ён некалькі разоў сустракаўся з вайскоўцамі і іх сем'ямі, чытаў урыўкі з рамана «Цусіма». Ахвотна згадзіўся падзяліцца сваім вопытам з маладымі літаратарамі, раіў тым набіваць руку на напісанні карэспандэнцый у газеты пра сваё жыццё, пра святы і будні салдатаў. У мясцовым тэатры адбылася сустрэча з настаўнікамі. Яны прасілі Новікава-Прыбоя расказаць пра знаёмства з Максімам Горкім, падзяліцца творчымі планамі. Берасцейцы ўручылі пісьменніку памятны ад-

рас. Яны дзякавалі вядомаму мастаку слова за прыезд, выказвалі любоў і прыхільнасць да творчасці Новікава-Прыбоя. Той у сваю чаргу праз газету «Зара» вітаў жыхароў Берасцейшчыны, дзякаваў за цёплы прыём.

Важнымі палітычнымі кампаніямі ў 1939—1940 гг. былі выбары ў Народны сход і ў Вярхоўны Савет БССР ад працоўных Заходняй Беларусі. Кобрыншчына тады выбрала Максіма Танка, а Баранавіччына — Якуба Коласа.

Гады Вялікай Айчыннай вайны пазначаны суровым змаганнем з акупантамі. Гаварыць пра развіццё літаратуры гэтага часу не даводзіцца. Разам з тым у Баранавічах выдавалася беларуская газета, у якой распачаў свой творчы шлях ***Алег Лойка*** (1931)**.** Можна таксама згадаць сувязі некаторых іншых пісьменнікаў з нашым краем. У 1943 г. вядомы ўкраінскі паэт ***Платон Воранько*** разам з партызанскім злучэннем Каўпака (партызанам гэтага злучэння ён быў) ажыццяўляў знакаміты рэйд праз Палессе. Знямоганыя, згаладалыя партызаны трапілі ў адну з вёсак на Століншчыне, спадзеючыся на падтрымку. Нічым не магла іх пацешыць гаспадыня хаты, бо перад гэтым усё, што было, вымелі фашысты. Яшчэ больш прыгнечаныя партызаны пакідалі хату нашай зямлячкі. І раптам яна ўспомніла пра запаветны мяшэчак з макавым насеннем і аддала яго ўкраінскім партызанам. Гэтая сардэчнасць сялянкі са Століншчыны на ўсё жыццё запомнілася Платону Воранько і звязвалася ў яго ўяўленні з адметнасцю нацыянальнага характару беларусаў. Пазней украінскі паэт прысвяціў некалькі вершаў Століну. Ён любіў паўтараць пра тое, што вызваляў гэты горад, што бачыў яго разбураным і спустошаным.

Двойчы лёс звязваў з Берасцейшчынай вядомага беларускага паэта са Слонімшчыны ***Сяргея Новік-Пеюна*** (1906—1994)**,** аўтара любімай моладдзю песні «Зорачкі». Змагар за права беларусаў развіваць сваю культуру на роднай мове, за права беларускіх дзяцей вучыцца на роднай мове ў былой Заходняй Беларусі, Сяргей Новік-Пяюн быў высланы з роднага краю ў цэнтральную Польшчу, а пасля вяртання ў 1939 г. кінуты ў астрог у г. Баранавічы. Адтуль яго вызвалілі савецкія войскі. У гады нямецкай акупацыі за сувязь з партызанамі Новік-Пяюн быў арыштаваны слонімскім гестапа і адпраўлены ў Калдычэўскі лагер смерці (цяпер Баранавіцкі раён). 4 ліпеня 1944 г. незадоўга да вызвалення паэта ў ліку 600 вязняў гэтага лагера пагналі на расстрэл. Новік-Пеюну пашанцавала. Ён быў паранены ў час расстрэлу, прыкінуўся мёртвым. Гэта і ўратавала паэту жыццё.

Вызваленне Берасцейшчыны ад фашысцкай акупацыі ў 1944 г. прывяло сюды з савецкімі войскамі некаторых вядомых пісьмен-

нікаў. Шляхі ваеннага карэспандэнта ***Міхаіла Святлова*** звязаны з Пружанамі. Ваенны лёс у 1944 г. закінуў у г. Брэст ***Яўгена Далматоўскага.*** Франтавыя дарогі вялі праз Берасцейшчыну вядомага празаіка ***Уладзіміра Багамолава.*** Невыпадкова падзеі ў яго аповесці «Іван», якая вядомая найбольш па фільму «Іванава дзяцінства», звязаны з Ляхавічамі.

## Літаратурнае жыццё краю ў першае пасляваеннае дзесяцігоддзе

Вялікая Айчынная вайна пакінула свой крывавы след і на Берасцейшчыне. Амаль 320 тысяч чалавек знішчылі тут акупанты, 30 тысяч вывезлі на работу ў Нямеччыну, 20 тысяч сем’яў засталіся без даху над галавой, у грудах лягло 148 гарадоў і сёл. Гітлераўцы разабралі і вывезлі ў рэйх усе прамысловыя прадпрыемствы, разбурылі каля 400 школьных будынкаў. Таму адраджэнне пасляваеннага жыцця на вызваленай ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў тэрыторыі пачыналася ў складаных умовах. Паступова ажывала культура, у тым ліку літаратура краю.

Своеасаблівым цэнтрам літаратурна-культурнага жыцця рэгіёна стаў Брэст. Ужо ў жніўні 1945 года яго наведалі выдатныя беларускія пісьменнікі П. Броўка, П. Глебка, М. Лынькоў і М. Танк. 13 лістапада гэтага ж года спектаклем па п’есе М. Горкага «Мяшчане» распачаў сваю работу Брэсцкі абласны драматычны тэатр. У гэты час абласныя драматычныя тэатры былі створаны таксама ў Баранавічах і Пінску. У 1950 годзе на базе Брэсцкага настаўніцкага інстытута быў адкрыты педінстытут імя А. С. Пушкіна, куды неўзабаве прыехалі працаваць выкладчыкамі такія вядомыя знаўцы літаратуры, як У. Калеснік, А. Рубцоў, І. Бас, Л. Смальянава. У горадзе двойчы, у маі 1947 года і ў лютым 1954 года, адбыліся нарады маладых пісьменнікаў Беларусі. Нягледзячы на гэта, літаратура Берасцейшчыны ў першыя пасляваенныя гады развівалася марудна.

Брэст, які лічыўся галоўным асяродкам культурнага жыцця краю, на той час быў амаль пусты. На дзень вызвалення ў ім налічвалася ўсяго 14960 жыхароў. Прычым, значную частку насельніцтва складалі вайскоўцы і іх сем’і, паколькі Брэст у сувязі са жнівеньскай дамовай 1945 года аб савецка-польскай дзяржаўнай мяжы, па якой тры раёны нашай вобласці (уся Беласточчына) увайшлі ў склад Польшчы, стаў горадам пагранічным. Гэты край аблюбавалі і многія з тых, хто ваяваў ці служыў на тэрыторыі Берасцейшчыны ў час Вялікай Айчыннай вайны, у тым ліку вя-

домыя пазней пісьменнікі. Некаторыя з іх затрымаліся тут толькі на пэўны час (Міхаіл Луконін), другія — пераехалі жыць настала (Мікалай Цялічка і інш.). Яны і склалі ядро пасляваеннага літаратурнага аб'яднання, якое было створана пры мясцовым Доме афіцэраў. Да яго далучыліся літаратары-аматары і тыя, хто быў накіраваны на працу ў пасляваенны Брэст, але цікавіўся ці ўжо прафесійна займаўся літаратурай. Так, восенню 1945 года сюды ўслед за мужам прыехала паэтка, вядомая дзіцячая пісьменніца, заснавальніца першага ў Беларусі дзіцячага тэатра лялек ***Вера Сурская***. Яна актыўна ўключылася ў работу літаб'яднання, якім тады кіраваў ***Міхаіл Луконін***. У яго паэтычнай спадчыне ёсць толькі адзін верш, прысвечаны нашаму гораду, які датаваны гэтым перыядам, — «В Бресте»:

Я на окраине страны —
и нет войны.
Я Брест перехожу один
крест-накрест.
Кленовые там облетают листья,
стоят треножники геодезистов,
и горизонт уже закатист.
Дождь пойман в травянистые воронки,
и бегает по чёрным проводам
пугливая невкусная вода,
да ручеёк ещё звенит в сторонке,
как бусы на ключицах у девчонки.
Уже закат запенился вдали.
Дом строят.
Он стоит в кирпичной пыли.
У дома — немцы
на квадрат земли
кладут из кирпича:
«Мы победили».
Себе в усы смеётся конвоир,
и я смеюсь.
Потом хожу до света,
шепчу слова, разглядываю мир…
Благодарю за то, что вижу это!

*(1945)*

У першыя пасляваенныя гады дарогу мастацкаму друкаванаму слову ў краі найперш пракладвала журналістыка. У вызвалены Брэст з партызанскіх баз прыбылі рэдакцыі дзвюх падпольных газет: органа абкама КПБ «Заря» і органа абласнога антыфашысцкага камітэта «За Родину». Іх супрацоўнікі фактычна і склалі новую рэдакцыю абласной газеты «Заря», якая пачала выходзіць на беларускай і рускай мовах, што задавальняла інтарэсы як беларуска-

моўных, так і рускамоўных пісьменнікаў. На яе старонках, а таксама ў тагачасным раённым і рэспубліканскім друку часта з'яўляліся вершы, апавяданні, нарысы, асобныя замалёўкі берасцейскіх аўтараў. Сярод літаратараў-пачаткоўцаў асабліва вылучаліся Дзмітрый Васільеў і Віктар Сухарукаў з Брэста, Васіль Праскураў з Ганцавіч, студэнт Брэсцкага педінстытута Іван Мельнічук і інш. П'еса Віктара Сухарукава «Абруч», напісаная ў гэты час, была нават адзначана спецыяльнай прэміяй на рэспубліканскім семінары маладых беларускіх драматургаў.

Некаторыя з названых вышэй пачаткоўцаў пазней сталі прызнанымі майстрамі слова. Так, творчы шлях пачынаў з вершаў, але знайшоў сябе ў жанры нарыса ***Васіль Праскураў***. Выйшла шэсць яго нарысавых зборнікаў: «Святая сівізна», «Трое з-пад Лані», «Людзі-суседзі», «Пакажы чалавеку дарогу», «Пакланіся зямлі-карміцельцы», «Чорны хлеб». Апошняя кніга В. Праскурава «Наўсцяж вясковай вуліцы» ўбачыла свет у 1995 г., ужо пасля смерці аўтара. Яе склалі пераважна творы, якія пры жыцці пісьменніка не друкаваліся. Усе яны тэматычна звязаны з папярэднімі зборнікамі — апавядаюць пра Палессе і яго людзей. Творчая дзейнасць Васіля Праскурава была адзначана Дзяржаўнай прэміяй.

В. Праскураў адыграў вялікую ролю ў станаўленні літаратараў Ганцаўшчыны. Усе тыя, хто выяўляў хоць крупінкі таленту, знаходзілі ў яго падтрымку і апеку. У значнай ступені дзякуючы Праскураву Ганцаўшчына стала адным з «пісьменніцкіх гняздоўяў».

Вядомым дзіцячым паэтам стаў былы студэнт Брэсцкага педінстытута ***Іван Мельнічук***. Ён выдаў дзве кнігі вершаў для дзяцей на рускай мове «Кто разбудил солнце» і «Сами диво сотворим».

Маладым літаратарам з Берасцейшчыны ў той час пашанцавала. Яны мелі сапраўдны прыклад «жывога» паэта ***Міколы Засіма***, праз клапатлівыя рукі і шчодрае сэрца якога праходзілі амаль усе іх першыя спробы пяра. У 1948 годзе М. Засім быў накіраваны на працу ў рэдакцыю газеты «Заря», пры якой таксама стварыў літаратурнае аб'яднанне і да 1956 года быў яго душой і нязменным кіраўніком. На той час Мікола Засім выдаў ужо два паэтычныя зборнікі «Ад шчырага сэрца» (1947) і «Вершы» (1954). Іх склалі творы розныя па тэмах і гучанні, але мысленне ў іх аўтара адно — гістарычнае і грамадзянскае. Ён імкнуўся па-мастацку асэнсаваць канкрэтна-гістарычны сэнс перажытага беларускім народам. Яго лепшыя вершы прасякнуты любоўю да роднага краю, людзей працы і сваёй малой радзімы, Пружаншчыны. Гораду, з якім звязаны амаль дзесяць гадоў жыцця, паэт прысвяціў верш «Брэст»:

Паглядзі на Брэст над Бугам,
Колькі хараства!
Абнялі яго два друга —
Пабрацімы два;
Мухавец сrабрыста-сіні,
Буг, як сталь, сівы,
Гартавалі ў злой гадзіне
Дух наш баявы.
Зноў будуемся мы горда.
На старой сцяне
Нехта надпіс вывеў цвёрда:
«Мір! Не быць вайне!»
Праз гранічныя вароты
Цягнікі ідуць...
У жыццё, мой горад горды,
Табе светлы пуць!

*(1951)*

Паступова ў горадзе на базе названых вышэй двух літаратурных аб’яднанняў утварылася адно — абласное, пры газеце «Заря», якое ўзначаліў М. Засім.

На той час у рэдакцыі «Зари» працаваў і ***Аляксандр Авечкін***, які прыехаў у горад у 1951 годзе ў якасці карэспандэнта газеты «Савецкі селянін». У 1958 годзе пісьменнік выдаў другую кнігу сваёй прозы для дзяцей «Подзвіг сігналіста» (першай была аповесць «Саломка»). Новую кнігу А. Авечкіна склалі апавяданні, напісаныя ў апошнія гады, ужо падчас працы ў Брэсце: «Васька», «Хлапчуковы песні», «Дзяўчынка», «Подзвіг сігналіста», «Слова аб юным героі» і інш. Адно з іх прысвечана абаронцу Брэсцкай крэпасці, трубачу 333-га стралковага палка Пецю Клыпу.

Літаратурнае жыццё горада і Берасцейшчыны ў цэлым актывізавалася з прыездам сюды ў 1954 годзе ***Уладзіміра Калесніка***. Ён пачаў рэгулярна наведваць пасяджэнні абласнога літаратурнага аб’яднання, стаў актыўным яго членам і, неўзабаве, з 1956 года, узначаліў літаратурную сябрыну краю. У. Калеснік імкнуўся згуртаваць літаратараў-берасцейцаў у адно цэлае, нягледзячы на розныя месцы жыхарства, абраныя жанры і мову. Шукаў і падключаў да працы таленавітую моладзь, найперш — з ліку сваіх выхаванцаў, студэнтаў філалагічнага факультэта Брэсцкага педінстытута імя А. С. Пушкіна.

Менавіта ў гэты час былі наладжаны сяброўскія і творчыя сувязі паміж пісьменнікамі Берасцейшчыны і суседняй Валыні. Прайшлі Дні ўкраінскай літаратуры ў Беларусі і беларускай на Украіне, падчас якіх маладыя паэты і празаікі Берасцейскай і Валынскай абласцей пабывалі адно ў аднаго, выступілі перад жыхарамі са сваімі творамі, падзяліліся вопытам работы ў літаратурных аб’яднаннях.

У гэты перыяд нашу вобласць наведвалі і прынялі ўдзел у літаратурных сустрэчах, творчых вечарах многія знакамітыя пісьменнікі. У пачатку 50-х гадоў тут пабывалі Іван Шамякін, Пімен Панчанка, Анатоль Вялюгін, а таксама рускія пісьменнікі Ф. Панфёраў, Я. Смелякоў і С. Васільеў.

Своеасаблівым падагульненнем творчага жыцця Берасцейшчыны першага пасляваеннага дзесяцігоддзя стаў літаратурна-мастацкі альманах «Брэст», выдадзены ў 1958 годзе. Яго рэдакцыйная калегія (А. Авечкін, У. Калеснік, Р. Няхай, Л. Смальянава, Ф. Сяргейчык, І. Чарняўскі) найперш імкнулася прадставіць шырокаму колу чытачоў тагачасных літаратараў краю, пазнаёміць з іх лепшымі творамі. Так, аўтарамі змешчаных у альманаху празаічных твораў (гэта апавяданні і нарысы) з'яўляюцца М. Юркевіч, Ф. Туманаў, Ф. Ляўчук, З. Ільеўскі, І. Надзеждзін, А. Авечкін, В. Дайліда, В. Пехцерава, М. Рашэўскі, Н. Літвінава, П. Місько, С. Руціч, У. Фрэйдзін. У гэтым выданні ўпершыню былі надрукаваны дакументальная аповесць В. Ласковіча «Зара над Бугам» і ўрывак з кнігі С. Смірнова «Героі не забыты». Паэтычная ж Берасцейшчына прадстаўлена наступнымі імёнамі: П. Пестрак, Р. Няхай, М. Шавель, В. Дзінейка, З. Вагер, В. Праскураў, М. Чарняеў, А. Гарай, У. Тураў, І. Мельнічук, Д. Васільеў, Л. Дашук, Н. Шалаева, В. Сурская. Некаторыя іх творы прысвечаны Брэсту (верш В. Сурскай «Брест», А. Гарая «Пагранічнікі» і інш.).

Асобныя старонкі альманаха апавядаюць пра жыццё і творчасць Міколы Засіма. У выданне ўключаны і адзін літаратуразнаўчы артыкул — «Рускія пісьменнікі на Брэстчыне» І. Баса, які стаў першым даследаваннем жыцця і творчасці рускіх мастакоў слова на тэрыторыі нашага краю.

Выхад альманаха «Брэст» быў, аднак, сустрэты маўчаннем прэсы. Мажліва таму, што перавага ў ім аддадзена творам па так званай значнасці прататыпа, заўважаецца яшчэ нізкі іх мастацкі і эстэтычны ўзровень. Думаецца, цалкам можна аднесці да змешчаных твораў і выказванне У. Гніламёдава, які слушна заўважыў, што лірычныя героі многіх паэтаў канца 40 — пачатку 50-х гадоў «кранутыя паэтычнай абязлічкай, да смешнага былі падобны адзін да другога і, зразумела, не цікавыя» *(Гніламёдаў У. Традыцыі і наватарства. — Мн., 1972. С. 17).*





# Мастацкі летапіс абароны Брэсцкай крэпасці

У такой сітуацыі значны поспех у чытача ўжо на той час мелі мастацкія творы, прысвечаныя Брэсцкай крэпасці і яе абаронцам.

Мастацкі летапіс абароны Брэсцкай крэпасці пачаў ствараца адразу па гарачых слядах падзей. Ужо ў канцы ліпеня 1941 г. ***Канстанцін Сіманаў*** напісаў верш «Маёр прывёз хлапчука на лафеце...», дзе згадваецца г. Брэст і Брэсцкая крэпасць — «он вёз его из крепости, из Бреста».

У лісце да аўтара гэтых радкоў Канстанцін Сіманаў пісаў: «У напісаным у канцы ліпеня 41-га года вершы ёсць згадка пра хлопчыка, якога вязуць на лафеце пушкі артылерысты, якія адступалі з-пад Брэста. Як мне помніцца, гэта не з павятра ўзята; дзесьці ў Беларусі я бачыў у тыя дні менавіта такую карціну. Трэба думаць, людзі мне адказалі на маё пытанне, што ідуць з-пад Брэста, можа быць не з самога Брэста, а адкульсці адтуль. Інакш як бы з'явіцца менавіта слову «Брэст», яно не дзеля рыфмы ўзялося». (Арыгінал ліста знаходзіцца ў мяне — **В. Л.**). У гэтым вершы абарона крэпасці паўстае найперш у трагічным арэоле. Дзіця, перажыўшы пачатак вайны ў цытадэлі над Бугам, ссівела і асірацела, страціўшы маці. Бацька знайшоў сыну адзінае бяспечнае месца — лафет пушкі. Невыпадкова вобраз ссівелага дзіцяці выклікае ў лірычнага героя прагу помсты фашыстам.

У сакавіцкім нумары газеты «Красное знамя» быў апублікаваны ўрывак з рамана ***Кузьмы Чорнага*** «Вялікі дзень». Над ім пісьменнік пачаў працаваць у 1941 г. Адзін з герояў рамана Уладзімір Вялічка — случак. Вайна яго заспела пад Брэстам на вайсковых зборах. Вялічка да вайны жыў клопатам сваёй сям'і, гаспадаркі, малой радзімы. Ён нецярпліва чакаў таго дня, калі можна будзе вярнуцца да прывычных абавязкаў. Вайна ўцягвае Вялічку ў свой крывавы вір.

Пісьменнік дакладна, з веданнем справы перадае адметнасць баёў у Брэсцкай крэпасці, толькі Кузьма Чорны перанёс іх у горад: адсутнасць агульнага камандавання, асобныя раёны змагання



*Брэсцкая крэпасць. Дом камендантa. (1920-я гг.)*

ў горадзе, барацьба за кожны дом, артылерыйскі і авіяцыйныя абстрэлы, прапанова абаронцам здавацца, бо яны акружаны, голад і смага, адсутнасць боепрыпасаў. Пасля дзевяці дзён змагання ў Брэсце Вялічку з Мішурыным удаецца ноччу вырвацца з захопленага фашыстамі горада.

Усё гэта сведчыць пра тое, што Кузьма Чорны чуў з першых вуснаў, што адбывалася ў Брэсцкай крэпасці ў чэрвені 1941 г. А. А. Майсейчык мяркуе, што, кіруючыся пешкі з Мінска на ўсход у пачатку вайны, Кузьма Чорны сустрэўся з вайскоўцамі, якія абаранялі крэпасць, вырваліся з нямецкага акружэння і даганялі воінскія часці, каб зноў стаць у строй. Ад іх ён і мог даведацца пра падзеі ў Брэсцкай крэпасці, лічачы, што горад і крэпасць адно і тое ж.

У першыя пасляваенныя гады з’яўляюцца новыя творы пра змаганне ў Брэсцкай крэпасці: вершы ***Льва Ашаніна*** «Легенда пра абаронцаў Брэста» (1945), ***Максіма Танка*** «У Брэсце» (1946), ***Міколы Засіма*** «Брэст», «Памяці Наганава і Горахава» (1950), п’еса ***Канстанціна Губарэвіча*** «Брэсцкая крэпасць». Пісьменнікі ў гэтых творах ішлі ад тых рэальных фактаў, якія пакінула вайна ў самой крэпасці (яе агульны выгляд, надпісы на сценах з датамі, калі іх пісалі салдаты), ад скупых дакументальных звестак, якія знаходзілі пры разборцы руінаў цытадэлі, успамінаў берасцейцаў і жыхароў навакольных вёсак, іх асэнсавання таго, што адбывалася ў Брэсце ў гады вайны.

Ва ўсіх пасляваенных творах саракавых — пачатку пяцідзесятых гадоў услаўляецца гераізм савецкіх воінаў, іх мужнасць, адданасць радзіме, вернасць воінскаму абавязку. Вершы Л. Ашаніна і Максіма Танка — баладнага тыпу. Рускі паэт ідзе за народнай легендай і паказвае пераемнасць у змаганні абаронцаў крэпасці і разгортванні партызанскага руху ў краі. Беларускі селянін, які добра ведаў падзямельныя хады крэпасці, вывеў рэштку абаронцаў за горад, і менавіта яны сталі берасцейскімі мсціўцамі. У вершы Максіма Танка ў адпаведнасці з жанравымі адметнасцямі твора нават смерць уражана мужнасцю салдатаў. Яна сама дапісвае радкі ліста родным, якія воін не паспеў закончыць:

Ды не сумуйце,
Вярнуся з славай!..

*(Рэха ў граніце.*
*Укладальнік Л. І. Храмава. —*
*Мн., 1975. С. 23)*

У духу свайго часу напісана і п’еса Канстанціна Губарэвіча «Брэсцкая крэпасць» (першапачатковая назва «Цытадэль славы»). Хоць у канцы твора героі гінуць, аднак чытачамі і гледачамі таго часу гэта ўспрымалася як аптымістычная трагедыя. «Брэсцкая крэпасць» Губарэвіча набыла сваю шырокую вядомасць спектаклямі Брэсцкага драмтэатра. Доўгі час яна не проста не сыходзіла з афішаў тэатра, а была своеасаблівай яго візітоўкай. Менавіта «Брэсцкай крэпасцю» тэатр пачынаў свае гастролі ў розных гарадах былога СССР і за мяжой. Прэм’ера спектакля па п’есе Губарэвіча адбылася 19, 20, 21 сакавіка 1953 г. і апошні раз «Брэсцкая крэпасць» была сыграна тэатрам у другой палове 80-х гг. Усяго было паказана каля 1000 спектакляў. З’ява унікальная для правінцыйнага тэатра.

Вядома, што «Брэсцкая крэпасць», якую цяпер ведае чытач, дапрацоўвалася драматургам разам з удзельнікамі першага спектакля. Блізкасць для акцёраў таго матэрыялу, які лёг у аснову п’есы, надавала яе сцэнічнаму ўвасабленню своеасаблівую пераканальнасць, якая перадавалася гледачу. Ішлі гады, адно пакаленне артыстаў змянялася другім, а берасцейцы спяшаліся на спектакль пра тое, што адбывалася ў іх горадзе ў першыя дні вайны. Іх хвалявалі лёсы тых, хто адстаяў радзіму ад паняволення фашыстамі. Уражвалі і захаплялі баец Кукушкін у выкананні ці то Б. Уксусава, ці то Лісоўскага, палкоўнік Ермашоў, якога ўвасабляў П. Маркін, ваенурач Зорына, якую ігралі Т. Канавалава і Н. Ганчарэнка і інш.

Новы этап у мастацкім асэнсаванні гераічнай абароны Брэсцкай крэпасці пачаўся ў перыяд так званай хрушчоўскай адлігі. Тэма Брэста развівалася ў рэчышчы эвалюцыі тэмы Вялікай Айчыннай вайны ў савецкай літаратуры. У творах другой паловы пя-

цідзесятых гадоў і наступных дзесяцігоддзяў агульнае паняцце героі абароны крэпасці пачало раскрывацца праз непаўторныя лёсы рэальных людзей. Гэтыя лёсы сталі вядомыя дзякуючы пошукам рускага пісьменніка-франтавіка ***С. С. Смірнова*** (1915—1976).

Тэмай Брэсцкай крэпасці гэты пісьменнік пачаў займацца ў 1953 г. Творца стаў найперш аднаўляць саму гісторыю абароны крэпасці, вяртаць з нябыту імёны яе абаронцаў, многім і добрае імя воіна-салдата, які не па сваёй віне апынуўся ў нямецкім палоне. Паралельна з пошукамі ён папулярызаваў гэты тераічны эпізод — абарона Брэсцкай крэпасці — у гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. С. С. Смірноў выступаў па радыё і тэлебачанні, публікаваў свае знаходкі ў перыядычным друку, звяртаўся па дапамогу да ўсіх, хто гатовы паспрыяць у пошуках. Пачалі з'яўляцца і кнігі пісьменніка, прысвечаныя Брэсту: «У пошуках герояў Брэсцкай крэпасці», «Апавяданні пра невядомых герояў», «Брэсцкая крэпасць» і інш. За другое выданне «Брэсцкай крэпасці» С. С. Смірноў у 1964 г. атрымаў Ленінскую прэмію, самую прэстыжную і ганаровую на той час. Пісьменнік нават набыў дадатак да свайго прозвішча — Брэсцкі. Сказаўшы тое, што хацеў пра абарону Брэсцкай крэпасці, свой архіў перадаў яе музею. Берасцейцы высока ацанілі зробленае пісьменнікам. Яго назвалі ганаровым грамадзянінам горада, а пасля смерці мастака слова ўшанавалі памяць у назве адной з вуліц горада.

У значнай меры знойдзенае С. С. Смірновым у гісторыі абароны Брэсцкай крэпасці дало падставу для прысуджэння ёй у 1965 г. ганаровага звання «Крэпасць-герой» з уручэннем ордэна Леніна і медаля «Залатая Зорка». Пачалося ўзвядзенне мемарыяльнага комплексу Брэсцкая крэпасць.

Брэст стаў местам паломніцтва. Сюды ішлі і ехалі людзі з усіх куткоў былога СССР, наведвалі і замежныя госці. Шмат пабывала ў крэпасці і пісьменнікаў, якія свае ўражанні выказвалі вершамі. Паэтычны вянок гераічнай абароне Брэсцкай крэпасці стваралі беларускія, рускія, украінскія, армянскія, літоўскія паэты і прадстаўнікі іншых народаў СССР. Свае вершы прысвяцілі Брэсту балгарскія мастакі слова ***Мікола Зідараў*** і ***Стэфан Паптонеў***, грэк ***Алексіс Парніс***, чэх ***Уладзіслаў Махуркі*** і інш. Той вянок складаецца з лірычных, публіцыстычных вершаў, з баладаў і паэмаў. Яго плялі паэты, якія самі прайшлі франтавымі дарогамі (***Леў Ашанін, Уладзімір Арлоў, Аляксей Пысін, Пімен Панчанка*** і інш.), плялі тыя, чыё дзяцінства апаліла вайна (***Р. Барадулін, Г. Бураўкін, М. Рудкоўскі, Р. Раждзественскі*** і інш.).

Большасць вершаў, якія прысвечаны Брэсту, услаўляюць подзвіг абаронцаў крэпасці, іх стойкасць і мужнасць, вернасць салдацкай клятве аддаць жыццё за чэсць, гонар, незалежнасць радзімы

(***П. Броўка*** «Крэпасць над Бугам», ***А. Бачыла*** «Песня пра герояў Брэсцкай крэпасці», ***Е. Лось*** «Гаворарць бессмяротныя», ***П. Пра-нуза*** «Аўтографы мужнасці», ***Р. Раждзественскі*** «Калі б камен-ні маглі гаварыць...», ***Ашот Грашы*** «Дрэва над Бугам» і інш.) Асобныя мастакі слова паэтызуюць подзвіг канкрэтных абаронцаў Брэсцкай крэпасці, у тым ліку і С. С. Смірнова, які вяртаў іх подз-віг для людзей. (***П. Панчанка*** «Капітан Шаблоўскі», ***С. Гаўрусёў*** «Сцяг Брэсцкай крэпасці», ***М. Дарызо*** «Вершы пра двух салда-таў», ***А. Пухаеў*** «Песня пра Брэсцкую крэпасць» і інш.).

Многія паэты разважаюць пра маральныя ўрокі для наступні-каў, якія далі ім абаронцы крэпасці (***Г. Бураўкін*** «Брэсту», ***М. Руд-коўскі*** «Каменні цытадэлі», ***М. Зідараў*** «Летам зноў вярнуся...», ***І. Калеснік*** «Брэсту» і інш.). Паэты сваімі вершамі пратэстуюць супраць вайны, якая ў 60—80 гг. стаяла страшным прывідам над чалавецтвам. (***В. Жуковіч*** «Гаворыць крэпасць», ***В. Кузняцоў*** «Брэст», ***С. Астравы*** «Ліст чалавеку» і інш.). Асабліва перака-нальна і ўсхвалявана гэтая думка развіваецца ў вершах паэтаў-франтавікоў. Аляксей Пысін звяртаецца з заклікам да сучаснікаў праяўляць асаблівую культуру паводзінаў у крэпасці, бо гэта мо-гільнік тых, хто заплаціў жыццём за сучасны дзень:

Замрыце перад цішынёй
І не трывожце тых, хто сну не мелі.
Ў мурах, што сталі грудаю адной,
Магчыма ўжо грымоты анямелі.

*(Тамсама. С. 81)*

Уладзімір Арлоў праводзіць думку ў сваім вершы пра тое, каб ідэалы моладзі саракавых гадоў сталі дарагімі для сучаснікаў, якія не ведаюць вайны:

Не требуя ни славы, ни наград,
Всё, что могли, свершили здесь солдаты.
Год сорок первый подвигом их свят,
Без них бы не настал и сорок пятый.

*(Тамсама. С. 277)*

Тэма гераічнай абароны Брэсцкай крэпасці займае значнае месца ў творчасці паэтаў нашага краю. Распачаў яе яшчэ ***Мікола Засім***. Эстафету падхапілі паэты наступных пакаленняў: ***Міхась Рудкоўскі, Алесь Разанаў, Васіль Жуковіч, Мікола Пракаповіч*** і інш. Верш Міхася Рудкоўскага «Каменні цытадэлі» належыць да ліку творчых удачаў паэта. Баладзе належыць адно з пачэсных месцаў у ліку вершаў пра абарону Брэсцкай крэпасці. «Каменні цытадэлі» ўражваюць сваімі гераічна-трагічнымі інтанацыямі. У аснове верша — маналог руінаў крэпасці — сведкаў гераічнага

змагання гарнізона і мужнай гібелі салдатаў. Быць сведкам таго, што адбывалася ў чэрвені 1941 г. у крэпасці, нялёгка, таму «за ноч, за адну расстраляную ноч, мы сівелі». У. А. Калеснік слушна падкрэслівае яшчэ і «гуманістычную службу ў той пякельны час: «мы сабой засланялі жанчын і дзяцей» *(У. Калеснік. Берасцейскае вогнішча // Зорны спеў. Мн., 1975. С. 348).* Каменні цытадэлі ў вершы М. Рудкоўскага выступаюць спалучальным звяном паміж гераічна-трагічным былым і сучаснасцю. Яны, сведкі і ўдзельнікі мінулага, перадатчыкі запаветаў аднаго пакалення другому. Тым, хто не зведаў вайны, трэба ўмець слухаць, што гавораць руіны крэпасці, а пачутае ўзяць як дарагое для сябе.

Матыў гісторыя і сучаснасць праз памяць пра Брэсцкую крэпасць і яе мемарыял праходзіць праз паэму Алеся Разанава «Назаўжды». Сваю даніну пашаны героям Брэста аддае Іван Арабейка ў паэме «Сцяна».

Сапраўдным творчым набыткам у мастацкім летапісе абароны Брэсцкай крэпасці з'яўляецца раман ***Б. Васільева*** (1924) «У спісах не значыўся», апублікаваны ў 1974 г. Пісьменніка-франтавіка хвалявала эпапея Брэста, уразіла ўбачанае пры першым наведванні горада. Пасля паездкі ў Брэст Б. Васільеў уважліва перачытаў кнігу С. С. Смірнова. Аўтара рамана «А зори здесь тихие» асабліва зацікавіў апошні раздзел дапрацаванага выдання кнігі «Брэсцкая крэпасць», найперш легенда А. Дурасава. Яна пра расказ, пачуты Дурасавым з вуснаў берасцейскага музыканта З. Стаўскага, пра тое, што 12 красавіка 1942 г. у крэпасці яшчэ змагаўся салдат.

Творчым імпульсам да працы над раманам «У спісах не значыўся» стала сустрэча Б. Васільева з работнікамі музея Брэсцкай крэпасці. Тады, у пачатку сямідзесятых гадоў, яны імкнуліся высвятліць імёны тых маладых афіцэраў, хто прыехаў у Брэст на службу ў маі — чэрвені 1941 г., тых, хто не значыўся ў спісах, адасланых у цэнтр з Брэста ў самым пачатку мая. Многія з гэтых лейтэнантаў былі арганізатарамі абароны ў першыя дні вайны. Прозвішчаў сваіх новых камандзіраў нават не ведалі салдаты, але сведчылі, што тыя ваявалі годна.

Лёс аднаго з такіх маладых лейтэнантаў Мікалая Плужнікава складае сюжэтную аснову твора. Ён прыбывае ў Брэст для службы ў крэпасці 21 чэрвеня 1941 г. Плужнікаў будзе змагацца ў крэпасці да 12 красавіка 1942 г., выйдзе з падвалаў казематаў сам, каб паглядзець, як ён скажа, на бітых немцаў. У запасніках музея пісьменнік убачыў акуратна зроблены жаночы пратэз, які належаў адной з жанчын, якая загінула ў крэпасці. Гэта дало штуршок фантазіі пісьменніка, у выніку чаго з'явіўся вобраз Міры і ўся гісторыя незвычайнага кахання двух маладых людзей у бесчалавечных умовах вайны.



*Уладзімір Калеснік (трэці справа)*
*з калегамі-пісьменнікамі ў Брэсцкай крэпасці.*

У раман Б. Васільева «У спісах не значыўся» ўвайшло шмат таго, што пабачыў пісьменнік у Брэсце і крэпасці, пра што даведаўся ў музеі і ў кніжных крыніцах. На вакзале ў Брэсце Коля Плужнікаў сутыкнуўся з фашыстам, які адчуваў сябе тут ужо гаспадаром. Гэта быў адзін з тых, хто прыбыў на Берасцейшчыну ў самы канун вайны як фашысцкі лазутчык. Мемарыяльная дошка, якая вісела на адной са сценаў вакзала і паведамляла пра тое, што абарону вакзала ў чэрвені 1941 г. арганізоўвалі старшына Боснеў і лейтэнант Мікалай (прозвішча невядомае), падказала Васільеву імя яшчэ аднаго героя — Мікалая. Абураныя паводзінамі фашыста, Плужнікаў і Мікалай цвёрда помнілі, што з немцамі трэба паводзіць сябе асцярожна, каб не справакаваць канфлікт, таму абодва падаліся паесці ў горад. На вакзале ў Брэсце з вуснаў службоўцаў пісьменнік пачуў расказ пра жанчыну, якая штогод з кветкамі з'яўляецца на гэтым вакзале і ўсё стаіць ля той мемарыяльнай дошкі, шэпчучы дарагое імя. Гэта адна з тых маці, чый сын Мікола не вярнуўся з вайны і невядома, дзе яго магіла.

Праз навісны драўляны масток (ён і цяпер ёсць у Брэсце, толькі ўжо бетонны) два Мікалаі накіраваліся ў горад. Перад імі беглі ў глыб горада тры вуліцы: Карла Маркса, Камсамольская і Савецкая. На Камсамольскай, як падказалі героям берасцейцы, ёсць

рэстаран, дзе іграў знакаміты музыкант Стаўскі. У сапраўднасці ад навіснога мастка, што вядзе з вакзала, разбягаюцца тры вуліцы пад такімі ж назовамі. Былы будынак колішняга рэстарана «Беларусь» захаваўся. У ім цяпер дыетычнае кафэ. У рэстаране маладыя вайскоўцы пазнаёмяцца з трэцім сваім калегам. Позна вечарам яны разыдуцца. Мікалай — на вакзал, лейтэнант — у ваенкамат, а Плужнікаў — у крэпасць. Першыя два стануць арганізатарамі змагання ў гэтых дзвюх кропках горада Брэста. Тут пісьменнік ішоў за тым, што стала вядома пра месцы супраціўлення ў горадзе ў пачатку вайны з пошукаў С. Смірнова. Коля Плужнікаў разам з Мірай выйдуць з рэстарана, сядуць на дражкача, праедуць крыху ўперад, звернуць направа. Лейтэнант убачыць злева алею дрэваў на вуліцы Гогаля. Потым будзе яшчэ адзін паварот направа. Тут Міра памкнецца паказаць адну выдатнасць Брэста — слуп, які аддзяляў у мінулым стагоддзі землі крэпасці і горада. Коля не захоча глядзець гэтую выдатнасць, і яны накіруюцца ў крэпасць. Такі ж дакладны пісьменнік у апісанні мясцін, дзе давялося змагацца Плужнікаву: уваходныя вароты, абвадны канал, кальцавыя казармы, Белы палац, царква, Цярэспальскія вароты, мосцік, які вядзе ад іх праз Буг.

Многа ўвайшло ў раман і сапраўдных падзей, якія адбываліся ў крэпасці: прыезд Гітлера, подзвіг салдата, які са звязкай гранат кінуўся з Цярэспальскай вежы і ўзарваў калону фашыстаў, якая строем праходзіла праз вароты, пераход з рук у рукі царквы, прапорванне фашыстамі казематаў з саломай, дзе ратаваліся асобныя абаронцы, іх супраціўленне доўгія месяцы, разборка берасцейцамі пад наглядам фашыстаў завалаў і многае іншае.

Тыя ўчынкі, якія робіць Коля Плужнікаў, у сваёй большасці здзяйснялі тыя ці іншыя абаронцы крэпасці. Страх, які перажыў малады лейтэнант Алесь Махнач (пазней вядомы беларускі дзіцячы пісьменнік), што нават схаваўся пад ложак, калі паляцелі бомбы на крэпасць, замест таго каб камандаваць салдатамі, адчувае і Коля Плужнікаў. Герою рамана, як Самвэлу Матэвасяну, даручае камісар узначаліць атаку на царкву. Такія прыклады можна было б доўжыць.

Тым не менш раман «У спісах не значыўся» — твор, дзе сплаўлена ў адзінае цэлае рэальнасць, убачанае, пачутае, вывучанае ў Брэсце і пра Брэст, а творчая фантазія пісьменніка і падпарадкавана выяўленню аўтарскага ідэалу. Моладзь 40-х гадоў здзяйсняла немагчымае, каб вызваліць чалавецтва ад фашызму, каб людзі ведалі сапраўдны твар вайны, каб не дапусцілі яе паўтарэння, каб у паўсядзённым жыцці ашчаджалі сябе ад дробязнага, ад мітусні, амаральнасці, якія прыніжаюць чалавека, пазбаўляюць яго паўнавартаснага жыцця, якое дарує людзям мір, аплачаны такой дарагой цаной.



# Літаратары — выпускнікі Брэсцкага педінстытута імя А.С. Пушкіна

Філалагічны факультэт Брэсцкага педінстытута імя А. С. Пушкіна (цяпер універсітэт) стаў родным для выдатнага педагога, крытыка, пісьменніка Уладзіміра Андрэевіча Калесніка. Родным яго па праве лічылі і лічаць многія літаратары нашага краю, былыя вучні У. Калесніка — тыя, хто, гаворачы словамі Алеся Каско, «аперыўся» з ягонага крыла». У першую чаргу — гэта такія вядомыя сёння мастакі слова, як Міхась Рудкоўскі, Васіль Жуковіч, Мікола Купрэеў, Алесь Разанаў, Мікола Пракаповіч, Алесь Каско.

***Міхась Рудкоўскі*** прыйшоў у беларускую літаратуру ў пачатку 60-х гадоў з самай глыбінкі Палесся — з Ганцаўшчыны. Нарадзіўся ён 17 красавіка 1936 года ў вёсцы Востраў у сялянскай сям'і, у якой, па словах паэта, «гультайства і фальш лічыліся самымі вялікімі заганамі ў чалавеку». Пасля заканчэння Астравіцкай васьмігадовай школы М. Рудкоўскі выбірае высакародную прафесію настаўніка і паступае ў Ганцавіцкае педагагічнае вучылішча. Неўзабаве разам з іншымі навучэнцамі быў пераведзены ў Пінскае педвучылішча, і ў 1955 годзе стаў выпускніком гэтай навучальнай установы. Наступныя пяць гадоў давялося спалучаць працу ў Кукаўскай сямігодцы (Ганцавіцкі раён) і вучобу на завочным аддзяленні філалагічнага факультэта Брэсцкага педінстытута.

Захапленне паэзіяй, жаданне пісаць самому прывяло Рудкоўскага ў рэдакцыю ганцавіцкай раённай газеты «Сялянская праўда», якая яшчэ ў 1958 годзе апублікавала яго першыя вершы («Успаміны, «Восень» і інш). На той час рэдакцыю газеты ўзначальваў вядомы журналіст, пісьменнік Васіль Праскураў. Ён стаў для паэта-пачаткоўца сапраўдным настаўнікам і дарадцам, а праца ў рэдакцыі пад яго кіраўніцтвам — першай літаратурнай школай.

У 1962 годзе Міхась Рудкоўскі пераехаў у Брэст, доўгі час працаваў рэдактарам літаратурна-драматычных і музычных перадач

Брэсцкай студыі тэлебачання, пісаў вершы. Яны складалі ўсё новыя і новыя паэтычныя зборнікі, якія з часам станавіліся вядомымі не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі: «Першыя вёрсты» (1963), «Сінія Брады» (1967), «Позвы» (1971), «У краі тым» (1975), «Векавечная Бацькаўшчына» (1976), «Трыгор’е» (1981), «Засцярога» (1984), аднатомнік выбранай лірыкі «Залатазвон» (1986), «Гарынь» (1992). Апошняга з названых зборнікаў паэт, праўда, не дачакаўся. Летам 1991 года яго не стала.

Міхась Рудкоўскі — сапраўдны майстра слова. Пра гэта сведчыць не толькі вялікая колькасць напісаных ім кніг, а і той факт, што яму былі падуладны многія жанры: балада, элегія, санет, трыялет і інш. Ён выступаў як перакладчык, пісаў рэцэнзіі і шматлікія артыкулы па пытаннях сучаснай беларускай паэзіі. Праўда, часцей за ўсё з-пад яго пяра з’яўляліся вершы. Яны знешне даступныя і простыя, ім уласцівы тонкі лірызм, яркая вобразнасць, непасрэднасць і шчырасць пачуцця.

Як паэт-лірык Міхась Рудкоўскі быў улюбёны ў Беларусь, у яе працавітых, добрых і мужных людзей, ганарыўся гісторыяй краю, разважаў над праблемамі сучаснасці і будучыні. Крыніцай натхнення для яго найперш з’яўлялася малая радзіма — Палессе.

Край бярозаў і гонкіх соснаў,
Край лугоў і заток азёрных...

Тут усё люба і дорага сэрцу паэта: і горкі пыл дарог, і подых бур, і мядовыя росы, і жытнёвыя ночы, і агні бліскавіц, і нават курганы і абеліскі... У гэты край, у родную вёску ён заўсёды прыязджаў не як госць ці старонні назіральнік, а як чалавек, для якога Палессе стала неад’емнай часткай не толькі жыцця, але і душы:

Ёсць Востраў у мяне. З нягод і скрух
Я да яго лячу, як да святыні:
Ён даў дыханне мне, і зрок, і імя
І, разамкнуўшы небасхілу круг,
«Ідзі, — сказаў і вывеў на разлог, —
Перад табой адкрытая дарога.
Ідзі і зведай рух жыцця зямнога
І мудрым стань, нібы мужычы бог...»

Сімвалічнай назвай роднага палескага краю ў творчасці М. Рудкоўскага сталі Сінія Брады. У іх цячэ казачная жывая вада, якая асвятляе вочы, робіць шчырым сэрца, не дазваляе рукам рабіць брудныя справы. Гэтая мясціна ў свядомасці паэта — своеасаблівы эталон маральнасці і хараства. Вось чаму

У хвіліну трудную,
у хвіліну шчасную,

бы кулік з навальнічнага выраю,
ты вяртаешся зноўку і зноўку сюды.
Сінія Брады,
родныя Брады,
як замова матулі ад напасці-бяды...

Каларыт роднага Брэсцка-Пінскага рэгіёна ў большай ці меншай ступені выявіўся ва ўсіх паэтычных кнігах Міхася Рудкоўскага, адбіўся ў многіх яго вершах, якія можна аб'яднаць у своеасаблівыя тэматычныя групы. Першую з іх складаюць творы, у якіх апяваецца экзатычная прырода Палесся, ад пінскіх балот да цяністых белавежскіх бароў («Лясная элегія», «Лось», «Паядынак аленяў», «Лясы маленства», «Зубр-адзінец», «Сустрэча ў лесе», «Летняя ідылія» і інш.). У многіх з іх перадаецца не толькі рамантычнае ўспрыманне свету прыроды як храма хараства і духоўнага ачышчэння, але і гучыць трывога за яе сённяшні стан.

І ціша, і травы, і воды,
Альха, і сасна, і кусты...
Ты зачараваны прыродай,
Прыродай палонены ты.
...Усе яна раны залечыць
На целе тваім і душы...
А мы з ёй «змагаемся» нечага...
...Калі ж гэта па-чалавечы
Навучымся з ёю мы жыць? —

задаецца пытаннем аўтар у вершы

*«Дума на беразе возера»*

У асобную групу можна вылучыць вершы, так званыя прысвячэнні пэўным мясцінам нашага краю, з якімі было звязана жыццё паэта ці якія нечым уразілі яго: «Над Начанкай-ракою...», «Нараўка», «Сінія Брады», «Давыд-Гарадок», «Гарынь», «Ганцавічы», «Брэсту», «Мой родны Востраў», «Песня пра вёску Крыніца» і інш. Так, у вершы «Ганцавічы» аўтар шчыра і з удзячнасцю прызнаўся, што было б з ім, каб не такі паэтычны край дзяцінства і ганцавіцкая літаратурная школа ў гады маладосці:

Ёсць ціхі гарадок над рэчкай Цною,
сярод лясоў палескіх і балот...
Не знаю, што ў жыцці было б са мною,
калі б яго на свеце не было.
Відаць, я б жыў, відаць бы, не загінуў,
пісаў бы вершы, сена ў копы клаў, —
ды толькі не такой была б Айчына
і песня б незакончанай была.

Адрасатамі многіх твораў Міхася Рудкоўскага сталі сваякі, суседзі, аднавяскоўцы ці проста знаёмыя з іх штодзённым жыццём, клопатамі і трывогамі («Мой дзед быў сельскім кавалём», «Мая радаўніца», «Бабіна лета», «Ляснік», «Мікола Засім чытае паэтычную пошту газеты «Заря» і інш.). Асаблівай цеплынёй напоўнены вершы, прысвечаныя бацьку і маці. Ва ўспамінах паэта яны найперш засталіся шчырымі працаўнікамі: «Бацька, Міхаіл Іванавіч, сёння паўстае перада мною жывым увасабленнем сялянскай працавітасці, сілы і здатнасці. Звычайна нетаропкі, як сам казаў, цяжкі на пад'ём, ён, калі ўваходзіў у смак работы, станавіўся зусім другім. Араць — дык араць, касіць — дык касіць, весяліцца — дык весяліцца! Сёння мяне здзіўляе тое, што бацька ўмеў рабіць амаль усё. Трэба ў гаспадарцы цабэрак ці бочка — зробіць цабэрак і бочку; трэба нож — зробіць нож; навастрыць нарог — навострыць нарог. Ён умеў пашыць для нас чаравікі ці боты. Нават воз і сані былі ў яго сваёй работы. На паклон да другіх хадзіць ён не любіў, ды ў гэтым не было патрэбы. Калі ж арганізаваўся калгас і пачаліся розныя няўладзіцы жыцця, амаль усе клопаты пра сям'ю ляглі на душу мацеры, Марыі Юльянаўны. Тут ужо, як пчала, шчыравала яна...» *(Беларускія пісьменнікі: Бібліяграфічны слоўнік. — Мн., 1995. Т. 5. С. 163).* Вось чаму ў вершы «Апошняя дарога» Міхась Рудкоўскі падкрэслівае:

Сумны я: майго бацькі не стала —
Смерць ланцуг яго дзён абарвала,
Дзён, што пахлі і сонцам, і потам,
А дакладней — работай...

У вершы «Дома без маці» ад чыстага сэрца прызнаецца, што родная хата, калі б ні прыехаў, заўсёды сустракае гасцінна, толькі

Чамусьці бацькоўская хата без маці —
Што грудзі жывыя без сэрца.

У шэрагу сваіх вершаў паэт уваскрашае гераіку мінуўшчыны, аднаўляе гісторыю роднага краю. Прыкладам такіх вершаў могуць служыць «Смерць Апанаса Філіповіча», «Берасцейская быліна». Напрыклад, у апошнім з названых твораў, аўтар дае свой паэтычны варыянт легенды пра ўзнікненне Бярэсця:

На зялёным узгор'і Прыбужжа,
ля пушчанскіх зялёных застаў,
Берасцея, высокі і дужы,
у зямлю першы камень паклаў.
— Каб злы дух абмінаў гэта месца,
каб не ведаў дарогі сюды!..
І тры ночы, тры дні пад Бярэсцем

медавухаю пахлі брады.
А пасля гаманілі сякеры
над вянцамі смалістай сасны...
На мяжы той Русі, што калісьці
Руссю Белаю наraклі,
горад рос; у вяках ветравейных
гнаў у грунт і ў шыркі карані,
і нёс мужна імя Берасцеі
нат у самыя трудныя дні...

Праўда, у сваёй творчасці М. Рудкоўскі часцей за ўсё звяртаецца да падзей Вялікай Айчыннай вайны. Многія з яго вершаў гучаць як памяць пра яе ўдзельнікаў і ахвяр. Так, у «Баладзе пра маіх аднагодкаў» паэт апавядае пра трагедыю палескай вёскі Красніца, што непадалёку ад Выганаўскага возера. Сёння на яе месцы расце толькі сасоннік, бо сама Красніца стала адной з вогненных вёсак на нашай зямлі:

Фашысты аддалі вёску,
усю, да апошняй хаціны,
да апошняга чалавека — чуеш ты? —
да апошняга чалавека! —
аддалі агню і смерці.

Брэсцкай крэпасці і яе героям прысвечаны вершы: «Была ў хлапчука свая казка», «Балада белых коней», «Каменні цытадэлі».

Было б, аднак, вялікай памылкай думаць, што лірыка Міхася Рудкоўскага абмежавана геаграфіяй Брэсцка-Пінскага Палесся, а фантазія паэта не выходзіць за межы гэтага рэгіёна. Пагартайце старонкі яго паэтычных кніг, і вы знойдзеце вершы пра хараство сонечнага Крыма, пра Байдарскі перавал і Ленінград, даведаецеся пра апошнія хвіліны Архімеда і пра далёкія планеты, што прыходзяць у снах адважным касманаўтам, прачытаеце «Пісьмо на зямлю каханай...». Што б ні было прадметам мастацкага асэнсавання Міхася Рудкоўскага, яго думкі пра чалавека, яго духоўны свет, пра сёння і заўтра, пра дабро і зло, пра красу, пра сутнасць чалавечага жыцця.

Тым не менш менавіта да роднага краю звяртаўся хворы паэт з просьбай адпусціць яму яшчэ хоць крышачку творчых дзён:

...Родны край мой! Краю мой асенні,
Не спяшайся цяпельца патушыць!
Песні я твае не ўсе даслухаў,
Селішчы не ўсе я абышоў,
Словаў, у якіх краса і дух твой, —
Самых запаветных — не знайшоў.
Не паспеў, хоць я і прагнуў, зведаць

Самых-самых тайн тваёй душы...
Ўсё прыму: і горычы, і беды —
Зведаю!..
Цяпельца не тушы...

Пісьменнікам шырокага жанрава-тэматычнага дыяпазону з'яўляецца ***Васіль Жуковіч***. У сваіх лірычных, публіцыстычных і жартоўных вершах, байках і прытчах, эпіграмах і эпітафіях, што склалі зборнікі «Паклон» (1974), «Мелодыя святла» (1976), «Суседства» (1982), «Цана цішыні» (1985), «Твая місія» (1988), «Разняволенне» (1990) і інш., паэт разважае пра сэнс чалавечага жыцця, асэнсоўвае складаныя праблемы сучаснасці. Значнае месца ў творчасці В. Жуковіча займаюць успаміны пра сваё вясковае дзяцінства і юнацтва, пра родных і блізкіх. Многія вершы, аповесць «Як адна вясна» прысвечаны малой радзіме — вёсцы Забалацце Камянецкага раёна, дзе ў 1940 годзе нарадзіўся пісьменнік. Сёння гэтай вёскі ўжо няма. Яна аказалася ў ліку неперспектыўных, і ў 60-я гады хаты былі перавезены ў цэнтр саўгаса — сяло Дзмітравічы. У памяці паэта, аднак, назаўсёды засталося хараство роднага кутка, бацькоўскай зямлі. «Летам хата патанала ў зелянiне самых розных дрэў — ад хвоі, бярозы, дуба, граба, асіны, ясеня да рабіны і чаромхі, белай і жоўтай акацыі. Не бракавала бэзу. Яшчэ раслі вязы і ліпы, нават арэх. Словам, чаго толькі не было! — успамінае В. Жуковіч. — Летам ля шпакоўні завіхаліся шпакі, над полем звінелі жаўранкі, а ўвосень і зімку шумелі дрэўцы, навяваючы роздумы і мары. Я любіў пісаць вершы, назіраючы за з'явамі прыроды. Туман, павадак, завіруха рабілі вялікія ўражанні. Вельмі любіў я сцежкі і дарогі, асабліва — у жыце. Любіў назіраць, як выглядаюць пад месяцам дрэвы, хата, усыпаная квеценню вішні. Вельмі падабаліся месячныя вечары з іх таямнічасцю і вышынёй, восень з яе залатым лістападам» *(Паэтычныя галасы Брэстчыны. — Брэст, 1991. С. 11—12).*

Такая прыгажосць роднага краю знайшла паэтычнае адлюстраванне ў шэрагу вершаў Васіля Жуковіча: «Дарога ў жыце», «Дрэвы», «Буяюць травы ў буйных росах», «Месяц у небе які — паглядзі!», «Гром скалануў цішыню», «Ноч асенняя», «Рэчка Лясная» і інш. У адным з гэтых вершаў паэт шчыра прызнаецца:

Не прыцьміць старонка мне другая
нашых краявідаў і дарог.
І цябе, сямейка дарагая,
дзе б ні быў, у сэрцы я бярог.

Сапраўды, дзе б ні апынуўся Васіль Жуковіч — ці то ў Брэсце, ці то ў Мінску, — усюды яму бачыцца і сніцца роднае. Пасля за-

канчэння Дзмітравіцкай сярэдняй школы юнак падаўся ў абласны горад і пачаў працаваць на заводзе будаўнічых дэталяў, а затым паступіў на філалагічны факультэт педінстытута. Пасля яго заканчэння звязаў свой лёс з рэдакцыяй газеты «Зара над Бугам» і Брэсцкай студыяй тэлебачання. З 1972 года стала жыве і працуе ў Мінску, хоць сувязі з малой радзімай не парывае. Яна не толькі прадмет яго паэтычнага захаплення і натхнення, але і своеасаблівы крытэрый ацэнкі ўчынкаў і памкненняў лірычнага героя:

Вяртанне маё непазбежна,
Вяртанне ад спасціжэння свету
Да вас,
          дрэвы майго сяла.
Як проста ўсё і як мудра:
Ля грэблі — каравыя вербы,
Ля ўезду ў сяло — бярозы,
На могілках сосны —
Дрэвы майго сяла.

Вядомы таксама Васіль Жуковіч як перакладчык і аўтар кніг для дзяцей — «Казачны сад: Загадкі» (1976), «Крылатыя сябры» (1976), «Нашы памочнікі» (1976), «Тараскаў самакат: Вершы, загадкі, казкі» (1988), шэрагу кніжак-раскладак.

Нялёгкім і пакручастым аказаўся лёс ***Міколы Купрэева***. Жыццё гэтага паэта — у яго творах. Выразны біяграфізм выяўляецца ў паэме «З сястрой і Уладзімірам Караткевічам на Рагачоўшчыне». Жыццёвы шлях Міколы Купрэева пачаўся 25 мая 1937 года ў вёсцы Ямнае Рагачоўскага раёна Гомельскай вобласці, затым прывёў у вёску Пескі, што на Бярозаўшчыне, пасля ў Івацэвічы і Брэст на філалагічны факультэт. Пасля заканчэння педінстытута настаўнічаў у Брэсцкім раёне. Амаль трыццаць апошніх гадоў М. Купрэева былі звязаны з Брэсцка-Пінскім Палессем: Ганцаўшчынай, Піншчынай, Жабінкаўшчынай, Пружаншчынай, Івацэвіччынай.

Ужо ў першым сваім зборніку «Непазбежнасць» (1967) ён звярнуўся да асэнсавання тэмы Радзімы, шэраг вершаў прысвяціў мясцінам, якія сталі блізкімі і роднымі.

І вось я ў вёсачцы палескай Востраў...
О, як добра, людзі тут у вас,

Мілыя мае астраўляне!.. — чытаем у вершы «Гарады спыняюцца ля астравоў». У другім вершы паэт звяртаецца да роднай бярозкі на беразе Начы:

Мілая бярозка, не бядуй:
Мы яшчэ з табою ўстрапянемся.

Толькі заўтра на зары
У сукенку найбялейшую адзенься.
Белую кашулю я і сам
На сябе адзену, прычашуся.
І пойдзем мы з табою каля рэк
Нашай добрай, роднай Беларусі.

Найбольш хораша раскрыта прывабнасць прыроды Палесся, гасціннасць і добразычлівасць людзей гэтага краю ў вершы «Калі хочаш наведаць мой край»:

Шчасце тут не міне
ні цябе, ні мяне.
Прыязджай...
З-за бярэзніку выйдзе насустрач табе
курган-каравай,
а потым,
адразу, як мора,
пойдзе к табе
гэты дзіўны ўвесь край —
з белым цветам бульбяным,
з мядоваю грэчкаю,
з сонечнымі палянамі,
з чыстымі рэчкамі.
А світальныя росы і неба над імі —
як чэшскі крышталь.
Снамі плыве зямнымі
зачараваная даль.
У кожнай хаце
будзе покут табе багаты.
Накормяць, напояць і наспяваюць
прыветлівыя дзяўчаты...

Гэты верш з'яўляецца адным з лепшых у першым зборніку, пасля якога Мікола Купрэеў незнарок ці наўмысна знік з літаратуры. Зноў аб'явіўся ў ёй з «Правінцыйнымі фантазіямі» толькі ў 1995 годзе. У апошнія гады жыцця перайшоў пераважна на прозу — напісаў аповесці: «Дзіцячыя гульні пасля вайны», «Светлыя імгненні», «І ноч на камені».

Да прадстаўнікоў так званай інтэлектуальнай плыні ў беларускай паэзіі належыць ***Алесь Разанаў***. Уведзеныя ім новыя паэтычныя формы: квантэма, версэт, пункцір, вершаказ, філасафема — не толькі разнастаілі нашу літаратуру, але і сталі своеасаблівай візітнай карткай паэта. Успрымаць яго вершы няпроста. Яны ўражваюць сваёй незвычайнасцю, ускладненасцю формы, зашыфраванасцю, вялікай філасофскай напоўненасцю. Нязвычна, напрыклад, чытаць такое:

Не вернецца воін,
вандроўнік не вернецца,
вернецца сейбіт...
Заўсёды
вяртаецца сейбіт.

Ці:

Снег растае.
Шкада —
і яго,
і сябе чамусьці.

Аўтар прыведзеных радкоў — Алесь Сцяпанавіч Разанаў — нарадзіўся 5 снежня 1947 года ў вёсцы Сялец Бярозаўскага раёна. Яшчэ падчас вучобы ў мясцовай сярэдняй школе пачаў актыўна друкавацца ў розных перыядычных выданнях, а вучнем дзевятага класа быў адным з удзельнікаў семінара маладых пісьменнікаў у Каралішчавічах.

У студзені 1966 года газета «Літаратура і мастацтва» змясціла вялікую падборку яго вершаў, якая засведчыла, што ў літаратуры з'явілася новае імя. Пазней Анатоль Вярцінскі згадваў, што гэтыя вершы «прыйшлі ў газету «Літаратура і мастацтва» па пошце, з Бярозаўскага раёна, напісаны былі на лістках, вырваных са школьнага сшытка. Аўтар паведамляў, што вучыцца ў сярэдняй школе. У першы момант мы сустрэлі гэтыя лісткі скептычна: ці мала хто ў такім узросце піша вершы і шле іх у рэдакцыю? Але нехта пачаў чытаць верш услых... Мы пераглянуліся: «Вось табе і на...». Не чытаць далей, наступныя вершы, было ўжо немагчыма... Уражвалі самі па сабе вершы — сваёй сілай, сваёй сталасцю, сваёй тугой пластычнасцю радка і навізной сугуччаў, — уражваў і той факт, што напісаны яны былі пяром... вучня-старшакласніка вясковай школы. У мяне, помню, было такое адчуванне, што адбылася сустрэча з цудам...» *(Вярцінскі А. Высокае неба ідэала. — Мн., 1980. С. 172—173).*

Сялецкую школу Алесь Разанаў закончыў у 1966 годзе з срэбраным медалём і адразу паступіў на філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. У кастрычніку 1968 года ён — выдатнік, камсамольскі лідэр — у ліку першых падпісаў зварот да тагачаснага кіраўніцтва рэспублікі з просьбай выкладаць усе прадметы на беларускім аддзяленні філфака на роднай мове. Гэты зварот ператварыў Разанава ў антысаветчыка, нацыяналіста. Пачалося следства, якое вялі адначасова і камітэт камсамола, і дэканат, і КДБ. У выніку Алесь Разанаў быў выключаны з універсітэта. Па дапамогу ён звярнуўся да Максіма Танка, які ў той час узначальваў Саюз пісьменнікаў Беларусі, быў Старшынёй Вярхоўнага Савета рэспублікі, членам ЦК КПБ. Дзякуючы яго ўмяшанню, Разанаў змог прадоўжыць навучанне, але ўжо ў Брэсцкім педагагічным

інстытуце, дзе выкладчыкам літаратуры працаваў Уладзімір Андрэевіч Калеснік. Па яго словах, Алесь Разанаў і тут стаў лідэрам студэнтаў філфака, найперш тых, хто быў захоплены літаратурай, сам спрабаваў пісаць. Ён вызначаўся ініцыятыўнасцю, «творчымі адносінамі да вучобы, самастойным вывучэннем замежных моў, свабодным стаўленнем да артадоксіі ў сацыяльных і філасофскіх дысцыплінах, паглыбленнем у экзістэнцыяльныя праблемы, вучэнні аб унутраным свеце чалавека». *(Калеснік У. «Страла і мэта» // Калеснік У. Усё чалавечае. — Мн., 1993. С. 210).*

Атрымаўшы ў 1970 годзе дыплом Брэсцкага педінстытута, Алесь Разанаў паехаў настаўнічаць у Кругельскую сярэднюю школу Камянецкага раёна. Тут ён стварыў школьны літаратурны гурток, захапіў сваіх вучняў беларускай паэзіяй, выявіў сярод іх таленавітых юнакоў і дзяўчат, якія пачалі пісаць вершы. Ім раённая газета прысвяціла нават некалькі літаратурных старонак. Аўтары разам са сваім маладым настаўнікам сталі прыязджаць у Брэст на літаратурныя «серады».

У гэтым жа годзе ўбачыў свет і першы паэтычны зборнік Алеся Разанава — «Адраджэнне», які складаўся з дваццаці пяці невялікіх па памеры вершаў. Неўзабаве яго аўтар стаў членам Саюза пісьменнікаў Беларусі, пераехаў на працу ў Мінск, апынуўся ў сталічным творчым асяроддзі. Адзін за адным сталі з’яўляцца яго зборнікі — «Назаўжды» (1974), «Каардынаты быцця» (1976), «Шлях — 360» (1981), «Вастрыё стралы» (1988), «У горадзе валадарыць Рагвалод» (1992) і інш.

Разанаўскі лірычны герой знаходзіцца ў пастаянным духоўным пошуку. Ён пакутуе ад невырашальных пытанняў: «Кім я ёсць?! І кім не ёсць?!» — таму і спрабуе вызначыць «каардынаты быцця і асобы», разгадаць душу чалавека. Пошукі свайго ўласнага «Я» ён пачынае з таго месца, дзе з’явіўся на свет. Адсюль у паэзіі А. Разанава ўзнікае складаны і неадназначны вобраз Радзімы. Гэта не толькі геаграфічная мясцовасць, дзе чалавек нарадзіўся ці вырас. У разуменні аўтара, гэта найперш «месца, дзе ён пачаў самаўсведамляць сябе нашчадкам айчыны» (*Кісліцына Г. Алесь Разанаў: Праблема мастацкай свядомасці. — Мн., 1997. С. 27*). Такая думка прасочваецца ўжо ў адным з ранніх яго вершаў, змешчаных у зборніку «Назаўжды» пад назвай «Радзіма»:

Калі будзіла весялосць?
А прахаплюся — ты ўсё будзіш.
І мне няўцям, адкуль ты ёсць,
Адкуль пасля з’яўляцца будзеш.
Ты не ўмяшчаешся ў куток,
Дзе трызніць Буг, дзе Белавежа...

Тваe не вызначыць мне межы
І не намацаць твой выток.
У свет балючы дабяла,
У снежны свет — мае усходы
Ідуць: там ты... там ты была!
Ты ўся наводдалі заўсёды.

А. Разанаў у сваіх творах спрабуе знайсці кампаненты, з якіх складаецца паняцце «Радзіма». Асноўным з іх паэту бачыцца «памяць»: памяць пра бацькоў, суседзяў, аднавяскоўцаў, памяць пра свае дзіцячыя і юнацкія гады, памяць пра гісторыю роднага краю і г.д. Разанаў, безумоўна, звяртаецца да ўласнай памяці, свайго жыццёвага вопыту. Таму ў яго творчасці на фоне вялікай агульнай філасофіі жыцця праяўляюцца пэўныя рэгіянальныя адметнасці. Найбольш выразнымі нам бачацца яны ў «Паэме маленства», «Было балота», «Назаўжды», «Паэме рыбіны», «Паэме запаленых свечак», «У поцемках, з ліхтаром» і інш. Так, з паэмы «У поцемках, з ліхтаром» мы даведваемся пра лёс і бяссонныя ночы маці паэта — Надзеі Іванаўны, якая прыехала ў Бярозу з Міншчыны і працавала тут фельчарам-акушэркай:

Пракінуся:
          ў цёмныя рамы
узбуджаны перапад...
Выходзіць за дзверы мама —
мама, калі назад?
Адна яна...
          увек...
                    надзея —
без роздыху,
без пары
(дзень нараджэння днее)
на вёскі і хутары.

Або:

Прадбачу яе —
               маю,
у вечнай пары —
                    такую...
Сюды настае:
стаю —
мама ўва мне смуткуе...

У гэтай паэме, гаворачы словамі В. Бечыка, «сыноўняе пачуццё выказана так, што вымаўляецца адразу і любоў да маці, і многія ўспаміны, і адчуванне абрыву сувязяў, велізарнага спусташэння, што ўзнікае пры незваротнай страце... Не, гэта не эксперымент, —

робіць вывад Бечык, — гэта сапраўдная балючая споведзь» *(Разанаў А. Шлях — 360. — Мн., 1981. С. 107).*

Вобраз бацькі — Сцяпана Іванавіча — паўстае перад намі з «Паэмы запаленых свечак» і «Паэмы рыбіны». Прайшоўшы праз Вялікую Айчынную вайну і нямецкі канцлагер Маўтгаўзен, Сцяпан Іванавіч застаўся чалавекам з высакародней душой, заўсёды імкнуўся вытлумачыць незразумелы навакольны свет, шукаў адказы на вечныя пытанні быцця, верыў у наканаванне чалавечага лёсу і нават сам складаў вершы. Гэта пра бацькава такое адметнае ўспрыманне жыцця пісаў Алесь Разанаў у пачатку сваёй «Паэмы запаленых свечак»:

Круціўся хмыз.
Бяссувязны язык
хваліў жыццё.
Заблытаныя святы.
Празрэнні папярэджвалі разлік.
А людзі разумелі:
блазнаваты.
Клаў вогнішчы.
Сам побач клаўся.
Дым
шукаў сваё.
Шаптала штосьці лета.
А над шурпатым розумам тваім
згушчаліся зіхоткія сусветы...

Для паэта бацькі з'яўляюцца не проста рэальнымі вобразамі, узятымі з жыцця. У яго творчасці яны найперш выступаюць носьбітамі духоўных каштоўнасцей, высокім маральным ідэалам, да якога павінен імкнуцца кожны чалавек.

У лірыцы Алеся Разанава такія паняцці, як родавае, мясцовае, роднае вынікаюць з усведамлення лірычным героем сябе як сына сваёй зямлі, Радзімы, які нясе адказнасць за яе лёс і будучыню. Сам паэт найперш выступае як сын Палесся. У паэме «Было балота» яго хвалюе праблема меліярацыі гэтага краю, якая стала ўжо сапраўднай экалагічнай катастрофай:

...Далягляд, бы ў слязе, у смузе...
Дзе шукаюць каровы напіцца —
хмара дальняя папаўзе...
Перасохлі мае крыніцы.
Разгубіліся пацеркі з рук —
журавіны...
Імшар сівее...
З раўнавагі — у збойны зрух:
прачынаюцца сухавеі.

Галоўны герой паэмы — экскаватаршчык Абравец — не думае пра вынікі сваёй працы. Ён — мясцовы, тутэйшы чалавек — толькі выконвае загады аб асваенні гэтай зямлі, балота, з якім жыў і суіснаваў дагэтуль. Вось чаму яго міфалагічныя насельнікі звяртаюцца да героя, як бы папярэджваюць: сёння ты адчуваеш сябе моцным уладаром, а заўтра — будзеш бяссільным.

...Абравец, ты ўздыхаеш, нямы,
і нібы ад нуды заразнай,
не адробішся ад думы,
доўгай-доўгай і невыразнай.

Час прымусіць чалавека, сцвярджае Разанаў, адказваць за ўсё, што робіцца на зямлі, і нават адчуць уласную адказнасць за мінуўшчыну, бо мінуўшчына — гэта гістарычная памяць народа, таксама неад’емная частка Радзімы.

Да гісторыі свайго роднага краю, Берасцейшчыны, Алесь Разанаў звяртаецца ў паэме «Назаўжды». Твор уяўляе сабою складаны маналог лірычнага героя, які выконвае салдацкі абавязак. Ён адчувае сваю асабістую адказнасць за жыццё на зямлі, за лёс свету ў цэлым. У сваіх развагах пра абавязак і адказнасць, пра смерць і гераічную несмяротнасць салдат-ракетчык залятае ў родны Брэст, перад ім паўстае мужны твар воіна з манумента Брэсцкай крэпасці. Яе абаронцы назаўжды засталіся ў памяці народа, і для лірычнага героя яны з’яўляюцца своеасаблівым сімвалам яднання з Радзімай, яскравым прыкладам адданага ёй служэння.

У адрозненні ад паэм разанаўскія версэты, квантэмы, пункціры, вершаказы, філасафемы звычайна трымаюцца на адным вобразе ці думцы, якія часта таксама невеяны роздумам пра сваю малую радзіму, успамінамі з дзяцінства.

Маленства:
пад шэраю глебаю
жоўты пясок —
радовішча залатое.

Таму ёсць усе падставы сцвярджаць, што «своеасаблівае стыхійнае мысленне Разанава ўгрунтавана ў ягоным дзяцінстве, адкуль яно, калі можна так сказаць, прамаствольна вырасла, разгалінавалася светаўспрыманнем, выяўленнем ідэй і інспірацый і паднялося да нацыянальных і ўвогуле сучасных гарызонтаў» *(Эльке Эрб (Германія) // Цыт. па кн. Кісліцына Г. Алесь Разанаў. — Мн., 1997. С. 141—142).*

У адзін час з Алесем Разанавым у Брэсцкім педінстытуце вучыліся Мікола Пракаповіч і Алесь Каско. Родная вёска ***Міколы***

***Пракаповіча*** (нар. у 1948 г.) — Пугачова — даўно стала адным з раёнаў Брэста. Яшчэ вучнем мясцовай васьмігодкі Мікола стаў пісаць вершы. Да творчасці падахвочваў сусед — кампазітар-аматар, паэт Дзмітрый Васільеў. Ён пазнаёміў будучага літаратара з супрацоўнікамі газеты «Заря», паказаў яго вершы Міхасю Рудкоўскаму, які адзначыў, што малады аўтар не пазбаўлены пэўных літаратурных здольнасцей і таленту. Гэта ў многім паўплывала на выбар Пракаповічам будучай прафесіі — ён паступіў на беларускае аддзяленне філалагічнага факультэта Брэсцкага педінстытута. Пасля яго заканчэння ў 1970 годзе паехаў настаўнічаць на Піншчыну, у вёску Асабовічы. Там ім былі напісаны многія вершы, якія пазней склалі падборку «Белая вежа» ў калектыўным зборніку «Нашчадкі» (1979). З 1972 года М. Пракаповіч жыве і працуе ў Брэсце.

Яго вершы са зборнікаў «Неад’емнае» (1982), «На кругі свае» (1986), «Мяжа надзеі» (1993) маюць выразнае патрыятычнае гучанне. Аўтар і яго лірычны герой жывуць і вучацца нястомна «сваё і чужое цаніць», бо толькі

Тады падымаецца крона,
калі беражэш карані.

Вось чаму ў творчасці Пракаповіча так абвострана адчуванне ўсяго роднага, пачынаючы з бацькоў, сваёй сям’і і заканчваючы ўсёй Беларуссю, яе хараством і пакутлівай гісторыяй. Яскравым сведчаннем гэтага з’яўляецца нізка вершаў «Паходжанне», змешчаная ў зборніку «На кругі свае». Праграмным яе творам можна назваць верш «Радавод», у якім паэт падкрэслівае, што ён — тутэйшы, апавядае пра сціпласць і працавітасць сваіх продкаў, на долю якіх выпала нямала жыццёвых выпрабаванняў:

Над Белай Руссю ранак
Распальваюць вятры,
Жалобай — звон кайданны,
І вёскі, як кастры.
Падковы б’юць трывогу, —
Не выстаяць...
Канец...
Трубі, трубач, трывогу,
Гані, каня, ганец!

Як своеасаблівая малітва за Беларусь успрымаецца яго зборнік «Мяжа надзеі». Тэма Радзімы вырашаецца тут шматпланава. Найперш, аднак, адчуваецца глыбокае асэнсаванне паэтам гістарычнага лёсу беларусаў, яго трывога і непакой за будучыню роднага краю. Асаблівае грамадзянскае гучанне набылі вершы з цыклаў «Абрысы» і «Галасы берасцейскага дзядзінца», у якіх аўтар паэ-

тычна ўзнаўляе гісторыю сваёй зямлі, перш за ўсё гісторыю роднага горада — старажытнага Бярэсця («Грабеньчык», «І нараджалася слова» і інш.). Паўстаюць з гэтых вершаў і постаці знакамітых землякоў, чые лёсы неаддзельныя ад лёсу бацькаўшчыны: Казіміра Лышчынскага, Паўлюка Багрыма, Усевалада Ігнатоўскага, майстра Алексы, Афанасія Філіповіча.

«Мяккі лірызм, добразычлівасць да свету, любоў да прыроды роднага краю, умелае выкарыстанне фальклору — гэтыя якасці паэзіі Міколы Пракаповіча, — як слушна зазначае Зоя Мельнікава, — ужо даўно высока ацэнены беларускім літаратуразнаўствам *(Мельнікава З. Радзіма — сумленне і лёс» // «Заря», 1998, 3 лістапада. С. 3).* Думаецца, ужо адно гэта дае паэту поўнае права кіраваць літаратурным гуртком пры студыі «Спадчына» Брэсцкага абласнога цэнтра творчай моладзі, па-бацькоўску апекавацца талентамі краю, быць для паэтаў-пачаткоўцаў сапраўдным настаўнікам у мастацтве слова.

Радзімай паэта ***Алеся Каско*** (нарадзіўся ў 1951 годзе) стала вёска Чудзін, што на Ганцаўшчыне. Пасля заканчэння Чудзінскай дзесяцігодкі ён паступіў у Брэсцкі педінстытут, дзе далучыўся да літаратурнага жыцця, пачаў актыўна выступаць з вершамі ў друку. Пасля некаторы час настаўнічаў у Рагазнянскай васьмігадовай школе Брэсцкага раёна, затым у родным Чудзіне, быў карэспандэнтам жабінкаўскай раённай газеты «Сельская праўда», а з 1984 года перайшоў рэдактарам Брэсцкай студыі тэлебачання і неўзабаве стаў кіраўніком абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў.

Паэтычныя зборнікі Алеся Каско — «Скразная лінія» (1982), «Набліжэнне» (1989), «Час прысутнасці» (1994), «45 вершаў» (1996) і інш. — уяўляюць сабою своеасаблівыя кнігі-роздумы пра вечнае і мімалётнае, пра сутнасць жыцця і месца чалавека ў вялікім свеце. Многія творы з іх прысвечаны роднаму Палессю, найперш яго непаўторнай прыродзе і працавітым людзям (напрыклад, «Палессе. Паплавы. Паводка», «Ты, старонка — сама цішыня», «Буслоў не ведаю бяздомных», «Выток», «Палескі трыпціх», «Жанчыны надвячоркам», «Маленства» і інш.). Палескі край — не толькі месца нараджэння паэта, але і выток яго творчасці. Выразна сведчыць пра гэта верш «Роднае», у якім аўтар прызнаецца:

Мне без радзімы,
як чайцы — без мора,
шэрай зязюлі —
без сіняга бору;
як травам без ліўняў,
бярозам без соку,
як ручаю —

без вусця й вытоку.
Жыццёвы пачатак:
хата,
прысады,
запознены статак;
матчына песня
на полі начуе...
Вочы заплюшчу —
І бачу, і чую.

Палеская тэма ў Алеся Каско знайшла сваё своеасаблівае вырашэнне. Калі раней гэты край лічыўся краем экзатычным, дзе чалавек жыў у суцэльнай гармоніі з прыродай, то цяпер прыроду тут «пакарылі» і атрымалі ад гэтага незваротныя страты. Экалагічная драма Палесся ў творчасці нашага земляка ўвязана з духоўнай трагедыяй усёй Беларусі, якая пастаянна пазбаўляецца нацыянальнай годнасці, роднай мовы і культуры. Вось чаму зямля, якая некалі, гаворачы словамі У. Караткевіча, была «зямлёю пад белымі крыламі», цяпер Алесю Каско здаецца «зямлёй пад чорным крыжам» («Палессем»). Тым не менш, «які ні ёсць, а родны край — святыня», — лічыць паэт і ў вершы «Зноў я дома, дома...» выказвае сваё самае запаветнае жаданне — навечна супакоіцца ў роднай зямлі.

У розныя гады ў Брэсцкім педінстытуце імя А. С. Пушкіна вучыліся Іван Мельнічук, Мікола Цялічка, Змітрок Шостак, Алесь Бібіцкі, Расціслаў Бензярук, Ніна Гарагляд, Мікола Трафімчук, Мікола Сянкевіч, Аляксей Філатаў, Алена Ігнацюк і інш.

***Мікола Цялічка*** нарадзіўся ў 1923 годзе на Чарнігаўшчыне. Быў удзельнікам Вялікай Айчыннай вайны — ваяваў ля Сіваша, у Карпатах, у Беларусі, Польшчы і закончыў баявы шлях у Германіі ў званні капітана. Сваё пасляваеннае жыццё звязаў з Берасцейшчынай. Спачатку настаўнічаў у Кобрыне, завочна закончыў педінстытут і неўзабаве пераехаў жыць у Брэст. Тут Мікалай Цялічка выявіўся як паэт, які піша па-руску. Выдаў некалькі зборнікаў: «Добрый ливень» (1963), «Дерево в бору» (1971), «Вещий свет» (1980), «Следы времен» (1994) і інш. У іх аўтар, як правіла, звяртаецца да свайго франтавога жыцця, апявае салдацкае брацтва, геранічныя традыцыі нашага краю. Апошнія знайшлі сваё адлюстраванне ў такіх яго вершах, як «Отъезд сына», «Героический слог», «Брестские берёзы», «Весенний Брест»...

***Змітрок Шостак*** (нар. у 1932 годзе ў вёсцы Каменка Кобрынскага раёна) — аўтар сатырычных апавяданняў і гумарэсак, якія склалі зборнік «І ў хвост, і ў грыву».

Настаўнікам па прафесіі, але паэтам па прызванні стаў ***Алесь Бібіцкі*** (1931—1998). Родам ён з вёскі Вербавічы, што на Гомель-

шчыне. У сярэдзіне 50-х гадоў пасля заканчэння Мазырскага настаўніцкага інстытута звязаў свой лёс з Піншчынай. Спачатку працаваў у Лапацінскай сямігодцы, затым у Плошчаўскай сярэдняй школе, завочна скончыў філалагічны факультэт Брэсцкага падінстытута і настаўнічаў у Калауравічах.

Свой першы верш Алесь Бібіцкі напісаў яшчэ ў час вучобы ў школе, будучы вучнем 7 класа. Неўзабаве актыўна пачаў выступаць на старонках рэспубліканскіх газет і часопісаў, а ў 1979 годзе выдаў свой першы паэтычны зборнік «Зоры над Пінай». У рэцэнзіі на яго С. Гаўрусёў трапна адзначыў: «Ёсць нешта прывабнае ў самой постаці вясковага настаўніка-паэта. Гледзячы на Алеся, згадваюцца многія: але ў першую чаргу — манументальная асоба Якуба Коласа, узнёсла-рамантычны Пімен Панчанка. Як і слаўныя папярэднікі Бібіцкага, ён найбліжэй да калыскі нашай песні — роднай зямлі». Пацвярджэнне гэтым словам знаходзім у творах самога паэта. Так, у вершы «Мой стол» чытаем:

Мой стол пісьмовы —
Луг мурожны
Ды бераг Ясельды пусты,
дзе долу росы асцярожна
Раняюць раніцай кусты.
Тут не маўчыцца салаўю.
Мясціне казачна-прыгожай —
Сваю даніну аддаю.

Казачна-прыгожай мясцінай для паэта стала Берасцейскае Палессе. Жыць і працаваць у палескай вёсцы — вялікае задавальненне, нават шчасце. Ён захоплены не толькі яе прыгажосцю, але і працавітасцю, шчырасцю, непасрэднасцю тутэйшых людзей. Паэт шкадуе, што паступова пусцее гэтая вёска, страчваюцца дынастыі хлебаробаў, вясковых ткачых, адмысловых кавалёў.

Сапраўдным гімнам Палескаму краю гучыць верш «Маё Палессе», у якім аўтар падкрэслівае:

Быў я на поўначы,
Быў я і ў Сочы —
Там не такія салодкія ночы,
Там не такія вясельныя святы,
Там не такія красуні-дзяўчаты,
Як на Палессі, ля Прыпяці-рэчкі...

Сваю адданасць гэтаму краю паэт засведчыў і сімвалічнай назвай зборніка — «Зоры над Пінай». Менавіта так называецца традыцыйнае свята мастацтва, якое штогод праводзіцца на Піншчыне.

***Расціслаў Бензярук*** вядомы ў літаратуры найперш як дзіцячы пісьменнік. Нарадзіўся ён 27 лютага 1944 года ў вёсцы Стрыганец Жабінкаўскага раёна. Пасля заканчэння Брэсцкага педінстытута імя А. С. Пушкіна выкладаў беларускую мову і літаратуру ў школах Лунінецкага і Жабінкаўскага раёнаў. Цяпер працуе загадчыкам аддзела пісьмаў жабінкаўскай раённай газеты «Сельская праўда».

Яго першая кніжка для дзяцей — «Вавёрчына дзякуй: апавяданні і казкі» — убачыла свет у 1975 годзе. Другая — «Чаму сонца рана ўстала?» — выйшла больш як праз 20 гадоў (1997 г.). У гэтым жа годзе Р. Бензярук заявіў пра сябе і як паэт. У друку з'явіўся яго зборнік «Тры свечкі». У ім паэт спрабуе асэнсаваць свае карані, тое асяроддзе, якое спрыяла фарміраванню яго асобы. Хвалюе Р. Бензерука лёс Беларусі і яе культуры.

На мясцовым гісторыка-культурным матэрыяле напісаны такія вершы, як «Думкі ў Крошыне», «На вуліцы Крачкоўскага», «Да назвы вёскі Хмелева», «У Картуз-Бярозе», «Паэтаў Востраў», «Ля Берасцейскага вогнішча» і інш. Так, апошні з названых вершаў прысвечаны памяці У. Калесніка, які, як вядома, для многіх літаратараў краю быў першым настаўнікам і дарадцам. Аўтар выразна гэта ўсведамляе і прызнаецца:

Побач з Вамі, любімым Настаўнікам,
Нам жылося лягчэй на зямлі.

І далей зазначае:

...Сёння слёзна, сцюдзёна і воблачна,
Расставанне прыспешвае час...
Век гарэць Берасцейскаму вогнішчу —
Гэта нашая памяць пра Вас.

Паэзія Расціслава Бензерука напоўнена не толькі ўспамінамі і клопатамі пра сваю сям'ю, родную Берасцейшчыну, але і трывогай за лёс усёй Беларусі. Паказальным у гэтым плане з'яўляецца верш, які даў назву зборніку, — «Тры свечкі»:

Адкінем сёння мішуру і хлам,
Паверыўшы, што цяжкасці не вечны,
І разам зойдзем у Гасподні храм,
Перад амбонам тры паставім свечкі.
Перш — за здароўе ворагаў сваіх,
Каб дабрыня адолела ў іх злобу;
Яшчэ дзве — за сям'ю, за нас саміх,
Каб абышлі няшчасці і хваробы.
Гарыць агонь, і растапляе воск,
Цяпер усе памкненнямі адзіны:
І верым, што за нас цярпеў Хрыстос,
І памятаем продкаў і Радзіму.
Спадае з сэрцаў неймаверны груз,

Сыходзіць мір, святое прасвятленне.
...Маліцеся часцей за Беларусь —
Яе багацце,
Славу, Адраджэнне.

У кантэксце так званай жаночай паэзіі варта разглядаць лірыку ***Ніны Гарагляд***. Нарадзілася паэтка 20 лютага 1952 года на хутары Паўлінава Пінскага раёна. Пасля заканчэння Брэсцкага педінстытута працавала настаўніцай, бібліятэкаркай. З 1975 года жыве ў Камянцы і працуе ў раённай газеце «Навіны Камянеччыны», цяпер — яе галоўны рэдактар.

У 1995 годзе ўбачыў свет першы паэтычны зборнік Ніны Гарагляд «Матчына песня». Менавіта ў ёй, матчынай песні, бачыць паэтка вытокі сваёй творчасці:

Ні палотнаў, ні хустак
Маці мне не дарыла.
Толькі песню мне ў сэрца
трапяткую ўлажыла,
кроў сялянская носіць
яе ціха па жылах...
На ўвесь свет мне спадчына —
песня матчына.

Н. Гарагляд увесь час адчувае непарыўную сувязь са сваім родным краем, вясковым асяроддзем. Яна і цяпер не супраць росным ранкам «з пугай ляцець за статкам», папрацаваць у полі ці на лузе, паслухаць зязюльчын спеў («Дома»). Яе непакоіць, што песні, якія спявала маці, гучаць усё радзей і радзей:

...Песню маёй вёскі хто падхопіць?
Што ж вам, людзі, мову заняло?
Нарадзіла ж вас усіх сяло!

Лірычная гераіня Н. Гарагляд адчувае сябе вінаватай, што рэдка бывае дома, але кожны раз яна едзе сюды з асаблівай прыўзнятасцю («Сустрэча з домам»), пастаянна помніць пра самага дарагога і блізкага чалавека — маці. Словы «Радзіма», «Піншчына», «мой кут», «матуля» заўсёды вымаўляюцца ёю з вялікай любоўю. Сваёй малой радзіме Ніна Гарагляд прысвяціла некалькі пейзажных замалёвак: «Раніца», «На Піншчыне», «Дождж на Палессі», «Бывай лета!», «Хутарок». Асобныя вершы зборніка «У пушчы Белавежскай» і інш. апавядаюць пра камянецкую зямлю, з якой цяпер звязаны лёс паэткі.

Адметнае месца сярод паэтаў Берасцейшчыны належыць ***Міколу Трафімчуку*** — аўтару зборнікаў «Траекторыя», «Трыванне», «Фэст», «Нішто не вернецца ніколі», «Любіць Бог Беларусь», «Найперш мы — ліцвіны», «Трын-трава». Нарадзіўся ён 3 студзеня

1950 года ў вёсцы Осаўцы Драгічынскага раёна. Пасля заканчэння Белінскай сярэдняй школы вучыўся ў Брэсцкім прафесійна-тэхнічным вучылішчы будаўнікоў, затым — у Брэсцкім педінстытуце. Некаторы час працаваў настаўнікам роднай мовы і літаратуры на Драгічыншчыне і Бярозаўшчыне. Цяпер жыве ў Мінску.

Паэзія М. Трафімчука заснавана на зямных рэаліях. Ён, як і кожны з нас, сумуе па родных мясцінах, бацькоўскай хаце:

Туга, туга...
Напэўна, ёсць яна —
туга па верасах,
па тых мясцінах,
сярод якіх жывуць
твой клён дзяціны,
буслы над ціхай матчынай хацінай,
юначая бярозка ля акна...

Яго лірычны герой мае сталае жаданне — як мага часцей бываць у роднай вёсцы. («Даўно тут не жыву», «Вяртанне», «Вясковы маршрут», «У вёсцы» і інш.).

Значнае месца ў творчасці Міколы Трафімчука займае інтэлектуальна-філасофская лірыка. Яму ўласціва ўдумлівае стаўленне да жыцця, глыбокае асэнсаванне прызначэння чалавека на зямлі. У апошні час паэта найперш хвалюе лёс Беларусі, роднай мовы. Для выражэння сваіх паэтычных пачуццяў ён абраў такую форму як сацыяльна-палітычны верш-прамова, які стаў цікавай і адметнай з'явай ва ўсёй айчыннай літаратуры. Вось адзін з іх:

Будзь гаспадыняй, Беларусь!
У роднай хаце свой абрус
ільняны, чысты засцялі...
На гэтай княжацкай зямлі
чужы не мае права лгаць,
свае законы дыктаваць.
Адзін-адзіны ёсць закон:
ты — валадарніца спакон
гэтых людзей і камяніц,
азёр і рэк, палёў, крыніц...
Стань зноў жа гордаю княжной
між Нёмнам, Прыпяццю, Дзвіной!
Сама сабою стань — і ўсё,
і паінакшае жыццё,
і будзе вораг знаць і госць,
што гаспадыня ў хаце ёсць.

На Драгічыншчыне, у вёсцы Асіпавічы, у 1957 годзе нарадзіўся ***Мікола Сянкевіч***. Скончыў Пінскае сельскае прафесійна-тэхнічнае вучылішча і Брэсцкі педінстытут. З 1982 года жыве ў Брэсце. Спа-

чатку настаўнічаў, а зараз выкладае родную мову ва універсітэце, піша творы. Свой шлях у літаратуру пачынаў з вершаў, якія друкаваліся ў розных абласных і рэспубліканскіх выданнях, змяшчаліся ў альманаху «Дзень паэзіі-91». У 2007 годзе яны ўвайшлі ў зборнік «Мае пракосы». У вершах паэт ідзе ад уласна зведанага, перажытага, але падымае важныя надзённыя праблемы сучаснага жыцця.

Апошнім часам Мікола Сянкевіч аддае перавагу прозе. У 1997 годзе выйшла першая яго кніга «Усё як было». Яе склалі мініяцюры і апавяданні, якія закранаюць няпростыя маральна-этычныя праблемы, звязаныя пераважна са школьным жыццём. Асобныя мініяцюры — «Мудрасць зямлі», «Гасціннасць», «Мясцовая славутасць» і іншыя — прысвечаны бацькоўскай зямлі, вёсцы, родным і знаёмым. Іх аўтара найперш хвалюе духоўнае багацце чалавека, яго ўнутраны свет і жыццёвыя пошукі. Менавіта гэта з'яўляецца найбольш прыцягальным у прозе М. Сянкевіча, якую заўважыў і высока ацаніў вядомы пісьменнік Янка Брыль. Нядаўна ўбачыла свет другая кніга М. Сянкевіча «Хутар Паянтрый» (2002).

Акрамя пералічаных вышэй пісьменнікаў, выпускнікамі Брэсцкага педагагічнага інстытута імя А. С. Пушкіна ў свой час былі многія вядомыя сёння крытыкі і літаратуразнаўцы. Сярод іх Аляксей Гардзіцкі, Уладзімір Гніламёдаў, Вера Ляшук (Зарэцкая), Аляксей Майсейчык, Міхась Тычына, Янка Шпакоўскі, Віктар Люкевіч, Юрый Паталкоў, Лілія Асташонак, Уладзімір Сенькавец і інш.

***Аляксей Гардзіцкі*** (1934—1999) нарадзіўся ў вёсцы Пугачова (цяпер знаходзіцца ў межах Брэста). Падінстытут закончыў у 1956 годзе. Стаў аўтарам шэрага кніг дыялогаў, інтэрв'ю, гутарак пра беларускую літаратуру і яе развіццё («Дыялогі», «Сустрэчы», «Зразумець як сваё», «Вачыма сяброў», «Сябрына», «Гутаркі»), складальнікам бібліяграфічнага даведніка «Пісьменнікі Савецкай Беларусі» (1981), напісаў літаратуразнаўчую працу пра майстэрства дэталі ў мастацкім творы, даследаваў творчасць Івана Шамякіна. Пісаў таксама празаічныя мініяцюры і літаратурныя эцюды.

Як крытык і літаратуразнавец выступае ў друку з 1962 года ***Уладзімір Гніламёдаў*** (нар. у 1937 г. у вёсцы Кругель Камянецкага раёна). Даследуе праблемы сучаснай беларускай паэзіі, з'яўляецца аўтарам шэрагу манаграфій («Іван Мележ: Нарыс жыцця і творчасці» і інш.), некалькіх зборнікаў літаратурна-крытычных артыкулаў («Упоравень з часам», «Як само жыццё» і інш.).

Развіццё літаратурнага краязнаўства, праблемы методыкі выкладання беларускай літаратуры ў школе найперш цікавяць ***Веру Ляшук (Зарэцкую)***. Нарадзілася яна ў 1933 годзе ў вёсцы Маразавічы Брэсцкага раёна. Сёння В. Я. Ляшук — прафесар кафедры методыкі выкладання беларускай літаратуры і краязнаўства Брэсцкага універсітэта імя А. С. Пушкіна, навуковы кіраўнік калектыву



*Выкладчыца БДПУ імя А С. Пушкіна, літаратуразнавец Вера Ляшук.*

па складанні праграм і падручнікаў па беларускай літаратуры для сярэдняй школы, аўтар шэрага вучэбных дапаможнікаў і манаграфій па акрэсленых праблемах: «Іван Мележ у школе», «Вывучэнне беларускай літаратуры ў школе: гісторыка-метадычны нарыс», «Літаратурнае краязнаўства ў школе», «Вывучэнне трылогіі Якуба Коласа «На ростанях» у школе» і інш. Выступае ў друку па пытаннях літаратуры Берасцейшчыны.

***Аляксей Майсейчык*** (1936—2002) родам з вёскі Гошчава Івацэвіцкага раёна. Адзін з аўтараў «Гісторыі беларускай савецкай літаратуры 1941—1980 гг.». Займаўся пытаннямі методыкі выкладання беларускай літаратуры ў школе, даследаваў літаратуру Берасцейшчыны.

***Міхась Тычына*** нарадзіўся ў 1943 годзе ў пасёлку Ленінскі Алданскага раёна (Якуція). У 1964 годзе закончыў філфак Брэсцкага педінстытута. Аўтар манаграфій: «Кузьма Чорны: Эвалюцыя мастацкага мыслення», «Народ и война», некалькіх зборнікаў літаратурна-крытычных артыкулаў. Яго пяру належаць таксама шэраг апавяданняў і «Аповесць пра Кузьму Чорнага».

У коле навуковых інтарэсаў ***Янкі Шпакоўскага*** (нар. у 1936 годзе ў вёсцы Месяцічы Пінскага раёна) — праблемы вобразнасці, майстэрства, тыпізацыі, стылёвага развіцця беларускай паэзіі. Разглядае індывідуальныя асаблівасці стылю Р. Барадуліна, А. Вярцінскага, В. Зуёнка, У. Караткевіча, А. Куляшова, П. Панчанкі, А. Пысіна, М. Танка. Аўтар кніг «Узрушанасць: Артыкулы пра сучасную беларускую паэзію», «Тыпізацыя ў лірыцы: Формы і сродкі» і інш.

У апошнія гады Брэсцкі дзяржаўны універсітэт (педінстытут) імя А. С. Пушкіна закончылі Мікола Навумчык, Ніяна Загарэўская, Васіль Барысюк, Ярына Дашына, Мікола Сімановіч і іншыя, якія даволі паспяхова спрабуюць сказаць сваё слова ў літаратуры. Так, Ніяна Загарэўская ўжо выдала свой першы паэтычны зборнік «Хваля» (1996).

У 1997 годзе на філалагічным факультэце быў адкрыты Навукова-асветны цэнтр імя У. А. Калесніка.



# Роля У.А. Калесніка ў развіцці літаратуры і літаратурнага краязнаўства

Доўгія гады навуковы патэнцыял філалагічнага факультэта Брэсцкага педінстытута вызначаў ***Уладзімір Андрэевіч Калеснік*** (1922—1994), вядомы даследчык літаратуры, пісьменнік, прафесар, загадчык кафедры беларускай літаратуры з 1956 па 1988 гг. Не займаючы высокіх афіцыйных пасадаў, ён быў асобай, да чыёй думкі не проста прыслухоўваліся, але і лічыліся.

Падстаў для гэтага мелася шмат. Пэўную ролю адыграла яго ваенная біяграфія. Уладзімір Андрэевіч быў адным з арганізатараў партызанскага руху на Наваградчыне. Галоўнае ж заключалася не ў мінулым. Калеснік увесь час ствараў цікавую біяграфію навукоўца, выкладчыка, культурнага дзеяча, без каго цяжка ўявіць пасляваеннае духоўнае жыццё Берасцейшчыны.

Нарадзіўся У. А. Калеснік 17 верасня 1922 г. у в. Сіняўская Слабада на Гарадзеншчыне. Многае, аднак, яднае яго з Берасцейшчынай. У гады вайны ваяваў у Баранавіцкім партызанскім злучэнні. З 1954 г. і да канца жыцця (1995 г.) жыў у Брэсце і працаваў выкладчыкам педінстытута. Менавіта тут малады выкладчык, які нядаўна скончыў аспірантуру, станавіўся вучоным, пісьменнікам, педагогам, адным словам, тым, што хаваецца за імем — Калеснік з Брэста. Некалькі дзесяцігоддзяў У. А. Калеснік узначальваў кафедру беларускай літаратуры, якая мела навуковы аўтарытэт у рэспубліцы. Ён душой і сэрцам прыкіпеў да гэтай зямлі, гэтага краю і служыў яму ахвярна. З гордасцю берасцейцы лічаць Уладзіміра Андрэевіча Калесніка сваім земляком.

Прырода шчодра надзяліла Уладзіміра Андрэевіча рознымі талентамі: педагог-навуковец, пісьменнік, жывапісец, разьбяр па дрэве, адным словам, майстар на ўсе рукі. За што б ні браўся, рабіў з поўнай аддачай, рабіў таленавіта. Такая асоба, якой быў Уладзімір Андрэевіч Калеснік, не магла не ўплываць на тых, з кім яго сутыкаў лёс. Сам таленавіты, ён і ў іншых цаніў талент, падтрым-

ліваў, люляў, як маці сваіх дзяцей. Не так гэта было ўжо важна, які ў чалавека талент. Ён ахвотна, з радасцю падтрымліваў талент пісьменніка і педагога, спевака і жывапісца, арганізатара і даследчыка літаратуры. Яго выхаванцы імкнуліся перад гэтым настаўнікам выявіць свае патэнцыяльныя здольнасці, ведаючы, што будуць ухвалены, падтрыманы.

Уладзімір Андрэевіч сваёй выключнай працавітасцю, сваімі багатымі задаткамі, плённасцю сваёй працы натхняў, запальваў іншых. Яны таксама імкнуліся ці то ісці дарогаю свайго настаўніка, ці то церабілі сваю сцяжынку ў навуцы, у школе, у грамадскай працы, церабілі ўпарта і настойліва. Калі мы сёння маем пэўныя набыткі ў філалогіі, калі кафедры філфака карыстаюцца аўтарытэтам сярод навукоўцаў краіны, то ў гэтым ільвіная доля належыць У. А. Калесніку.

Уладзімір Андрэевіч адносіцца да ліку самых шаноўных і самабытных даследчыкаў беларускага мастацкага слова. Ён узнімаў цаліну заходнебеларускай літаратуры. «Паэзія змагання», «Сцягі і паходні», «Час і песні», «Ветразі Адысея», «Максім Танк»... Гэта грунтоўныя, таленавітыя працы, прысвечаныя і літаратурнаму працэсу ў цэлым, і асобным яркім постацям, як Максім Танк, Уладзімір Жылка, Рыгор Шырма, Мікола Засім, Міхась Васілёк... Значнае і адметнае месца належыць У. А. Калесніку ў скарыназнаўстве, купалазнаўстве, у даследаванні творчасці Міколы Гусоўскага, Янкі Брыля, Васіля Быкава, Уладзіміра Караткевіча, Ніла Гілевіча... Гэты спіс можна было б доўжыць.

З першых дзён свайго берасцейскага жыцця У. А. Калеснік становіцца цэнтрам, вакол якога бруіць культурнае жыццё горада і вобласці. Адразу па пераездзе ў Брэст збліжаецца з Міколам Засімам, а калі таго не стала, узяў на сябе вялікі клопат гадаваць літаратурныя таленты. Доўгі час Уладзімір Андрэевіч узначальваў берасцейскае аб’яднанне пісьменнікаў, спрыяў росквіту многіх талентаў, адкрыў у горадзе аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі і перадаў яго свайму гадаванцу Міколу Пракаповічу.

Зычлівую, часам і суровую ацэнку сваім палотнам маглі пачуць берасцейскія мастакі горада з вуснаў паважанага прафесара, бо, мусіць, не было ў горадзе ні адной выставы, у якой не прыняў бы самага актыўнага ўдзелу Уладзімір Андрэевіч. Тое самае можна было б сказаць пра розныя творчыя конкурсы, што праводзіліся ў горадзе і вобласці. Ён прыклаў шмат намаганняў, каб у Брэсце жыла і развівалася нацыянальная культура. Уявіць культурнае жыццё г. Брэста 50—90 гг. без У. А. Калесніка нельга.

У. А. Калеснік — найперш педагог. За гады сваёй працы ў Берасцейскім педінстытуце ён падрыхтаваў тысячы настаўнікаў род-

най мовы і літаратуры. Усе яны з удзячнасцю прыгадваюць свайго настаўніка. Рыхтуючыся да ўрокаў, да пазакласных заняткаў, яшчэ і яшчэ раз перагортваюць манаграфіі, артыкулы выдатнага даследчыка беларускай літаратуры.

Ёсць яшчэ адзін неабыякавы берасцейцам абсяг даследчыцкіх клопатаў Уладзіміра Андрэевіча — літаратура Берасцейшчыны. Ён першы зрабіў спробу прасачыць гісторыю літаратуры краю, пачынаючы з самшытавага грабеньчыка, знойдзенага пры раскопках старога Берасця, ад Бібліі Брэсцкай і да нашых дзён у нарысе «Берасцейскае вогнішча». Уладзіміру Калесніку належыць артыкул пра творчасць казачніка з Ганцаўшчыны Рэдкага, ад якога запісана шмат казак. У. А. Калеснік укладаў зборнікі нашых землякоў і пісаў да іх прадмовы — Валянціна Таўлая, Міколы Засіма, Міхася Рудкоўскага, Ніны Мацяш і інш. Ён блаславіў у свет вершы Васіля Жуковіча, Міколы Пракаповіча, Алеся Каско, Васіля Сахарчука і многіх іншых, хто ішоў у літаратуру з нашага краю. Часта можна было ад яго чуць, што трэба абавязкова пабываць у Мінску на камісіі на прыёме ў Саюз пісьменнікаў, бо разглядаецца справа нашага... і называлася імя ці то Трафімчука, ці Арабейкі, ці кагосьці іншага з Берасцейшчыны.

Асаблівую падтрымку і дапамогу меў ад Уладзіміра Андрэевіча Алесь Разанаў. І ў сямідзесятыя, калі пачалося новае ганенне супраць «нацыяналістаў», і калі Алеся Разанава «папрасілі» з Беларускага універсітэта. Паступаў Алесь Разанаў у БДУ, а закончыў Брэсцкі педінстытут. У 80-я гады зноў пачалася кампанія супраць Алеся Разанава, цяпер ужо з іншага боку — незразумелы, фармаліст. І тады ў друку з’яўляецца палемічны артыкул У. А. Калесніка, пафас яго не толькі адстаяць права Алеся Разанава на свой шлях у літаратуры, але і права ўсіх пісьменнікаў на пошукі, на разнастайнасць, на неабходнасць філасофскай плыні ў нашай паэзіі.

Уладзімір Калеснік папулярызаваў Берасцейшчыну сярод пісьменнікаў Беларусі і былога СССР. Палессе, Белавежская пушча, Берасцейская крэпасць станавіліся прадметам мастацкага асэнсавання ў творчасці многіх мастакоў слова дзякуючы таму, што своеасаблівым экскурсаводам для многіх з іх быў У. А. Калеснік. Варта згадаць творы пра наш край Янкі Брыля, Уладзіміра Караткевіча, Рыгора Барадуліна, Аляксея Пысіна і інш.

Уладзімір Андрэевіч не раз гаварыў, што ідэя напісаць кнігу пра беларускія Хатыні «Я з вогненнай вёскі…» належыць Алесю Адамовічу. Але пачала яна стварацца на Берасцейшчыне. Тут тры пісьменнікі, былыя партызаны, на гарбаценькім арабінавым «Масквічу» Уладзіміра Андрэевіча рабілі першыя запісы... «Памяць» — так называлася першая публікацыя з гэтай кнігі. Яна цалкам — пра трагедыю Берасцейшчыны.

Аўтарытэтны даследчык роднай літаратуры быў і застаецца харошым прыкладам для сваіх выхаванцаў. Многія яго вучні выбралі дарогу свайго настаўніка, сталі вядомымі літаратуразнаўцамі, мовазнаўцамі: Уладзімір Гніламёдаў, Вера Ляшук, Міхась Тычына, Янка Шпакоўскі, Аляксей Майсейчык, Галіна Малажай, Вера Емельяновіч, Станіслаў Рачэўскі, Іван Сацута, Мікола Аляхновіч... Спіс гэты можна было б доўжыць.

У. А. Калеснік не належыў да кабінетных вучоных. Абсяг яго зацікаўленняў не толькі культура і школа, але і палітыка. Ён быў у ліку першых, хто з'явіўся ініцыятарам дэмакратычных зменаў у рэспубліцы. Стаяў ён ля вытокаў стварэння грамадскай арганізацыі «Мартыралог Беларусі». Абагачаны жыццёвай мудрасцю, Уладзімір Андрэевіч заўсёды ўмеў заняць канструктыўную пазіцыю, зняць напал, супрацьстаянне. Да яго аўтарытэтнай думкі прыслухоўваліся з аднаго і другога бакоў, калі, здавалася, сітуацыя была выбуховай.

На Беларусі шмат тых, хто з гонарам гаворыць: «Я вучань Калесніка...» І не трэба дадаваць, хто гэта такі, вядома і так. Да ліку тых, хто з гордасцю называе сябе выхаванкаю Уладзіміра Андрэевіча, належыць аўтар гэтых радкоў.

У. А. Калеснік высока цаніў ролю краязнаўства ў навучанні і выхаванні моладзі. Таму практычна рыхтаваў студэнтаў да гэтага віду дзейнасці ў школе, арганізоўваючы розныя віды літаратурна-краязнаўчай працы. Асабліва актывізавалася гэтая дзейнасць у 60-я гады.

Нядоўгім быў той перыяд, які сёння называюць хрушчоўскай адлігай. Для беларусаў ён яшчэ скараціўся. З пачатку 60-х гг. пачаўся новы масіраваны наступ на беларускую мову. Ідэолагі СССР распрацавалі тэорыю зліцця моў, бо ад гэтага, на іх думку, залежала, як хутка савецкія людзі будуць жыць пры камунізме. Кіраўніцтва БССР усё рабіла, каб прывесці беларусаў туды першымі. Міністэрства асветы БССР разаслала ў школы цыркуляр, згодна з якім беларускую мову можна зусім не вывучаць, а з літаратурай дазвалялася знаёміць вучняў па-руску. У сярэдзіне 60-х гг. у г. Брэсце беларускую мову выкладалі толькі ў школе № 6, дзе працавала сям'я нацыянальна свядомых настаўнікаў Шчуроўскіх. Па вобласці пачынаюць закрываць беларускамоўныя школы і пераводзіць навучанне на рускую мову. Перастала выдавацца на роднай мове абласная газета «Зара», якая раней была двухмоўнай. Пераводзіцца на рускую мову шэраг раённых газет, якія былі беларускамоўнымі.

Рэзка скарачаецца набор на філалагічны факультэт Брэсцкага педагагічнага інстытута імя А. С. Пушкіна — усяго адна група (25 чалавек) шырокага профілю. У ліку гэтых 25 чалавек былі такія,

хто мовы ўжо не вывучаў, а беларускую літаратуру — па-руску. У такіх умовах трэба было, каб філалагічны факультэт Брэсцкага педінстытута закончыў не проста настаўнік, у дыпломе якога запісана, што ён мае права выкладаць беларускую і рускую мовы і літаратуры, а каб хацеў гэта рабіць прафесійна і з любоўю. Менавіта ў гэты час У. А. Калеснік звяртаецца да такога надзейнага і выпрабаванага сродку патрыятычнага выхавання, якім з'яўляецца краязнаўства. Уладзімір Андрэевіч пачынае арганізоўваць на выпускным курсе (заўважым, што менавіта на выпускным, каб даць студэнту-выпускніку моцны эмацыянальны імпульс) літаратурныя экскурсіі. Ён распрацаваў маршрут і вадзіў па ім студэнтаў аж да канца 70-х гг. І ўсе гэтыя гады я ездзіла з Уладзімірам Андрэевічам. Часам выказвалі жаданне паўдзельнічаць у экскурсіі выкладчыкі філфака: І. Г. Моладава, Г. М. Малажай, В. М. Емельяновіч і інш.

Маршрут, распрацаваны У. А. Калеснікам, ахопліваў найбольш знакамітыя літаратурныя мясціны і помнікі дойлідства. Экскурсаводам быў заўсёды Уладзімір Андрэевіч. Экскурсія найчасцей пачыналася з дарагой і любімай экскурсаводу Наваградчыны. А дарога з Брэста да Завосся звычайна была таксама вельмі цікавай. Студэнты шмат спявалі, і Уладзімір Андрэевіч любіў слухаць беларускія, палескія, рускія, украінскія песні.

З Завосся, дзе, па адной з навуковых версій, нарадзіўся Адам Міцкевіч, пачыналася фактычнае адкрыццё нашага паэта-земляка, пісьменніка сусветнага значэння. На жаль, у курсе гісторыі замежнай літаратуры ў той час студэнты знаёміліся з творчасцю Адама Міцкевіча ў аглядзе. Уладзімір Андрэевіч не проста расказваў факты з жыцця паэта, звязаныя з той ці іншай мясцінай, якую наведвалі (хоць было і гэта), але ішоў углыб і ўшыр, даваў шырокі гістарычны і культурны фон, паказваў своеасаблівасць спосабаў тыпізацыі ў рамантычнай літаратуры. Недалёка ад Завосся знаходзіцца невялічкі ўзгорак, які пад пяром пісьменніка-рамантыка Адама Міцкевіча ператвараўся ў вялікую гару. У час экскурсіі па мясцінах аўтара «Пана Тадэвуша» Уладзімір Андрэевіч шмат чытаў на памяць, чытаў творы Міцкевіча ў арыгінале.

Наступны прыпынак рабілі ў Калдычэве ля помніка ахвярам фашызму. Экскурсавод тут быў негаваркі. Найчасцей маўкліва ўскладвалі кветкі, чыталі лаканічны надпіс на помніку. Іншы раз Уладзімір Андрэевіч згадваў, што ў ліку ахвяр Калдычэўскага канцлагера была прататып настаўніцы пані Мар'і з аповесці Янкі Брыля «Сірочы хлеб». Яшчэ радзей гаварылі тут пра Яна Чачота і яго баладу «Калдычэўскі шчупак». На месца, дзе размяшчаўся канцлагер, ніколі не хадзілі. Яго экскурсавод паказваў здалёк.

З Калдычэва кіраваліся да Каменя філарэтаў — велізарнага валуна недалёка ад вёскі Карчова. Аўтобус спыняўся адразу за вёскай. Ішлі звычайна моўчкі, усё яшчэ былі думкамі і пачуццямі ў Калдычэве. Ля валуна, аднак, настрой мяняўся і ў студэнтаў, і ў экскурсавода. Уражваў агромністы валун, асколкі ля яго. І Уладзімір Андрэевіч пачынаў расказваць, як адзін купец у даваеннай Польшчы хацеў зрабіць з яго жорны для млына і адкалоў частку. Толькі ўмяшанне грамадскасці выратавала гэты дарагі помнік прыроды і літаратуры. Студэнты ўзбіраліся на валун, пачыналася фатаграфаванне. Дарэчы, на экскурсіі Уладзімір Андрэевіч заўсёды браў з сабою фотаапарат і рабіў шмат здымкаў. Фатаграфавалі і студэнты. Пачыналася цікавае апавяданне пра Віленскі універсітэт, пра рэвалюцыйныя згуртаванні, іх статуты, рэалізацыю праграмы ў дзейнасці, пра аднадумцаў, паэтаў-летуценнікаў, многія з якіх былі з Наваградчыны і праводзілі тут канікулы. Расказваў Уладзімір Андрэевіч не толькі пра грамадскую дзейнасць юнакоў, але і іншыя захапленні маладосці.

Апавядальнікам Уладзімір Андрэевіч быў адмысловым, у хадзе лёгкі і нястомны. Таму нярэдка самыя цікаўныя са студэнтаў не імкнуліся кінуцца ў аўтобус, каб ехаць у Туганавічы, тым больш, што ад вёскі Карчова да былога маёнтка Верашчакаў рукою падаць, ішлі пешкі і з задавальненнем слухалі пра Яна Чачота, Тамаша Зана, Міхала Верашчаку і Міцкевіча.

Туганавіцкая сядзіба згарэла ў Першую сусветную вайну, здзічэлі сад і кусты, аднак падмурак, агульныя абрысы прысадаў яшчэ захаваліся. Высока ў неба ўзляталі ліпы, якія ўтваралі альтанку, дзе сустракаліся Марыля з Міцкевічам. Аглядалі ўсё, што можна было пабачыць, фантазіравалі, аднаўляючы ў сваім уяўленні сядзібу пазамінулага стагоддзя. Каля альтанкі абавязкова рабіліся здымкі.

Экскурсія звычайна праводзілася ў самым канцы мая ці ў пачатку чэрвеня. Калі шанцавала на пагоду, Уладзімір Андрэевіч сядаў на пагорку, а студэнты вакол яго. Сядзіба Туганавічы на той час ужо была пад аховаю дзяржавы. Разнатраўе, рамонкі, званочкі, незабудкі цешылі вока, п’янілі водар кветак і цвіценне ці то бэзу, ці то язміну, ці то акацыі. Экскурсавод адкрываў тоўсты том Адама Міцкевіча і чытаў паэму «Пан Тадэвуш», чытаў у арыгінале, захапляўся сам, захапляў і слухачоў. Звычайна часу на Туганавічы Уладзімір Андрэевіч не шкадаваў.

Далей кіраваліся ў Валеўку, праязджалі вёскі, якія добра ведаў экскурсавод. Ён расказваў, як яны звязаны з тым ці іншым пісьменнікам, а часам і пра каларытных асоб і пра цікавыя падзеі, якія тут адбываліся. Валеўка прываблівала тым, што ў мясцовай школе пра-

цаваў на той час адзін з лепшых літаратурна-краязнаўчых музеяў. Быў ён створаны сябрам У. А. Калесніка па Мінскім педінстытуце А. Петруковічам. Яго асобе і педагагічнаму майстэрству У. А. Каленік прысвяціў нарыс «Партрэт друга», змешчаны ў зборніку «Сейбіты разумнага, добрага, вечнага». Пазней, калі Петруковіч пераехаў у Любчу і там узначаліў музей, эстафету краязнаўчай працы падхапіў у Валеўскай школе У. А. Урбановіч, які абагульніў вопыт дзейнасці школы па вывучэнні роднага краю ў кнігах «Па дарагіх мясцінах» і «Шляхамі паэтаў і герояў». Уладзімір Андрэевіч прымаў непасрэдны ўдзел у стварэнні музея, парадкаваў заходнебеларускую перыёдыку, на кнігу У. А. Урбановіча напісаў рэцэнзію, што была надрукавана ў абласной газеце «Зара».

Ролю знаёмства студэнтаў з Валеўскім літаратурна-краязнаўчым музеем цяжка пераацаніць. Ён быў эмацыянальным штуршком для таго, каб ужо настаўнікам самім распачаць з вучнямі працу па вывучэнні літаратуры роднага краю.

На Наваградчыне асабліва выразна выяўлялася любоў экскурсавода да сваёй малой радзімы. Ён знаходзіў магчымасць адзначыць і падкрэсліць разнастайнасць і хараство краявідаў Наваградчыны. Пасля раўніннага Палесся, якое часам стамляла сваёй аднастайнасцю, узгоркавая Наваградчына сапраўды ўражвала. З якой гордасцю экскурсавод расказваў пра стронгу, рыбу, якая захавалася ў Сэрвачы.

Разам з валеўскімі настаўнікамі кіраваліся на возера Свіцязь. Любаваліся гэтай жамчужынай Беларусі, прыгадвалі, хто са знакамітасцяў яе наведваў і якія пакінуў уражанні. Найбольш жа гаварылася пра Міцкевіча і Марылю, згадваліся балады «Свіцязь» і «Свіцязянка». Купаліся ў пагодлівыя дні і позна вечарам кіраваліся зноў у Валеўку. Тут традыцыйна начавалі. Заканчваўся першы, самы ўражлівы, дзень падарожжа.

Ранак сустракалі ў Наваградку. Агляд пачыналі з Замкавай гары. Доўга любаваліся краявідамі, што адкрываліся з яе. Уладзімір Андрэевіч паказваў возера Літоўку, знаёміў з сюжэтам паэмы «Гражына» Адама Міцкевіча. Тут У. А. Калеснік любіў прыгадваць гады навучання ў Наваградскай гімназіі, пра свае захапленні той пары, пра любімых і нелюбімых настаўнікаў, пра тое, як яму, «хамскаму сыну» (як часам, не саромеючыся, гаварылі яму ў вочы навучэнцы-палякі), даводзілася адстойваць сваю чалавечую і нацыянальную годнасць. Пасля Замкавай гары праводзілася невялічкая экскурсія па горадзе. Аглядалі фарны касцёл, курган, наведвалі музей Адама Міцкевіча. Тут экскурсію вялі супрацоўнікі музея, але вельмі часта ў яе ход умешваўся Уладзімір Андрэевіч, каб нешта паправіць ці ўдакладніць.

З Наваградка ехалі ў Мір. Па дарозе — Брылёва Загора. Уладзімір Андрэевіч расказвае пра сям'ю аўтара «Птушак і гнёздаў», пра іх сумеснае партызанства, пра мясціны, апісаныя ў аповесці «На Быстранцы», пра прататыпаў «Ніжніх Байдуноў». Зноў згадваецца Адам Міцкевіч і яго паэма «Дзяды», расказваецца гісторыя стварэння, паказваюцца мясціны, апісаныя ў творы.

Перад пад'ездам да Міра Уладзімір Андрэевіч расказваў пра даваеннае мястэчка, пра дзівацтвы апошняга ўладальніка Мірскага замка. Экскурсавод дасведчана і прафесійна паказвае веліч, хараство, арыгінальнасць Мірскага замка. У час гэтых экскурсій асабліва відавочныя Калеснікавы адносіны да духоўнай спадчыны. Як радаваўся ён, калі пачалася рэстаўрацыя Мірскага замка. Калі ж работы зацягнуліся, то не раз казаў, што ў гэтых адносінах нам, беларусам, трэба вучыцца ў летувінаў. Тыя рэстаўрыравалі ўсе значныя помнікі, якія аказаліся на іх тэрыторыі. Ды пазней, калі студэнты траплялі ў Вільню, самі пераконваліся, бачачы той ці іншы будынак у рыштаваннях.

Далей маршрут вёў на Стаўпеччыну, на Коласавы мясціны. Традыцыйна тут Уладзімір Андрэевіч менш расказваў, а больш паказваў. Гэта зразумела. Коласавы мясціны знаёмыя, хай і завочна, са школьных гадоў, з паэмы «Новая зямля», трылогіі «На ростанях». Аглядалі Мікалаеўшчыну, Акінчыцы, «палац з ласіным рогам», выходзілі да берага Нёмана. Уладзімір Андрэевіч радаваўся, калі студэнты чыталі ўрыўкі з паэмы «Новая зямля», вершы, калі ў пісьменнікавых мясцінах усплывалі ў іх памяці самі сабою Коласавы радкі. Самае ўражлівае, аднак, заўсёды чакала ў Смольні, на апошняй сядзібе сям'і Міцкевіча. Хвалявала хата, дзе жыла сям'я, куды прыязджаў Якуб Колас, працуючы настаўнікам, прыязджаў звольнены з гэтай пасады за ўдзел у нелегальным з'ездзе рэвалюцыйна настроеных настаўнікаў Беларусі, дзе сустракаўся з Янкам Купалам, уражвалі разгалінастыя ліпы, насаджаныя рукой пісьменніка, але самае галоўнае, што выклікала найвялікшую насалоду не толькі экскурсантаў, але і экскурсавода, была сустрэча з братам Коласа Юзікам, які таленавіта чытаў урыўкі з паэмы «Новая зямля», асобныя вершы.

Традыцыйна начавалі ў Мінску ў інтэрнаце педінстытута ці універсітэта. Наступны дзень аддаваўся сталічным літаратурным музеям. Тут У. А. Калеснік пакідаў студэнтаў на працаўнікоў музеяў, а сам спяшаўся то ў рэдакцыі часопісаў і выдавецтваў, то ў АН БССР, то да сяброў. Клопатаў у Мінску звычайна хапала. Пасля музеяў аглядалі помнікі нашым класікам, а вечарам імкнуліся трапіць у купалаўскі тэатр. Тут шанцавала далёка не заўсёды.

Яшчэ адна ноч у Мінску. Наступным днём наведвалі Радашковічы. Пра многае з літаратурнага і культурнага жыцця гэтага беларускага мястэчка маглі б пачуць студэнты з вуснаў такога дасведчанага экскурсавода, як Уладзімір Андрэевіч, але час быў не той. Абмяжоўваўся наш настаўнік толькі Радашковіцкай беларускай гімназіяй, паказваў будынак, дэталёва расказваў пра пратэст навучэнцаў супраць разгрому Грамады, пра ролю гэтай навучальнай установы ў жыццёвай і творчай біяграфіі Максіма Танка. З Радашковіч звычайна кіраваліся на Вязынку. Першыя экскурсіі праводзіліся тады, калі ў хаце, дзе нарадзіўся паэт, была невялічкая мемарыяльная экспазіцыя. Пазней тут стала запаветная зона. У Вязынцы Уладзімір Андрэевіч больш слухаў, пра што гаварыла экскурсавод, шмат рабіў здымкаў. Студэнты любаваліся краявідамі, якія ўплывалі на фарміраванне таленту паэта і якія натхнялі на стварэнне многіх твораў.

З Вязынкі экскурсія кіравалася на Віленшчыну. Па дарозе слухалі расказы Уладзіміра Андрэевіча пра Міхася Васілька, Алеся Салагуба, знакамітую Смаргонскую акадэмію. Спыняліся толькі ў Жупранах (ніколі не было, каб заязджалі ў Кушляны. Яны ўбаку, а трэба даехаць да Вільні і ўладкавацца на начлег). Тут аддавалі даніну памяці Францішку Багушэвічу. Уладзімір Андрэевіч выказваў сваё незадавальненне надмагільным помнікам, устаноўленым Саюзам пісьменнікаў БССР. Больш цікавым ён лічыў бюст паэта, узведзены быццам бы на тым месцы, адкуль аўтар «Дудкі беларускай» клікаў сваіх землякоў на паўстанне. Асаблівае захапленне і экскурсавода, і экскурсантаў выклікаў мясцовы касцёл у стылі готыкі. З веданнем справы, прафесійна Уладзімір Андрэевіч расказваў пра адметнасць гатычнага стылю, спецыфіку мясцовай готыкі. Фатаграфаваў Багушэвічавы мясціны.

Пад вечар — у Вільні. Дзе мы толькі ні начавалі: то на беразе Віліі, то на нейкіх толькі Уладзіміру Андрэевічу вядомых турбазах. Наступны дзень аддаваўся Вільні. Экскурсаводам быў як заўсёды У. А. Калеснік. Тут студэнты чулі і бачылі цэлы курс па беларускім дойлідстве. Готыка, барока, класіцызм, рэнесанс, ракако, эклектыка. Касцёл св. Ганны, касцёл Пятра і Паўла, Вострая Брама, Святаянскія муры, гарадская ратуша, віленскія дворыкі, у адным з іх — помнік беларускаму першадрукару. Далей аглядалі мясціны, звязаныя з літаратураю: Лукішская плошча і пліта на месцы, дзе былі павешаны Каліноўскі і Серакоўскі, і сумна знакамітыя Лукішкі, рэдакцыя «Нашай нівы», Віленская беларуская гімназія... Незабыўнае ўражанне рабіла наведванне бібліятэк Віленскага універсітэта і Урублеўскага. У першай знаёміліся з беларускімі рукапіснымі і друкаванымі старажытнымі кнігамі, з кнігамі на летувінскай

мове, яшчэ раз пераконваліся, наколькі больш старажытная пісьмовая культура нашага народа. У бібліятэцы Урублеўскага цікава было ўбачыць «Нашу ніву», надрукаваную кірыліцай і лацініцай. У будынку універсітэта знаёміліся з кабінетам і бібліятэкай Я. Лелевеля, з універсітэцкай абсерваторыяй, з актавай залай, дзе гучаў голас нашага земляка Забэйды-Суміцкага, дзе юны Максім Танк чытаў свае вершы і ўдзячная моладзь і спевака, і паэта падхапіла на рукі і пранесла праз залу.

Перад ад’ездам з Вільні падымаліся на гару Гедыміна. Яшчэ раз аглядалі панараму горада, пазнавалі помнікі, з якімі пазнаёміліся ўжо, чыталі раздзел з паэмы Якуба Коласа «Новая зямля». Уладзімір Андрэевіч радаваўся, калі студэнты без яго напамінку бралі ў дарогу Коласаў томік.

Пад вечар пятага дня пакідалі Вільню. Перапоўненыя ўражаннямі, стомленыя студэнты, стомлены і экскурсавод. Але калі пад’язджалі пад Астрыно — мясціны Цёткі — кіраўнік экскурсіі захоплена расказвае пра Першую (як ён любіў называць Цётку), паказваў помнік паэткі, узведзены ў гэтай вёсцы (скульптар Заспіцкі). Начавалі ў Гародні на турстанцыі. Абавязкова сустракаліся ці з Васілём Быкавым, ці з Аляксеем Карпюком, вялася доўгая зацікаўленая гаворка пра напісанае гарадзенцамі. Затым аглядалі дом-музей Элізы Ажэшкі, невялічкую экспазіцыю ў адным з пакояў. У Гародні экскурсаводам звычайна быў Аляксей Карпюк. Уладзімір Андрэевіч то ўважліва слухаў свайго даўняга сябра і калегу, то пацвельваў з апошняга. У Гародні аглядалі таксама дом, дзе жыла сям’я Максіма Багдановіча, палац Стэфана Баторыя, Каложу, Стары замак.

У абед пакідалі гасцінную Гародню. Па дарозе спыняліся толькі ў Ружанах. Там аглядалі разваліны замка, касцёл і помнік Юзіку Урбановічу. У Брэст прыязджалі заўсёды позна вечарам. Праходзяць гады, а гэтыя шэсць дзён паездкі па Беларусі не цьмеюць у памяці, жывуць як адно з самых яркіх уражанняў студэнцкіх і выкладчыцкіх гадоў.

У 60-я гг. па ініцыятыве У. А. Калесніка ствараецца шэраг літаратурна-краязнаўчых стэндаў: «Яны надрукаваліся», «Пісьменнікі — госці Брэстчыны», «Шляхамі паэтаў і герояў», «Рускія пісьменнікі на Брэстчыне». Фотаздымкі да гэтых стэндаў рабіў сам Уладзімір Андрэевіч, сядзеў са студэнтамі і клеіў іх, падпісваў. Яму належыць ідэя стварэння літаратурна-краязнаўчай карты вобласці.

Адным з напрамкаў літаратурна-краязнаўчай працы было абмеркаванне кніг пісьменнікаў з удзелам іх аўтараў. Іван Мележ, Іван Шамякін, Аляксей Карпюк, Васіль Быкаў, Уладзімір Каратке-

віч, Янка Брыль, Анатоль Вярцінскі, Іван Чыгрынаў, Анатоль Кудравец, Мікола Аўрамчык і многія іншыя бралі ўдзел у сустрэчах са студэнтамі, слухалі іх уражанні ад толькі што напісаных кніг. Янка Брыль, Васіль Быкаў, Уладзімір Караткевіч сустракаліся са студэнтамі, па памяці аўтара гэтых радкоў, некалькі разоў. У апошні час, калі вырасла і набрала моц пад дбайным кіраўніцтвам Уладзіміра Калесніка літаратура Берасцейшчыны, сістэматычна сталі наладжвацца сустрэчы са сваімі мастакамі слова: Нінай Мацяш, Міколам Пракаповічам, Алесем Каско і інш. Вёў гэтыя сустрэчы У. А. Калеснік. Яму належала грунтоўнае ўступнае і заключнае слова. Многае з таго, што гаварылася на гэтых сустрэчах Уладзімірам Андрэевічам, пазней уключалася ім у рэцэнзіі, артыкулы, эсэ, літаратурныя партрэты, прысвечаныя выдатным дзеячам беларускага мастацкага слова.

Закладзеныя У. А. Калеснікам традыцыі літаратурна-краязнаўчай працы на філалагічным факультэце Брэсцкага педінстытута падтрымліваюцца дэканатам і кафедрамі цяпер. Многае з таго, што рабілася ў пазааўдыторны час, увайшло ў навучальныя планы, у тым ліку такія дысцыпліны, як літаратурнае і лінгвістычнае краязнаўства, літаратурна-краязнаўчая і лінгвістычна-краязнаўчая практыкі, экскурсія па літаратурных мясцінах Беларусі.







# Агульная характарыстыка развіцця літаратуры другой паловы 50—90-х гадоў

Панчанкаўскі выраз пра Беларусь: «Нібы грыбы, тут здаўна растуць паэты» — мае дачыненне і да пасляваеннай Берасцейшчыны. Яна дала такіх выдатных майстроў слова, як Н. Мацяш, М. Рудкоўскі, В. Жуковіч, Я. Янішчыц, А. Разанаў, М. Пракаповіч, Г. Марчук, Л. Дранько-Майсюк, В. Гардзей, Л. Тарасюк, А. Каско, М. Арахоўскі і многіх іншых, без якіх сёння практычна немажліва ўявіць сучасную беларускую літаратуру.

Пачынаючы з канца 50-х гадоў, літаратура Берасцейшчыны развіваецца раўнамерна і няспынна. Кожнае дзесяцігоддзе ў яе ўліваюцца ўсё новыя і новыя сілы, з'яўляюцца цікавыя і перспектыўныя пісьменніцкія імёны. Так, у ***60-я*** гады смела заявілі пра сябе ў літаратуры Міхась Рудкоўскі, Мікола Федзюковіч, Клаўдзія Каліна, Васіль Ласковіч, Уладзімір Дамашэвіч, Анатоль Клышка, Мікола Купрэеў, Іван Кірэйчык і інш. У ***70-я*** гады з'явіліся першыя кнігі Івана Арабейкі, Васіля Жуковіча, Ніны Загорскай, Алеся Бібіцкага, Ніны Мацяш, Раісы Баравіковай, Алеся Разанава, Расціслава Бензерука, Міколы Трафімчука, Віктара Гардзея, Яўгеніі Янішчыц, Анатоля Казловіча і інш. У ***80-я*** гады адкрылі чытачам свой літаратурны талент Анатоль Бярозка, Леанід Пранчак, Алесь Бадак, Зінаіда Дудзюк, Алесь Каско, Мікола Пракаповіч, Мікола Бусько, Алесь Жамойцін, Леанід Дранько-Майсюк, Валерый Грышкавец, Любоў Тарасюк, Васіль Сахарчук, Мікола Арахоўскі, Уладзімір Марук, Георгій Марчук, Алесь Кажадуб, Віктар Супрунчук, Алесь Наварыч, Уладзімір Мароз, Міхась Шэлехаў, Уладзімір Глушакоў і інш. У ***90-я*** гады ў літаратуру ўліліся Наталля Прыступа, Ніна Гарагляд, Васіль Гадулька, браты Васіль і Анатоль Дэбішы, Мікола Сянкевіч, Ігар Сідарук, Андрэй Мазько і інш.

Вышэй названыя пісьменнікі прадстаўляюць усе раёны нашай вобласці. Найбольш багатымі на літаратурныя таленты аказаліся

Бярозаўскі, Ганцавіцкі, Столінскі і Драгічынскі раёны. У іх можна вылучыць цэлыя «пісьменніцкія гняздоўі». Так, на Бярозаўшчыне — гэта вёска Сялец, якая дала нашай літаратуры свайго паэта, празаіка і драматурга: Алеся Разанава, Васіля Супрунчука і Міколу Арахоўскага. На Століншчыне — гэта Давыд-Гарадок, які стаў радзімай Георгія Марчука, Леаніда Дранько-Майсюка, Уладзіміра Глушакова. У вёсцы Гутава Драгічынскага раёна нарадзіліся Мікола Федзюковіч, Ала Кабаковіч і Уладзімір Сітуха.

Літаратура Берасцейшчыны другой паловы 50—90-х гадоў вызначаецца жанравай і тэматычнай разнастайнасцю. Ёсць у краі свае паэты, празаікі і драматургі, крытыкі і літаратуразнаўцы, перакладчыкі. Найбольш моцнай, безумоўна, з’яўляецца паэзія. Плённа ў гэтым жанры працуюць Н. Мацяш, А. Каско, М. Пракаповіч, В. Жуковіч, Р. Баравікова, Л. Дранько-Майсюк, З. Дудзюк і інш. Яны стварылі шматлікія і розныя па гучанні вершы, паэмы, байкі, эпіграмы і г.д., якія сёння служаць для аўтараў-пачаткоўцаў сапраўдным паэтычным прыкладам.

Доўгі час, гаворачы словамі У. Калесніка, «агульным клопатам брэсцкіх літаратараў была проза». Яшчэ ў 60-я гады тут вылучылася цэлая кагорта празаікаў-дакументалістаў. Сярод іх — Уладзімір Стальмашук, аўтар кнігі «Шумят ели», Васіль Ласковіч і яго нарысы-ўспаміны пра Мікалая Дворнікава і Соф’ю Панкову, Алесь Бароўскі з кнігай пра антыфашысцкае падполле ў Брэсце «О них молчали сводки» і інш. Але гэтага было мала, каб гаварыць у той час пра прозу як самастойную літаратурную галіну. Такой яна стала толькі ў канцы 70-х — пачатку 80-х гадоў з прыходам Г. Марчука, А. Кажадуба, А. Наварыча, В. Супрунчука, В. Гардзея і інш. Асобай увагі заслугоўваюць сёння пісьменнікі-публіцысты: А. Казловіч, М. Панасюк...

Пакуль нешматлікай па колькасці пісьменніцкіх імёнаў застаецца драматургія. Але яна ёсць і паступова набірае сілы. Папулярнасцю ў чытачоў і гледачоў карыстаюцца п’есы Г. Марчука, М. Арахоўскага, І. Сідарука. У апошні час спрабуюць свае сілы ў гэтым жанры З. Дудзюк і Р. Баравікова. Асабліва прываблівае берасцейцаў дзіцячая драматургія , у прыватнасці жанр дзіцячай казкі.

Берасцейская зямля нарадзіла таксама многіх вядомых не толькі ў рэспубліцы, але і за яе межамі крытыкаў і літаратуразнаўцаў — М. Грынчыка, А. Кабаковіч, І. Чароту, У. Гніламёдава, А. Майсейчыка, В. Ляшук (Зарэцкую), Я. Шпакоўскага і іншых. Некаторыя з іх — былыя выпускнікі Брэсцкага педагагічнага інстытута імя А. С. Пушкіна.

Радуе і той факт, што дзякуючы паэтам і пісьменнікам з Берасцейшчыны на высокім прафесійным узроўні загучалі па-беларуску многія творы сусветнай літаратуры. Перакладчыцкая дзейнасць вабіць В. Сёмуху, Н. Мацяш, А. Разанава, В. Жуковіча, З. Дудзюк, Н. Загорскую і інш.

Варта адзначыць, што ў разглядаемы перыяд літаратура краю развіваецца не ізалявана ад усёй сучаснай літаратуры, яе праблемаў і тэмаў. Пра гэта сведчыць не толькі тэматычная скіраванасць твораў берасцейскіх аўтараў, але іх цесныя асабістыя і творчыя кантакты з іншымі славутымі мастакамі слова, у тым ліку пісьменнікамі блізкага і далёкага замежжа. Вялікая заслуга ў іх наладжванні належала Уладзіміру Андрэевічу Калесніку. Яго дом, што па вуліцы Маскоўскай, 11, а затым — Чапаева, 10 у Брэсце, часта наведвалі У. Караткевіч, Я. Брыль, А. Адамовіч, Л. Геніюш, Ф. Янкоўскі, Н. Гілевіч, В. Палтаран, А. Карпюк, В. Быкаў і іншыя літаратары. Па запрашэнні У. Калесніка яны выступалі перад студэнтамі Брэсцкага педінстытута, разам з членамі абласнога літаратурнага аб’яднання, а пазней — з абласным аддзяленнем Саюза пісьменнікаў, якое было ўтворана ў 1982 годзе, ладзілі літаратурныя вечары і сустрэчы ў горадзе, былі ўдзельнікамі перадач па мясцовым радыё і тэлебачанні.

Пасляваенная Берасцейшчына стала краем натхнення для многіх пісьменнікаў. Для прыкладу спашлёмся на творчасць некаторых. Так, пасля заканчэння Літаратурнага інстытута імя А. М. Горкага ў Маскве ў творчую камандзіроўку на «беларускае Палессе» прыехала руская пісьменніца ***Лідзія Абухава.*** Яна наведала Пінск і Століншчыну, у прыватнасці Давыд-Гарадок. Свае ўражанні спачатку выклала ў нарысе «Аб людзях Палесся», які паступова перарос у раман «Глыбінь-гарадок» (1958). Мястэчка з такой назвай на Берасцейшчыне няма, але ўважлівы чытач па дакладных яго апісаннях пазнае невялікі старажытны Давыд-Гарадок. Апошні раз пісьменніца пабывала тут у 1974 годзе і ў выніку напісала новы твор пра людзей гэтага краю — нарыс «Сялянскія дзеці». Паказальна, што да Лідзіі Абухавай па творчае благаслаўленне звярталіся пісьменнікі, якія ішлі ў літаратуру са Століншчыны. Многім з іх, якія пачыналі пісаць па-руску, яна раіла перайсці на родную мову.

Як адзначалася вышэй, увагу многіх пісьменнікаў у пасляваенны перыяд прыцягвала гераічная абарона Брэсцкай крэпасці. Напрыклад, у горадзе падчас працы над раманам «В списках не значился» двойчы пабываў ***Барыс Васільеў***. Некалькі разоў Брэст наведаў ***Канстанцін Сіманаў***. Асобныя старонкі яго рамана «Живые и мёртвые» прысвечаны крэпасці над Бугам.

Трагічныя падзеі Вялікай Айчыннай вайны ўзнаўляюцца ў дакументальнай кнізе А. Адамовіча, Я. Брыля, У. Калесніка «Я з вогненнай вёскі...». Яе аўтары з 1970 па 1973 год аб’ездзілі 35 раёнаў рэспублікі і запісалі аповеды тых, каму ўдалося выжыць з «вогненных вёсак». У названай кнізе — гэта прадстаўнікі 147 вёсак, у тым ліку і з Берасцейшчыны. Першы раздзел «Барбарка» напісаны са слоў Барбары Адамаўны Слесарчук з Івацэвіцкага раёна. Варта адзначыць, што ***Янка Брыль*** бываў на Палессі і раней. Яго вабіў гэты край. У выніку падарожжаў пісьменніка па Піншчыне і Століншчыне з’явіліся яго творы «Шчодрая Ясельда» і «Скрыпка пяе».

З Палессем і Брэстам звязана асабістае і творчае жыццё ***Уладзіміра Караткевіча***. Ён неаднаразова прыязджаў у наш горад на сустрэчу са студэнтамі, гасцяваў у Калесніка. Тут пазнаёміўся з выкладчыцай педінстытута Валянцінай Браніславаўнай, якая пазней стала яго жонкай. У. Караткевіч любіў Палессе, падарожнічаў па Піншчыне, Століншчыне і Лунінеччыне. Упершыню пабываў тут у чэрвені 1969 года. Уражанні ад сустрэчы са столінскай зямлёй леглі ў аснову эсэ «Званы ў прадоннях азёр». У ім сем раздзелаў прысвечана менавіта Століншчыне. Пісьменнік наведаў таксама Давыд-Гарадок, дзе знаходзіцца адна з самых старажытных цэркваў на Палессі — Георгіеўская царква, і Альшаны. Згадваюцца ў гэтым эсэ і іншыя мясціны Берасцейшчыны (Пінск, Брэст, Чарнаўчыцы і інш.), прыводзяцца цікавыя звесткі пра іх.

Паводка на Гарыні перашкодзіла У. Караткевічу ўбачыць усю Століншчыну. Уражанняў ад наведвання Давыд-Гарадка і Альшан, аднак, было шмат. Пісьменнік стаў сведкам незвычайнага відовішча: у Давыд-Гарадок пачалі з’язджацца цыганы з усёй Беларусі, каб адзначыць гадавіну са дня смерці свайго суддзі Герасіма Базылевіча. Год назад той прыехаў разбіраць нейкую справу і ўтапіўся ў Гарыні, ратуючы беларускую дзяўчынку. Гэты выпадак згадваецца не толькі ў эсэ, але і ўпамінаецца ў гістарычным нарысе (дарэчы, як і Брэст) «Зямля пад белымі крыламі». Трэба думаць, што на яго матэрыяле напісана і апавяданне «Краіна Цыганія». Геаграфічныя назвы тут зменены, але гукавае падабенства нагадвае добра вядомы Стрынь — Гарынь, Завід-Гарадок — Давыд-Гарадок.

Цікавіла У. Караткевіча гісторыя і культура Піншчыны. У 1970 г. ён удзельнічаў у навуковай экспедыцыі па «Зборы помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» ў Пінскім раёне. У 1972 г. быў тут з кінагрупай, пісаў кінасцэнарый «Сонцазварот». У Пінску адбываюцца падзеі яго «Каляднай рапсодыі».

Палессе для У. Караткевіча было экзатычным краем. Летам 1984 г. ён зноў разам з сябрамі адправіўся падарожнічаць на плыце ўніз па Прыпяці. Праўда, гэтае падарожжа стала апошнім у яго жыцці. 25 ліпеня 1984 г. Уладзіміра Караткевіча не стала.

Гэты пералік, безумоўна, можна было б доўжыць, дэталізаваць асобныя факты. Усё сказанае вышэй, аднак, выразна сведчыць, што літаратурны працэс на Берасцейшчыне ў 50—90-я гады XX стагоддзя стаў неад'емнай часткай развіцця ўсёй беларускай літаратуры.

## Паэзія

Сучасная беларуская паэзія прадстаўлена творцамі розных пакаленняў з усіх куткоў нашай краіны. Відаць, гэта дало падставу Нілу Гілевічу вобразна параўнаць яе з «беларускім лесам, дзе вельмі хораша і зусім натуральна суседнічаюць усе пароды дрэў, што растуць адвеку на гэтай зямлі, што на берагах Дняпра і Сожа, Нёмана і Буга, Дзвіны і Віліі, Прыпяці і Пцічы...». У гэтым жанры плённа працуюць і паэты з Берасцейшчыны: Ніна Мацяш, Алесь Разанаў, Ніна Загорская, Мікола Пракаповіч, Алесь Каско, Зінаіда Дудзюк, Раіса Баравікова, Леанід Дранько-Майсюк, Віктар Гардзей, Расціслаў Бензярук, Васіль Жуковіч, Любоў Тарасюк, Алесь Жамойцін, Валерый Грышкавец, Мікола Трафімчук, браты Васіль і Анатоль Дэбішы і многія іншыя. Значнае месца ў іх творчасці займае тэма малой радзімы і звязанае з ёю непазбежнае вяртанне памяці ў бацькоўскі дом, у сваю сям'ю, у незабыўныя мясціны дзяцінства (І. Арабейка «Хмелева», «У хаце сонечна было...», М. Бусько «Край мой», «Дзед», Н. Загорская «Адвечнасць», М. Рудкоўскі «Востраў», «Сінія Брады», «Мой дзед быў сельскім кавалём», Я. Янішчыц «Тут», М. Пракаповіч «Радавод», Н. Мацяш «Візітоўка», «Паэма жніва» і інш.). У такіх творах, як правіла, аўтары найперш апяваюць прыгажосць роднага краю, непаўторнасць яго краявідаў. Для некаторых з іх пейзажныя замалёўкі, у якіх душэўнае, інтымнае зліваецца са светам прыроды, сталі сапраўднай паэтычнай стыхіяй. Паказальнай у гэтым плане з'яўляецца лірыка ***Уладзіміра Марука***, якую даследчыкі літаратуры справядліва называюць «лірыкай у жывапісе». Яго творчая індывідуальнасць як паэта прыроды ярка выявілася ў зборніках «Зоркі ў кронах», «Ліст рабіне», «Інкрустацыя голасам». Лірычны герой паэта з Ганцаўшчыны не толькі захапляецца хараством прыроды. Да яе ён ідзе ў цяжкія душэўныя хвіліны, дзеліцца з ёй сваімі думкамі і пачуццямі (верш «Даверу пераборлівай прыродзе...»). Праз пейзажную дэталь У. Марук выяўляе душу чалавека, яго лёс. Для прыкладу спашлёмся на адзін з яго такіх інтымна-даверлівых вершаў «Азіраліся дрэвы», у якім выразна адлюстраваны ўнутраны стан чалавека, стомленага на дарогах жыцця:

А здарожаны,
выгнаны з гэтых шалёных дарог,
Я астатняе дрэва
на апошняй дарозе спыню,
І лісток папрашу,
і здзіўлюся (калісьці не мог),
І пякучай далонню
да голай душы прыхіну.

У творах паэтаў Берасцейшчыны вобраз малой радзімы не зводзіцца толькі да апісання канкрэтнай мясціны, дзе нарадзіліся іх аўтары і дзе прайшло іх дзяцінства. Радзіма для большасці з іх — гэта ўсё Брэсцка-Пінскае Палессе, якое сёння напаткала сапраўдная экалагічная катастрофа.

Я — часцінка зямлі,
і таму мне балюча,
калі нішчацца дрэвы,
высыхаюць крыніцы.
Гэты мой востры боль
крыкам жаласным кані
прылятае так часта
да сяліб з сенажацей,

— зазначае ў адным са сваіх вершаў Алесь Каско. Вось чаму многія творы берасцейцаў гучаць як заклік да гарманічнага існавання чалавека з навакольным светам. У іх — і пратэст супраць бяздумнага рабавання прыроды, і боль Чарнобыля (А. Каско «Палессем», Н. Загорская «Да зямлян», М. Бусько «Прыроды Цар», В. Сахарчук «Кропка на карце», З. Дудзюк «Чарнобыльская балада», «Забітая зямля» і інш.).

Любоў да бацькоўскай зямлі, на думку ўсіх паэтаў, немагчыма без любові да матчынай мовы, беларускага слова. Толькі ў роднай гаворцы можна адвесці душу:

...Прывязі — прашу —
Шыпшыны мне і мяты,
Гаварок палескі наш негаваркі.
Пашчыруем
Пад нягаснучым сузор’ем
Ціхай песні,
У прыпеўцы,
У жальбе...

— просіць Жэня Янішчыц. У другім сваім вершы «Мова» яна падкрэслівае:

Мова! Як сонца маё беларускае,
Ты свецішся словам кожным.

Цябе і заворвалі, і закопвалі.
І ўсё ж нашы продкі праз гора
Данеслі да нас цябе,
родную, цёплую,
Жывую і непаўторную.
І калі ты мяне толькі паклічаш,
Памру за цябе без енку.
Нашу я любоў да цябе
вялікую
У сэрцы сваім маленькім.

Лёс роднай мовы трывожыць сумленне многіх паэтаў — Н. Мацяш, Н. Гарагляд, А. Каско, М. Пракаповіча, М. Трафімчука, А. Разанава і іншых. Ім прыходзіцца па-свойму даказваць, гаворачы словамі Францішка Багушэвіча, што «мова наша ёсць такая ж людская і панская, як і французская, альбо нямецкая, альбо іншая якая». І зусім няма патрэбы вызваляць сваіх дзетак ад навучання роднай мове:

Хай, маўляў, дурніцаю рознай
Не засмечваюць галовы...

*(Н. Гарагляд)*

Мова — спадчына народа, а значыць — неабходная ўмова нацыянальнага адраджэння.

— Адкуль ты?
— З Беларусі.
— Беларус.
Ківаеш галавою: ну канешне!
І стане сэрцу соладка чамусь,
Хоць застанешся і спакойны знешне.
І песні ж беларускай не спяеш,
І хто такі — не ўспомніш — Каліноўскі:
Без гэтага нябедна пражывеш!..
Невераемна, што яшчэ ...але ж
Шчэ соладка пры згадцы: край бацькоўскі...

*(Н. Мацяш)*

Не змяншаецца зацікаўленасць сучаснай берасцейскай паэзіі слаўным мінулым роднага краю, любай Беларусі. Увагу паэтаў прыцягваюць усе эпохі і перыяды жыцця нашага народа. Іх асэнсаванне разглядаецца ў кантэксце часу мінулага і сённяшняга. Мастацкае ўвасабленне гістарычных падзей, вобразы славутых землякоў, чый лёс неаддзельны ад лёсу народа, паўстаюць у такіх вершах, як «Розгалас конніцы Кастуся Каліноўскага» М. Бусько, «Еўфрасіння, XII ст.», «Прыгонныя танцоры ў нясвіжскім тэатры Радзівілаў, XVIII ст.» Л. Тарасюк, «Малітва Апанаса Філіповіча»,

«Маналог Казіміра Лышчынскага» Н. Мацяш, «На вуліцы Крачкоўскага» Р. Бензерука і іншых. Праўда, часцей за ўсё ў асэнсаванні гістарычнага мінулага паэты звяртаюцца да трагічных падзей Вялікай Айчыннай вайны (Я. Янішчыц «У бабулі Паланеі», «Абеліскі», І. Арабейка «Драмлёва», паэма «Сцяна», М. Рудкоўскі «Каменні цытадэлі», Р. Баравікова «У час прагулкі з бацькам» і інш.).

Сённяшнім паэтам нашага краю характэрна філасофскае стаўленне да жыцця. У іх творах жыццё чалавека выяўляецца ва ўсёй яго разнастайнасці, сукупнасці перажытага і адчутага. Асабліва адметнай у гэтым плане з'яўляецца лірыка ***Алеся Разанава***. Паэты-землякі сцвярджаюць высокачалавечыя адносіны паміж людзьмі, выступаюць супраць бездухоўнасці і абыякавага стаўлення да нацыянальнай культуры. Іх хвалюе пытанне, чаму так перамяніўся свет, чаму ён становіцца «звар'яцелым домам» (В. Сахарчук). Гэтае пытанне адрасавана людзям, каб абудзіць іх сумленне, прымусіць задумацца пра сваю адказнасць перад сучаснікамі і нашчадкамі. Аўтары паэтычных твораў нагадваюць нам, чытачам, што плынь жыцця бясконцая, але жыццё чалавека на зямлі — толькі адно імгненне ў вечнасці прыроды. І яно не можа прайсці бясследна. Кожны чалавек павінен пакінуць пасля сябе след.

Як бачым, берасцейская паэзія мае шырокі тэматычны дыяпазон. У кожнага з мастакоў слова ён, безумоўна, свой, але ўсе яны і іх творчасць хораша ўпісваюцца ў агульнае рэчышча сучаснай беларускай паэзіі. Праілюструем гэта на прыкладзе Я. Янішчыц, Р. Баравіковай, Н. Мацяш і В. Гардзея.

Уявіць беларускую літаратуру без паэзіі ***Яўгеніі Янішчыц*** практычна немажліва. Нарадзілася яна 20 лістапада 1948 года ў вёсцы Рудка Пінскага раёна. Неўзабаве сям'я пераехала ў вёску Велясніца, што таксама на Піншчыне. Адтуль, з-пад Ясельды, пачалася яе Песня. Пачалася рана. Пра вучаніцу Парэцкай сярэдняй школы Жэню Янішчыц адразу загаварылі як пра талент, як пра моцны і надзвычай светлы паэтычны голас. Да яе, тады яшчэ зусім дзяўчынкі, у палескую вёску Велясніца, прыязджала, здзіўленая і ўражаная першымі яе вершамі, вядомая беларуская паэтка Еўдакія Лось. Усе прадракалі Жэні вялікую літаратурную будучыню. Таму і беражліва ставіліся да яе, па мажлівасці падтрымлівалі. Спачатку падчас вучобы ў Беларускім дзяржаўным універсітэце, затым — у гады працы, асабліва творчай. Ніхто ў сваіх прадказаннях не памыліўся. Не прадбачылі толькі аднаго: яе ранняга адыходу. 25 лістапада 1988 лёс зрабіў нечаканы, толькі аднаму яму вядомы зігзаг, і Яўгеніі Янішчыц не стала. Яна пайшла з жыцця, пакінуўшы нам свае кнігі, паэтычныя радкі, поўныя любові і жалю.

Якой яна была? Мяркуючы па шматлікіх фотаздымках, успамінах родных і блізкіх, тых, хто з ёю працаваў, сустракаўся, сябраваў, Жэня была прыгожай і таленавітай. І не проста прыгожай, а ўзнёслай і рамантычнай, бы тая князёўна, у жылах якой цячэ блакітная кроў. І не проста таленавітай, а пазначанай боскім дарам. Але, напэўна, ніхто не адкажа на гэтае пытанне лепш, чым радкі яе вершаў:

І кожны дзень — гарачы вырай
Здзіўлення, радасці, клапот.
Так я іду на голас ліры,
Дзе ўсё — фантазія, палёт.
Які зайздросны свет паэта —
З нябачных промняў
вобраз ткаць,
І — заміраць на схіле лета,
І ў вольным слове ўваскрасаць!

Ліра Яўгеніі Янішчыц пачалася найперш з роднага Палесся, з любові да свайго краю і яго непаўторных краявідаў.

Прыедзь у край мой ціхі,
Тут продкаў галасы,
Тут белыя бусліхі
І мудрыя лясы...

— запрашае яна ў першай сваёй кнізе «Снежныя грамніцы» (1970). Ёю маладая аўтарка не шукала гаманлівай славы. Яна толькі раскрыла сваю чуйную і ўражлівую душу, увасобіла ў паэтычныя радкі тое, што ўвабрала ў сябе з матчыным малаком — любоў да роднага краю і яго людзей. Як жывыя паўстаюць перад намі азёрныя лугі, высокія хмельныя травы, зімовы кашлаты лес... Аднекуль здалёку даносіцца дзіўная песня жураўлінай чарады, чуецца горкі пах палыну... Менавіта з першай кнігі выявілася ў Я. Янішчыц усеабдымная любоў да палескай зямлі, роднай вёскі, бацькоў і аднавяскоўцаў, якая стала вызначальнай рысай усёй яе паэзіі:

...«Я люблю-ю!» — панесла ўдалеч
рэха.
«Я люблю-ю!» — пацвердзілі дубровы,
Светлыя, як лебедзя крыло.
І для песні падказала словы.
Роднае палескае сяло.

У наступным зборніку — «Дзень вечаровы» (1974) — вобразы роднага краю напаўняюцца новымі рэаліямі. Па-ранейшаму лёгка і шчыра льюцца радкі пра мілую старонку, зялёнае Палессе. У гэты спеў, аднак, паступова ўрываецца трывожны роздум пра свой уласны шлях, адчуваецца адказнасць паэткі за кожнае прамоўленае слова.

З якіх лугоў,
З якіх палянаў
Мне назбіраць для слоў настой?
Як за падманам,
За туманам
Іду павольна над ракой.
І растрывожана, і дзіўна
Так пачынаецца мой шлях...
Хто я ў лясах тваіх,
Радзіма?
Радзіма,
Хто я ў палях?

Да асэнсавання Радзімы крыху пазней дадасца яшчэ і моцнае мацярынскае пачуццё. Цэлым непаўторным светам стаў для Я. Янішчыц маленькі сынок — «голенькі ды босы, мой бялюткі бацянок».

Сапраўдным паэтычным гімнам роднаму Палессю, бацькам і аднавяскоўцам гучаць яе вершы з кніг «Ясельда» (1978), «На беразе плача» (1980), «Пара любові і жалю» (1983), «Каліна зімы» (1987). З іх чытач можа ўявіць рэчкі Ясельду, Лану, Прыпяць, вёскі Велясніцу, Агова, Альшанаўку, Гойнава, Бор, Горбень, Сватаўцы, Пятроўку, Закуцце, Быліны, Кажухава, Чудкі, Шаўцы... Гэтыя мясціны назаўсёды сталі блізкімі і дарагімі сэрцу паэткі, праз іх праляглі яе шляхі, з імі звязаны першыя жыццёвыя радасці і трывогі.

Вёска для Жэні Янішчыц — гэта найперш тутэйшыя людзі. Вось чаму героямі яе вершаў, як правіла, з'яўляюцца простыя вяскоўцы — суседкі, сваякі, часам проста знаёмыя: дзед Сымон, цётка Матрона, дзядзька Арцём, Павел і Нікан, бабуля Паланея, Ліда Саўчукова... Уражвае ў гэтым плане верш «Апавяданне пра жытнёвы сноп». У ім зліліся ў адно цэлае і глыбіня думкі, і адчуванне паэткай сваіх каранёў, і вялікая адданасць роднай зямлі, і тонкае пранікненне ў душу народа. Жытнёвы снапок, які звязала на шчасце цётка Ліда Саўчукова, Жэня беражліва прывезла ў сталіцу, у сваю гарадскую кватэру. Ён стаў для яе сонечным промнем, ахоўнікам ад бяды і ўсіх няшчасцяў, крыніцай натхнення:

Цётка Ліда Саўчукова,
Твой дасціпны жарт нашу
І — калі шукаю слова,
І — калі яго пішу.
І калі ў жыццёвай прозе
Апускаю рукі ніц, —
Голас твой, нібы калоссе,
Над сталом маім звініць.

Вершы Яўгеніі Янішчыц перапоўнены людскімі галасамі, іх нялёгкімі лёсамі. Так, вайна скалечыла лёс дзеда Цішы, забрала ў яго памяць, але паэтка верыць у гэтага чалавека, давярае яму і не памыляецца:

Як вецер хвалі раскалыша,
І з вока выцісне слязу,
— Трымайся! — мне гаворыць Ціша, —
Не бойся, — сам цябе вязу.

Няпроста таксама склалася жыццё ў Паўла і Нікана — душэўных, чулых аднавяскоўцаў, якія дапамагаюць маці. Для паэткі яны — апосталы. Першы ўмела кіруе канём, «спраўна ходзіць сякера ў другога».

А калі спорны дзень прамільгне,
За сардэчнай і ціхай вячэрай —
Павел чорны канцлагер кляне,
Грозіць атаму Нікан сякерай.
Паласнуць, як па сэрцы, агнём,
Дзве аповесці ў сумным гуморы...

Дакладнымі партрэтамі, нетаропкім палескім гаварком, прыгожымі краявідамі родных мясцін напоўнена паэма Яўгеніі Янішчыц «Ягадны хутар», змешчаная ў зборніку «На беразе плача». Напісана яна ў форме лістоў ад маці, ад дзядзькі Арцёма, ад стрыечнага брата. Да гэтых лістоў дадаецца паэтычны каментар Жэні Янішчыц. З твора мы даведваемся пра штодзённае жыццё вяскоўцаў, іх клопаты і трывогі. Так, у адным з лістоў дзядзька Арцём паведамляе, што «ваюе з лесам. Не з лесам — хутчэй з людзьмі. Бадай яго, з тым прагрэсам! Сякуць і сякуць... Каб мог — засланіў бы грудзьмі. Адзін маладняк амаль што, а дрэвы не хутка растуць...». У лістах ад мамы найперш адчуваецца яе трывога за дачушку: «Прашу, болей глядзі за сабою. Ведаю, адзінота — яна гняце. Назбірала табе дзівасілу і зверабою, а то свецішся ўся, як абраз у куце. Думай усё ж за сабою найперша, глядзі на свет гэты больш весялей. Халера пабрала б гэтыя вершы, без іх мо была б у жыцці шчаслівей. Мо я й не тое табе парадзіла, табе, канешне ж, лепей відаць...».

Абагульнены вобраз землякоў створаны ў «Баладзе вернасці». Паэтка ўзрушана, захоплена і адначасна здзіўлена іх дабрынёй, сардэчнымі адносінамі да ўсіх людзей, у тым ліку да сябе:

...А вы адкуль з такою дабрынёй
І да мяне, і да майго малога?
Лаўлю ласкавы поціск вашых рук,
Што загрубелі ад работы трошкі.
А ці вядома пачуццё разлук

Вам, неразлучным, аж да самай дошкі?
Адкуль у вас пагэтулькі святла?..
Ды схамянуся, тут не трэба словы.

Менавіта ў іх, аднавяскоўцаў, а найперш — у бацькоў, вучылася Жэня Янішчыц любіць людзей і Радзіму, сваю мову і родную песню. У пpасторным і вялікім свеце надзейным прытулкам для яе заўсёды была бацькоўская хата. Яна зведала дым і страты, часта жыла ў самоце, але паэтка бласлаўляе яе, успрымае як паратунак ад усіх жыццёвых нягод, удзячна ёй за тое.

Што не маўчыць,
Калі прыеду позна
І позна сяду за шырокі стол...

Асобнай старонкай творчасці Яўгеніі Янішчыц з'яўляюцца вершы, прысвечаныя бацьку, маці, сыну. Сярод іх асабліва ўражваюць «Ля ложка хворай маці», «Мама падрэзала косы», «Мама», «Ты косіш сена, колеш дровы», «Матчына сіла», «Бацькавы дровы», «Бацькава музыка», «Бацькава дарога», «У калыханку сыну» і інш. У іх вобраз маці — гэта не проста вобраз жанчыны, якая дала жыццё. Гэта вобраз вясковай руплівіцы, працаўніцы, салдаткі, удавы. Яна прывыкла

Позна класціся. Рана ўставаць.
Рана ўставаць — не бяліцца:
Па-над загонамі шчыраваць,
Па-над калыскай маліцца.

Я. Янішчыц называе яе то перапёлкай жалю, то сойкай скрухі, то кнігаўкай і нават «паэткай са шчымліваю грудною песняй».

Чалавекам-працаўніком, які «колькі бачыў — столькі хадзіў», перамераў усе тутэйшыя вёрсты, поле, лес і сенажаць, паўстае са згаданых вершаў бацька паэткі. Усё сваё жыццё ён клапаціўся пра дзень наступны, «Пакуль сама на цябе дарога Не ўпала жоўтым балючым пяском...».

Як бачым, у сям'і, дзе нарадзілася Яўгенія Янішчыц, спрадвеку панавалі згода і любоў, асновай усяго хатняга дабрабыту была праца ўласных рук. Тут ведалі і шанавалі народныя звычаі і традыцыі. На такіх высокіх маральных прынцыпах з ранняга дзяцінства выхоўвалася і будучая паэтка. Увесь час яна азіраецца на блізкіх і дарагіх людзей, вывярае свой крок па тых, каго змалку любіла. Пацвярджэннем гэтаму з'яўляецца верш «Ты вучыла мяне сеяць жыта і лён», у якім ёсць наступныя радкі:

Ты вучыла мяне сеяць жыта і лён
І цярплівасці вечнай — уголас не плакаць.

Апынуся калі сярод чорных варон, —
Я памру, ды не буду па-іхняму каркаць.

І далей:

Мама, сею не жыта я, сею не лён.
Але з лёну і жыта я словы складаю.
І калі ўглядаюся ў парасткі дзён —
Чую крокі тvae. І свае вымяраю.

Паступова вершы Я. Янішчыц становяцца не толькі больш глыбокія па змесце, але і сумныя па інтанацыі. У іх усё мацней і мацней пачынаюць гучаць ноткі трывогі і адчаю, асабліва тады, калі голас Ліры кранаў вельмі таемныя струны душы і з’яўляліся паэтычныя радкі пра каханне: гарачае, трапяткое, а найчасцей такое, калі «смяюцца вочы, поўныя святла, а на губах — гарчавінка самоты».

На гэтым фоне як паэтычнае развітанне з сынам успрымаецца верш «На ўсякі выпадак...». Ён поўны пяшчоты і жалю. Яна просіць сына быць у жыцці адказным, сумленным, верным у сяброўстве, умець пастаяць за сябе,

Бо можа так здарыцца,
Што заўтра —
Не выйду табе насустрач.
Мама.

«Пра лірыку Яўгеніі Янішчыц, — як справядліва заўважыла Любоў Гарэлік, — гаварыць цяжка, бо кожны верш і радок настолькі арганічна ўваходзіць у яе, што вылучыць нешта асноўнае, каб не парушыць цэласнасць паэтычнага ўспрымання амаль немагчыма» *(Гарэлік Л. Паэзія суму і святла // Полымя, 1996. № 3. С. 269)*. Яе пяшчотнае, трапяткое слова аздобіла не толькі беларускую літаратуру, яно разляцелася па ўсім свеце, далёка за межы нашай Бацькаўшчыны. Былі ўжо вялікія здабыткі, прэміі і ўзнагароды, прыйшла шырокая вядомасць, але... няўмольны лёс зрабіў сваё.

Цалуе мама твой партрэт
І да магілы прыпадае,
Ужо без слёз яна рыдае.
Навошта, Жэня, на той свет
Пайшла такая маладая?..
*(В. Жуковіч)*

Беражліва захоўваюць памяць пра Яўгенію Янішчыц яе землякі. 21 лістапада 1998 года ў Парэччы, дзякуючы намаганням настаўніцы мясцовай школы Антаніны Паўлаўны Сідарук, быў адкрыты музей паэткі. Сёння ў ім захоўваецца каля 2 тысяч экспанатаў. Кніга водгукаў запаўняецца запісамі наведвальнікаў не толькі з Беларусі, але і Расіі, Украіны, Польшчы, Італіі, Германіі і іншых краін.

***Раісу Баравікову*** лёс надзяліў тытулам непаўторнай пісьменніцы, зрабіў яе найперш паэткай кахання.

Казаў мудрэц: яно — і нараканне,
і сонца, і пякучай цемры сплаў...
«Якія вочы мне дало каханне!»,
але... спярша душу яму аддаў.
Гляджу на ўсё вачамі маладымі,
і гнеўнымі, і добрымі ўдвая...
Каханне і прынізіць, і... узніме,
пакуль у ім жыве душа мая.

У адным з інтэрв'ю на пытанне, што такое для яе каханне, Раіса Баравікова адказала: «...хутчэй за ўсё прывід. То з'яўляецца, то знікае дзесьці далёка наперадзе. Мігціць і мігціць... Ён дазваляе ўвесь час быць у стане закаханасці. А закаханаму лёгка намаляваць і сустрэчу, і расстанне, і захапленне, і расчараванне. У большасці маіх вершаў няма адрасатаў, ёсць прывід і фантазія — фантазія пачуццяў, наколькі дазваляе душа» *(«На раздарожжы смутку і надзей»: Інтэрв'ю з Р. Баравіковай // Літаратура і мастацтва, 1998, 6 сакавіка. С. 5).*

Пакуль гэтай фантазіі нашай зямлячкі хапіла на дзевяць паэтычных зборнікаў: «Рамонкавы бераг» (1974), «Слухаю сэрца» (1978), «Такое кароткае лета» (1981), «Адгукнуся голасам жалейкі» (1984), «Каханне» (1987), «Пад небам першага спаткання» (1990), «Люстэрка для самотнай» (1992), «Сад на капялюшыку каханай» (1998), «Дрэва для райскай птушкі» (2007). Усе яны — своеасаблівая энцыклапедыя кахання, напісаная ад імя жанчыны, якую кахаюць, і ад імя той, якая кахае сама. Лірычная гераіня Р. Баравіковай — асоба чулая, вытанчаная ў сваіх пачуццях, здольная да самаадданасці. Яна то радасная і ўзнёслая, то зажураная і роспачная. Але заўсёды прыгожая, чыстая і светлая ў сваіх памкненнях, у жаданні кахаць:

Выкрала
Сэрца маё каханне!
Выткала
Роспач у ім — расстанне!
У самай блакітнай краіне
Нат смешна ад гэткай падзеі.
Выкраду
Сонца ў яснага неба!
Выкую
З промняў гарачых сэрца!..
Каб грэла маю работу,
Поўнілася пяшчотай...
А больш мне нічога,
Нічога,
Нічога
Не трэба!

Нягледзячы на такую адданасць адной тэме — тэме кахання — душа паэткі з Бярозаўшчыны (нарадзілася яна 11 мая 1947 года ў вёсцы Пешкі) уяўляе сабою цэлую скарбонку пачуццяў. Ёсць сярод іх і глыбокая прывязанасць да сваёй малой радзімы — Палесся. Большая частка вершаў, прысвечаных роднаму краю, была напісана Р. Баравіковай у Маскве ў час вучобы ў Літаратурным інстытуце імя М. Горкага. Перад гэтым яна закончыла Бярозаўскую сярэднюю школу і год адпрацавала ў быхаўскай раённай газеце «Маяк Прыдняпроўя». Для дзевятнаццацігадовай дзяўчыны туга па родных мясцінах аказалася надта вострай.

Прыводзяць шляхі-дарогі
Да Белай Вежы на ўзлессі!
Як да бацькавага парога
Іду да цябе, Палессе!
Сумую — мой лёс-гарэза
Выносіць на хвалях хуткіх
У чысты да слёз бярэзнік,
У царства алешын гнуткіх.
Бывала ў далонях люляла,
Тулілася целам гарачым,
Рамонкам заўсёды ўяўляла
Цябе ў летуценнях дзіцячых!
І бегла, дзе жыта радзіла,
Збожжа навіла ў вядзерцы,
Іду да цябе, Радзіма,
З матчынай песняй у сэрцы.

Вобраз рамонка, выкарыстаны ў прыведзеным вышэй вершы, стаў у творчасці паэткі цікавым і своеасаблівым сімвалам усёй радзімы, нават падказаў ёй назву першага паэтычнага зборніка — «Рамонкавы бераг». Цяпер на гэтым беразе яна бывае рэдка. Удалечыні ёй сніцца хата, дзе жылі калісьці («Мне сёння прыснілася хата...»), часта ў памяці паўстае родная вёска, якая ўражвае сваёй незвычайнай цішынёй — там нават певень маўчыць, — але ўсё роўна прыцягвае, кліча да сябе («Наша вёска»), бачыцца ў вясновым разліве Ясельда («На Ясельдзе маёй зноў крыгаход»).

Асабліва сумавала паэтка па блізкіх і родных людзях, найперш — па маці і дзядулі. Маці прыгадваецца ёй у пастаяннай працы, у штодзённых клопатах па гаспадарцы. Галоўная, аднак, яе трывога — за лёс дачушкі, якая цяпер толькі ў суботу можа наведацца дадому. Р. Баравікова разумее гэтую мацярынскую трывогу, прымае яе з удзячнасцю і імкнецца супакоіць роднага чалавека. «Ты не глядзі з трывогай на мяне...», — просіць яна ў адным са сваіх твораў. Такія вершы, як «Жалейка», «Трыпціх» паэтка прысваціла светлай памяці дзядулі. Ёй і дагэтуль помніцца, як у мален-

стве сядзела ў яго на каленях, слухала цікавыя казкі, якія і сёння свецяць здалёку, і паціхіньку засынала.

У наступных зборніках Раісы Баравіковай таксама пазнаюцца вытокі, з якіх пачалася ўся яе творчасць. Цяпер яны прыходзяць як успаміны, «лісты юнацтва», бачацца як «радзіннай сувязі масты»:

Мне ліпень прынясе з-пад Брэста
пары юначай успамін,
начныя шолахі агрэста
і пошум досвітны рабін.
З таго далёкага паўстанку,
з тае няблізкае вярсты,
ноч перакіне на світанку
радзіннай сувязі масты.

Паэтка, ужо апынуўшыся ў сталіцы, працуючы спачатку на кінастудыі «Беларусьфільм», затым — у рэдакцыях розных газет і часопісаў (цяпер яна — галоўны рэдактар часопіса «Маладосць»), заўсёды помніць пра свае карані, не саромеецца прызнацца:

Я ж родам з глыбінь Палесся,
з вёсачкі сярод лесу.

Вось чаму ў яе творах выразна адчуваецца пастаянная знітаванасць з лёсам гэтага краю. Для прыкладу спашлёмся на верш «Восень на Палессі». Гэта не проста пейзажная замалёўка, якая дакладна перадае карціну суцэльнай паводкі на Палессі: вада ўсюды — куды ні глянь, «нібыта коціць мора Герадота з глыбіняў часу свой дзевяты вал». У ім на першы план выступае здольнасць аўтара суперажываць чужой бядзе, сваім землякам, якія апынуліся з-за няспынных дажджоў у цяжкім становішчы. Варта, аднак, адзначыць, што шэраг вершаў паэтка прысвяціла Магілёўшчыне, у прыватнасці вёсцы Цяхцін, куды з Бярозаўшчыны пераехала жыць маці.

Шчырая, непадуладная часу лірыка Раісы Баравіковай даўно знайшла свайго чытача, атрымала вядомасць і прызнанне. Так, зборнік вершаў «Каханне» быў адзначаны Літаратурнай прэміяй імя А. Куляшова, а за кнігу «Люстэрка для самотнай» паэтка стала лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы. «Не ведаю, як будзе далей, але пакуль я не адчуваю свайго ўзросту, думаю, што для паэта гэта важна, — зазначае сама Раіса Баравікова. — Праўда, наступную сваю кніжку хачу назваць «Ружы апошніх пацалункаў». Магчыма, яна завершыць мой паэтычны шлях». І працягвае: «Мне падаецца, што паэзія — справа маладых, мала ў якіх паэтаў было другое дыханне. Мне хочацца нечага большага, і таму я часам спрабую зазірнуць у другія жанры... Здаецца, што мацней за ўсё вабіць

дзіцячая літаратура». Так, ужо ўбачыла свет яе кніжка казак і апавяданняў для дзяцей «Галенчыны «Я», альбо Планета Цікаўных Хлопчыкаў» (1990), кніга фантастыкі для малодшых падлеткаў «Дзве аповесці пра міжпланетнага пажарніка і казка пра жабяня «Квыш-Квыш» (1996).

Паспрабавала свае сілы Раіса Баравікова і ў прозе (у 1980 годзе з'явілася яе аповесць пра каханне «Кватарантка», у 2002 годзе ўбачыў свет зборнік апавяданняў «Вячэра манекенаў»), і ў жанры драматургіі. З-пад яе пяра выйшлі п'есы «Цётка Малання з Асаўца», «Пятля часу», «Барбара Радзівіл». Найбольшую вядомасць набыла апошняя — драматычная паэма ў дзвюх дзеях «Барбара Радзівіл». Яна ўваскрашае не столькі ўласна гісторыю, як можа здацца на першы погляд, колькі зноў гісторыю кахання — сапраўднага, вялікага і трагічнага.

У паэтычнай спадчыне ***Ніны Мацяш*** ёсць верш, назва якога складаецца з чатырох лацінскіх слоў «Vita brevis, Patria eternis», што ў перакладзе азначае: «Жыццё кароткае. Радзіма вечная». Гэты выраз пра вечнасць, а значыць і вернасць Радзіме стаў адным з вызначальных ва ўсёй творчасці паэткі. Ці то ў сваіх вершах, якія склалі больш за дзесятак зборнікаў — «Агонь» (1970), «Удзячнасць» (1973), «Ралля суровая» (1976), «Прыручэнне вясны» (1979), «Поўны келіх» (1982), «Жнівень» (1985), «Паварот на лета» (1986), «Шчаслівай долю назаві» (1990), «Паміж усмешкай і слязою» (1993), «Я вас люблю» (1998) і інш., — ці то ў паэмах і перакладах, ці ў творах для дзяцей яна нязменна кіруецца прынцыпам, што «к далёкаму любасць ад роднага йдзе».

Роднымі для Ніны Мацяш найперш сталі яе сям'я і Бярозаўшчына, дзе 20 верасня 1943 года ў вёсцы Нівы нарадзілася паэтка. Пасля заканчэння Ніўскай сямігодкі яна працягвала вучобу ў Бярозаўскай сярэдняй школе. Затым, у 1960 годзе, паступіла на факультэт французскай мовы Мінскага педагагічнага інстытута замежных моў. На трэцім курсе цяжка захварэла — немач скавала ёй ногі. Родныя, знаёмыя, чулыя медыкі дапамаглі Ніне дастойна вытрымаць удары лёсу, экстэрнам скончыць інстытут. Неўзабаве яна адчула вострую патрэбу выказаць сябе ў слове, стварыла свой паэтычны свет, поўны глыбокіх і высакародных пачуццяў: любові і вернасці, шчырай адданасці і годнасці.

Вытокі свайго паэтычнага таленту Ніна Мацяш бачыць у сям'і. «І я сама даўно зразумела, — прызнаецца яна ў аўтабіяграфіі, — усё, што ёсць ува мне добрае, — яно ад іх, ад маіх бацькоў. У пэўнай ступені нават вершы ад іх...». Вось чаму «ў аўтаркі з Бярозаўшчыны шмат вершаў, адрасаваных бацькам. Ёсць вершы-прысвячэнні брату і пляменніку, светлай памяці бабулі. Большасць твораў

так званай сваяцкай тэматыкі, — як зазначае Вера Ляшук, — прысвечана маме». Такія вершы, як «Песня матчынай маладосці», «Калыханка маме», «Рукі маці», «Тры песні», «Мароз на дварэ», «Бацьку», «Два дрэвы», «Бабуля памерла», паэма «Тры каласкі любові і смутку», «Паэма жніва» ўяўляюць сабою сапраўдны мастацкі летапіс сям'і Мацяшоў. Менавіта ў роднай сям'і вучылася Ніна працавітасці і любові да бліжняга.

Гэткіх душ не пакалечыць быт!..
І ў мяне ад вас перакананне,
Што адзіна праца і каханне
У жыцці апірышча і шчыт,

— сцвярджае яна ў «Паэме жніва». З сям'і ідзе ў Н. Мацяш і вера ў хараство свету, і здольнасць супрацьстаяць нягодам, і жыццёвы аптымізм. Усё, на чым трымалася іх сям'я, паэтка помніць і шануе. Гэта — фундамент яе жыцця, аснова, на якой будуюцца ўзаемаадносіны з іншымі людзьмі.

Хай вам, бацькі, не плачацца па дзецях:
Нам сцежкі вашы
        весці ў глыб жыцця.

Ад бацькавай хаты, сям'і думка паэткі пераходзіць да роднай старонкі. На пытанне «Адкуль ты? Скуль ты родам?» яна з гордасцю адказвае:

— З палескай той раўніны,
Якая з даледавіковых часаў
Пароднена і з доляй, і з нядоляй.
О, нездарма яна, мая старонка,
І Белым возерам глядзіць,
Як вечнасць,
І Чорным возерам глядзіць,
Як памяць...
Бярозаўшчына!

Верш «Візітоўка», з якога ўзяты гэтыя радкі, з'яўляецца шчырым і хвалюючым словам Ніны Мацяш пра сваю малую бацькаўшчыну, родны кут. У ім у адно цэлае зніталаваны яго мінулае і дзень сённяшні. Край, дзе пульсуе Ясельда, дзе прыгожыя бярозавыя гаі ды магутныя бары і дубровы, многае перажыў і пабачыў. Старонкі яго гісторыі часта пазначаны трагедыямі: канцэнтрацыйным лагерам «Бяроза», бунтам супраць улад у Мальчы, расстралянымі карнікамі осаўцамі, славутай Здзітаўскай абаронай. Тут былі

І ямішчы пры кляштары ў Бярозе,
І ўрочышча Смалярка, і траншэі

Утульналесай Броннае Гары,
Дзе тысячамі гінулі бязвінна
Славяне й неславяне,
Дзе па-зверску
«Звышчалавекі» нішчылі людзей.

За гэтую зямлю, яе гонар і песеннае заўтра ўмелі пастаяць

Твае Альшэўскія ды Кутнікі, Труцькі,
Вячоркі, Руцічы, Хвядчэні,
Барушкі, Коласы ды Салаўі,
Іх мноства нескароных...

Вось чаму сённяшнім бярозаўцам «ёсць чым ганарыцца, Ёсць чым жыць, І што апець». Паэтка ад усёй душы зычыць роднай зямлі дабра, міру, дабрабыту.

Памяці Юрыя Папова, дваццацігадовага стралка-радыста, камсорга 130 СБАП, памяці ўсіх лётчыкаў гэтага палка, якія загінулі на Бярозаўшчыне ў першыя дні Вялікай Айчыннай вайны, Ніна Мацяш прысвяціла «Чэрвеньскую баладу 1941 года дня 25-га». Пра што ім думалася ў няроўных баях? — разважае паэтка. І знаходзіць толькі адзін адказ: «Радзіму б засланіць сваім крылом!..». Засланіць, каб болей ніколі не зведала гэтая зямля бяды і слёз, каб яе дзеці маглі ўбачыць, як цвітуць лугі, каласіцца ў полі жыта, паслухаць як шуміць лес, ападае восенню лісце, паспытаць бярозавага соку, падобнага да жывой вады... Уся гэтая прыгажосць роднага краю знайшла сваё паэтычнае адлюстраванне ў пейзажных замалёўках Ніны Мацяш («Дажджына», «Паварот на лета», «Лясны мураш», «Арабіны», «Васількі», «Ля Белага возера» і іншыя). Асаблівую любасць у паэткі выклікае Белаазёрск — горад, з якім звязаны яе лёс, пачынаючы з 60-х гадоў. Гэта яе залаты сон, «яшчэ не складзеная песня»:

Ці бачыў ты хоць раз Белаазёрск,
Калі на дахі мякка ноч прысядзе,
Павее казкай ад старых азёр
І пойдуць песні поруч па абсадзе?
Тады глядзіш на родны, любы кут
І цэлы свет гатоў у сведкі клікаць:
Ці столькі зор насыпалася тут
На дол з каўша Мядзведзіцы Вялікай,
Ці гэта ў небе, бы ў люстэрку тым,
Адбітак зыркіх усіх агнёў Палесся?..

— чытаем у вершы, які так і называецца «Белаазёрск».

Апошнім часам Ніна Мацяш звяртаецца ў сваёй паэзіі да гістарычных матываў, яе цікавяць значныя і неардынарныя паста-

ці айчыннай гісторыі і культуры. У гэтым плане варта адзначыць «Маналог Казіміра Лышчынскага», «Малітву Апанаса Філіповіча», вершы «У Люсіне», «Дарожнае», «На свяце паэзіі ў Крошыне», «Памяці Жэні Янішчыц», напісаныя, як сведчаць самі назвы, на рэгіянальным матэрыяле Берасцейшчыны. Верш «Памяці Жэні Янішчыц» напоўнены жалем і смуткам з прычыны заўчаснай смерці не толькі выдатнай паэткі-зямлячкі, але і блізкай сяброўкі, якой была для яе Жэня Янішчыц:

Мая ж ты назяблая кнігаўка, горная каня,
Бязрадная птушка бязраднай палескай
старонкі!..
Пранізлівым крыкам зайшлася душа твая
трапяткая —
І вырвалася з невыноснай ужо для яе абалонкі...
Мая ж ты трысцінка, з да жалю ранімага роду,
Як жорстка, ласкавая, ты долі і людзям сказала,
Што гэтага свету, што гэтага згубнага лёду,
Самоты і скрухі няўгойнае ты не прымала.
Ад догмы ці зайздрасці крыламі не ўбараніцца,
Да расчужання, да самазнішчэння звыкаем...
Ці праўда, што ўжо не пакутуеш ты, сястрыца?
Трысцінка, трагічная птушка трагічнага краю...

Гэтаму краю — роднаму Палессю, Беларусі — аддала ўсю сябе Жэня Янішчыц. Ніна Мацяш і яе лірычная гераіня таксама клянецца аддаць свае песні, нават тыя, што некалі спявала бабуля, роднай зямлі.

Я толькі дабаўлю да іх тыя словы,
Што сёння лунаюць над краем вясковым...

Сапраўдным гімнам Палессю, роднай Ганцаўшчыне гучаць многія вершы ***Віктара Гардзея*** (нар. у 1946 годзе ў вёсцы Малыя Круговічы). Пасля заканчэння Круговіцкай дзесяцігодкі ён некаторы час працаваў у калгасе, затым — у рэдакцыях ляхавіцкай і ганцавіцкай раённых газет, завочна вучыўся на аддзяленні журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта. З 1983 года паэт жыве і працуе ў Мінску.

Ва ўсіх сваіх паэтычных зборніках: «Касавіца» (1975), «Верасное палясоўе» (1978), «Засевак Радзімы» (1983), «Незабудкі азёр» (1985), «Узрушэнне» (1988), «Дзікая пчала» (1994), аднатомніку выбранай лірыкі «Зялёныя дажджы» (1997) і інш. — Віктар Гардзей выступае найперш адданым сынам, шчырым патрыётам палескай зямлі. Яна для яго як матуля, якая «атуліла ласкавым крылом». Вось чаму ў паэта заўсёды «ёсць патрэба родны бачыць дом».

Як бы край ні вабіў невядомы,
Як бы новы ні дражніў блакіт,
Сэрца, там пакінутае дома,
Да сябе прыцягне, бы магніт,

— прызнаецца ён у адным з вершаў. Родная зямля, на думку паэта, самая прыгожая і пяшчотная, дзе і жыццё бурліць, «дзе кожны мае клопат свой». І куды б ні закінуў лёс, ён заўсёды адчувае сваю непаўторную еднасць з бацькоўскім краем: «Я — тут! Я — ваш! Я — ёсць!».

Многія вершы Віктара Гардзея напісаны на рэгіянальным матэрыяле Берасцейшчыны. Яны выяўляюць непасрэдныя ўражанні паэта ад убачанага ці перажытага. Палескі край, яго непаўторная прырода і людзі, слаўная гісторыя роднага краю паўстаюць перад чытачом з такіх твораў, як «Горад над Цною», «Сусед мой хадзіў у мінёрах», «Брэсту», «У Пушчы», «Зубры», «Я дамоў прыеду...», «Сяўба», «Белая вежа», «Рэха журбы», «Чаго прыціх, лес вераснёвы?», «Целяшоў дуб» і інш.

Паэта хвалюе, што ў апошні час на родную зямлю абрынулася многа бедаў. Адбываецца духоўнае збядненне людзей («напіваецца бедна басота», «зноў забіваюць людзей з-за граша», рэдка стала гучаць на Палессі матчына мова — «Астравы, дзе мова не памёрла, У тумане бачацца здаля» і г.д.), яснавокі воблік роднага краю засланяе пыл ад меліярацыйных работ і высокай радыяцыі. Сумна бачыць сёння невясёлыя палескія краявіды — загублена не адна рачулка, зглумлена не адна сенажаць, раніцай ужо не чуваць ляснога салаўя, наўзрыд плачуць чайкі, «стогнуць гаі, засыхаюць дубровы, Свежыя раны бінтуе туман...».

Тым не менш паэт верыць, што родны край, «перажыўшы войны і чуму», не прападзе і не знікне.

Віктар Гардзей надзелены талентам не толькі тонкага лірыка, але і цікавага празаіка. Ён — аўтар шэрага апавяданняў і аповесцей («Дом з блакітнымі аканіцамі», «Жыта ганьбу не заслоніць» і інш.), кніг для дзяцей — «Чырвоны грабеньчык», «На арэхавай палянцы», «Коцікі на вярбе», «Зай, які лічыў варон» і іншых.

Пісьменнік жыве клопатамі сваіх землякоў, і тыя плацяць яму любоўю і прыхільнасцю да яго творчасці. Невыпадкова імя В. Гардзея ўшанавана ў назве адной з вуліц роднай вёскі.

# Проза і публіцыстыка

Пасляваенная проза Берасцейшчыны — з'ява разнастайная і шматаблічная. Старонкі творчасці такіх пісьменнікаў, як Клаўдзія Каліна, Уладзімір Дамашэвіч, Сцяпан Крываль, Яраслаў Пархута, Святлана Курылёва, Віктар Супрунчук, Алесь Кажадуб, Уладзімір Глушакоў, Георгій Марчук, Алесь Наварыч і іншых сведчаць пра высокі ўзровень яе развіцця. Кожны з празаікаў арыгінальнымі творамі-кнігамі заслужыў права на сур'ёзную ўвагу чытача. Спынімся на асаблівасцях творчай манеры некаторых з іх.

Аўтарам шэрага апавяданняў і аповесцей з'яўляецца ***Уладзімір Дамашэвіч.*** Нарадзіўся ён у 1928 годзе ў вёсцы Вадзяніца (цяпер Ляхавіцкі раён). Тут прайшлі першыя дзесяць гадоў яго жыцця. Затым сям'я пераехала на Клеччыну — радзіму маці. Пасля заканчэння Клецкай сярэдняй школы У. Дамашэвіч паступіў на філалагічны факультэт БДУ. Працаваў у розных выдавецтвах і рэдакцыях, аднак асаблівы след у жыцці пакінула праца ў часопісе «Маладосць», дзе ў 1958 годзе апавяданнем «Трэці лішні» адбыўся творчы дэбют пісьменніка. Неўзабаве ўбачыў свет і першы зборнік яго апавяданняў «Заклінаю ад кулі» (1960). Затым адна за адной з'явіліся кнігі «Між двух агнёў», «Абуджэнне», «Каб радзіла зямля», «У лабірынце вуліц», аповесці «Порахам пахла зямля», «Кожны чацвёрты», раман «Камень з гары». У гэтых творах, як справядліва падкрэсліваюць даследчыкі, няма пастаяннай геаграфічнай прымацаванасці да аднаго кутка, да адной тэмы ці праблемы. Між тым Уладзімір Дамашэвіч аддае перавагу апісанню падзей, звязаных з Вялікай Айчыннай вайной. Вышэйшым дасягненнем яго творчасці ў гэтым плане лічыцца аповесць «Кожны чацвёрты», якая раскрывае ўсю складанасць і супярэчлівасць партызанскай вайны ў Беларусі. Сам пісьменнік у адным з інтэрв'ю прызнаваўся: «Я ўсё сваё жыццё пратэставаў супраць няпраўды і несправядлівасці, гэтую рысу я перадаваў і героям сваіх апавяданняў і аповесцей. Мо гэта часам патанала ў нагрувашчванні бытавых рэаліяў, дэталяў другога плана, але ў аснове ў мяне — пошукі дарогі да праўды, асуджэнне гвалту над чалавекам, супраціўленне гэтаму гвалту, асуджэнне яго як ганебнай з'явы чалавечага жыцця».

Апавяданні і аповесці, вершы і казкі, навелы і нарысы пісаў ***Яраслаў Пархута*** (1930—1996 гг., нар. у вёсцы Мілейкі Івацэвіцкага раёна). Яго жыццё было звязана з Ружанамі, дзе будучы пісьменнік спачатку вучыўся ў дзесяцігодцы і куды пасля заканчэння БДУ і службы ў арміі вярнуўся працаваць у рэдакцыю раённай газеты «Заветы Леніна»; з гарадскім пасёлкам Гарадзішча і Бара-

навічамі, дзе пісьменнік працаваў у рэдакцыях газет «Советская Родина» і «Знамя коммунизма»; з Брэстам, дзе быў супрацоўнікам студыі тэлебачання. З 1969 года Яраслаў Пархута жыў у Мінску. Ён — аўтар кніг вершаваных казак для дзяцей «Казка зялёнай дубровы», «Перапёлачка», прозы — «Ты пайшла ў сонца», «Мудрая цялушка», «Там, дзе жыве Юлька», «Жальба жытняга коласа» і інш., якія вызначаюцца асаблівай паэтычнасцю. Асноўныя іх тэмы — чалавек, зямля, прырода.

У апошнюю з названых кніг — «Жальба жытняга коласа» — уключана аповесць «Адзінец», так званая «Аповесць пра палескага рабінзона». У ёй расказваецца пра цяжкія выпрабаванні, што выпалі на долю Івана Васільевіча Бушылы, жыхара вёскі Бастынь Лунінецкага раёна, які, каб не трапіць у рукі органаў улады, не стаць вечным вязнем ГУЛАГа, доўгія сорак два гады жыў у глухім лесе ў поўнай адзіноце. Аповесць цікавая тым, што расказваючы пра жыццё Івана, уводзячы ў кнігу матэрыялы архіўных дакументаў і ўспаміны вяскоўцаў, аўтар здолеў стварыць шырокую панараму народнага жыцця на Палессі той пары. Перад намі паўстаюць вобразы працавітых, разважлівых і мудрых палешукоў. Знойдзем у творы і народны лячэбнік, і рэцэпты некаторых страў (напрыклад, куляшу), і трапныя прыказкі, народныя прыкметы, і дэталёвае апісанне палескіх птушак і жывёл, паслухаем байкі дзеда Барыса. Усё гэта дае падставы назваць аповесць «Адзінец» — своеасаблівай палескай энцыклапедыяй.

Любоўю да роднага краю пранізаны і такія кнігі Яраслава Пархуты, як «Жаваранак над полем», «Зямля бацькоў нашых», «Пад высокім сонцам», «Дарогамі надзеі і трывог», «Крыніца ёсць у родным краі...», якія заслужана прынеслі яму славу пісьменніка-краязнаўцы. Усе яны, як правіла, уяўляюць сабою дарожныя запісы пра знакамітыя і маляўнічыя мясціны Беларусі, асабліва тыя, дзе нарадзіліся, жылі, працавалі нашы славутыя землякі — Францішак Скарына, Алаіза Пашкевіч, Кастусь Каліноўскі, дзед Талаш, Іван Мележ, Яўхім Карскі і іншыя. Многія эцюды, эсэ, нарысы пісьменніка прысвечаны малой радзіме — Брэсцка-Пінскаму Палессю і яго людзям, прычым не толькі такім славутасцям як, напрыклад, Паўлюк Багрым ці Тадэвуш Касцюшка, але і простым, сціплым працаўнікам, якія штодзённай працай памнажаюць дабрабыт і славу роднай зямлі — егер Павел Мялік, былы настаўнік Уладзімір Баяран і інш.

Цікава і захапляльна апавядае Я. Пархута пра Агінскі канал, Выганаўскае і Бабровіцкае азёры (нарыс «Пад высокім сонцам»), пра мінулае і дзень сённяшні Белавежскай пушчы («Белавежа»), пра Мікашэвічы і аб’яднанне «Граніт», пра гісторыю вёскі Ленін.

Пісьменнік з найвялікшай павагай адносіцца да сваіх герояў, да тых, хто ў ліхую часіну не скарыўся няволі.

Ярослава Пархуту трывожыць, што сёння беларускае Палессе ператвараецца ў край экалагічных катастроф. Пра іх з болем апавядае пісьменнік у сваім палескім дзённіку «Дарогамі надзеі і трывог». Напісаны ён быў падчас навуковай комплекснай экспедыцыі па Палессі, якая адбылася летам 1987 года па маршруце Пінск — Мікашэвічы — Тураў — Петрыкаў — Мазыр — Нароўля — Чарнобыль — Лоеў — Гомель. Яе ўдзельнікам стаў і аўтар названага дзённіка. «Да якой пары прырода можа вытрымліваць такое? Калі і які аўтарытэтны «дзядзька» ці навуковая ўстанова набярэцца смеласці сказаць: «Стоп!» заводам, што працуюць без эфектыўных ачышчальных збудаванняў, браканьерам розных рангаў, меліяратарам, што асушаюць апошняе балота і не хочуць ведаць яго ролі ў жыцці чалавека і прыроды. Хто павінен задумацца над гэтым?» — вось пытанне, якое найбольш хвалюе Я. Пархуту *(Пархута Я. Дарогамі надзеі і трывог. — Мн., 1989. С. 26).*

Гераіня навелы «Сустрэча з іншапланецянкай» таксама дакарае нас, зямлян: «Вы, людзі, зашмат нарабілі шкоды. Супыніце прагнасць сваю. Не будзьце самазабойцамі. Шануйце ўсё жывое і нежывое. Інакш Блакітная Планета ператворыцца ў Чорную. Павер, такое здаралася ў Сусвеце» *(Пархута Я. Сустрэча з іншапланецянкай. — Мн., 1994. С. 233).* Далей лірычны герой кнігі расказвае: «Я кінуўся туды, дзе толькі што стаяла загадкавая істота і ўбачыў у дарожным пыле крыж. Вялікі. Счарнелы. Чамусьці падняў яго і панёс...» *(Тамсама. С. 233).* Пра тое, які крыж выпала несці па жыцці сучаснікам пісьменніка, чым яны жывуць, на што спадзяюцца, што іх трывожыць, якія радасці дорыць ім лёс якраз і расказвае ў сваіх творах наш зямляк.

Да прадстаўнікоў старэйшага пакалення ў літаратуры належаць Клаўдзія Каліна і Анатоль Клышка. Яны найперш вядомыя як дзіцячыя пісьменнікі. ***Клаўдзія Каліна*** (1925—1994) родам з вёскі Блювінічы Брэсцкага раёна. Пасля заканчэння Брэсцкага музычнага вучылішча настаўнічала ў школах Брэста і Кобрына, Віцебска і Мінска. Яе першыя творы з’явіліся ў дзіцячых часопісах у 1962 годзе. Асобнымі кнігамі выйшлі «Хлопчык-пакідайчык», «Забароненая песня», «Каляровыя месяцы», «Маці і сын», «Світанак» і інш.

***Анатоль Клышка*** (нар. у 1935 годзе ў вёсцы Данейкі Баранавіцкага раёна) з’яўляецца аўтарам «Буквара», чытанак «Верасок» і «Чабарок», а таксама шэрага цікавых кніжак для дзяцей — «У лясах Белавежы», «Самая лепшая хатка», «Вярэнька загадак», «Францыск Скарына, альбо Як да нас прыйшла кніга», «Святло праз стагоддзі» і інш.

З трапных і праўдзівых пародый, баек, гумарыстычных вершаў і мініяцюр пачынаў свой шлях у літаратуру ***Сцяпан Крываль*** (1935—1996, нар. у вёсцы Гутка Івацэвіцкага раёна). Яны і склалі першую яго кнігу «Пехатою на Парнас». У. А. Калеснік улавіў у аўтара-пачаткоўца дар празаіка. На адным з пасяджэнняў абласнога літаратурнага аб'яднання ён заўважыў: «Тваё прызванне, Сцяпане, — проза, ты станеш неблагім майстрам кароткага апавядання, вось і працуй». Прыслухаўшыся да парады вядомага крытыка, С. Крываль стаў пісаць апавяданні, навелы. Пазней яны былі аб'яднаны ў два зборнікі — «Аднойчы летам» і «Чмяліная вясна». У іх пераважаюць творы пра вясковае жыццё, каханне, пра лёс тых, каму выпала прайсці праз суровыя гады ваенных выпрабаванняў. Якую б тэму ні абраў пісьменнік, на першым плане ў яго — маральна-псіхалагічны стан чалавека. Для прыкладу спашлёмся на апавяданне «Парабак» са зборніка «Аднойчы летам». Галоўны яго герой Мікола да вайны служыў парабкам у заможнага аднавяскоўца Астапа. З вайны вярнуўся без нагі. Да таго ж сапраўднай трагедыяй стала заўчасная смерць каханай. Уся вёска сабралася паглядзець і паслухаць былога франтавіка. Астап хоча выклікаць да сябе прыхільнасць аднавяскоўцаў, каб тыя забылі яго ранейшыя адносіны да Міколы. Ён пускае пілотку свайго былога парабка, каб вяскоўцы скінуліся, «хто што можа», аднак калека Мікола не прыняў «дабрыню» свайго былога гаспадара.

Цікавым і арыгінальным празаікам, публіцыстам з'яўляецца ***Уладзімір Глушакоў*** (нар. у 1957 г.). Яго ўвагу найперш прыцягвае родны Давыд-Гарадок. Рэаліі яго жыцця знайшлі адлюстраванне ўжо ў першай аповесці У. Глушакова «Семена» (1981), напісанай на рускай мове. Пасля яе выхаду вядомы беларускі пісьменнік Уладзімір Караткевіч у размове з аўтарам заўважыў: «Добра, браце, ты пра гарадчукоў сваіх, ды мала... Малавата, кажу, праўды. Варта было б паспрабаваць сказаць усю праўду аб іх і аб тым часе... Я часцяком, асабліва ў маладыя гады, заседжваўся на зялёных кручах Гарыні разам з тваімі дзядзькамі, ага... Старажытныя людзі. Твары часоў Еўфрасінні Полацкай і Кірылы Тураўскага! Цяпер такіх не сустрэнеш нідзе, акрамя Пагарыння. Не губляй іх з поля зроку. Твае гарадчукі, Бог дасць, яшчэ выведуць цябе на сапраўдную дарогу...» *(Раманенка Л. Пагарынская Венецыя // Зара, 1994, 17 мая. С. 3).*

Гэтыя словы У. Караткевіча аказаліся прарочымі. Вядомасць У. Глушакову якраз і прынеслі дакументальная аповесць «Тёплые листья тополей», раманы «Цветение калины» і «На круги своя», аповесць «Расплата», напісаныя на матэрыяле сваёй малой радзімы — Пагарыння. Так, у аповесці «Расплата» ў цэнтры ўвагі пісьменніка — гарадчук Сцяпан Крыга і яго сям'я. Лёс закінуў Крыгу

ў Давыд-Гарадок, дзе ён спачатку працуе на суднаверфі, а затым старшынствуе ў калгасе. Яго душа, аднак, ачарсцвела ў пагоні за грашыма і багаццем, сваё шчасце ён згубіў у бясконцых выпіўках. Вось чаму ён папярэджвае сына: «Па майму следу не ідзі... Барані цябе Бог ад вялікіх грошай». У творы шырока прадстаўлена геаграфія і гісторыя Століншчыны: тут і Давыд-Гарадок з яго слаўным мінулым, і райцэнтр Столін з навакольнымі вёскамі, і мясцовыя рэкі. Шмат у аповесці пейзажных замалёвак. З асаблівай любоўю, напрыклад, апісана навальніца на Прыпяці. Цікавымі таксама з'яўляюцца лірычныя адступленні пісьменніка аб сваіх родных мясцінах, доме і бацьках.

Асобную старонку творчасці Уладзіміра Глушакова складаюць публіцыстычныя артыкулы і нарысы, многія з якіх прысвечаны Палессю і непасрэдна Століншчыне: «Стаяў над Гарынню замак», «Плач журавоў над матчыным пляцам», «Тихая моя Родина: Судьба Давид-Городка», «Фрэскі Пагарыння: нарысы пра Давыд-Гарадок» і інш. У іх пісьменнік часцей за ўсё звяртаецца да гісторыі роднага горада, узнаўляе яго слаўнае мінулае і даследуе сучаснасць. Як справядліва заўважыў Уладзімір Сенькавец, «погляд Уладзіміра Глушакова на гісторыю свайго гарадка ў яго дакументальных творах невычарпальны, ён хутчэй за ўсё ўяўляе сабою асобныя накіды, у якіх разважанні пісьменніка падмацоўваюцца дакументальнымі крыніцамі, успаміны людзей дапаўняюцца творчай фантазіяй аўтара. Усе яны маглі б быць добрым пачаткам для працы пісьменніка над гістарычным раманам аб людзях Пагарыння...» *(Сенькавец У. Абсыпаная радыеактыўным попелам // Народная трыбуна, 1993, 9 студзеня. С. 4).* Хочацца спадзявацца, што такі твор неўзабаве з'явіцца з-пад пяра Уладзіміра Глушакова.

Давыд-Гарадок стаў радзімай і адвечнай крыніцай натхнення для другога вядомага мастака слова — ***Георгія Марчука*** (нар. у 1947 г.). Чытачу адразу прыйшліся даспадобы яго раманы «Крык на хутары», «Прызнанне ў забойстве», «Кветкі правінцыі», «Без ангелаў», «Сава Дым і яго палюбоўніцы», «Вочы і сон», «Год дэманаў», аповесць «Паляшук». Першыя тры з названых раманаў адносяцца да так званых палескіх раманаў Г. Марчука. Кожны з іх уяўляе сабою пэўную карціну лёсу беларускага народа на адным з этапаў яго гісторыі. У рамане «Крык на хутары» ўзнаўляюцца старонкі заходнебеларускай рэчаіснасці. «Прызнанне ў забойстве» прысвечана падзеям Вялікай Айчыннай вайны, а раман «Кветкі правінцыі» апавядае пра пасляваенны перыяд. Пісьменнік дакладна акрэслівае не толькі час, калі адбываюцца падзеі ў яго творах, але і месца дзеяння. Ва ўсіх трох раманах апісваецца жыццё невялікага палескага мястэчка. У першых двух творах яно называецца

Нырча, аднак па ўсіх апісаннях у ім лёгка пазнаецца Давыд-Гарадок. Геаграфічна дакладнымі з’яўляюцца іншыя гарады і вёскі палескага рэгіёна — Пінск, Альшаны, Мікашэвічы, Хорск, Белавуша, Рамель, Дубай. У трэцім рамане — «Кветкі правінцыі» — дзеянне адбываецца «ў нашым невялікім мястэчку з рэдкай назвай Давыд-Гарадок». Ёсць яшчэ адзін вобраз, які сведчыць, што творчасць Г. Марчука цесна звязана з яго радзімай. Гэта вобраз Гарыні, які праходзіць праз многія творы пісьменніка, а ўпершыню з’яўляецца ў рамане «Крык на хутары».

Відавочна, што родная палеская стыхія вельмі блізкая пісьменніку. Значнае месца ў раманах адведзена штодзённаму жыццю і клопатам палешукоў-местачкоўцаў. Асабліва вылучаюцца ў гэтым плане «Кветкі правінцыі». Як зазначае У. Конан, можна нават «казаць і пра пэўную этнаграфічную каштоўнасць па-свойму праўдзівай бытавой эпапеі давыд-гарадоцкага жыцця-быцця 50-х — 70-х гадоў».

Г. Марчук не проста апісвае, а захапляецца здольнасцямі і працай сваіх землякоў. «Дбайныя, руплівыя, працавітыя, кемлівыя і хітрыя (гандаль навучыць быць і гаварлівым, і хітрым) гарадчукі невядома з якіх часоў навучыліся дубіць скуры, шыць кажухі, касцюмы, плацці, спадніцы, рабілі граблі, бочкі, пплялі кашы, сеткі, жакі, кавалі падковы, цвікі, капаніцы, завесы, нажы, доўгія ключы, шылі зімовыя шапкі, паліто і чобаты. Кажуць, што ўсе польскія каралі заказвалі хромавыя боты толькі ў гарадоцкіх шаўцоў. Гарадчукі будавалі хаты, крылі іх чаротам, саломай, дранкай, масцілі чаткамі берагі бурлівай і часам неспакойнай Гарыні, рэзалі з эслата завушніцы, выпільвалі пярсцёнкі, рабілі лодкі, дзяўблі чаўны, падкоўвалі коней, малявалі іконы — тут роўных не было Глебу Іванавічу, як і раней яго бацьку і дзеду, варылі на свята цукровую вату і лёды, пяклі абаранкі і смачныя пернікі, булачкі з ваніллю. Адным словам, што ні хата, дык свой талент, свой гонар, свой форс і свае парадкі» *(Марчук Г. Кветкі правінцыі. — Мн., 1988. С. 24—25).* Так захапляецца і ганарыцца сваімі землякамі пісьменнік.

Каларытнымі, цікавымі ў рамане з’яўляюцца вобразы маці героя-апавядальніка, якая рана пайшла з жыцця, родных, знаёмых, сяброў — бабы Насці, дзядзькі Міхалкі, старой салдаткі Лісаветы, дзеда Яўхіма і іншых. У іх заключаны аўтарскі ідэал, тое, што дарага самому пісьменніку. Менавіта яны і ёсць кветкі правінцыі — малой радзімы, пра якую так шчыра і зацікаўлена расказаў Георгій Марчук.

«У апошніх раманах (па часе, зразумела) аўтар неяк паціху адыходзіць ад прамога ўвасаблення роднага куточка, вяртацца туды ён будзе са сваімі героямі ў даволі рэдкіх службовых камандзіроўках ці паездках да родных. Але раптам у поўным аб’ёме згадае сваё

роднае Палессе, дзе сярод былых пракаветных і неабсяжных балот стаіць старажытны Давыд-Гарадок, першая радасць і смутак пісьменніка, сапраўдная КАЗКА яго дзяцінства, крыніца яго натхнення» *(Штэйнер І. Праз Палессе да ідэалаў // Полымя, 1998, № 10. С. 301).*

Вялікія набыткі ў галіне прозы таксама маюць пісьменнікі з Бярозаўшчыны ***Віктар Супрунчук*** — аўтар зборнікаў апавяданняў і аповесцей «Страсці», «Недзе баліць ля сэрца», «Набат», аповесці «Банальны Дэтэктыў», раманаў «Жывём толькі раз» і «З плоці і крыві» і ***Анатоль Казловіч*** (нар. у 1946 г. у вёсцы Горск Бярозаўскага раёна), любімымі жанрамі якога сталі нарыс і дакументальная аповесць. Пісьменнік выдаў некалькі нарысавых зборнікаў — «Дыхание», «Пора идти», «Красный остров». Асобнымі кніжкамі выйшлі яго аповесці «Далеко впереди», «Дитя моё золотое», «Место под солнцем», «Собственный корреспондент» і іншыя; ***Алесь Кажадуб*** (нар. у 1952 г. у Ганцавічах), які напісаў шэраг аповесцей і апавяданняў, што склалі кнігі «Гарадок», «Размова», «Лесавік» і інш.; вядомы журналіст і пісьменнік ***Мікола Панасюк*** (родам з вёскі Галоўчыцы Драгічынскага раёна, нар. у 1947 годзе) — аўтар ці сааўтар трынаццаці кніг публіцыстыкі: «Світальныя зоркі», «Мужнелі ў барацьбе», «К созвездиям», «Зоркі над Бугам» «Полесская целина» і інш. Знайшлі свайго чытача апавяданні і аповесці ***Алеся Наварыча***, ***Зінаіды Дудзюк*** і іншых празаікаў з Берасцейшчыны.

## Драматургія

Адным з першых, хто звярнуўся да драматургічнага жанру на Берасцейшчыне, быў ***Уладзімір Стэльмах*** (1907—1974, родам з вёскі Бушмічы Камянецкага раёна). Усе яго п’есы — «Шляхі», «Крушэнне рэнегатаў», «Фантан», «Тры крыжы», «Канец маскараду» — убачылі свет яшчэ ў даваенны перыяд, бо пасля бежанства сям’я Стэльмахаў на радзіму не вярнулася.

У 70-я гады з аднаактовых п’ес, камедый пачынаў свой шлях у літаратуру ***Георгій Марчук***. Вялікую ролю ў фарміраванні яго як драматурга адыграла супрацоўніцтва з калектывам Мазырскага народнага тэатра, з яго рэжысёрам Міхаілам Коласам і мастаком Пятром Захаравым. На мазырскай сцэне ўпершыню былі пастаўлены тры п’есы нашага земляка — «Люцікі-кветачкі», «Альдона, Анета, Анфіса» (сцэнічная назва «Змова») і «Welcome да нашай вёскі». Пастаноўка першай з названых п’ес — камедыі «Люцікі-кветачкі» — адбылася ў 1974 годзе. Напісаны твор на рэгіянальным матэрыяле

з народнага жыцця і «ўзнімае надзёнunion, надзвычай важную для тых часоў праблему: быць ці не быць прадпрымальніцтву ў багатым на таленты, дзейсным на вынаходніцтвы Давыд-Гарадку і ў навакольных вёсках. Адкрыцці ў гародніцтве, кветкаводстве, ганчарстве, гандаль насеннем, сваімі вырабамі — гэта спекулянцтва ці заканамерная жыццёвая з'ява? Дзецям — рамантыкам па натуры — сорамна за сваіх бацькоў — «спекулянтаў», якія ўсё лета не разгінаюць спіны на агародзе, а зіму і пачатак вясны мерзнуць на базары. Тым не менш, без іх дапамогі яны не могуць абысціся ні ў асабістым, ні ў грамадскім жыцці» *(Дашкевіч Г. Пісьменнік, якога адкрыў тэатр // Роднае слова, 1997, № 1. С. 20).* Просценькая п'еса заваявала сэрцы гледачоў і атрымала Гран-пры на Міжнародным фестывалі тэатральнага мастацтва ў эстонскім горадзе Вільяндзі (1986). Шырокую вядомасць набылі і п'есы Георгія Марчука, як «Магіла Чынгісхана», «Дыскатэка», «Загадка каралевы Аварыі», «Цвярозы дзень Сцяпана Крываручкі», «Вясёлыя, бедныя, багатыя», «Дарога ў рай», «Калі заспявае певень» і іншыя.

Арыгінальна заявілі пра сябе ў канцы 80-х — пачатку 90-х гадоў такія драматургі-землякі, як Мікола Арахоўскі і Ігар Сідарук.

***Мікола Арахоўскі*** (1950—1997 гг.) нарадзіўся ў вёсцы Сялец на Бярозаўшчыне. Пасля заканчэння дзесяцігодкі паступіў у Мінскае мастацкае вучылішча. У сталіцы юнак пазнаёміўся са сваім земляком, тады студэнтам Мінскага тэатральна-мастацкага інстытута Іосіфам Крупскім, які адыграў значную ролю ў яго жыцці. Пасля заканчэння аддзялення жывапісу І. Крупскі быў накіраваны на працу ў Брэст у вытворча-мастацкія майстэрні. За ім паехаў і Мікола. Сябры разам жылі пры майстэрнях, разам выконвалі розныя заказы.

Неўзабаве М. Арахоўскі быў прызваны ў армію, служыў пад Ленінградам. Пасля звальнення ў запас вярнуўся ў бацькоўскую хату, аднак доўга там не затрымаўся: паехаў у Бярозу, дзе некаторы час працаваў на мясцовым вузле сувязі і мастаком-афармісцелем у Доме культуры. Тут яго знайшоў І. Крупскі, зноў паклікаў у Брэст і параіў працягваць вучобу. Пад яго ўплывам у 1974 годзе М. Арахоўскі становіцца студэнтам Мінскага тэатральна-мастацкага інстытута. Неўзабаве ў жыцці маладога, энергічнага і здаровага хлопца адбылася трагедыя. Атрымаўшы траўму ў час купання ў Мухаўцы, ён страціў здольнасць хадзіць. Цяжкая хвароба, аднак, не зламала яго духоўна. Мікола Арахоўскі ўзяўся за пяро, пачаў пісаць п'есы.

«Я нават не памятаю назвы сваёй першай п'есы, — успамінаў Мікола. — Ды і назваць яе п'есай вельмі смела. Так, штосьці нейкае накрэмзаў. Ды і адкуль яна магла быць добрай, калі ў гэтай справе я быў поўным дылетантам. І я вельмі ўдзячны выпадку, які

звёў мяне з чалавекам, які стаў на гады маім літаратурным настаўнікам і дарадцам. Гэтым чалавекам быў пісьменнік Яраслаў Пархута. Сустрэліся мы з ім у Мінску, дзе лячыліся ў пятай клінічнай бальніцы. Тут не менш чым дваццаць вечароў гадзін па пяць даваў Яраслаў мне ўрокі беларускай мовы і літаратуразнаўства, ішлі ў нас доўгія размовы аб галоўным інструменце ў творчай працы пісьменніка — аб слове, аб умелым карыстанні гэтым інструментам...» *(Сяленя Я. Ідзе адлік: за годам — год... // «Маяк», 1996, 26 кастрычніка. С. 2).*

Настойлівасць М. Арахоўскага дала свой плён. У 1987 годзе ім была напісана п'еса «Напярэдадні», затым з'явіліся «Лабірынт», «Машэка», «Ку-ку». Асаблівы поспех мелі трагедыя «Машэка» і драма абсурду «Ку-ку». У першай створана складаная псіхалагічная сітуацыя. Ноччу на дарозе машынай быў збіты настаўнік Клімовіч. У той машыне знаходзіліся шафёр Ясь, шэф Іван Капітонавіч з палюбоўніцай і яго падначалены Халіпскі, які мае заможную дачу. Менавіта на ёй Халіпскі і Ясь хочуць закапаць нябожчыка. Ён раптоўна ажывае і праз нейкі час заяўляе, што ён ніхто іншы, як князь Машэка. Гаспадар дачы і яго памагаты садзяць палоннага ў жалезную клетку, бо лічаць, што той звар'яцеў, небяспечны як сведка і яго можна адправіць у псіхбальніцу. Халіпскі хутка зразумеў, што ў яго паявіўся «шанс выбіцца ў фярзі» і пачаў шантажыраваць свайго ўсяўладнага шэфа Івана Капітонавіча. За ўтойванне праўды Халіпскі дамогся высокай начальніцкай пасады, а шафёр машыны Ясь атрымаў шыкоўную кватэру ў паркавай зоне. Машэку-бунтара яны ненавідзяць і хочуць хутчэй пазбавіцца ад яго, бо, як гаворыць Халіпскі, «Машэкаў не любяць… Такое жыццё». Такім чынам, у цэнтр сваёй трагедыі Арахоўскі паставіў вечнае пытанне пра ўладу ў грамадстве адных людзей над другімі. Ён перакананы, што ў людзях заўсёды павінна жыць памкненне, цяга да ачалавечвання свету. Пра гэта гаворыць у канцы п'есы і ахвяра начной трагедыі — настаўнік Клімовіч: «Уявіце неба. У кожным чалавеку ёсць неба. Калі ён — чалавек».

Вадзім — галоўны герой п'есы «Ку-ку» — чалавек адукаваны, прыстойны, інтэлігентны. Аднак раздвоілася яго ўяўленне, свядомасць, і свет падзяліўся на рэальны і фантастычны. Вакол героя паўстаюць розныя мройныя вобразы-істоты — Птушкападобны, Клеапатра і іншыя. Прычына гэтага — здрада жонкі Ларысы. Ідэалам для Вадзіма становіцца дзяўчына Алена, з якою ён выпадкова пазнаёміўся ў парку. Цяпер герой Арахоўскага пачынае жыць у свеце, створаным яго фантазіяй. У гэтым якраз і «сутнасць канфлікту твора: чалавек, што жыве ў двух вымярэннях — у сваім рэальным існаванні і ў думках, якія часам не супадаюць з гэтай рэальнасцю,

здольны навакольных людзей не толькі пасяляць у свет сваіх фантазій, а і рабіць іх залежнымі ад выдуманых істот. У гэтым унутраны канфлікт чалавека, а яго раздвоенасць існавання перарастае ў канфлікт асобы і грамадства» *(Сабалеўская Т. П’еса і спектакль // Тэатральная Беларусь. 1992, № 4. С. 44).*

Як бачым, п’есы драматурга з Бярозаўшчыны цалкам пазбаўлены рэгіянальнага каларыту. Відавочна, аднак, што яны шматмерныя па змесце і жанравым прачытанні, вызначаюцца сваёй неардынарнасцю і своеасаблівасцю аўтарскага мыслення. Праблемы, якія ўзняў М. Арахоўскі ў сваіх творах, найперш убачаны і адчуты там, дзе яму давялося жыць — на Берасцейшчыне.

Адметным і таленавітым маладым драматургам з’яўляецца ***Ігар Сідарук***. Нарадзіўся ён у 1964 годзе ў Кобрыне. Тут закончыў школу, пазней — філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Некаторы час настаўнічаў на Салігоршчыне, працаваў загадчыкам літаратурнай часткі Брэсцкага лялечнага тэатра.

У літаратуры І. Сідарук вядомы і як паэт — аўтар зборнікаў «Чарнабел» (1991), «Саната Арганата» (1994) і інш., і як драматург. Яго пяру належаць п’есы «Галава», «Прыгоды Люстрынкі, ці Несусветнае зладзейства» і іншыя.

Пра «Галаву» І. Сідарука знаўцы тэатра і драматургіі гавораць «як пра рэч эксперыментальную, наватарскую… Гэта тое, чаго мы дасюль не сустракалі ў беларускай драматургіі» *(Бельскі А. Пуцявінамі абнаўлення: Маладая беларуская драматургія 80 — пачатку 90-х гадоў // Роднае слова, 1994, № 1. С. 28).* Дзеянне ў творы адбываецца на сметніку, дзе гаспадарыць Галава. Спачатку на пастаменце ўзвышаецца Папяровая Галава, затым яе замяняе Гумовая і Сталёвая. Яна ні ў чым не сумняваецца, ёй падпарадкоўваюцца ўсе астатнія героі п’есы. Так, Дурань заўзята моліцца за яе: «І карыстайцеся ўсім, што ёсць у нас, і міласцю нашаю, і дурасцю, і трымай нас у строгасці, але збаў ад мазгоў». Бежанка таксама лічыць, што калі «не будзе Галавы, то нічога не будзе». Праз сімвалічныя вобразы Галавы, Шукальніка, Дурня, Сіроткі, Бежанкі аўтар выказаў свой погляд на нашу рэчаіснасць і яе праблемы. Зрабіў гэта нестандартна, адышоў ад звыклай вобразна-кампазіцыйнай сістэмы, што і дало падставу даследчыкам лічыць п’есу «Галава» фарс-абсурдам. Упершыню яе пастаноўку ажыццявіў у 1992 годзе Дзяржаўны тэатр-лабараторыя нацыянальнай драматургіі «Вольная сцэна».

Асобную, змястоўную старонку складае дзіцячая драматургія. Найбольш пашыраным у ёй з’яўляецца жанр драматычнай казкі. У Ігара Сідарука ў гэтым плане варта адзначыць драматычную казку «Кветкі пад ліўнем». Клапатлівы Садоўнік вырошчвае розныя

кветкі — Цюльпаны, Званочкі, Гладыёлусы і інш. Ён баіцца параніць іх неасцярожным словам ці дотыкам, і кветкі, надзеленыя пэўнымі чалавечымі рысамі, адгукаюцца на дабрыню, перажываюць, весяляцца і нават разважаюць. Цюльпан, напрыклад, сам добраахвотна лезе ў кош Гандляра, які з'явіўся ў садзе. На гэта Дождж справядліва заўважае, што ў Цюльпана не надта глыбокія карані: «У каго яны моцныя, тых купіць нельга. Толькі што зрэзаць». Так без павучанняў аўтар даводзіць маленькаму чытачу, як трэба жыць, паводзіць сябе ў вялікім свеце.

Дзіцячая драматургія ў свой час прываблівала ***Міколу Арахоўскага***. Параўнальна нядаўна да яе звярнуліся ***Ніна Мацяш***, ***Раіса Баравікова***. Некалькі казак — «Сінязорка», «Жывая вада» і іншыя — напісала для дзяцей ***Зінаіда Дудзюк***, вядомая на Берасцейшчыне найперш як паэтка. Даросламу чытачу яна адрасавала п'есу «Заложнікі шчасця» (1997). На прыкладзе сучаснай сям'і — бацькі і маці, дзяцей Юлі і Арцёма, а таксама іх суседзяў Ядзі і Івана — З. Дудзюк закранае вострыя праблемы нашага нялёгкага, супярэчлівага, часам нават парадаксальнага жыцця. У чым чалавечае шчасце, як трэба выхоўваць дзяцей у сям'і, да чаго прыводзіць п'янства, якую страшную пагрозу нясе радыеактыўны выбух — вось пытанні, над якімі прымушае задумацца кожнага з нас аўтар гэтай п'есы.

Як бачым, жанр драматургіі на Берасцейшчыне пачаў актыўна развівацца ў апошняе дзесяцігоддзе. Хочацца спадзявацца, што ён будзе мець жыватворны працяг.

## Крытыка і літаратуразнаўства

Берасцейцы ўжо даўно і па праву лічаць сваім вядомага крытыка, нястомнага даследчыка беларускай літаратуры ***Уладзіміра Калесніка***. Шлях літаратараў-навукоўцаў, як адзначалася вышэй, абралі і многія выпускнікі Брэсцкага педінстытута імя А. С. Пушкіна. Некаторыя з іх плённа працуюць тут і цяпер. Да гэтага пераліку варта дадаць яшчэ некалькі імёнаў, якія хораша ўпісаліся ў сучаснае айчыннае літаратуразнаўства.

***Мікола Грынчык*** нарадзіўся ў 1923 годзе ў вёсцы Быцень Івацэвіцкага раёна. Закончыў літаратурны факультэт Гродзенскага педагагічнага інстытута, у 1957 годзе — аспірантуру пры Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы. З гэтага ж года пачаў актыўна выступаць у друку як крытык і літаратуразнавец. Ён напісаў шэраг манаграфій, асноўныя з якіх — «Максім Багдановіч і народная паэзія», «Шляхі беларускага вершаскладання», крытыка-біяграфічны на-

рыс «Аркадзь Куляшоў». М. Грынчык даследуе гісторыю беларускай літаратуры, з'яўляецца адным з аўтараў «Гісторыі беларускай савецкай літаратуры» (1966), «Гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры» (1969), «Истории белорусской дооктябрьской литературы» (1977), шэрага падручнікаў для студэнтаў філалагічных факультэтаў падінстытутаў па гэтай дысцыпліне.

***Ала Кабаковіч*** (1943—1985, родам з вёскі Гутава Драгічынскага раёна). Адукацыю атрымала на факультэце журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта і на аддзяленні мастацкага перакладу ў Літаратурным інстытуце імя М. Горкага ў Маскве.

У друку выступіла ў 1970 годзе з вершамі. Пазней аб'ектам яе літаратуразнаўчых даследаванняў сталі паэзія Максіма Багдановіча, беларускі свабодны верш, фальклорныя традыцыі ў беларускай паэзіі. Па названых вышэй праблемах А. Кабаковіч выдала асобныя кнігі, а таксама стала сааўтарам манаграфіі «Паэзія абнаўлення свету» (з І. Шпакоўскім, Н. Шукліной).

***Мікола Калінковіч*** (1951—1990) нарадзіўся ў вёсцы Цна Лунінецкага раёна. Закончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт. Некаторы час працаваў у рэдакцыі абласной газеты «Зара», затым — з 1976 — 1978 гг. — быў намеснікам рэдактара лунінецкай раённай газеты. Неўзабаве прызваўся на тэрміновую афіцэрскую службу, вучыўся ў аспірантуры, стаў кандыдатам гістарычных навук. Загінуў пры выкананні службовых абавязкаў у Грузіі.

М. Калінковіч пісаў як па-беларуску, так і па-руску. Ён — аўтар гісторыка-дакументальнага нарыса «Лунинец», шэрага кніг дакументальных аповесцяў, апавяданняў і нарысаў, у тым ліку яго пяру належаць «Палескія дні Аляксандра Блока» і дзве п'есы — «Ліпецкае зарыва» і «Камісар Закаспія».

Як паэт і літаратуразнавец вядомы ***Іван Курбека*** (родам з вёскі Серабрышча Баранавіцкага раёна). Нарадзіўся ён у 1934 годзе. Пасля заканчэння філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта прысвяціў сябе музейнай справе — працаваў у літаратурных музеях Янкі Купалы і Якуба Коласа. Ім укладзены многія зборнікі, альбомы, буклеты, прысвечаныя творчасці гэтых выдатных пісьменнікаў. Іван Курбека выдаў кнігу гумарыстычных вершаў «Абы здароўе» (1979), а таксама зборнік лінгвістычных загадак «Хітрыя літары» і «Займальны дапаможнік для ўдасканалення мовы».

Малая радзіма ***Івана Чарота*** (нар. у 1952 г.) — вёска Лышчыкі Кобрынскага раёна. Ён з'яўляецца аўтарам шэрага прац па ўзаемадзеянні беларускай і рускай літаратур з сербскай, славенскай, македонскай і ўкраінскай літаратурамі. І. Чарота — сааўтар кнігі «Беларуская савецкая кніга за мяжой», укладальнік і адзін з перакладчыкаў анталогіі «Сербская паэзія».

У вёсцы Бяражное Столінскага раёна ў 1953 годзе нарадзіўся ***Іван Штэйнер***. Цяпер яго лёс звязаны з Гомелем і кафедрай беларускай літаратуры мясцовага універсітэта. І. Штэйнер даследуе беларускую баладу ў яе сувязях з народнымі і літаратурнымі традыцыямі славянскіх народаў. Гэтай праблеме наш зямляк прысвяціў шэраг артыкулаў і дзве манаграфіі: «Беларуская балада: Вытокі жанру і паэтычная структура» і «Варожасць балады вякоў: беларуская балада і славянскія традыцыі».

Пэўны час жылі і працавалі ў нашым краі такія вядомыя літаратуразнаўцы, як ***Барыс Міцкевіч*** (1929—1983) і ***Валянціна Коўтун*** (нар. у 1946 г.). Першыя два гады пасля вайны — з 1945 па 1947 — Б. Міцкевіч працаваў на Маларыччыне, даследаваў гісторыю і методыку выкладання замежнай літаратуры, папулярызаваў творчасць Д. Дэфо, М. Твэна, А. Барбюса, Г. Бічэр-Стоў і іншых.

Валянціна Коўтун у 1967 годзе закончыла Малоткавіцкую сярэднюю школу, працавала піянерважатай у Бярозавіцкай дзесяцігодцы Пінскага раёна. Вучылася спачатку на філалагічным факультэце Львоўскага дзяржаўнага універсітэта, затым — у БДУ. У друку выступае з 1966 года. В. Коўтун — аўтар некалькіх паэтычных зборнікаў, кніжак для дзяцей, рамана пра Цётку «Крыж міласэрнасці». Як крытык і літаратуразнаўца выдала кнігі «Святло народнага слова: Паэтычны лад беларускай народнай песні», «Крыніца паэзіі: На шляхах эпізацыі» і інш.

## Пераклады

Як вядома, адным з відаў літаратурнай творчасці з'яўляецца пераклад. Пра паэтаў і пісьменнікаў, якія ім займаюцца часам па заказе, а часцей за ўсё па ўласным выбары, з упэўненасцю можна гаварыць, што гэта — сапраўдныя майстры слова. Яны надзелены літаратурным прафесіяналізмам, глыбока ведаюць праблемы і здабыткі сусветнай культуры, адчуваюць іх велізарны агульначалавечы кантэкст, «маюць зайздроснае паэтычнае майстэрства, якое дазваляе дакладна ўзнаўляць самыя разнастайныя стылёвыя пласты іншанацыянальнай моўнай традыцыі» *(Тарасюк Л. Непадзельнасць // Роднае слова, 1993, № 9. С. 31).*

Да перакладчыцкай дзейнасці ў апошнія гады звярнуліся і многія літаратары з Берасцейшчыны. Пераклады некаторых з іх (напрыклад, Ніны Мацяш, Алеся Разанава і іншых) могуць стаць аб'ектам спецыяльнага даследавання. Яны заслугоўваюць асобнай дэталёвай гаворкі, чаго не дазваляе зрабіць аб'ём дадзенай працы. Назавём толькі асноўныя набыткі берасцейцаў у гэтым плане.

Найперш цягнецца да сусветнай літаратурнай скарбніцы ***Ніна Мацяш***. Прафесійнай справай для паэткі сталі пераклады з французскай мовы. Дзякуючы ёй па-беларуску загучалі кнігі «У краіне індзейцаў» Жана Аліўе (1973), «Першая справа Мегрэ» Жоржа Сімянона (1982), навелы Гі дэ Мапасана (1987), нізка вершаў французскіх паэтаў — Луі Арагона, П’ера Жана Беранжэ, Поля Элюара, Крысціны дэ Пізан, Шарля Арлеанскага, змешчаная ў кнізе «Ралля суровая» (1976). Відаць, асобнае месца тут займае славуты «Маленькі прынц» і «Начны палёт» Антуана дэ Сент-Экзюперы (1989), вельмі блізкія сваімі настроямі творчай асобе Ніны Мацяш.

Кола перакладчыцкіх зацікаўленняў паэткі з Бярозаўшчыны шырокае — гэта яшчэ і дзесяткі імёнаў з польскай, нямецкай, украінскай літаратур. Сёння такія яе пераклады, як «Песня з Бярозы» Аляксандра Гаўрылюка, «Маруся Чурай» Ліны Кастэнка, кніга лірыкі Віславы Шымборскай «Свет, варты вяртання» (з польскай) з’яўляюцца гонарам усёй беларускай літаратуры.

Вялікую колькасць перакладаў з англійскай, нямецкай, балгарскай, чэшскай, сербахарвацкай, літоўскай, латышскай, грузінскай моў ажыццявіў ***Алесь Разанаў***. Па агульнай колькасці, як адзначаюць даследчыкі, яны ледзь не пераважаюць над яго арыгінальнай паэзіяй. Пры гэтым трэба помніць, што перакладчыцкая дзейнасць пэўны час была для паэта ледзь не адзінай магчымасцю друкавацца. Разанаўскі талент стаў выключнай з’явай нашай літаратуры і з цяжкасцю прабіваў сабе дарогу ў друку. Моцны ўплыў на станаўленне мастацкай свядомасці паэта якраз і аказалі перакладзеныя ім творы лепшых майстроў сусветнай літаратуры, «праца над якімі не толькі пашырала яго кругагляд, задаючы пэўны ўзровень яго ўласным паэтычным вопытам, але і дазваляла прымераць на сабе разнастайныя творчыя манеры пісьменнікаў розных часоў і краін» *(Кісліцына Г. Алесь Разанаў: Праблема мастацкай свядомасці. — Мн., 1997. С. 12).*

У творчым набытку Алеся Разанава найперш вылучаюцца пераклады кнігі К. Саі для дзяцей «Гэй, хавайцеся!» (1982), п’есы У. Шэкспіра «Сон у Іванаву ноч» (1989), рамана Ё. Авіжуса «Час, калі пусцеюць сядзібы» (1989) і шэрагу вершаў. У дачыненні да апошніх сам паэт лічыць, што ў іх перакладзе «належыць ісці за тым, за чым ідуць яны самі: перакладаць не словы і радкі, а тое, што «перакладаюць» яны, вершы, — сэнс, гукасэнс, духасэнс» *(Рязанов А. Знаки вертикального времени // Нёман, 1990, № 1. С. 156).*

У свой час з рускай, украінскай і польскай моў перакладаў ***Міхась Рудкоўскі***. Так, у ягоным зборніку «Гарынь» (1992) чытач можа пазнаёміцца з асобнымі вершамі, фрагментамі з паэм украінскіх аўтараў В. Сіманенкі, А. Гаўрылюка, Т. Каламіец, В. Чувая, В. Гея на беларускай мове.

Як перакладчыкі вядомыя сёння Зінаіда Дудзюк, Васіль Жуковіч, Ніна Загорская, Анатоль Клышка, Васіль Сахарчук і многія іншыя. ***Анатоль Клышка***, напрыклад, пераклаў на беларускую мову Новы запавет. ***Васіль Сахарчук*** аддаваў перавагу балгарскім творам. У 1988 годзе ў яго перакладзе выйшаў зборнік паэзіі П. Яварава «Апалавы пярсцёнак». ***Васіль Жуковіч*** перакладае апавяданні А. Ананьева, С. Баруздзіна, вершы І. Якштаса, П. Грабоўскага, І. Няходы, Махтумкулі, У. Мэя. Дзякуючы ***Ніне Загорскай*** па-беларуску можна прачытаць кнігу апавяданняў Х. Гюльназарана «Калі я быў маленькі», драматычную паэму Л. Украінкі «Апантаная», дакументальную драму С. Віеса і Ю. Бэбрыша «Райніс і Аспазія» і іншыя. ***Зінаіда Дудзюк*** падарыла беларускаму чытачу «Славутае качаня Цім» Т. Амосавай і І. Пятровай, «Канёк-гарбунок» П. Яршова.

Калі для названых вышэй мастакоў слова перакладчыцкая дзейнасць стала толькі часткай іх літаратурнай творчасці, то для ***Васіля Сёмухі*** гэты від дзейнасці з’яўляецца вызначальным. Славутага перакладчыка дала беларускай літаратуры пружанская зямля. Тут, на хутары Ясенец, у 1936 годзе нарадзіўся В. Сёмуха. У час Вялікай Айчыннай вайны хутар быў спалены фашыстамі, а бацькі Васіля расстраляны за дапамогу партызанам. Родная для хлапчука стала сям’я цёткі, якая жыла спачатку ў вёсцы Смалянiца, а затым — у Пружанах. Пасля заканчэння пружанскай сярэдняй школы В. Сёмуха вучыўся на рамана-германскім аддзяленні філалагічнага факультэта Маскоўскага універсітэта. У 1959 годзе ён вярнуўся ў Беларусь, звязаў свой лёс з Мінскам.

З гэтага ж года Васіль Сёмуха пачаў актыўна выступаць у друку як перакладчык на беларускую мову твораў нямецкіх, польскіх, латышскіх і ўкраінскіх пісьменнікаў. Ён выдаў вялікую колькасць кніг перакладаў, асабліва нямецкіх аўтараў — В. Брэдэля «Ад Эбра да Волгі», Л. Рэна «Вайна без бітвы», Г. Гофэ «Фінальны акорд», Г. Фалады «Даўным-даўно ў нас дома», Р. Рыльке «Санеты Арфею: Лірыка» і многія іншыя. Значнай падзеяй у літаратурным жыцці нашай рэспублікі стаў зроблены ім пераклад «Фауста» Ё. Гётэ. Такая актыўная перакладчыцкая дзейнасць нашага земляка была заўважана і высока ацэнена ў Германіі. У 1981 годзе Васіль Сёмуха атрымаў ганаровую ўзнагароду гэтай краіны «Залаты знак Гонару».

Такім чынам, паэты і пісьменнікі нашага краю даволі плённа працуюць і маюць пэўныя набыткі ў галіне літаратурнага перакладу. Яны таксама спрыяюць далучэнню беларусаў да духоўных каштоўнасцей іншых народаў і нацыянальнасцей, знаёмяць іх з лепшымі творамі сусветнай літаратуры.




# Маладыя галасы Берасцейшчыны

У канцы XX — пачатку XXI ст. літаратура Берасцейшчыны папоўнілася новымі імёнамі. Традыцыі, закладзеныя папярэднікамі, пасьпяхова працягваюць маладыя аўтары, творы якіх друкуюцца на старонках раённых, абласных і рэспубліканскіх выданняў, змяшчаюцца ў калектыўных зборніках. Цікава і сур'ёзна заявілі пра сябе І. Поўх, С. Прылуцкі, М. Лагодзіч, Я. Дашына, В. Мохар, В. Барысюк, А. Спрынчан, В. Вашэка, С. Шаламіцкая, І. Ляшкевіч, Л. Дзікавіцкая, М. Шчур, М. Навумчык, С. Чурыла, Г. Мішчук, Л. Багданец і інш. Некаторыя з іх маюць асобныя кнігі. Так, ***Ірына Ляшкевіч*** (нар. у 1969 г. у в. Мачуль Столінскага раёна) у 2000 годзе выдала зборнік вершаў «Сувой». У 2004 годзе ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» ўбачыла свет кніга «Вершы ад А.», якая стала паэтычным дэбютам ***Аксаны Спрынчан***. Родам Аксана з Лунінца (нар. у 1973), закончыла філалагічны факультэт БДУ і працуе ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў Мінску.

Аўтарам зборніка вершаў «Вежа», які выйшаў у 1997 годзе ў серыі «Бібліятэка часопіса «Маладосць», з'яўляецца ***Васіль Барысюк***. Нарадзіўся ён у 1976 годзе ў вёсцы Малыя Корчыцы Кобрынскага раёна. Вучыўся на філалагічным факультэце Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта імя А.С. Пушкіна, зараз працуе на абласным радыё. «Вершы В. Барысюка, — адзначае доктар філалагічных навук З. П. Мельнікава, — радуюць бездакорнасцю формы, глыбінёй зместу… Лірычны герой — духоўна багатая, інтэлектуальная асоба — размаўляе з сабой, са сваім часам, родным краем і людам. Яго ўнутраны свет поўняць радасць і самота кахання, сустрэч і расстанняў. Паэта хвалюе, ці запануюць між людзьмі годнасць, шчырасць і любоў».

Студыя «Спадчына» абласнога Цэнтра маладзёжнай творчасці выдала першую кнігу маладога паэта ***Максіма Шчура*** «Спадарыня

адзіноцтва» (1993) і тым самым дала яму бласлаўленне ў літаратуру. У прадмове да зборніка М. Пракаповіч запрашае: «Учытайцеся ў гэтыя радкі…» Сапраўды, у вершы М. Шчура трэба ўчытвацца, бо гэта паэзія інтэлектуальнага, асацыятыўнага складу. Творы ўражваюць непаўторнасцю, смелай яркай вобразнасцю, шматколернасцю фарбаў. На першы погляд, можа здацца, што паэтычны свет М. Шчура — іррэальны, але, калі ўчытацца і ўжыцца ў яго, гэты свет становіцца блізкім і зразумелым.

Прывялі кветкі ў вячэрнім стакане,
у рэчку znічкі падаюць-дзынькаюць.
Хадземце са мной, мая юная пані,
і забудзем пра нашы гадзіннікі.

Маўчыце, я ведаю, што не пачую,
як дванаццаць разоў пацалуюцца стрэлкі
і лягуць з усмешкай адна на адну
на мулкім ложы бліскучай талеркі, —
мая юная пані, я буду думаць пра Вас.

Максім Шчур займаецца яшчэ і перакладчыцкай дзейнасцю. Перакладае з іспанскай мовы творы Федэрыка Гарсія Лоркі, Габрыэлы Містраль і іншых аўтараў.

«Пошук недасягальнай праўды жыцця…» — так можна акрэсліць дэвіз творчага пошуку ***Сяргея Прылуцкага*** (нар. у 1980 г. у Брэсце). Яго лірычны герой імкнецца зразумець складаны сучасны свет, шукае сваё месца ў жыцці, спрабуе знайсці *«штосьці»*, што дазволіла б спасцігнуць сутнасць уласнага прызначэння:

…Прагне быць сярод многіх —
і падобных, і розных.
Гэтае ***штосьці***
сабой хоча быць.
Прагне сініх нябёсаў
і паўднёвага ветру…
Прагне жыць,
Усяго толькі ***жыць***!

Невыпадкова лірыку Сяргея Прылуцкага даследчыкі літаратуры называюць філасофска-медытатыўнай.

Як аўтар афганскіх вершаў упершыню заявіў пра сябе ***Вінцэсь Вашэка***:

Было іх двое: ён і безнадзейнасць.
Граната — у кішэні, патронаў — два ражкі.
І толькі пачуццё, пякучае, як рэўнасць,
Што выпаў лёс такі, складаны і цяжкі.

Адстрэльваўся, хаваўся — усё рабіў спакойна.
Заблытаць іх імкнуўся, разлічваў кожны стрэл.
Ужо не спадзяваўся, але зусім раптоўна —
Душманы ўцякаюць, убачыў праз прыцэл.

А потым ён смяяўся, чым выклікаў здзіўленне,
Як быццам тут не страхі, а жарты толькі меў,
Бы не было тут бою, а дзіўных сноў трызненне,
Як быццам нарадзіўся ён тут, а не ссівеў.

В. Вашэка нарадзіўся ў 1966 годзе ў вёсцы Сенькавічы на Івацэвіччыне. Друкавацца пачаў яшчэ ў школе.

У 1990 годзе прымаў удзел у семінары маладых літаратараў у Іслачы. Выпускнік філалагічнага факультэта Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта імя А.С. Пушкіна. Цяпер жыве і працуе ў Брэсце. Прадстаўляючы паэта на адной з перадач на тэлебачанні А. Каско адзначыў: «Вершы Вінцэся Вашэкі вельмі выразныя, праходзяць праз сэрца, уцягваючы нас у тыя пачуцці і адчуванні, якія перажыў сам аўтар». Сапраўды, паэзія В. Вашэкі прыцягвае чытача шчырасцю, адкрытасцю, глыбокім сэнсам, які часам трымаецца на асацыяцыях:

Час вымяраем праз абдымкі —
То дзень, то год.
Расстанне — толькі фотаздымкі,
Ды час наадварот.
Сустрэча — кожны раз літанне.
Лампаднае святло.
А потым горка — развітанне,
Памерлае жытло.
Не робім аніякай спробы,
Хаця зусім не даспадобы
Вось гэтак жыць.
Ды проста ўсё няма жадання,
Каб душы зліць,
Як не было.
І зноў сустрэча, зноў літанне —
Лампаднае святло.

Спрабуе свае сілы В. Вашэка і ў прозе. У гэтым жанры выступіў у 1992 годзе ў газеце «Чырвоная змена». Дэбют аказаўся паспяховым — газета прызнала яго апавяданне лепшым апавяданнем года.

У чатырнаццацігадовым узросце раскрыла свой паэтычны талент ***Людміла Багданец.*** Верш «Не гуляй з пясочкам, дочка» прымусіў літаратараў Берасцейшчыны звярнуць увагу на новае імя:

Я была зусім малая,
як казала маці мне:
— Не гуляй з пясочкам, дочка,
ён жа з радыяцыяй.
Я не ем з куста маліны,
у грыбы я не іду,
абысці бяду павінна —
ды ніяк не абыду.
Я шапчу, нібы замову,
і на лес, і на раку,
Можа, вырасту здаровай,
нараджу сабе дачку.
Можа, гляну на малую
і сама заплачу я:
— Не гуляй з пясочкам, дочка,
ён жа з радыяцыяй.

Пра сябе Л. Багданец паведаміла: «Нарадзілася я ў 1977 годзе у пасёлку Палескі, што на Лунінеччыне. Вершы пішу даўно, з першага класа. Раней на рускай і беларускай мовах, цяпер — толькі па-беларуску…» Маладая паэтка закончыла Брэсцкае музычнае вучылішча, і поруч у яе жыцці ідуць Музыка і Слова.

У асобе ***Міколы Навумчыка*** (нар. у 1970 г.) гарманічна спалучыўся талент педагога і празаіка-гумарыста. Малады пісьменнік паходзіць з вёскі Зарэчкі Драгічынскага раёна. Вучнем сярэдняй школы дасылаў допісы ў «Піянер Беларусі», выступаў на старонках часопіса «Бярозка». Затым былі вучоба ў Пінскім педвучылішчы, вайсковая служба, філалагічны факультэт Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта імя А. С. Пушкіна. Менавіта ва універсітэце студэнт-першакурснік асмеліўся паказаць свае гумарэскі Уладзіміру Калесніку. Вядомага крытыка і літаратуразнаўца падборка маладога аўтара зацікавіла «трапнай назіральнасцю і непадробленасцю камедыйных сітуацый».

Пахвала У. Калесніка акрыліла Міколу. Ён актыўна стаў выходзіць у друк, прыняў удзел у семінары маладых літаратараў у Доме творчасці пісьменнікаў «Іслач», падрыхтаваў невялікі зборнік сваіх гумарэсак і апавяданняў пад назвай «Першая спроба» (Брэст, 1995).

М. Навумчык бярэ тэмы для твораў пераважна з вясковага побыту, часам з армейскага («Помста», «Дзікі», «Мак», «З рук у рукі», «Груша», «Каб цябе, суседачка», «Балотнікі» і інш.) Вясёлы і далікатны гумарыст «не мае ў сабе зацятасці разбуральніка, ігнаранта ці мізантропа, ён верыць у перавагу станоўчага над негатыўным у людзях і ў жыцці, таму абмяжоўваецца зычлівым высмейваннем такіх заган, ад якіх можна збавіцца, калі падняць агульны ўзровень

побытавай культуры. Любіць ён апісваць і смешныя здарэнні, што характарызуюць персанажаў як бяскрыўдных дзікаватых дабракоў» (У. Калеснік).

Сёння Мікола Навумчык — дырэктар раённага агульнаадукацыйнага ліцэя г. Маларыты. Праца забірае шмат сіл і часу, але ён знаходзіць хвіліны для творчасці і ўжо мае значны набытак пісьменніка-пачаткоўца.

Для многіх маладых аўтараў першай літаратурнай школай з'яўляецца студыя «Спадчына» ў абласным Цэнтры маладзёжнай творчасці, пры якой дзейнічае літаратурны гурток. Яго члены пры падтрымцы старэйшых пісьменнікаў, найперш Міколы Пракаповіча, робяць свае першыя крокі ў літаратуры, прымаюць удзел у рэспубліканскім конкурсе «Дэбют». Перад гэтым конкурсам традыцыйна праводзіцца абласны тур, які дазваляе выявіць пісьменніцкія таленты з усіх куткоў Берасцейшчыны. Пераважная большасць удзельнікаў — сябры школьных ці гарадскіх і раённых літаратурных аб'яднанняў. Менавіта «ім, — як дакладна заўважыла кіраўнік народнай студыі «Спадчына» В. Волкава ў прадмове да кнігі «Народзіны дня» (Брэст, 2002), — тварыць новы дзень у беларускай літаратуры» .





# Імянны паказальнік



# Геаграфічны паказальнік

# Змест

Літаратурна-мастацкае выданне

***Ляшук (Зарэцкая)*** *Вера Якаўлеўна*
***Снітко*** *Галіна Мікалаеўна*

**ЛІТАРАТУРНАЯ БЕРАСЦЕЙШЧЫНА**
**Краязнаўчыя нарысы, партрэты, артыкулы**

Рэдактар *А. М. Бадак*
Мастак *А. Г. Званароў*
Камп'ютэрная вёрстка *С. І. Стараверавай*
Карэктар *М. М. Гілевіч*

Падпісана ў друк 28.01.2008. Фармат $60 \times 90^{1}/_{16}$. Папера афсетная.
Гарнітура Таймс. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 20,0. Ул.-выд. арк. 20,26.
Тыраж 2500. Зак.

Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Литература и Искусство»
ЛИ 02330/0056810 ад 02.03.2004 г.
220034, г. Мінск, вул. Захарава, 19.

Вытворчае рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства
«Мінская фабрыка каляровага друку»
220024, г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 20.